# КУЗЬМА ЧОРНЫ



## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ВАСЬМІ ТАМАХ





ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1972

## АД РЭДАКЦЫІ

Збор твораў Кузьмы Чорнага ў васьмі тамах — першае навуковае выданне спадчыны выдатнага беларускага празаіка. У яго ўключаны амаль усе вядомыя творы пісьменніка і размеркаваны па тамах у храналагічнай паслядоўнасці наступным чынам: 1 — апавяданні 1923—1927 гг.; 2 — апавяданні 1928—1944 гг.; 3 — раманы «Сястра», «Зямля»; 4 — аповесці «Лявон Бушмар», «Вясна», «Ідзі, ідзі» і раман «Бацькаўшчына»; 5 — апавяданне «Насцечка», аповесць «Люба Лук'янская» і раман «Трэцяе пакаленне»; 6 — аповесць «Скіп'ёўскі лес» і раманы «Пошукі будучыні», «Млечны Шлях», «Вялікі дзень»; 7 — драматычныя творы: «Не пішы чорт ведае як», «З драмы» (урывак), «Вызваленне» (пралог да п'есы), «Лета», «Бацькаўшчына», «Аксеня Чадавецкая» (няскончаная драма), «Базылевічава сям'я», «Ірынка»; няскончаныя раманы: «Вецер і пыл», «Трыццаць год», «Заваёва свету», «Захаду і ўсходу», «Судны дзень»; 8 — публіцыстычныя творы, летапіс жыцця і творчасці Кузьмы Чорнага, алфавітны паказчык твораў, паказчык імён.

У параўнанні з першым пасмяротным Зборам твораў у шасці тамах (1954—1955) гэтае выданне з'яўляецца больш поўным і дакладным у тэксталагічных адносінах. Так, у 1 томе шасцітомнага Збору твораў было апублікавана 25 апавяданняў перыяду 1923—1927 гг., у 1 томе новага выдання іх змешчана 58. Упершыню ў Збор твораў уключаны раманы «Сястра» і «Млечны Шлях», а таксама няскончаныя раманы «Вецер і пыл», «Заваёва свету», «Захаду і ўсходу», «Судны дзень» і многія публіцыстычныя і крытычныя артыкулы.

Аналітычная зверка тэкстаў з першакрыніцамі, усімі прыжыццёвымі выданнямі і рукапісамі дала магчымасць выправіць панедакладнасці і скажэнні тэкстаў К. Чорнага, дапушчаныя ў папярэдніх выданнях.

Крыніцай асноўнага тэксту з'яўляюцца апошнія прыжыццё-

выя зборнікі пісьменніка. Калі ж твор не ўваходзіў у зборнікі, ён даецца па першадруку або па рукапісе.

Рукапісы твораў захоўваюцца ў сям'і пісьменніка.

У раздзеле «Каментарыі» даюцца літаратурна-тэксталагічныя каментарыі, тлумачэнні незразумелых слоў, прыводзяцца найбольш істотныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах варыянты тэксту, а для некаторых твораў і іншыя рэдакцыі (драма «Ірынка»).

У тых выпадках, калі нельга было дакладна вызначыць час напісання твора, ён датуецца годам першай публікацыі.

Творы друкуюцца па сучаснай арфаграфіі з захаваннем характэрных асаблівасцей мовы К. Чорнага.

Падрыхтоўка Збору твораў Кузьмы Чорнага ў 8 тамах ажыццёўлена пад навуковым кіраўніцтвам акадэміка АН БССР В. В. Барысенкі і доктара філалагічных навук Ю. С. Пшыркова.

Літаратурна-кантрольная праца над выданнем выканана малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР А. Ф. Харкевіч.

Рэдкалегія выказвае шчырую падзяку Р. І. Свераноўскай, жонцы пісьменніка, за дапамогу і актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Збору твораў К. Чорнага.

## КЛАСІК БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ

Чалавек — гэта цэлы свет.
...вялікімі і малымі рэчамі заклапочаны людзі, сталымі і смешнымі — кожны па-свойму, але ў кожнага душа запоўнена.

*К. Чорны*

Калі дваццацітрохгадовы светлавалосы юнак з добрымі і сур'ёзнымі блакітнымі вачамі пачаў у 1923 г. падпісвацца сакавітым і тлустым, як сама зямля Случчыны, псеўданімам «Кузьма Чорны», проза беларуская яшчэ не каласілася шырокім ураджайным масівам.

Мікалай Карлавіч Раманоўскі (Кузьма Чорны) быў адным з першых, хто прозу асобных апавяданняў, блізкіх да народнага анекдота, прозу бытавых ці лірычных замалёвак паступова пераўтваралі і пераўтварылі ў беларускую прозу высокаразвітую, шматжанравую, шматстылёвую, сучасную. Гэтую справу ён прарабіў побач з Я. Коласам, М. Гарэцкім, З. Бядулем, Ц. Гартным і разам з маладымі ў той час празаікамі М. Зарэцкім, К. Крапівой, М. Лыньковым, П. Галавачом і інш.

Само жыццё, узнятае магутнымі лемяшамі рэвалюцыі, чакала новых пасеваў. Літаратура была толькі часткай гэтай незвычайнай па маштабах і энтузіязму справы. Усё: грамадскія дачыненні і чалавечыя страсці, палітыка і мараль, быт і мастацтва — абяцала быць нябачана новым. І рабілася такім. Вось чаму і вясковы хлапец, малады празаік Кузьма Чорны — патомак слуцкіх ткачоў і парабкаў,— робячы свой першы крок у літаратуры, адчуваў сябе на самым стрыжні жыцця, вялікай справы абнаўлення зямлі і «чалавека на ёй».

«Жалезны крык», «Новыя людзі», «Радасць жанчыны», «Андрэй Клыга», «Бяздонне», «Будзем жыць», «На дарозе», «Максімка», «Быльнікавы межы» і др.— усе першыя апавяданні К. Чорнага народжаны гэтым абнаўленчым пафасам і нясуць яго ў сабе, у самім стылі.

У апавяданнях гэтых жыццё імкліва рвецца наперад, абнадзейваючы «жалезным крыкам» чыгункі, горада, новабудоўляў ціхмяных жыхароў саламяных вёсак, «палявых людзей», так бліз-

кіх сэрцу пісьменніка, абуджаючы ў іх, «на мяжы думак і пачуццяў», незразумелую ім самім «радасць жыцця».

У самім стылі такіх апавяданняў, з аднаго боку — паэтычная ўзнёсласць, «маладнякоўскае» захапленне жыццём, яго «новай музыкай», дынамікай, а з другога — статыка «спрадвечных чалавечых устанаўленняў», вясковага побыту, падсвечанага такім традыцыйным для літаратуры Багушэвіча, Коласа, Бядулі гумарам, дзе добрым, гаркаватым, а дзе з'едлівым.

К. Чорны прыйшоў у літаратуру «з самога дна беларускага жыцця-быцця». Нарадзіўся ён 24 чэрвеня 1900 г. у маёнтку Боркі на Случчыне, у сям'і панскага парабка. Калі дзеці падраслі, сям'я Раманоўскіх пераехала ў Цімкавічы. Тут будучы пісьменнік скончыў пачатковае вучылішча. Некалькі год працаваў дома, а ў 1916 г. паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. «Гэта была,— пісаў К. Чорны,— найбольш зручная школа для тых, хто не меў за што вучыцца: там не бралі платы за навуку, а лепшым вучням давалі стыпендыю» [1].

Пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў Мікалай Карлавіч працаваў у розных савецкіх установах: сакратаром валаснога рэўкома, справаводам павятовага ваеннага камісарыята, выкладчыкам Цімкавіцкай сямігодкі. Адначасова спрабаваў пісаць. Першыя яго апавяданні і вершы пачалі друкавацца ў дзіцячым часопісе «Зоркі» ў 1921 г.

У 1923 г. К. Чорны паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт і пачаў стала займацца літаратурнай дзейнасцю. З друку выходзяць адзін за адным зборнікі яго апавяданняў: «Апавяданні» (1925), «Срэбра жыцця» (1925), «Хвоі гавораць» (1926), «Пачуцці» (1926), «Вераснёвыя ночы» (1929), «Брыгадзіравы апавяданні» (1932).

Разам са многімі пачынаючымі пісьменнікамі К. Чорны спачатку ўваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», а ў 1926 г. з'явіўся адным з арганізатараў новага згуртавання — «Узвышша».

Малады празаік хутка адчуў, зразумеў, зрабіў кіруючай для сябе тую задачу, якую беларускай літаратуры дыктавалі рэвалюцыйная эпоха, гістарычны лёс беларускага народа. Цэлыя вякі народ гэты быў пазбаўлены магчымасці свабодна ўдзельнічаць сваім словам у мастацкім развіцці чалавецтва. І толькі ў XIX — пачатку XX стагоддзя, асабліва ў паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча, ён зноў, выдатна і нанава, заявіў аб сабе.

Цяпер чарга беларускай прозы, вялікай прозы — вось пафас

---

[1] К. Чорны. Аўтабіяграфія. У кн.: «Пяцьдзесят чатыры дарогі». Мінск, «Беларусь», 1963, стар. 525.

многіх выступленняў, артыкулаў К. Чорнага. Было б здзекам, гаварыў і пісаў ён, калі б мы вызваленаму нарэшце, прагнаму да багаццяў культуры народу замест сапраўднага, вялікага мастацтва «падсунулі сурагат». Гістарычнае спазненне — аб'ектыўная ўмова, але гэта тым больш абавязвае беларускіх празаікаў да вышэйшага пачуцця адказнасці за сваю справу, абавязвае іх імкнуцца да «сапраўднай культуры творчасці».

З такім пачуццём пісьменніцкай і грамадзянскай адказнасці К. Чорны пачынаў свой шлях беларускага празаіка, з тым жа страсным разуменнем сваёй задачы і адказнасці ён прайшоў яго да самага канца. Таму ён і змог так многа, і таму беларуская проза пасля раманаў К. Чорнага перастала быць толькі дадаткам да нашай паэзіі, а стала нароўні з ёю. І не толькі з ёю.

Калі трэба назваць празаіка найбольш беларускага па мове, быту, створаных характарах, хіба не К. Чорнага мы ўспамінаем перш за ўсё?

І ў той жа час паспрабуйце знайсці другога, хто ■ такой настойлівасцю і пераконанасцю падкрэсліваў бы, сцвярджаў самой творчасцю сваёй, што здабыткі сусветнай і перш за ўсё рускай класікі павінны стаць нашым уласным багаццем, нашай «нацыянальнай памяццю», стымулятарам нашага літаратурнага развіцця.

Здабыткі нацыянальнай культуры і агульначалавечыя для К. Чорнага аднолькава ўваходзяць у разуменне «культуры творчасці». Шлях да сапраўднай культуры творчасці — гэта рух пісьменніка да найглыбейшых дум і пачуццяў свайго народа. Але як знайсці тую глыбіню, як дасягнуць яе, не ўзброіўшы свой талент, свой розум лепшым, што накоплена чалавецтвам у сусветным мастацтве? Без другога немагчыма першае, як немагчыма прабіць глыбокую буравую шчыліну, не маючы вышкі.

Каб ісці ў глыбіню свайго, нацыянальнага, патрэбна вышка агульначалавечага, інтэрнацыянальнага.

Калі мы сёння гаворым і паўтараем, што К. Чорны надаў новую маштабнасць беларускай прозе, пад гэтым разумеецца не толькі па-бальзакаўску смелы і грандыёзны размах замыслаў і здзяйсненняў К. Чорнага, які імкнуўся «даць карціну развіцця чалавечага грамадства за час ад паншчыны да бяскласавага грамадства» («Пра сваю п'есу»).

Маштабнасць твораў К. Чорнага не толькі ў іх гістарызме, філасафічнасці, эпічнасці, а яшчэ і ў тым новым пачуцці, з якім беларуская літаратура пачынала ўсё больш смела весці размову «з цэлым светам».

Права на слова аб усім чалавецтве ёсць у кожнага народа. Патрэба ж яго выказаць узнікае, калі народ актыўна і свядома

ўключаецца ў гістарычнае дзеянне, што закранае многія народы ці наогул лёс усіх.

Кастрычніцкая рэвалюцыя была такім гістарычным дзеяннем і беларускага народа таксама. Гэта і надавала новую маштабнасць беларускаму мастацкаму слову. Я. Купала, Я. Колас, гаворачы аб Беларусі, аб беларусах, казалі сваё, беларускае слова і аб самім чалавецтве.

К. Чорны ясна ўсведамляў, што толькі з размовы з цэлым светам аб тым, што свету цікава будзе пасля Шэкспіра і Талстога, Дастаеўскага і Бальзака, толькі з такой размовы, маштабнай і сур'ёзнай, вырастае вялікая літаратура.

Каб зразумець, адчуць, што ж можна сказаць не толькі пра сябе, свой край, але і пра чалавецтва, чалавека на планеце Зямля пасля ўсёй сусветнай літаратуры, беларускі празаік пачынае ўважліва вывучаць класіку. Сваё значэнне ў гэтым сэнсе мелі пераклады на беларускую мову твораў А. С. Пушкіна, А. М. Астроўскага, М. В. Гогаля, М. Горкага, зробленыя К. Чорным. Было і больш творчае, актыўнае вывучэнне, якое часам нагадвае саперніцтва. Толькі не самаўпэўненае «маладнякоўскае» саперніцтва, а сур'ёзнае, удумлівае, з поўным разуменнем складанасці задачы. За апавяданнем К. Чорнага «Буланы» стаіць «Халстамер» Л. Талстога, за «Парфірам Кіяцкім» — горкаўскае апавяданне «Туга». Можна бачыць у такім прамым наследаванні і пачцівую залежнасць ад класікаў — палемічную ў адрас тых, хто класіку ігнараваў. Але не паўтараць вялікіх імкнуўся К. Чорны, а з іх дапамогай рабіць сваё. І таму не толькі пачцівае наследаванне Талстому і Горкаму мы заўважаем у «Буланым» і «Кіяцкім», але і саперніцтва: бо «сіла па жылах пераліваецца», і хочацца яе праверыць і такім вось чынам.

Але не толькі такім.

Перад маладым празаікам увесь час стаіць і патрабуе практычнага адказу пытанне: што трэба, каб беларуская літаратура, беларуская проза была цікавая, патрэбная і для іншых?

Трэба, каб яна была беларуская, але каб «беларуская» не азначала «этнаграфічная», «бытапісальніцкая». Апавядаючы аб сваім, яна павінна гаварыць і аб усеагульным, беручы чалавека як мага глыбей: не толькі яго паводзіны, думкі, пачуцці, але і тое, што «на грані думак і пачуццяў», што на мяжы паміж горам і радасцю, сумам і бяздумнай весялосцю...

Псіхалагізм, паглыблены, напружаны, аналітычны — вось шлях, які ў другой палове 20-х гг. абраў для сябе малады К. Чорны, перакананы, што толькі выпрацаваўшы свае «празаічныя», «эпічныя», «аналітычныя» сродкі, беларуская проза ўзнімецца да

ўзроўню паэтычных вяршынь купалаўскай, коласаўскай класікі.

Выпрацаваць, і па магчымасці паскорана, сваю сталую празаічную традыцыю можна, лічыў К. Чорны, калі прама ўключыць беларускую прозу ў «сілавое поле» рускай і сусветнай літаратурнай традыцыі.

Вельмі важным этапам на шляху да гэтага з'явіліся першыя раманы К. Чорнага «Сястра» і «Зямля», напісаныя ў 1926 г. (дапрацоўваліся ў 1927 г.).

«Сястра» — першы і вельмі «суб'ектыўны», публіцыстычны раман К. Чорнага.

Як і «На ростанях» Я. Коласа — гэта твор аб інтэлігенцыі, аб яе месцы ў жыцці народа, аб адказнасці яе перад народам. І гэта найбольш «гарадскі» па тэме, матэрыялу раман К. Чорнага, пафасам сваім накіраваны супраць мяшчанства.

Вострая рэфлектыўнасць Ваці БранІслаўца — галоўнага героя «Сястры» — нечым нагадвае лабановічаўскую, тую, што афарбоўвае і коласаўскую трылогію.

Аднак ёсць тут і адрозненне, і вельмі істотнае. Для Лабановіча ўсё намнога прасцей: выспявае народная рэвалюцыя, і трэба самога сябе не растраціць на дробязі, на «казённыя інтарэсы», а падрыхтаваць і аддаць народнай справе.

Для Ваці Браніслаўца вёска, народнае асяроддзе і сама рэвалюцыя — у мінулым, ужо ўспамін, але такі ўспамін, які для яго важней, чым сама рэальная сучаснасць. Ён увесь час шукае, на што абаперціся, але так, каб не спыніцца на дробязі, на выпадковым, не аддаць сябе мёртваму штылю казёншчыны, як гэта здарылася з многімі яго былымі сябрамі. Ваця Браніславец увесь у руху, ён — сама няўрымслівасць чалавечай натуры, само імкненне да ўсяго новага, дзейснага ў жыцці, да «жывога жыцця».

Ды толькі няма ў яго цвёрдых арыенціраў — не ва ўспамінах, а ў самой рэчаіснасці,— і таму бунт Ваці Браніслаўца супраць чалавека-«шурупчыка» канчаецца, уласна кажучы, нічым, а дакладней — бегствам назад у вёску.

Трэба ўлічваць завостраную палемічнасць рамана, як грамадзянскую, так і мастацкую. Невыпадкова столькі месца ў ім адведзена сцэнам, дыялогам, характарам, амаль гратэскным, літаратурнага і каляліратурнага жыцця, дзе чыноўнік аб чынах і званнях размаўляе, «як паэт», а ў вершах паэта «бурапеніць» не што іншае, як цыркуляр.

Як і ў многіх сваіх апавяданнях другой паловы 20-х гг., у рамане «Сястра» К. Чорны захоплены мастацкай задачай перадаць усю «кардыяграму» найтанчэйшых перажыванняў і адчуванняў чалавечых. Адсюль запаволенасць, часам празмерная, аўтарскага

апавядання, якая, праўда, удала разбіваецца вельмі вострым і яркім дыялогам.

Ідэйна-мастацкае развіццё К. Чорнага — працэс надзвычай бурны і ў той жа час неперарыўны: кожны твор яго — ступенька да наступнага. Нават больш: здаецца, што ўсё жыццё чалавек ішоў да галоўнага свайго твора і ўсё, што напісана ім,— толькі «матэрыял» да яго. Кожны раман як бы «пераліваецца» ў наступны, а той новы — таксама ў наступны...

Такая «незакончанасць» кожнага з твораў пісьменніка выглядае і недахопам. Але нездарма кажуць, што вартасці часта з'яўляюцца працягам недахопаў...

Кожны буйны твор К. Чорнага — гэта адначасова частка большай, грандыёзнай па замыслу мастацкай будыніны — раманнага цыкла, у якім гісторыя беларускага народа ад часоў паншчыны да эпохі сацыялістычных пераўтварэнняў павінна стаць матэрыялам для мастацкай размовы аб чалавеку і чалавецтве.

«Цыкл гэтых твораў,— чытаем у артыкуле К. Чорнага «Пра сваю п'есу», — будзе ісці не толькі па лініі храналогіі, а адначасова і па лініі ідэёвых катэгорый (носьбітамі і творцамі якіх ёсць чалавечыя вобразы): бацькаўшчына, уласнасць, закон, сваяцтва і г. д.».

Калі гаварыць вельмі агульна, дык можна вылучыць такія праблемы ў гэтым цыкле раманаў і аповесцей:

«Сястра» — інтэлігенцыя і народ;

«Зямля» — «улада зямлі» і ўлада над зямлёй, паэзія чалавечага існавання, быцця на зямлі;

«Лявон Бушмар» — антыгуманная, разбуральная сіла ўласніцтва;

«Бацькаўшчына» — працоўны чалавек і бацькаўшчына;

«Трыццаць год» — праблема сапраўднага гуманізму;

«Трэцяе пакаленне» — дзеці і гісторыя, пакутлівая дарога чалавецтва да разумнага жыцця, міру, шчасця;

«Люба Лук'янская» — сваяцтва і ўласнасць, чалавечая блізкасць і ўласніцкая нялюдскасць.

Буйныя творы К. Чорнага ваеннага часу развівалі, узбагачалі гэты шырокі замысел цыкла раманаў, але былі адначасова і пераглядам, пераацэнкай, бо другая сусветная вайна надзвычай завастрыла многія праблемы чалавецтва.

У раманах «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Млечны Шлях» усе «ідэёвыя катэгорыі» («бацькаўшчына», «уласнасць», «гуманізм» і г. д.) правяраюцца перад тварам смяротнай небяспекі, якая навісла над самім жыццём нашага народа, над чалавечай культурай, будучыняй чалавецтва.

Мы называем творы, якія К. Чорны паспеў напісаць, хоць і не ўсе яны скончаны, завершаны. Некаторыя ж замыслы і творы так і загінулі для нас («Судны дзень», «Вялікае выгнанне» і інш.).

Пакуль выспяваў, складваўся смелы замысел раманнага цыкла, К. Чорны ад твора да твора рос як мастак-псіхолаг, як майстар буйнай празаічнай формы. Першыя яго буйныя творы «ўвабралі» многае з апавяданняў, навел 1923—1925 гг. Існавала нават пагроза, якая часта сустракае першыя раманы навелістаў: «Зямля», напрыклад, магла б распасціся на асобныя навелкі, сцэны з жыцця вёскі... Магла б, калі б не тое надзвычай моцнае адзінае пачуццё («правственное», называў яго Л. Талстой), што пранізвае ўвесь твор, прасвечвае кожную, самую бытавую, сцэнку. Гэта найбольш лірычны з раманаў К. Чорнага.

Паэтычны, лірычны погляд на свет, на людзей, на жыццё ў рамане «Зямля» не сабраны, як у «фокусе», у адным вобразе, хоць бы сабе і аўтарскім. Пісьменнік пакідае нас адных, «з вока на вока» з беларускім вясковым людам; мы ходзім сярод сялян, шчырых і хітранькіх, смешна трапяткіх і ўдумлівых, назіраем іх зусім не паэтычнае, а, наадварот, вельмі ж нялёгкае, невясёлае жыццё, і толькі ўвесь час, як у той беларускай легендзе, чуем незразумелую музыку. Пакуль не вырвецца і ў нас:

— Братцы, ды тут сама зямля грае!

Музыка гэтая нараджаецца ў саміх людзях, але пачуць яе нам дае аўтар — сілай сваёй любві, свайго замілавання да роднай зямлі, да працоўнага вясковага люду.

Уводзячы сваіх «цімкавічоўцаў» у кола літаратурных герояў, К. Чорны свядома супастаўляе іх з сусветнай літаратурнай традыцыяй. Аб гэтым сведчыць нават сама назва рамана («Сокі зямлі» Кнута Гамсуна і «Зямля» Эміля Заля былі ў той час ужо перакладзены, вельмі чыталіся). Была ў гэтым супастаўленні і палеміка. Палеміка саміх эпох: на змену «ўладзе зямлі» прыходзіць «улада над зямлёй». Была тут і творчая палеміка: поўнае адмаўленне ад усякай «экзотыкі» ў паказе селяніна, вёскі. Не збоку, а знутры, вачамі самога селяніна, бачыць жыццё вёскі К. Чорны.

Раман «Зямля», таксама як і апавяданні «Буланы», «Вечар», «Вераснёвыя ночы»,— гэта бытавая штодзённасць, але пранізаная надзвычай моцным адчуваннем «вастрыні» жыцця. Моцны «настой» з фарбаў, пахаў, тонкіх, але таксама вострых пачуццяў прысутнічае ў кожным з твораў К. Чорнага 20-х гг., ён быццам п'яніць трохі і саміх герояў, і чытача — п'яніць радасцю быць чалавекам, «радасцю жыцця».

Тое, што Агата («Вераснёвыя ночы») пабегла ад гасцей, ад

жаніха да Асташонка — да свайго ненадзейнага, але жаданага шчасця, многім у вёсцы магло здацца нечаканасцю. Бо хіба ведалі яны, як пахлі для Агаты ў тую восень бэры і вінёўкі, як «нехаця жаўцеў» сад, як «дзіцячая ўсмешка кволага сонца цалавала зямлю», як пападалі між пальцаў босых ног «жоўтыя кветкі на высокіх сцяблах», «пакідалі там на нагах галоўкі свае», як уздыхаў верасень «радасным шэптам кустоў»? Хто мог бачыць, якая бура радасці і суму кіпіць у гэтай дзяўчыне?

Усё неяк злучылася, склалася ў адно, і чалавек рашыўся.

Пісьменнік умее перадаць вастрыню адчуванняў чалавека, і што яшчэ важней — захапіць і чытача патрэбным настроем. А калі чытач захоплены ім, думка аўтарская моцна ўвойдзе ў яго душу, як частка самога настрою. Іменна ў гэтым сіла сапраўднага мастацтва.

Мы гаворым аб «настраёвасці» твораў К. Чорнага 20-х гг. Але ж гэта ўласціва і прозе Я. Коласа і З. Бядулі. Што ж можна лічыць адметна «чорнаўскім»?

Якуб Колас імкнецца да класічнай, да «пушкінскай» закончанасці і яснасці псіхалагічных характарыстык. Яснасць класічная ўключае ў сябе паняцце і складанасці. Незвычайнае ўменне гаварыць ясна, проста аб няпростым, няясным — іменна ў гэтым пушкінская непаўторнасць.

За такой традыцыяй пераважна і ішоў Якуб Колас. Асабліва ў пазнейшых сваіх творах.

У Кузьмы Чорнага былі другія настаўнікі — Талстой, Дастаеўскі, Горкі...

Для Чорнага галоўнае — любой цаной перадаць не толькі думкі чалавека, яго перажыванні, пачуцці, але і сам працэс іх нараджэння, руху, іх незакончанасць, «цякучасць», пераходнасць, няўлоўнасць. Мы падкрэсліваем, што любой цаной, бо яснасць, празрыстасць стылю (пры ўсёй незвычайнай патрабавальнасці да сваёй мовы) для Чорнага 20-х гг. усё ж не тое, дзеля чаго можна паступіцца хоць бы адным, самым нязначным, адценнем чалавечага перажывання.

Якуб Колас у трылогіі «На ростанях» імкнецца і ўмее перадаць таксама працэс нараджэння ў чалавеку думкі, перажывання, іх складаны ход. Але для яго, бадай, важней вынік, чым сам працэс. Ён зусім не імкнецца да «чысціні эксперыменту», не баіцца спыніць працэс, перарваць, умяшацца ў яго, падаць голас, усклікнуць ці засмяяцца. Ён увесь час прысутнічае каля Лабановіча і Ядвісі, і не проста як назіральнік ці даследчык, а як добры іх знаёмы, які трохі загадзя ведае і іх думкі, і адчуванні.

Ёсць у коласаўскай манеры апавядання тая добрая, класіч-

ная свабода, раскованасць у адносінах як да герояў, так і да чытача, якая так захапляе пры чытанні Пушкіна, Лермантава, Гогаля.

К. Чорны ідзе за перажываннямі чалавека ўшчыльную, фіксуе, перадае іх з дакладнасцю і строгасцю даследчыка, расказвае не тое, што яму аб чалавеку вядома загадзя, а што толькі вось зараз як бы праяснілася, выступіла з самай глыбіні. І добра адчуваецца, што гэта не проста прыём, што сапраўды хвіліну назад — пакуль сам аўтар не адкрыў для самога сябе — ён яшчэ не ведаў, як, чым, якім душэўным рухам героі яму адкрыюцца.

Кузьма Чорны не здольны так хутка і лёгка, як Колас, мяняць танальнасць, настраёвасць свайго твора, пераключацца ад радасці да суму, ад лірычнага пафасу да спакойнага роздуму.

У свеце «мікрапачуццяў», які асабліва цікавіць К. Чорнага (іменна на гэтай глыбіні, па яго перакананню, вытокі чалавечых паводзін), аўтар не можа і на момант адключацца ад працэсу, ад асноўнага настрою, бо, згубіўшы настрой, ён перастае бачыць патрэбную глыбіню.

Адсюль асаблівая напружанасць псіхалагічнага аналізу ў творах К. Чорнага 20-х гг., часамі нават цяжкая для чытання, бо гэта напружанасць даследавання.

Зменлівасць, «цякучасць» настрою характэрна для герояў К. Чорнага, і ўстойлівае адзінства настрою — для самога твора і самога аўтара. Бо ўсё, што адбываецца ў чалавеку, любая вастрыня і складанасць думак, пачуццяў, паводзін чалавека азначае, у канчатковым сэнсе, адно — чалавек жыве. А жыццё — самая вялікая паэзія і загадка для К. Чорнага 20-х гг., і ён імкнецца выявіць, раскрыць гэтую паэзію і гэтую складанасць, каб сцвердзіць ці адмовіць нешта ў чалавеку, у жыцці.

Адным словам, любы настрой у кожным апавяданні, рамане К. Чорнага афарбаваны роздумам, напружаннем аналізу. Нават усмешка, нават гумар — усё праз «светафільтр» напружанага роздуму, даследавання. Таму так хутка — толькі выблісне — гасне ўсмешка ў ранніх творах гэтага апавядальніка. Яе тут жа гасіць роздум.

Праўда, часам замілаванне робіцца галоўным пачуццём, і тады добрая, ласкавая ўсмешка можа пратрымацца доўга — калі, напрыклад, аўтар апавядае пра дзяцей ці пра тое, як трапяткі, нясмелы, асцярожлівы селянін узыходзіць на дарогі, што паклала перад ім новае жыццё («Максімка»). Але і гэта больш датычыцца саміх маналогаў ці дыялогаў сялянскіх (у рамане «Зямля», напрыклад), аўтарскае ж апавяданне найчасцей напружана-сур'ёзнае.

Расказаць аб жыцці, аб чалавеку для Чорнага — абавязкова і самому зразумець больш, чым разумеў да пачатку апавядання. Не проста: «Я вось ведаю і раскажу», а хутчэй: «Расказваю, бо хачу сам больш даведацца аб гэтым чалавеку, аб гэтай з'яве, убачыць, што хаваецца за такім фактам, за такім адчуваннем».

* * *

> Навевы гісторыі павінны быць у літаратуры... Без філасофскага асмыслення падзей будзе толькі механічнае злучэнне фактаў.
>
> *К. Чорны*

Ужо гаварылася, што малады К. Чорны, асабліва ў 1925—1927 гг., быў захоплены мастацкай задачай раскрыць усю складанасць, супярэчлівасць людскіх адчуванняў, паводзін. Але ж пры ўсёй «цякучасці» і супярэчлівасці чалавечых пачуццяў існуе ў жыцці такая пэўнасць, як характар, індывідуальнасць. Устойлівасць рыс, якасцей псіхалагічнага жыцця — таксама праўда, і не менш важная, чым праўда няўлоўных і зменлівых адценняў яго. Без гэтай праўды немагчыма ў літаратуры такая з'ява, як мастацкі тып.

Уменне ствараць тыпы — наймацнейшая якасць той літаратуры, якую мы называем класічнай. Гэта заўсёды цікавіла і захапляла К. Чорнага ў творах Талстога, Дастаеўскага, Горкага, Бальзака, Заля, раманы якіх прыцягваюць яго ў 20-я гг.

Ёсць у К. Чорнага 20-х гг. твор, у якім асабліва выразна і паспяхова праявілася імкненне беларускага празаіка стварыць буйны характар, тып. Мы маем на ўвазе аповесць «Лявон Бушмар» (1929 г.) — твор, з якога і пачынаецца галерэя «чорнаўскіх» характараў-тыпаў.

Лявон Бушмар — гэта ўсё той жа персанаж К. Чорнага 20-х гг., у душы якога «кіпяць пачуцці».

Успомнім, як гэты пануры і, здавалася б, зусім бяздушны чалавек дзіка раўнуе Амілю, а потым і другую жонку, Галену, да ўсяго свету. Як ён «раённага начальніка», што «нешта прыглядацца пачаў на Галену», схапіў за пояс, «перамчаў упоперак цераз двор і кінуў на той бок плота».

Дзікі і бездапаможны, Бушмар безаглядна кідаецца за першым адчуваннем, якое ў ім абуджае чалавек або нейкая падзея. «Як бура»,— кажа пра яго пісьменнік. Усякае пачуццё, думка ў гэтым, на знешні погляд, застыла-замкнутым чалавеку можа быць штуршком да самага нечаканага ўчынку.

Вастрыня адчуванняў, супярэчлівасць, цякучасць, зменлівасць настрояў у чалавеку па-ранейшаму цікавяць К. Чорнага.

Але для яго цяпер асабліва важна ўбачыць і паказаць, як гэта «збіраецца» ў характар, у індывідуальнасць, у чалавечы тып; як гэтае «кіпенне пачуццяў» выяўляецца ў паводзінах; як яно звязана са светапоглядам і з месцам чалавека ў жыцці, сярод іншых людзей.

Было гэта, у той ці іншай ступені, і ў ранейшых творах.

Але тут — свядомая мастацкая і адкрыта даследчая задача: малюючы пэўны чалавечы характар, убачыць і паказаць, адкуль ён, на чым вырастае, куды развіваецца ў тых абставінах, якія склаліся ў канцы 20-х гг.

Раней К. Чорнага амаль цалкам захапляла мастацкая задача: прачытаць кардыяграму найскладанейшых чалавечых настрояў і адчуванняў.

Цяпер з такой жа страснасцю даследчыка ён імкнецца ўстанавіць сувязь паміж гэтай «кардыяграмай» і «знешнім асяроддзем», зразумець, як фарміруецца чалавечая натура — яе ўстойлівасць, пэўнасць яе галоўных рыс.

К. Чорны, пішучы аповесць, настолькі быў захоплены прыкладам класічнай літаратуры, якая «думае тыпамі», што з некаторай нават паспешнасцю сам ператварае прозвішча Бушмара ў агульнае імя, гаворыць ужо аб «бушмараўшчыне».

«Само слова «Бушмар» было ўжо словам незвычайным. Яно ўжо кожнаму тут гаварыла пра звярыную нялюдскасць, пра здзек над усім, што не ён сам і не яго. Пра тое, што не можа навокал яго, пакуль ён пануе, абысціся так, каб не было пакрыўджаных, каб не было слёз людскіх».

Так, гэта было б нават трохі паспешлівым — самому называць свайго героя ўжо «тыпам», калі б К. Чорнаму не ўдалося стварыць на самай справе буйны мастацкі тып і калі б у чытачоўскай свядомасці ён не станавіўся сапраўды побач з «галаўлёўшчынай», «артамонаўшчынай», «габсекаўшчынай».

Пасля «Лявона Бушмара» К. Чорны-мастак мысліць ужо тыпамі, гісторыяй, раманам і нават цыклам раманаў. Пісьменнік настойліва шукае тое, што павінна сцэментаваць асобныя раманы ў «цыкл». У «Ругон-Макарах» Заля гэтаму служыць над усім пануючая «тэорыя спадчыннасці», у «Чалавечай камедыі» Бальзака — задача даць «гісторыю нораваў». Раманам (няскончаным) «Ідзі, ідзі» (1930 г.) К. Чорны адмаўляе «біялагічны прынцып» Заля, сцвярджаючы сацыяльную, класавую прыроду таксама і «сваяцкіх» пачуццяў.

Але не мог трымацца цэлы цыкл раманаў на палеміцы з За-

ля ці з кім іншым. Трэба было шукаць і знайсці тую шырокую пазітыўную ідэю, якая б цэментавала ўвесь мастацкі будынак. У раманах і аповесцях «Бацькаўшчына» (1931 г.), а потым — «Трыццаць год» (1934 г.), «Трэцяе пакаленне» (1935 г.), «Люба Лук'янская» (1936) абагульняючы прынцып, «агульная ідэя» цыкла будуць знойдзены і выяўлены праз вобразы і карціны гістарычнага жыцця беларускага народа. Сфармуляваць гэтую агульную ідэю, «філасофію» цыкла раманаў К. Чорнага можна так: гістарычны рух чалавецтва, беларускага народа, чалавека ад таго стану, калі чалавек бачыць у чалавеку воўка, да новых шляхоў і гарызонтаў, калі знішчаецца і павінен знішчыцца «назаўсёды той жах чалавечага жыцця, які панаваў на працягу ўсёй папярэдняй чалавечай гісторыі» (з артыкула «Пісьменнікі адказваюць камсамольцам-«камунараўцам»).

Пачынаючы з «Бацькаўшчыны», гісторыя ўладарна ўваходзіць у раманы К. Чорнага (імперыялістычная і грамадзянская вайна, рэвалюцыя і г. д.), але, як ужо адзначалася, не сама гісторыя, а яе «філасофія» звязвае раманы К. Чорнага ў «цыкл».

Ва ўсіх буйных творах К. Чорнага 30-х гг. ёсць абавязковая сцэна, калі амаль усе героі збіраюцца ў адно месца як бы для таго, каб прысутнічаць (разам з чытачом) пры ўрачыстым моманце, калі нараджаецца новая, больш чалавечная, хвіліна гісторыі. Такая «гістарычная ўрачыстасць» выразна афарбоўвае сцэну, калі чалавек прыносіць золата, рассыпае яго перад вачамі іншых людзей, а ў іх на тварах — ні сквапнасці, ні зайздрасці, а толькі здзіўленне.

Гэта ў «Трэцім пакаленні», дзе Міхал Тварыцкі «дорыць» жонцы, дачцэ скуратовічаўскі скарб у прысутнасці краўца, Ірынкі Назарэўскай і іншых.

Ці тая сцэна ў «Любе Лук'янскай», калі ўсе нечакана сабраліся на кватэры Любы якраз у тую хвіліну, калі яна і бацька яе знайшлі адзін аднаго. Тут і стары Ян Стафанковіч, і важны чынуша Сашка Стафанковіч, які адцураўся бацькі, як калісьці (з дапамогай таго ж Яна Стафанковіча) адцураўся Любы і сына свайго.

«Стафанковіч стаяў, як распяты на сцяне... Твар яго завастрыўся, вочы глядзелі з дзікай зайздрасцю. Трэба думаць, што на яго вачах прайшла ўся сцэна спаткання Лук'янскага з дачкой з самага пачатку. І, можа быць, у гэтыя моманты перад яго вачыма раскрыўся вялікі сэнс усяго таго, у чым ён за ўсё жыццё не бачыў ніякага сэнсу».

Старая сям'я, уласніцкая, прысутнічае на свяце новай, сапраўды чалавечай сям'і. І зноў як бы ўздрыгнула і перайшла на

новае «дзяленне» стрэлка самой гісторыі, тая, што фіксуе рух чалавека да ўсё большага «ачалавечання».

Амаль усе раманы і аповесці К. Чорнага 30-х гг. — гэта разгорнуты, эпічны падступ да сучаснасці, уважлівае вывучэнне мінулага герояў з тым, каб разам з героямі, «напоўненымі да краёў» вострай памяццю аб мінулым, разам з самой гісторыяй пераступіць парог сучаснасці, дзе павінны атрымаць завяршэнне і выпрашэнне жыццёвыя канфлікты і эвалюцыя характараў.

Больш таго, іменна год напісання (ці друкавання) твора і з'яўляецца найчасцей той кропкай часу, куды павінны сцягвацца ўсе сюжэтна-гістарычныя і псіхалагічныя ніці.

«Больш ён яго ніколі не бачыў аж да тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвёртага года»,— гаворыцца ў адным месцы няскончанага рамана «Трыццаць год». Такія ж прывязкі да самай што ні ёсць сучаснасці вы знойдзеце і ў «Трэцім пакаленні», і ў «Любе Лук'янскай», і ў некаторых апавяданнях («Семнаццаць год»).

Развязка ў гэтых творах адбываецца ці павінна адбывацца якраз у той час, калі яны пішуцца.

К. Чорнага факты жывой рэальнасці цікавяць не як летапісца, а як філосафа, гэтыя факты праходзяць праз пісьменніцкую думку, праз сумленне яго, як метэор праходзіць праз атмасферны слуп — успыхваючы яркім святлом. Самы дробязны, здавалася б, бытавы факт, дзякуючы таленту мастака, раптам успыхвае ў мітусенні штодзённага жыцця, асвятляючы наваколле і нават далёкую дарогу чалавека.

Такое філасофскае і абвострана-гуманістычнае ўзбуйненне самых простых, паўсядзённых фактаў, здарэнняў вельмі прыцягвала К. Чорнага. Яго героі жывуць, думаюць, трапечуцца, шукаюць свой лёс на хвалях гісторыі ў зусім канкрэтных умовах Беларусі і рэвалюцыі. І разам з тым, малюючы сваіх Лявонаў, Міхалаў, беларускі раманіст памятаў, што мучыла і хвалявала герояў Шэкспіра і Бальзака, Дастаеўскага і Талстога, Чэхава і Горкага.

Ёсць і ў літаратуры свой «табель аб рангах», ёсць там і свае «маршалы» — мастацкія тыпы сусветнага гучання. Цяжка сказаць, ці многа сярод іх беларусаў. К. Чорны ва ўсякім разе стараўся, каб яны былі. І стараўся знаходзіць гэтыя тыпы ў гістарычным жыцці свайго народа.

Побач з раманамі і апавяданнямі ў 30-я гг. К. Чорны стварае і драматургічныя творы: «Бацькаўшчыну», «Ірынку»; ён — адзін з асновапаложнікаў беларускай савецкай драматургіі. І таксама, як у раманах, у п'есах К. Чорнага лёс чалавека раскрываецца на хвалях гісторыі — як частка і праяўленне лёсу беларускага народа.

* * *

Бо прыйшла пара самага важнага, сапраўды цяпер адзінага, ад чаго залежыць усё іншае.

*К. Чорны*

Вялікая Айчынная вайна прымушала і літаратуру мерадь сябе, сваю справу самым важным, самым галоўным. Таму зусім заканамерна, што творчасць К. Чорнага 40-х гг. убірала ў сябе самую глыбіню, самую чысціню ўсяго, накопленага ў 20-я і 30-я гг. Ідзе напружаны адбор толькі галоўнага, толькі сапраўднага, самацэннага, што магло вытрымаць тое бязлітаснае, трагічнае святло праўды, якое кінула на чалавечую гісторыю самая жорсткая і цяжкая з усіх войнаў.

Для Чорнага наогул характэрна гэта — зноў і зноў вяртацца да зробленага, перапрацоўваць, пераасэнсоўваць ранейшыя вобразы (ці дакладней — прататыпы), матывы, нават дэталі.

Але вайна і тут зрабіла сваю папраўку, новы акцэнт. Для пісьменніка, фізічна адарванага ад шматпакутнай і гераічнай Беларусі, быццам сцёрліся межы, грані паміж рэальнымі людзьмі і героямі яго даваенных твораў. Героі гэтыя быццам таксама засталіся там, бо там жывуць і змагаюцца самі «прататыпы» — увесь беларускі народ.

І калі Чорны зноў кліча іх на старонкі новых сваіх твораў, ён сустракае іх з такім пачуццём пісьменніцкай замілаванасці, якая мяжуе з пачуццём віны, інакш і не назавеш. Быццам недадаў ён ім нечага калісьці, недалюбіў некага, празмерна лёгка выносіў мастацкі прысуд. Мы ведаем, што гэта не так, ведаем высокую меру пісьменніцкай справядлівасці і чуласці, уласцівую ўсёй творчасці К. Чорнага. Але ў чалавека, які любіць так, як Чорны любіў свой народ, свая мера патрабавальнасці да самога сябе.

І вось праз ваенныя апавяданні і раманы К. Чорнага праходзяць перад намі людзі, што нечым нагадваюць — хто краўца з «Трэцяга пакалення» (гаваркі фельчар у «Пошуках будучыні»), хто Гушку з «Бацькаўшчыны» (Нявада ў «Пошуках будучыні»), хто Міхалку Тварыцкага (Кастусь у «Пошуках будучыні»), а хто Скуратовіча з «Трэцяга пакалення» (Ксавэр Блецька ў «Вялікім дні») і г. д.

Людзі, якіх К. Чорны ў свой час нават і справядліва папракаў за дробязнасць інтарэсаў і спраў, раптам сталі па-другому бачны яму. Бо ў гадзіну цяжкіх выпрабаванняў чалавек можа раскрыцца нечакана, як той суровы селянін-партызан, аб якім раней, да

вайны, толькі і вядома было, што ён п'яны пабіўся з пеўнем («Вялікае сэрца»).

Усё ў гэтых творах асветлена замілаваннем да родных людзей, балючай памяццю аб родных мясцінах, залітых крывёю і агнём. І таму само гучанне знаёмых з дзяцінства імёнаў, назваў для К. Чорнага цяпер — вялікая радасць. Ніколі ён так падрабязна не перабіраў усю геаграфію Беларусі. Назвы вёсак, гарадоў для яго гучаць, як музыка.

Розныя жанры, якія выкарыстоўвае К. Чорны ў часе вайны (памфлет, апавяданне, раман) — як бы розныя калібры зброі. І параўнанне гэта не такое ўжо ўмоўнае, бо мы выразна адчуваем, як па-салдацку бачыць пісьменнік ворага — фашызм, як імкнецца абстрэльваць, граміць яго «на ўсю глыбіню». Ён не толькі нянавісцю ўзбройвае чытача, не толькі гнеўнымі эмоцыямі, малюючы зверствы фашыстаў і пакуты, помсту нашых людзей, але разуменнем самой прыроды фашызму, яго вытокаў і каранняў.

У змаганні з фашызмам, што імкнуўся, каб пракласці шлях у душы людзей, разбурыць усякую веру ў самацэннасць чалавечай асобы, веру ў чалавечую дабрату, сумленне і г. д., савецкая літаратура, і ў прыватнасці К. Чорны, абапіралася на вялікага саюзніка — сусветную класіку, векавую гуманістычную традыцыю. Велізарную культуру чалавеказнаўства і чалавекалюбства, сабраную ў класічнай літаратуры — гэтую гуманістычную памяць чалавецтва аб самім сабе,— бярэ К. Чорны ў саюзнікі супраць фашысцкага адзічэння і азвярэння.

Чалавечая культура, гуманістычная спадчына заўсёды была першым ворагам і першай ахвярай фашызму. Агонь у фашысцкіх крэматорыях распальваецца ад кастроў з кніг.

Памяць Беларусі аб мінулай вайне надзвычай вострая. Беларусь — краіна, дзе фашысты знішчалі мірнае насельніцтва ў нябачаных маштабах.

Разам з тым Беларусь — краіна класічнага партызанскага руху. Цэнтральны напрамак савецкага партызанскага фронту — гэтага пастаяннага «другога фронту» ў Еўропе — быў тут.

Быць на ўзроўні такой трагедыі і такога гераізму — не простыя і не лёгкі абавязак беларускай літаратуры.

Але гэта і яе вялікая права — права сведчыць супраць фашызму перад усім светам. Бо далёка не ўсе нават у Еўропе бачылі, ад іх да часу схаванае, сапраўднае аблічча гітлерызму.

Кузьма Чорны пакінуў нам выдатную традыцыю маштабнай размовы з цэлым светам.

Але сама гэтая традыцыя складвалася, як ужо гаварылася, на

аснове вопыту не толькі беларускай літаратуры. І раманы К. Чорнага, асабліва ваеннага часу, нельга прачытаць колькі-небудзь глыбока, не ўлічваючы гэтага.

Так жанр, а таму і змест, напрыклад, рамана «Млечны Шлях» адкрываецца нам толькі тады, калі мы ўлічваем традыцыю сучаснага філасофскага рамана, якая склалася пад вельмі моцным уплывам класічнай рускай літаратуры.

Сучасны раман і драма наогул робяцца ўсё больш філасофскімі. Як чалавецтву рухацца наперад, не ставячы пад пагрозу ўласнае існаванне і не пакідаючы ззаду самога чалавека,— гэтая трывожная думка жыве ў сучаснай сусветнай літаратуры як няверʼе ці ўпэўненасць, як адчай ці надзея, як апатыя ці парыў. Па-рознаму жыве ў розных літаратурах і ў творах розных пісьменнікаў.

Розны, супрацьлеглы адказ на праклятыя пытанні XX стагоддзя даюць пісьменнікі, якія вераць у чалавека, яго розум, у сілы сацыяльнага прагрэсу, і тыя, што адкрыта служаць рэакцыі ці паддаліся адчаю.

Сярод раманаў, у якіх любоў да чалавека, вера ў чалавека і ў заўтрашні дзень планеты перамагае боль сумненняў і вастрыню пагрозы, стаіць і раман К. Чорнага «Млечны Шлях».

Пад тым небам, што над усімі людзьмі, дзяржавамі, франтамі, на беларускай зямлі, спаленай фашыстамі, сустрэліся некалькі чалавек, якіх фашызм, вайна, нясцерпны голад, адзінокае палахлівае бадзянне, здавалася, пазбавілі чалавечага аблічча. І хоць недзе па-ранейшаму існуе вялікі свет людзей, недзе ёсць гарады і вёскі, мільёны людзей, але ўся атмасфера ў рамане такая, быццам толькі гэтыя некалькі чалавек і засталіся на ўсёй планеце, каб судзіць і быць падсуднымі — перад вокам дзіцяці, вечнасці, гісторыі і ўласнай памяці. Сабраліся, каб абвінавачваць і апраўдвацца. Здаецца, што ад таго, апраўдаюцца ці не гэтыя некалькі чалавек, альбо хоць некаторыя з іх, апраўдаюць ці не свае права называцца людзьмі, залежыць: «узнікнуць» нанова іншыя людзі, «свет людзей», «ажывуць» ці застануцца ў небыцці, а гэтыя некалькі так і будуць адзінокімі і апошнімі чалавечымі істотамі...

Пры ўсёй індывідуалізацыі характараў у рамане «Млечны Шлях» К. Чорнага асабліва цікавіць якраз тое чалавечае, што ёсць ці пагрозліва страцілася ў людзях, аб якіх ён апавядае. Бо гэта ж «эксперымент» (сацыяльна-філасофскі, філасофска-псіхалагічны), ён і вызначае стыль і жанр твора.

У рамане «Млечны Шлях» людзі пастаўлены вайной, фашызмам у абставіны такія, што «чалавечая прырода» і сацыяльная

сутнасць кожнага, на думку аўтара, павінны раскрыцца глыбока, востра.

Вось людзі ва ўмовах XX стагоддзя, якое, аднак, прапануе нам па сумнай іроніі гісторыі сітуацыю амаль што дагістарычную. Амаль што бязлюдная зямля, некалькі чалавек сярод здзічэлай прыроды і бык («мамант») перад галоднымі людзьмі. Як яны будуць паводзіць сябе, гэтыя людзі?

Для пісьменніка, які так балюча і так гнеўна ўспрыняў «фашызацыю» паловы кантынента, які лічыць сваім абавязкам гуманіста і патрыёта сведчыць у карысць чалавека і які гэтым раманам як бы ставіць «эксперымент на чалавечнасць»,— для такога пісьменніка і для такога рамана асабліва важна вывучаць чалавека да канца, каб ні адна крупіца чалавечнасці не засталася незаўважанай.

Вось зварылі яны мяса забітага быка, «тоўсты» паставіў на лаву чыгуны. У тым жа пакоі, дзе ляжыць мёртвая дзяўчынка, з якой навекі развітваюцца бацька і сястра.

Аўтар фіксуе вельмі чалавечны рух, якому штуршок дае былы чырвонаармеец (паступова чытач заўважае, што іменна ад гэтага чалавека ідуць такія імпульсы).

«— Есці ў сенцах! — сказаў самы малады.

З якой удзячнасцю паглядзеў на яго той, што ўвесь гэты час стаяў над нябожчыцай! Самы старэйшы зразумеў гэты позірк. Ён хапіў чыгун і памчаў у сенцы».

Задушаны самы першы крык голаду, і людзі ідуць капаць яму для мёртвай. На планеце людзей пад вечным Млечным Шляхам адбываецца вось што: не ведаючы адзін аднаго, у невядомым ім месцы людзі капаюць магілу невядомаму чалавеку. Здаецца, гэтым выражана ўся, якая толькі магчыма, беспрытульнасць герояў рамана. Спрадвечная і агульная справа — хаваць мёртвых — на нейкі час абуджае ў людзях імкненне быць як мага бліжэй да жывых.

Перад дзіцем ды яшчэ перад вечнасцю Млечнага Шляху нават у такіх розных па лёсу, імкненнях людзей, як тыя, што сабраліся разам у рамане К. Чорнага, абуджаецца час ад часу нешта агульнае.

Вядома, калі б гэта быў не філасофскі раман з адразу заяўленай умоўнасцю сітуацыі, узнікла б нямала пытанняў: аб матывізаванасці паводзін, адносін гэтых людзей, аб верагоднасці абставін і г. д. Але раман так пабудаваны, так пачынаецца і так разгортваецца, што якраз у той момант, калі такія пытанні маглі б узнікнуць (мы раптам даведваемся, што ў гэтай дзіўнай кампаніі і немцы хаваюцца), чытач ужо і не падумае задаваць пы-

танні: ён ужо прыняў «правілы гульні», умовы жанру, прапанаваныя аўтарам, ён пад уладай не сюжэта, а думкі аўтарскай і іменна за ёй сочыць. І толькі калі думку, аналіз нечакана адцясняе сюжэт (хату-«каўчэг» раптам акружаюць узброеныя немцы, гаспадары хаты па-партызанску распраўляюцца з імі) — вось тут судзіць твор чытач ужо пачынае па законах «звычайнага» рамана. Паяўленне новых немцаў патрэбна ў рамане, каб людзі ў «каўчэгу» маглі раскрыцца да канца, каб іх нядаўнія перажыванні і споведзі перад дзяўчынкай Ганусяй можна было праверыць. Адным словам, для завяршэння «эксперыменту» гэта патрэбна аўтару.

З'явіліся ўзброеныя акупанты, і адразу стала бачна, што немец-афіцэр застаўся фашыстам, а салдат-аўтамат усё тым жа аўтаматам, які зноў па загаду пойдзе паліць і забіваць такіх, як Ганусяя, перад якой ён нядаўна спавядаўся («Калубка!..»), якую хацеў бачыць «сястрой» сваёй Гертрудзе.

«...перамагаючы боль дзесьці ў целе, стаў роўна, па-салдацку. З ім у адзін момант адбылася вялікая змена. Твар яго паспакайнеў. Калі ён нядаўна спавядаўся перад Ганусяй, ён увесь быў напоўнен прагай да ратунку. Страшная пячаць гэтай прагі была тады на яго твары. Цяпер можна было падумаць, што свой ратунак ён ужо знайшоў».

Дык што, «эксперымент» засведчыў супраць чалавека? Не, толькі супраць фашыста і супраць «чалавека-аўтамата». Так, час, грамадскія ўмовы робяць і такое з чалавекам, і гэта страшна, крыўдна, балюча. Але будучыня ўсё роўна за чалавекам.

«Жалезны звер», які праносіцца над лёсам працоўнага чалавека ў раманах К. Чорнага 40-х гг., ломячы, крышачы шчасце і будучыню дзяцей і бацькоў,— гэта звер уласніцтва і вайны, што знайшоў сваё найбольш жорсткае выражэнне ў нямецкім фашызме.

К. Чорны, яго раманы «дастаюць» не толькі непасрэдных забойцаў-акупантаў, але і «галоўнага забойцу» — саму фашысцкую тэорыю і тых «тэарэтыкаў» нябачанага генацыду, якія потым, калі прыйшоў час расплаты, на Нюрнбергскім працэсе будуць фальшыва здзіўляцца, што існавалі майданакі і бухенвальды. Яны ж, маўляў, толькі прамовы гаварылі і брашуркі пісалі, самі яны не забівалі.

Такога «забойцу-тэарэтыка» і малюе К. Чорны ў рамане «Вялікі дзень» у вобразе Тоўхарта. У яго праграме вельмі многа тыповага для фашысцкіх тэарэтыкаў ваяўнічага антыгуманізму.

Перад спустошаным і нягдатным да жыцця, выгнаным рускай рэвалюцыяй Гальвасам выкладвае Тоўхарт свой «сімвал ве-

ры», «праграму дзеяння», ад якой нават абыякаваму да ўсяго Гальвасу не па сабе.

І зноў мы бачым у рамане К. Чорнага высокую культуру думкі, за яго вобразамі і тыпамі — вопыт сусветнай класікі, а таму К. Чорны, апавядаючы аб Беларусі, мае што сказаць і аб чалавецтве ў цэлым, аб XX веку.

Тоўхарт — гэта ідэйна-мастацкае адкрыццё К. Чорнага, з'ява жыцця XX стагоддзя. Але ў гэтым вобразе ёсць «пласты», якія бачны, «прачытваюцца», толькі калі глядзець на яго скрозь прызму рускай і сусветнай класікі. Тоўхарт — лагічнае развіццё і ў пэўным сэнсе завяршэнне ў XX стагоддзі буржуазнага індывідуалізму, аб якім столькі апавядала сусветная літаратура, пачынаючы ад Стэндаля і Дастаеўскага і канчаючы Горкім. Толькі там індывідуалізм быў яшчэ ў пэўным сэнсе бунтам супраць «сістэмы». Фашызм жа ўключыў яго ў «сістэму», зрабіў «шурупчыкам», слугою самой «сістэмы».

«Забойца па тэорыі» — вобраз добра знаёмы нам па рускай класічнай літаратуры. Але там ён страшэнна пакутуе ў выніку ўсяго, гэты індывідуаліст-«тэарэтык».

«Забойца па тэорыі», але пазбаўлены ўсякіх пакут сумлення — гэта ўжо прадукт буржуазнага грамадства XX стагоддзя. І гэта ўбачыў, гэта паказаў К. Чорны.

Тоўхарт у Чорнага — гэта не прымітыўны салдафон, што чытаў толькі «Майн камлф». Тоўхарт чытаў і Дарвіна, і Гётэ, і Дастаеўскага. Ён вывучаў гуманістычную спадчыну чалавецтва, але так, як вывучаюць абарону, зброю свайго ворага. Бо тоўхарты добра разумеюць, што і хто іх вораг.

Тоўхарт ведае, што галоўны тэзіс гуманізму — гэта прызнанне другога чалавека роўным табе, гэта ўсведамленне, што кожны чалавек так пакутуе і так радуецца, як і ты, «па-чалавечы». Атака на рабства заўсёды пачыналася са сцверджання: «І мужык — чалавек! І негр — чалавек!»

Каб прымусіць немцаў зрабіцца палачамі іншых народаў, трэба пераканаць іх, што іншыя — «ніжэйшыя», «недачалавекі»,— гэта і прапаведуюць тоўхарты. «І мы хочам не ратунку, а панавання. А панаваць можна толькі над тым, каго ненавідзіш. Таму вы сваім нацыянальным пачуццём павінны зрабіць нянавісць да ўсяго, што не наша, і нам павінна быць усё роўна, што пра нас думаюць. Бязлітаснасць павінна стаць нашым сцягам... Не замілаванне, а нянавісць будзем прапаведаваць мы. Мы зробім гэта нашым евангеліем...»

Тоўхарты вельмі нізка ставяць чалавека, яго здольнасць су-

працьстаяць цынізму і лганню тых, што рвуцца да ўлады над людзьмі.

Колькі іх было ў гісторыі, «вялікіх» і дробных цынікаў-«інквізітараў», што будавалі свае разлікі на слабасці, на трусасці людзей. Тоўхарт — не з ліку вельмі буйных. Але ў тым і трагедыя XX стагоддзя, што якраз дробныя куміры пацыяналістычнага мяшчанства, агідныя камедыянты накшталт Гітлера ці Мусаліні здольны былі заліць морам крыві рэальную сцэну сучаснай гісторыі.

Блізкасць вялікай літаратуры мінулага да самай сучаснай сучаснасці добра адчуў і выдатна выкарыстаў К. Чорны, калі кінуў на свайго Тоўхарта злавесны цень Вялікага Інквізітара. «Цень» гэты адчуваецца ў самой інтанацыі — злавесна-ўрачыстай, з якой прарочыць Тоўхарт перад Гальвасам. «І ён будзе,— пераканана кажа «новы інквізітар», фашыст Тоўхарт,— той ніжэйшы, пераможаны мной, верыць мне. Ён будзе ведаць, што я лгу. Але я буду глядзець яму ў вочы, наставіўшы на яго зброю, і ён будзе ў знак згоды ківаць галавою, што я не лгу. Каб дагадзіць мне, ён будзе ісці сам супраць свае душы. А калі я назаўсёды павешу над яго галавой зброю, ён глыбока ўверуе, што я не лгу і што я самая святая праўда. Так прыйдзе новы свет, і так усталюецца новы прынцып і новая мера дабра і зла, справядлівасці і шальмоўства...»

«Цень» Вялікага Інквізітара дапамагае К. Чорнаму падкрэсліць, наколькі здрабнеў яго «спадчыннік», яго фашысцкая копія. Тоўхарт у адрозненне ад Вялікага Інквізітара ніяк не здатны да трагедыі, бо ў яго і намёка на чалавечае сумленне не засталося. Ён злавесны — вельмі злавесны — але толькі аўтамат і ніколькі не індывідуальнасць, не асоба. Ён усяго толькі «шурупчык» у бяздітаснай машыне, што штампуе бяздушных «надчалавекаў». Індывідуаліст без індывідуальнасці.

І зноў — падкрэсліваем! — вобраз, тып, адкрыты К. Чорным у самім жыцці, уключаны, свядома, падкрэслена, у сістэму тыпаў, раней адкрытых вялікімі мастакамі слова. Але робіць гэта К. Чорны так, што ніколькі не «залітаратурвае» свой персанаж. Толькі яму патрэбна, яму проста неабходна, каб вялікія мастакі былі побач, калі настала гадзіна бараніць самыя асноўныя чалавечыя каштоўнасці.

К. Чорны — адзін з пісьменнікаў, якія добра разумелі імкненне фашызму заразіць увесь свет, усё чалавецтва бацыламі антыгуманізму. Таму так горача і настойліва, побач з нянавісцю да акупанта, ён сцвярджае неперпраходзячую любоў да чалавека як галоўнай каштоўнасці на зямлі.

К. Чорны ведае і выдатна ўмее паказаць, які ён, чалавек, калі яго не сапсавалі ўласнасцю, калі не атручаны ён золатам. Калі

не загналі яго ў цёмны вугал чэрстваспі і жорсткасці. Калі не вытруцілі з яго тую высокую сумленнасць, працавітасць, дабрату, чалавечую шчырасць, якія народ умее праносіць скрозь самыя ліхалецці. Хто не сапсаваў, не атруціў, не загнаў? Рэальныя ўмовы жыцця. І тыя, каму гэта патрэбна — ад рабаўладальніка, імператара, багдыхана, жорсткага ўласніка да чарговага дэмагога-фюрэра XX стагоддзя.

І калі, нягледзячы на тое, што «ні ў маладосці, ні ў старасці няма ад іх ратунку» (як скардзіцца герой К. Чорнага ў «Пошуках будучыні»), чалавек, працоўны чалавек, усё ж застаецца такім, якім К. Чорны яго малюе, значыцца, у ім заключана найвялікшая сіла супраціўлення злу.

Можа ні ў адным сваім творы К. Чорны не змог так апаэтызаваць само званне чалавека, як гэта ён зрабіў праз вобразы «маленькай Волечкі» і Кастуся ў рамане «Пошукі будучыні». Што б ні адбывалася ў свеце, дзе яшчэ хапае і бруду, і жорсткасці, і сквапнасці, заўсёды існуе мера вышэйшай чалавечнасці, і яна для К. Чорнага — у людзях працы і ў дзецях.

Праз дзяцей К. Чорны ідзе да чалавека, да сапраўднага чалавека. І праз той куток зямлі, куды рвуцца яго ўсе думкі і пачуцці, дзе «паблізу чутны ў гаворцы гарады Нясвіж і Слуцак».

Бо адтуль, дзе засталіся радзіма і яго дзяцінства, К. Чорнаму чалавек бачыцца асабліва вялікім і чыстым.

Каб любіць усю зямлю, трэба любіць нейкі куток яе ўсёй сваёй памяццю. Каб любіць людзей, чалавека, трэба некага рэальнага, жывога пасяліць у сваім сэрцы.

Людзі, якіх асабліва памятае, любіць К. Чорны і праз якіх ён бачыць і ацэньвае чалавека, гэта простыя і шчырыя людзі працы, аб якіх К. Чорны пісаў усё жыццё і якіх адкрыта паэтызуе ў рамане «Пошукі будучыні».

Героі гэтага рамана — дзеці Волечка і Кастусь, а таксама сяляне, сярод якіх яны жывуць,— працавітыя, добрыя, наіўныя і шчырыя жыхары беларускай вёскі Сумлічы. За аўтарскім пачуццём, за яго тонкай і мудрай усмешкай мы ўвесь час адчуваем глыбокі і напружаны роздум над лёсам чалавека і чалавецтва на зямлі.

Усмешка, якой асветлены лепшыя старонкі рамана (уся першая палова) — гэта ўсмешка ціхай чалавечай радасці за чалавека. Нясцерпны боль, пакута ад усяго, што робіцца на захопленай фашыстамі роднай зямлі, але побач, у тым жа рамане — такая вось ціхая ўсмешка. Бо было, бо застанецца насуперак усяму на зямлі вось гэта: чысціня і праўдзівасць дзяцінства — невычэрпная крыніца чалавечай шчырасці і чысціні.

Бо так усё проста, так усё зразумела кожнаму і вечна тое, што дзеецца ў душах Волечкі, Кастуся, іх аднавяскоўцаў-сумлічан, іх бацькоў.

«Так усё і дапытвалі мяне — а ці не маю я намераў пусціць на паветра цэлую дзяржаву!..— гаворыць селянін Нявада — бацька Волечкі.— Бойцеся, кажу, бога! Пазбірайце вы, кажу, золата з усяго свету, зрабіце з яго трон, пасадзіце на яго мяне кіраваць паўсветам, а каб увесь свет выхваляў мяне, дык я перад вамі буду прасіцца і маліцца: пусціце, калі ласка, дайце мне шчасце спаўзці з гэтага трона — я колькі год жыта не сеяў, кала нават не зачасаў, у кузні каня не каваў, у млыне мукі не малоў, раллі не нюхаў, ботаў не мазаў, капусты не сёрбаў, не наслухаўся ўволю, як пеўні спяваюць, як людзі па-людску гавораць».

Зробленае К. Чорным у часе вайны — сапраўдны подзвіг пісьменніка-салдата. Столькі напісаць і так напісаць, будучы смяртэльна хворым ужо з 1942 г., амаль страціўшы зрок,— інакш чым подзвігам салдата, што да апошняй хвіліны не пакінуў свой акоп, гэта назваць немагчыма!

* * *

У дзённікавых запісах К. Чорнага ад 10 верасня 1944 г. ёсць здзеклівая заўвага пра некаторых літаратараў, якія скардзяцца, што «няма пра што пісаць», і якім толькі і застаецца смакаваць свае прэсныя «літаратурныя знаходкі».

І гэта ў той час, калі перад кожным — рэальнае жыццё яго народа, яго час!

Трэба толькі ўмець гэта бачыць. Бо для некаторых, кажа Чорны, «калгаснік — гэта той самы мужык, які толькі зголіў бараду, а не чалавек, дзе, хто мае вочы, убачыць і знойдзе і Эжэні Грандэ, і Івана Карамазава, і Андрэя Балконскага...»

Глядзець на сваё скрозь павелічальнае шкло сусветнай культуры чалавеказнаўства — вось што патрэбна літаратару. Тады толькі і ўзнікае тое, што мы называем літаратурнымі тыпамі, а тым больш — тыпамі сусветнага гучання.

Такі погляд К. Чорнаму быў арганічна ўласцівы. Гэта вельмі важны «ўрок», які дае нам спадчына класіка беларускай прозы. Ён асабліва своечасовы сёння, калі беларуская літаратура абавязана перад цэлым светам казаць сваё слова ад імя народа, якому ёсць што паведаміць чалавецтву не толькі пра сябе, але і пра самое чалавецтва.

*Алесь Адамовіч*

# НА ГРАНІЦЫ

*(Малюнак з пагранічнага жыцця)*

## I

З усходу дзьмуў халодны вецер і развяваў на пустых і шырокіх палях нудную мелодыю зыкаў бурнай ночы. Часам прыносіў ён ці то з дрымучых вёсак, ці то з цёмных лясоў многа нечага шумнага і, усхапіўшы віхурай быстрай уверх, глушыў яго сваім уласным свістам і выццём.

А ўверсе гнаў ён цэлыя шэрагі хмар, цяжкіх і чорных, якімі павялічваў змрок халоднай ночы...

Усё: і хмурнае неба, і мёрзлая чорная зямля — было ахоплена нечым сумным, халодным і грозным. І чулася яно, гэтае нешта, і ў зыках шумлівай ночы, і ў ветры, і ў цёмнай заснуўшай зямлі.

І здавалася, нешта вось тут прытаілася блізка і вокам далёкім сваім не міргае — глядзіць несупынна і пільна за ўсім скрозь шэрую ноч і скрозь бурныя зыкі яе, слухае і чуе ўсё...

У змроку няясна вырысоўваюцца два слупы — адзін проціў другога, на захад і на ўсход. За заходнім слупам — Польшча, за ўсходнім — савецкая старана, і ходзіць там чырвонаармеец.

Налятае віхор ветру, свішча і шуміць. Чырвонаармеец становіцца і слухае, потым прыгінаецца і ўглядаецца ў змрок.

Перад ім на шараватай зямлі варушыцца цёмная лапіна, крадучыся паўзе.

— Гэ-э-й, сто-о-й!..

Вецер ірве і носіць зычны водгаласак.

З цёмнай лапіны вырастае цёмная фігура і быстра ідзе на часавога.

— Стой!..

Падыходзіць чалавек і падымае рукі ўверх. Чырвонаармеец бачыць кабету. Вецер трэпле яе выбітыя з-пад вялікай хусткі валасы, абвявае і гне ўсю яе ўбок.

— Хто гэта?

— Я прыйшла з Польшчы к вам... дамоў.

Голас глухі, сіплы. Яна цяжка дыхае.

Часавы лёгенька штурхае яе наперад і паказвае дарогу:

— Пойдзем.

Кабета ідзе ўперад. Паходка цяжкая, утомленая.

Часавы ідзе ззаду.

Адвёўшы кабету ў пагранічную «каравулку», ён спяшыць назад. Перад ім далёка блішчыць маленькі агеньчык беларускай вёскі ў Польшчы.

## II

Пачыналася раніца. Вецер пачаў сціхаць. Ён сагнаў хмары ў адно месца, і яны лезлі адна на адну, ачышчаючы неба.

Часавы змяніўся і пайшоў у «каравулку».

Там на вузенькай лаўцы за маленькім столікам сядзела некалькі чалавек чырвонаармейцаў. Адзін моўчкі глядзеў у газету. Гарэла свечка. Праз два маленькія аконцы дзень нясмела лез усярэдзіну, і было відаць праз іх, як шарэла на дварэ.

Кабета сядзела на нізенькім зэдліку і драмала.

Яна была яшчэ зусім маладая, але на твары яе ляжаў адбітак перажытага. Цененькія маршчынкі сабраліся на яе лбе і каля рота, сінія кругі былі пад вачыма, твар увесь быў запэцканы зямлёй. Кароценькі рваны кажушок на ёй таксама быў у зямлі...

Часавы раздзеўся, набраў у кварту вады і стаў умывацца. За ім памыліся яшчэ два. Кабета падняла галаву і папрасіла дазвалення памыцца.

— Можна,— сказалі ёй.

Яна скінула хустку, падышла к вядру і стала ліць на рукі ваду.

Адзін чырвонаармеец даў ёй ручнік. Уцёршыся, яна дастала з валасоў грэбень і стала іх расчосваць.

Цяпер ёй можна было даць год дваццаць сем.

Маршчыны яе трохі разгладзіліся, але твар стаў белым, худым.

— Хто вы будзеце? — спыталіся яе.

— Я тутэйшая, вёрст за сорак адгэтуль. Прабіраюся дамоў з Польшчы. Толькі не ведаю, ці цэлы дом.

— Як вы паляку не папаліся?

— Я паўзла па зямлі.

Жанчына паказвае сваю запэцканую ў зямлю адзежу.

— А як вы папалі ў Польшчу?

— Мяне завезлі,— адказвае яна, потым садзіцца і пачынае расказваць.— Як былі тут палякі, мой брат быў тады ў войску камісарам палка. І гэта знаў наш пан. Вось, як палякі сталі адступаць, мяне забралі ў заложніцы за брата. Так хацеў пан. Гэтакіх, як я, было многа. Завезлі нас далёка ў глыб Польшчы, пад Варшаву. Заложнікаў там было з розных канцоў Беларусі, з усіх кутков, дзе толькі былі палякі. Кабет там было не вельмі многа. Усё мужчыны, найбольш маладыя.

Жылі мы там у сырых гліняных доміках на краю вялікага мястэчка. К нам былі прыстаўлены жандары. Цярпелі здзек ад іх усе, найбольш мы — жанчыны. Мы ўсё чакалі нейкага збавення сабе і таілі ў сабе злосць на нашых старажоў-жандараў і паноў, якія нас завезлі сюды.

Выходзіць нам не дазвалялі; толькі, калі хто хацеў, вадзілі ў касцёл. З мужчын ніхто туды ніколі не хадзіў, адно некалькі чалавек кабет, у тым ліку і я. Я думала знайсці сабе ўспакаенне ў малітвах. Касцёл быў блізка, і быў ён вялікі і багаты. Людзей туды збіралася многа. На пярэдніх лаўках, бліжэй к ксяндзу, сядзелі паны. З простых людзей туды не смеў ніхто заходзіць, а станавіўся ззаду, дзе былі лаўкі горшыя. Мы станавіліся ззаду і слухалі музыку арганаў, а за намі стаяў жандар і таксама слухаў.

Так жылі мы з паўгода.

Адзін раз к нам увайшоў багаты пан. Ён доўга глядзеў на нас, а потым паказаў пальцам на мяне. Мяне вывелі за ім, а на маё месца высадзілі з панскага фаэтона другую. Мяне завезлі ў панскі маёнтак. Пан забраў мяне к сабе. Ён ужо быў стараваты, а для чаго ўзяў мяне, вы можаце дагадацца. Мучыў ён мяне з год. А потым паззаў мяне раз і кажа: вось бачыш, ты была ў палоне, нявольная, а я выкупіў цябе, а за гэта ты дала мне свой выкуп. Цяпер я адпускаю цябе. Можаш ісці, куды сабе хочаш, і павінна мне за ўсё падзякаваць.

Потым я пачула, што на маё месца ён узяў сабе другую заложніцу.

З таго дня я, абясчэшчаная панам, змучаная ім і сваім жыццём, стала «вольнай» у краіне, дзе няма волі. Я не

знала, што мне рабіць. Пайшла я ў касцёл памаліцца. Хацела бога пазваць сабе ў збавіцелі, але там я ўбачыла вось што: на самым перадзе стаяў на каленях пан, які даў мне «волю», і маліўся. Якое права ён мае маліцца пасля таго, што робіць, думала я. І стала мне тады неяк гідка ўсё, пачынаючы з пана і канчаючы касцёлам, у якім знаходзяць сабе ўспакаенне ўсе тыя, што, выйшаўшы з яго, робяць гора другім і знаходзяць сабе там, у бога, сілу для сваёй работы. З нечым цяжкім на сэрцы выйшла я з касцёла, дзе ўбачыла столькі абману і няпраўды. Прайшла я пехатой праз усю Польшчу і прыйшла цяпер сюды...

— Так,— сказаў адзін чырвонаармеец.— Цяпер мы вас скора адправім далей. Там вас дапросяць і асвабадзяць.

III

Пацяплела. Вецер сціх. Залаціцца ціхі асенні дзень. На двары «каравулкі» стаяць кучаю чырвонаармейцы і гавораць.

Твары іх азарапы нечым светлым, радасным...

— Зусім не верыцца,— кажа адзін,— што ёсць яшчэ дзе на свеце паны і здзек чалавека над чалавекам. Неяк здаецца няпраўдай, што яшчэ і цяпер людзі могуць так жыць, жыць неразумна.

Другі голас кажа:

— Мы не верым у тое, чаго не бачым сваімі вачыма. Так часта бывае. Нам яно здаецца прыкрым. А толькі трэба ўбачыць, каб паверыць у тое, што ёсць.

Працягваецца рука і паказвае на Польшчу.

— Вось тут, недалёка, у некалькіх кроках, пачынаецца зямля, дзе ўсё гэта ёсць, дзе пануе бог і пан. Я кажу бог, бо тыя ўсе, пра якіх гаварыла гэтая кабета, моляцца богу. Просяць у яго справядлівасці і бачаць яе ў прыгоне над другімі.

— Справядліва,— кажа другі голас,— мы жывём у цікавы час. Час росквіту новай думкі, новага жыцця. Час новых людзей. Пазнала ж гэтая кабета, якая праўда ў касцёле і ў малітвах.

— За намі жывая старана. На гэтай граніцы мы пільнуем яе. Павінны мы моцна дзяржаць у руках тое, чым мы моцныя. Павінны мы пільна ўглядацца вакол. Ці ж не

бачым мы, браткі, колькі новай праўды ў жыцці на нашай старане? Колькі ўсяго разумнага тут і што там, блізка, вунь за тым слупам.

— Мы адны на ўсім свеце,— чуецца голас.

— Мы адны? Мы адны пакуль што гаворым гэта ўсё смела. Але вунь там, за тым слупам і далей, па ўсёй зямлі, гэта самае гавораць нясмела. Мільёны людзей, рабочых і сялян, думаюць так, як і мы. Мы, значыцца, не адны. Мы толькі першыя загаварылі аб гэтым моцна, не баючыся. Мы першыя перамаглі эксплуатататараў. І нас усе чуюць. Чуюць і тыя, што думаюць так, як мы, чуюць і тыя, што крывяцца ад нашай думкі. Нядарам вунь той чалавек у чатырохкантовай шапцы так пільна глядзіць у наш бок з-за свайго слупа з белым арлом...

— Але няведама, што ён думае.

— Можа ён нічога не думае. Уціск вечнага панства налажыў на яго свой адбітак. Але даволі яму толькі паказаць усё, як ён стане па сваёй думцы нашым. А сярод іх ёсць і цяпер нашыя. Здаровая думка аб жыцці і барацьбе за лепшы лёс працоўных пануе ўжо па ўсім свеце, і трудна перад ёю ўстаяць старому гнілому панству здзірцаў і катаў.

Размова ідзе далей. На тварах людзей, якія пільнуюць сваю вольную старонку, лажыцца прамень светлай радасці і свядомасці.

2 Зак. 979

# НА ВАРЦЕ

## I

Поле — шырокае, дзіўна харошае — заціхла і дрэмле, уздыхаючы калі-нікалі шэптам зялёнага жыта.

Неба — высокае, сіняе — вісіць над полем і пазірае ўніз бліскучымі вачыма-зоркамі. У тым месцы на ім, дзе зайшло сонца, узнялася куча маленькіх кругленькіх хмарак. Бакі іх чорныя, краі залацяцца чырвоным адсветам, гараць і тухнуць.

На дарозе між зялёнага жыта стаяць двое.

Адзін — высокі, з густой барадой, другі — зусім яшчэ малады хлапец. Гэта вясковыя вартуюць тэлефон. Яны адбываюць сваю чаргу, назначаную старшынёю сельскага савета.

Хлапец глядзіць на поле, потым гаворыць:

— Хадзем, дзядзька, па дарозе.

— Пачакай трохі, сынку. Бач, якое хараство ў полі. Я гляджу і думаю: колькі тут людское працы лягло! І ўсе працуюць, і ўсе рады. Мы любім вольную працу.

А быў я ўчора на граніцы. Глядзеў на той бок, у Польшчу. І там гэтаксама хораша ў палёх. І там на іх багацце, заложанае працаю людзей, такіх самых, як мы. Але там побач з вузенькімі сялянскімі палоскамі ляжаць шырокія абшары панскай зямлі, на якой працуюць іх парабкі. Для парабкоў гэта чужое поле, хоць яны на ім і працуюць. А ў нас, бач, сынку, як! Калі ты ніколі не думаў аб гэтым, дык падумай. Добра ўдумайся ў гэта.

Яны пайшлі. З правага боку ўздоўж па дарозе стаялі шэрагі высокіх слупоў, па якіх было працягнута, як струны, некалькі дратоў.

На захадзе хмаркі патухлі, пацямнелі. А ціхае поле мацней запахла травою. Дзе-ні-дзе навакол міргалі чуць-чуць прыкметныя агенькі далёкіх вёсак.

На трэцяй вярсце над канаўкаю быў мосцік. Вартаўнікі селі на ім і гаварылі ціха.

— Ты, сынку, яшчэ малады зусім. Табе не больш, мусіць, як гадоў семнаццаць. І старую панскую пору ты хоць і памятаеш, але не ўсё знаеш. А мне колькі прыходзілася мець дзела з панамі, колькі раз я плакаў, хоць быў малады і здаровы. Няма нічога цяжэй, як цярпець несправядліва крыўду. Гэта найгоршы боль.

Адзін раз капалі мы, мужыкі, у пана канавы на балоце. Цяпер мне пяцьдзесят год. Тады мне было гадоў дваццаць. Значыцца, гэта ўжо даўно, год трыццаць таму. Нас было многа.

А якраз тады ў маёнтку ўміраў стары пан. Ён мучыўся многа гадзін і ніяк не мог памерці. Не знаю, якая была ў яго хвароба, знаю толькі, што была яна нейкая цяжкая.

Пры хворым было многа ксяндзоў і прыехаўшых паноў. На выздараўленне яго ўжо ніхто не меў надзеі, і ўсе чакалі, каб скарэй ён памёр і перастаў мучыцца. А ён усё хрыпеў і страшна роў.

І вось тады адзін ксёндз уздумаў: трэба прасіць «пана бога», каб ён праз смерць збавіў скарэй пана ад пакуты, і што трэба, каб малілася чым пабольш народу.

Тады малады пан, сын хворага, выслаў к нам на балота свайго лёкая, які і стаў зваць нас у пакой. «Кідайце, людзі, работу,— крычаў ён,— і скарэй ідзеце». Мы не зналі, нашто мы там патрэбны, але, папакідаўшы лапаты, як былі мокрыя і запэцканыя граззю, пайшлі да пакояў. Астаўся толькі я адзін, бо стаяў на дне самай глыбокай канавы і быў вельмі мокры.

Ужо ўсе былі каля пакояў, як пан замеціў, што я астаўся. Ён вярнуўся і закрычаў на мяне: «А ты чаго, сукін сын, астаўся, хадзі!»

Я вылез з канавы і пайшоў.

Як я падышоў к яму, ён размахнуўся і даў мне кулаком па твары. Кроў палілася ў мяне з носа, але я, уцёршыся рукавом, пайшоў за ўсімі ў пакоі. Мне стала крыўдна, і я заплакаў. Але кінуць панскую работу я не мог, бо, як ты ведаеш, зямлі сваёй у мяне тады не было, і трэба было мне як-небудзь пражыць ды яшчэ карміць старых бацькоў.

Дык вось як — я быў малады, здаровы, а плакаў. Не мог нічога зрабіць, пастаяць за сябе...

Стары змоўк і падняўся.

— Хадзем, Юзік, назад,— сказаў ён.

Яны пайшлі.

— Ну, а далей што было з панам? — спытаўся Юзік.

— А далей? Кончыўся к вечару. Мы ўсе ўвайшлі ў пакой, побач з тым, дзе ён ляжаў, і некаторыя сапраўды сталі маліцца, але такіх было мала. Найбольш усе стаялі моўчкі, а некаторыя пасміхваліся...

Вартаўнікі падышлі да мяжы і селі каля густога куста быльніку. Скора яны задрамалі.

На захадзе вырасла чорная хмара. Яна паднімалася паволі ўсё вышэй, а потым паплыла стараною.

## II

Скрозь дрымоту Юзік пачуў, як нешта недзе блізка застукала. Ён прачнуўся і доўга праціраў заспаныя вочы кулакамі, а потым, пільна ўгледзеўшыся ў дарогу, раптоўна зашаптаў:

— Дзядзька Сцяпан, дзядзька... скарэй!..

У яго галаве бліснула думка, што робіцца нешта страшнае і вельмі важнае і што яны ўдвух павінны нешта рабіць.

Сцяпан хутка падняўся.

Па другі бок дарогі, наўскасы ад іх, стаяў слуп: на самым версе яго нешта чарнела і калі-нікалі шавялілася.

— Разрывае дрот,— шапнуў Сцяпан.

Ён сам зразу не мог зразумець таго, што так раптоўна прымусіла яго ўстрывожыцца — устрывожыцца не затым, што ён сёння вартаўнік, але з-за нейкай другой прычыны. Нешта заварушылася ў ім, і без яго ведама з'явілася пачуццё таго, што ўсё тое, што ёсць тут, па гэтай зямлі, у вёсках, у палях, а ў тым ліку і гэты слуп з дротам, на якім сядзіць цяпер нехта цёмны і псуе яго,— што ўсё гэта ёсць багацце ўсіх, а значыцца, і яго самога.

Зусім не разбіраючыся і не думаючы аб гэтым, але адчуваючы ўсё гэта сваім нутром, ён махнуў сукаватай палкай і пабег па дарозе.

За ім кінуўся Юзік.

Чалавек на слупе ўжо, мусіць, зрабіў сваё дзела, бо пачаў злазіць уніз, стукаючы аб дзерава жалезам, уздзетым на ногі.

Угледзеўшы людзей, якія беглі к яму, ён махнуў нагамі, скінуў з іх жалезныя лапы, дзякуючы якім узлез на

слуп, і, ссуцуўшыся па гладкім дзераве на зямлю, кінуўся бегчы.

Юзік прыпусціў кроку і ўжо даганяў яго, як той злачынец раптоўна абярнуўся назад і працягнуў руку, у якой быў рэвальвер.

Не прыкмячаючы ў яго руках аружжа, Сцяпан падскочыў к яму і даў палкай па руках.

Рэвальвер выпаў на зямлю, а Юзік падбег ззаду і рвануў яго ногі к сабе.

Цёмны чалавек упаў тварам на зямлю.

— Ага, шэльма,— захрыпеў Сцяпан, кідаючыся на яго і хватаючы яго за рукі.— Ага, папалася, шкадлівая гадзіна! Ты што рабіў? За гэта самае ўсякі мужык, самы цёмны, цябе не памілуе!

Чалавек, на якога паваліліся Сцяпан і Юзік, ёрзаўся пад сподам, стараючыся выбрацца наверх.

Сцяпан мацней прыціснуў яго к зямлі і стаў крычаць яму:

— Знай, гад, к каму ты папаў. Ты — пасланец панскі. Я знаю. Ад вас мы збавіліся, дык вы прыходзіце сюды кусаць нас?! Знай жа, і няхай знаюць усе тыя, якія паслалі цябе, што калі толькі хто з вас з'явіцца сюды, што калі толькі вы прыйдзеце перашкаджаць нам жыць і працаваць, дык мы ўсе паднімемся на вас. Сядзіце, гады, там, куды мы вас прагналі, пакуль гарапашнікі і адтуль вас не прагоняць.

Чалавек рвануўся, дрыгануў нагамі, вырваў іх з-пад Юзіка і пхнуў яго імі.

Сцяпан нашчупаў рукою твар і здавіў яго.

— Вяжы яму ногі папружкаю! — крыкнуў стары Юзіку.

Юзік пачаў лавіць ногі, стараючыся ўхіліцца ад іх udараў. Сцяпан з усіх сіл стараўся не ўпусціць ворага.

Невядомы чалавек раптоўна перастаў шавяліцца і ляжаў спакойна. Усе трое цяжка дыхалі.

— Слухайце,— пачулі Сцяпан і Юзік голас.— Пусцеце мяне. Я вам заплачу. Усё роўна вам не будзе ніякай карысці ад таго, што вы мяне арыштуеце. Што вам будзе за гэта? Што вы так уверылі ў гэтых бальшавікоў? Што яны далі вам?

— Маўчы, гад! — крыкнуў Сцяпан.— Ты не знаеш нашага жыцця і не можаш так гаварыць. Але паглядзі — паноў у нас няма, га... няма!

Сцяпан хрыпла крычаў.

Па зямлі качалася, стагнала і вохкала нешта сплеценае з трох чалавечых цел.

— Дзядзька, дай яму ў зубы, тады мы яго звяжам! — крыкнуў Юзік, насеўшы на ногі свайго ворага.

Але ў гэтую хвіліну адна нага, вырваўшыся, пхнула яго ў грудзі. Ён адкаціўся, а Сцяпан пачуў, як нешта цвёрдае стукнула моцна яму ў твар.

Усё закружылася ў вачах Сцяпана, бліснулі іскры. Дзікая злосць ахваціла яго ўсяго. Ён сціснуў кулак і, не гледзячы, з размаху апусціў яго. Нешта застагнала, а потым тое, што варочалася і адбівалася, супакоілася.

Хутка яны павялі звязанага чалавека ў сельсавет.

# МАЁ ДЗЕЛА ЦЯЛЯЧАЕ

## I

Плюхаючы па лужах босымі нагамі, член сельскага савета Юлік Карнавух шпарка бегаў ад хаты да хаты і «зганяў сход».

Ткнуўшыся тварам у аконца Мацвеевай хаты, ён ахрыпшым голасам крычаў:

— Мацвей, дзе ты там?..

Мацвей, спалохаўшыся, што Юлік гоніць у фурманку, кідаўся ў хваробу — браўся на печ і казаў адтуль жонцы:

— Тэклечка, скажы, што хворы.

— Мацвей хворы,— крычала Тэкля,— захаладзіўся, цягаючы картоплю... Усе вунь грудзі залажыла.

Ведаючы гэтую хваробу, Юлік з усмешкаю крычаў:

— Што там за трасца: куды ні кінься — усюды хворыя. На сход трэба ісці, сельсавет новы выбіраць!

— Вось мо як узвалакуся,— казаў павесялеўшы Мацвей і ўжо спускаў ногі з печы, але бачачы, што Юлік ужо прапаў з-пад акна, усцягаў ногі назад і пытаў у жонкі:

— Як ты, Тэкля, думаеш, ісці ці не?

— Як хочаш,— ціха адказала Тэкля.

Мацвей як след укладаўся на печы і мармытаў сабе пад нос:

— Чорт яго пойдзе. Пакуль зацягнешся па гэтай гразішчы, блізкі свет. Ускінь мне, Тэклечка, кажух на ногі...

— Янка, на сход! — крычаў тым часам Юлік каля другое хаты.

Янка, не спяшаючы, падыходзіў к акну і пытаўся:

— Кажаш, на сход?!

— Але, сельсавет выбіраць.

— Ну, добра,— адказаў Янка,— як людзі будуць ісці, то і я пайду.

— Што вам за трасца,— сярдзіта крычаў Юлік,— усякі, ліха яму, спадзяецца на людзей. Ты ідзі, дык і людзі пойдуць! Трэба ж каму першаму ісці.

— А чаго мне канешне ісці першаму,— у сваю чаргу злаваў Янка.— Я ж кажу — як людзі, так і я.

— А няхай вас агонь папаліць, гэтакі народ. Тфу! — пляваў Юлік і плюхаўся далей.

А Янка пазіраў праз акно, ці скора будуць ісці «людзі».

— Хвёдар,— крычаў Юлік каля трэцяе хаты,— скарэй адзявайся на сход!

— На сход? — таксама, як і Янка, дапытваўся Хвёдар.

— Але, скарэй!..

— А чаго?

— Сельсавет выбіраць. Скарэй!

— Хай ты сам скарэй,— агрызаўся Хвёдар.— Чаго ў карк гоніш, яшчэ ніхто не ішоў.

— Дык ты ідзі.

— Як усе будуць ісці, то і я. Чаго ты гэтак баішся, як бы там без мяне сходу нельга зрабіць!

— А бадай на вас трасца,— лаяўся Юлік, лезучы па гразі на другі бок вуліцы к хаце Тараса.— Папалі дурня з сабачымі нагамі.

— Тарас, дзе ты там?

— Чаго! — абзываўся перапалоханы Тарас, выбягаючы з хлевушка. «Пэўна ў фурманку»,— думаў ён.

— На сход!

— А, на сход,— гаварыў Тарас і ўжо весела падыходзіў к Юліку, з выглядам чалавека, які нейкім цудам толькі што ўсцярогся вялікае бяды.— Мо закурыш, Юлік? — даставаў ён капшук.

Юлік закурваў, а Тарас тлумачыў яму:

— Гэта я, браце, тут у хлевушку корпаюся. Думаю сабе, адгараджу павольным часам катух парсюку, а то ўчора, каб на яго ўпадкі, абярнуў жонку з ражкаю. А тут якраз свіння на парасенні...

— Дык, браце, на сход,— перабіваў яго Юлік.

— Добра, калі кончу зарання, то падыду там, паслухаю...

«А каб ты па свеце не хадзіў,— сярдзіта думаў Юлік, ідучы далей. Ён быў сярдзіты на ўсю вёску, на ўсіх гэтых людзей, якія корпаюцца па сваіх хатах і хлевушках і якіх так трудна выгнаць адтуль на сход. Яму хацелася

скарэй скінуць з сябе гэты непрыемны абавязак, які прымушае яго лазіць па калені ў гразі вось ужо трэці раз дзеля аднаго і таго ж дзела.— Вось жа жыў не буду, а зганю вас, чарцей,— думаў ён,— выбірайце другога, хай ён запрабуе па дзесяць разоў брахаць каля кожнага акна». І яшчэ з большым поспехам палез ён пад акно канцовае хаты.

— На сход, дзядзька!

— Ат, канечне ўсякаму цягнуцца па гэтай гразі.

— Што «ат». трэба ж як-небудзь сельсавет выбраць.

— Ну, выбірайце, што я там вам адзін памагу. Маё дзела цялячае — пад'еў ды ў хлеў.

— Тваё цялячае, а маё дык сабачае?! Што, я павінен тут каля кожнага акна агыркавацца? Але што з гавядаю гаварыць,— дадаў ён цішэй і прыйшоў к школе, дзе павінен быў сабрацца сход.

Там ужо чуліся галасы.

«Што за ліха,— думаў Юлік, падыходзячы бліжэй,— хто там можа быць? Здэцца ж, ніхто яшчэ не ішоў з вёскі — усякі ўсё «чакае», а тут якраз нейкія людзі. Няўжо гэта шляхта-хутаранцы? Напэўна яны — ім яшчэ ўчора заказалі».

Юлік падышоў к лужы, пабоўтаў у ёй нагамі, каб хоць трохі абмыць з іх гразь, і палез на ганак.

І думаў — няўжо гэта хутаранскія «ягомасці» сталі гэткімі шчырымі да сходаў і мітынгаў. Вось дзіва, калі яны.

— Яны і ёсць,— сказаў ён сабе пад нос, адчыніўшы дзверы.— Стараюцца, ліха ім, каб больш сваіх членаў уперці ў сельсавет. А нашы дурні сядзяць сабе па хатах. Усякі, падла, баіцца першым выбрацца з хаты, як бы тут з яго скуру збіраюцца дзерці.

— Ого, начальства прыйшло,— гукнулі ў грамадзе, убачыўшы Юліка.

— Жадаю табе сёння жа зрабіцца гэтакім начальствам,— адказаў Юлік.

— Чаму, нядобра?!

— Ідзі запрабуй гэтакага дабра. Зразу боты ў гразі пакінеш.

— Чаго я маю іх пакідаць?

— Калі не маеш пакідаць, дык самі пакінуцца, як станеш кожны дзень па дваццаць разоў лазіць з хаты ў хату.

Пачуўся рогат. Юлік убіўся ў кучу мужчын.

Ішлі гутаркі.

Гаварылі моцна, аж крычалі пасярод памяшкання каля стала.

На голаў вышэй за ўсіх мужчын стаяў там Даніель Кіралейза — самы багаты шляхціц з хутароў.

Доўгі, як качарга, з шырокім аплыўшым тварам і тоўстымі рыжымі вусамі, ён заўсёды стараўся выглядаць чалавекам сталым і важным. Дзеля гэтага ён суконную жакетку сваю зашпільваў усяго на два гузікі — верхні і самы сподні, а пад адтапыраную сярэдзіну грудзіны запіхаў рукавіцы, або часам нават і шапку; «тоўсты чалавек зусім іначай выглядае»,— гаварыў ён аб гэтым сваёй жонцы.

У хутаранскай капэле ён граў на кларнеце і, лічачы гэта вельмі важным і вялікім дзелам, стараўся заўсёды ўсім гаварыць аб гэтым.

І цяпер, чакаючы адчынення сходу, ён гаварыў аб гэтым жа.

— Не тыя гады цяпер,— паважна выпускаў ён праз свае вусы слова за словам,— няма жаднага разгарнення. Вяселлі цяпер найбольш абыходзяцца без музыкі; вечарынкаў і розных там ігрышчаў зноў не спраўляюць, хіба трапіцца калі, гады ў рады, спектакль граць. Ды і то, якая там іграпка! — ты граеш аднаго марша, а кішкі ў цябе другога. Мо а думаеце, цяпер, граючы, па-людску закусіш?! Бронь божа! Хіба яблык глымзанеш, больш нічога. Вось бывала, калі забяруць дзе вяселле граць, дык, браткі мае, што там робіцца! Колькі я даўней, граючы, гэта, на вяселлі, кілбас пераеў. Страшэнная моц! Каб збіраў у адно месца, дык напэўна назбіраў бы кучу, большую за гэтую будыніну.

— Адно, думаеце, кілбас,— перабіў другі музыкант хутаранскае капэлы — Гаронім Цурубалка, даўжэйшы яшчэ за Даніеля і трошкі згорблены багатыр-шляхціц.— Каб жа адно кілбас. А пірагоў... процьма! Бывала, выйграеш кракавяк ды зразу за стол. Набярэшся — ледзьве вылезеш. Не ведаеш, Даніель, пачом цяпер струны ў Слуцку? — раптоўна абярнуўся ён да Даніеля, каб паказаць, што гаварыць то я гавару, але і дзела не забываю. І, не чакаючы адказу, зразу загаварыў далей к грамадзе мужчын: — Гэта, бачыце, у мяне адна струна, ліха ёй, стала дрынгаць. Абы смыкам да яе дабяруся, дык усё роўна, як

цвікам па шклу. Але потым нічога,— дадаў ён, каб яшчэ больш паказаць сваю здольнасць ва ўсякім дзеле,— нічога, умеючы можна зрабіць, што гладка зыдзе, як на тое і трэба. У мяне ніколі ніхто фальшы не знойдзе.— І, падміргнуўшы ўсёй грамадзе, ён важна дадаў:— Трэба ўмець як выкруціцца, на ўсё трэба лоўкасць.

— Як жа ты выкручваешся? — запытаў нехта ззаду.

— Я?! Як толькі дабяруся да гэтае струны, дык у той жа момант таркану нагой бубнага Фабіяна Свінкоўскага. А ён ужо ведае, што гэта значыць, і зразу з усіх сіл як урэжа ў барабан, дык і заглушыць усё. Тады трасцу разбярэ там хто якую фальш.

— Ха-ха-ха... О, гэта дык музыканты,— зарагаталі ў грамадзе.

— Музыканты! — раззлаваўся Гаронім.— Пры чым жа тут музыканты? Тут струна вінавата, а не музыканты. А ён — музыка-а-нты! Вунь папытай у Фабіяна.

— Ат, што гаварыць,— абазваўся бубнач хутаранскай капэлы Фабіян Свінкоўскі, які даўно чакаў ужо якое-небудзь прычыны, каб уставіць сваё слова.— Кажа, музыканты яму нядобрыя, а таго не ведае, што гэтыя музыканты гралі ў касцёле на хорах, як прыязджаў біскуп.

— Уй, гралі яны ў касцёле,— зацягнуў, смеючыся, вясковы Марцін.— Каб гэтак ліхі на свеце жыў і быў, як гэта праўда. Чуеце, браткі, што гэта ён плявузгае?

— Ат, усякі ўсё ў свой бок горне, — абазваўся нехта ззаду.

— Можа і ты з сваім бубнам быў на хорах, га? Фабіян! — запытаўся скрозь смех Марцін і вызваў гэтым доўгі і моцны рогат.

Фабіян, бачачы, што ўгаварыўся, махнуў рукою і недзе згінуў. Засмуціліся нават і Гаронім з Даніелем і гэтак сама адышліся назад. І ўся грамада стала разбівацца на новыя кучкі.

А тым часам сталі падыходзіць вясковыя. Час ад часу паволі адчыняліся скрыпучыя дзверы і прапускалі ўсярэдзіну шэрых ад змроку людзей.

Прыйшоў чырвоны, як бурак, Тодар Грыб, у чырвонай мультановай кашулі, выпушчанай з-пад камізэлькі, і ў суконным халаце наапашцы.

Моцна і густа сапучы з-пад сваіх велізарных вусоў, ён некалькі хвілін пастаяў каля дзвярэй, разглядаючы, к якой тут лепш грамадзе прыстаць з гутаркамі, потым па-

волі пайшоў у самы цёмны кут, дзе Грыгор Шамяціла, шапяляючы на гукі «ж» і «ц», не спяшаючы расказваў «гісторыю пра бога і яго слугу — чалавека».

— Тым часам,— цягне ён сваё нуднае апавяданне,— пазваў бог анёла Архістрата, ды і каза: «Павінен ты, анёле, зляцець на зямлю і зрабіць, каб людзям было добра зыць». «Пане бозе,— каза анёл,— як за я гэта зраблю, калі людзі грэсныя?»

Апавяданне яго вяла, як бы нехаця, спаўзае з яго языка і мала будзіць цікавасці сярод слухачоў. Але яны слухаюць, бо любяць глядзець, як Грыгор ківаецца, пыхкае люлькаю, калупае ў ёй кіпцем і вярзе нейкую пляту, якую, напэўна, сам выдумаў і якую яны ўжо чулі ад яго тысячу разоў.

Паволі скрыпнуўшы дзвярыма, уваходзіць Хама Скрут, адзеты ў «будзённы спінжак». Чухаючы ў сваёй касматай, трохі пасівеўшай барадзе і моцна грукаючы сваімі велізарнымі ботамі, ён зразу ідзе к сталу, дзе некалькі кучак вядуць розныя гутаркі і спрэчкі. Хама не прапускае ніколі ніводнага сходу, бо любіць «абстайваць праўду». І цяпер, скора падышоўшы к сталу, ён зразу пытае: «У чым дзела, хлопцы?» — і, не чакаючы адказу, зразу заглушае ўсіх сваім зычным голасам.

Неўзабаве яўляецца Юзік Сучок, вясёлы «чудак» гадоў пад трыццаць. Ён садзіцца на пустым месце, і к яму зразу пачынаюць сцягвацца і малыя і старыя — усе, хто толькі хоча пасмяяцца ўволю.

Некалі Сучок рыхтаваўся выйсці за дзяка, і хоць экзаменту не вытрымаў, але навучыўся многа розных «кандакоў і пракімнаў», якія і любіў, каб пасмяшыць людзей, выспеўваць і расказваць на свой лад.

— А браткі-і ж мае,— крычыць ён весела,— колькі тут гэтых хутаранскіх ягомасцяў назбіралася, а гвалт!.. Вось будзе работы,— дабаўляе ён, не баючыся, што «ягомасці» ўсё чуюць,— як выберам шляхецкі сельсавет.

— Не ўсё роўна?! — абзываецца адзін пакрыўджаны гэтым «ягомасць».

— Х-хэ, усё роўна! — адказвае Сучок.— Ты ж ніколі са мною ў адну дудку граць не будзеш, усё роўна, як той дзяк з панам.

Вочы ў Сучка смяюцца; а яго слухачы падбліжаюцца к яму, знаючы, што скора гэты «чудак» што-небудзь «выпаліць».

— Цягне поп «пракімен»,— канчае Сучок,— «у памяць вечную будзе праведнік, ад слуха зла не ўбаіцца», а п'яны дзяк, не прыслухаўшы, паўтарае за ім: «У памяць вечную будзе праведнік, асла і казла не пабаіцца».

Зразу пачынаецца рогат.

З цёмнага кутка чутна гарачая спрэчка. Спрачаюцца Грыгор Шамяціла і Антоні Вельскі. Грыгор, брыты і сагнуты, не пакідаючы пыхкаць люлькаю, шыпучым ад злосці голасам крычыць:

— А я табе, Антоні, казу, што Ісус Хрыстос уваскрос у нядзелю.

— Не ў нядзелю, а ў суботу,— гэтаксама злосна адказвае Антоні — старэнькі чалавечак з сівенькаю кароценькаю бародкаю і рэдкімі, мяккімі валасамі на галаве.

— У нядзелю — я табе казу!..

— Ды я табе ўсю біблію перагарну,— не здаецца Антоні,— там нідзе не сказана, што ён уваскрос у нядзелю.

— Дурань ты з сваёю бібліяю,— гукае Грыгор.

Аблаяны Антоні абварочваецца назад і бачыць перад сабою Сучка, які, разам з цэлаю грамадою зацікаўленых мужчын, падышоў, каб «развесці дурняў».

Растапырыўшы рукі, Антоні колькі хвілін стаіць моўчкі, а потым просіць Сучка:

— Такі-та ж вы, Сучок, вучоны на гэтай часці, растлумачце гэтаму дурню, калі «ён» уваскрос, у суботу ці ў нядзелю!..

— У чацвер,— важна адчаканьвае Сучок і вызывае доўгі, несціхаемы рогат сярод усіх мужчын.

Апусціўшы галавы, Грыгор і Антоні разыходзяцца.

— А мне што,— моцна і адрывіста расказвае нешта, стоячы каля сцяны, Тодар Грыб.

— Маё дзела такое — дзень ды ноч і суткі ўпроч. Бяры, кажу, крывулю ды бі ў рыла!..

Некалькі зацікаўленых мужчын ціха слухаюць.

Нек зразу, неўзаметку, Тодар пераходзіць на палітыку. Тады каля яго пачынае збірацца вялікі гурт. Тодар гаворыць спакойна — расказвае, але неўзабаве падыходзіць другі, не менш заядлы «палітык», Хама Скрут, і пачынаецца гарачая спрэчка: Хама лічыць сябе лепшым палітыкам і стараецца «падсячы» Тодара.

— Вы думаеце, браткі, гэтак і будзе,— моцна і адрывіста гаворыць Тодар,— вось пагледзіцё, як вясною зава-

рушацца. Будзе вайна. Вось пабачыце. Усё роўна спакою і парадку не будзе.

— Гэта ў цябе ў галаве няма спакою і парадку,— перабівае яго Хама,— чудзіла ты. Падумай сам, якая тут можа быць вайна: Францыя і Англія думаюць сабе — ат, як спакойна, то і добра. Сядзем сабе ціха, бо як заварушымся, дык як паднімуцца!.. Ты думаеш, не паднімуцца?..

— Хто гэта? — пытае Тодар.

— А камуністы тамашнія; ты думаеш, там мала камуністаў?

Тодар гладзіць пальцам па лбу і думае, што б тут сказаць.

— Дык вось,— кажа ён, пачакаўшы,— калі так многа камуністых, дык тыя яшчэ скарэй заварушацца, каб змясіць іх.

— Ну,— сярдзіта цягне Хама,— недаждалі яны яшчэ іх змясіць.

— А ты думаеш, я вельмі чакаю, каб яны іх змясілі,— апраўдваецца Тодар,— я зусім гэтага не хачу... Я толькі кажу, што як ні круці — вясною ўсё роўна нешта будзе.

— Што?

— Што-небудзь!

— Ат, ты ўсё роўна нібы там быў і ўсё бачыў. Францыя і Англія не такія дурні, як табе здаецца. Чаго яны маюць лезці на ражон?

Тодар пачынае ўжо путацца, ён ніяк не можа зразумець, ці ёсць якая-небудзь карысць «варушыцца» Францыі і Англіі, ці не. Думкі яго блытаюцца, і ён пытае:

— На які ражон?

— Вось галава! — крычыць са смехам Хама.— Гэта так гаворыцца...

— А! — адказвае, зразумеўшы, Тодар.— Гэта значыцца...

— Гэта значыцца,— крычыць Хама,— што і ў іх там ёсць голавы. Думаеш, ты разумнейшы за Францыю і Англію?!.

— Не дуры маёй галавы,— махае рукою Тодар, зусім ужо збіты з панталыку, і хутчэй адыходзіцца ў другую старану. Але «палітыка» не сціхае, бо на яго месца становіцца трэці «палітык» — Антоні Вельскі. Сваім салодзенькім, высокім галаском ён цягне:

— Не можа быць, каб «протчыя дзяржавы» не ўступі-

ліся. Вунь Мордух крывы ўчора прыехаў з Вызны, дык гаварыў, што там чутно...

— А ў біблії, дзядзька, пра гэта нічога не чутно? — ні з сяго ні з таго пытае Сучок.

«Палітыка» канчаецца несціхаемым рогатам.

## II

Вясковых прыйшло на сход усяго чалавек дваццаць, а з хутароў і дробных фальваркаў, якія былі вакол вёскі, сабралася людзей у два разы больш.

Адчыніў сход член валіспалкома, ён жа і член валаснoй камячэйкі — Мікалай Козіч, малады чалавек, гадоў пад дваццаць два, з шырокім і белым брытым тварам.

На кожным кроку свайго жыцця ён стараўся як-небудзь выдзеліцца з масы другіх людзей, хоць, к вялікаму свайму гору, у глыбіні сваіх думак і не мог лічыць сябе лепшым, разумнейшым за другіх.

Гэта прымусіла яго ў свой час пайсці ў партыю; цяпер ён быў загадчыкам валаснога аддзела асветы.

Ён насіў доўгія валасы, ніжэй вушэй, бо лічыў гэта прыкметай чалавека, не падобнага да ўсіх, чалавека, які жыве «духоўнаю працаю», як сам ён гаварыў.

Пад пахаю яго вечна быў партфель. Валасны аддзел асветы не мог напоўніць яго дзелавымі паперамі, і затым ён клаў у яго старыя газеты, розныя непатрэбныя кнігі і інш., усё дзеля таго, каб партфель быў поўны, цяжкі і тоўсты на выгляд.

На сходах шкрабаў воласці Козіч любіў граць ролю начальніка, гаварыў кароценькія прамовы, нават часам важна кратаў і гладзіў свой шчуплы жывот.

Насіў ён чорнае паліто з поясам.

Адчыніўшы сход, ён стаў гаварыць прамову.

Не думаючы аб тым, што яго сухаюць людзі ў аблезлых кажушках, рваных халатах, падчас босыя ці ў лапцях, ён, як гарохам, стараўся сыпаць труднымі, нікому, нават яму самому, не зразумелымі славечкамі... Яму гэта было вельмі трудна, бо вялікага запасу такіх слоў не было, і яму прыходзілася часта самому прыдумаць іх.

Між іншым ён сказаў: «У сельсавеце павінен дамініраваць пралетарскі элемент». Гэта яму вельмі спадабалася, і ён захацеў яшчэ колькі разоў паўтарыць гэта, але, як на тую бяду, забыўся, як гэтае сказанае ім слова выгавар-

васцца. Сказаць жа гэта проста, звычайнымі словамі, ён не хацеў, каб не паказацца простым чалавекам, і, ужо не думаючы, ён паўтарыў: «У сельсавеце павінен дамонаваць пралетарскі элемент». А потым яшчэ раз уздумаў паўтарыць і сказаць яшчэ лепш: «дамінаць».

— Слухай,— запытаў Тодар у Хамы,— што гэта ён кажа, які гэта элемент павінен замінаць у сельсавеце?

— А ці я ведаю! — ціха адказаў Хама.

— А пра што гэта ён гаворыць? — у сваю чаргу запытаў Тодара Фабіян Свінкоўскі.

— А чорт яго ведае.

— Ну, а ты ж слухаеш!

— А ты не слухаеш?

— Я нічога не разбяру.

— А думаеш, я лепшы разбірайла?

— А ці не ўсё роўна вам,— абазваўся Хама,— мы чаго прыйшлі?! Сельсавет выбіраць! Ну, дык вось і чакай, пакуль кончаць, усё роўна без гэтае казкі не абыдзецца, як ні круці. Сядзі вось сабе ціха, калі мухі не кусаюць. А потым, як кончыць сваю гэтую «казань», дык выберам сельсавет і пойдзем дамоў.

— Праўду ка'аш,— згадзіўся Грыгор Шамяціла і стаў пыхкаць люлькаю.

А тым часам Козіч гаварыў. Ён падымаў рукі ўгару, запускаў пальцы ў валасы і праводзіў імі ада лба к самаму карку, прыдумоўваў, як бы харашэй злажыць рукі перад носам, калі бліснуць вачыма.

Канчаючы прамову, ён падняў палец угару і ўгледзеў, што кіпець на ім нейкі зрабіўся нягладкі і цёмны. І тут жа ўспомніў, што ў хутаранскае вучыцелькі-пападзянкі ногці заўсёды нейкія блішчастыя і падрэзаны востранька.

«Трэба будзе заўтра і мне свае так падрэзаць,— падумаў ён.— Але чым яна іх так шліфуе?..»

Думаючы гэта, ён пакінуў гаварыць і з хвіліну памаўчаў. А кончыўшы і сеўшы, ён доўга яшчэ думаў, як, будучы на яго месцы, лепш падрэзваць ногці — востра ці кругла.

А потым ужо, у канцы сходу, у яго бліснула думка: «Трэба будзе другі раз у такіх выпадках паглядзецца ў люстэрка — як выглядае пасля прамовы мой твар».

После Козіча стаў гаварыць другі член валасной камячэйкі — Кастусь Курганец.

Адзеты ён быў у блішчасты, новы скураны фрэнч, ся-

дзеў у касматай, з вушамі, шапцы. Сказаў ён кароценькую прамову, у якой паўтарыў усё тое, што сказаў Козіч. У канцы свае прамовы ён нарысаваў схему органаў улады, ад сельсавета да ЦВК.

Гаварыў ён проста, звычайным языком, так, як гаварыў заўсёды дома.

Усе з цікавасцю слухалі, а іншыя, каб лепш пачуць, падышлі бліжэй к сталу.

Скончыў ён так:

— Старайцеся выбіраць людзей савецкіх, бедных, якія б маглі працаваць на агульную карысць. Выбірайце людзей разумных.

— Але,— сказаў сабе пад нос Юзік Карнавух,— выбераш тут савецкіх людзей, калі іх тут ёсць не больш, як чалавек пятнаццаць. Найдзі папрабуй сярод хутаранскіх «ягомасцяў» хоць аднаго савецкага?! А нашы дурні сядзяць сабе дома, чакаюць, «як будуць людзі ісці»...

— Называйце, таварышы, кандыдатаў! — сказаў Кастусь Курганец.

Не паспеў ён яшчэ змоўкнуць, як пачалі ўжо «выстаўляць» кандыдатаў:

— Гаронім Цурубалка! — крычалі з аднаго боку.

— Даніель Кіралейза! — чулася адтуль жа.

— Тодар Грыб,— крычалі з другога боку.

— Мацвей Сцепанец!

— Янка Галубовіч!

— Няма іх на сходзе!

— Хвёдар Казёл!

— Няма на сходзе!

— Хама Скрут!

— Сучок!

— Фабіян Свінкоўскі!

— Ціха, таварышы, не ўсе разам. Не гаварыце гуртам.

— Цурубалка, Кіралейза! — закрычалі зноў хутаранцы.— Свінкоўскі, Міхал Папсуй!

Курганец падняўся, падняў руку, каб зрабіць ціха, і сказаў:

— Усякі, хто пазваў свайго кандыдата, павінен сказаць аб ім некалькі слоў, чаму ён яго назваў, хто ён такі ёсць.

І вось пачалі гаварыць.

Кіралейзу «выставіў» Цурубалка, Цурубалку — Кіралейза. І абодва яны аказаліся людзьмі «разумнымі, сталы-

мі, добрымі гаспадарамі, людзьмі, якія ніколі ні з кім не сварацца».

Пра Фабіяна Свінкоўскага сказаў адзін шляхціц-хутаранец, што ён чалавек «богабаязны і справядлівы».

Хама Скрут аказаўся чалавекам «добра граматным», а Тодар Грыб «добрым палітыкам», і абодва яны — самымі бяднейшымі людзьмі ў вёсцы.

Як толькі Фабіян Свінкоўскі назваў вясковага Міхала Папсуя «чалавекам патрэбным у сельсавеце», падняўся маўчлівы дагэтуль вясковы Марцін Макарэня.

Ступаючы ціха лапцямі па падлозе, ён падышоў к сталу і сказаў:

— Я не буду баяцца Міхала Папсуя і скажу, што ён чалавек багацейшы за ўсю вёску. Нашто ён у сельсавеце! Ды ён і не «савецкі».

— Няпраўда,— закрычалі з боку хутаранцаў.

— Пачакайце, я не кончыў,— гаварыў далей Макарэня,— замест яго я раю з хутароў Курловіча Яна. Гэта чалавек наш: ён быў у партызанах.

Курловіча запісалі ў спіс кандыдатаў і сталі галасаваць.

Хутаранцы трымаліся дружна, паднімалі рукі ўсе за сваіх. Разам трымаліся і вясковыя, але іх было менш. Дзякуючы гэтаму, у склад сельсавета ўвайшлі: Цурубалка, Кіралейза, Свінкоўскі і вясковы Міхал Папсуй.

Па большасці галасоў «праваліўся» Курловіч. Потым, у самым канцы, аб ім доўга гаварылі; успаміналі, як быў у партызанах, як адвёў польскую роту ад вёскі к лесу, дзе на яе напалі чырвонаармейцы, паміналі яго беднасць і ахвоту працаваць і сяк-так увялі яго ў кандыдаты на члена сельсавета, хоць проці гэтага і гаварылі многія хутаранцы.

А як ішлі са сходу, гаварылі вясковыя аб тым, што Кіралейза і Цурубалка некалі прыслужвалі паляцкім жандарам, Фабіян Свінкоўскі хацеў ісці ў партызаны проціў бальшавікоў. А вясковы Міхал Папсуй, чалавек ужо стараваты, быў вялікі багатыр і трымаў некалі багатую краму ў мястэчку. Але пра яго толькі думалі, бо сам ён ішоў тут жа, важна ступаючы і пагладжваючы сваю невялічкую чорную бародку.

Чуючы гоман, праз светлыя акенцы хатаў выглядалі на вуліцу людзі, стараючыся пазнаць, куды гэта ідуць — на сход ці са сходу.

## III

Адзін раз ноччу замерзла зямля, а назаўтра выпаў глыбокі снег. Яшчэ раніцою ён ляжаў тоўстаю, белаю пярынаю, а к вечару яго прымялі санямі. Вёска стала зграбнай і чыстай. І стала неяк весялей і шумней у ёй.

Цэлымі днямі чуўся з цёмных гумен дробны стук цапоў, часам чутно было, як звініць піла, гамоняць і смяюцца людзі. Па вуліцы часта цягліся фурманкі з дзеравам.

А прыцемкам, як пакідалі малаціць, к абледзянеўшым калодзезям паволі цягнуліся касматыя конікі, шумна беглі каровы і схадзіліся з вёдрамі людзі.

І, напаіўшы быдла, доўга яшчэ стаялі і ў розных гутарках праводзілі на вуліцы сваю «шэрую гадзіну». Потым падыходзілі яшчэ больш і, як саўсім цямнела, усяёй грамадой валілі куды-небудзь у хату.

Часцей за ўсё збіраліся ў Тодара Грыба.

Прыходзіў сюды Мацвей Сцепанец, чалавек малога росту з жоўтым худым тварам. Гаварыў ён скрыпучым голасам і меў вялікую здольнасць бачыць ва ўсім бяду.

З'яўляўся высокі, малады яшчэ, Янка Галубовіч; таксама малады і заўсёды вясёлы Хвёдар Казёл. А пазней за ўсіх прыходзіў стары Тарас Смольскі. Збіралася чалавек дваццаць і кожны раз сядзелі за поўнач.

Адзін раз было вось што.

Як ужо ўсе былі ў зборы, заскрыпеў дзвярыма Мацвей Сцепанец і, не пераступіўшы яшчэ нават парога, загаварыў з нейкаю калючаю ўсмешкаю ў голасе:

— Гы!.. Далі свабоду; свабода, нечага сказаць! Каб майму ворагу гэтакая свабода.

— Чаму, што? — запыталіся ўсе разам.

— Што?! — заскрыпеў Мацвей.— Даўней пры Мікалаю старшынёю альбо старастаю хто быў?!. Самы першы багатыр! К яму і даступу не было. А цяпер што?! Тая самая трасца! Хто цяпер у нас у сельсавеце?! Кіралейза з Цурубалкам — самыя «дзедзічы». Чорт к яму цяпер прыступіцца. Сёння я быў у іх на хутарох, каб дроў як трохі прыдабыць, бо яны размяркоўваюць на сваё вобчаства шэсць кубаў дроў, якія адпусціла лясніцтва цераз іспалком,— а дровы яны ўжо размеркавалі між сваімі шваграмі ды кумамі. А Свінкоўскі, які быў там, дык проста сказаў, што багаты больш павінен дАставаць ад «савета», бо ён больш дае прадналогу, чым бедны. Вось табе і тая хвалёная свабода!

— А хто ж вінават? — запытаўся Юлік Карнавух.

— Пэўна, што не я,— адказаў Мацвей.

— На нашых людзей яшчэ патрэбен бізун,— умяшаўся Тарас Смольскі.— Я чуў, што як «іх» выбіралі, дык на сходзе нашых нікога не было. Усякі ўсё, сукін сын, хоча, каб нехта за яго. А пэўна, каб нашы ўсе былі, то выбралі б каго-небудзь лепшага.

— І ты ж не быў! — гукнуў нехта з кутка.

— Як бы за мною астапоўка,— засердзіўся Тарас.— Гаворыш чорт ведае што. Што я там адзін памог бы каму? Ды мне і часу не было — я парсюку катух гарадзіў.

— А мне тады нездаровілася,— абазваўся Мацвей.— І калі я не быў, дык і ўсім не трэба ісці?!

— Годзе пераліваць з пустога ў парожняе,— сказаў Юлік Карнавух.— Усе вы роўныя чэрці. Слухайце: чуў я, што ў многіх хутаранцаў паўменшвалася ў спісах жывёлы — каб зменшыць падатак. А з дрывамі гэта праўда? — абярнуўся ён да Мацвея.

— От як я табе кажу,— адказаў Мацвей.

— А тут, ліха на яго, далёка яшчэ чакаць да новых перавыбараў,— прагаварыў Хвёдар Казёл.

— А каб папрабаваць цяпер,— нясмела сказаў Янка Галубовіч.

— Каб гэта як-небудзь напісаць заяву,— нехта яшчэ прыбавіў,— можа і цяпер як-небудзь змянілі б свой сельсавет.

— Я думаю, што можна папрабаваць,— сказаў Юлік Карнавух.

— Ну, дык пішы.

— Згарэце вы! — нечакана для ўсіх увярнуў слова Юлік.— Напішы, а потым цындайся дзесяць разоў з-пад аднаго акна к другому.

— Не тваё дзела, пішы!

— Так і ёсць — пішы, а мы ўсе, хто ўмее, падпішамся.

На другі дзень Юлік напісаў, як умеў, заяву і паслаў па хатах з ёю адзінаццацігадовага Мацвеевага хлопчыка. Усе, хто ўмеў, распісваліся.

А цераз тры тыдні, як заява прыйшла з павета з рэзалюцыяй, Юлік пайшоў па вуліцы, зазіраючы ў кожнае акно, так, як і той раз. Але цяпер яму памагаў ужо сам Мацвей Сцепанец.

І як прайшлі яны з канца ў канец вуліцу, усе — ад мала да вяліка — пайшлі выбіраць свой сельсавет.

# БУДЗЕМ ЖЫЦЬ

## I

Камандзір палка заўсёды быў маўклівы і хмуры, бо адчуваў тую вялікую адпаведнасць, якая ляжала на ім.

Выслухаўшы разведчыкаў і разгледзеўшы карту-трохвёрстку, ён паволі падняўся з пажоўклай, мёрзлай травы і падышоў к вялікаму рабінаваму кусту, дзе каля тэлефона сядзелі начальнік штаба палка, ад'ютант і маладзенькі, вясёлы тэлефаніст.

Развярнуўшы перад імі карту і паказаўшы на ёй некалькі кропак, якія ён, слухаючы разведчыкаў, толькі што паставіў алоўкам, камандзір панура і ціха сказаў:

— Здаецца мне, што трэба біць...

Тэлефаніст весела зірнуў у твар камандзіру, збіў трохі назад сваю вострую шапку-«будзёнаўку», каб не перашкаджала, і паправіў у кусце тэлефонны апарат: ён знаў, што скора па тэлефону, на многа вёрст направа і налева, будзе перададзена слова «біць».

Ён быў рад гэтаму, бо яму ўжо надаела вось ужо некалькі дзён сядзець на адным месцы ў кустах і кожную гадзіну прымаць тэлефанаграмы аб тым, што ўсё спакойна.

Апрача таго, начамі прыходзілася мерзнуць: быў канец восені, і былі маразы, а адзежы цёплай не было.

Вакол жа было ціха і спакойна: ужо некалькі дзён ні з таго, ні з гэтага боку не стралялі, а сядзелі сабе ціха па сваіх плыценькіх земляных норах. І здавалася ўжо тэлефаністу, што гэтая ціш толькі псуе дзела: яна адцягвае канец вайны, аб якім ужо некалькі тыдняў гаварылі, і, чаго добрага, прыйдзецца вось тут, у полі, сярод кустоў і спаленых вёсак зазімаваць без цёплай адзежы. Але, думаючы так, малады тэлефаніст не страціў яшчэ сваёй прыроднай вясёласці...

Таму, што «трэба біць», быў рад і ад'ютант камандзіра палка, але ад другой прычыны.

Яму было непрыемна і цяжка ад таго, што прыходзілася адступаць, аддаваць крок за крокам родную савецкую зямлю белым ворагам.

Палаca рэчкі прыпыніла белых, і тады стала ясна, што калі яны пяройдуць на гэты бок, то пойдуць наперад на многа вёрст. Загэтым у галоўным штабе фронту пастанавілі выбіць іх з пазіцый і пачаць адганяць.

Некалькі дзён таму назад вясёлы тэлефаніст прыняў з галоўнага штаба тэлефанаграму аб тым, што месца, якое займае яго полк, з'яўляецца самым лепшым дзеля пачатку гэтага дзела: у гэтым месцы ў ворага былі самыя горшыя і слабыя сілы, праз якія можна было лёгка прабіцца ім у тыл.

Загэтым камандзіру палка быў дадзен загад самому падабраць удачны момант і пачаць дзела.

І ўсе гэтыя ціхія дні полк высылаў многа разведчыкаў.

А ад'ютант нецярпліва чакаў таго моманту, калі з громам пачнецца рух уперад, за ворагам, які павінен будзе спешна адыходзіць назад.

«Так павінна быць»,— думаў ад'ютант — аб гэтым дзеле ён іначай не думаў.

І як толькі камандзір сказаў, што пара «біць», ён моўчкі кіўнуў галавою і глянуў яму ў твар з нецярплівым запытаннем ў сваіх вачах.

Камандзір зразумеў, што кіўком галавы ад'ютант згадзіўся з тым, што «пара біць». Зразумеў ён тое, што пытаўся той сваімі вачыма, і замест адказу махнуў рукою.

Тады ад'ютант падышоў к тэлефону і паведаміў галоўны штаб аб тым, што «дзела пачынаецца».

А цераз некалькі хвілін той жа тэлефон перадаў направа і налева па фронту рашучае слова «біць».

## II

Пасля таго як белыя сталі адступаць і нашы, перабраўшыся цераз рэчку, пагналі іх, перабірацца стаў на той бераг і штаб палка. На плыткім месцы перайшлі ўброд некалькі чырвонаармейцаў з сумкамі за плячыма, напакаванымі паперамі і картамі, за імі ўслед пайшоў і вясёлы тэлефаніст са сваім апаратам.

Услед за фронтам прыйшлося ісці доўга, але потым адвячоркам ворагі прыпыніліся і прабавалі наступаць.

З абодвух бакоў затрашчалі выстралы з вінтовак.

Цямнела, было суха ад лёгкага марозу і холадна.

Штаб ляжаў, прытаіўшыся на зямлі, за невялічкаю горкаю. Дзержачыся абедзвюма рукамі за апарат, ляжаў і тэлефаніст, чакаючы загаду, каб рушыць наперад ці назад.

І вось у тую хвіліну, як ворагам зноў прыйшлося адступаць, з іх боку засакаталі кулямёты. Прыцэл узят быў дрэнна, і кулі, пералятаючы цераз галовы франтавікоў, садзіцца сталі ў зямлю там, дзе ляжаў штаб.

Каб схавацца ад куль, штабныя сталі лепей укладацца на зямлі. Пхаючы перад сабой свой апарат, папоўз і тэлефаніст к месцу, дзе ў змроку чарнелі высокія куп'і.

У палавіне дарогі ён зачапіўся палою за сухі корань быльніку і, каб адчапіцца, чуць-чуць прыпадняўся.

Сухі корань прарваў шынель і прайшоў навылёт. Тэлефаністу шкада стала новага шыняля, і, каб не рваць яго больш, ён стараўся выцягнуць корань і прыпадняўся яшчэ вышэй — к кулям ён ужо, за некалькі гадоў вайны, прывык.

Некалькі куль з гулам уваткнулася ў зямлю, а адна папала якраз у грудзі тэлефаністу і там засела.

Не пачуўшы зразу болі, ён яшчэ адарваўся ад сухога карча і, не выпускаючы апарат, падпоўз к куп'ям.

Там, лёгшы і супакоіўшыся, ён зразу стаў адчуваць, як у грудзях стала смактаць і пячы, як агнём.

Сперш ён прыклаў два пальцы к параненаму месцу, каб уняць кроў, але ад гэтага стала яшчэ горш балець рана. Тады ён адняў пальцы і ад слабасці прытуліўся грудзьмі к зямлі.

З раны выцекла многа крыві, і яна, звярнуўшыся ў скарынку і змяшаўшыся з зямлёю, заляпіла рану і ўняла тую кроў, якая яшчэ не ўспела выцечы.

І ад таго, што тэлефаніст не варушыўся, боль пачала патроху сціхаць і на яе месца стала з'яўляцца жаданне сну і супакою.

Утомленае бяссоннымі начамі і вандраваннем па полі, аслабеўшае ад раны, цела прасіла сну і цяпла.

А тым часам белыя адступілі яшчэ далей, і не стала ўжо чуваць выстралаў.

Прыйшла светлая і халодная ноч. Узышоў месяц.

У поўнач, як ужо стала для ўсіх зразумелым, што белыя больш не вернуцца, сталі наладжваць сувязь штаба з

палком на фронце. Знайшлі апарат, і тады санітары падабралі тэлефаніста.

У лагчыне, каля балота, уцалеў ад агню хутар. Туды занеслі тэлефаніста і яшчэ некалькі чалавек раненых.

На зямлі было светла, ціха і холадна...

## III

Хутар быў бедны; у вялікай хаце было цёмна і сыра. Самога гаспадара дома не было — ён хаваўся недзе ў лесе з коньмі.

Гаспадыня, яшчэ маладая кабета, была напалохана ўсім тым, што рабілася вакол хутара ў гэтыя дні.

Нядаўна яшчэ, як кругом сакаталі кулямёты, яна сядзела ў халодным, сырым склепе і, баязліва прытуліўшыся к сцяне, раз-поразу хрысцілася.

Потым, як стала ціха, яна пасмялела — вылезла са склепа і хрысціцца пакінула.

Узяўшыся за сваю звычайную жаночую хатнюю работу, яна нават зусім забыла пра тое, што ёсць на свеце нешта, што называецца крыжам. Забыла да таго часу, калі ў яе жыцці з'явіцца што-небудзь зноў страшнае. Наогул жа яна ніколі і не думала аб тым, ці памагае што-небудзь крыж ці не. У звычайны час яна ніколі нават і не хрысцілася, бо ўсе варункі жыцця заўсёды гаварылі, што крыж нічога не паможа, калі не памогуць свае ўласныя рукі.

У страшны ж і рашучы момант жыцця яна пачынае хрысціцца, думаючы: можа што-небудзь і паможа, а калі не паможа, то і не пашкодзіць.

Вылезшы з склепа, яна адамкнула сенцы і абышла паволі ўвесь хутар. Кругом было ўжо ціха і спакойна. Каб як-небудзь супакоіцца, яна ўзялася за работу: набрала бярэма дроў, унесла ў хату і, запаліўшы газоўку, стала класці іх у печ.

Было ўжо каля поўначы, як на двары загаманілі людзі. Кабета зноў перапалохалася і зноў пачала хрысціцца.

Скора ў хату ўвайшоў шэры чалавек.

— Ёсць хто ў хаце? — запытаў ён весела.

— А чаго трэба? — баязліва і ціха абазвалася кабета з кутка.

Чалавек ужо разглядаў хату, моцна стукаючы нагамі па яе сырой падлозе.

— Салома ў вас ёсць? — зноў запытаўся ён.

Кабета выйшла з кутка і, ужо павесялеўшы, чуць-чуць усміхнулася радаснаю ўсмешкаю. Яна бачыла перад сабой жывога чалавека, які гаварыў звычайна, не страляў і не крычаў. Ёй стала смялей.

У гэтую хвіліну яна, не думаючы, магла аддаць не толькі салому, а і ўвесь свой хутар. І яна адказала весела:

— Чаму няма? Каб чаго добрага, а то саломы! — І, сказаўшы гэта, павяла чалавека на двор і паказала стог саломы.

На двары было больш людзей. Адны ляжалі на зямлі, другія стаялі.

Тыя, што стаялі, пачалі цягаць салому ў хату. Гаспадыня ім памагала.

Яна не думала аб тым, нашто салома ў хаце. Усё тое, што рабілася апошнімі днямі вакол, было ёй незразумелым. І каб цяпер ёй сказалі абкласці гэтаю саломаю сваю ўласную хату і запаліць яе, яна, мабыць, не доўга думаючы, гэта зрабіла б.

Услаўшы хату саломаю, пачалі ўносіць туды раненых і класці на салому.

Іх было шэсць чалавек.

Доктара чакалі назаўтра.

Чатыры санітары, якія былі пры раненых, сталі слаць і сабе пасцелі на саломе. Скора тры ляглі, не раздзеючыся, і адразу заснулі, і толькі адзін астаўся пільнаваць раненых. Каб разагнаць дрымоту, ён ціхенька хадзіў па хаце.

Раненыя стагналі. У некаторых з іх ужо пачыналася гарачка, і яны варушыліся, шамяталі саломаю і выкрыквалі розныя словы.

І толькі малады тэлефаніст ляжаў ціха: ён ужо ўпаў у бяспамяцтва...

— Адны дома? — запытаўся ціхенька санітар гаспадыню.

— Адна. Зараз павінен быць гаспадар,— адказала яна.

Санітара марыў сон, і ён рознымі спосабамі стараўся разагнаць яго.

— І не страшна адной? — зноў запытаў ён.

— Цяпер не,— адказала кабета.

Пакуль што ў санітара не было чаго сказаць, і ён зноў хадзіў па хаце.

А жанчыне зрабілася яшчэ весялей. Яна бачыла, што кругом хутара спакойна і ціха, усё тое страшнае, што пры-

мушала яе хавацца ў склепе і хрысціцца, недзе знікла. Скора павінен прыехаць і гаспадар.

Яна выйшла на двор.

Шэрая, мёрзлая зямля блішчала ад месяца; каля цёмнага гумна бялеў стог саломы, а направа чарнелі знаёмыя чорныя кусты.

І ў жанчыны стала з'яўляцца радасць.

І захацелася ёй тады зрабіць што-небудзь жаданае і карыснае для ўсіх, сказаць людзям аб тым, што вось зноў пачынаецца спакойнае жыццё, няма вакол ні стуку, ні груку, і ўсё, як і трэба.

«Пайду, дам гэтаму чырвонаармейцу малака,— падумала яна пра санітара,— а можа малако трэба і раненым, трэба запытацца...»

Раптоўна рвануў вецер і сціх. І ў адказ яму зашапталі кусты.

Жанчына паслухала, як паціху сціхалі гэтыя кароткія і сухія зыкі, і, з думкаю ў галаве — памагчы санітару пры раненых, пайшла ў хату.

Санітар спаў, успершыся на стол. Недзе далёка, у хляве, глуха пеўні праспявалі.

## IV

На другі дзень раніцаю першая прачнулася гаспадыня. Яна падаіла каровы, і ўсё малако пакінула ў хаце раненым. Потым, стукаючы вёдрамі, узялася за сваю работу...

Дзень быў ясны. У хаце было светла, і можна было падумаць, што гэта не восень, а ранняя вясна.

Скора паўставалі і санітары.

Раненыя ляжалі; адзін моцна хрыпеў.

Другі, цяжка ранены ў нагу, расплюшчыўшы вочы, угледзеў, што ў хаце светла, і з нейкаю радаснаю і ласкаваю ўсмешкаю быстра ўсхваціўся і сеў.

— Ты, брат, чаго? — запытаў яго адзін з санітараў.

Але ў тую хвіліну ранены пачуў боль у раненай назе і, заплюшчыўшы вочы, так жа хутка, як і ўстаў, кінуўся на салому.

Прачнуўся тэлефаніст. У яго ўжо прайшло бяспамяцтва. Ён глядзеў у адно месца, не варушыўся, каб не ўразіць раны, і думаў аб смерці, бо баяўся ўміраць.

Гаспадыня нечага выйшла з хаты і, скора вярнуўшыся, сказала:

— Салдаты ідуць!

І, падышоўшы к акну, стала выглядаць на двор.

Там, моцна грукаючы чаравікамі па мёрзлай зямлі, ішла к фронту ў рэзерв рота чырвонаармейцаў. Іх песня чуваць была ўжо ў хаце.

Запявала, малады і чырвоны ад холаду хлапец, стараючыся пападаць у такт нагам, весела пяяў:

Яшчэ сонца не ўсхадзіла,
Рота выйшла ваяваць.
Аць, два, эх!..

Больш сотні здаровых галасоў, не даўшы яшчэ яму скончыць, гучна хваталі вясёлы прыпеў:

Эх, ура, эх, ура!
Волю-славу здабываць!..

Пачуўшы вясёлую песню, тэлефаніст заварушыўся. З яго затуманенай галавы раптоўна згінулі думкі аб ране і смерці. І захацелася яму ў гэты ясны і нейкі радасны ад яснасці дзень самому заспяваць і пабегчы па зямлі.

Сашчаміўшы зубы ад натугі, ён усхваціўся і сеў і, згубіўшы пачаткі і канцы сваіх думак, весела і няведама дзеля чаго крыкнуў санітарам:

— Хадзеце адно сюды, браткі, будзем жыць!..

І, крыкнуўшы гэта, ад слабасці зваліўся, як сноп, на салому.

Санітары кінуліся к яму, стараючыся ўняць кроў, якая забіла з-пад струпа.

Каля паўдня на хутар прывезлі больш раненых, якіх учора не ўспелі падабраць, з імі прыбыў і доктар.

Перавязаўшы раны другім, ён агледзеў тэлефаніста і маўкліва махнуў рукою.

Тэлефаніст моцна варушыў на саломе рукамі і нагамі і весела крычаў нейкія нікому не зразумелыя словы, шырока расплюшчыўшы свае пацямнеўшыя, з нежывым ужо, мёртвым колерам вочы...

А ў некалькіх кроках ад «вясёлага» ўміраючага тэлефаніста стаяла каля печы кабета і парыла раненым малако.

Ёй было радасна ад таго, што яна зноў пачне так, як і раней, насіць з калодзезя вёдрамі ваду, даіць каровы, працаваць светлымі летнімі днямі ў грамадзе другіх кабет і мужчын у полі і хадзіць па роднай слаўнай зямлі.

## V

Вестка аб смерці тэлефаніста дайшла ў яго вёску зімою.

У той дзень яго стары бацька прачнуўся рана, калі яшчэ было цёмна.

Ён паволі злез з палатак, запаліў лямпачку, абуўся і, уздзеўшы кажушок, пайшоў з ліхтаром у гумно дамалочваць учарашні посад жыта.

Распусціўшы снапы, ён прабіў іх на абодва бакі цэпам і стаў выбіраць кулі.

Скрозь шамятанне саломы пачуўся яму шум крокаў па снягу.

«Максімка ідзе памагаць,— падумаў ён пра свайго шаснаццацігадовага сына,— стараецца небарака».

І ўжо моцна, сам сабе, з нейкаю гордасцю ў голасе, весела сказаў:

— Слаўнага сына маю: працуе і тут і «там».

Максімка быў камсамолец. Стары быў сперш нездаволены гэтым, але потым, як Максімка стаў загадчыкам вясковай хаты-чытальні і як да яго часта сталі прыходзіць вясковыя хлопцы на раду — як лепей наладзіць спектакль,— ён пачаў інача́й адносіцца к сыну.

Але, скрыпнуўшы дзвярыма, у гумно ўвайшоў не Максімка, а сусед Астап. Ён таксама малаціў у сваім гумне і, пачуўшы стук цэпа ў суседа, пайшоў к яму, каб сказаць навіну.

Добрая ці кепская навіна, ён не ведаў, думаў, што добрая.

— Добрага дня,— сказаў ён, увайшоўшы ў гумно.

— Добрага здароўя,— адказаў стары.

— Адліга стала на дварэ, цёпла,— сказаў Астап, падаючы старому руку.

— Але, слаўна,— адказаў яму той.

Пагаварыўшы аб пагодзе і малацьбе, Астап сказаў:

— А вам ёсць пісьмо ў воласці. Учора мяне сельсавет пасылаў з паперамі, дык там гаварылі, каб я паведаміў вас. Мне не хацелі аддаць — нейкая, мусіць, казённая.

— Ага... кажаш, пісьмо,— сказаў стары.— Можа ад сына з войску,— ні то падкрэсліваючы, ні то пытаючы, сказаў ён.

— Гэтак і я думаю,— адказаў Астап.— Еду сабе з іспалкома і думаю — пэўна ад сына. Вось будзе стары рад.

— А я думаю, хто гэта ідзе к гумну. Думаў, Максімка памагаць, аж гэта ты. І кажаш, пісьмо,— загаварыў стары весела, як бы ўжо вычытаўшы ў пісьме радасную навіну...

Сказаўшы гэта, ён выйшаў з Астапам з гумна і, зачыніўшы яго, пайшоў у хату. За ім увайшоў і Астап.

— Максімка, а, Максімка,— загукаў стары,— уставай: нам пісьмо ёсць у іспалкоме.

— Дык зараз паеду,— абазваўся Максімка, устаючы.

— Не, я сам паеду,— сказаў бацька.

Устаўшы, Максімка пайшоў пакарміць кабылу на дарогу.

Астап сядзеў на лаве і моўчкі курыў і, як стары паснедаў, адзеўся цяплей, памог яму запрэгчы кабылу і правёў яго ў канец вуліцы...

У іспалкоме стары папрасіў старшыню прачытаць пісьмо.

З пісьма ён даведаўся, што сын яго, тэлефаніст, пры адгоне белых быў цяжка ранен і памёр.

У канцы пісьма штаб палка прапанаваў іспалкому назначыць сям'і памёршага пенсію.

У старога паволі выкаціліся з вачэй дзве слязінкі і згінулі недзе ў пасівеўшых вусах. Ён стаяў нібы акамянеўшы, маўчаў і не варушыўся.

Старшыня сказаў яму:

— Сын ваш памёр слаўнай смерцю. Ён бараніў нас, бедных, працоўных людзей. Доля яго лепшая, чым многіх другіх. Будзем жа жыць і радавацца аб тым, што і ў нашым кутку ёсць такія слаўныя людзі.

— Будзем жыць і радавацца,— не думаючы, як машына, паўтарыў стары і стаў выціраць рукавом слёзы.

Старшыня памог яму выйсці на двор, пасадзіў у сані і сказаў яшчэ некалькі слоў.

— Будзем жыць,— паўтарыў стары, едучы дамоў.— Так. Будзем жыць.

І мала-памалу з гэтых пустых спачатку слоў пачало выплываць у яго шчырае, радаснае жаданне жыць...

Кабыла бегла моцна. У палях было цёпла. Дарога чарнела і рабілася мокрай.

# НА БЕРАЗЕ

## I

Густы і мокры вецер гоніць сырыя і цяжкія хмары; яны грузна плывуць, лезучы адна на другую, закрываюць сабою неба і сонца і робяць асенні дзень шэрым і хмурным.

Часам спускаюцца яны нізка і сеюць на мокрую зямлю дробны дождж-імглу, а часам узнімаюцца вышэй і, не вытрымаўшы сілы ветру, разрываюцца і ачышчаюць бледную сінь неба. Тады пакідае ісці дождж, і пачынае выглядаць сонца.

Ад яго свету белая пена быстрай і шумлівай ад ветру ракі аддае жаўтавата-блішчастым колерам.

Рака выйшла з сваіх берагоў.

Густая і каламутная ад асенніх дажджоў вада ў ёй паднялася і заліла абодва берагі.

З быстрага размаху свайго кідае яна на іх сваёю пенай, б'ецца аб купчастыя вяршаліны затопленых ёю кустоў алешніку і крушыны і весела плюхае, бурліць і шуміць...

У тым месцы, дзе канчаецца вада і пачынаецца жаўтавата-зялёны, пацямнеўшы бераг, стаіць прыкручаны к слупку новенькі невялічкі паром. Ззаду за ім, бліжэй к сярэдзіне ракі, свецяцца ў вадзе жоўтыя дошкі-масткі, якімі абложан бераг у тым месцы, дзе ў звычайны час прыстае паром. Цяпер, як паднялася вада, ён прыстае проста к зямлі і ходзіць паверх сваіх масткоў.

Направа, збоку — залітыя вадою, асмаленыя па́лі, на якіх трымаўся мост, спалены палякамі ў вайну. Паром ходзіць да часу, пакуль не будзе зроблен новы мост.

Праціў парома, у некалькі кроках ад вады прытулілася к зямлі будка паромшчыка. Яна сплецена яшчэ ў канцы лета з бярозавых дубцоў. Лісце на іх пажоўкла і пасохла і цяпер шуміць на ветры ціха і нудна.

Вакол будкі — скошаны ўлетку поплаў, сям-там чарнеюць на ім нізкія купіны, атава збіта быдлам і пацямнела.

Па ёй задумёна і важна спацыруюць вароны; месцамі зямля ад іх, на вялікі абшар, чарнее жывымі купінкамі. Як пачынае свяціць сонца, яны ўзнімаюцца і, весела крычучы, нізка кружацца над зямлёю.

На той бок ракі, на ўзгорку, сярод заворанага на зіму поля, відаць вёска Хартонаўка.

На гэты бок, не вельмі далёка — голы ўжо дубовы лес і пры ім, як клешч пры вялікім целе,— малады бярэзнік.

На беразе пуста.

Адзінокі паром трасецца на вадзе, шморгаючы аб пусты, звіты ў некалькі столак дрот, працягнуты цераз рэчку, з аднаго берага на другі. Каля будкі валяецца некалькі паленняў дроў, куча лому і каля яе патухшае вогнішча...

Паромшчык Амелька Вілач не вылазіць з свае будкі — рад, што перавозіць некага: гэтакаю пагодаю мала хто ездзіць і ходзіць.

Яму пяцьдзесят год. Цвёрдыя вусы яго канцамі сваімі растуць уніз і закрываюць рот. Мяккая, махнаценькая «папоўская» шапка яго заўсёды ссунута на патыліцу, адкрываючы шырокі лоб і даючы твару яго такі выгляд, як бы ён на доўгі час збіраецца падняць сваю галаву ўгару і чорнымі вачыма сваімі пільна ўглядацца ва ўсё тое, што робіцца вакол.

Нізка стрыжаныя валасы яго каля вушэй чуць-чуць серабрацца сівізной.

На ім кароткая цвёрдая жакетка з тоўстага гаспадарчага сукна, саматканыя порткі з вузкімі чорнымі палоскамі, уздоўж па шэрым, і боты з нізенькімі халявамі і падковамі.

Сягоння ён вясёлы.

Атрымаўшы ўчора ў іспалкоме месячную пенсію за сваю службу пры пароме, ён начаваў гэтую ноч дома — у вёсцы, на той бок лесу, вёрст дзве ад парому.

Прыйшоў ён сюды раніцаю, як яшчэ было цёмна, і свайго васемнаццацігадовага сына Міхася, які быў пры пароме замест яго, застаў стаячым пры самай вадзе.

— Ты чаго ў будку не лезеш? — запытаў ён яго.

— Толькі што прыйшоў,— адказаў той весела.

— А дзе ж ты быў?

— На тым баку, у Хартонаўцы.

— Чаго?!

— Там камсамольцы нашы спектакль ставілі, ішлі вечарам, я іх перавёз і сам пайшоў з імі.

— А паром на каго пакінуў?!

У голасе бацькі пачуўся нейкі страх.

— Ні на каго. Прывязаў на тым боку і пайшоў. Які тут чорт, думаю сабе, паедзе гэтакім ліхалеццем.

— І нічога?

— Мусіць, нічога. Як пакінуў — так і застаў.

— Добра, што каго чорт не нагнаў,— сказаў Амелька ўжо весела.— А дзе ж больш хлопцы?

— Там начуюць.

— Вось ты, чорт яго бяры,— загаварыў Амелька ўжо зусім развесяліўшыся,— пакінуў ды і пайшоў. Адвага. Я б ніколі не адважыўся. Ну, ідзі дамоў,— закончыў ён цішэй.

Міхась паглядзеў на свае мокрыя боты, падцягнуў вышэй халявы і пайшоў паволі к лесу, а Амелька, зірнуўшы на той бераг і апрача туману нічога там не ўбачыўшы, палез у сваю будку.

І з таго самага моманту аж дагэтуль ніхто тут не ездзіў.

Толькі ў гадзін восем раніцы прыйшлося перавозіць камсамольцаў — усё суседніх хлапцоў з свае вёскі.

Яны, паставіўшы спектакль, начавалі ў Хартонаўцы і ішлі дамоў.

Яшчэ здалёк Амельку пачуліся вясёлыя песні і крык:

— Міхась, э-ээ!.. Рыла суконнае, перавозь!.. О-о-э-э!..

Амелька выскачыў з будкі і стаў адвязваць паром. Мокрая, раскудзеленая вяроўка не развязвалася, і хлопцы нецярпліва крычалі:

— Скарэй, а то ўто-о-о-пім! Заснуў!.. Гэ-эй!..

— Успееце, чорт вас не возьме,— сярдзіта і весела гукнуў ім Амелька.

— А, дзядзька Амяльян! — пачуўся крык з таго берага.— Скарэй, дзядзька, не марудзь!

— Скінь порткі, дык будзеш вё-о-орткі,— весела, са смехам гукнуў другі голас.

Хлопцы крычалі, часам апошнія словы прыспеўвалі. Звонкія галасы іх рэзалі паветра і глушылі шум ветру і вады.

Амелька ўпёрся нагамі ў паром і пачаў перабіраць ру-

камі мокры дрот. Паром, ціха паскрыпваючы, загойдаўся на вадзе і папоўз цераз раку.

Зразу Амельку абвеяла мокрым ветрам. Ён зажмурыў вочы, ад чаго твар яго прыняў выгляд такі, як бы Амелька к нечаму прыслухоўваецца...

Яшчэ не падплыў ён к берагу, як вясёлыя камсамольцы пачалі скакаць на паром.

— Паволі,— крычаў Амелька,— патопіцеся, дурні, чаго вас дрэнчыць!

— Назад! — закрычалі яму ў адказ хлопцы.

Паром яшчэ не прыстаў к берагу, а яны ўжо ўсе былі на ім. Некалькі рук, адапхнуўшы Амельку, замітусіліся на мокрым дроце. Паром быстра, так, як ніколі, пайшоў к берагу.

— Вось чэрці,— сказаў Амелька,— усё роўна, як лукавы іх падмывае. Чаго вы гэтакія вясёлыя?

— А чаго плакаць,— адказаў яму смуглы Міколка, сын яго суседа Кастуся,— на свеце няма чаго плакаць...

І, пачакаўшы з хвілінку, закончыў:

— Каб, здаецца, трохі цяплейшая вада, дык так бы плюхнуўся і паплыў бы проці вады.

— І ўтапіўся б,— сказаў Амелька.

— Не ўтапіўся б,— адказаў рашуча Міколка.

Паром падплыў к берагу. На зямлі рабілася святлей — на небе пачала расплывацца светлая лапіна: гэта сонца хацела прабіцца скрозь хмары.

Хлопцы пасаскаквалі з парома. Міколка прыкруціў яго к слупку, і ўсе пачалі біць рукамі аб полы свае адзежы — ад сырасці і халоднага, мокрага дроту памерзлі рукі.

Амелька праверыў, ці добра Міколка прывязаў паром, і хацеў ужо лезці ў сваю будку, але хлопцы, як бы згаварыўшыся, схвацілі яго за рукі і, зрабіўшы кола, усе гуртам закружыліся.

— Пусціце, д'яблы,— крычаў Амелька,— знайшлі таварыша!

Але хлопцы зналі вясёлы гумар Амелькі. Зналі, што часта ён сам, схваціўшы дзе-небудзь на ігрышчы дзяўчыну, пускаўся з ёю ў скокі.

І яны яшчэ мацней закружыліся і зачмокалі нагамі па мокрай зямлі.

Сонца весела пячэ,
Цераз мост вада цячэ,—

стараючыся пападаць у такт нагамі, загукаў Міколка вясёлую песню. Гурт здаровых галасоў зычна хваціў далей:

Пад вадою мост дрыжыць,
Па вадзе Міхал бяжыць!

Старога Амельку раптоўна ахваціла буйная вясёласць. Ён бачыў, як хлопцы спрытна ўзляталі ўгару, ускідалі махам галавы з вачэй свае доўгія валасы і шчабяталі песню. А мокры і жывы вецер весела свістаў у вушы і вочы.

І ўжо не спрачаючыся, а з ахвотаю, ён дробна затупаў нагамі, махнуў галавою, каб скінуць з яе шапку, і, стараючыся не адставаць ад хлапцоў, загукаў разам з імі:

Ой, куды цябе нясе?!
Згінеш ў рэчцы-паласе.
Разгулялася вада,
Чаго прэ цябе бяда?!

Далей Амелька не знаў слоў песні і, кружачыся, выкрыкваў толькі адны галосныя зыкі:

— О-а, о-а, о-а-о!

А хлопцы не пакідалі:

Не загіну я ў вадзе:
На той бок, у слабадзе
Жджэ дзяўчыначка мяне —
Дык ці ж можна згінуць мне!

— Капут! — крыкнуў адрывіста Міколка, пускаючы рукі.

Кола раскідалася, і хлопцы пачалі выціраць рукавамі пот з зачырванеўшых твараў.

— Ой, замарылі, д'яблы,— сказаў, моцна сапучы, Амелька.

— Давай, дзядзька, яшчэ пагрэемся,— смеючыся, сказаў Міколка.

— Хай яго агонь спаліць, дайце адсапціся,— адказаў Амелька і моцна дыхнуў.

— Калі так, дык марш,— сказаў адзін з хлапцоў,— можа, дзядзька, маеш што дамоў перадаць?

— Я толькі што сам з дому.

— Ну, дык аставайся здароў! — закрычалі хлопцы.

— Пабольш скачы — весялейшы будзеш,— пачуўся яшчэ адзін голас.

— Не маракуй, што пакруцілі,— пачуў яшчэ Амелька адзін голас.

На апошнія словы ён аглянуўся на хлапцоў і весела, ласкава зарагатаў ім услед:

— А каб вас паляруш, каб вас!

Хлопцы пайшлі к лесу, а Амелька астаўся адзін на беразе. Ён трохі патупаў на адным месцы, паглядзеў на неба.

Там вецер нагнаў цэлыя шэрагі хмар, збіў іх у адну густую цёмную масу і закрыў ёю светлую лапіну ад сонца. На зямлі зрабілася цёмна і нудна. Здавалася, што мокрыя лагчынкі кругом на поплаве больш яшчэ сталі выпускаць з сябе густога і белага, як малако, туману.

Пільна і падрабязкова разгледзеўшы ўсё гэта, Амелька палез у сваю будку і, лежачы там на саломе пад кажухом, да самага паўдня думаў розныя вясёлыя думы.

## II

Па паўдні к парому зноў прыйшоў Міхась.

Амелька сядзеў ужо на зямлі пры раскладзеным вогнішчы і пёк на ражэнчыку сала.

— Ты чаго? — запытаў ён Міхася.

— Нічога,— адказаў Міхась,— на поле гэтакаю пагодаю не выедзеш, дома работы няма, пайду, думаю, сюды, панюхаю ветру.

— Панюхай,— сказаў, смеючыся, Амелька. Яму было смешна з таго, што сказаў Міхась.

— Хочаш? — працягнуў ён сыну сала.

— Не,— адказаў той.

Амелька пачаў есці, а Міхась, абапёршыся на локаць, расцягнуўся на сухім месцы каля будкі і, паплёўваючы на зямлю, стаў глядзець некуды паверх вады.

На зямлі зноў рабілася святлей. Вецер зганяў хмары ў адно месца, на паўночную старану неба; яны, ужо лёгкія і паслушныя, падымаліся высока і быстра плылі, ачышчаючы паліняўшае неба. Туман пачаў знікаць, і на той бок рэчкі выразней стала вырысоўвацца вёска Хартонаўка. Рака плюхала так, як і раней, але вада ў ёй пачала фарбавацца ў ясныя, бліскучыя колеры.

Міхась маўчліва і быстра падняўся з зямлі, не аглядаючыся вакол, падышоў к вадзе і стаў так, як і раней, глядзець паверх яе.

— Што разглядаеш? — запытаў сына Амелька.

Міхась маўчаў.

— Аб чым думаеш? — запытаў зноў Амелька, памаўчаўшы.

— Не ведаю і сам. Нечага хочацца.

— Чаго?

— Кажу, што не ведаю.

Міхась пакінуў глядзець цераз рэчку і падышоў к бацьку.

— Вось так,— загаварыў ён,— часам паглядзіш на ваду, на хмары, паходзіш па полі на ветры, і захочацца нечага. Каб той, здаецца, аэраплан, дык узняўся б на доўгі час і лятаў бы, каб вецер свістаў у вочы і вушы. Эх, няма лодкі, паплыў бы проці вады.

— Ага, узяло,— у сваю чаргу загаварыў Амелька,— і са мною гэта часта бывае. Узяў бы тады, здаецца, у кузні молат і лупіў бы з усіх сіл па кавадле. Эх, колькі сілы ў нашага брата!

Амелька набраў поўныя грудзі паветра і дыхнуў.

— Вось жывём,— загаварыў ён далей, увесь ахоплены наплывам нейкіх новых думак,— зямля вялікая, колькі на ёй усяго ёсць, а мы, апрача свае вёскі ды гэтага лесу, нічога больш не бачым. Жывём неяк, як той поп кажа, па-божаму, на адным месцы, хоць сілы ў нас многа.

— Знаеш,— сказаў Міхась,— пайду я ў флот, зраблюся матросам. Запішуся ў камсамол і пайду. Нашто, каб сіла прападала дарэмна; буду тут марнаваць сябе адно.

— Як хочаш. Не малы ўжо,— сказаў Амелька.

Амелька быў увесь, таксама як і Міхась, ахоплен нейкаю вольнаю сілай — на зямлі было так шумна і весела.

— Пайду,— сказаў Міхась і неяк задумёна прыбавіў: — Весела ісці лесам. Дома там нейкі сход будзе вечарам, трэба быць.

Ён зняў з галавы шапку, паправіў валасы і пайшоў паволі, углядаючыся ў зямлю і як бы што думаючы. Шырокі і кароткі, без каўняра, кажушок на ім развяваўся на ветры.

Амельку абхапілі думы.

«Вось астаўся адзін на пустым беразе,— кружылася ў яго галаве,— астаўся адзін, і ніхто не бачыць і не ведае, дзе я і што раблю. Колькі людзей на свеце, і ўсякі па сабе. Схованы адзін ад другога па вёсках, лясах. Не можа чалавек бачыць таго, што робіцца нават за дзесяць вёрст, не то што каб угледзеў ён усю зямлю сваю. Не бачыць ён яе, бачыць усяго маленькі кусочак пад нагамі сваімі».

«Не бачыць, а знае яе,— выплыла другая думка,— ведае, дзе што на ёй. Без абмылкі патрапіць, куды хоча. А можа калі-небудзь выдумае што-небудзь такое, на чым паднімецца так, што ўбачыць усю зямлю, як бачыць сонца. Пэўна, што некалі, можа нават скора, будзе гэта.

Хай ідзе Міхась, куды хоча,— думаў ён далей.— Ніколі не трэба станавіцца чалавеку на дарозе, калі ён чаго шукае. Шукаючы і хочучы, усё знойдзеш. Хто шукае разумнага — таму памажы.

Але ці разумнага шукае Міхась?

Загаварылі многія цяпер па-новаму. Многа іх з'явілася і зусім новых. Павярнулі ўсё жыццё, пакінулі багатую спадчыну мінулага».

І тут у Амелькі бліснула новая думка-пытанне:

«Чаго гэтыя, новыя людзі заўсёды так радасны, такія вясёлыя?!

Значыць, у жыцці яны бачаць нейкую радасць, нейкае шчасце. Знаюць яны кожны крок свайго жыцця...

Ідзі, Міхась»,— думаў далей Амелька.

За Дунаем стаіць хатачка-а-а...

— перарваў яго думкі высокі чысты голас. Спяваў чалавек, паволі пад'язджаючы к парому.

Не кажучы ні слова, Амелька ўзяў каня за обрацъ, узвёў на паром, які і пагнаў прывычнаю рукою к другому берагу.

Там, узяўшы грошы за перавоз і даўшы чалавеку квітанцыю, паволі паплыў назад.

Чалавек не сказаў ніводнага слова, а толькі, ад'язджаючы, кіўнуў галавою і з нейкаю задуменнасцю ў голасе зноў заспяваў.

«Вось праехаў чалавек,— думаў Амелька,— невядома, адкуль і хто і пра што ён думае. Колькі ў гэты момант думак на зямлі?! І ўсякая думка аб тым, каб як найлепей зрабіць дзела гэтага моманту. І аднак, нягледзячы на гэта, чалавек увесь час мучыцца на зямлі. А гэтыя, новыя камуністы, суседнія мае хлапцы-камсамольцы, заўсёды вясёлыя, знайшлі, мусіць, дарогу к гэтай радасці...»

Амелька адплыў на сярэдзіну ракі, прыпыніўся і стаў глядзець на ваду.

Яна ўжо не пенілася і не шумела так моцна, як раней, бо сціх вецер; яна адлівала чырванню, бо празрыста свяціла сонца. Яно ўжо было на захадзе, і свет яго быў чырвоны. Неба ачысцілася ад хмар.

Амелька паглядзеў, як паволі, але заметна, супакойвалася вада, і ў звязку з гэтым у яго выплыла новая пастаронняя думка:

«А чалавек пекалі ўзварушыць сабе на карысць усю зямлю, так, як вецер ваду. Чалавек моцны. Каб яго сілы не растрачваліся на тое непатрэбнае, што дагэтуль вядзецца на зямлі, не тое б можна было бачыць цяпер у жыцці...

Што б з чалавекам ні зрабілася, нідзе ён не дзенецца з свае зямлі. Уся зямля, кожны яе кусочак аднолькова родны чалавеку».

Думкі ў Амелькі выплывалі адна за другою. Ён не мог улавіць ні пачаткаў, ні канцоў іх. Але ўсе яны зводзіліся к таму, што людзі, злучыўшыся ў адну вялікую сям'ю, зробяць на сваёй зямлі нешта такое, што будзе большае па сваёй сіле за самую зямлю. Вялікае дзела робяць яны.

Корань гэтай думкі ён пачуў раз у павятовым горадзе ад аднаго прамоўцы на лекцыі для сялян.

— Усе тыя, што самі працуюць,— гаварыў прамоўца,— злучыўшыся пад сцягам камунізма, арганізуюць вялікую сілу, якая знішчыць усё тое, ад чаго так мучыцца, жывучы, чалавек...

Амелька думаў і глядзеў вакол.

На той бок рэчкі, недалёка ад вёскі Хартонаўкі, выехаў араць чалавек. Яго каравая, цёмная фігура здавалася здалёк куском той самай зямлі, па якой ён ходзіць.

— Пайду, пагавару з чалавекам,— сказаў сам сабе Амелька,— а то яшчэ здзічэю тут адзін.

Над апошнімі сваімі словамі ён неяк хмурна ўсміхнуўся.

Паволі, як бы раздумваючы, ці варт плысці, папоўз паром назад к берагу. Амелька, утомлены думкамі, вяла перабіраў рукамі дрот.

Выйшаўшы на бераг, ён зразу размеранымі крокамі пайшоў к аратаму. Той, ласкава пакрыкваючы на свайго коніка, паволі ішоў за плугам, неглыбока заворваючы ржышча на зіму.

Ён быў у доўгім, парыжэўшым ад старасці халаце, няроўна абарваным унізе; доўгія валасы яго закрывалі вушы. Каравыя рукі яго ўспіраліся на плуг, і, каб не ён сам тут, можна было падумаць, што гэта які-небудзь корч, нядаўна выцягнуты з зямлі. Босымі нагамі ён ціха ступаў па мяккай чорнай зямлі.

Гэта быў Амелькаў знаёмы.

— Здароў, брат,— сказаў Амелька, падыходзячы блізка.

— Здароў! — адказаў той, прыпыняючыся.

— Позна, браце, араць выехаў.

— От... распагодзілася,— загаварыў араты,— дык я думаю сабе, выеду хоць ад меж адбяру, усё хлопцу будзе заўтра лягчэй. Але як выпагадзілася,— панізіў ён голас,— цёпла, весела.

У гэтых словах — «цёпла, весела» — чулася нейкая радасць чалавека, які бачыць сонца і светлую ад яго зямлю.

— Добра арэцца? — запытаў Амелька, каб як-небудзь разгаварыцца.

— Добра,— адказаў чалавек і, глянуўшы ў разору, прыбавіў: — Люблю я, браце, араць. Ходзіш сабе босы па мяккай разоры, і здаецца табе, што зямля ў цябе ўлазіць.

— А хіба гэта добра?

— Ну, а што, браце. Чалавек адарваўся ад зямлі — прапаў...

— А дзе ж ён можа дзецца з зямлі? — сказаў Амелька.— Усё роўна нікуды з яе не зыйдзеш, каб і хацеў. На ёй астанешся.

Чалавек паціснуў плячыма, бо не знайшоў адказу.

А Амелька пачуў думку, выказаную чалавекам. Гэта думка ўвесь час у яго самога была ў галаве. І яму стала весела. І ўсе яго думкі, як бы зрабіўшы сваё дзела, зніклі, пакінуўшы нейкае лёгкае і бадзёрае пачуццё ў грудзях.

— Дай, браце, я прайду зараз вакол,— сказаў Амелька, беручыся за плуг,— даўно ўжо не араў.

— Прайдзі сабе,— сказаў чалавек і, махнуўшы пугай на каня, ціха гукнуў: — Но!..

Амелька пайшоў за плугам па паласе. Падняўся на гору, мінуў яе і спусціўся ўніз, дзе пачынаўся невялічкі паплавец і на ім рэдкія кусты.

К яму, па калючым іржышчы, босы і ў адной кароткай кашульцы, падкасаны, быстра бег хлопчык гадоў трынаццаці.

— А дзе тата? — запытаў ён, трохі спалохаўшыся.

— Там, за горкаю,— адказаў Амелька.

Хлопчык пазнаў Амельку і загаварыў быстра, глытаючы словы:

— А я бягу, гляджу — здаецца, не тата. Ажно ж гэта вы, дзядзька Амелька. Дайце адно мне.

Амелька перадаў плуг хлопчыку, і той, трохі блытаючыся па разоры нагамі, пайшоў, сваімі дзіцячымі тоненькімі рукамі дзержачыся за плуг і пакіроўваючы яго верна, так, як і трэба.

— Чаго ж ты прыйшоў, змерзнеш,— сказаў бацька яму, як яны з Амелькам, абышоўшы кругом, прыйшлі на старое месца.

— Так,— сказаў хлопчык і засмяяўся.

— Ходзіць у школу,— сказаў бацька з нейкаю гордасцю ў голасе, гледзячы на Амельку і паказваючы пальцам на сына,— і мне памагае.

— Ну, а што ж,— адказаў Амелька, зноў адчуваючы наплыў думак.

Бачачы, што аратыя збіраюцца дамоў, ён паглядзеў, як сонца быстра каціласе за лес, і, развітаўшыся з імі, пайшоў к парому.

Там ён хутка перавёз на свой бок некалькі фурманак з жытам, а на другі бок двух чырвонаармейцаў.

Яны ехалі на двухкалёсным зялёным возе і некуды спяшалі.

Прыцемкам ужо стаў Амелька раскладаць агонь на беразе.

### III

— Паром! Гэ-эй... паро-о-о!..

Чутно было, што крычыць чалавек здаровы і з ахвотаю, рад, што ёсць прычына пакрычаць.

Ён бачыў ужо, што паром плыве к яму, але не пакідаў крычаць і, мусіць, любаваўся сваім голасам, які зычна, па некалькі раз, паўтараўся на другі бок ракі, у лесе.

Праціраючы заспаныя вочы, Амелька плыў на крык. Паром без шуму сунуўся па спакойнай, цёмнай каля берага і белай на сярэдзіне вадзе, якая пад ім чуць-чуць дрыжала серабром ад свету месяца.

Ад гэтага свету і поле кругом было нейкае белаватае, і здавалася, што нешта там прытаілася, сочыць за ўсім, што робіцца вакол.

На паром чакала многа фурманак. Шэрай масай стаялі яны каля вады, каля іх цямпелі і варушыліся коні і чуліся людскія галасы.

— Хто першы — узводзь каня,— сказаў Амелька, прыгнаўшы паром к берагу.

— А колькі фурманак можа ўз'ехаць на яго зараз? — пачуўся з змроку грубы, як стук абуха, голас.

— Адна.

— Э, мала. Доўга перавозіць будзеш.

Чорная ад змроку пара коней усцягнула на паром высокі воз, узышло чалавек пяць людзей.

Паром ціха рушыў назад.

— Чырвонаармейцы,— сказаў Амелька, прыглядаючыся да людзей.

— А што?! — гукнуў з-за воза голас.

— Нічога. Пазнаю, што за людзі. Здалёку?

— З горада.

— Куды?

— На граніцу.

Памаўчалі.

— Што за рака?— бухпуў той жа грубы голас.

— Лоша.

— Слаўнае месца. Лесу многа.

— Гэ-эй, там, скар-р-рэ-эй! Паро-о-о-о!..— гукнуў з берага нецярплівы голас.

— Чаго арэш, не пакінем, не бойся! — гукнулі з парома.

— Э-э-э, там, о-о-э!..

— Хочаш скарэй — кідайся ў ваду!..

Два галасы з розных берагоў весела рвалі ціш светлае ночы. Паром і без крыку быстра лятаў ад аднаго берага к другому, але людзям хацелася пакрычаць і слухаць зычныя рэхі ў лесе над полем.

А на беразе, каля Амелькавае будкі, ужо раскладвалі агні. Аднекуль цягалі лом, сухія дубцы і збіраліся каля агнёў кучкамі. Выпрагалі і кармілі коней.

Гадзіны праз дзве ўсе ўжо перабраліся цераз рэчку. Людзей было больш сотні, яны зразу напоўнілі ціхі і пусты дагэтуль бераг роўным стрыманым гоманам. Чутно было, як «грукалі» коні, жуючы сечку. Гарэла некалькі вогнішчаў.

Амелька стаяў, прыпёршыся плячом да свае будкі, і глядзеў, як дрыжаў свет ад агнёў на тварах людзей.

Адзін твар здаўся яму знаёмым. Гэта быў малады яшчэ чалавек з густымі, падстрыжанымі вусамі.

«Няўжо Юрась з Даўгінава?» — падумаў Амелька і хацеў ужо падысці бліжэй, каб лепш разглядзець, але чалавек сам падняўся з зямлі і, пільна ўглядаючыся ў свет-

лы змрок, стаў хадзіць вакол будкі, як бы стараючыся што-небудзь угледзець.

Прымеціўшы пры будцы Амельку, ён падышоў к яму і запытаў:

— Паромшчык?

— Але,— адказаў Амелька, пазнаючы Юрася.

— Тутэйшы? — зноў запытаў Юрась.

— Не пазнаў? — у сваю чаргу запытаў Амелька.— Юрась, так?

— Чакай,— сказаў замест адказу Юрась і, схваціўшы Амельку за плечы, павярнуў яго твар у бок агню.

— Амелька! — крыкнуў ён весела.— А я такі думаю — хто тут можа быць паромшчыкам, як не тутэйшы чалавек, і стаў прыглядацца, пагавару, думаю, з сваім чалавекам. Аж так яно і ёсць. Ну, як жывеш?

— Жывём. А ты яшчэ ўсё ў войску?

— У войску, старшым тэлефаністам служу, дамоў яшчэ мяне не пускаюць. Папалася якраз праходзіць праз свае, родныя мясціны.

— Дома будзеш?

— Буду, гэта ж па дарозе. Там, мусіць, дняваць будзем.

— Не надаела служыць?

— Не. Каб на адным месцы стаялі, можа і надаела б. Але служба такая папалася жывая — сягоння тут, а назаўтра за сотню вёрст дзе-небудзь. Так ніколі не надаесць. Разглядай сабе свет і жыві. Весела так.

— А мне вось тут весела. Пераважу сабе што дзень, то новых людзей. Часам, чакаючы, думаю, каго-то цяпер прыйдзецца перавозіць. Што за чалавек і адкуль?

— І так слаўна,— адказаў Юрась,— самае галоўнае, у сябе не закайвайся, а жыві ў людзях. Глядзі на ўсё і ўсё ведай.

— Ну, а дамоў не хочацца?

— Мала калі думаю аб гэтым. Заўсёды хочацца да свае сям'і, сваіх хочацца пабачыць, пагаварыць, пажыць. А зямля — усюды зямлёю. Усюды працуй і будзеш жыць.

— Вось,— сказаў сам сабе Амелька ў думках сваіх,— ад каторага чалавека чую тое, аб чым сам часта думаю. На ўсякім месцы на зямлі чалавек дома.

І раптоўна захацелася яму глянуць на ўсё тое, што ў тую хвіліну рабілася на ўсёй зямлі. Захацелася яму куды-небудзь ісці, ісці ўсё бліжэй і бліжэй к нечаму таму,

што ў галаве яго вырысоўвалася як галоўны пункт, цэнтр усяго жыцця.

Хацелася яму самому не стаяць каля свае будкі ціха і спакойна, а рабіць якое-небудзь дзела, якое магло б быць відавочным і карысным для ўсіх.

І, як Юрась, пакінуўшы гаварыць з ім, пайшоў к возу збірацца ў дарогу, Амелька, ахоплены вялікім наплывам думак, глядзеў, як варушыліся на беразе людзі, пакрыквалі на коней і збіраліся згінуць з гэтага берага, каб ніколі не паказацца пры такіх самых варунках на ім.

«Усё на свеце бяжыць і не варочаецца,— мігнула ў Амелькі новая думка,— не траць дарэмна і мінуты жыцця, бо не вернеш яго».

Пасля таго як бераг зрабіўся пустым, Амелька стаяў і слухаў, як патроху, неўзаметку сціхалі недзе каля лесу зыкі вайсковага абозу.

І тады, у звязку з усім перадуманым, з'явілася ў яго новая, ім самім не зразумелая думка, нават не думка, а пачуццё.

«Трэба глыбей убіраць у сябе жыццё, бо жыць слаўна...»

Ён пайшоў у бок свайго парома і моцна, зычна дыхнуўшы, сказаў, не думаючы аб сваіх словах:

— Эх, ты!..

Каля самага парома ён азірнуўся кругом і бачыў, як чуць-чуць рабілася святлей на ўсходзе. Чутно было, як у Хартонаўцы галасілі пеўні.

Вакол больш не было ніякіх зыкаў; густая і чорная вада цякла ціха і спакойна.

# ДЗЕНЬ

## I

Прачынаючыся, вучыцель чуў, як недзе за акном зычна падалі кроплі вады на нешта жалезнае і пустое, як весела крычалі гусі і вароны і нешта дзеравянае раз па разу стукала коратка і суха.

Ад гэтых зыкаў ён і прачнуўся; і зразу ўспомніў, што заняткаў сягоння ў школе не будзе па прычыне свята Акцябрскай рэвалюцыі і што трэба а дванаццатай гадзіне ісці за дзве вярсты ў мястэчка на мітынг.

Было яшчэ рана, і ён ляжаў, закінуўшы рукі за ўзлахмачаную галаву, глядзеў проці сябе, на сцяну. Сцяна была новая, непабеленая; з пазоў тырчалі шэрыя і чорныя махры засохшага моху, а на нягладка апілованых бярвеннях блішчалі кроплі застыўшае смалы. Наогул уся сцяна была жаўтаватая, светлая і мела нейкі вясёлы выгляд.

Вучыцель глядзеў і думаў аб тым, чаго яму больш трэба ад жыцця. І ўсякі раз, як сярод іншых думак выплывала ў галаве гэтае пытанне, выплываў і адказ на яго: нічога больш не трэба. І потым, як бы малюнак для лепшай зразумеласці гэтага адказу, выплывала яшчэ адна думка аб тым, што ўсё тое, што кругом напаўняе жыццё, ёсць нешта слаўнае, добрае; загэтым і дае яно радасць самому жыццю. Слаўныя дзеці, якія кожны дзень з вясёлым смехам і крыкам напаўняюць школу, слаўныя людзі, з якімі кожны дзень прыходзіцца мець дзела, слаўнае поле вакол школы...

І як усё гэта роўна і ясна праплывала ў галаве і недзе гінула, з хвіліну нічога не думалася, а потым зноў пачыналася спачатку: з'яўляліся тыя самыя пытанні і той жа самы адказ на іх.

За апошнія гады ўсё часцей і часцей такія думкі сталі з'яўляцца ў галаве вучыцеля. Сперш ён лічыў іх вынікам таго, што яму тут, у гэтай глушы, добра, спакойна

і сыта жывецца, і загэтым усе яго летуценні прытупляюцца, уступаючы месца агульнай здавальнёнасці спакойным жыццём. Тады ён стараўся не давацца гэтым думкам, лічыў іх выпадковаю з'яваю. І здавалася яму, што яны пройдуць, як толькі ён перабярэцца куды-небудзь у горад. А каб яны, гэтыя думкі, не лішне ўтамлялі галаў, ён адганяў іх ад сябе так: браў сякеру і ішоў калоць дровы. Гэта памагала: думалася толькі тады аб тым, як бы спрытней разбіць сырую і пахучую калоду.

— Не буду ж я вечна сядзець тут, у гэтай глушы,— гаварыў сам сабе вучыцель і смяяўся над сваёю баязлівасцю думак.

Але пасля таго як, будучы ў войску, праехаў ён за некалькі год усю краіну і прыгледзеўся добра к жыццю і людзям, ён іначай пачаў адносіцца к сваім думкам, бо стала яму ясным, што сэнс і мэта жыцця хаваецца ва ўсім тым, што акружае чалавека, сустракаецца на кожным кроку. Зразумеўшы, адчуваючы гэта, вучыцель стаў, а пасля і навучыўся знаходзіць радасць жыцця ў працы, у людзях, у кожным кавалку зямлі, ва ўсякай з'яве.

«Куды ні глянь,— думаў ён,— усюды тая самая аднальковая зямля, усюды такія ж самыя людзі, і дзе ж можа быць месца для шчасця, як не ва ўсім гэтым. Не на паветры ж яно».

Думаючы так, вучыцель усіх тых, якія ўсё сваё жыццё нечага шукаюць, самі не знаючы чаго і не ведаючы, дзе яго шукаць, лічыў людзьмі, якія не могуць добра прыгледзецца к жыццю, каб зразумець, дзе хаваецца дух і сэнс самога жыцця.

І цяпер, прыехаўшы з войска ў сваю старую школу, ён радасна і шчыра ўзяўся за працу і стаў «жыць», знаходзячы ў сваім жыцці радасць. Радасці было многа. Яна была і ў працы, і ў дзецях, і ў людзях, і ў полі вакол... І радасць гэтая была для яго праўдзіваю, не часоваю, як раней ён думаў аб усякай радасці, а такою, якая выйшла з тае самае жыццёвае крыніцы, з якое і павінна выходзіць усякая радасць жыцця.

І цяпер ужо думкі аб гэтым пакідалі после сябе ў галаве не ўтомленасць, як раней, а лёгкасць, а ў грудзях пачуццё здавальнёнасці ўсім тым, што ёсць вакол...

— Ох-аха...— пацягнуўся вучыцель, устаючы з пасцелі, і, адзеючыся, падышоў к акну і глянуў на двор.

Відаць быў пусты і мокры агарод, па ім спацыравала

многа рознага, свойскага і дзікага, птаства, за агародам відаць было заворапае па зіму поле, а далей, каля рэчкі, густыя, напалавіну голыя ўжо кусты. Было хмурна і сыра.

Вучыцель прыпаў тварам к самаму шклу акна і налева, пры крайняй вясковай хаце, убачыў край чырвонага сцяга, вузенькага і доўгага, вывешанага па прычыне савецкага свята.

Вучыцель зноў успомніў пра свята і пра тое, што трэба ісці ў мястэчка на мітынг, і пачаў адзявацца...

— А я ўжо іду вас будзіць — думала, што яшчэ спіце, аж вы ўжо ўсталі. А на вуліцы людзей — а-я-яй!.. Збіраюцца ў мястэчка.

Вучыцель азірнуўся і ўбачыў школьную старажыху Мар'ю. Яна стаяла ў дзвярах, прычыніўшы іх і не выпускаючы клямкі з рук. Як і заўсёды, яна не глядзела на вучыцеля, а ўніз, у зямлю, і вучыцелю здавалася, што яна чакае, ці не скажа ён ёй што-небудзь зрабіць у школе.

Каб што-небудзь сказаць, ён запытаў:

— А вы, Мар'я, не пойдзеце?

— Мусіць, не,— адказала яна,— не выпадае. Яно і добра было б, але няма як. Хай так будзе.

Яна пастаяла яшчэ трохі і паволі, моўчкі выйшла. Вучыцель чуў, як за сцяною за ёю грукалі дзверы, а трохі пачакаўшы, бачыў праз акно, як Мар'я насіла на двары бярэмем дровы. Гледзячы на яе, ён думаў: «Гэтая кабеціна ніколі не перажывала таго смутку, які быў у мяне. Яна шукала заўсёды патрэбнага для свайго шчасця вакол сябе. А я толькі цяпер зразумеў гэта...»

Разам з гэтым у галаве яго выплыла адно здарэнне з яго нядаўняга вайсковага жыцця.

Ранены пад Варшавай у руку, ён доўга блытаўся па розных перавязачных палявых пунктах, пакуль яго не адправілі на лячэнне ў вайсковую бальніцу, глыбока ў тыл. Сусед па пасцелі быў у яго маладзенькі чырвонаармеец, цяжка ранены ў грудзі. Першыя дні гэты малады салдацік ляжаў ціха, але потым, як рана яго пачала гаіцца, прайшло бяспамяцтва і яму стала лепш, ён не мог спакойна ўляжаць на адным месцы — усё ўсхватваўся, аглядаўся вакол, разглядаў рану і зваў па некалькі разоў на дзень доктара.

На запытанне вучыцеля, чаму ён не ляжыць спакойна, ранены адказаў:

— А што ж, не даючы аб сабе ведаць, так і зойдзешся без іхняе помачы; ведаю я іх!..

Вучыцелю стала ясным, што чырвонаармеец баіцца памерці і ратуецца як можа, хоць ратунак яго быў невялікі — раненых і так добра глядзелі.

І вось раз выйшла тое, чаго так баяўся доктар: ад лішняга руху чырвонаармейца рана адкрылася, і палілася кроў. Як яе ўнялі, чырвонаармеец супакоіўся, а доктар сказаў: «Калі будзеце больш варушыцца, дык памраце ад свае раны».

З таго часу маладзенькі чырвонаармеец ляжаў ціха і не варушыўся, хоць гэта і было яму вельмі цяжка. Твар у яго быў землянога колеру, а вочы зрабіліся шырокімі ад страху, што ён скора памрэ. Аднак ён стаў скора папраўляцца і ўсё не верыў, што калі-небудзь будзе зноў здароў.

Адзін раз, папярэдадні, як вучыцель, палажыўшы сваю раненую руку на грудзі, драмаў, чырвонаармеец адчуў у сабе раптоўна прыліў бадзёрасці, сілы — за апошнія часы здароўе яго многа палепшылася. І тады ў галаве яго прамігнула вясёлая думка аб тым, што вось ужо прайшла хвароба і ён будзе жыў.

Скрозь дрымоту вучыцель бачыў, як чырвонаармеец быстра павёў вакол сябе расшыранымі вачыма, потым скоранька падняўся і падышоў к яму.

— Слухай ты, эй! — загаварыў чырвонаармеец, цярэбячы за нагу вучыцеля.— Слухай, я табе скажу...

— Ты чаго?! — прагаварыў вучыцель, усхваціўшыся.

— Слухай... знаеш, узадралі мы летась, як я быў дома, з братам кусок поплаву пад агарод, а цяпер мне здаецца, што ўжо там брат капусту высякае. Слаўная капуста расце на паплавішчы, як головы!

— Ты гэта к чаму? — запытаў вучыцель, зусім ужо скінуўшы з сябе дрымоту.

Але чырвонаармеец не слухаў яго і гаварыў далей.

— Вось папраўляюся. А як скончым вайну, дык, прыехаўшы дадому, узару больш поплаву. Вось зажывом... Эх, ты!..

І, напалавіну панізіўшы голас, ён зноў загаварыў:

— А там, браце, у мяне вінтоўка асталася не пачышчаная. Усё збіраўся чысціць, ды не было часу. Так і асталася, шкода...

— Не можна вам паднімацца з пасцелі і гаварыць

моцна,— сказала, уваходзячы, сястра.— Лажэцеся, а то зноў рана адкрыецца.

Чырвонаармеец з баязлівасцю, каб «не адкрылася рана» і яму зноў ад гэтага не пагоршала, стрымліваючыся, каб не пабегчы моцна, падышоў на пальчыках к сваёй пасцелі і лёг.

А вучыцель увесь астатак добрае асенняе ночы прасядзеў на сваёй пасцелі, прыпёршыся к сцяне, глядзеў, як чырвонаармеец, заснуўшы, усміхаўся праз сон тонкаю, чуць заметнаю ўсмешкаю, і думаў аб тым, як шчаслівы тыя людзі, якія і ў думках сваіх жывуць тым, чым жывуць целам...

Вучыцель ачнуўся ад сваіх думак і падняўся, каб ісці ў мястэчка на мітынг; было ўжо роўна дванаццаць.

Вясковыя ўсе, хто меўся ісці, пайшлі, і загэтым на вуліцы было пуста.

Вучыцелю не трэба было ісці вуліцай, але ён бачыў яе, азірнуўшыся назад, як толькі спусціўся з ганка.

А ішоў ён вузкаю палявою дарожкаю, а потым лесам.

На небе як бы пачало прачышчацца — рабілася святлей, але вецер не пакідаў.

«Шкада, што спазнюся»,— думаў вучыцель, уваходзячы ў лес.

## II

Праходзячы ў лесе міма хаты ляснога стражніка, вучыцель пачуў там дзіцячы плач, потым жаночы крык і гоман мужчыны. Не думаючы доўга, ён пайшоў к стражніку.

На цесным дворыку, каля хаты, стаяла маленькая, сівенькая кабылка, запрэжаная ў воз, выслany мятаю саломаю і накрыты шэраю дзяружкаю. Сабака кінулася вучыцелю пад ногі, але, пазнаўшы яго, адбеглася назад, вінавата памахваючы хвастом.

У хаце было цесна, сыра і цёмна. Каля парога стаялі мяшкі з сечкаю, ляжала бярэмя сырых, пядаўна наколатых дроў. Там жа дзяўчынка гадоў трынаццаці мыла ў вялікім цэбры бульбу. Відаць было, што работа гэтая была ёй не пад сілу — яна спацела, цяжка дыхала, з вялікім трудом мяшаючы бульбу ў вадзе тоўстаю палкаю.

Разгледзеўшыся ў хатнім змроку, вучыцель убачыў далей, каля стала, двух знаёмых мужчын — адзін быў сам

стражнік, другі — доктар з мястэчка, загадчык амбулаторыі. Доктар дзіка, з ападлоб'я паглядзеў на вучыцеля, а стражнік усё азіраўся кругом, і відаць было, што ён нечым устрывожан. Потым вучыцель пачуў, як на пасцелі, каля глухое сцяны, застагнала, а потым і заплакала стражнікава жонка; і тут ён успомніў, што яна ўжо другі месяц хварэе.

Вучыцель падышоў к сталу і падаў руку мужчынам, а потым пачаў пільна ўглядацца вакол, каб зразумець, што тут робіцца. І чаму гэтак было шумна. Доктар, нічога не гаворачы, скінуў паліто, загадаў запаліць лямпу і пайшоў аглядаць хворую, а стражнік прайшоў некалькі разоў па хаце, сказаў дзяўчынцы, каб пастаяла каля маткі, і, пазваўшы вучыцеля ў сенцы, сказаў там яму:

— Каб вы не прыйшлі, дык ліха ведае што і было б: нізашто не хацеў агледзець хворую. Хацеў пяць пудоў пшаніцы, а дзе я яму вазьму. Я яму і лячэбную кніжку паказваў там, у амбулаторыі, ён і паехаў. А тут кажа, што не павінен ездзіць па розных там хатах і хутарах дарэмна. А тут якое дарэмна, калі ён пенсію атрымлівае. Вось табе і бальшавікі, гаварылі, што ўсім вельмі добра будзе, аж яно, ліха на яго, тое самае, адзінакавая трасца...

Вучыцель бачыў, як стражнік міргаў вачыма — мусіць, на іх набягалі слёзы, чуў, як стагнала ў хаце, пакутуючы, хворая жанчына, успомніў, як мучылася малая дзяўчынка, робячы цяжкую, не па сваёй сіле, работу. І зразу ў яго, не толькі ў думках, але і ў грудзях, выплыла вялікая злосць на доктара — гэтага сытага, панаватага чалавека. Ён разам з стражнікам увайшоў у хату і моўчкі чакаў, пакуль доктар скончыць агляд хворай.

Дзяўчынка паднясла доктару маленькі кусочак шэрага мыла і стала паліваць яму на рукі ваду. Потым вучыцель бачыў, як хворая павяла вакол сябе вачыма і сказала нейкім цяжкім голасам, усё роўна, як на жываце сваім паднята нешта цяжкое:

— Вазьмі, дачушка, чысценькі рушнічок з століка.— А потым, бачачы, што доктар стаіць з растапыранымі рукамі і чакае, дабавіла, моцна паморшчыўшыся: — Скарэй, дачушка... скоранька...

Яна, гэтая хворая кабета, думала не толькі аб тым, каб як збавіць сваё жыццё ад смерці, але яшчэ і аб тым, каб не ўгнявіць гэтага «далікатнага пана доктара». А не ўнаравіўшы яму, угнявіўшы чым-небудзь яго, можна пажыць

вялікую бяду: ён не захоча лячыць, і тады прыйдзецца памерці. Такім чынам, у гэтае кабеты было дзве хваробы: адна хвароба — гэта той боль, які быў у целе, а другая — доктар.

Усё гэта прамігнула ў галаве вучыцеля і заставіла яго загаварыць аб гэтым з доктарам, але доктар, бачачы, што вучыцель строіцца гаварыць, перабіў яго:

— Я ведаю, аб чым вы хочаце гаварыць, і адкажу вам, не пачуўшы вас. Я вас запытаю, а мне не трэба жыць? І ў мяне ёсць дзеці, якіх трэба вучыць і адзяваць...

— А ў гэтае кабеты няма дзяцей?! — загаварыў вучыцель, стрымліваючыся, каб не закрычаць моцна.— Вы атрымліваеце пенсію, зарабляеце больш, як гэты ляснік. Дарэмна вам далі навуку. Не варты вы яе...

Доктар сярдзіта плюнуў і пайшоў хутка з хаты. Ён не захацеў, каб яго стражнік адвозіў назад, і пайшоў пехатой праз лес.

Жанчына плакала, бо баялася, што доктар другі раз не захоча прыехаць яе лячыць. Плакала і дзяўчынка, стоячы каля мацеры. Ляснік, цяжка ўздыхнуўшы, паглядзеў на доктарскі рэцэпт і пайшоў распрагаць каня, сказаўшы, што ў местачковую аптэку пойдзе пехатой. А вучыцель сеў на лаву і стараўся ўцешыць жанчыну і дзяўчынку. Потым ён выйшаў на двор і бачыў, як стражнік, ужо выпрагшы каня, паіў яго каля студні. На твары ў яго было неспакойна, але відна было, што ён увесь стараецца ўвайсці ў сваю работу пры студні, каб як-небудзь, хоць на кароткі час, забыць пра тую бяду, якая рабілася ў яго хаце.

Угледзеўшы вучыцеля, ён сказаў:

— Вось жывецца. Як чалавек здароў, дык здаецца, што можа быць лепш. Каб, здаецца, чалавек мог яшчэ як-небудзь збавіцца ад павіннасці хварэць, дык чаго тады хацець. Абы рабіць мог чалавек...

— А хіба гэта павіннасць?! — запытаў вучыцель не думаючы, каб што-небудзь сказаць.

— А хто яго ведае... Мусіць, пейкая павіннасць. Няма, мусіць, такога нідзе чалавека, каб калі-небудзь не хварэў...

Памаўчаўшы, стражнік дабавіў:

— Або каб, здаецца, дактары парабіліся такімі, к якім нашаму брату смела можна было ўвайсці ў хату за дапамогай...

Стражнік упусціў каня ў хлеў і стаў проці вучыцеля,

падняў рукі, падсадзіў іх пад шапку і паскроб імі ў галаве. Потым азірнуўся на лес, на сваю хату і маўчаў. Вучыцель бачыў, што ён шукае якога-небудзь дзела, каб не стаяць так і разагнаць думкі. І ён сказаў стражніку:

— Хадзем, браце, у мястэчка. Там і лякарства возьмеш.

— Не, пайду потым,— адказаў ляснік,— няхай хворая трохі супакоіцца.

Вучыцель пастаяў трохі і пайшоў лясною дарогаю. І ідучы адчуваў, як нешта рабілася ў ім. Адчуваў ён як бы нейкую ніць, якая моцна звязала яго з маўчлівым леснікам і з яго сям'ёй, і нават не з адным леснікам, а з усімі людзьмі, якія заўсёды акружаюць яго.

І яшчэ адчуў ён, што гэтая блізасць к лесніку, якая так раптоўна яго ўсяго абхапіла, і ёсць нешта такое, што патрэбна для радасці жыцця і можа служыць прычынай пакуль што яшчэ няяснага, але вялікага дзела, якое карысна і неабходна для шчасця.

### III

На мітынг вучыцель спазніўся: прыйшоў пад самы канец, калі ўжо канчаў гаварыць апошні прамоўца. Вакол трыбуны цесна стаяла вялікая грамада, а з краю, далёка ад трыбуны, пад сцягам свайго прафсаюза, стаялі ўсе працаўнікі асветы воласці. Вучыцель не пайшоў к ім, а ўбіўся ў самае густое месца грамады, лічачы сябе ўжо канчаткова злітым у адно з усімі гэтымі шэрымі людзьмі. Усё здавалася яму вырашаным...

Потым ён быў на пасяджэнні шкрабаў воласці, і ўсё здавалася яму, што робіць ён не тое, што трэба. Нешта ўсё смутна круцілася ў яго галаве і, не даючы спакою, змушала ўспамінаць... І толькі ўжо сабраўшыся ісці дамоў, ён успомніў. Тады, астаўшыся пасля пасяджэння адзін, ён напісаў у газету кароценькую карэспандэнцыю аб тым, што бачыў сягоння ў хаце лесніка. Ён некалькі разоў перачытаў гэты кароценькі, але важны ліст і астаўся здавальнёным...

Дадому ён ішоў разам са сваімі суседзямі-мужчынамі. З ахвотаю ён расказаў ім здарэнне з доктарам у лесніковай хаце.

Радам з ім ішоў Максім Булыга — чалавек гадоў за сорак пяць, чорны, з бародкаю і падстрыжанымі вусамі.

Выслухаўшы расказ вучыцеля пра доктара, ён сказаў задумёна:

— На свеце, браткі мае, усё робіцца так: калі чалавеку добра, дык ён шукае яшчэ лепшага, усё лезе вышэй, а як зваліцца з свае гэтае вышыні, дык тады рад падняцца хоць бы так, як быў раней. Гэтак і наш доктар. Запасу ў яго няма, гэта вядома, але жыве ён, падла, добра. Каб я хаця ў пяць разоў горш за яго жыў. А ён хоча яшчэ лепш. Але самае галоўнае, як мне здаецца, тут не ў гэтым, а ў тым, што якім панам ён быў, такім і астаўся. Усё роўна не будзе ніколі ён нашым чалавекам. І лечыць ён цябе не затым, што доктар, а затым, што ўмее лячыць, што ён майстар гэтага дзела і можа зарабіць гэтым так, як ніхто з нас ніколі не зарабляў. Праўду я кажу, браткі, ці не?

— Упалне верна,— грубым і вечна ахрыпшым голасам адказаў ззаду вучыцеля стары Змітрок Кавальчук. Ён — гарбаты трохі, сівы чалавек — добра ведаў многіх дактароў, бо апошнія гады многа хварэў. Некалі ў маладыя гады ён служыў у смалакурні, лазіў там у гарачую печ, парыўся ў гарачыні, мерз потым на сіверы, мок пад дажджом. Служыў ён там доўга, згубіў здароўе і голас і напсаваў вочы: цяпер яны былі ў яго вечна чырвоныя і мокрыя ад слёз. Адзін сын у яго быў членам павятовага іспалкома, часта прыязджаў у сваю вёску, і ім усе цікавіліся. Зваўся ён Сымон, і загэтым бацьку яго, старога Змітра, звалі цяпер так: «Змітрок — Сымонаў бацька». Сымон і прывозіў часта к бацьку розных дактароў.

Ідучы ззаду вучыцеля, Змітрок гаварыў:

— Праўду ты кажаш, браце Максім, гэтаксама і я думаў.

Разам з вучыцелем ішло чалавек яшчэ шэсць, апрача Максіма і Змітра. І вакол, блізка і далёка, ішоў народ — кабеты, мужыкі і дзеці.

Мінуўшы лес, Максім азірнуўся на мужчын, якія ішлі разам з ім, і сказаў:

— Вось скора і вечар. Хадзем, мужчыны, хто мае час і ахвоту, пагледзімо жытні палетак — я яшчэ не бачыў, як жыта ўзышло.

— Хадзем,— згадзіліся ўсе і звярнулі з дарогі на шырокую мяжу, якой і пайшлі адзін за другім, ціха гаворачы. Пайшоў з імі і вучыцель.

Фігуры ўсяе гэтае невялічкае грамады былі шэрыя,

ціхія; крокі былі паважныя, як бы размераныя. І ўсе гэтыя людзі як не трэба лепш гарманіравалі з сырым асеннім полем.

Па абодвух баках мяжы стаяла пачарнеўшае ад дажджоў іржышча, на межах не пакідалі зелянець яшчэ кусты быльніку — вярхі іх ужо пасохлі, але з зямлі лезлі маладыя пасынкі: пагода ўвесь час была цёплая і сырая.

Прайшоўшы на канец мяжы, мужчыны выйшлі на вузенькую дарожку-сцежку, па другі бок якое і пачынаўся азімы палетак.

Прыкмячаючы на кожным месцы, як паўсходзіла жыта, мужыкі абышлі сцежкаю ўпоперак увесь палетак. Потым выйшлі на невялічкі, з купінамі і кустамі, паплавец, сталі там, закурылі, хто курыў, і пайшлі дадому ўжо хутчэй.

На зямлю падаў змрок.

Увесь час вучыцель быў радасны, многа гаварыў і, зацікаўлены ўсім, слухаў. Яму было весела ад таго, што мужчыны гавораць яму пра сваё поле, гаспадарку. Слухаючы іх, думаў: «Пачну скора і я гаварыць ім пра тое, чаго яны не ведаюць».

Потым ён успомніў пра карэспандэнцыю, і яму зрабілася яшчэ весялей.

Пачаў думаць аб дзецях, якія заўтра прыйдуць у школу, аб самой школе. Потым яму ўспомніліся кнігі, якія ён не вельмі даўно прывёз з горада запакаванымі ў цвёрды мяшок і дагэтуль нават нераспакаваныя. У яго з'явілася жаданне сягоння жа распакаваць іх, перагледзець і засесці за іх з гэтага дня...

І дзень, які толькі што скончыўся, стаў здавацца яму карысным і вялікім між усімі днямі, якія былі раней.

— Паеду я на гэтых днях у горад,— сказаў ён мужчынам,— ёсць тут, ведаеце, многа нявырашаных школьных спраў.

— Яно гэтак... Пэўна, што трэба ехаць, калі ёсць дзела,— хмурна і задумёна адказаў Максім.

— Будзе, мусіць, ясная пагода: вецер робіцца нейкім сухім,— сказаў сярод маўчанкі Змітрок і закашляўся.

— А хто яго ведае,— пачуўся ззаду голас,— разбярэш ты з асенняю пагодаю. Тут выблісне сонца, а тут дождж ліне. Тут, брат, не ўгадаеш. Гэта нек раз, гадоў дзесяць таму, ездзілі мы ўвосень за Лошу канавы капаць. Дык пагода была ўвесь час добрая...

І чалавек пачаў апавядаць, як капалі некалі канавы, як была ўвесь час добрая пагода, як палілі потым дажджы...

Калі падыходзілі к вёсцы, было ўжо саўсім цёмна.

Усе слухалі апавяданне і маўчалі, і моўчкі адчувалі тое, што знаюць і чуюць адзін другога, як самога сябе...

Так моўчкі ўвайшлі яны ў вуліцу, так падышлі, па сырой убітай калясьмі зямлі, к школе і так жа моўчкі там развіталіся і разышліся, уносячы кожны ў сабе радаснае пачуццё агульнай блізасці між сабою.

# УСЯМУ СВОЙ ЧАС

У цёмнай сялянскай хаце, прыткнуўшыся грудзьмі к сталу і развярнуўшы перад сабою жмут розных папераў, сядзіць наркамземаўскі інструктар па рыбалоўству — малады хлапец, гадоў пад дваццаць два. Валасы на галаве яго зачэсаны «пад польку», ад чаго твар яго прымае нейкі лукавы выгляд; разглядаючы свае паперы, ён раз па разу прыжмурвае сваё правае вока, і здаецца, што знае ён нешта смешнае, але не хоча гаварыць, а толькі збіраецца падмаргнуць некаму дзеля гэтага выпадку.

Проці яго, на вузенькай лаўцы, засланіўшы плячыма, як засланкаю, акно, сядзіць сам гаспадар хаты — Антось Канатопскі — сухі, як трэска, увесь шэры чалавечак, аброслы граэнымі валасамі, нячэсаны і, мабыць, нямыты.

Інструктар выпадкова даведаўся, што Антось, не маючы патэнта, ловіць рыбу ў рэчцы, і явіўся сам к яму, каб выведаць, у чым справа. Антось ніяк не можа зразумець, чаго хоча ад яго інструктар і якое яму дзела да таго, што ён, «спрадвеку ўсім вядомы рыбалоў», ловіць рыбу. Інструктар, у сваю чаргу, не разумее Антося — ён дзівіцца з таго, што Антось не ведае, што гэта такое патэнт.

— Дык, кажаш, патэнту няма ў цябе? — пытае ён Антося.

Антось часта міргае вачыма, гладзіць рукою па лбу, чэша ў патыліцы, моцна сапе, як бы цягнучы што-небудзь цяжкае, і стараецца як-небудзь дадумацца, што гэта такое патэнт. Памаўчаўшы так хвілін з тры, ён дадумваецца вось да чаго:

«Калі я не ведаю, што гэта такое патэнт, то напэўна яго ў мяне няма».

Паважна, не спяшаючы, прапусціўшы праз свае мазгі гэтую думку, Антось кідае пагляд на інструктара і рашуча гаворыць:

— Не, мы абыходзімся без патэнту. Такой штукі ў нас няма.

— Дык, значыцца, так і ловіце без патэнту? — пытае зноў інструктар.

«Што за ліха,— думае Антось,— я зроду не чуў, каб дзе лавілі рыбу нейкім там «патэнтам». Гэта, мусіць, нейкая рыбалоўная прылада,— дагадваецца ён,— мусіць, бальшавікі прыдумалі».

— Так і ловім,— адказвае ён інструктару,— мы ўсё найбольш сеткаю або венцярамі. А «патэнту» ніякага мы не маем. Нават «трыгубіцу» мала калі пускаем у ход, хіба калі трапіцца вялікі дождж ды разальецца рэчка...

«Ён або прыкідваецца дурнем,— думае інструктар,— або сапраўды не ведае, што гэта такое патэнт. Але мне ўсё роўна, абы ён прызнаўся, што ловіць рыбу, не маючы патэнту. Больш мне нічога і не трэба».

Інструктару зрабілася весела ад таго, што ён «накрыў аднаго злодзея».

— Вы думаеце, таварыш,— гаварыў тым часам Антось,— што ў нашых рэчках вельмі вялікае разгарненне? Куды к чорту! Я ж кажу, «трыгубіцы» нават не ведаем, а не то што, як вы кажаце, «патэнту». Вунь на што ўжо мой сусед Якуб, Сідараў брат, добры рыбалоў, а і той найбольш усё сеткаю арудуе.

— А тут і больш у вас ёсць рыбаловы? — настаражыўся інструктар.

— Чаму не! Уга-а-а... Колькі хочаце!..

— І ўсе без патэнтаў?

— Ну, няўжо ж з патэнтамі! Найбольш з сеткамі.

Цяпер не толькі інструктар, але і сам Антось стаў вясёлы: ён быў рад, што найшоўся чалавек, з якім можна пагаварыць на любімую тэму.

«Відаць, цікавіцца гэтым дзелам,— падумаў Антось,— бач, як, падла, дапытваецца. Мусіць, сам рыбалоў».

І весела Антось загаварыў далей:

— Часам, святым днём або павольным часам, як выйдзем учатырох — я, Якуб, Сідараў брат, сам Сідар ды Габрусь Скіп'ёўскі, ды як прабяром у дзве сеткі ўсю рэчку ад «Лукаў» ды аж у самыя «Пераснікі», дык што набяром гэтых шчупачкоў — страшэнная моц! Так, ліха ім, і круцяцца ў сетцы, як чэрві. Такія, пане мой, таварыш, сытыя, каб на іх упадкі, як парасяты. А часам, ліха яму, як уб'ецца пад бераг, дык лупім-лупім боўтам, аж заса-

пёмся, пакуль яго адтуль выганім. Мы ўсё з Сідарам найбольш сеткі застаўляем, а Габрусь з Якубам боўтаюць. Так злаўчыліся: сам боўт, здаецца, у руках у яго ходзіць... А жабы адно пазіраюць з-пад карчоў, вочы вытрашчыўшы!..

— А патэнту вы ніколі не думалі браць?

— А дзе ж яго возьмеш? Мы ніколі нават і не чулі пра гэтую штуку; у нашай старане, мусіць, няма іх.

Панізіўшы голас, Антось закончыў:

— А скажыце, таварыш, якога ўстройства гэты патэнт? Можа б з ім лаўчэй дзела пайшло б?!

— І многа лаўчэй,— весела адказаў інструктар.

— А-а-а... бачыце?! Няўжо лепш нават за «трыгубіцу»?! Нашто ўжо мая «трыгубіца» слаўная, а і то, кажаце, лепш. Вось гэта дык штука!..

Інструктар пачаў пісаць пратакол.

Цераз тры тыдні ў валасным іспалкоме старшыня сказаў дзелаводу:

— Прыйшла, браце, з Наркамзема папера, каб узыскаць штраф з Антося Канатопскага і яшчэ з трох другіх мужчын за тое, што ловяць рыбу, не маючы патэнту. Напішы аб гэтым старшаму міліцыянеру.

— Добра,— адказаў дзелавод,— напішу. Ды трэба яшчэ разаслаць па сельсаветах загад Наркамзема аб гэтых самых патэнтах, каб усе, хто займаецца рыбалоўствам, атрымаў патэнт. Ён ужо, гэты загад, даўно мне рупіць, тры месяцы ўжо валяецца ў шафе, ды ўсё ніяк не прыбяруся...

— Верна, браце, зрабі і гэта. Хай усё будзе зроблена ў сваю пару.

— Ды яно ж гэтак; усё трэба рабіць у свой час,— адказаў дзелавод і стаў шукаць на дне шафы, у кучы розных папераў, загады Наркамзема аб патэнтах для рыбаловаў.

# ЖАЛЕЗНЫ КРЫК

## I

У цемені ночы ўперлася ў чорнае неба маса камення і жалеза, раскінула пры зямлі і ўскінула ўвыш роўна-бліскучыя сонцы і загула роўна-крыкліва. Шырокімі формамі цяжка прыпала да зямлі, грузна яе прыдавіла, урасла ў яе нерухома... І заліла ноч пахам гарэлага вугалля і бензіну.

Здалёк дзівосным сваімі абрысамі здаецца гэтае месца: светлая выспа на цёмнай зямлі, грымучы горад зблізку — стаяць нерухома высокія сцены, за імі ходзіць-выплывае шырокі гул, нешта настойчывае кіпіць і рвецца ў гарачых трубах...

З правага боку, дзе асвечаныя сцены гранічаць з ноччу, вытнуў горад у палявую цемень тры круглыя вочы некага хітра-шыпучага, жывога. Яно дыхае цяжка гарачаю парай і раз-поразу хрыпла крычыць, для нечай прадасцярогі. Доўга і роўна выцягнулася яго цела, нізкае, чорна-блішчастае. Здаецца, уздымаюцца ад нецярплівага подыху яго абкураныя грудзі, нешта ў іх калоціцца, мокра клякоча, вырываецца. А тры круглыя вочы не міргаюць — глядзяць у густую ноч, як бы рыхтуючыся рынуцца ў яе і разагнаць яе слупамі свайго роўнага свету...

Ноч хітра падышла палямі к гораду, прысунула бліжэй чорныя кучы кустоў, больш згусцілася, як бы задаўшыся мэтаю не пусціць у сябе жалезнага пасланца горада. Адгранічылася яна ад бензінна-вугальнага паху вострым пахам палявой сырасці, прэлага лісця, гнілога дзерава. «Тут мае абшары»,— гаворыць яе дзікая ціш. І ўсё там здаецца вечна-сонным, нежывым, ахвачаным адвечным тленнем, баязлівасцю ўсяго жывога, непрыціхшага... І глухнуць там, у кустах, стогны начное птушкі і плач панурых ваўкоў...

Ад магутнага крыку раптоўна страсянулася ноч. Жоўты слуп пара ўскінуўся ўгору над трыма круглымі вачыма. Крык вырваўся з жалезнага горла, стукнуўся ў каменныя сцены і пабег над соннымі кустамі; некалькі разоў празычэў у далёкім лесе, слабым для таго, каб не прыняць яго ў сябе. Радасным звонам абазваўся жалезнаму крыку дрот на слупах, ахвачаны ноччу ў пустым полі, а поле сцішыла воўчы плач і птушыныя стогны. Толькі заплакала нешта ціхім, слізкім плачам за кустамі ў балоце...

Абкураныя грудзі дыхнулі глыбока, і жалезнае, доўгае цела рынулася з горада ў цёмнае поле. Свет вачэй разагнаў цемень ночы на дарозе, рассунуў кусты. Грануў жалезны марш шыбкага ходу:

Та-та-тах, та-та-тах! — застукала знізу.

Дзі-гі-дзі! — заспявала зверху звонам жалеза.

Пых-пых! — шырока-часта задыхалі жалезныя грудзі...

Грымела звонка і суха паветра вакол, енчыла ноч баязлівай слабасцю. Цягнік рэзаў прастору грудзьмі і крыкам...

Там, далёка ў палях, туліліся да зямлі ноччу нізкія хаты. Заплаканыя вокны іх асунуліся да прызбаў з кастрыцы, жоўкла перад імі ў сырасці асенняй ночы млявая крапіва. У хатах пад парванымі кажушкамі спалі ціхамірныя людзі. За гнілымі сцянамі збоку — іх адвечныя таварышы ў палявым жыцці, каравыя ціхія конікі. Хаты, агарнутыя ноччу, маўчалі ў тумане — драмалі так, як і поле вакол іх, і дзікія кучы дрэў...

Жалезны крык цягніка дакаціўся сюды ў поўнач, гулка і моцна. Абазваліся ціхенька, баязліва абуджаныя хатнія птушкі пад вокнамі на кастрыцы, конікі бяздоннасцю вачэй пастараліся ўглядзецца ў цемень хлявоў, прыніжаныя крыкам старыя хаты яшчэ больш, здаецца, прыгнуліся гарбамі саломы да зямлі. І толькі ў ціхіх, сонных людзей, хто пачуў жалезны крык, закалацілася ў сэрцы нешта свежае, непадобнае да таго, што бывае пры лірніцкім, аднатонным скрыпе калёс. Гэта новае ў сэрцы сонных людзей з'явілася на момант ад жалезнага крыку, несвядома, раптоўна і востра, як подых свежага паветра ў пограб. Рэдкая з'ява быў тут жалезны крык. У гэтым шэрым кутку, у царстве ціхіх скрыпаў дзерава, плаксівых

песень ветру, ціхіх людскіх крыкаў на пакорных коней чуўся ён толькі раз у тры дні, кожны раз у поўнач.

І кожны раз абуджваў ён людскія пачуцці — ніяк не маглі звыкнуцца тут з ім людзі.

Над белаватай плямай вады зменшыўся ход цягніка. На балотных выспах-куп'ях ціха шапталася сухая асака, жаўцела ў белаватым ад вады і чырвоным ад паравіка адсвеце шчаціна скалечанага касою чароту. Расступіўся густы іх вялікі адвечны лес-пушча — даў дарогу грымучай жалезнай машыне. А там ізноў шырокае поле, скованае начным туманам, укрытае па мокраму ржышчу цеменню ночы.

Ціха і цёмна...

Гучна і светла...

З жалезным громам і крыкам імчаўся цягнік па дзікай зямлі.

## II

На паравіку, абапёршыся локцямі на гразкі, запацеўшы жалезны выступ, стаяў машыніст — чалавек чорны і маўклівы, пакрыты тонкім пластам мокрай сажы і мутнага поту. Уся яго буйная, акруглая фігура выяўляла сабою цвёрдую ўпэўненасць у сваёй сіле, веру ў патрэбнасць і вернасць свае справы. Сухімі кручкаватымі пальцамі ён час ад часу браўся за вісячы шнурок, і паравік хрыпла крычаў. Тады машыніст высоўваўся збоку паравіка на двор галавою і грудзьмі, асвечаны чырвоным бляскам, пільна ўглядаўся наперад. І ў яго шырокіх вачах свяцілася жаданне саскочыць з свайго цеснага месца на паравіку і моцна пабегчы між блішчастых рэек, далёка пакінуўшы за сабою скоры цягнік. Крык паравіка жыў ва ўсёй яго істоце, громам і стукам быў повен усякі рух яго мускулаў. Для яго ўвесь свет быў ахвачаны жалезнымі зыкамі, і часта не трэба было, а ён застаўляў крычаць паравік.

Збоку ў яго, радам, мітусіўся высокі, тонкі і вёрткі чалавек з шырокай лапатай у руках. Раз-поразу абварочваўся ён назад, набіраў на лапату вугалля і размашыста кідаў у рот машыны, у якім суха гуло і свістала гарачынёю. Вузкія, хітрыя вочы яго весела, пасмешліва бегалі па баках, і здавалася, што хоча ён пагаварыць з кім-небудзь ды не адважыцца зачапіць задуменага машыніста...

Некалькі разоў засаб крыкнуў паравік. І тады адтуль,

дзе качагар браў лапатай вуголле, ссунуўся зверху худы і шчуплы чалавек, з тварам зеленаватага колеру, абросшым рэдкімі, мяккімі валасамі.

— Ты што? — сказаў яму радасна качагар.

— Не магу,— адказаў ціхі, вялы і слязлівы голас,— нашто ты крычыш так часта, без патрэбы?

Маўкліва і сурова глянуў вакол машыніст.

— А што, хіба нявесела ад крыку?

Гэта качагар насмешліва і пільна пазіраў у вочы чалавеку.

— Прыпыні машыну, я злезу, калі так,— сказаў той і стаяў, сагнуўшыся, успёршыся на палку, з клункамі за плячыма.

Узяў яго качагар за дзесяць вёрст ад горада, на раз'ездзе: папрасіўся пад'ехаць «вёрст сорак».

І цяпер стаіць ён, сутулы, мізэрны, на паравіку. Каменем падаюць словы яго:

— Не крычы, стой, дай злезу...

— Ды куды табе трэба і адкуль ты ідзеш?

— Ніадкуль і нікуды — хаджу я па зямлі, гляджу і шукаю.

— А чаго шукаеш?

— Цішыні.

— А нашто яна табе?

— Каб жыць... Не магу я жыць у шуму і крыку. Усюды жалеза, людзі як жалезныя. Гіне цішыня, радчэй стаў чуцён ціхі царкоўны звон, людзі рвуцца да шуму...

— Дык ты воўк, ідзі ў лес, там табе будзе ціха, адзін там будзеш.

— Няма і там цішыні: прыйдуць у лес людзі ды папытаюць — хто ты такі?

— Дык жыві ў людзях, калі так.

— Не магу; людзі другімі робяцца. Прападае іх цішыня. Даўней людзі былі слязлівыя, мяккія, а цяпер — іншыя. Ахвацілі яны сабою ўсё, працягнулі лапу сваю на ўсю зямлю. І няма дзе супачыць ад людзей.

— Хэ-хэ! А ты хіба не чалавек?!

Плаксівы чалавек больш яшчэ сагнуўся, мацней прыціснуўся да чорнай сцяны. Загаварыў, як бы сам сабе, ціха, задумёна:

— Пайду я куды-небудзь у глухую мясціну, пашукаю там людзей ціхіх, а калі не знайду — адзін, разам з птушкамі, дажыву свой век...

— Эй, ты, слухай!..— гэта машыніст раптоўна абярнуўся тварам да чалавечка.— На чым ты цяпер едзеш? Ты ведаеш, на чым стаіш ты?! Слухай! Усе вагоны за намі, платформы ўкрыты, напоўнены машынамі. Вязём мы іх з вялікага горада ў ціхія куткі, дзе людзі жывуць з птушкамі. Усе гэтыя машыны грымучыя, крыклівыя, з большым яшчэ крыкам, як гэтая наша, якая імчыць нас. І не знойдзеш ты нават месца такога, куды б не працягнула гэтая наша машына свае сілы. Так што дарэмна ты шукаеш... Людзі сталі «жалезнымі» душою, ды затое моцнымі ў жыцці. Во, бачыш?!

Машыніст рвануў на сабе брызентавую сарочку і агаліў грудзі і жывот. Там быў шырокі чырванаваты рубец, крывы і тонкі, як вяроўка. Прыліп ён з правага боку да цела машыніста.

— Во, бачыш?! Даўней, калі папавалі такія, як ты, ціхія людзі, калі не імчаліся так, як мы цяпер на машыне, а хадзілі, як ты, з палкаю, як мурашкі, прапаў бы я, са сваёю гэтаю хваробаю. На шчасце маё радзіўся я ў цяперашні век машын. І два месяцы таму назад «машынны» чалавек — вучоны чалавек, разрэзаў быў мне вось тут цела і перайначыў там нешта. І я вось здароў і ганю цяпер сваю машыну. Чалавек — сам машына і знае сябе. І калі адна трубка ў сярэдзіне папсуецца — можна яе паправіць. А ты што?! А ты прападзеш ціха, як звер у лесе, як птушка ў полі, ад самай маленькай прычыны... Зямля жалезным, машынным крыкам гаворыць, што ёсць чалавек на ёй!..

Чалавечак яшчэ больш прыціснуўся да чорнай сцяны. Уся яго істота выяўляла ўжо баязлівую, маўклівую пакорнасць. Барада яго апусцілася ўніз, і вочы пацямнелі.

— Ды ты хто такі раней быў?

— Таксама хадзіў.

Машыніст шыбчэй пусціў паравік, нервова рвануў шнурок...

Доўга ў палявым змроку зычэла гулкае рэха.

### III

Зямля — як зялёнае мора, роўна-шырокая дарога — як роўная жалезная істужка, перарэзаўшая зямлю.

Поле ўсё ўкрыта макратою ад растаўшага першага інею. Смяецца жоўтай ад сонца ўхмылкай дарога, звонкая ад дрыжачых рэек.

У дзіч сініх паплавоў урэзалася яна.

Бягуць яны насустрач збітаю сінню сваёй атавы, зліваюцца ў бясконцы абшар рэдкімі сухімі былінкамі, струхлеўшымі на ветры сухімі конскімі касцьмі.

Пахне ветрам, кружацца далёка чорныя кроплі варон, плачуць купіны шумам травы...

Асвечаныя ранішнім сонцам — за паравіком нізкія платформы. Яны ўзнімаюцца ўгору сваім цяжкім грузам. Іх груз — жалезныя машыны. Бясформеннымі масамі ўзнімаюцца пераблытаныя калёсы, тоўстыя прэнты.Ззяюць чорнымі, расчыненымі дзіркамі; кожная дзірка — рот машыны.

Блішчыць груз платформ пад сонцам белым срэбрам абгладжанай сталі, адлівае зеленню высахшай фарбы.

З платформ у бакі навіслі і тырчаць нейкія трубы. Іх многа. Некалькі іх роўна ўзнялося вышэй тоўстага коміна паравіка, цягнуцца стройна ўвыш, як бы хочучы падняцца верхнім канцом вышэй чорна-густога дыму, пажоўклага ад сонца...

Дзень прыйшоў ціхі і светлы. І ад яго свету і цішыні як бы стаў раўнейшым, больш рытмічным грымуча-жалезны марш бешанага хору цягніка.

Спявалі калёсы радасную песню вялікага імкнення, цяжка ад жалезнай натугі дыхаў-соп паравік, клекатала, рвалася нешта ў ім. Свістам гаварыла нешта тонкае, поўнае дзікага захаплення, і жалезны машынны груз усімі сваімі, самымі маленькімі, шрубкамі і кручкамі зычэў ад шыбкага руху. Уся жалезная маса грымела, цяжарам сваім імчалася.

Радасная песня была ў жалезным громе...

З сілаю, шыбчэй наперад, па дзікай і пустой, роўнай палявым выглядам, зямлі!..

На момант цягнік прыпыніў бег каля жоўтай, маленькай будынінаы пры дарозе. А з другога боку шурпаціўся пад сонцам каравы плот-частакол, за ім куча раскіданых у беспарадку, шэранькіх хатак. Хаткі панура, як бы кагадзе ўцешаныя ад плачу, пазіралі мокрымі вокнамі па сонца.

На частаколе тырчыць угору пагнутым сашнікам дзеравяная саха, пад частаколам іржавее маленькі, крывы, старасвецкі плужок.

Каля хат, гатовы да адходу, трашчыць навенькі, блішчасты аўтамабіль. Каля яго поўна людзей. Яны, гэтыя

людзі, павольныя ў руху, нязграбныя ў сваёй грубой адзежы. Яны тупаюцца на адным месцы, прыглядаюцца, сагнуўшыся.

На аўтамабілі таксама стаяць кучаю людзі.

Цераз плечы іх абвіліся жоўтыя трубы, бліщчастаю меддзю адзначыліся ад гнілой саломы на зямлі каля хат.

І хвацілі людзі трубамі мелодыю зычную, радасную, светлую.

Яна змяніла грымучы марш цягніка; і было ў яе рытмічных пералівах нешта агульнае з гэтым маршам, нешта такое ж радасна-моцнае, поўнае захаплення.

Толькі не крычала яна аб сваёй сіле, не глушыла сабою ўсяго... Ёю былі поўны хаты і платы, людзі — пры ёй і паводдаль. Светлымі ўхмылкамі пакрыліся ад яе твары нязграбных людзей каля аўтамабіля. І машыніст, высунуўшы голаў з свайго цеснага месца, затрос у такт ёй плячыма.

З музыкаю пакаціўся аўтамабіль ад хат, а людзі падышлі бліжэй да цягніка.

Ён стаяў вышэй хат — жалеза, радам з саломай.

Вось падышоў адзін нізкі, худы, шчуплы. Ногі яго ў вялікіх лапцях, мякінаю абсыпаны вострыя плечы. Ён лахматы, нязграбна падпяразаны, запылены. Паправіў ён на сваім частаколе саху, каб не ўпала, і пайшоў разам з усімі да цягніковага грузу.

— А-я-й!..

— О!..

Гэта галасы былі пры платформах.

Гэта каравыя пальцы шчупалі калёсы і прэнты машын.

Гэта вочы ўглядаліся ў зялёнае жалеза.

Рукі тузалі вялікі трактар на пярэдняй платформе. Бляск яго вялікіх і вострых сашнікоў укрыўся людскімі рукамі.

І здаецца, саха на плоце і прымітыўны плужок пад ім сталі для людзей непрыкметнымі, зліліся зусім з саломай і зямлёю.

І больш, як ад меднай мелодыі, асвяціліся радасным захапленнем твары людзей ад нябачаных, вялікіх машынплугоў.

— Эх ты!..

— Вось яно!..

— Зняць бы яго сюды ды прайсці па нашай зямлі!..

— А то, эх ты!..

— Гэта ў вас што за музыка была з аўтамабілем?

Голас у машыніста гулкі — прывык ён да вечнага шуму машын.

— Гэта ў нас шэфы былі з горада — два дні, з музыкаю.

Голас у каравага чалавечка ціхі, прывыкшы да шэпту травы і саломы...

— Шэфы!..— загулі больш галасы.

— Шэфы з гора-ада!

А тонкі і высокі качагар, у сярэдзіне свае будкі, гаварыў з плаксівым чалавечкам-пасажырам.

— Дык што, бачыш?! — гаварыў качагар.— Дзень прыйшоў, і людзі рады. А ты што і як?..

— Радасць на зямлі ў іншым; для мяне яна ў цішыні. Чалавек павінен быць ціхім і пакорным, калі хоча быць радасным ціхаю радасцю. Былі даўней людзі такія, ішлі людзі ад людзей, у пустыя месцы, а гэта другое па зямлі. Шэрыя вунь хаты, ціхія, а каля іх бешаная музыка, і людзі рады ёй. Дзе мне знайсці цішыню дзікай травы?

— Ды ты даўней чым займаўся?

— Таксама хадзіў па зямлі.

— А чым жыў?

— Людзі давалі.

— Дык жа людзі, чым больш адракаліся ад тваё гэтае дзікае цішыні, тым больш мелі. І ты гэтым жыў, а не разумееш!..

Ціхі чалавечак не слухаў, раптоўна, сагнуўшыся, пайшоў з паравіка. Спусціўся ён уніз і згінуў наперадзе.

— Шэ!..

Загулі яшчэ раз галасы, і людзі раптам адхвацілі рукі ад жалезнага грузу платформ.

— Шэфы,— дагадаўся машыніст па ходу машыны. Ён зноў напоўніўся нястрыманым імкненнем імчацца.

Людзі асталіся ззаду...

І сталася так, што той, каравы і шчуплы, узняў рукі ўгору і пабег за цягніком. Машыніст неспакойна агледзеўся. Нешта чорнае, маленькае асталося ззаду на дарозе, абкружанае людзьмі. Тады машыніст спыніў ход цягніка і, саскочыўшы, пабег па дарозе.

— Сам кінуўся! — шурпаціўся голас у кучы людзей...

Разрэзанае напалам калёсамі ляжала ўпоперак на да-

розе цела чалавека-пасажыра. І цяпер толькі машыніст, нагнуўшыся, добра разгледзеў яго.

Было яно тонкае, худое. На белабрысым твары яго вызначалася нешта такое, што гаварыла:

— Тое, што было, творанае некім невядома калі, мінулася,— было яно прывычнае, спакойнае і роднае. Тое, што прыйшло — чужое, незразумелае. Патрабуе яно ўласнага актыўнага ўдзелу, і яно чужое... Вакол — жах існавання...

І быў роспач у шырока расплюшчаных, шкляных вачах перарэзанага чалавека.

Набегшыя людзі адцягнулі яго ўбок ад дарогі, да мокрых кустоў.

Ішлі з лапатамі за плячыма па працу рабочыя. Яны бачылі высокі цягнік з грузам, застыўшы па месцы, збоку, каля кустоў — кучку людзей і падышлі бліжэй. Зышліся і яшчэ людзі.

І многія пазналі разрэзанага чалавечка.

Сказалі машыністу, што ён даўней многа раз праходзіў тут, ідучы «на пакланенне» і збіраючы па вёсках «на свечку».

І чамусь то ніхто не пашкадаваў яго. Як бы чужым сабе ўсе адчувалі яго.

Яго адцяглі яшчэ бліжэй да ядлаўцовага куста і кінулі. Уехаў ён худым затылкам у выскубленую жывёлай траву, перамешаную з дробным мохам. У сваёй постаці захаваў ён адзнакі натугі — пальцы былі сціснуты ў кулакі, ніжняя губа была глыбока пракушана зубамі.

З-за пазухі ў яго вылез, павешаны на шнурку на шыю, жоўты мяшэчак, з надпісам: «Святыя мошчы». Ногі яго, у вострых ботах, шырока раскінуліся наскамі ў бакі, пакудлачанае калёсамі ватовае паліто падцягнулася ўверх, і было такое ўражанне, як бы і нежывы хоча ён усхвапіцца і рынуцца куды-небудзь ад людзей...

Людзі ж ад яго сталі неўзабаве знікаць і спешна зноў падыходзіць да прыпыненага цягніка. Зноў каравыя рукі з любасцю пагладжвалі і абмацвалі вялізны, чатырохлямешны трактар на пярэдняй платформе. А на задняй філасофскі-маўчліва высілася тоўстая дынама.

І так было, пакуль цягнік не аглушыў крыкам асеннюю раніцу і зноў не пабег па бліпчастых рэйках, поўны сваім вечным імкненнем — імчацца.

## IV

Вось там, пры самай дарозе, стаяць вясёлыя людзі, глядзяць на цягнік і чагосьці смяюцца. Яны ў момант азіраюць груз цягніка і раўняюць з тым, што самі маюць.

А паводдаль ад іх, па шырокаму, чорнаму полю, коціцца на шырачэзных калёсах трактар. Вернецца пабок пад ім шырокімі плітамі цвёрды дзірван, узлятаюць вырваныя карэнні даўнейшага лесу, трашчаць пад вострымі сашнікамі.

Адзін чалавек сядзіць на трактары, а другія, многа, стаяць пры дарозе і смяюцца.

А на той бок дарогі, за плотам з мокрых прутоў, цягне маленькі плужок дробненькі конік. Шэранькі чалавечак грудзьмі ўзлёг на плуг, уехаў з натугі лапцямі ў кепска пакорпаную раллю, цяжка дастае адтуль ногі, нехаця валачэцца ззаду. Ён утомлены, спацеўшы. І відаць, як трудна яму карпаць сваю зямлю.

І здаецца ён тут фантастычнаю істотаю, папаўшаю сюды выпадкова.

Пад ім — пакорпанае поле, куды конік яго губіць апошнюю сілу.

— Но, но!..— як стогн, каменем падае голас яго.

Вясёлы свісток перабівае яго голас па другі бок дарогі. Поле там роўна абложана плітамі раллі. Чалавек горда ездзіць на сваёй машыне.

— Ма-а-шы-ны-ы!..

Машыніст з паравіка дагадваецца, што гэта кажуць вясёлыя людзі на раллі.

— Ма-а-шы-ны-ы!..

І той каравы чалавечак абварочваецца на грукат цягніка і з любасцю, з агнём у вачах глядзіць на яго шыбкі бег...

Што хвіліна — то новы кавалак зямлі перад вачыма.

І раптоўна буйная вясёласць ахватвае машыніста. Яны ўдвох з качагарам мятусяцца ў нейкай нецярплівасці ў сваім чорным кутку, самі такія ж чорныя, закураныя.

Некалькі раз засаб тузае машыніст шнурок.

Некалькі раз засаб захлёбваецца зямля ў жалезным крыку.

І раптоўна вынырнуў з бакавой дарогі аўтамабіль.

З хвіліну ён, разам з паравіком, імчаўся ў адну дарогу збоку.

І ўлавіў машыніст вухам абрывак мелодыі, па ходу яшчэ больш жывой музыкі.

Яна — шыбкая, як ход машыны.

Радасная — як імкненне імчацца.

На момант яна злілася з маршам бегу цяжкага цягніка і заскакала ў вушах, над зямлёю.

І ў машыніста яна доўга жыла.

Спявала ўсё нутро машыніста:

Пір-пар-пір-пар-піра-пара-пар!..

Піра-пара-піра-пара-піра-пара-пар!..

І яшчэ і яшчэ, усё больш і больш тузаў ён за сігнальны шнурок...

...Весела жыць!..

На глухім паўстанку, дзе павінна была астацца цяжкая дынама, што была на задняй платформе, сабралася многа людзей. Прыйшлі яны сустракаць сваю, выпісаную з далёкага горада, машыну доўгачаканую.

Яны рознакалёрныя. Тут і сяляне пазіраюць на адчэпленую платформу, тут і нейкія чысценькія спрытныя людзі. З любасцю глядзяць, пагладжваюць халодна-гладкае жалеза.

Машыніст, ужо супакоены, выйшаў да людзей.

— Ну што?

— Ды нічога.

— А ўсё ж такі?

Машыніст ухмылкай прыцягнуў да сябе бліжэй людзей.

— Бач, махіну якую вам прывёз. Многа вас ёю асвяціцца думае?

— Шэсць вёсак і станцыя.

Бум, бум, бум!..

Пробуюць гучнасць жалеза нанешта; падыходзіць кожны...

## V

Плакала раз восень імглістымі слязьмі, галасіў над мокраю зямлёю нудна вецер. Разлягласл шэрасць макраты па пустым полі.

Крайняя хата асунулася да зямлі гнілою саломай і так нудна пазірала на гразь вуліцы, як нудна спявалі калёсы драбін...

У хаце вілі ў кутках густое павуценне павукі, тараканы шушукаліся па сценках.

І было ўсё тут ціха, зусім спакойна. Усе шумы і стукі былі павольныя, размераныя і баязлівыя. І так жа ціха гаварылі тут людзі...

На пасцелі, пры сцяне ляжаў худы чалавек.

Хвароба падняла яго твар уверх, зрабіла яго вострым, расцягнула шырака вочы, сіненькімі жылкамі пераблытала лоб.

Кожны дзень падыходзіў да яго хлопчык некалькі раз, кожны дзень выслухваў яго — хворага бацьку — па некалькі раз і ішоў рабіць на двор тое, што сказаў і што навучыў бацька.

Прыходзілі да яго ў цёмную хату людзі, ціха шапталіся, прыносілі з сабою, здаецца, яшчэ больш цішыні.

Ківалі яны галовамі, плакалі, бяссільныя зрабіць штонебудзь.

І было жудасна хлопчыку глядзець у шырока расплюшчаныя, застыўшыя вочы хворага бацькі.

Доўгімі начамі лезла вільгаць праз шчыліны ў хату, варушылася нешта над хатай ціхае.

А ночы былі доўгія, бясконцныя і, як усё заўсёды тут, ціхія.

І ў гэтай цішыні доўгі час, паволі ўміраў тут чалавек. У яго свядомасці ўкаранілася за жыццё і за хваробу рахманая пакорнасць, як бы ўпэўненасць, што гэтак трэба, што чалавек слабы, каб перамагчы адвечную цішыню, нерухомасць жыцця...

І пачала гэтая ціхая пакорнасць уваходзіць у хлопчыка.

І неўмеўся ніхто, неўмелася нічога, каб ажывіць людзей, каб зняць з уміраючага чалавека зусім лёгкую, зусім простую хваробу...

Ахвачаныя цішынёю жыцця, людзі былі беспарадныя, як дзеці.

Кончыўся чалавек ад лёгкай хваробы, паступова з'ела яна яго.

Гэта ж успомніў машыніст сваё дзяцінства, на малым паўстанку, пры адчэпленай машыне.

Стаіць вось мізэрны чалавечак, худы, абарваны, напамінаючы машыністу даўно памёршага бацьку. Стаіць ён і абмацвае рукамі машыну, радасна смяецца.

Машына шумная, грымучая.

Пачынаюць гусці машынамі глухія куткі, шэранькія людзі парушылі імі цішыню сваіх дзён.

І дні іх бягуць, уздымаюць сваіх людзей вышэй.

Адтуль пачынаюць бачыць людзі зямлю ўсю, розныя прычыны ўсяго...

Адышоўся машыніст задуменна ад адчэпленай дыпамы, раптам з'явілася ў яго пачуццях і думках:

«Эх ты, зямля чалавечая!

Закрычы ты ўся, загрукай жалезам машын!

Загрымі гулам жалезнага імкнення чалавека!..

Г-гэй, адыходзь далей, г-гэ-э-эй!..»

Жалезны крык на момант аглушыў ціхі паўстанак, рвануўся, аж страсянуў жалезнае горла, перабег цераз поле і раскаціўся там многімі рэхамі.

І здавалася, што ўся зямля чула яго.

Працягнуў каменны горад жалезную руку нізенькім, далёкім хаткам пры дарозе. Сціснула жалезная рука саломеную руку. І вырастае ў прыдарожных хатах жалезная страха.

Пачынаюць зычэць жалезным звонам прыдарожныя хаты.

І ад звону смяюцца людзі...

...Самая апошняя на дарозе, глухая станцыя прыняла ўвесь груз цягніка. Азелянілася яна фарбаваным жалезам, напоўнілася людзьмі запыленымі, мякіннымі.

Жалезнымі тварамі машыны маўкліва-філасофскі пазіралі на мокрую зямлю і на людзей, як бы думаючы цвёрдую думу моцна, навекі ўрасці тут у глебу...

## VI

Поле перарэзана рэйкамі, як нажом. Жоўтая сцежка ўецца на ўзгорку да лесу. Па сцежцы гуляюць дзікія птушкі, крычаць па-асенняму. Трасуцца па сцежцы скрыпучыя драбіны, у паветры над імі калышацца кудлатая галава і жоўтыя рагі дзеравяных віл, раз-поразу фыркае конь, трасе вострым задам. Худыя рэбры яго зрэзаны пугаю, а голас у кудлатага чалавека сухі, траскучы, як скрып сухога дзерава на беразе лесу ў буру:

— Ну-ы!..

Апошнюю працу канчаюць людзі па полі. Уздзіраюць астачы ржышча, так нечага карпаюцца па адным пры шырокіх, апусцеўшых за восень ад травы, межах, купчастых ад густога палыну і быльніку... Глядзяць на свае межы і ківаюць галовамі:

— Чым ты ўздзярэш іх?!

Вось злез там, каля лесу, кудлаты чалавек з свайго скрыпучага воза і корпае нешта ў зямлі сваімі дзеравянымі віламі. І думаецца:

«Чаму не адзет ён яшчэ ў звярыную шкуру?»

І чуцён шум апошняе працы на полі:

Галасы на коней.

Сухі, ціхенькі стук пугаўя аб дзерава.

Шурпатае шушуканне дзеравяных віл з сухою мяжою...

А на ўзгорку дымяць у каламутнае неба коміны ранішнім дымам. Дым і туман клубкамі ходзіць каля платоў, і скардзяцца ў ім недзе на нешта гусі...

З-за павароту рэек каля лесу выскачыла нешта вялікае, шырока-крыклівае.

І ўзняло яно ўгору голаў чалавека з віламі пры мяжы, і ўсіх на полі заставіла кінуць пугі.

Глядзяць яны ўсе да лесу, і ў вачах іх поўна радасці, новым бляскам поўны яны на сваіх тварах.

Ідзе да іх нешта новае, зычнае...

Качагар бачыць з свайго месца чалавека з жоўтымі віламі пры самай дарозе і ківае яму галавою.

Чалавек глядзіць і смяецца...

Машыніст рвануў шнурок, і жалезны крык страсянуў туманнае поле.

# АНДРЭЙ КЛЫГА

## *(Чырвоныя штрыхі)*

На жаўтаватым твары яго адбілася нешта надзвычайна сур'ёзнае.

Гаварыў ён так, што зразу відаць было, што ўсякае слова яго — гэта вера яго.

Гаворачы, ён паволі хадзіў па краю сцэны, грузна згінаючы ногі ў каленях і бразгаючы па сухіх дошках адстаўшымі падковамі ботаў.

Яго слухалі сотні дэлегатаў з'езда Саветаў рэспублікі — перад ім, а за ім, ззаду, прэзідыум з'езда, у якім быў і самы вышэйшы «саноўнік» — галава ўсяго ўрада, і старая вясковая кабета ў новых лыкавых лапцях і шарачковай вопратцы.

А збоку, каля сцэны, у глыбіні памяшкання, сярод «гасцей», сядзеў пасол суседняй буржуазнай стараны і шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў на нявіданае ім нідзе з'явішча: на «кангрэсе» прадстаўнікоў усяе старany расхаджвае на падмостках мужык і гаворыць, як і што павінен рабіць самы вышэйшы ўрад краіны. Ідзе ад гэтага небывалага прамоўцы «дух» — пахне ад яго ні то свіронкам, ні то сечкаю-паранкаю, і словы яго, цяжкія і грузныя, аддаюцца ў вушах, як бы павольны стук яго каравых кулакоў па чым-небудзь дзеравяным і пустым.

Чуецца ў яго прамове пра «корт на вопратку», «пра наша дзерава і жыта і іхнюю вату» і многа чаго другога гэтакага, па чым адвеку будаваліся і будуюцца «вялікія ўсясветныя маркоты і радасці».

* * *

Праз пяць дзён пасля таго, як Андрэй Клыга гаварыў прамову на з'ездзе Саветаў рэспублікі, яго жонка Мар'я

з сваёй глухой вёскі хадзіла за дзве вярсты ў мястэчка на пошту па пісьмы ад мужавага брата з горада. Яна ішла вузкаю палявою дарогаю і прыглядалася, як сям-там, на ўзгорках, пазыходзіў ужо ад сонца снег, і зелянела там маладое жыта. Грукаючы па мёрзлай яшчэ зямлі тоўстымі дзеравянымі падэшвамі чаравікаў, яна ішла паволі і, гледзячы на шырокае панскае поле, засеянае летась мужыкамі, думала аб Андрэю на з'ездзе Саветаў і ціха ўсміхалася сваёю задумёнаю добраю жаночаю ўсмешкаю.

— Няма яшчэ Андрэя з горада?! — гукнуў ёй весела, праязджаючы непадалёку з мястэчка, сусед Макар Канцавы.

Ён ведаў, што Андрэя яшчэ няма, але яму хацелася загаварыць аб суседу Андрэю, які паехаў у вялікі горад вырашаць дзяржаўныя справы.

— Не, няма яшчэ,— гукнула Мар'я і, азірнуўшыся, паглядзела, як ён, весела свіснуўшы, устаў на санях і пагнаў мацней каня.

«Такі і праўда, доўга няма Андрэя, можа і ад яго што ёсць на пошце»,— думала Мар'я, ідучы далей.

* * *

У той дзень загадчык паштовай местачковай канторы, быўшы чыноўнік, быў, як заўсёды, хмурны. Ён сядзеў у канторы за сталом, заваленым раскіданымі газетамі, і барабаніў пальцамі левай рукі па краю стала...

— Пісем у вёску Сычанку? — сказаў ён Мар'і і пастаражыўся.

— Але можа і на маё імя ёсць.

— А як прозвішча?!

— Клыга.

— А мужык на з'ездзе?!

— Чаму, можа і ад яго што ёсць? — запытала нецярпліва Мар'я.

— Пагледзімо,— адказаў, крыва ўсміхнуўшыся, загадчык і, пазваўшы паштальёна, сказаў яму пашукаць пісем у вёску, а сам пачаў перагортваць газеты.

Там, на першай старонцы, надрукавана была прамова Андрэя Клыгі. Загадчык канторы глядзеў на гэтыя дробныя, густа насыпаныя літары і ўсё задумёна патрасаў галавой.

Потым, як Мар'я, узяўшы пісьмы і газеты ў вёску, пайшла, ён, пакінуўшы кантору, хадзіў па вуліцы і, гледзячы, як, весела гаворачы, з'язджаліся людзі на кірмаш, стараўся дадумацца, ці ёсць на свеце прычыны для пастаяннай чалавечай радасці. Потым ён хмурна сядзеў у сваёй кватэры, маўчаў і маркотна пазіраў на сцены. Белаю, мяккаю рукою ён гладзіў бародку і думаў:

«Калі ёсць які-небудзь сэнс у жыцці, дык ён у «вышэйшай марноце сусветнай».

А Мар'я ішла дадому і не знала, што ў газетах, якія яна нясе, надрукавана прамова Андрэя і што ён лічыўся ў спісе выбраных у ЦВК.

Яна трохі пагаварыла на рынку з людзьмі аб сваіх справах, пасядзела ў знаёмай хаце і пайшла па залітай сонцам пачарнеўшай дарозе. І тое, што кагадзе яна гаварыла з людзьмі, што ідзе па дарозе, што возьмецца дома за работу, што Андрэй недзе там у горадзе на з'ездзе,— давала ёй нейкую радасць, якую яна нават не разумела, а толькі адчувала ў сабе.

І, ідучы, яна весела азіралася вакол.

# ПАЛЯВЫЯ ЛЮДЗІ

## I

На вуліцы было ясна ад сонца і шумна ад мужчын — яны стаялі каля хаты старшыні сельскай рады, жмурыліся ад свету і вялі розныя гутаркі, гудучы ўсе зараз, як пчолы або жукі ў майскі вечар.

Між іх шныралі вёрткія, як чэрві, дзеці. Іх вясёлыя галасы перамешваліся з гоманам мужчын, а ўсяму гэтаму шуму звонка акампанаваў хаатычны крык вераб'ёў, якія ў суседнім двары вялі сваю неміласэрную атаку вакол свінога карыта.

Украўшы ў япрука кусок бульбы, часам які-небудзь таўсматы верабей вылятаў на вуліцу і пачынаў, падскакваючы, снедаць. Тады малыя хлопцы запускалі ў яго каменем, а ён і вухам не вёў — адлятаў далей і крычаў на чым свет стаіць: «Жыў-жыў...»

У той дзень было нейкае свята, і быў час для гаворак. А сабраліся каля старшынёвай хаты затым, што к старшыні сягоння раніцаю прыехаў нехта на «новых драбінках», у чорным паліце і ў зялёнай шапцы з адным чырвоным кантам.

Гэтыя «новыя драбінкі» стаялі цяпер на старшынёвым двары, конь «грукаў» каля іх сечку з торбы, а на іх куры разграбалі салому.

А тым часам у старшынёвай хаце было ціха і спакойна, нічога там надзвычайнага не рабілася. Інструктар павятовага аддзела народнай асветы, заехаўшы к старшыні выпадкова, каб даведацца, у якім становішчы знаходзіцца школьны будынак, сядзеў за сталом побач з сваім фурманам Мікіткам. Перад імі стаяла вялікая міска з верашчакаю і ляжалі два кастры блінцоў. Яны ўсё гэта ўсмак

аплятали, так што аж «за вушамі трашчала», пягледзячы на тое, што ўсяго гадзін дзве таму назад у суседняй вёсцы «апранулі» не меншую міску верашчакі з блінцамі.

Сам старшыня, чалавек гадоў пад дваццаць восем, вечна вясёлы, сядзеў за другім сталом і перабіраў сваімі тоўстымі пальцамі ўсякія дзелавыя паперы. Сягоння ён на гэта меў час.

Над левым вухам у яго ўзбіт быў вялікі чуб «па-казацку», а побач на сцяне, каля акна, вісела яго шапка, на якой чырвоных кантаў было хоць адбаўляй.

— Ну, дзякуй за сняданне,— сказаў інструктар, вылазячы з-за стала і пагладжваючы жывот.

— На міла здароўе! — адказаў старшыня.

Інструктар падышоў к яму, дастаў з партфеля пратакол агляду школьнага будынка, напісаны ім са слоў старшыні, і, перачытаўшы яго, сказаў Мікітку:

— Ну, брат, паедзем.

— А мне што,— весела абазваўся Мікітка,— маё дзела такое — вязі!

І, сказаўшы гэта, Мікітка хітра падміргнуў старшыні.

— А вы пашлеце каго-небудзь у воласць з копіяй гэтага пратакола,— сказаў інструктар,— няхай там сягоння ж зробяць у сябе раду па гэтай справе.

Старшыня падняўся і, па абавязку гаспадара, памог госцю ўздзець паліто, потым узяў яго шапку і з паўхвіліны разглядаў на ёй чырвоны кант.

«Усяго адзін, але затое які тоўсты»,— падумаў ён.

Як інструктар з Мікіткам лезлі на воз, старшыня стаяў на ганку і некалькі разоў весела падміргнуў мужчынам на вуліцу — знай нашых!

## II

— Хто з вас, браткі, падахвоціцца прагуляцца ў воласць, дзве паперкі занясці,— сказаў старшыня, убіваючыся ў кучу мужчын.

Усе маўчалі.

— Хоць ты, Юраська, занясі,— сказаў зноў старшыня,— усё роўна табе тут таўчыся, рот разявіўшы. Якая карысць табе з гэтае таўкатні.

— А якая мне карысць будзе з таго, што я занясу іх? — абазваўся Юраська, шчуплененькі чалавечак, з чырвонымі вочкамі на худым твары.

Мужчыны зарагаталі.

— Ён усё карысці сабе шукае,— пачуўся голас.

— Якое к чорту карысці,— пастараўся апраўдацца Юраська,— як я пайду, калі я яшчэ не снедаў. Я есці хачу.

— Хочаш есці — пірагі на месце,— сказаў весела старшыня і маргнуў адным вокам, ад чаго чуб у яго над вухам моцна страсянуўся.

— Хваціць там з цябе яды, якое больш табе бяды! — памог старшыні голас ззаду.

— Добра кажа, хваціць там з цябе і яды і бяды,— пралепятаў нізенькі і тоўсценькі Янaчка і зарагатаў на ўсю вуліцу, прысеўшы к зямлі і ўпёршыся рукамі ў калені.

І ўсе зарагаталі. Але не з Юраські, з якога «хваціць і яды і бяды», а з самога Янaчкі. А Юраська, саўсім збіты з панталыку, стаяў, растапырыўшы рукі, і маўчаў, не ведаючы, што гаварыць.

— Я ж бачыў, Юраська, як ты сягоння блінцы здорам мазаў, а кажаш, што не снедаў,— пачуўся голас і, мусіць, якраз трапіў у цэль, бо Юраська вінавата махнуў рукою і сказаў:

— А чорт вас ведае!

Усе зарагаталі, а Юраська рашуча падышоў к старшыні і сказаў:

— Давай паперы, чорт іх бяры.

— Ну, уламалі антанту,— сказаў, смеючыся, старшыня,— маладцы, р-р-рабята!

— Рады старацца! — вылепетаў Янaчка і зноў «заляскаў» на ўсю вуліцу.

— Ды ты заўсёды дзе не трэба рад,— пачуўся голас,— нашто лепш: Юраська чуць не плакаў, а ты рад, залі-ваешся на ўсю вуліцу. А чаго, каб цябе хто папытаў.

— Ну, дзе ж паперы,— сказаў, падбадрыўшыся, Юраська.— Калі ісці, дык ісці.

— Хадзем у хату, калі так,— сказаў старшыня,— там табе будуць і паперы.

— Там табе будуць і паперы і «шмаперы»,— пастараўся зрыфмаваць шутку Янaчка, пачынаючы рагатаць і прысядаць к зямлі.

— А табе, Янaчка, будзе гатовы і рогат і «шмогат»,— метка адказаў яму старшыня і вызваў гэтым страшэнны рогат усёй грамады.

Хвілін цераз пяць старшыня з Юраськам выйшлі з хаты. У Юраські ў руках быў вялікі пакет з газетнай паперы.

— Вось табе тут і пакет і «шмакет»,— сказаў старшыня моцна, каб усе чулі, і маргнуў на Яначку, які змецїў пасмешку і адышоў назад.

— А што гэта за паперы? Можа панясу згубу на сваю ўласную голаў?

— На чорта каму твая, Юраська, галава — там, брат, лепшых галоў не ведаюць, дзе дзяваць.

— На чорта ж табе галава, табе абы розум быў; гыгы-гы...

— Чым жа Юраськава галава кепская?

— Ого, Юраськава галава! У яго галава, як у таго нябожчыка, вечны пакой, адваката Альфіровіча,— сказаў Яначка, заліваючыся рогатам.

— Юраськава галава як сабе хоча, а тваё, Яначка, чэрава напэўна будзе, як у таго адваката.

— Ого,— казаў Яначка,— каб я меў гэтакае чэрава — я тады б адны гатовыя паперы падпісваў бы.

Слова «паперы» навяло мужчын па думку аб паперах, і ўсе акружылі Юраську.

Старшыня прачытаў мужчынам паперку і зноў аддаў Юраську.

— Ну, марш! — сказаў ён.— А ці ведаеш ты, што табе там трэба рабіць з гэтымі паперамі?

— Далжон я, значыць, занясці гэтыя паперы ў іспалком, здаць іх пад распіску, распіску схаваць у кішэню і такім чынам прынясці табе яе, і больш нічога.

— І венцай ніць,— важна падкрэсліў Яначка.

— Не бойся доўга,— гукнуў услед Юраську старшыня,— гэтыя пяць вёрст жыва адмахаеш.

І, сказаўшы гэта, старшыня залажыў руку за патыліцу, усмак пазяхнуў і пацягнуўся ўсімі сваімі суставамі.

## III

Абвяваемы цёплым ветрам, Юраська паволі ішоў сухою дарогаю між зялёных палёў.

Ад самае дарогі і да сіняга далягляду, на колькі хватала вока, зелянела маладое жыта; і калі мацней дзьмуў вецер, яно пачынала быстра прыкладацца к зямлі і так жа быстра паднімацца; у тым месцы, дзе яно нагіналася,

рабілася цемнаватая лапіна, і па меры таго як мацней узпімаўся вецер, гэтых цёмных лапін рабілася ўсё больш. Яны быстра беглі адна за адною па ветру, і здавалася, што ўсё поле плыве ўсёю шырынёю сваёю. Далёка, дзе зялёны колер поля пераходзіў у сіні, паднімалася часам нейкая чыстая, як шкло, плёнка ў паветры, і як сонца пачынала свяціць бліскучэй, яна прыбліжвалася к самай дарозе, і трудна было разабраць, ці гэта сапраўды калышыцца што-небудзь, напаўняючае паветра, ці гэта толькі здаецца ўваччу.

Юраська паволі ішоў і слухаў палявыя шумы. Нюхаючы востры пах зяленіва і сырое зямлі, ён некалькі разоў прыпыняўся і прыглядаўся ў адно якое-небудзь месца ў канцы поля альбо ўверсе, над галавою.

Не маючы ў галаве ніводнае думкі, ён у адзін з такіх прыпынкаў раптоўна задзёр галаў і зацягнуў высокім, аж да хрыпаты тонкім голасам:

— Гэх ты-ты, доля, гэ-э-эх!..

— Ты гэта чаго, чалавеча, рад?!.

Юраська ўздрыгануў і азірнуўся.

Справа, на мяжы, пры самай дарозе, глядзела на яго пара чорных вачэй, ускудлачаныя валасы закрывалі вушы невядомага чалавека, рот расцягнуўся ў хітрую ўсмешку. Плечы і ногі хаваліся ў жыце.

— Чаго спяваеш?

— Калі?

— От табе і раз, зацягнуў на чым свет стаіць, аж мяне пабудзіў, і сам не памятае. Эх, куды ж пайшоў, пачакай, галава, разам пойдзем.

Юраська прыпыніўся, недаверчыва зірнуўшы на незнаёмага. Галава пачала паднімацца, паказаліся з жыта плечы, і на дарогу выйшаў нізкі чалавек у вайсковай шынелі.

— У адну дарогу, здаецца, разам пойдзем.

— Пойдзем.

І яны пайшлі радам, абодва нізкія і нейк падобныя адзін да аднаго.

— Ну, дык чаго ты спяваў, весела?

Юраська скоса глянуў на свайго папутчыка і сказаў недаверчыва:

— Гм... а ты што за чалавек?

— Чалавек,— адказаў той весела і хлопнуў Юраську па плячу.

— Эх ты, спяваеш і сам не знаеш — чаму, а я знаю.

— Што ты знаеш?

Юраська зразу зразумеў, што перад ім «маскаль-прайдзісвет», і, стараючыся падладзіцца над яго тон, загаварыў далей:

— Нічога ты не знаеш. Ды і што ты за ухар гэтакі, каб табе спавядацца?

— Ты адно паслухай,— загаварыў той Юраську,— я табе скажу, ты думаеш, гэта ты сам спяваў, гэта тваё поле ў табе спявала.

— Ах ты,— зарагатаў Юраська,— наша поле ў табе спявала, ну і чудак.

— Не рагачы лішне. Ты спяваў затым, што ты палявы чалавек і ў полі ты — дома.

— Ну?!

— Ну і спяваеш, не думаючы. Я гэта вось к чаму, што сам я не магу ніяк прывыкнуць к гэтаму полю. Вось ужо каторы тыдзень валочымся тут, папраўляем тэлефон, а колькі за службу сваю прайшлі гэтага поля, канца-краю няма. А ўсё ў горад цягне. Хоць на край свету, абы ў горад. Там табе і людзей, і шуму, і груку, чорт ведае.

— Людзей і тут многа,— адказаў Юраська,— вунь як выйдзем араць або жаць улетку, дык аж поле звініць. Якога яшчэ шуму трэба?

— Мала што шуму. Што гэта за шум? Табе, пэўна, здаецца, што ўсяго і свету, што ў тваім полі.

— А табе свету ў тваім горадзе, выходзіць гэтак!

— А я што гавару? Я ж і гавару, што так. Хто к чаму прывык. Прывычка. Вось ты на гэтай дарозе — дома, а мяне нейк сум бярэ, як азірнуся на гэты страшэнны абшар. Прывычка з малых дзён. А ты сабе ідзеш, паглядаеш вакол, палкаю памахваеш. Гляджу — задзёр чалавек галаў, падняў рукі і цягне немым голасам песню. Ах ты, думаю, галава палявая. Аж весялей мне стала. А то ляжу ў жыце, і думкі розныя: ну, як шамне які д'ябал з жыта чым-небудзь па галаве.

— Гы-гы-гы,— зарагатаў Юраська.— От табе спец. Я думаў — усякі салдат «мацямацік», аж ён кажа, нехта з жыта яго шамне. Ну і чудак. Хто цябе тут шамне, гы-гы-гы!..

— Чаго пасхаў? — гукнуў Юраськаў папутчык.— Засакатаў.

Яму стала нейк непрыемна, што над ім рагоча нейкі

«палявы чалавечак», які далей свайго поля не быў нідзе ніколі і напэўна збіўся б з панталыку на шумнай вуліцы ўсякага горада. З'явілася ў яго нейкая крыўда чалавека, аб'ехаўшага паўсвету, бачыўшага столькі ўсяго і неміласэрна асмеянага шэрым дамаседам. І ён паважна, крытычна разгледзеў з усіх бакоў Юраську і сам моцна зарагатаў... над Юраськам.

Так абодва ішлі яны па сухой палявой дарозе і рагаталі адзін над адным, усё ж такі блізкія адзін адпаму тым, што зналі першапрычыну свайго рогату: прывычку чалавека к таму, чым ён жыве.

— Што за рогат,— пачуліся галасы, і з жыта выйшлі чалавек пяць вайсковых са скруткамі тэлефоннага кабелю ў руках.

— Весела,— адказаў Юраськаў папутчык.

Юраська пакінуў рагатаць і, аставіўшы на твары сваім шырокую ўсмешку, пастаяў трохі моўчкі на адным месцы, а потым пайшоў далей.

Вясёлыя галасы за ім гулі ўсё цішэй і цішэй, заглушаемыя патроху ветрам, абвяваўшым жыта і сухія кусты быльніку і палыну.

# НОЧ ПРЫ ДАРОЗЕ

## I

Абодва яны шэрыя і тоўстыя ад сваіх суконных вопратак, з цяжкімі, грузнымі крокамі ад вялізарных ботаў.

Буянiўшы па жоўтым іржышчы палявы вецер абвяяў іх каравыя твары, мяў густыя барады, дарэмна стараючыся збіць іх з тропу. А яны ўсё ішлі сухою дарогаю, мала азіраліся пазад, як бы не думаючы больш варочацца туды, адкуль выйшлі.

І ўсе іх прылады былі пры іх.

У старшага — Уласа — гладка прыставала к плячам падоўжаная вялікая піла ў дзеравянай раме зубамі; у малодшага — Кузьмы — разам з клункамі хлеба горбілася на спіне торба з малаткамі, напільнікамі, грунтвагамі.

Так і хадзілі яны.

Ад сяла да сяла, з мястэчка ў мястэчка. Праходзілі праз гарады і чыгуначныя станцыі. Прыпыняліся там, дзе была работа. Цягнулася яна, гэтая работа, год — не пакідалі яны яе; цягнулася два дні — былі там два дні. А канчалася работа — ішлі далей.

І цягнула іх к рабоце, а значыць, і к людзям, бо дзе работа, там заўсёды людзей спаткаеш.

— Сам ты адкуль, Улас? — запыталі раз у адной вёсцы, дзе яны пілавалі дошкі.

— Не ведаю,— адказаў Улас.

— Як так не ведаеш?

— Не ведаю. З усяго свету, мусіць. Радзіўся каля Вільні, дзе бацька пасля будынкі ў маёнтку будаваў, і што паўгода, то новае месца было. А потым, як сам узняўся на ногі, пайшоў з пілою па белым свеце. Так і жыву.

— І нічога?

— Хоць бы што... Прывычка.

А Кузьма — трохі іначай. Не любіў ён жыцця вечнага валацугі. Была ў яго недзе за Нясвіжам гаспадарка невялікая, жыў на ёй брат яго малодшы; а з братам ён заўсёды быў душа ў душу. Быў у войску, а потым, як звольніўся, граніца дзяржаўная ляжыць між ім і братам. Яно то пастараўшыся і можна было б перабрацца туды, але нялішне кваліў на гэта Кузьма: пасля Чырвонай Арміі — паны; так і чакаў ён усё перамены.

З Уласам спаткаліся яны ў Жлобіне на станцыі. Гурт пільшчыкаў там дошкі пілаваў — мост там нейкі правілі. А тут якраз таварыш Уласаў пакінуў яго. І прыстаў Кузьма к Уласу. Так і пілавалі яны там, пакуль работа не скончылася; а потым, па старой прывычцы, пацягнуў Улас Кузьму за сабою па свеце: дзе чутна работа — туды і пайшлі...

Убіліся ў глуш. Усе вёскі ды хутары ў палёх і між лясоў. У гарачую летнюю пару, калі вёскі пуставалі цэлымі днямі, выправіўшы жывых усіх у поле, мала было работы. Часта тады і не заходзілі Кузьма з Уласам у вёску, а начавалі і днявалі нават часам каля рэчкі дзе-небудзь, у кустах. Пяклі вечарам сала на ражэнчыках, раніцаю ўмываліся ў рэчцы, вымалі з торбы сарочкі чорныя, якія даўно ўжо мыць трэба было, і, уцёршыся, ішлі далей.

Тады Кузьма, гледзячы на Уласа, і густую бараду сабе запусціў.

А ўвосень работы стала многа, хоць нядоўга прыходзілася прыпыняцца на адным месцы — тыдзень, два — не больш, але затое далей ужо пэўная праца чакала.

Любіў Улас працаваць у глушы восенню. Сытыя вёскі тады. А ў здаровыя ясныя дні «баб'яга лета», калі белае павуцінне блытаецца ў іржышчы за гумнамі, плавае ў чыстым сінім паветры, звон пілы гучна аддаецца ў прасторы.

Весела робіцца за працаю тады...

У пору, калі восень гатавалася ўжо ўступіць месца зіме, работы па вёсках больш яшчэ стала...

Было хоць ясна ад сонца, але холадна.

Начамі былі першыя марозы, але ў палях мала было ім што замарожваць — восень была сухая.

Па аўсяным іржышчы, каля хутароў, цягаліся кляклівыя гусі, а ў чыстым полі і на паплавах панавалі вясёлыя вароны.

Буян-вецер радасна гайсаў па полі, пераскакваў цераз

кусты, з песняй забягаў наперад, зазіраў холадам у вочы, трапятаўся за каўняром, блытаўся ў вусах і барадах. Чуць-чуць ад яго пазваньвала за плячыма піла; боты стукалі размерана, паважна.

— От каб дзе, здаецца, на адным месцы засесці, не люблю цягацца. Каб дзе гаспадарку якую завесці,— сказаў Кузьма.

— Па мне,— адказаў Улас,— можна засесці, можна і хадзіць. Мне ўсё роўна. А пакуль што добра было б прыпыніцца дзе сягоння на работу, цягнуцца далёка ахвоты няма ветрам такім — у вочы сыпле і з ног збівае.

— І ўсяго табе?

— Усяго. Табе другое дзела. Прывык ты к аднаму месцу з малых дзён. А мне ўсё роўна.

— Трэба будзе ў вёсцы якой паклапаціцца, каб на вясну зямлі кавалак адвялі — там і засяду, калі граніца дадому не адкрыецца. Зімою падумаю.

— Падумай сабе... А сяла не відаць нідзе... Заварочваецца як бы вецер з другога боку...

Потым змоўклі і ціха ішлі далей, аддаўшыся глухой дарозе — куды прывядзе... Як дарога крута спусцілася ўніз, узышлі на мосцік над вузкаю рэчкаю. Чыстая вада, сціснутая абкошанымі берагамі, баялася некуды спазніцца і ўсё плыла-плыла, падганяючы сама сябе. Вецер шараваў рэдкімі калівамі пакалечанага быдлам плюшніку аб берагавыя карчы.

— Што гэта ён там робіць,— сказаў Кузьма, ткнуўшы пальцам налева.

Улас стаў і прыгледзеўся.

Там, на жоўта-зялёным беразе, дзе пачыналіся нізенькія кусты ядлоўцу, сядзеў, прытуліўшыся к караваму пню крывое, голае вярбы, рыжы мужык у жоўтым, доўгім кажусе. Ззаду за ім цягалася чорная кабыла, пашчыпваючы нізенькую мёрзлую траву, а вецер падмахваў пасмамі яго доўгае, чырвонае барады, ад чаго падобнымі яны былі да языкоў полымя на вогнішчы ўночы.

— Што гэта яму прыйшло ў галаву пасвіць каня гэтакаю пароюі?

— Не, гэта ён там так нешта робіць другое.

— Можа і гэтак... Давай сядзем на мосце — аддыхнём і закурым. Ды папытаем, дзе тут вёскі якія ёсць.

Яны селі на халодным мосце, глядзелі ў адно месца, і здавалася ім, што сонца як бы грэць трохі стала.

Рыжы мужык падышоў к пільшчыкам. Высокаю і лёгкаю фігураю сваёю стаяў ён проста пры самым мосце ўнізе, улажыўшы рукі ў рукавы кажуха і ад холаду чмыхаючы тонкім гарбатым носам.

— Аддыхаеце?

— Але.

— Далёка ідзіцё?

— І далёка і блізка. Дзе работа будзе з пілою — нідзе не брышкуем. А сёлы далёка тут?

— Блізка.

— А ты гэта, чалавеча, што каня пасеш гэтакаю парою?

— Пасу,— усміхнуўся крыва рыжы.

— Такі праўда пасеш?

Рыжы скрывіў рот і шырока ўсміхнуўся.

— Ну? — дапытваўся Кузьма. Яму хацелася ведаць, чаго гэта такою парою сядзіць мужык на поплаве. Усімі сваімі пачуццямі і думкамі ён сам быў селянін, і гэта цікавіла яго.

— Ёсць, браце, прычына сядзець мне тут,— загаварыў рыжы.— Вартаўніком сяджу, вось што. Унадзілі ездзіць поплавам — бліжэй, а дарогай — кружней. Па чарзе выходзім кожны дзень, аж абрыдзела. Я сяджу тут і прашу бога, каб каго чорт пагнаў — не памілую, дубіпаю голаў растаўку сукінаму сыну. Проста хочацца, каб хто праехаў. Вось слаўна было б.

— Э-э-э... дык табе, як я бачу, пра поплаў мала клопату, а пра чужую голаў!

— Да гэтага давялі.

— Вось штука... Што бывае з чалавекам часам, гы-гы-гы-гы!..

— Чаго рагочаш,— агрызнуўся рыжы на Кузьму.

— Ды так. Я не з цябе, а з таго, што з чалавекам часам бывае.

— Эх, каб ты згарэла,— гаварыў рыжы,— ніхто, як на злосць, не едзе, як бы ведаюць, што я вартую.

Рыжы ціха, як бы сам над сабою, усміхнуўся. І ўсе яны ўсміхнуліся, потым закурылі. Рыжы ўжо ўсадзіў нос у жменю Кузьмы, дзе тлела запалка, але, не прыкурыўшы, раптоўна ўскінуў галаву ўгору, прыслухаўся і азірнуўся. Там, дзе ён нядаўна сядзеў, грукалі калясьмі драбіны. Рыжы кінуў папяросу ў рэчку і сам пабег па

беразе. Драбіны ўехалі ў кусты, ён узаскочыў на каня і кінуўся ўслед.

— От брат,— зарагатаў Кузьма,— што робіцца, каб на яго агні. Гы-гы-гы-гы!..

Ён усімі сваімі пачуццямі і думкамі ўвайшоў у справу рыжага мужыка; хацелася яму скінуць з плеч пільніцкую торбу з манаткамі і напільнікамі і гнацца разам з рыжым за возам па кустах. І ў тую хвіліну, нават няведама для яго самога, у глыбіні яго мазгоў пачала фармавацца думка адцурацца пілы і ўзяцца за плуг. Дзе і як — усё роўна. Так захапіла яго гэтая сялянская справа на пустым поплаве.

А Улас паглядзеў, як рыжы схаваўся ў кустах, паправіў на спіне пілу і, тузянуўшы за рукаў Кузьму, пайшоў далей.

— А я гляджу,— сказаў ён ідучы,— сядзіць чалавек на беразе, падпёршы плячыма пень, і думаю — нешта тут робіцца. А разабраўся бліжэй — самая пусцячына. Ды гэта яшчэ нічога. Але часам даводзілася, бывала, бачыць, як чалавек што-небудзь і сапраўды задумае як бы важнае, а як прыгледзішся — гэтаксама.

Кузьма ішоў і думаў аб тым, як добра было б быць на месцы рыжага мужыка. Чысціць дома каня, правіць плугі, малаціць, хадзіць па мёрзлым іржышчы к рэчцы, глядзець на паплавы.

І ён ад наплыву думак загаварыў, стараючыся выказаць іх, але блытаючыся ў словах:

— Гэта ж, брат, каб на яго паляруш... от бо, брат, неяк, ліха на яго...

І раптоўна змоўкшы, махнуў рукою і маўчаў ужо ўсю дарогу.

## II

У вёсцы вецер уздзіраў салому на стрэхах, шаматаў ёю, гнаў разам з сухім і халодным пылам па вуліцы. За вугламі, на сухім картапляніку, валяліся сабакі, падымаючы галовы на халоднае сонца. Па зацярушаных саломаю дварах галасілі пеўні, дзеці плакалі, ушушканыя ў старыя кажухі і халаты. Дзе-нідзе стукалі па гумнах цапы, бабы і мужыкі абтыкалі мохам хаты каля вокан, падваліны пяском абсыпалі, сцены кастрыцай абкладвалі.

Ад хаты да хаты паволі хадзіў кульгавы жабрак і маліўся за «душы змарлых». З кождае хаты яму выносілі

кавалак хлеба або невялічкую скварку, і ён, схаваўшы ўсё гэта ў торбу, зразу пакідаў спяваць, абрываючы сваю «малітву» на паўслове. У іншай жа хаце яму доўга нічога не выносілі. Ён канчаў сваю песню, зазубраную за добрую жыццёвую практыку, а з хаты яшчэ ніхто не выходзіў. І тады ён, каб не маўчаць, пачынаў спяваць усё, што прыйдзе ў голаў, абы яно было так ці іначай звязана з «душамі змарлых».

«Каб вашы душачкі па печы насіліся».

«Каб халоднаю зімою яны з палатак не злазілі...» — цягнуў ён часта ў такіх выпадках; прыдумляў усё новыя і новыя «блажэнствы душам змарлых», да таго часу, калі яму чаго-небудзь не выносілі з хаты. Тады ён скоранька гаварыў «дзякаваць пакорна вам, а мне на міла здароўе» і ішоў далей.

Улас і Кузьма ўвайшлі ў ветліцу пад вечар. Бароды іх былі змяты, твары запылены. Гледзячы на малюпкі вяскована жыцця, Кузьма зноў адчуў у сабе жаданне астацца дзе-небудзь у вёсцы на гаспадарцы. І мала-памалу з'явіўся ў яго нейкі страх перад думкаю, што зноў трэба будзе з гэтай вёскі ісці далей, шукаючы работы. З такімі пачуццямі і думкамі прайшоў ён з Уласам усю невялічкую вёску. Работы тут, як відаць, было многа — уся вуліца завалена была дзеравам, кожны гаспадар збіраўся на вясну, мусіць, ставіць новую хату або правіць старую.

— Тут, брат, зазімуем,— гаварыў весела Улас.

А Кузьма ўжо станавіўся вясёлы. У яго думках пачала ўжо маявацца магчымасць, прабыўшы тут зіму, прыглядзецца к тутэйшаму жыццю, завясці знаёмствы і, атрымаўшы кавалак зямлі, астацца тут жыць.

Больш, як дзе, дзерава было за вёскай, каля высокае старое хаты, стаяўшай на ўзгорку, асобна. Туды падышлі пільшчыкі. Яны ўвайшлі ў вялікі, чысты двор, зарослы клёнамі. Разганяючы чарады гусей і качак, падышлі яны к ганку, і Улас прывычна стукнуў пальцам у шыбу. Потым глядзелі на дзверы — хто выйдзе.

Скрыпнулі дзверы, і на ганку паказаўся рыжы мужык. Ён быў ужо раздзеты; твар яшчэ больш чырванеў, як бы распараны.

— А браткі ж мае,— загаварыў ён,— гэта ж трэба якраз трапіць. Вось добра. А я ўжо пасля шкадаваў, што пусціў вас: гэта ж мне трэба якраз дзерава гэтае папілаваць усё.

— Ды тут у вас работы ў вёсцы многа.

Рыжы агледзеў свой двор і павёў пільшчыкаў у хату. Там было прасторна і светла. На вялікіх вокнах стаялі пабітыя гаршкі з пейкім запыленым зеллем, к сцяне кросны туліліся, ад якіх пахла ні то мокраю пражаю, ні то свежаю кастрыцаю. Вузенькія дзверы ў пабеленай сцяне вялі ў адгароджаны дошкамі невялічкі пакойчык.

І зразу ў пільшчыкаў мільганула аднолькавая думка — багатыр.

— Кулак,— ціха шапнуў на вуха Кузьма Уласу. Той прыжмурыў вочы, згадзіўшыся.

А рыжы загаварыў:

— Вы ў мяне сягоння начуйце, а за начлег распілуеце мне заўтра дзве плашкі напалам. Заўтра ж або вечарам сягоння пагаворым аб рабоце. Пілоўкі ў мяне многа. А за начлег — я ж кажу, распілуеце мне дзве плашкі заўтра.

«Ну і скупы ж»,— падумалі пільшчыкі пра рыжага, а ён ужо расказваў далей пра сябе:

— Даўней я тут карчму трымаў, вялікая дарога тут праходзіць, вунь слупы з акна відаць. А цяпер — так, заезджы дом. Так заязджаюць начаваць або грэцца падарожныя. І няма цяпер жаднага разгарнення. Няма выпіўкі — палавіна даходу паменшала, ліха яму. А даўней, старымі часамі, якая любата была — усе суседнія вёскі ў мяне пілі, грошы, як з мяшка, сыпаліся.

— Ды што гаварыць,— сказаў Улас, каб што-небудзь сказаць, а сам падумаў: «От гад, ліха яму, праўдзівы воўк, нядарам і барада ў яго нялюдская, рыжая, як агонь. Ну, ён, каб прыйшлося, не памілуе».

А рыжы гаварыў далей:

— Тым часам і цяпер многа падарожных бывае. Камісары павятовыя часта ездзяць, вайсковыя, балаголы заязджаюць, везучы тавар, але ўсё ж не тое, што раней, куды к чорту...

Як бы падкрэсліваючы яго словы, заскрыпелі на двары вароты, у двор уехаў вялікі, параконны воз, і хутка ў хату ўвайшлі двое.

Адзін — саўсім малады, з першым маладым пухам на верхняй губе, у чорным кажусе з фалдамі і белым каўняром. Другі — старэйшы, з чорнаю бародкаю, высокі. Ад цёплай адзежы здаваўся сперш тоўстым, але, распрануўшыся, саўсім стаў тонкім.

— Добры вечар у хату,— сказаў ён, усміхаючыся.

А малодшы быстра пераскочыў цераз парог і загукаў весела:

— Як маешся, рыжы? Прымай гасцей. Чуеш?.. Э!..

Рыжы зразу прыняў шутлівы выгляд і лупянуў з размаху вясёлага хлопца па плячы, потым закруціў яго леваю рукою па хаце.

— Здарова, рыжы чорт,— крычаў хлапец, схваціўшы таго за бараду.

А старэйшы — чорны, з выглядам пастаяннага начлежніка, цягнуў ужо ў чысты бакавы пакойчык крыты шэрым палатном чамадан, клунак і тоўсты партфель.

— Давай чым грэцца,— крыкнуў хлапец і, зразу прыняўшы сталы выгляд, пайшоў у пакой і зачыніў дзверы.

— Што гэта за яны? — запытаў ціха Кузьма.

— Ого, брат,— адказаў рыжы з нейкай гордасцю ў голасе ад такога кароткага знаёмства з гэтымі людзьмі,— ого, гэта вялікая начальства — гэта, брат, з павятовага іспалкома.

— Пайшоў ты!..

— Я табе кажу.

— Дык жа гэты зусім яшчэ дзіцё.

— Мала што, ён — камсамолец.

— А той?

— Той — камуніст.

І, хітра падмаргнуўшы, рыжы прыбавіў:

— Яны тут па павету ездзяць і часта ка мне заязджаюць начаваць.

Рыжы зноў маргнуў адным вокам, і нейкі хітры, жадны і непрыемны бляск з'явіўся ў яго вачах.

«Ну і халера, ну і гад рыжы»,— падумалі пільшчыкі.

Увайшоў фурман, і ён быў малады і вясёлы. Ён зразу скінуў кажух і захадзіў па хаце, высвістваючы нейкую польку. Увайшла гаспадыня. Яна прынясла зарэзаную гусь і стала завіхацца з ёю каля печы.

— Здароў, Мікітка! — сказала яна фурману.

Мікітка весела падмаргнуў ёй.

— У вас заўсёды начуе многа людзей? — запытаў Улас.

— Многа... Як калі,— адказала гаспадыня.

Пільшчыкі дасталі хлеб і сталі есці.

За душы змарлых,
Ахвяраваліся б акрысы...

— пачуўся пад акном скрыпучы і гугнівы голас старца. Рыжы стаў слухаць.

— Вынесі яму чаго-небудзь,— сказала гаспадыня.

— Добры інтарэс,— адказаў рыжы,— толькі што пачаў спяваць, а ты ўжо нясі яму. Нідзе, брат, няма дарэмшчыны, няхай кончыць, тады і вынесу.

— А братка ж ты мой, а-ха-ха-ха,— зарагатаў Мікітка,— ая-ай... От табе будзе карысці з яго песні!..

— Пайшоў ты к чорту,— агрызнуўся рыжы,— не ведаеш ты жыцця: малод яшчэ. Мала што карысці не будзе, але ж яму вельмі будзе соладка, як усюды будуць даваць яму за тры словы. Дзе гэта відана, каб каму самахоць давалі без дай прычыны...

Мікітка стаў пасярод хаты, упёрся рукамі ў бокі і зарагатаў, гледзячы на пільшчыкаў, а рыжы ўзяў кавалак хлеба, патрос яго ў руцэ, потым адламаў ад яго палавіну і пайшоў к дзвярам. Не ўзяўся ён яшчэ за клямку, як дзверы адчыніліся і ў хату ўвайшоў сам жабрак.

Гадоў сорак шэсць, больш не было яму на пагляд. У новых лапцях быў ён, у шарачковых сіняватых портках, у доўгім, цёмным, палатаным халаце. З месяц таму назад ён, мусіць, брыўся, бо твар яго, паверх маршчын, пакрыўся кароткаю, пруткаю, як дрот, шчацінаю. Абмякшыя, абмочаныя пад носам, гразныя вусы яго віселі ўніз, закрываючы ўсю верхнюю губу.

— Добры вечар,— сказаў ён, перабраўшыся цераз высокі парог.

— Добры,— пасмешліва адказаў рыжы,— нешта ж мала спяваў, не ўцярпеў, пакуль я вынесу, ды сам у хату лезеш.

— Пусцеце пераначаваць.

— Э-э-э, бра-а-ат,— зацягнуў рыжы,—не-э-э-э, не-э-э!.. Няма дзе. Што ж, палажыць цябе на печы, дык там у мяне гэтакі начлежнік,— рыжы паказаў пальцам на Мікітку,— што як прыпрэ цябе ўночы нагамі к коміну, дык адно крактацьмеш.

Старац стаяў каля парога, чмыхаў ад холаду мокрым, пасінеўшым носам і пазіраў на ўсіх так, як бы хацеў сказаць: «Што ж, мой лёс такі, здзекуйцеся, смейцеся, ваша сіла». Апрача гэтага, на твары яго адбівалася як бы нейкая пэўнасць у тым, што і трэба, каб гаварыў так гаспадар. Ён як бы лічыў, што рыжага застаўляе гаварыць так нейкі закон, у якім ён няволен. Здавалася, што, каб хто

падышоў к яму і плюнуў яму ў твар, ён толькі памалу абцёрся б рукавом і нічога не сказаў бы — такі маўчлівы, спакойны і пакорны быў яго твар.

— Што ты, звар'яцеў, рыжы, ці якое табе ліха,— сказаў Мікітка,— пускай яго, няхай начуе.

Рыжы паціснуў плячамі і маўчаў.

— Ідзі, ідзі, начуй,— гаварыў Мікітка,— раздзявайся.

Жабрак уздыхнуў, падышоў к лаве і пачаў раздзявацца, баязліва паглядаючы на рыжага...

Ужо цямнела. У печы весела трашчаў агонь, шыпела там сала на скавародзе, а вакол завіхалася гаспадыня. Павятовыя начлежнікі моцна гаварылі ў сваім пакойчыку, шамяталі паперамі. Туды к ім пайшоў і Мікітка. Рыжы часта выходзіў на двор, паглядаў на будынкі — сачыў за сваёю гаспадаркаю. Пільшчыкі пачыналі драмаць, седзячы ў цёмным кутку за сталом. І чутно было, як на двары зычна і доўга ўсмак лаяўся рыжы, заганяючы гусі.

## III

Вечарам, як запалілі лямпу, заехалі начаваць яшчэ два маладыя цыганы.

Яны ехалі на кірмаш у горад з коньмі. Паставілі яны іх на двары, пад паветкаю, і часта, па чарзе, выходзілі глядзець іх.

Абодва адзетыя ў ватовыя вопраткі да кален з сіняга сукна, яны мелі выгляд нейкай фальшывай, панурай ні то вясёласці, ні то проста развязнасці ў гаворцы. Яны зразу напоўнілі хату сваім спецыфічным цыганскім пахам, так што Мікітка пачмыхаў носам і, зарагатаўшы, сказаў:

— Але ад цыгана дык заўсёды, як ад сабакі, ветрам нясе.

— А ад мужыка ведаеш чым нясе? — адказаў цыган, паказваючы ад смеху зубы, і растлумачыў, якім духам нясе ад мужыка, вызваўшы гэтым моцны і шчыра-вясёлы рогат усіх, хто быў у хаце, апрача жабрака, які ціхенька сядзеў у мыцельніку, падабраўшы пад сябе ўсе свае клункі. Здавалася, што стараецца ён займаць як можна менш месца ў хаце, нікому не замінаць і нават не напамінаць аб сваёй прысутнасці. Яго марыў сон, і вочы яго жмурыліся. Увесь яго выгляд гаварыў аб тым, што жыве ён сваім асобным жыццём, нічым не звязаным з жыццём усіх другіх людзей. І зносіны з акружаючымі яго людзьмі меў

ён у такой меры, у якой атрымліваў ад іх хлеб за свае «малітвы». І магчыма, што каб цяпер хто-небудзь стаў даваць яму сродкі для жыцця і тым самым збавіў бы яго ад неабходнасці цягацца кожны дзень па вёсках, ён жыў бы сярод людзей, як сярод страшнай пустыні. І калі ў яго быў які-небудзь светапогляд, то ён, можна напэўна сказаць, быў бы незразумелым, у высшай меры цёмным для ўсякага, хто захацеў бы як-небудзь разабрацца ў ім.

Нешта падобнае, хоць і ў многа лепшай меры, можна было прымеціць і ў цыган. Хаця яны і вельмі многа, больш нават як трэба, цікавіліся ўсім акружваючым іх, хоць яны і вельмі многа гаварылі з усімі, але было нешта такое ў бляску іх чорна-рыжаватых вачэй, што застаўляла падумаць: нешта сваё думае гэты чорны, пугсткі чалавек, ніколі ён не раскажа табе сваіх думак, і не пазнаеш ты — прыяцель ён табе ці вораг.

Абодва цыганы тупалі па хаце, часта выходзілі к коням, жартавалі з гаспадыняю, смяяліся.

І калі рыжы сказаў ім скрозь смех, што яны заўтра не аднаго мужыка абдураць, прадаючы коні, адзін з іх сказаў, ні то ў жарт, ні то сур'ёзна:

— А хто мужыку забараняе цыгана абдурыць?

І ў голасе, якім былі сказаны гэтыя словы, адчувалася нейкая граніца, якою гэты чалавек абмежаваў сябе ад другіх людзей.

Душа ж пільшчыкаў была як на далоні. Яны весела смяяліся, калі цыган што-небудзь расказваў смешнае, задумёна ківалі галовамі, калі гаварыў ён аб чым сур'ёзным, страшным.

Угледзеўшы, што адзін цыган сядзіць на мяшку мукі каля парога і ўсё раз-поразу з'язджае з яго, Улас сказаў:

— Ідзі, пане цыгане, сюды, на лаву.— А потым, пасунуўшыся, сказаў скоранька:— Э, не, лепш сядзі там, а то мне якраз прыйдзецца сядзець на некім суку...

Павятовыя начлежнікі выйшлі скора з сваёй каморкі. Абодва яны селі на доўгі зэдлік пасярод хаты, гаварылі на ўсякія тэмы; яны звярталі ўвагу на ўсё, што рабілася вакол.

Старшы паглядзеў на жабрака і сказаў яму ціха:

— Але ж ты, браце, змёрз і ўтаміўся здорава, відаць па табе. Цяжка хадзіць?

— Ведама, цяжка,— адказаў жабрак з выглядам чалавека, які мала цікавіцца — лёгка яму ці цяжка. У яго

як бы не было ніколі думак, паняцця аб тым, што жыццё можа быць лягчэйшым. А ў таго, што гаварыў з ім аб цяжары яго жыцця, быў такі выгляд, як бы ён хацеў сказаць: «Нядобра, ліха на яго, але ж цяпер нічога не зробіш. І хоць загэтым і можа быць тут месца для смутку, але трэба яго адганяць ад сябе, бо ён нічога не паможа, толькі пашкодзіць».

Слабы адбітак такой думкі, ці можа нават толькі пачуцця, ляжаў на твары гэтага чалавека.

Яго ж малодшы таварыш вёў шумныя размовы, многа жартаваў, часта рагатаў з вясёлым Мікіткам, які ўсё насвістваў розныя маршы і полькі. Былі ў іх вясёлыя вочы, светлыя твары, рашучы рух рук і ног. Яны ва ўсім шукалі нявіннага, здаровага гумару — з рогатам жартавалі, што «не мяшала б адбіць ад рыжага яго бабу», смакуючы смешныя славечкі, успаміналі, як нядаўна ў адной вёсцы шляхціц гнаў самагонку, дый зрабіў нешта там не так, як трэба: апарат разарваўся, і шляхціца ўсяго «абкаціла брагаю, як саладухаю», ён увесь «аблузаўся, як д'ябал», і хадзіў, «як апараны япрук».

Не так сваімі жартамі, як сваім смехам яны заражалі ўсіх, зычна рагаталі цыганы, не адставалі ад іх пільшчыкі, прычым Кузьма раз-поразу паўтараў, як вельмі было ўжо смешна: «А братачка ж ты мой, а-ха-ха-ха-ха!..»

Сакатала дробным смехам гаспадыня, нават жабрак калі-нікалі ўхмыляўся, паказваючы свае гнілыя зубы.

Толькі рыжы гаспадар хаты мала смяяўся.

Ён усё хадзіў па хаце,назіраў за ўсім, часта выходзіў на двор, абходзіў свае будынкі, абглядаў паваленае кучаю дзерава.

На ўсіх сваіх начлежнікаў, так жа, як і наогул на ўсіх людзей, ён глядзеў з боку карысці, якую ад іх можна мець. Ён усё, ходзячы, вылічваў, колькі яму дадуць за начлег павятовыя, ці не ашукаўся ён, умовіўшыся з пільшчыкамі за начлег разагнаць усяго дзве плашкі. І на ўсіх, хто быў у хаце, глядзеў звысоку, нават і на жонку сваю. Сябе ж ён лічыў разумнейшым, хітрэйшым за ўсіх. І гуляла па губах яго чуць заметная, гордая, звярыная ўсмешка.

Перад тым як лажыцца спаць, ён яшчэ раз абышоў усе свае будынкі. Усюды на дзвярах віселі цяжкія замкі, усюды быў парадак. Ён папробаваў, ці добра зачынены вароты ад вуліцы, і пайшоў у хату.

Ужо жабрак спаў на распушчаным кулі каля печы на зямлі. Дыхаў ён ціха. Твар яго задзёрся ўгару, чорныя зубы відаць былі з-пад расцягнутых губаў, а вочы былі толькі трохі прыжмураны. Выгляд твару яго быў такі, як бы ён сон свой, так як і ўсё, лічыў патрэбным не для сябе, а для нейкай незразумелай сілы, кіруючай яго жыццём, і для гэтай сілы трэба ўсё адбываць. І многа нейкай ледзяной пакорнасці, залежнасці было на гэтым сонным твары.

Ужо на шырокай лаве, галава к галаве, акрыўшыся сваімі вопраткамі, і пільшчыкі спалі. На разасланых кажухах каля стала драмалі цыганы, спешна дакурваючы свае папяросы. І павятовыя пайшлі ўжо ў сваю каморку. Толькі адзін Мікітка стаяў каля лямпы з адною разутаю нагою і круціў у руках бот, разглядаючы на ім новыя дзіркі.

Рыжы пастаяў трохі каля Мікіткі і пайшоў цераз сені ў сваю палавіну.

## IV

Скрозь дрымоту Мікітка пачуў, як з вуліцы застукалі ў вароты, потым чутно было, як бразгаў у сенях рыжы і гаварыў моцна, аж крычаў, на двары каля варот. Пачакаўшы трохі, ён адчыніў дзверы і ўпусціў у хату жанчыну. Шэрая, узлахмачаная, цяжкаю, разбітаю паходкаю прайшла яна на сярэдзіну хаты і стала, дзіка азіраючыся. Мікітка бачыў востры, нецярплівы ўзгляд яе вачэй, нейкую ненармальную, аж сінюю, чырвань на твары. Потым ён, задзівіўшыся, аж усхваціўся з свайго кажуха, калі яна паволі апусцілася ўніз і села там, дзе стаяла, адкінуўшы ўбок голаў і абапёршыся аб зямлю вывернутымі рукамі.

Мікітка падбег бліжэй.

— Гэта ж яна гэтакая хворая,— закрычаў ён, нагнуўшыся над ёю,— т-ты, гаспадар!.. Рыжы...

Рыжага не было ўжо. Ён яшчэ на вуліцы не хацеў пускаць падарожную. «Што з яе возьмеш?» — думаў ён. Потым, угледзеўшы, што ад яе не адвяжашся, падняў голаў, паглядзеў на зоры і сказаў сам сабе пад нос:

— Гм... паўночы ўжо прайшло... няхай паваляецца дзе-небудзь на зямлі...— і, упусціўшы жанчыну ў хату, пайшоў у сваю палавіну.

На голас Мікіткі ён нехаця прасунуў заспаны твар у прачыненыя дзверы і недавольна сказаў:

— Ну, чаго яшчэ там?

— Яна саўсім хворая,— крыкнуў Мікітка.

— А што я вінават,— сярдзіта сказаў рыжы і падумаў: «На чорта я яе пусціў, адно клопату...»

Мікітка нагнуўся ніжэй, паглядзеў у твар жанчыне, потым выпраміўся і мармытнуў ціха рыжаму:

— Скора памрэ.

— Да што ты,— перапалоханым голасам прагаварыў рыжы і, падступіўшы бліжэй, глянуў на жанчыну, ды так і астаўся стаяць з растапыранымі рукамі.

Было нешта такое ў шырока расплюшчаных вачах жанчыны, што раптоўна вызывала ў другіх страшэнны жах, незразумелы страх. Зрэнкі ў яе вачах апусціліся ўніз, і яна як бы глядзела ў сярэдзіну самой сябе, і прытым так, як бы бачыла там нешта надзвычайна жудаснае. Потым яна гэтымі сваімі страшнымі вачыма стала дзіка вадзіць вакол сябе. А пасля саўсім лягла на зямлю, потым зноў паднялася... зноў лягла...

— Што табе, цётка? — запытаў паціху Мікітка.

— Боль... усюды...

— Даўно?

— Часта хапае...

— Адкуль жа ты?

— Так хаджу... бежанка...

— Мусіць, заразлівая нейкая хвароба,— сказаў паціху Мікітка рыжаму,— гэтакія хваробы на ўсіх пераходзяць.

— І рабі што хочаш,— развёў рукамі атарапеўшы рыжы. А ўжо ў наступны момант забыў ён усе свае думкі, гледзячы ў вочы кабеты і сам адчуваючы тое, што было ў іх. Страшную пустату, якая з'явілася на месцы ўсякіх думак, разам запоўніла нешта новае, дагэтуль незнаёма вялікае па сваёй сіле і страху, які з'явіўся з ім. Тут было і не перажываемае ніколі прагненне не бачыць таго, што свяцілася ў вачах жанчыны, было жаданне чалавека ахваціць розумам усё гэта, роспач чалавека, зразумеўшага слабасць свайго розуму для гэтага.

І яшчэ далей на крок адышоўся рыжы ад хворай к дзвярам.

«Гэта ж смерць ужо»,— мільганула ў галаве яго вострая думка, і яго абхапіў прыліў смутку.

Енкі хворай глушылі яго; здавалася яму, што чутны яны ўсяму свету. Апрача хворай і яго было ў хаце чатыры сонных чалавекі, а яму здавалася, што поўна хата людзей,

што яны таўкуцца ва ўсе бакі і падымаюць страшэнны шум. Здавалася яму, што поўна хата ў яго заразы, што ліпне яна на сцены, лезе ўсюды, задаўшыся адною мэтаю — згубіць яго. І, як у гарачыню піць, захацелася яму цішыні і спакою. Ён аж прыжмурыў вочы, але шум ад гэтага як бы павялічыўся. Тады ён, невядома дзеля чаго, сказаў у бок Мікіткі:

— Хоць бы агонь у лямпе прыкруціць трохі.

Усё гэта цягнулася некалькі кароткіх момантаў, пасля чаго ён крута павярнуўся і пайшоў у сваю палавіну. Там, накінуўшы на голаў кажух, ён доўга стараўся заснуць і не мог...

Першымі ад енку жанчыны прачнуліся цыганы. Яны ў неразуменні перакінуліся адзін з другім некалькімі словамі, азірнуліся па хаце. Жанчына застагнала мацней. Тады яны абодва ўсталі, падышлі бліжэй і глянулі ёй у твар. Там выразна адбівалася ўсё тое, што бачыў рыжы, толькі ўжо з большай сілай.

— Нейкая вельмі заразлівая хвароба,— сказаў Мікітка, сам не ведаючы, дзеля чаго.

І цыганы абодва глянулі адзін аднаму ў вочы, як бы не разумеючы, што робіцца вакол іх. А потым, як бы згаварыўшыся, разам выйшлі на двор і сталі запрагаць коні. І ўжо толькі там, на двары, ходзячы каля прывычнага воза, многа гаварылі, перабіваючы адзін аднаго. Потым пайшлі ў хату, забралі свае рэчы і пайшлі к гаспадару.

Там яны зноў глянулі адзін аднаму ў вочы, як бы адчуваючы сваю віноўнасць перад нейкім за тое, што робяць.

— Х-х-хузяін, э...х-х-хузяін, бяры грошы за начлег.

— Палажы на стол,— абазваўся рыжы, не высунуўшы нават галавы з-пад кажуха.

Ён саўсім не здзівіўся, што цыганы сабраліся ехаць. Ён цяпер рабіў натугі, каб пераканаць сябе ў тым, што ў хаце ў яго ўсё звычайна, спакойна і ціха, нічога надзвычайнага не робіцца. Ён не глянуў нават на грошы, не пацікавіўся, колькі яму цыган палажыў іх на стол, не выйшаў нават вароты зачыніць за цыганамі. Ён толькі чуў, як загрукаў на двары калясьмі цыганскі воз па прымёрзшай зямлі, і тады падняўся і стаў хадзіць па хаце.

А цыганы, выехаўшы за вароты, зноў загаварылі. Яны адчувалі сябе лёгка, як бы ўцёкшы ад вялікай бяды.

Выехаўшы ў поле, адзін падпоўз па саломе к перадку і моцна пагнаў коні па сухой, асвечанай трохі асеннімі зорамі дарозе, а другі весела падсвістваў у такт стуку конскіх капытоў.

Ад стогнаў хворай кабеты прачнуўся і жабрак. Ён падняў трохі галаву, высунуўшы яе з-пад халата, і паглядзеў на хату. Кабета ляжала на падлозе, Мікітка падсунуў ёй пад галаў нейкую вопратку, а сам пайшоў на сваё месца, сеў там і стаўківацца ўзад і ўперад, як бы разгадваючы трудную задачу.

Разгледзеўшы ўсё гэта, жабрак павярнуўся вачыма к сцяне, падцягнуў калені к самай барадзе, увесь сагнуўся, скорчыўся, стараючыся нічога не чуць, нічога не бачыць, як можна менш займаць месца, нікому не замінаць і быць ні для каго незаметным.

Але заснуць ужо яму не ўдалося.

Прачнуліся пільшчыкі. Мікітка ўсё ківаўся... стараўся да нечага дадумацца. Аж скура на лбе ў яго сабралася ў тры глыбокія маршчыны.

Першым падняўся Кузьма, каб паглядзець, хто гэта і чаго стогне. Ён угледзеў ківаючагася Мікітку.

«Нешта некае тут ёсць»,— падумаў ён і штурхануў пад бок соннага Уласа. Той падняў галаў, з маўчлівым запытаннем у вачах. Кузьма стаяў ужо, нагнуўшыся, над хворай.

Тое, што бачыў у яе вачах і ў рысах твару рыжы, а потым і цыганы і што навяло на першага страх, а другіх прымусіла накінуць сярод ночы карчму, прыняло цяпер больш выразны характар, вочы яшчэ больш падвярнуліся пад сябе.

— Зараза страшная, былі такія здарэнні,— сказаў Мікітка.

Кузьма раптоўна выпрастаўся, замаргаў вачыма і ціха сказаў:

— А братачка ж... Уласка...

Улас усхваціўся з пасцелі і падбег к Кузьме. Потым прайшоў па хаце, апусціўшы рукі, і па выразу твару падобным стаў да рыжага. Ён яшчэ некалькі разоў прайшоў па хаце, зморшчыў лоб і тут раптам стаў на адным месцы, задзёр твар угору, падняў палец і застукаў ім сабе па носе.

— Ага,— сказаў ён ні то сумліва, ні то весела,— ага!..

Усяго яго, як маланка, пранізала думка, пакрыўшая

сабою ўсё. І ён падышоў к Кузьме, хлопнуў яго па плячы і шапнуў:

— Бярэм манаткі і марш!

Яны стукалі ботамі, абуваючыся, званілі пілою, бразгалі напільнікамі.

— Куды вы, браткі, чаго?! — крыкнуў Мікітка, стаўшы на сваім кажуху.

Было нешта такое ў яго голасе, што вызвала ў жабрака думку, што тут робіцца нешта надзвычайнае — стогнуць, бразгаюць сярод ночы, крычаць не па-людску... Ён зноў абярнуўся на хату вачыма і глянуў на вісячую сярод хаты лямпу. Можа ён зноў лёг бы драмаць, але ўбачыў пільшчыкаў, з клункамі за плячыма, гатовых у дарогу.

— А дзе ж цыганы? — запытаў ён нясмела.

— Уга-а-а,— адказаў Мікітка,— тыя ўжо чорт ведае дзе,— першымі за ўсіх уцяклі.

Жабрак узняўся з пасцелі, а Мікітка загрукаў кулаком у дзверы, за якімі спалі прыехаўшыя з ім.

«Тыя ўцяклі, гэтыя збіраюцца ўцякаць; усе ўцякаюць,— падумаў жабрак,— нешта нейкае ёсць. А калі ўсе ўцякаюць, то значыць, і мне трэба ўцякаць».

І ён стаў паволі адзявацца.

«Выйду я апошнім,— думаў ён далей,— калі часам і абвінавацяць, дык не я першы».

А ў чым яго ці каго другога з пачлежнікаў маглі абвінаваціць, ён не знаў, ды і не стараўся высветліць сабе. Таксама не знаў ён, чаго ён збіраецца ўцякаць — усе ўцякаюць нечага, значыць, і мне трэба. І адчуваў ён сябе так, як бы быў у чым вінават. Але і заўсёды ён сябе так адчуваў.

З адным вялікім жаданнем як можна скарэй выбрацца адгэтуль пільшчыкі рушылі з хаты. На дварэ было ўсё звычайна, так як і ва ўсякую другую ноч. Свяцілі зоры, было холадна, у вёсцы не было ніякіх зыкаў.

І пасля таго суму і жаху, які найшоў быў на іх у хаце, яны зразу адчулі ў сабе прыліў вясёласці.

«Усё тое» асталося там, у хаце, гаварылі ў іх усе пачуцці, а тут «нічога гэтага» няма, усё звычайна.

Угледзеўшы, што малодшы нешта падкладае жанчыне пад галаву, Кузьма ў нейкім дзікім захапленні закрычаў весела і моцна:

— Эй, ты там, кансамол, давай там якую-небудзь раду!

I потым, засаромеўшыся гэтае свае выхадкі, вінавата выскачыў за вароты. Там стаяў Улас і ўсё тупаў нагамі на адным месцы.

Скрыпнулі вароты, і на вуліцу выйшаў жабрак, шэры і незаметны ў змроку.

— Слухай, ты,— сказаў яму Кузьма,— чаго ўцякаеш, спаў бы сабе там.

Жабрак нічога не адказаў, а крута павярнуўся і пайшоў хутка ў другі бок, не аглядаючыся.

I ўсё думаў: «Скарэй бы далей адысці, а то яшчэ дагоняць ды абвінавацяць. Нешта нейкае робіцца — уцякаюць, крычаць, стогнуць... Добра, што хоць выбраўся адтуль».

I нейкая буйная радасць саўсім ахвацiла іх. Яны на хвіліну аж прыпыніліся сярод двара, як бы разбіраючы, дзе яны і што з імі робіцца. I захацелася ім абодвум тады крычаць моцна або спяваць. I яны хутка пайшлі к варотам. Каля крайняга ад варот акна Кузьма прыпыніўся і глянуў скрозь асвечаную шыбу ў сярэдзіну хаты. Там, нагнуўшыся над жанчынай, стаялі ўжо ўсе трое — Мікітка і яго два спадарожнікі.

I яшчэ хутчэй ён заківаўся па дарозе. А Улас і Кузьма пайшлі ў бок вёскі. Яны не аддавалі сабе адчоту, чаго яны ўцякаюць, ад чаго ім так весела. Хутка ішлі яны; мінулі скора вёску і пайшлі палямі, самі не думаючы, куды — куды прывядзе дарога. Кузьма не думаў ужо ні аб гаспадарцы, ні аб спакойным жыцці дзе-небудзь у вёсцы. I было ў іх у абодвух такое пачуццё, хоць і зімою цягацца па ўсякіх глухіх кутках, хоць вечна так вандраваць, абы быць далей ад усяго таго, што нават падобна да смерці. Усё іншае не мае ніякае вартасці, абы толькі жыць, жыць...

А ў той самы час у карчме было вось што: рыжы ўвайшоў у палавіну, дзе былі начлежнікі.

— Паўцякалі,— сказаў ён дрыжачым голасам, аглядзеўшы вакол хату.— Паўцякалі,— яшчэ раз паўтарыў ён і, як бы ад слабасці, сеў на лаўку каля парога і маўчаў.

— I гэтыя збіраюцца ўцякаць,— яшчэ сказаў ён, бачачы, што павятовыя нешта збіраюцца рабіць — тупаюць каля хворай і на хаду адзяюцца.

— Ідзі, Мікітка, запрагай,— сказаў старэйшы.

— Давай ключы, рыжы,— ухмыльнуўся Мікітка і пайшоў на двор.

А тыя два сталі гаварыць між сабою.

— Дык як жа мы яе паложым?..— сказаў старэйшы.

— Возьмем у яго больш саломы,— кіўнуў галавою ў бок рыжага малодшы,— усцелем воз і так павязём. А самі як-небудзь. Да раніцы заедзем у горад, а там зразу ў больніцу паложым.

На тварах іх таксама свяціўся ні то нейкі страх, ні то нейкая непрыемнасць, але і нешта другое было ў рысах іх твараў.

Можна было, прыгледзеўшыся, угадаць іх настроі.

Чалавек павінен перамагчы ўсё, што толькі ёсць на свеце; нават і тое, што палажыла свой страшны адбітак у вочы кабеты.

І яны спакойна збіраліся ў дарогу.

— Браточкі ж мае,— загаварыў раптоўна рыжы, скочыўшы з лаўкі,— гэта ж вы яе з сабою забераце. Я хоць пабягу вароты вам адчыню, а то адна фортка, ліха ёй, як ні круці, усё роўна зачыняецца назад, і ў поўначы можна калясом учапіць.

І ён у звярыным захапленні, без ніякай свядомасці, забегаў па хаце, блытаючыся ў словах, няведама дзеля чаго расказаў, як у яго летась рабілі вароты і адну фортку кепска зрабілі, потым перавярнуў сваю гаворку на тое, што гэтай восенню ў яго падохла многа гусей. Не замячаючы ўсмешак на тварах слухачоў, ён пабег скоранька памагаць Мікітку запрагаць коні. Паадчыняў ён усе хлявы, шукаючы Мікіткавых хамутоў, і ніяк не мог супакоіцца. Як праз туман бачыў ён, як тыя двое вынеслі жанчыну, палажылі на воз і сталі ўкрываць кажухамі. Ён радасна бегаў вакол воза і ўсё стараўся памагаць, але толькі замінаў усім...

Мікітка порстка ўскочыў у перадок воза, дзе ўжо, цесна прытуліўшыся адзін к аднаму, сядзелі яго спадарожнікі, і пагнаў коні. За варотамі ён моцна свіснуў; коні ва ўвесь дух рванулі па сухой дарозе.

Рыжы не зачыніў нават варот, а пайшоў зразу ў хату. І ўсё хадзіў там з кутка ў куток, не ведаючы, што яму рабіць ад дзікае радасці, якая раптоўна захапіла яго. Ён ужо не думаў аб тым, што з адчыненых хлявоў павыходзілі на двор яго коні, каровы і авечкі, што могуць яны пацягнуцца куды-небудзь у поле і прапасці там. Яму было не да гэтага.

Спявалі пеўні ў вёсцы, скрыпеў ужо недзе калодзеж,

а ён усё хадзіў па хаце, без ніякіх думак, увесь ахоплены наплывам радасных пачуццяў.

І ўвесь астатак ночы было ў яго такое ўзбуджэнне.

Даўгія асеннія ночы.

Пільшчыкі ўжо дзесяць вёрст адышліся ад вёскі, а толькі яшчэ світаць пачало.

Збоку дарогі, каля кустоў ядлоўцу сталі яны супачыць і агледзецца пасля свайго нервовага ўзбуджэння. Новы дзень нараджаўся светлым і вясёлым. Ужо трапяталіся светлыя колеры на ўсходняй старане неба; кусты аддавалі сухім, халодным пахам, палі, пустыя і вялікія, поўны былі дрымотнай асенняй цішы.

На дарозе застукалі калёсы. Пільшчыкі азірнуліся.

Прытуліўшыся адзін к другому, трасліся ў цесным перадку «павятовыя пачлежнікі» рыжага — высокі чорны камуніст і нізкі, чырвоны ад холаду, камсамолец.

Укрытая кажухамі, ляжала на возе хворая жанчына. На самым перадзе на каленях стаяў Мікітка і з усіх сіл гнаў коні.

Пільшчыкі пастараніліся; яны саўсім зышлі ў бок ад дарогі.

Мікітка махнуў пугаю, свіснуў па коні, хітра і весела падміргнуў у бок пільшчыкаў, нясмела пазіраўшых на дарогу.

# «ДЗЯКУЙ БОГУ, ЯК ШКЛЯНКА»

## I

— Што гэта ў вас, свята якое ці сход?

— Ды не, таварыш, гэта бабы б'юцца.

— Як, усе?!

— Не, сягоння ўсяго дзве.

— А ў вас хіба і пабольш б'юцца?

— Ага-а-а!.. Каб толькі здароўя. Вунь па святога Юр'я, як бацюшка свянцонаю вадою гавяду акрэпліваў, дык бабы як пачалі дзеркачамі хвастацца — усякая хацела першай сваю карову падагнаць. Проста бяда. Прыйшлося вадою разліваць.

— Свянцонаю?

— Не-э-э!.. Чорт яго свянц... Тфу, каб ты згарэла... Бог яго свянцонае пабярэцца, гэта хаханькі — на гэтакі гурт. Хаця простаю, з Мікітавага вядра.

— Ну, а чаго ж цяпер выйшлі ўсім сялом?

— Глядзець.

— Хіба гэтак цікава?

— Ого! Часам і мужчыны глядзяць, глядзяць, дый давай самі.

— Э-э-э, дык у вас, значыць, баявая вёска!

— Чорта яна баявая. У выпадку чаго, дык усе па кустах.

— Ха-ха-ха! — заліліся камсамольцы рогатам на ўсю вуліцу пасля такога адказу.

— Гы-гы-гы! — рагаталі яны доўга, пабраўшыся ў бокі і аж прысядаючы к зямлі.

— Чаго паехалі? — раззлаваўся пасля такой выхадкі стары дзядок.— Чаго, блазнота?..

— Ха-ха-і-гі-і!..— доўга не мог стрымацца адзін, Грышка.

— Ну, дык завядзі нас, дзядуля, у свой сельсавет,— папрасіў другі, Ванька.

— Э, не-э,— зацягнуў дзядок,— не-э, на гэта каюх. Наш сельсавет на той бок рэчкі, за дзве вярсты, у вёсцы Гнілое Балота. Там і пячаць, а ў нас адзін толькі член, дый той увесь аблузаны.

— А-га-га-га-хі-го-о!..

— Ха-ха-ха-ха! А браткі ж, як гэта аблузаны?

— Ат, што з блазнотаю гаварыць,— махае рукою дзед, зусім ужо раззлаваўшыся на няўважлівых рагатуноў,— скажы ім, як людзям, а яны залягаюцца на ўсю вуліцу, чорт ведае чаго.

— Ну, як жа не рагатаць, дзе гэта відана, каб члены сельсавета былі нейкія аблузаныя. Што гэта, прозвішча такое можа, ці якое ліха?

— Не, якое к чорту прозвішча. Ты не рагачы, а слухай. Гнаў ён, значыць... уга-а-а, калі гэта было, яшчэ перад калядамі... самагонку. Ды, як чорт надаў, разарвала ўсю гэтую яго прыстройку. Вось яго ўсяго і абкаціла кіпнем, небараку, як япрука. Так і ходзіць аблузаны.

— Ну?!. Ха-ха-ха!.. А-яй, вось трапілі ў вёсачку...

І два камсамольцы рагочуць на ўсю вуліцу. А вакол іх ужо збіраецца грамада. Там, далей, яшчэ чутны пісклівыя крыкі, лаянка, відно, як мітусяцца ў паветры над галовамі радасных мужчын і баб растрэсаны дзяркач і нешта вёрткае, пакручастае, ні то скрутак чорных нітак, ні то скручаны ручнік. Чутны вясёлыя крыкі ўзбуджаных мужчын:

— А-та-та-та, лупі, лупі чорт д'ябла!

— Так, так, так, г-г-г-ух!.. Гоп!

Але цэнтр увагі ўжо тут, і патроху там усё пачынае заціхаць. Шэраю, шчыльнаю сцяною абкружваюць Грышку і Ваньку мужчыны, чухаюць бароды, скрабуць за каўнярамі і глядзяць на новых, «відаць, гарадскіх» хлапцоў.

— Ну, дык дзе ж ваш той аблузаны, хоць бы паглядзець на яго, які ён?

— Ён...— пачаў дзядок і раптоўна змоўк, адчуўшы, як яго моцна піпурхануў пад бок сусед, малодшы, увесь, як агонь, рыжы, доўгабароды чалавек.

— Дурань ты,— накінуўся ён на старога,— хоць і ў бацькі мне гадзішся. Няпраўда, браткі,— звярнуўся ён раптоўна да камсамольцаў,— мала што ён тут вам брыдзіць. Не слухайце яго, гэта ён не хоча палохаць вас.

Якая тут к чорту самагонка, гэта хвароба такая папуе ў нас, пошасць. Вельмі заразлівая, так зразу ўвесь твар і аблазіць.

Камсамольцы змікіцілі, што тут вядзецца нейкая «палітыка».

— Асабліва на свежых людзей вельмі бярэцца,— гаварыў далей рыжы,— хіба, браткі, мы раім вам, уцякайце адгэтуль як мага!

— Э-э-э, вунь куды загнуў! — засмяяўся Грышка.— Мы не баімся, мы дактары ад усіх хвароб.

— Пайшоў ты к чорту! — загаманіў ціха дзядок, крыва ўхмыльнуўшыся і ўціскаючыся назад у грамаду.— Знайшоўся доктар, смаркач нейкі!

— Многа такіх дактароў знойдзецца,— пачуўся яшчэ адзін голас,— давай адно ўсякаму.

— Што давай? — запытаў Грышка, ужо і сам дагадаўшыся.

— Калі вы сапраўды дактары і прыехалі лячыць нас,— зноў загаварыў рыжы,— дык мы і самі лечымся без ніякіх дактароў. Няма ў нас чым плаціць вам. І аднаго трудна аплаціць.

— Якога аднаго?

— Што часамі, гады ў рады, прыязджае з воласці, з мястэчка. Часам, як хто захварэе, дык прывозяць багатыры, а ён усё кажа — давайце яму.

— Слухайце,— выступіў наперад шчуплепькі чалавечак з надслепаватымі чырвонымі вочкамі,— калі гэта трэба вам узяць тут фурманку, дык нічога не будзе, не варта нават і быць вам тут доўга. У Гнілое Балота ідзеце, там вам будзе і фурманка і шмурманка. А тут няма каму, нават і пячаць там. Я ж кажу.

— Ды нам вашай фурманкі не трэба. Нашто яна нам. Мы сваімі нагамі ходзім,— адказаў Грышка.

А Ванька запытаў:

— У вас тут, мусіць, хаты-чытальні няма?

— Якое гэта шпітальні? — пачуўся голас.

А другі, ні то жартам, ні то сур'ёзна сказаў:

— Ніякай шпітальні ў нас няма, а ёсць толькі шпіталь вар'ятаў,— сказаўшы гэта, зарагатаў, і ўсе зарагаталі.

— А што гэта за ўстанова такая,— запыталі насмешліва хлопцы,— гэта можа ў вас замест сельсавета?

— Не,— адказалі з рогатам,— гэта ў нас святымі днямі моладзь збіраецца ў Марціна Галавешкі гуляць. Ды

там, набраўшыся да адказу, заўсёды галовамі ходзяць. Дык старыя і правалі Марцінаву хату — шпіталь вар'ятаў.

— А ў вас усе маладыя такія?

— Ды, можна сказаць, усе. Што ім рабіць,— адказаў дзядок і агляпуўся вакол сябе.

Аглянуліся і камсамольцы.

Бабы пакінулі ўжо біцца і ўсе падышлі сюды. Сталі з'яўляцца і хлопцы. У кожнага над левым вухам віўся чуб «па-казацку». Амаль не на ўсіх былі шырокія, жоўта-чырвоныя раменныя паясы, з усякімі бляшкамі і бляшачкамі. Пападаліся галіфэ — чорныя, зялёныя і ўсе з чырвонымі або жоўтымі кантамі. Але гэта былі саўсім яшчэ маладзенькія хлопцы, старэйшыя ж наперад не лезлі, а гаманілі з мужчынамі ззаду.

Сонца весела смаліла зямлю.

Грышка і Ванька пайшлі ў цень і селі на прызбу. Мужчыны — хто пайшоў дадому, хто, разам з хлопцамі, падышоў к прызбе. А Грышка і Ванька сядзелі і аглядалі непрывычны для іх малюнак: каля кожнага калодзезя была на палавіну вуліцы зялёная лужа, разам з качкамі плюхаліся тут дзеці, а другія качаліся збоку ў пяску разам з вераб'ямі і пісклівымі парасятамі. Каля платоў соўваліся сонныя свінні. З гультайскім рохканнем і філасофскім выглядам яны паволі чухаліся аб шэрае дзерава.

Грамада сабралася каля прызбы.

— Вы, браткі, ведаеце, чаго мы к вам прыехалі? — запытаўся Грышка ў хлапцоў.

— Ну, чаго?

— Гэта мы, значыць, прыехалі ўзяць шэфства над вамі, над вашаю вёскаю. З горада мы прыехалі. Шэфамі вашымі будзем. Ведаеце, што гэта такое?

— Ну, што?

— Гэта, значыць, на манер вашых старшых братоў будзем. Калі што трэба будзе памагчы або парадзіць — мы ў гэтым першыя.

— Паможаць, памочнік знайшоўся,— забубніў дзядок, махнуўшы рукою і падступаючы на крок бліжэй.— Ды хто вы такія будзеце?

— Мы камсамольцы. Чулі гэтакіх?

— Чаму не! Цяпер жа іх расплядзілася, як грыбоў пасля дажджу,— зацягнуў дзед тоненькім галаском,— вунь па ўсіх вёсках, куды ні глянь, дык гэтых кансамолаў

што робіцца-а-а — страх! Не ацерабіцца! Адно, дзякуй богу найвышшаму, у нас іх няма. Бог крыў...

— Наша вёска, дзякуй богу, чыстая, як шклянка,— падкрэсліў яшчэ адзін дзядок.

— Гэта хаханькі,— гаварыў першы,— ка'а, не гэтак, як трэба. Дык чорт жа яго мацеру і бацьку ведае, як ужо тут жыць! Проста даўнейшых дамакратаў прайшлі.

— Ат,— пачуўся голас,— што галава, то розум. Я вам, браткі, скажу...

— Пачакай, я скажу,— перабіў дзед, хітра, весела паглядаючы на камсамольцаў,— тут яно робіцца гэтак. Я табе, тымчасове, пане Матусэвіч, скажу (дзед панізіў голас і паляпаў па плячы суседа). Гэта якраз тое самае, як даўней польскія мяцежнікі спявалі:

> Палем хаты, ламем праслы —
> Будзем есці курку з маслам,
> Будзем піць,
> Будзем хораша хадзіць...

— Тут яно так, усякі ў сваю капэлу заве, дый не знайся.

— Ты, дзядуля, усё ж такі маладзец, што гаворыш смела тое, што думаеш,— адказаў Грышка,— але паслухай, паслухайце і вы, хлопцы! Добра гэта, што ў вас кожны дзень бабы дзеркачамі хвошчуцца або што доктар дзярэ, калі прыедзе раз у год к хвораму? Народ жа ў вас часта, пэўна, хварэе?

— Ну-ну, страляй далей,— насмешліва сказаў дзед.— Пад'язджаеш то ты, сынку, добра, як то выедзеш?

— Я пытаю, народ у вас часта хварэе?

— Часта,— адказалі хлопцы,— нават і цяпер многа ляжыць на крываўку.

— Ну от, бачыце. А доктара няма? Чаму? А ты, дзядуля, кажаш, што вельмі добра жывецца.

— Мы лечымся самі,— адказаў дзед,— зеллем. А ў Гнілым Балоце жыве шаптун Бандарчык, дык ён хворых праз дуплявы дуб працягвае і дзёшава бярэ. А на доктара мы не лішне квапім — Бандарчык дзешавей. А зелле мы самі рвем каля рэчкі ў Бушылаве — кусты гэта так у нас прызываюцца.

— А многа памагае Бандарчык і зелле?

— Калі бог дасць, то паможа.

— Але ж, пэўна, многа і ўмірае?

— Ну, каму суджана, той умірае.

Дзед ужо саўсім стаў сур'ёзны, а хлопцы сказалі:

— У нашага папа хварэлі дзеці на крываўку, дык доктар і не вылазіў з хаты, усе і выздаравелі, а ў панамара Юстына таксама хварэлі, дык абое і памерлі без доктара.

— Ну, бо ім гэтак суджана,— адказаў сур'ёзна дзед,— ім гэтакі век назначаны.

— Якое к чорту суджана,— сказаў адзін з хлапцоў,— чаму ж поп не глядзіць на гэтае «суджана» ды доктара заве?

— Ну, бо ён грошы мае.

— От, бачыце,— сказаў Грышка,— вы самі дагаварыліся да праўды. Хто мае сілу, дык усе тыя «суджана» яму на карысць. А вы гаворыце, што вельмі тут у вас усё добра. Або якая карысць вам, што вашы каровы поп вадою абкрэплівае, а бабы дзеркачамі хвошчуцца каля яго? Пэўна ж, не дарэмна поп гэта робіць!

— А папу не трэба жыць?! — закрычаў дзед.— Ён жа на гэта вучоны, што ж яму рабіць?

— Няхай бы вучыўся чаму іншаму, няхай работу робіць і будзе жыць.

— Не дуры мае галавы! — махнуў рукою дзед, зусім збіты з панталыку.— Смаркач аблезлы,— вылаяўся ён ціха і злосна за тое, што не знайшоў чаго адказаць гэтаму вясёламу хлапцу, які невядома адкуль з'явіўся.

І пайшоў дзед, ціха бубнячы нешта пад нос. За ім і ўсе старыя пачалі разыходзіцца.

А Грышка і Ванька доўга яшчэ гаварылі з хлапцамі. Хлопцы як бы і самі адчувалі ўсю супярэчнасць быту свае вёскі. З камсамольскай жа працай яны былі знаёмы з суседніх валасцей і вёсак.

— Дык вось, браткі,— гаварыў Грышка,— мы арганізуем у вас камсамол. Будзем к вам часта прыязджаць. Адчынім чытальню — у валасці пакінулі мы цэлую звязку кніг і газет. Вы павінны ўжо нам памагчы даставіць іх сюды к вам...

Ужо заходзіла сонца. Пацямнеўшая вуліца пыліла ад прайшоўшага з поля быдла, як хлопцы сталі разыходзіцца.

## II

Грышка і Ванька начавалі ў вёсцы. Завёў іх у сваю крайнюю ў вуліцы старую хату Міколка, саўсім мала-

дзенькі хлапец-падростак. Вечарам яны ўтрох сядзелі на вуліцы, на прызбе, і прыслухоўваліся к вячэрняму жыццю глухой, старой вёскі.

Тыя самыя хлопцы, якія днём слухалі іх, цяпер «гулялі» па вуліцы. Яны хадзілі «па-салдацку ў ногу» і дралі на ўсё горла розныя песні, якіх Грышка з Ванькам даўно ўжо не чулі.

«Маладая дзяўчыначка сына радзіла»,— драў дзіцячы няроўны голас.

З неміласэрным свістам і бразганнем у нейкую бляху хлопцы хваталі далей:

«Р-р-рыбалоўцы-хлопцы рыбу лавілі; трай-рай, ра-та-тай, рыбу лавілі! Не спаймалі шчупака, спаймалі ліня, развярцелі, паглядзелі — там было дзіця...»

— Якія ж тут у вас яшчэ старыя песні спяваюць! — гаварылі Грышка і Ванька Міколку, слухаючы.

— Яны сябе завуць чамусь-то дзевятаю ротаю,— сказаў Міколка,— і што вырабляюць — страх, часам чуць вокан не б'юць.

І тут жа міма іх прайшла другая «рота-кучка» зусім яшчэ малых хлапцоў — гадоў па трынаццаць. Яны нечакана вынырнулі аднекуль са змроку і зразу напоўнілі вуліцу моцнаю «салдацкаю» лаянкаю і заліхвацкімі славечкамі. Потым выбег наперад адзін і загукаў на ўсю вуліцу, размахваючы рукамі:

— У імя айца — Мацвей з канца і духа святога — Кузьма з другога. Амін — Францішак-дваранін.

— А Міхалка яго сын! — гукнулі ўсе гуртам, не даўшы яшчэ таму скончыць, і на ўсю вуліцу зарагаталі.

— Што гэта значыць? — запыталі хлопцы ў Міколкі.

— Гэта яны «перахрысцілі» вёску,— адказаў Міколка,— з канца Мацвей — мой бацька, з другога канца вуліцы жыве Кузьма, а пасярэдзіне — шляхціц Францішак з сынам Міхалкам.

Грышка і Ванька доўга рагаталі.

— Ур-р-ра!.. Ядры вашу палку, лупі, бі-і-і!..— няслося з другога канца вуліцы.

— А гэта,— паясніў Міколка,— мусіць, падпіўшыя хлопцы «гуляюць».

— Ну, браткі, і жывеце вы,— гаварыў Грышка Міколку,— прыйдзецца ў вас тут здорава папрацаваць.

Вуліца стала заціхаць каля дванаццатай гадзіны ночы...

А назаўтра — у нядзелю — Грышка і Ванька сазвалі сход вясковай моладзі. Прыйшло трохі і старых.

Грышка доўга тлумачыў аб арганізацыях моладзі і іх мэтах.

— ...Каб разумна жыць, трэба старацца ўсё ведаць, што робіцца на свеце. А то часта глухая вёска не ведае, што робіцца нават у сваім павеце,— закончыў ён свае слова.

Учарашні дзядок, які пацікавіўся прыйсці і сягоння, насмешліва махнуў рукою і з ухмылкаю сказаў:

— А нашто мне канечна ведаць, што робіцца недзе там, невядома дзе. Я, дзякаваць богу, пражыў на свеце семдзесят год, прайшоў за сваё жыццё чорт ведае колькі мясцоў, паўсотні гарадоў праехаў, а папытай, дзе я быў? Чорт яго ведае. Я не ведаю, бо не цікавіўся. На чорта мне яно! Аднак жыву не горш за людзей. Былі тры жонкі — кожная перада мною слова сказаць баялася, бо я быў гаспадар. А на чорта мне там ведаць, што дзе за светам робіцца. Што яно мне, хлеба дасць?!

Усе хлопцы зарагаталі.

Дзядок не спускаў з губ ядавітай ухмылкі, гледзячы на камсамольцаў.

І тут жа хлопцы пачалі спрачацца, зацікавіўшыся дакладам.

Потым камсамольцы слухалі, што хлопцы гаварылі пра сваю вёску.

Многа хварэла тут дзяцей, збіраў поп па некалькі разоў на год свой падатак, доктарам для ўсіх быў у суседняй вёсцы шаптун Бандарчык. Было па некалькі фэстаў, у якія пасля абедні ў царкве ўся вёска залівалася самагонкаю. Не было тут і школы.

Усё гэта Ванька запісаў.

А Грышка на ўсім гэтым пабудаваў свой даклад. Ён доўга гаварыў аб прычынах такога цёмнага і шкоднага жыцця, аб дзіцячых хваробах, аб жаночым горы.

І калі стаў гаварыць аб тым, як многа ўмірае дзяцей па вёсках, дзядок ужо чамусьці не смяяўся.

У дакладзе сваім Грышка выявіў прычыны ўсіх вясковых бед і намечаны шлях барацьбы з імі.

І нарэшце сход моладзі вынес пастанову адчыніць хату-чытальню і школу. Камсамольцы абяцалі паклапаціцца ў горадзе, каб сюды прыслалі доктара агледзець вёску. А потым згаварыліся ўсе гуртам пайсці ў воласць —

забраць астаўленыя камсамольцамі кніжкі для чытальні, а вечарам знайсці хату для яе.

— Будзем мы прыязджаць к вам часта,— сказаў нарэшце Грышка,— каб выцягнуць вашу вёску з тае ямы, з якой яна цяпер свету не бачыць. А цяпер, хто хоча стаць камсамольцам, каб працаваць разам з намі?

І хлопцы адзін за адным сталі падыходзіць к сталу.

# МАКСІМКА

## I

— Як сабе, браткі, хочаце,— хочаце вязеце, хочаце не. Дзела ваша. А я вам скажу адно: на гэтым тыдні павінны ўсе аддаць начыста першую рату падатку: хто не аддасць, будзе вінават.

Сказаўшы гэта, старшыня сельсавета быў ужо змоўк, але, пачуўшы, як з усіх куткоў раптоўна пачаў узнімацца густы гул галасоў, ён дадаў:

— Мяне націскаюць — і я націскаю: маё дзела такое — сказаў і баста.

І тады ўвесь сход раптам загаварыў. На розныя тоны загулі галасы. Чуліся яны не адно адтуль, дзе, пры цёмным свеце лямпачкі, густою сцяпою вырысоўваліся кажушкі, халаты, касматыя галовы і шэрыя твары, чуліся яны і з цёмных, неасвечаных куткоў, дзе і сцены і людзі зліваліся з густым змрокам.

Гаваруноў было многа, і гаваруны былі розныя. Адны гаварылі па той прычыне, што тэрмін «на гэтым тыдні» лічылі малым, каб здаць падатак; другія мелі гатовае жыта, і трэба было толькі запрэгчы каня і завезці яго ў горад, але і яны не маўчалі, бо думалі, што ўсякая, якая б сабе ні была, гаворка дае якую-небудзь карысць. Трэція гаварылі проста затым, што ніяк не маглі абысціся, каб не пагаварыць там, дзе ўсе гавораць; агулам кажучы, гаварылі яны проста затым, што мелі языкі і ўмелі сяк-так гаварыць.

Нарэшце, быў яшчэ адзін сорт гаваруноў. Гэта тыя, якім ад падатку не было, як кажуць, ні горача, ні холадна: дагэтуль яны не мелі зямлі і атрымалі яе толькі ў гэтым годзе і загэтым падатку цяпер не давалі. Але, нягледзячы на гэта, некаторыя з іх стараліся гаварыць больш за ўсіх; і невядома дзеля чаго — ці то яны хацелі памагчы

каму сваёю гаворкаю, ці то даўно не гаварылі і былі рады, што дарваліся да гаворкі.

Гаваруном гэтакага гатунку быў Міхалка, па вулічнаму прозвішчу — Сляпенькі, шчупленькі, вёрткі чалавечак, з чырвоным, як медзь, дробненькім тварыкам і рыжанькімі вусікамі і бародкаю. Шмыгаючы ў грамадзе, падлазячы мужчынам пад локці, усім замінаючы, ён стараўся ўсіх перашчабятаць, паўтараючы за кожным словам сваю звычайную прыказку — «тым часам, браткі мае».

Другім гэтакім гаваруном быў Алесь Манцівода — чалавек стары, такі самы нізкі, як Міхалка, але таўсцейшы. Сівая барада яго траслася ад гаворкі, і бялелі з-пад шапкі-«лахмыткі» пруткія валасы. Ці то ад старасці, ці то ад другой якой прычыны, ён заўсёды забываў тое, аб чым пачынаў гаварыць, і ўжо не стараўся прыдумаць забытую думку, а пачынаў зразу ж новую, кончыўшы забытую фразу на сярэдзіне словам «гэтае». Так, як і Міхалка, ён не думаючы гаварыў усё тое, што лезла на язык, і загэтым гаворка ў абодвух іх выходзіла складна, але ні к сялу, ні к гораду.

Быў яшчэ адзін «практычны» гаварун, які думаў з сваёй гаворкі зрабіць сабе карысць. Гэта быў Клеманс Мікадэмчык. Ён хацеў, каб яго калі-небудзь выбралі ў сельсавет, і з усіх сіл сваіх стараўся паказацца ўсім чалавекам «гаваркім, разумным, які можа павясці ўсякае дзела». Загэтым ён усюды, дзе толькі можна было, гаварыў без канца. Як і большасць гаваруноў, ён аб сэнсе сваёй гаворкі не думаў, а рабіў так, як найлепш рабіць у такіх выпадках,— заўсёды гаварыў усім у руку...

Усякі гаварун лічыў сваю гаворку вельмі важнай, усякаму здавалася, што калі ён не пагаворыць, дык будзе вялікая бяда і таму, каму даюць падатак, і таму, хто яго дае. Усякі думаў, што яго ўсе слухаюць, але выходзіла так, што ніхто нікога не слухаў, а гаварылі ўсе.

Толькі адзін старшыня сельсавета не гаварыў. Яно то і яму хацелася пагаварыць, але, як вядома, трудна аднаму чалавеку гаварыць так, каб сотня мужчын была давольна яго гаворкай. Для гэтага трэба мець добрую галаву. Галава ж у старшыні была, праўда, не кепская, але ж і не такая ўжо добрая, каб можна было ўнаравіць цэламу сходу. І ён ціха стаяў каля стала і слухаў, як яму ў руку стараўся гаварыць Клеманс Мікадэмчык. (Ён думаў, што старшыня паможа яму ўлезці ў сельсавет.)

— Яно пэўна,— гаварыў Клеманс,— старшынёва дзела такое — сказаў і баста. Яго націскаюць, і ён націскае. Тут робіцца гэтак: не вязеш — будзеш вінават.

— Павінен абстайваць,— скрозь гул пачуліся Клемансу два словы. Яны прымусілі яго падумаць, што выбіраць у сельсавет будзе не старшыня, а ўсе тыя, што гудуць перад старшынёю і перад ім. І Клеманс раптоўна змяніў сваю палітыку: абярнуўся спіною к старшыні і загукаў ужо ў руку мужчынам:

— Праўду там кажа, што павінен абстайваць. Нашто ж цябе і выбіраюць, як не на тое, каб добра, ка'а, абстайваў. Павінен абстайваць!..

Яго ніхто не слухаў, але ён крычаў далей:

— Калі не абстайваеш, дык нашто ж ты ў сельсавеце? Далжон абстайваць за народ!..

— Тым часам, браткі мае,— шчабятаў у Клеманса пад локцем Міхалка Сляпенькі,— трэба, кажа, вязці, бо будзеш вінаваты. Тым часам выразна сказана, хто не павязе, дык абвінавацяць. Тым часам, браткі мае...

— А я... гэтая...— хрыпеў у кутку Алесь Манцівода,— я гэтаксама, слухаю, чую і гэтая... Павінен, добра кажа, гэтая... Бо калі не гэтая, дык нашто ж ты, гэтая...

— Воўк яго рэж,— чуўся з агульнага крыку яшчэ адзін голас,— але чорт яго ведае, у чым тут вязці? У калёсах ці ў санях? На двары вунь ні снег, ні гразь.

— Тым часам, браткі мае, добра кажа, ні снег, ні гразь,— падхваціў Міхалка, перабягаючы ў другі кут.— Тым часам, браткі мае, чорт яго ведае, як тут вязці — ні сані, ні калёсы. Па-мойму, тым часам, браткі мае, пакуль націскаць, дык падумай, каб як гэта яго вязці ў санях, а не ў калёсах, тым часам, браткі мае...

Міхалка ахрып і шчабятаў ціха, к таму ж ён адбегся далёка ад стала, і старшыня не чуў яго шчэбету. Але каб і чуў, то ўсё роўна была б адна карысць, бо, як вядома, няма яшчэ пакуль што такога дэкрэта, каб сельсаветы маглі наганяць снегавыя хмары.

— Яны адно і ўмеюць — камандаваць ды націскаць,— гукаў Алесь Манцівода.— Я ж кажу, апрача гэтага больш нічога і не гэтае. Адно камандуюць ды таўсцеюць. Распухне, падла, як бочка, раскорміцца, дый гэтае... (Старшыня быў худы і тонкі, як цвік.) Я ж кажу, усякі, ліха яму, выгадуе чэрава ўсё роўна, як той нябожчык, вечны пакой, адвакат Альфіровіч — за дзень не абяжыш, не то

што, каб гэтая... (Ён думаў, што некага там, вечны пакой, адваката Альфіровіча знае ўвесь свет.)

А старшыня стаяў і маўчаў. Ён знаў, што ўсе гэтыя людзі на гэтым тыдні здадуць свой падатак і потым будуць весела ўспамінаць, як вазілі яго гуртам у горад. Ён знаў, што не могуць людзі не гаварыць, сабраўшыся вялікаю грамадою. А як лепш гаварыць, калі ніхто з гаваруноў за сваё жыццё нічога ніколі не бачыў, апрача саломы, плуга ды воза...

І сход доўга гуў у чатырох цёмных сценах, на самым краю вёскі. Даўно ўжо сцямнела на двары, даўно ўжо пакінулі скрыпець калодзезі на гразкай, чорнай вуліцы, а мужчыны ўсё не ішлі дадому. Што рабіць у нуднай хаце ў доўгі асенні вечар?

## II

У тую пару, як сход шумеў у густым змроку асенняга вечара, міма праходзіў Максім Нагорны. За тое, што быў ён малога росту і шчуплы, усе звалі яго — Максімка. Худы твар яго быў бела-жоўты і заўсёды абросшы рэдкімі валасамі: Максімка брыўся ўсяго разоў тры на год, бо «займацца гэтым глупствам часцей не меў часу». Па гэтай прычыне і валасы на яго галаве заўсёды кудлачыліся з-пад парванай шапкі, ніжэй вушэй.

Нёс ён пад пахаю ад шаўца з суседняй вёскі свае старыя боты з новымі латкамі. Праходзячы ў канцы вуліцы міма «зборні», у якой і даўней і цяпер збіраліся сходы, Максімка стаў, каб паслухаць, чаго там народ шуміць.

У той жа час іншыя пачалі ўжо разыходзіцца са сходу, каму надаела пераліваць з пустога ў парожняе. У цемнаце чутно было на вуліцы, як калі-нікалі адчыняліся скрыпучыя дзверы, як, грукаючы ботамі, выходзілі на ганак людзі.

— А браткі ж мае,— гаварыў часам дзядзька, спускаючыся з мокрага ганка,— вось цемрыва, хоць на воўка ўссунься, а-я-яй!

— Страшэнная моц,— адказвалі адпекуль з цемнаты, і ўслед за тым пары тры ботаў пачыналі мясіць гразь са снегам на мокрай вуліцы.

Максімка пастаяў каля плота, выждаў, як нікога не было па ганку, і палез на яго. Потым патупаў трохі ў сен-

цах, раздумваючы — ісці ці не. Рашыў зайсці і, абмацаўшы клямку, пацягнуў к сабе. Дзверы скрыпнулі і адчыніліся.

Гаваруны яшчэ не пакінулі гаварыць. Праўда, гаворка была трохі іншая, і вялася яна ўжо трохі іначай. Міхалка Сляпенькі ўжо не так шпарка перабягаў з кутка ў куток, а Алесь Манцівода саўсім ужо маўчаў і нешта думаў, ці можа драмаў, стоячы адзін пасярод памяшкання, наводшыбе ад усіх. Галава яго апусцілася ўніз, сіваенькая бародка ўперлася ў грудзі, ад чаго ён прыняў выгляд старэнькага казла, задумаўшага на старасці год бароцца.

Гаваруны гаварылі ўжо не толькі аб падатку, але і аб многім іншым, што каму лезла ў голаў. У адным кутку гаварылі аб тым, ці не грэх гэта местачковаму папу ад таго, што ён стаў насіць галіфэ і валасы астрыг, у другім кутку гаварылі, ці могуць ад чорнай кабылы пайсці сівыя коні ў «яблыкі». Трэція злавалі адзін на аднаго, выграшаючы вельмі важнае пытанне — ці можа быць добрая самагонка з таго жыта, у якім многа «гірсы». А яшчэ ў адной кучы, каля самых дзвярэй, нехта высокі і лахматы, размахваючы рукамі і ківаючы на ўсе бакі галавою, расказваў, як ехаў ён адзін раз з Дзярэчына да Лешні і згубіў затычку з восі і загэтым тры разы ў яго скідалася калясо. Гэтую «гісторыю» можна было расказаць у пяцёх словах, а ён ужо больш за гадзіну гаварыў і яшчэ ўсё не падыходзіў к канцу. Яго слухачы моцна пазяхалі і гаварылі між сабою аб тым, колькі званоў на цімкаўскай званіцы — пяць ці чатыры. Усім ужо надаелі «сталыя» гаворкі і хацелася чаго-небудзь жывога, хоць бы каго паскубці або пакрычаць. Як заскрыпелі дзверы і ўслед за тым паказаўся Максімка з ботамі пад пахаю, некалькі галасоў зразу гукнула:

— Але ж Максімка трапляе заўсёды якраз упору.

Міхалка ўвесь страпянуўся ад радасці, падбег да Максімкі і залепятаў:

— Добра ка'а, якраз упору трапіў; ха-ха-ха, якраз явіўся на разбор шапак; прыйшоў, тым часам, браткі мае, у свіныя галасы.

— А я гэтая,— абазваўся Алесь Манцівода, праціраючы заспаныя вочы,— я ж кажу, усякі ўсё на гатовае спадзяецца і гэтае... Няма, каб прыйшоў памагчы дзела рашаць, дык не, хай нехта, так як бы яму нічога і не гэтая...

— От, ішоў ды зайшоў,— віпавата адказаў Максімка, не ведаючы, дзе яму дзецца.

— Тым часам, браткі мае, ён, як верабей, прэцца на бляск,— вылепетаў Міхалка і, давольны сабою, азірнуўся.

Ён быў рад, што дарваўся да новай тэмы. Ды і многія, няведама чаго, былі рады, так як бы Максімка прынёс ім прычыну для вясёласці. Знайшоўся нават адзін, што, сам не ведаючы чаму, закрычаў над вухам у Максімкі — «ур-ра-а!». І тады ўсе, убачыўшы, што дагаварыліся да пустога канца, пачалі разыходзіцца.

Было ўжо позна. У многіх хатах ужо былі патушаны агні.

Было ціха, і гучна зычэлі галасы на цёмнай вуліцы, і плюхалі па гразі боты і лапці.

І толькі цяпер, па дарозе дадому, Максімка дапытаўся, чаго быў сход. Ідучы ў вялікім гурце, ён думаў, што заўтра трэба будзе да свету ўстаць, звеяць жыта, бо хто іх ведае, калі ўсе задумаюць везці.

— А калі ж павязом? — запытаў ён у Міхалкі.

Міхалка бойка адказаў:

— Тым часам, браткі мае, чорт яго ведае. Ты думаеш, народ наш ведае, калі вязці? Дурны наш народ.

— Але, добра кажаш,— сказаў Алесь Манцівода, пачуўшы, аб чым Міхалка гаварыў з Максімкам,— гэта ж трэба ведаць, у які дзень вязці.

— Эй, мужчыны! — загукаў ён на ўсю вуліцу.— Калі ж праднагог гэтае?!.

— Якое гэтае?

— Калі, значыць, праднагог у горад пагэтае?

— Калі павязом?

— Але.

— А чорт яго ведае; што ты ў мяне пытаеш, пытай ва ўсіх. Эй, р-р-абята, у які дзень павязом?

Рабяты прыпыніліся, і ўжо саўсім загула цёмная, сонная дагэтуль вуліца. Сход нанава распачаў працу сярод вуліцы ў цёмную ноч. І цяпер ужо выключна гаварылі аб падатку, але толькі на першых часах, пасля зноў пачалі збівацца з гаворкамі ў бакі.

Сталі вырашаць, у які дзень везці.

— У панядзелак! — крычалі адны.

— Хто гэта ў панядзелак выбіраецца ў вялікую дарогу, дурны ты. Панядзелак — дзень нешчаслівы,— гукаў нехта з цемры.

— А нашто нам вельмі ламаць галаву,— пачуўся голас,— не к сабе вязом, а ад сябе. Закажуць, воўк іх рэж.

Нехта яшчэ падаў голас, што трэба пачакаць маладзіка і тады везці, але другія яго асмяялі, закрычаўшы, што гэта сеяць трэба маладзіком, а не везці гатовае. І тут жа пачалася гарачая спрэчка, калі лепш сеяць жыта — маладзіком ці «сходнімі днямі». Па большасці галасоў выйшла, што не маладзіком і не «сходнімі днямі», а «самым поўным», але тут сталі падавацца галасы, што гэта «поўным» добра ўстаўляць дубэльты ў вокны — макрэць не будуць. Алесь жа стаў раптам расказваць, як даўней «Лейба Міхолаў» павёз у Варшаву вагон цыбулі на продаж і пакуль завёз, дык цыбуля ўся памерзла, і ён зарабіў, «як Заблоцкі на мыле».

Закончылі сход неўні, пачаўшы спяваць. Як трэба будзе везці, то сельсавет закажа — была ва ўсякага цвёрдая думка, і ўсе весела разышліся па хатах. Некалькі хвілін за імі стукалі дзверы, ляпалі яны па прымёрзшай зямлі лапцямі і ботамі. У вокнах ясней заблішчалі агні, але ненадоўга. Скора ўсё пацямнела і заціхла.

## III

На трэці дзень, пагожаю раніцаю, перад вокнамі ў Максімкавым двары стаяў Буланчык, запрэжаны ў драбіны. На драбінах ляжалі два мяшкі з жытам.

Гэтыя мяшкі не давалі яму спакою. Ён бачыў іх праз акно з сваёй цёмнай хаты і ўсё думаў. Яго браў страх ад таго, што ён выбіраецца ў горад за сорак вёрст. Чаго яму было страшна, ён сам ніколі не мог бы растлумачыць, ён і не разумеў гэтага. Ды ніколі аб гэтым ён і не думаў. Ён адчуваў гэты страх інстынктыўна, несвядома.

Каб хто запытаў яго:

— Вернешся ты, Максімка, з горада?

— Вярнуся,— з цвёрдай упэўненасцю адказаў бы Максімка ва ўсякую мінуту.

— Будзеш ты там пакутаваць?

— Не,— абавязкова адказаў бы Максімка.

— А чаго ж ты баішся?

— Страшна неяк, ліха на яго,— вось які быў бы, пэўна, Максімкаў адказ. Усё гэта ён і адчуваў у сабе, пазіраючы праз акно на свае мяшкі.

Пачало гэта з'яўляцца ў яго з самага сходу. Усе дні ён, корпаючыся каля свайго гумна, паволі складаў усё на двары ў парадак, саломка за саломкаю, дубец за дубцом.

«Няхай будзе ўсё ў парадку,— думаў ён,— калі хто і гляне, дык за што ён ка мне прычэпіцца, ні ў чым я не вінават». А за што к яму мог хто прычапіцца ці ў чым яго маглі абвінаваціць — ён не думаў аб гэтым.

Рапей за ўсіх прыгатаваў ён сваё жыта, а калі ў яго пыталі, ці гатоў ён, ён цвёрда адказваў:

— Як-небудзь трэба гатавацца, каб паспець вязці разам з усімі.

Напярэдадні ад'езду Максімка пайшоў на змроку к свайму суседу Тодару, якога лічыў за чалавека сталага, няздольнага да насмешак над другімі, і доўга радзіўся з ім, як выязджаць. Цэлую гадзіну вырашалі яны ўдвух пытанне — ці браць на ўсякі выпадак у воз сякеру (мала што можа здарыцца ў дарозе: часам затычка зломіцца, чым ты новую зробіш?), пагаварылі яшчэ аб горадзе і сваіх адносінах да яго.

Пагаварыўшы з Тодарам, Максімка саўсім быў супакоіўся, але перад самым выездам, раніцаю, зноў пайшло на яго нешта трывожнае.

І ён загэтым тарапліва, нервова адзяваўся, камячыў свой падатковы ліст, хаваючы яго ў кішэню.

Каля яго падскакваў, зазіраў яму ў вочы сынок яго, Піліпка, але ён мала звяртаў на яго ўвагі. І толькі раз-поразу пасылаў яго на вуліцу глядзець, ці не выязджаюць мужчыны.

«Вось як паедуць як-небудзь ціха, а я астануся,— думаў ён,— вось будзе работы!..»

Але Максімка не мог астацца, каб і хацеў. Такія рэчы ў вёсцы ціха і скора не робяцца. Яны робяцца трохі інача́й, як многія думаюць. Іншаму вальнадумцу здаецца, што няма нічога лягчэй: запрог каня, ускінуў на воз мяшок, сцебануў каня пугаю і пайшоў. Лёгка так думаць, але пайдзі зрабі, папрабуй. Робіцца ўсё гэта вось як: адзеўшыся, Максімка пабег яшчэ к Тодару. Той саўсім іначай глядзеў на ўсю справу. У яго над пачуццямі браў перавагу розум. Збіраўся ён так: хадзіў па хаце і ўсё разважаў:

— Чаго спяшаць — не к сабе павязу, а ад сябе.

— Чаму гэта не выязджаюць? — запытаў у яго Максімка.

— Ч-ча... Чаго!.. А-а-а...— гукнуў Тодар,— паспееш!.. Хто гэта дурны спяшае з дому.

І Максімка пад Тодаравым уплывам паспакайнеў.

«Буду я адно пільнавацца Тодара»,— рашыў цвёрда Максімка, ідучы назад к свайму возу. І стаў папраўляць хамут па Буланчыку...

На вуліцы чутны былі крыкі.

— Ну, чаму ж не выязджаеш? — скрыпеў недзе ў двары злосны голас.

— А сам ты што,— адказваў другі голас,— на каго крычыш, а сам? Здаецца ж — конь дзякуй богу!..

— Конь, конь,— агырквaўся першы,— як табе мой конь у вочы коле. Хто табе забараняе добрага каня мець!..

— Ну, выязджайце там, гэй! — чулася яшчэ з другога боку.

— Выязджайце там, гэй! — крычаў, задзёршы галаў, той, да каго кагадзе крычалі.

Максімка вытknуўся на вуліцу.

— Максімка, выязджай! — гукнула разам некалькі галасоў.

Максімка скоранька шмыгнуў назад у двор.

Галасы не пакідалі глушыць вуліцу.

— Юрась, выязджай!

— А ты што?!

— У мяне кабыла накульгвае, як жа я пярэднім паеду!

— А ў мяне конь пудлівы. Хай, калі гэтак, Рыгор першым едзе.

— Уга, як бачыш! Ён ужо Рыгора ўгледзеў,— апраўдваўся Рыгор.

— Эй ты, чаму не едзеш?!

— Ну, а ты?

Цераз некалькі хвілін на вуліцу выйшаў з двара хлапец. Ён глянуў управа і ўлева па вуліцы, скрывіў свае брытыя губы ўхмылкай і, ляпаючы па халявах пужальнем, пайшоў назад у двор і хутка ўжо выехаў адтуль. Як толькі загрукаў ён калясьмі па мёрзлай зямлі, з усіх двароў рынуліся фурманкі; на вуліцы раптоўна стала шумна і людна. Цмокалі па коней мужчыны, грукалі і скрыпелі вазы...

## IV

Ссыпны пункт, дзе сяляне здавалі надатак, быў за горадам, пры чыгуначнай станцыі. З усяго павета з'язджаліся сюды сяляне, і загэтым заўсёды тут было людна і шумна. Пусты, пажоўклы выган заўсёды тут быў зацярушан сенам і саломаю, заўсёды пахла тут пылам ад збожжа і конскім потам і заўсёды чуўся тут гул людскіх галасоў.

Часам, і вельмі часта, прыязджала сюды некалькі сот фурманак. Не маглі яны ўсе ў адзін дзень здаць свой падатак і стаялі па некалькі дзён. Тады начамі гарэлі тут агні, чорныя фігуры людзей пры агнях прымалі фантастычна-грубы выгляд, галасы гулі стрымана, цішэй. Змрок доўгай асенняй ночы дрыжаў ад агнёў, і, калі агні палалі ясней, наперадзе смутна пачыналі вырысоўвацца няясныя абрысы горада.

Раніцаю прыходзілі сюды прыёмшчыкі падатку, і начныя вартаўнікі пакідалі базы. Тады цэлыя сотні мужчын лезлі к дзвярам і тлумачылі адзін перад адным, што ўсе іншыя прыехалі пазней і толькі іх, некалькі чалавек, даўно ўжо, больш за ўсіх чакаюць. І выходзіла такім чынам, што ўсякі мае права на тое, каб у яго першага прынялі падатак. Наогул кажучы, усе былі першымі, апошніх не было,— так выходзіла, паглядзеўшы і паслухаўшы ўсяго тут.

У гадзін дзесяць раніцы Максімка пачаў дагаварвацца ў мужчын, каб як гэта пачаць здаваць, але Тодар парадзіў:

— Чаго спяшаць, не бяром, а аддаем, паспеем...

Мужчыны асмяялі Тодара, і яму прыйшлося разам з другімі ісці на ганак базы. Некалькі мужчын праціснуліся ў дзверы, дзе сядзеў прыёмшчык з паперамі...

— Чаго ты, Тодар, астаўся? — загукалі яны Тодару,— хадзем разам, будзем гаварыць.

— Вось я адно іначай буду рабіць,— абазваўся Тодар і падаўся ўбок. Там стаяў стары чалавечак, у кароценькім кафтаніку, надпяразаны вяровачкаю. Дзяржаў ён у руках граблі і мятлу і строіўся зграбаць гной каля баз. Гэта быў сторож пры базах. Тодар накіраваўся да яго.

— Каб гэта як-небудзь, таварыш, праднапог гэты самы здаць,— пачаў прасіць Тодар.

Стары адставіў убок сваю мятлу, важна надзьмуў вусы і сказаў:

— Ды як-небудзь трэба прыняць.

І яшчэ больш надзьмуўся, мусіць, каб паказаць, што і ён тут грае нейкую ролю.

— А дзе здаваць? — запытаў зноў абнадзёжаны Тодар.

Стары аўтарытэтна заявіў:

— Гэта бяда адно, што мне трэба якраз ісці гной зграбаць, а то мы як бачыш бы...

І, сказаўшы гэта, кашлянуў для важнасці і запусціў свае граблі зубамі ў кучу гною. Тодар паволі пайшоў назад к ганку.

А там ужо, як у раскіданым муравейніку, усё кішэла і варушылася. Там, дзе важылі жыта, мужчын было, як вады ў поўным збанку. Там крычалі, апраўдваліся, пылілі жытам, паказваючы, што яно без пылу, невядома зачым лаяліся адзін з адным... А Максімка ўжо крактаў, коцячы па зямлі перад сабою свой мяшок.

— Ну і народ,— гукаў прыёмшчык,— памаглі б вы яму!

— Дык жа я сваё знімаю,— абазваўся кожны з мужчын,— цяпер жа мая чарга.

Прыёмшчык насмешліва гукнуў:

— Дык жа вы ўжо ўсё ссыпалі!

— А я яшчэ не!

Гэта пракрактаў Тодар, валакучы ўслед за Максімкам мяшок.

— Стой, не сып! — гукнуў прыёмшчык Максімку.— Квітанцыі выйшлі!

— Я ўжо высыпаў,— вінавата адказаў Максімка.

— Вось табе і раз.

І прыёмшчык напісаў на куску паперы, колькі Максімка здаў жыта, прылажыў да паперы пячаць, даў яе Максімку і сказаў зайсці па квітанцыю заўтра. Тодар, які адзін яшчэ не здаў, астаўшыся ад усіх сваіх аднасельцаў, упрасіў прыёмшчыка не пакідаць яго аднаго з жытам назаўтра ад землякоў. І прыёмшчык у Максімкавым лісце прыпісаў Тодарава прозвішча...

К канцу дня схмурнела, раптам захаладала, падуў густы вецер-сівер, і хмары коса секанулі па зямлі снегам-крупою. Горад нахмурыўся, надуўся і прыціх.

Выган каля ссыпнога пункта пачаў патроху пусцець: раз'язджаліся, хто здаў падатак, хто не здаў,— шукаў сабе прытулку. Паехалі дадому і аднасельцы Максімкі і Тода-

ра, і толькі яны ўдвух засталіся да заўтрашняга дня. Яны патупалі трохі каля сваіх вазоў, паставілі каўняры ў халатах і сталі збірацца ехаць начаваць у горад.

## V

Як толькі пачыналася раніца, у заезджым доме Гірша Дрэйзіна пачынала крыніцаю біць жыццё. Двор тут і павеці заўсёды былі перапоўнены балагольскімі вазамі, самі балаголы, з бесканцоваю гаворкаю і крыкам, тарапліва шнырылі між сваіх вазоў і на вуліцы каля дома. Яны цягалі на свае вазы з рынку мяшкі солі, скрынкі цвікоў, запалак, махоркі... Гаспадар дома — чалавек год пад сорак, вёрткі, вострабароды і хітры, як вужака,— пільна сачыў за ўсім тым, што рабілася тут. Лепш за ўсіх ён ведаў, што рабілася і ва ўсім горадзе. Свайму сябру ён без абмылкі мог сказаць, у якім становішчы грашовыя справы кожнага кааператыва ў горадзе, добра ведаў, колькі можна ўзяць за карову або за пуд шэрсці ці фунт масла ў якім-небудзь мястэчку вёрст за сорак і г. д. Сяляне, якія часта ў яго начавалі, былі ўпэўнены ў тым, што ён ведае «лепш за ўсякага камісара», ці будзе вайна і, калі будзе, то з кім і калі... Ніколі ён не сядзеў на адным месцы, а ўсё шныраў ад цямна да цямна па ўсякіх крамках, абмацваў на рынку сялянскія вазы, зазываў к сабе начлежнікаў і пры гэтым гаварыў столькі, колькі не гаварылі зараз усе тыя людзі, якіх заўсёды было поўна ў яго ў доме і на двары. Тодар і Максімка, здаючы падатак, бачылі яго нават нечага каля прыёмшчыка падатку. Яны яшчэ не ведалі, хто ён, але ён зразу кінуўся ім у вочы, як адмятнейшы ад усіх. У яго і прыйшлося начаваць Максімку і Тодару.

Закрыўшыся каўняром ад ветру, ён падбег да іх перад самым вечарам і закрычаў:

— Зарабіць хочаце ці не?

— Чаму? — адазваўся Тодар.

— Я ў вас пытаю — зарабіць хочаце?!

— А ты што за чалавек? — запытаў Максімка.

— Тфу! — плюнуў той.— Ці я табе патрэбен? Табе грошы мае патрэбны. А я хоць чортам буду — табе ўсё роўна.

— А які заработак? — сказаў Тодар.

— Дык мы ж не для гэтага прыехалі сюды,— сказаў ціха Максімка.

— А начаваць то трэба вам дзе-небудзь, ці тут будзеце, на гэтым скавышы? — пасмешліва гукнуў Гірш Дрэйзін.— У мяне вам будзе і начлег і шмачлег, толькі па возу жыта прывязеце мне з рынку.

Пасля доўгіх думак Максімка з Тодарам паехалі на рынак. Дрэйзін ускаціўся на Максімкаў воз.

Рынак пусцеў ужо. Не было ўжо тут ніводнага сялянскага воза, разыходзіліся з сваімі кашамі гандляркі. І толькі ў адным месцы, проці кааперацыйнай крамы, стаяла густая кучка народу. Чуўся адтуль свіст і музыка. Пакуль Дрэйзін хадзіў спраўляць дзела, Максімка з Тодарам падышлі к кучцы людзей.

Абкружаныя шчыльнай сцяной гандляроў, дробных рамеснікаў, павыбягаўшых у сваіх фартухах і без шапак, і так нейкіх людзей, кепска адзетых, абшчыпаных, плюгавых, арудавалі тут два музыканты. Адзін, абросшы пруткімі кароткімі валасамі, з макратою пад вачыма і пасінеўшым носам, у кароткім картовым кафтаніку, круціў шарманку, якая выпускала з сябе нейкі піскліва, наіўна-вясёленькі матыў. Другі, у доўгім чорным, аблезлым і парваным паліце, дзяржаў на плячах барабан і, апусціўшы ўніз і вывернуўшы руку, біў па ім тонкаю і доўгаю палкаю ў такт шарманцы. Пры барабане была на пружыне медная талерка, ад яе быў праведзен уніз шнурок і зачэплен чалавеку за абцас. Барабанячы, ён выконваў нейкі просценькі, зусім прымітыўны танец і меў вельмі смешны выгляд. Ён кружыўся на адным месцы, невысока падскакваў, стараючыся папасці ў такт шарманцы. Ад яго руху шнурок тузаўся, і медная талерка бразгала па барабане, не пападаючы ў такт. Час ад часу, стараючыся развесяліць сваю публіку, ён выкрыкваў усё адно і тое ж:

— А я бедны сірата
На свеце астаўся,—
Маці санкі спаліла,
Што з печы спускаўся!

Шарманшчык пачынаў быстрэй вярцець рукою, і скакуну прыходзілася драбней перабіраць нагамі. Тут жа на зямлі ляжаў адчынены стары чамадан, у які публіка кідала грошы, папяросы, хлеб, яблыкі — што ў каго было.

Максімка пераглянуўся з Тодарам, нечага ўхмыльнуўся і пайшоў к свайму возу. Разам з Дрэйзіным налажылі

яны з Тодарам на вазы жыта і павезлі па крывых вуліцах у заезджы дом Дрэйзіна.

Пачынала цямнець.

## VI

У той дзень у Дрэйзіна начавала многа народу. Вялікі начлежніцкі пакой быў запоўнен людзьмі. Сама больш было тут балаголаў, сялян было саўсім мала. Былі тут і так нейкія, невядома якія людзі. Цэлы вечар яны вялі між сабою свае асобныя гаворкі, вырашалі нейкія справы, шапталіся часта з Дрэйзіным, які таксама, як і ўдзень, многа бегаў і часта садзіўся за стол лічыць грошы. Нейкія цёмныя, невядомыя людзі цягалі сюды аднекуль мяса, рыбу, мяшкі з мукою і без мукі і многа чаго іншага.

Увесь вечар, нягледзячы на холад, дзверы не зачыняліся. Балаголы бесперастанку выходзілі на двор глядзець коней, хадзілі на кухню, насілі адтуль гуркі, смажаную рыбу і ўсё тое, чым прымала іх гасцінная Дрэйзінава кухня.

Са столі спускалася ўніз вялікая лямпа. Вакол яе кучкамі цясніліся людзі, лічачы пры агні грошы, прачытваючы нейкія запіскі, надпісы на нейкіх скрыначках. Ва ўсім пакоі не было дзе павярнуцца. Усё тут варушылася, крычала, спрачалася, ашуквала адно аднаго, хітрыла адно перад адным, таптала пад ногі ўсё чужое.

І, гледзячы на гэтых клапатлівых людзей, зразу кідалася ў вочы тое, што ўсе яны так увайшлі ў свае гэтыя справы, што, самі таго не замячаючы, лічаць свае справы і сябе цэнтрам усяго жыцця на зямлі...

Паставіўшы на двары коні, Максімка і Тодар увайшлі ў хату. І тут гэтая цесната, крык, узбуджаныя твары людзей вярнулі Максімку той страх, які ён адчуваў, выбіраючыся ў горад, і які напалавіну страціў за сваімі справамі.

Удвух з Тодарам увайшлі яны ціха, баязліва азірнуліся вакол, не выпускаючы з рук пугаў, сталі вачыма шукаць ціхага і цёмнага месца, дзе б задрамаць. Знайшлі яны такое месца ў самым кутку хаты, каля печы. Там яны разаслалі свае халаты і паселі.

Клапатлівыя людзі пераступалі цераз іх ногі, наступалі на іх халаты і не давалі ім задрамаць. Максімка саўсім скруціўся ў камяк, прытуліўся цесна к печы, і ў вачах яго засвяцілася такое пачуццё: «Не чапайце вы мяне, я нават не абзавуся».

Як ужо саўсім на двары сцямнела, снежная крупа мацней застукала ў вокны і мацней зашумела ветрам за дзвярыма. Тады Гірш Дрэйзін раздзеўся, сеў за стол і пачаў прымаць грошы з начлежнікаў, з кожным таргуючыся і ловячы ўсякага на словах.

Адчыніліся дзверы, і ў хату ўвайшлі два шарманшчыкі, якіх Максімка з Тодарам бачыў на рынку. Яны абодва былі страшна вясёлыя — відаць, недзе дасталі выпіць. Вясёласць гэтая неяк не ішла к ім, асабліва к барабаншчыку. Ён зразу агледзеў поўны людзей начлежніцкі пакой і замітусіўся на адным месцы, стараючыся вырабіць нейкі танец. І зноў загукаў добра завучаныя словы:

А я бедны сірата
На свеце астаўся!
Ух я-я!..

З выглядам чалавека добра тут знаёмага шарманшчык расчысціў свайму сябру-танцору кола сярод хаты і шалёна закруціў шарманку. Пад той самы матыў, які Максімка з Тодарам чулі на рынку, барабаншчык закруціўся на адным месцы. Дрэйзінавы начлежнікі прыціхлі і з вялікаю цікавасцю застылі шчыльным колам.

Максімка з Тодарам застылі каля сваёй печы, пазіраючы на гэтую праяву.

— Стой! — крыкнуў шарманшчык, пакідаючы круціць.— Цяпер глядзеце вучонага папугая.

Усе, хто толькі тут быў, яшчэ цясней абкружылі шарманку.

І тады Максімка і Тодар з свайго цёмнага кутка ўбачылі, як барабаншчык неўзаметку выціснуўся з кола, паставіў каля сцяны барабан, павадзіў па людзях п'яненькімі вачыма і запусціў руку ў кішэню франтаватага начлежніка, які забыў усё на свеце, апрача вучонага папугая.

— А братачка ж, эй ты! — гукнуў Максімка, раптоўна ўскочыўшы з свайго месца.

Барабаншчык шмаргануў руку з кішэні, але моцна тузануў, і начлежнік абярнуўся і ўсё зменціў.

— Дзяржы злодзея! — закрычаў ён.

— Каго, дзе?!.

— От то-о, браткі, у кішэні злавіў.

— Ну?!.

— Яй-права!

Чалавек дзесяць навалілася на п'янага барабаншчыка.

Яго цягалі па хаце, накладалі яму па шыі, а ён маўчаў, як бы ўпэўнены ў тым, што гэтак яму прызначана.

І ўжо тады, як яго адпусцілі, ён, хістаючыся ў бакі, падышоў к сталу.

— Га-аспад-да,— сказаў ён п'яненькім гугнявым галаском,— ці ведаеце вы, каго вы білі?

І ён велічна ўзняў угору руку.

— Вы білі мяне, а не ведаеце, хто я. Наце, глядзіце!

І ён выхапіў з-за пазухі запэцканую паперу і бразнуў на стол.

Начлежнікі рынуліся к сталу.

Там ужо стаяў Дрэйзін, падняўшы паперу к лямпе.

— Ш-ш-ш,— зашыпеў барабаншчык, велічна-трагічным махам рукі сцішаючы зашумеўшых начлежнікаў.

Пры мёртвай цішы Дрэйзін прачытаў, што дваранін Франц Уманіцкі, па ўказу яго імператарскага вялічаства, награджоны медалём за ўсмірэнне сялянскага паўстання супроць памешчыкаў у 1905 годзе, у Ліхасельскай воласці.

— Гэта я,— тыкаў сябе ў грудзі барабаншчык,— вось і медаль.

Аб стол бразнула нешта звонкае.

— Вы не знalі, што рабілі, вы цёмныя, і я прашчаю вас.

І, сказаўшы гэта камічна-велічным голасам, барабаншчык сеў і трагічна паківаў галавою.

— Дык гэта вось што за штушка,— пачуўся з кутка сялянскі голас,— вось што, дваранскае аблічча да чаго дайшло!

Начлежнікі гранулі рогатам і пачалі распаўзацца хто куды. Зноў пачалі ўсе хітрыць адзін перад адным, старацца ашукаць адзін аднаго: Дрэйзін — сваіх начлежнікаў, начлежнікі — яго і адзін аднаго.

П'яны барабаншчык ужо зваліўся на лаўку і нешта хрыпеў п'яна-сонным голасам.

А Дрэйзін ужо ў суседняй каморцы даставаў з-пад палы бутэлькі з «напіткамі». І ўжо, хто меў нюх, пайшоў туды. Шарманшчык уклаўся спаць на падлозе. Максімка з Тодарам баязліва сядзелі ў сваім кутку, а ў другім кутку таксама маўчалі некалькі сялян.

Начлежнікі гулі і варушыліся, ляпаючы раз-пораз дзвярыма.

— А-яй, браткі! А-яй! — пранізаў раптоўна гул галасоў і стук ног праразлівы голас.

— Што?!

— Каня ўкралі з падцаветкі.

Максімка з Тодарам інстынктыўна ўсхваціліся і шмыгнулі на двор. Рынуліся за імі і ўсе.

Быў страшэнны крык на двары, свістаў каля варот міліцыянер, сяляне лезлі на свае вазы і ўкладаліся там.

На двара ўжо было ціха. Вецер сціх, крупа пакінула сыпаць з неба, свяціў месяц і светла было.

Максімка з свайго воза ясна бачыў двух міліцыянераў, як яны пайшлі ў самую глыбіню двара; перад імі разыходзіліся ў бакі нейкія цёмныя людзі, няведама якія.

— Вось і рабі што хочаш,— сказаў Максімка Тодару з свайго воза.

— Што? — запытаў міліцыянер, падыходзячы бліжэй.

— Мы бядуем, што начаваць на двара прыходзіцца,— сказаў Тодар.

— А вы хто такія будзеце? — запытаў міліцыянер.

— Мы сяляне, здавалі падатак.

— І мы сяляне,— абазваліся яшчэ з другога кутка.

— Дык чаму ж вы ў Доме селяніна не начуеце?

— Мы нічога не ведаем.

— Вось чудакі. Едзьце зараз жа, яшчэ сягоння рана. Вось на трэцяй вуліцы, к канцу горада.

Сяляне хваціліся запрагаць коні.

І, ужо запрогшы, сталі спрачацца, ці не паехаць саўсім дадому — ноч відная. І парашылі ехаць.

— А вы адкуль? — запытаў у іх Тодар.

— З Церабілаўкі.

— Дык гэта ж ад нас блізка, разам ехаць,— узрадаваўся Тодар.— Ці не паехаць і мне з імі?

— А як жа я? — запытаў, спалохаўшыся, Максімка.

— А ты пашукай таго Дома селяніна ды начуй, а заўтра атрымаеш і маю квітанцыю, ды і прыедзеш.

І Тодару ўдалося ўламаць Максімку. Ён разам з сялянамі паехаў дадому, а Максімка паехаў шукаць Дома селяніна.

Ён ехаў па забялеўшых ад снегу вуліцах горада, увесь ахоплены страхам пасля Дрэйзінавага дома.

«Вось папаўся,— думаў Максімка,— хай бы ты згарэў, каб хаця скарэй скончыць усё ды дабрацца да сваёй вёскі». І чым больш ён ехаў, тым страх перад горадам у яго ўсё павялічваўся. Быў момант, што хацеў ён адцурацца нават сваёй квітанцыі і пусціцца даганяць Тодара...

У Доме селяніна таксама біла крыніцай жыццё. Па доўгаму карыдору хадзілі ўзад і ўперад толькі што прыехаўшыя сяляне. Направа, за прычыненымі дзвярыма, ішла для сялян лекцыя.

Максімка паставіў Буланчыка ў хлеў і, ідучы ў дом, рашыў забіцца дзе-небудзь у куток, нікому не пападацца на вочы, як-небудзь ціхенька перадрамаць ноч і назаўтра скарэй уцякаць з горада.

У карыдоры запыніў яго сторaж:

— Спальны пакой яшчэ зачынен; можаш, таварыш, ісці піць чай або лекцыю слухаць.

Максімка нічога не адказаў. Ён ціха прыпёрся к сцяне і стаў глядзець, як уваходзілі і выходзілі сяляне.

Ён бачыў, як кучка сялян сабралася каля дзвярэй, за якімі ішла лекцыя. Як потым яны адчынілі дзверы і пачалі па аднаму ўваходзіць туды.

«А можа гэта там начаваць будуць?» — падумаў Максімка і пайшоў услед за ўсімі.

Ужо лекцыя скончылася. Лектар стаяў на памосце, вакол яго таўпіліся густа сяляне: яны закідалі лектара пытаннямі.

Максімка ўбіўся ў кучку шэрых халатаў і чуў, як сяляне смела гаварылі з «гарадскім чалавекам на памосце» аб конях, гародах, палях... І Максімка стаў прыслухоўвацца і аглядацца. Было тут трошкі накурана, пахла намокшымі суконнымі халатамі, нехта, мусіць, на ботах прынёс сюды пах дзёгцю. І сяляне хадзілі смела, як у сябе дома.

«Саўсім вёска»,— мільганула ў Максімкі думка, і нешта стала з'яўляцца ў ім родна-спакойнае. І стала здавацца яму, што каб глянуць у акно, то ўбачыш саламяныя стрэхі, мокрыя, па-асенняму голыя дрэвы, ціхі змрок вясковай ночы ўвосень.

І Максімку нешта пацягнула к акну. Глянуў ён праз цёмную шыбу з трэцяга паверха ўніз.

За крайнімі вулічкамі, трохі далей, рваў цемнату змрочнай ночы сваімі агнямі горад. Узнімаліся ўверх круглыя электрычныя сонцы, мігацелі і пераліваліся яны рознымі колерамі — і жоўтымі, і белымі, і чырвонымі, асвечаныя імі, узнімаліся высока каменныя сцены, цяжкія, нерухомыя. А з левага боку, зусім блізка, агні варушыліся, мяталі стрэламі. З горада чуўся ціхі гул, а адгэтуль звонкія стукі і нейкія магутна-шырокія зыкі глушылі раз-



Кузьма Чорны. *1925 г.*



Нясвіжская настаўніцкая семінарыя.

поразу ўсё. Пасля тры зыркія, агнявыя, круглыя вочы вынырнулі аднекуль з сырога змроку палёў, і нешта чорнае, жалезнае з крыкам і свістам падкаціла блізка і стала.

Станцыя напоўнілася людзьмі.

«Горад»,— падумаў Максімка і адвярнуўся ад акна. І над шэраю кучаю сялян убачыў такое ж самае электрычнае сонца. Яно спускалася са столі і свяціла сялянам, якія ўжо бралі з рук лектара нейкія беленькія кніжачкі, разбіралі па складах.

— Чаго стаіш, ідзі бяры кніжку,— тузануў Максімку сусед.

— А якая кніжка?

— Пра тое, як аглядаць на зіму поле.

— Поле,— здзівіўся Максімка,— кажаш, поле? Вясковае поле?!

— Хэ-хэ! А то якое ж яшчэ поле бывае!

— А дзе гэтая кніжка друкавалася?

— Ды тут жа, у горадзе.

— Ну?!

Максімка нясмела падышоў к сталу і ўзяў кніжку. Пакой апусцеў. Астаўся адзін толькі лектар. Ён збіраў са свайго стала нейкія раскіданыя паперы і кніжкі.

На сярэдзіне кніжкі Максімка ўбачыў малюнак: голыя дзеравы каля хат і на полі арэ чалавек.

Узбуджаны Максімка загарнуў кніжку і падышоў к лектару:

— Дык гэтая, значыць, кніжка друкавалася тут, у горадзе?

— У горадзе. А што?

Максімка мяўся на адным месцы і маўчаў.

— А вы адкуль?

— Ой, здалёку, за сорак вёрст...

Лектар раптоўна кіўнуў к сабе галавою і пайшоў. Максімка рушыў за ім.

У кутку дастаў лектар з шафы звязак кніжак і даў Максімку.

Максімка паглядзеў на кнігі, потым на «гарадскую» электрычнасць у сябе над галавою. І нешта радаснае затрапяталася-забілася ў ім. І недзе ў глыбіні, на граніцы пачуцця і думкі, з'явілася ў ім нешта такое:

«У адным горадзе два гарады. Не знаў я, дзе шукаць свайго горада...»

* * *

На другі дзень, папаўдні, выязджаў Максімка з горада. На саломе ўперадзе ляжалі абкручаныя мяшком кнігі.

— Эй, ты! Заязджай, можа начаваць трэба будзе! — закрычаў Гірш Дрэйзін, калі Максімка праязджаў міма.

— Што, не пазнаў? — хітра адказаў Максімка.— Эх ты, галава. Пайшоў ты з сваім начлегам!

Выехаўшы ў поле, Максімка азірнуўся на горад, як бы пакінуўшы ў ім нешта важнае, блізкае.

Адтуль даносіўся гул кіпучага жыцця.

Радасна і часта аглядаючыся на горад, Максімка пагнаў Буланчыка па мокрай ад растаўшага снегу дарозе.

# ЯК У ДЗЕНЬ УРАДЖАЮ ЦЕРАБІЛАЎЦЫ Ў ЛЮДЗІ ВЫЙШЛІ

Накрыўшыся вячэрнім змрокам, ушушкаўшыся стагамі свежай саломы, задрамала вёска Церабілаўка.

На вуліцы мільганула чорная цень і нырнула ў цесны двор.

Ляпнулі дзверы.

— Добры вечар у хату!

— А-а, кум. Здароў!

З кутка вынырнула лахматая галава.

— Запалі, жонка, лямпу — кум прыйшоў! Газоўкі мала.

— Газы няма.

— Хэ, хэ,— заляскала з кутка,— цяпер, хэ-хэ, ляктрычаства ў модзе!..

— А дзе ж яно?

— Г-гэ-э, ка'а, дзе яно! Чыталі ўчора ў Янкі Трыгубіцы газету, дык піша, што, ка'а, вёску асвецяць.

— Не даю веры.

— А думаеш, я даю? Дурны ты! Я ж кажу...

— Ат, гэта якраз, як нашы хлопцы дагары нагамі ўсё перастаўляюць; так і тут...

— Яно верна, хэ-хэ, сабака брэша, вецер носіць.

— Ка'аш, нешта разносяць? Ляктрыства па вёсках? А хто табе казаў? Не вер, плюй у вочы!

— Н-не! Я кажу пра хлопцаў. І мой жа Паўлюк у гэтай хеўры. Я, кажа, кансамол, і што ты мне зробіш?!.

— А ці праўда, што пакроў не прызнаюць?

— Кажаш, ці праўда! Слухай мяне, я ж ведаю, бо Паўлюк... Вы, кажа, старыя, калі гэтак пільнуецеся пакроў, святкуйце, а мы, кажа, свае пакровы зробім. Сабраў з поля ўраджай — святкуй ураджай, у нас так. Паглядзеўшы на нас, і вы, кажа, за намі пойдзеце.

— Хто гэта «вы»? Гэта значыць, мы, старыя, святкаваць з кансамоламі дзень ураджаю? Гэта гэтак Паўлюк казаў?

— Але!..

Хата гранула рогатам.

— Глядзі, Мікіта, кансамолам зробяць, гы-гы-гы!..

— Хэ-хэ — свята ўраджаю замест пакроў. І ды хто з імі пойдзе?!

— І чаго мяшаюцца! — зноў загаварылі.— Напусцілі гэтых кансамолаў (ды хто іх, праўда, напускаў, самі нек...), аграномаў некіх напрыдумлялі і дураць светам... Не гэтак вы, кажуць, поле абрабляеце. Саўсім, кажуць, па-дурному абрабляеце — дзіва, кажа, што не родзіць. Як жа ўжо яго абрабляць тут, чорт яго мацеру ведае.

— Ат, трэба было сказаць, калі чуў,— хай ужо нечага цябе пан-бог каростаю абробіць, калі нядобра я табе поле абрабляю.

— І чаго ўжо, здаецца, лезці?! Падатак аддаў — квіта. Не лезь. Дык бо не, мяшаюцца.

— Яно верна, не мяшай нам жыць так, як дзяды нашы жылі — ціха і добра. Часам з квасам, парою з вадою, але так, як прывык. А гэта аграмонаў нейкіх расплядзілі. Забраў падатак — не лезь!

— Хэ-хэ-хэ — туды падатак, сюды астатак, і чаго больш? Верна?!.

— Кхэ, кхэ — табака моцная.

* * *

Назаўтра думу думала вёска Церабілаўка — куды кінуцца. З аднаго канца вуліцы гулам гулі царкоўныя званы — абедню пакроўскую поп служыць строіўся, з другога канца загрукалі возам — павезлі нешта ў школу, а там — камсамольцы, аграном, людзі нейкія новыя, настаўнік.

А тут дзяўчаты з крыкам:

— «Дзень ураджаю» ў школу павязлі!..

І Церабілаўка ўся рынулася ў школу. Царкоўныя званы пагулі-пагулі і сіратліва заціхлі...

— Таварышы, сённяшні дзень...

— Ш-ш-ш. Хто гэта гаворыць?

— Аграном.

— А, аграмон?!

— Настаяшчы рамон, што канюшыну глушыць...

— Ш-ш-ш...

— Чаго шыкаеш, як вужака, слухай.

— У сённяшні дзень, таварышы, мы павінны добра

агледзець сваю палявую працу — як мы яе вядзем і што яна нам дае. Нам трэба паглядзець, колькі карысці там, дзе працуюць з агранамічнай навукай і дзе па-дзедаўску. Мы вось як разбяром зараз гэта, дык скажам, што нашы дзедаўскія парадкі ў гаспадарцы нічога не варты. І вось зачым...

— Чуеш, кум? — каравыя пальцы тузянулі суседа за халат.— Ты адно паслухай, кум,— нікуды, кажа, мы не варт з нашаю працаю...

— Ат, плюй у вочы.

— Арыштуе.

— Н-не!..

А «кум» набраўся смеласці:

— Ды ты, таварыш аграмон, я табе скажу па совесці па чыстай. Нічога, ты кажаш, не варт нашая праца дзедаўская, а недзе там, кажаш, вельмі добра — іначай працуюць, іначай вядуць гаспадарку, і вельмі родзіць. Дык дай жа ты мне на рукі тую іх працу, пакажы мне, як яно там у іх родзіць; што так гаварыць...

Весела кальнулі аграномавы вочы «кумаў» твар.

Бачыць «кум»: нагнуўся аграном каля стала, дастае нешта з кутка.

— Пачынаю паказваць, слухай!

«Кум» шмыгануў наперад, церабілаўцы ўсе за ім.

— Вось гэтае сена, браткі, вырасла на тым поплаве, на якім не ходзяць, як у вас, усю вясну і восень свінні, а дзе зроблена ўсё так, як казаў аграном. Угнаілі гэты поплаў тым попелам, які вашы бабы за плот высыпаюць.

Глядзяць церабілаўцы — у агранома ў руках пук сена, камсамолец з кутка на паказ больш цягне. Травіны, як лейцы, даўгія, як хвойнік, сяніна ў сяніну...

— Гэ-э, асакі палескай набраў, ды і хваліцца. Дзе гэта відана, каб добрая трава гэтак расла... Няма дурных...

Агонь нецярплівасці пекануў «кума», хваціў сена рукамі.

— А-я-й, браткі, гэта ж мурог!

— Мурог, настаяшчы мурог, ды гэтак узбуяў... А браткі ж...

А тут аграном:

— А вось перайшлі на шматполле, пачалі сеяць усякія культурныя травы — канюшыну, сырадэлю, лубін, як мора, цэлыя палеткі вікі... Ды яшчэ правялі канавы на поле з балота і балота асушылі — стала сенажаць па бараду, і

поле сушы пакінула баяцца. А травамі так угнаілі поле — гною не трэба. Глядзі, як родзіць, аж жыта змянілася!

Глядзяць церабілаўцы — жыта, як боб: зярнё ў зярнё, цэлая мерка...

— Навыбіраў можа з кучы!..

Але тут самі гыгыкнулі рогатам:

— З кучы? Па аднаму зярняці? Хэ-хэ, чудак.

Агледзелі ўсё церабілаўцы, перамацалі. Паслухалі. Кажуць:

— Яно то верна, удвайне ўраджай. Але на тое заграніца, каб па-заграмічнаму радзіла. А ў нас што? У іх і поплаў ад попелу родзіць, сей попел — расце сена.

Аграном расцягнуў твар усмешкай.

— А ведаеце вы, дзе гэтая заграніца? За дзесяць вёрст ад вас, у агранамічным пункце.

Ахнулі церабілаўцы.

— Ну?!

— Верна. Пытай у яго. Вось селянін адтуль.

Выйшаў ён наперад, той селянін. Глядзяць — суконная жакетка, у ячменных асцюках: свой брат.

— Дык гэта праўда?

— А то як жа, я ж адтуль.

Церабілаўцы абкружылі стол.

— Не напірай, браткі, аграмона прыціснеш!..

— Мы яго цяпер прыціснем. Давай яго сюды.

— А гэта бачылі?

Махнулася белае над галовамі.

— Лаві газеціну!..

— Чытай, кум.

«Кум» заслібізаваў.

— «Беларуская Вёска».

На трэцяй старонцы наткнуўся: «Як нашы сенажаці замест 40 пуд. сталі даваць па 180 пуд. сена з дзесяціны».

Зноў загулі церабілаўцы.

— Як то?

— А вось так.

— Дык чаму ж у нас гэтага не рабіць?

— А вам жа пакровы, а не дзень ураджаю трэба.

— Што пакровы, цемната наша, вось і пакровы.

І загулі церабілаўцы гулам:

— Дзень ураджаю — свята наша, настаяшчае, сялянскае!

— Церабілаўцы ў людзі выходзяць!..

# БЫЛЬНІКАВЫ МЕЖЫ

## I

Азалаціла восень поле ржышчам, дрэвы лісцем, гумны снапамі; абвеяла хаты жытнім пылам; вострым пахам кастрыцы напоўніла вуліцу...

Кароткімі днямі хутка пабегла жыццё ў вечнасць. Аднолькава яснымі нараджаліся яны, гэтыя дні, і такімі ж гаслі, і на змену ім прыходзілі доўгія асеннія ночы — то туманныя, то зорныя, з вострым халадком першых замаразкаў...

Дзень пры дні стагнаў ток пад Паўлавым цэпам. Ячменныя асцюкі з пылам забіваліся яму за каўнер і ў лапці, падала зверху на яго пыльнае павуцінне, і ён некалькі разоў на дзень выходзіў атрэпацца на двор.

А на двары і вакол было ўсё так, як і дзесяць, дваццаць год таму назад. Таксама плакалі замурзаныя дзеці, абсыпаў вецер пяском трухлявыя сцены, на пустых агародах панура цягаліся дробныя худыя коні. І той жа самы стары стук цапоў абуджваў пустое поле. Поле ж гэтае, яшчэ больш, здаецца, абрасло за апошнія гады густым быльнікам на шырокіх межах. Так што здалёк зусім хаваліся ў ім вузкія палосы...

І вытрасаючы мякіну з лапцей на двары, і стукаючы цэпам, Павал не пакідаў думаць.

Гэтыя думкі, цяжкія для яго непрывычнай галавы, блытаныя, як павуцінне, пачалі з'яўляцца ў Паўла патроху і непрыкметна за апошнія часы...

Прыязджалі раз людзі з горада, тры дні былі ў вёсцы, і адзін з іх дзве ночы начаваў у Паўлавай хаце.

Былі тады два сходы ў вёсцы, і мала хто хадзіў на іх — не хацелі слухаць «гарадскіх абармотаў», смяяліся над імі.

— Гэ-э! — гаварылі.— Горад аб'елі, ужо тут умаца-

ваца хочуць, харчоў там не хапіла; хітрыя! Па вёсках распаўзацца сталі.

І тыя ўтрох, спатканыя халоднай сцяной ледзянога недавер'я бясхітрасных вяскоўцаў, прасядзелі паўдня на гнілых бярвеннях у канцы вёскі, не дачакаўшыся сходу. І так разышліся па хатах нанач.

З паўвечара Павал нічога не гаварыў са сваім начлежнікам.

У той дзень зранку хадзіў ён па раллі, і поўныя лапці набілася яму пяску. І цэлы дзень не меў ён часу высыпаць пясок з лапцей. Вечарам спяшаў зашыць хамут, каб скарэй зрабіць гэта. Каравымі пальцамі перабіраў ён дратву і маўчаў, сагнуўшыся ў кутку.

Начлежнік падышоў к Паўлу.

— Цёмна шыць,— сказаў ён.

— Газы няма,— адказаў панура Павал.

Памаўчаўшы, дадаў:

— У вас там у горадзе газы, пэўна, хоць заліся.

— У нас там электрычнасць,— адказаў начлежнік і падсеў к Паўлу, як бы ўзрадаваўшыся гаворцы.

— Ну, вось бачыш,— павярнуўся Павал тварам к начлежніку,— людзям добра, дык яшчэ шукаюць ліха ведае чаго. Цёмная вёска ім патрэбна.

— Загэтым і ездзім, што цёмная. Каб была светлая — мала б мы сюды ездзілі.

І саўсім раззлаваўся Павал за гэтыя словы — ён зразумеў усё, што хацеў сказаць гэтым яго начлежнік.

— Што гаварыць дарэмна,— загаварыў Павал,— паслухаеш вашага брата, дык адно і чуеш, што для некага гэта яны ўсё ездзяць, для другіх гэта ўсё робяць...

Начлежнік перабіў Паўла:

— Глядзіш ты на мяне так, як бы нас з табою раздзяляе каменная сцяна, а ніякай сцяны між намі няма. Саўсім не чужы я табе. Я сам такі самы селянін, як і ты: усяго год, і таго не будзе, як плуг пакінуў. І цяпер там, у вёсцы, бацька стары з братам засталіся.

— Чаму ж ты іх к сабе туды, у горад, не возьмеш, ды пакінуў іх там адных гараваць?

— Што іх браць?! Каб я мог усіх узяць, усю вёску; і не вёску, а ўсе да аднае вёскі ўзяць, усім зрабіць у адзін дзень добра, тады можна было б браць. А то, што так браць — аднаму будзе добра, а мільёнам — так сама. Мы іначай «бяром» — у нас другая дарога вызначана. І робім

мы ўсё патроху, непрыкметна зразу. Загэтым мала хто бачыць гэта. Вось ты і гаварыць са мною не хочаш. На сход сягоння ні адзін не прыйшоў. А мы не апускаем рук, бо іначай нічога не будзе, зразу нельга зрабіць...

Тады Павал апусціў хамут з кален на зямлю і слухаў:

— ...Ты думаеш, я не ведаю, чаму ты са мной гаварыць не хочаш, чаму ніхто сягоння не прыйшоў на сход слухаць нас? Я сам — гэта ты, і ўсё я ведаю. Рос я так, як і ты, як і ўсякі той, хто потым робіцца мужыком. З шасцёх год не можа ён ужо расці на волі, а бярэцца за работу. Гаварыць яшчэ не навучыцца, а ўжо з пугаю па полі бегае. Уварвецца ў засеў скаціна, а сусед зловіць яго ды натрасе за вушы. Дзіця — ногі ў яго папрабіваты ржышчам, раны залеплены зямлёю, і ён з плачам пабяжыць, кульгаючы, па полі. А раніцаю ён як пежывы спіць, набегаўшыся за дзень. Сонца яшчэ не ўзышло, а ты яго цягнеш з пасцелі. Усхваціцца ён сонны, вочы заплюшчаны, і зноў кінецца, а ты зноў валачэш, сцягаеш яго з пасцелі. Здаецца, стаў бы тады перад ім на калені: на, забі мяне, гада, за ўсё гэтае. А што ты вінават? Таксама, як і ён. Вінавата жыццё, і змяніць яго трэба. Вось чаму пакінуў я свой плуг, адчуўшы, што больш так магу зрабіць, не для сябе, а для ўсіх.

— Ды ты на мяне не злуй,— сказаў Павал,— што я ведаю?!.

У тую ноч да трэціх пеўняў гаварыў Павал з начлежнікам, а з другога дня пачаў разбіраць паволі пакінутыя начлежнікам кніжкі.

Пайшлі па вёсцы гаворкі, ѓадзінай зашыпела нянавісць тых, хто лічыў раней Паўла «спакойным чалавекам», і Павал яшчэ больш стаў маўклівым, яшчэ больш стаў думаць.

Увосень пачаў ён спешна дамалочваць снапы.

І недзе ў глыбіні, на граніцы пачуццяў і думак, з'явілялася яго: «Пустыя палі, парослыя дзікім быльнікам на шырокіх межах, пахавалі ў сваім абшары глухія вёскі, закідалі яны іх саломай шчуплых снапоў і за гэты скупы дар загулялі над імі: у доўгія цёмныя ночы пераклікаліся палі над вёскамі галодным воўчым выццём, накладалі на людзей баязлівую пакорнасць, награджалі іх цяжкаю працаю, адбіралі для яе ўвесь час, губілі ў сабе ўсю свядомасць, занесеную сюды часам з буйных га-

радоў. І яшчэ адбіралі ў сваіх ціхіх людзей здароўе, так, як і вочы, ад цёмнага свету сваіх курных газнічак...»

Усё так жа дробна і гулка стукалі цапы па гумнах, і здавалася, што з кожным сваім ударам яны ўсё глыбей уваходзяць у жыццё вёскі, як бы задумаўшы заглушыць сабою ўсе яе іншыя зыкі,— так многа дзён яны зычэлі. І толькі ў адным канцы вёскі адна-адзінютка гула малатарня, але не магла яна адна заглушыць тут стуку цапоў. Яшчэ на цёмную вуліцу з маленькіх вокан падалі палосы ад дасветных агнёў, а цапы пачалі ўжо сыпаць дробным гарохам. Раней за ўсіх пачынаў стукаць цэп у Паўлавым гумне.

— Павал нешта задумаў,— ішла па вёсцы гутарка, а ў Паўла пад стук цэпа спела адна думка.

І загэтым, як пасля змроку аблягала вёску воўчае выццё і заціхаў стук цапоў, у Паўлавай хаце вакол газоўкі па цэлых ночах сядзела некалькі чалавек...

Вакол дрымотнаю рэчкаю плыло жыццё трухлявых хат. Замаразкамі курыліся кусты сіненькім дымком, і вецер прыносіў адтуль к хатам самагонны дух, і тады ж мацней яшчэ пачалі выць зусім блізка начамі ваўкі.

У святыя дні выходзілі людзі на вуліцу. Несканчоныя і вялыя вяліся цэлымі днямі гаворкі, і так не гарманізаваў з імі ўвесь выгляд залатой восені.

Так і праходзіў ціхенька дзень.

А то часам пілікне дзе-небудзь за вуглом скрыпка, і ўся вуліца рынецца туды. Пад няхітрую музыку адной скрыпкі і часам двух барабанаў віхрам выконваецца танец — той танец, які адбываўся ў вясёлыя мінуты стагоддзі таму назад, а ў больш прымітыўным выглядзе — назад цэлыя тысячагоддзі.

І хоць стаяць тут людзі, сцяною налёгшы адзін на другога, але ў кожнага ў галаве блытаецца думка аб пакінутай працы.

Прымітыўнае вяселле ціхіх людзей не пералятае сваімі зыкамі далей саламяных стрэх. Тут жа і гінуць нісклівыя зыкі скрыпкі за родным вуглом.

А пустое поле вакол і знаць не хоча людскога вяселля,— яго зыкі гінуць у ім. Абрастае дзікім быльнікам, яно ціха дрэмле ўсім сваім бязмерным абшарам. Вясковыя шумы яно перамагае сваім начным выццём ваўкоў, яго ж цішыню, нават зыкамі свайго вяселля, перамагчы людзі не могуць.

## II

У адзін дзень засыпаў сівер мёрзлым пылам трухлявыя хаты, апусцеўшае поле захмурнела высахшым быльнікам па разросшыхся межах, сівыя платы мерзлі і туліліся да бярвенняў старых будынкаў.

Па цёмных хлявах корпаліся ў кастрыцы людзі, маўчалі, здаваліся поўнымі думак, але думак не мелі. Аб чым могуць думаць яны?

Толькі нейкая баязлівасць вызначалася ў іх. Так непрытульна ў полі, так дзіка-шумна і холадна. І здаецца, што вось прыйдзе нехта суровы, насмешліва тупне нагою і зробіць нейкае зло. Вось чаму людзі так акуратна, саломка за саломкаю, дубец за дубцом, складвалі і збіралі сваю мураўіную маёмасць: «Калі ўсё будзе ў парадку, не такая віна мая будзе вялікая». А ў чым і якая віна? А былі калі разумныя думкі аб гэтым?!.

За ваколіцай на пыльнай дарозе буян-вецер скручваўся ў жмут, дакачваўся стралой да крайняй хаты, узбягаў па сцяне і кідаўся на яе старую віхрастую галаў. Яна баранілася саламяным крыкам, і такі ж крык узнімалі суседнія стрэхі. Гэта быльнікава поле «гуляла» над вёскай. І ў той дзень вецер не сціх, але зрабілася так, што раптам стаў непрыметным; стала раптам так, што свісту яго ніхто не пачуў.

Нешта шырокае рванулася за ваколіцай, шэра-жоўтым ліўнем зыкаў секанула; заглушыла вецер, павыкідала людзей з цёмных хлявоў, парушыла іх «баязлівы парадак».

Сотні вачэй бачылі:

Па пыльнай дарозе к вёсцы ішоў запылены чалавек, узняўшы руку ўгору, за ім — шэрая сцяна з меднымі сонцамі труб, за трубамі нескончоны лес вастраверхіх шапак.

З труб вылівалася туга-звонкае, срэбнае. І, як запылены чалавек махнуў уніз рукою, рванулася яно віхурай, затапіла ўвесь свет, заскакала па саламяных стрэхах, і зусім не чуваць стала ветру. З вуліцы пераскочыла яно праз саламяныя стрэхі, пераляцела цераз поле і там загаварыла. І вось, пераскокваючы цераз быльнікавыя межы, прыбеглі людзі за некалькі вёрст...

У вуліцы знялі музыканты свае трубы з плеч, разнеслі па хатах, і асенні вечар грануў чырвонаармейскімі песнямі.

У той дзень, хто бачыў запыленага чалавека, ад маху

рукі якога рванулася з медных труб нечуванае вяселле, радаснае захапленне, пакрыўшае поле, у тых, у глыбіні пачуццяў, несвядома з'явілася:

З той сілай, якая адчуваецца ва ўсім гэтым, можна прайсці ўсю зямлю, перад ёю заціхаюць вятры, робіцца нядужнай прастора адзічэлых палёў...

У той вечар у Паўлавай хаце вакол цьмянай газоўкі сядзела за поўнач не шэсць, а восем чалавек, і два былі ў вастраверхіх чырвонаармейскіх шапках.

Ніякіх гутарак пра начное пасяджэнне ў Паўлавай хаце на вёсцы не было.

Людзі думалі, як гэта пачулі музыку за некалькі вёрст за кустамі, цераз усё поле, як гэта перамаглі людзі зыкамі поле ў час яго бурнага шуму...

Назаўтра пайшлі чырвонаармейцы з вёскі далей — раптам згінулі так, як і з'явіліся.

Асталося тады ў вёсцы вось што.

Вясковы скрыпач, Амелька, зняў паволі са сцяны сваю скрыпку, пілікнуў два разы па ёй смыкам, стукнуў у яе пальцам, прылажыў к ёй вуха, паслухаў і выйшаў у сенцы.

У раздум'і пастаяў ён хвіліну і палез на гару. І там выбраў самы цёмны кут і закінуў у яго сваю скрыпку.

А Павал выцягнуў з паліцы кніжку і найшоў у ёй адрас свайго былога начлежніка.

У яго ж паперах з'явіўся новы запіс:

«Зусім знішчыць быльнікавы межы»...

У наступныя ночы ў Паўлавай хаце многа гаварылі пад гэтым запісам. Многа раз збіраліся яго выкасаваць. І можа сапраўды выкасуюць. І не адзін раз можа будуць яго зноў запісваць, і не адзін раз можа зноў выкасоўваць.

Няважна.

Важна тое, што ўласнаю рукою, ад уласнай свядомасці, ён раз ужо быў утворан, гэты запіс.

У наступныя ночы зноў галасілі ў быльнікавых межах ваўкі; у наступныя дні зноў падымаў вецер саламяны крык на віхрастай галаве вёскі.

Няважна.

Важна тое, што ў віхрастай галаве ёсць веда:

«На свеце існуе тое, чалавекам створанае, чым можна заглушыць воўчыя галасы ў быльнікавых межах і саламяны крык вёскі пад ударамі буйнага ветру».

# МЯШЧАНЕ Ў ГУСТОЙ ПАРЫ

Дзядзя Стафанковіч пачухаў распараны жывот, шырока растапырыў ногі і ўзліў сабе на галаў ражку цёплай вады.

— Ах, здорава; як маслам па нырках,— сказаў ён весела і з філасофскім выглядам стаў намыльваць сваю жоўтую шыю.

Каб спрытней зрабіць гэтую аперацыю, прыйшлося задраць галаў угору, ад чаго на верхніх палатках, у гарачых хмарах густой пары дзядзя Стафанковіч убачыў нешта шырокае і круглае, чырвонага колеру і буйнага складу.

«Ці не парыцца гэта хто на верхніх палатках? — падумаў дзядзя Стафанковіч і стаў пільна ўглядацца.— Але як ён можа там вытрымаць, у самай гары,— думаў ён, прыглядаючыся,— гэта ж трэба мець нечалавечую галаў, каб выседзець у гэтакай пякельнай моцы, як у яго там шкура, разам з валасамі, не аблезе?..»

Дзядзя Стафанковіч, ахвачаны цікавасцю, падняўся па ўсходах трохі вышэй да верхніх палатак і зразу пазнаў свайго знаёмага — быўшага штабс-капітана пяхотнага палка Еўсцігнея Свірыдавіча Разнюхайліна.

— А-а-а, Еўсцігней Свірыдавіч! — зацягнуў дзядзя Стафанковіч радасна.— А я гляджу, што гэта там такое чырвонае, аж гэта вы. Ну, як жа маецеся?

Разнюхайлін быў у гэты час заняты здзьмухваннем мутных кропель вады са сваіх пруткіх вусоў. Скрозь пару ён уставіў свае круглыя вочы на Стафанковіча і густым басам адчаканіў:

— Можна сказаць, жывём і хлеб жуём, мірна дні свае дажываем. Як гэта даўней у нас у палку спявалі: «Агонь запалю, буду піць, не мяшала б сабаку купіць!» Толькі і ўсяго.

— Толькі і ўсяго,— трагічна паўтарыў дзядзя Стафанковіч і, збіраючыся сказаць нешта больш важнае і як бы сакрэтнае, агледзеў усю лазню з выглядам вельмі тонкага палітыка.

Народу мылася мала. Каля дзвярэй некалькі старэнькіх дзядкоў неміласэрна церлі адзін аднаму рагожамі худыя спіны, трохі далей скроб пад пахамі нехта высокі і тонкі, як спічак. На ніжэйшых палатках парылася двое. Адзін ляжаў спінаю ўгору, другі хваставў яго распараным венікам. А той варочаўся пад венікам, як япрук, і ўсё камандаваў:

— А та-та-та! Д-давай, давай, давай! Каля лапатак наярвай, кажу табе!

Тут жа, побач, мыліўся Макей Філатавіч Валакіткін — быўшы начальнік нейкай губернскай канцылярыі, а цяпер рэгістратар выступаючых папераў у нейкім бумтрэсце (ці можа ў табактрэсце, хто яго акуратна даведаецца). Больш у лазні нікога не было.

Агледзеўшы ўсю гэтую кампанію, дзядзя Стафанковіч зрабіў «уміліцельны» твар і ціха загаварыў, пагдядаючы на Разнюхайліна:

— Справядліва замецілі, Еўсцігней Свірыдавіч, што «толькі і ўсяго». Чалавек я, можна сказаць, такі, што, як кажуць, хлеб-соль еш, а праўду рэж. І калі дзе што якое, адным словам, дык я тут жа, на месцы, гэтае, і больш нічога. Вось гляньце хоць бы на гэтую лазню. Ды ў мяне на Нямізе дом, на Ляхаўцы дом і на Серабранцы дом. А гэта значыць, што я тры дамы маю. А раз я тры дамы маю — значыць, я чалавек, а не які-небудзь пасвісцёл. І даўней, верце маёй совесці, што я тут вось мыюся, а на сэрцы ў мяне ўжо іначай мыецца. Што з мяне лазня параю выцягне, тое я вярну: заўсёды, бывала, пасля лазні, як людзі, пойдзем гуртам ды вып'ем і закусім. Верна, Еўсцігней Свірыдавіч?

— Верна,— адчаканіў з палатак Разнюхайлін.

— Чалавек я, можна сказаць, Еўсцігней Свірыдавіч, прыблізіцельны. Возьмем вось зноў для прыкладу мяне і, разам са мною, хоць бы вас. Вы думаеце, сягоняшняя лазня вельмі нас пацешыць? І нічуць, і ніколі. Яна табе толькі і дасць карысці, што гразь з сябе ў ёй абмыеш. Толькі і ўсяго — як вы, Еўсцігней Свірыдавіч, справядліва замецілі. А дзе ты пасля яе пад гэтае? Як ні круці, а прахладзіцца не ўдасца. Што ты, з рускаю горкаю разгуляеш-

ся? Ды я ўручаю галавою, што вазьмі ты яе кватэрку ды ўлі дзіцяці ў вочы — нічога не пашкодзіць, а не то што каб гэтае. Вада, і больш нічога, я на яе і глядзець не хачу. Адным словам, згадзіўся свет. Гэтак і ўсё.

— Такі храновы свет стаў,— бухнуў басам з густой пары Разнюхайлін,— адным словам, дні свае мірна дажываем, як у балоце...

— І то, скажыце, гаспада,— перабіў раптоўна Разнюхайліна Валакіткін,— што знаходзяцца малайцы, што гатоў ён табе вочы выдраць, калі скажаш, што ўсё гэта не так, як трэба каб было, па палажэнню жыцця. Я чалавек, можна сказаць, пастаронні ў вашай, гаспада, гаворцы, але, пры ўсёй маёй скромнасці, не магу я свайго слова не ўставіць, асабліва калі гавораць паважаныя, будзем лічыць, людзі. Чалавек я пажылы, можна сказаць, век свой пражыў, а начальскі гонар — словам, не то што каб дзелам, не сакрушыў. І даўней, і цяпер. А змаўчаць, калі на тое пайшло, усё ж такі не магу. Адным словам, тут усё справядліва — свет не свет, а чорт ведае што. У свяшчэнным пісанні ўсё было наперад сказана, і больш нічога.

Высокая фігура дзядзі Стафанковіча ўся была поўна радаснай увагі. Ён аж забыў, што яшчэ не парыўся, і ўсё стаяў на адным месцы і ківаў галавою. Разнюхайлін жа быў сур'ёзны. Ён закруціў свае пруткія, намокшыя вусы, падмыліў калені і лёг на бок, а голаў падняў, каб лепш было слухаць.

— Мне хочацца сказаць, як чалавеку шырокіх поглядаў,— гаварыў далей Валакіткін,— што, як я сказаў, у свяшчэнным пісанні ўсё было прадбачана. Паўстане народ на народ і царства на царства, і сын стане ворагам бацькі роднага...

— Справядліва замячаеце,— уставіў салодзенькім галаском дзядзя Стафанковіч.

— Не толькі справядліва, а дажа нават чыстая праўда,— загаварыў раптоўна худзенькі дзядок каля дзвярэй, абціраючы мокраю рагожаю намыленыя грудзі,— я ж кажу, чалавек я просты і богабаязнены. Дзякаваць богу, трыццаць тры гады з палавінаю крамку бакалейную і мучную трымаў, і даводзілася мець дзела з людзьмі ўсіх рангаў і чыноў — пачынаючы старшым чыноўнікам на пошце і канчаючы самым апошнім смаркачом — шаўцоўскім чаляднікам. І што ж вы думаеце? З практыкі, самай сібірнай практыкі, людзей пазнаў і магу гаварыць цяпер, вокам не

маргнуўшы... Нашто вам што?! Ды ў мяне ўнук у піонерах. Чуеце?! Уласны мой унук піонер. А бацька маўчыць; малы смаркач верх бярэ над бацькам. Ды яжэлі б гэта, скажам, быў мой не ўнук, а сын, дык я яго, сукінага сына, так бы піонернуў, што ён у мяне хадзіў бы, як падмецены... Гэта жартачкі? Дасць бог дзень, людзі адзяюцца, а ён раздзяецца — усцягае на сябе нейкія сінія портачкі без калошаў — адна паясніца, ды ідзе маршыраваць па вуліцы. Па Захараўскай вуліцы маршыруе, з голымі лыткамі, у портачках без калошаў, аж усе гізунты відаць. Верце маёй совесці, справядлівы чалавек, яй-права. І нічога сказаць не смей — маё, кажа, права. Крыўда слухаць — малое вашанё, а яго ўжо права. Права ўжо нейкае ён, сукін сын, пазнаў! Што вы скажаце на гэтае права?

— Каму права, каму лева,— пачуўся голас з кутка.

Гаварыў высокі і тонкі чалавек, як спічак. І невядома, што прымусіла яго сказаць гэтыя два словы,— сказаўшы іх, ён зноў увесь увайшоў у сваё дзела: сеў на лаўку і так, як раней, не звяртаючы ні на што і ні на кога ўвагі, стаў палівадь вадой і шараваць шырокімі далонямі доўгія і худыя ногі. І нічога не слухаў, ні на кога не глядзеў, маўчаў і мыўся...

Дзядзя Стафанковіч, пачуўшы яго два словы, раптам прыціх, прысеў на лаўку, пасля ўстаў, пасля зноў сеў і зноў устаў. Падумаўшы трохі, паглядзеўшы на высокага і худога чалавека, ён тарапліва махнуў к сабе рукою рэгістратара Валакіткіна, і ўдвух палезлі на верхнія палаткі к Разнюхайліну. У вялікім узбуджэнні яны ўсе ўтрох пасунуліся ў самы кут і сталі шаптацца.

Першым пачаў дзядзя Стафанковіч.

— Ну, браткі, і папалі,— шаптаў ён скоранька, пырскаючы слінаю з рота і задыхаючыся ад пары і нервовасці,— вось папалі, дык папалі, як м'яла ў кісель. Гэта ж ведаеце, хто? Гэта ж, пэўна, камісар які-небудзь. Нават я прыпамінаю, як хавалі нябожчыка, вечны пакой, Авар'яна Тофілевіча, дык перад самаю працэсіяй быў ён, дарогу ўпоперак з тоўстым партфелем перайшоў. Здаецца, гэта ён быў, так мне ясна памятаецца. А мы тут развялі палітычныя гаворкі, не расчомаўшы, хто ў нас пад бокам мыецца... Я хоць асцярожна ўсё гаварыў, а вы, Макей Філатавіч, вельмі глосна пачалі выказваць думкі свае. У выпадку чаго, дык вы павінны ўзяць віну на сябе, каб цераз вас, часамі, усім нам не пастрадаць.

— Што гэта вы гаворыце,— зашаптаў, засердзіўшыся, Макей Філатавіч,— што гэта я павінен адказваць за чужыя грахі?!. Ды я, калі вы хочаце, маўчаў увесь час, гэта вы першыя пачалі ўсю гэту музыку, а цяпер на мяне ўзвярнуць хочаце. Ды я не пагляджу, што ў вас тры дамы, я магу за знявагу свае асобы зрабіць што хочаце!..

— Не лішне злуйце,— ускіпеў дзядзя Стафанковіч,— вы павінны памятаць, што я гаварыў пра палітыку ўмеючы, вежліва і далікатна; і за маю палітыку ка мне прычапіцца ніхто не мог. А вы ў нейкае свяшчэннае пісанне зразу ўперліся, як чорт у грэблю, рады, што чыстапсалміе на памяць можаце чытаць. Да я хоць чыстапсалмія на памяць не ведаю, але перад вамі ўручаю, што не падгаджу. А вы дарэмне злуеце...

Дзядок, у якога ўласны ўнук «пінаер», пачуўшы шэпты на палатках, зразумеў усё і сам палез наверх.

— І то, браткі, ліхое,— перабіў ён дзядзю Стафанковіча,— мыецца, ліха яму, і як бы нічога не чуе і не бачыць, а сам усё слухае ды на вус матае.

— Так, храновае дзела выйшла,— грымучым шэптам адчаканіў Разнюхайлін.— Але так нічога не паможа, а трэба павярнуць палітыку ў другі бок.

Макей Філатавіч Валакіткін раптоўна адсунуўся ў куток, пастукаў пальцам па лбу і сказаў:

— Трэба адно к яму падлашчыцца; памыць яго трэба.

— Ваш язык гаворыць мудрасць,— радасным басам грунуў на ўсю лазню Разнюхайлін. І ўсе трое злезлі з палатак.

— Вы, пане Стафанковіч, не лішне лезьце наперад, бо зноў бяды наробіце,— сказаў важна Валакіткін,— я пачну справу, а вы пасля ўжо гуртам.

Худы і высокі чалавек, ні аб чым не дагадваючыся, мыліў голаў, прыгнуўшыся к лаўцы. Мыльныя рагі цяклі ў яго з галавы па спіне.

Валакіткін, расплыўшыся ў шырокую ўхмылку, ціхенька падышоў к яму і стаў на пальчыках. Той нічога не заприкмеціў.

— Кхэ-кхэ,— уважліва кашлянуў Валакіткін, каб звярнуць на сябе ўвагу.

Чалавек падняў вочы і зноў апусціў.

— Мыла ў вас, таварыш, рагамі па спіне пайшло. Гэта добра — усю гразь аб'есць.

— На тое яно і мыла, каб ад гразі бараніцца.

— Справядліва сказалі, таварыш... Кхэ-кхэ... кхэ... кхэ... Вось ліха на яго, чалавечыя рукі кароткія — усякае месца на сваім целе можаш памыць, а спіны вось не дастанеш. Дайце я вам, таварыш, спіну памыю.

— Я і сам памыю.

— Вам нявыгадна, дайце я. Давайце рагожку... Просценька вы мыецеся — рагожкаю... Прастата — гэта дабрачыннасць. Давайце, таварыш, адно рагожку.

Валакіткін упіліўся ў «рагожку» і стаў цягнуць к сабе. Чалавек не паддаваўся. І тут жа падаспела дапамога Валакіткіну: справа падскочыў Разнюхайлін, злева дзядзя Стафанковіч. А дзядок не знаходзіў месца, дзе б уляпіцца, і бегаў, як апараны, вакол.

— Што вы маеце да мяне?!.

— Нічога, таварыш, давайце рагожку.

— Ды вось мая рагожка,— вылепетаў дзядок.

— Станавіцеся, таварыш, ракам або прыпірайцеся рукамі на лаўку і падстаўляйце спіну.

— Ды я не хачу, я сам, я не прашу вас!

— Скромнасць таксама, як і прастата, дабрачыннасць. Падстаўляйце спіну.

Яны сілаю павярнулі чалавека к сабе спінаю і пачалі мыць. Абкацілі вадою, абмылілі напава і пачалі шараваць. Дзядзя Стафанковіч вадзіў па спіне рагожаю, Макей Філатавіч намыльваў, дзядок паліваў вадою, а Разнюхайлін камандаваў:

— Так, так, пабольш мыла кладзі на шыю, вось тут шмаргані, ніжэй, ніжэй; а ты вадою пад лапаткі боўтні, ды толькі не бяры кіпню, каб не апарыць таварыша!..

— Гвалт, людзі, ратуйце, пусцеце, браткі, што я зрабіў вам... А-я-яй!.. Да я на вас заяву падам!!!

Усе ў чатырох адскочылі ад чалавека, а той, зарадаваўшыся вызваленню, кінуўся раптам за дзверы і пачаў адзявацца.

— Што яму за ліха, ды ён папраўдзе як бы баіцца нас,— пацісвуў плячыма дзядзя Стафанковіч.

— Нічога не баіцца, а палітыку вядзе,— групуў басам Разнюхайлін.— Ідзіце хто паглядзіце, хто ён такі: ваенны ці штацкі!?

Дзядзя выйшаў за дзверы.

Чалавек, адзеты ўжо ў старыя салдацкія палатаныя порткі, паспешна нацягваў на левую нагу парваны бот, увесь запэцканы гразёю і гноем.

Дзядзя, атарапеўшы, шмыгануў назад.

— Браткі ж мае, гэта ж абарванец нейкі!

— Ну?!!

— Яй-права!

Усе выскачылі за дзверы.

— Да вы хто такі? — запытаў Разнюхайлін.

— Я тут служу.

— Па штацкай ці па ваеннай?

— Па штацкай.

— А кім служыце?

— У заезджым доме Гірша Дрэйзіна на Нямізе, дворнікам — гной, значыць, падчышчаю пасля коней.

— Фу ты, чорт!

Чалавек паспешна схваціў пад паху шапку і жакетку і баязліва выскачыў за дзверы.

Забыўшы абмыць з сябе распараную гразь і мыла, усе ўчатырох сталі адзявацца.

Не гледзячы адзін на аднаго, моўчкі, па аднаму, сталі выходзіць.

І як, выходзячы, дзядзя Стафанковіч вінавата глянуў на Разнюхайліна, той апусціў вочы і прабарматаў:

— Так, ядры яго дагары, маржовае дзела выйшла.

# ВЯСКОВАЯ ВЕТЭРЫНАРЫЯ

*(З натуры)*

Белавусы, сінявокі, сарочка распяразкай, выйшаў канавал Сёмка Ямкавы на вуліцу. Ідзе важна, з нагі на нагу — твар арлом, грудзі барабанам.

— Што тут, браткі? — чутно здалёк.

Шум грамады пакрывае пісклівы голас:

— Так што, стала быць, такое дзела выходзіць, што Антось Скантужаны гатоў на зіму без малака застацца з малымі дзецьмі... Гэта жартачкі — гэтакая карова. І пачалося ўсё чорт ведае з чаго...

— Ды што тут?

— А тое тут, што раскідаўся, значыць, у мяне сягоння раніцаю, на яго пусцячына, абраз, і выйшла — хоць к гаршкам богу маліся. Іду гэта я к Рыгору Абцасаваму папрасіць цвічкоў збіць абраз, а тут чую гвалт на вуліцы. Я туды. Бачу, карова кашляе...

— Кашляе, мае галубкі, кашляе,— падхватвае жаночы голас.— Нясечанае бульбы хваціла і кашляе. Мусіць, у горле захрасла...

— Дык вось, значыць — чую, карова кашляе. Я за горла памацаў — бачу, тырчыць у горле круглае, як галушка. Яй-права верна, каб я гэтак жыў. Можаце папрабаваць...

Куча мужчын кідаецца к карове; а яна стаіць пасярод двара, глядзіць шырокімі вачыма на грамаду. Час ад часу ў яе з горла вырываецца сіплы кашаль.

— А што, не казаў я,— стараецца ўсіх пералепятаць пісклівы голас,— бач, як дае...

Дзесятак рук абмацваюць горла ў каровы.

— Вось, браткі, дайшоў да самага цэнтра; як галушка, браткі, яй-права. А-яй!..

— Дай, я памацаю...

— Пачакай!..

— Не пхай там ззаду!..

— Куды лезеш, паспееш!..

— Дай я!

— Ражна табе ў зубы!..

— Нічога не будзе, прадсельсавета пазваць трэба — хай парадак зробіць.

— Пазваць камітэтчыкаў заемадапаможных — хай даюць якую-небудзь раду. Паскольку яны, значыць, пастолькі павінны...

— Пастолькі павінны вырашыць справу на месцы. На мясцах павінны вырашаць справу, браткі мае, на мясцах!..

— Ціха, браткі, хахол Сёмка Ямкавы ідзе.

— Я не хахол, а масквіч, і не Ямкавы, а Ямкавой! Што тут?

— Карова...

— Ага, карова!..

Сёмка Ямкавы доўгі і здаровы. Старыя дзяды гавораць, што лепшага канавала на свеце няма. Ён зразу ўваходзіць у курс справы. Перад ім расступаецца грамада, ён аглядае карову, мацае за горла...

— Сёмка,— трасе гаспадар каровы галавою,— я, брат, табе... ратуй адно карову.

— Кладзі, рабята, карову на зямлю,— аўтарытэтна заяўляе Сёмка.

Дзесятак мужчын з крыкам кідаецца на жывёліну. А ўсіх закрывае сваёй доўгаю фігураю Сёмка.

— Саломы, саломы пад бок кладзі, бо тут будзе доўгая праца,— камандуе Сёмка і з усмешкай глядзіць на гаспадара-шаўца,— тут табе, брат, не то што ткнуў шылам ды цвік увагнаў. Тут, брат, справа тонкая, абы-як яе не зробіш. Дзяржы, дзяржы, каб не ўстала.

Здаровы гурт навальваецца на карову, а яна глядзіць на Сёмкаў круглы твар, і ў яе вачах свеціцца глыбокае непаразуменне: «Што будуць рабіць са мною гэтыя людзі?»

Сёмка ўсёй масаю свайго сытага цела прыпадае да каровінай галавы, абхватвае рукамі шыю, абмацвае тоўстымі пальцамі «засеўшую ў горле бульбу».

— Ёсць,— шыпіць яго голас,— бач, як упёрлася, як чорт у грэблю, ні туды, ні сюды.

Ён закасвае рукі, важна азіраецца і з генеральскім выглядам пачынае мяць засеўшую ў горле бульбу.

— Раздаўлю, быць не можа. Р-р-раздаўлю, а яна і пойдзе, або ўніз, або ўверх... Не паддаецца, сволач, цвёрдая. Мусіць, скарбовага заводу бульба, што гэткая цвёрдая, не давіцца. А-а-гэх! Вось цвердзь! А-а-а... Даўней грыўню мог сагнуць пальцамі, а гэта не ідзець...

Карова пачынае біцца пад мужыцкімі рукамі. Яна рвецца, стараецца вырвацца і ўстаць. Яна цяжка сапе. І так жа моцна сапе Сёмка Ямкавы.

Ад узбуджэння і свядомасці, што ён тут цэнтр увагі, Сёмка з закасанымі рукамі ўсхватваецца перадыхнуць. За сотняю галоў каля мокрага плота Сёмка бачыць дзяўчат. Голас у яго горды, начальніцкі, сыта-давольны.

— Гэ, дзяўчата... бач ты, малінавы цвет!..— Весела падмаргнуўшы, ён зноў кідаецца ўніз і пачынае зноў аперацыю.

У каровы раптоўна пачынае ісці з горла кроў. Атарапеўшы Сёмка ўсхватваецца, але стараецца паказаць, што гэта так трэба:

— Ага, пайшла-такі! Ну, цяпер, значыць, да самае точкі дайшло. Вось тут і ёсць самы пункт. Гэта, значыць, пачало яно там ужо гэтае; дзейструе ўжо. Цяпер пойдзець!..

Мужчыны пускаюць карову, а яна не ўстае. Чуцён жаночы плач і лаянка мужчыны:

— Ды яна ж была здароўшая, а цяпер уставаць не хоча!..

Сёмка Ямкавы гнеўна плюе на зямлю:

— Тфу, нар-род! Аперацыя — дзела тонкае, пасля аперацыі і бугай галавы не паднімае, а не то што слабая карова.

— Яно верна,— чуецца недзе з кучы мужчын пісклівы лепет,— як рабілі даўней рапарацу ў Макранах нямецкаму бугаю, вечны пакой, у пана Ваніловіча, дык таксама не ўставаў...

— Не такія рапарацы рабіў,— не спыняецца Сёмка,— бывала, такую рапарацу закачу, што і сам дзіўлюся, як гэта жывёліна вытрымае. Тут усё практыка і навука, навука і практыка.

— І смеласць,— чуецца голас.

— Не толькі смеласць, а дажа нават і адвага,— цвёрда адказвае Сёмка і выходзіць з двара на вуліцу.

А карова, пасля аперацыі, саўсім ужо не паднімае галавы.

— А-яй, браткі,— чуцён крык з глыбіні двара,— і гэтая ўдавілася.

— Што, дзе?

— Вось ідзіце, памацайце.

Народ кідаецца к хлеву. Там мужчыны ў другой каровы абмацалі ў горле бульбу.

— Не можа быць?!

— На, глядзі.

— Дык яна ж бульбы не ела?

— Ну дык што, можа з учарашняга яшчэ сядзіць.

— І ўчора не ела!

Выпускаюць яшчэ адну карову. І ў той знаходзяць у горле бульбу.

З дзесятак мужчын разыходзіцца па сваіх дварах, выпускаюць кароў і абмацваюць горла. Усюды тое самае.

І пайшлі па сялу пагалоскі:

— Пошасць сярод кароў на бульбу.

— Вось Сёмка заробіць.

Разам з пагалоскамі смех ішоў па вёсцы:

— Вось дурні. Храсткі ў каровы ў горле звычайныя, а яны кажуць — бульба.

— Вось цямнота!

— А Сёмка, ліха яго мацеры, рапарацы робіць.

— Рыгорава карова ад рапарацы здыхаць збіраецца...

У той дзень уся вёска першы раз у сваім жыцці даведалася, што ў кожнай каровы ў горле ёсць круглы храсток — «кадык».

Запрагаў гаспадар «хворай» каровы каня — збіраўся ехаць у мястэчка за ветэрынарам лячыць карову ад канавальскай «рапарацы».

Галасіла жонка:

— І раілі ж людзі застрахаваць карову ад няшчасця.

А Сёмка Ямкавы важна ішоў па вуліцы. Пахам свежых аўчын нясло ад яго. Збоку, побач з ім, дробненька перасыпаў нагамі яго сусед — нізенькі і гаварлівы старычок. Ён заўсёды быў у захапленні перад талентам Сёмкі Ямкавога.

Сёмка спяшаў у другі канец вуліцы, дзе зноў нечага збіралася грамада (дзень быў святы). Сёмка адчуваў бурную радасць ад свядомасці, што цэлых гадзін дзве будзе гаварыць мужчынам аб усіх аперацыях, якіх за свой век перарабіў.

Ступіць Сёмка раз, а яго сусед тры (ногі ў суседа кароткія).

Голас у Сёмкі зычны, сыты:

— Не такія рапарацы рабіў. Калі зраблю, бывала, дык ёст іх маліна. Сыт, значыць, п'ян і нос у табаку. Г-ы-х!..

— Яно верна. Навука і практыка. Хэ-хэ!..

# НОВЫЯ ЛЮДЗІ

## I

З густаты ночаў, над снегавой шырынёй поля, выплываюць кароткія дні.

Дні змрочна-белыя.

Ці то гэта яны, ці то гэта ўпарта няўцёкшыя сляды ночы фарбуюць далёкія істужкі неба на даляглядзе, над тонкімі абрысамі чуць прыметнага лесу, у сінявата-цёмны колер. Ён лажыцца на снег.

А да размашыстай роўнасці снегу трухлявымі грыбамі прытуліліся старыя хаты з уздыбленаю ветрам саломаю стрэх. Каля іх мокра і востра цмокаюць па ўхабістай дарозе конскія капыты, а конскія вочы ў сваім чыстым бяздонні свецяцца маўчліваю тугою ад зрэзаных сурамцам худых рэбраў. Каля платоў расплываюцца лапцяватыя крокі, і галасы мяшаюцца з шумам саломы па гумнах. І часам, калі-нікалі, гумно выпусціць у прастору ручаіну пявучых слоў:

Ой, р-р-а-а-н-на, рана-а!..
Я хворая ўстала...

Яшчэ нядаўна тут панавала гэтая песня; цяпер яна забываецца. Прыйшлі сюды новыя песні, і выявілі яны ў сабе час свайго існавання; вось што:

Тады, калі ў поўнай сіле панавала старая песня, тады ў старых гэтых хатах людскія радасці і смуткі зліваліся ў роўнасць існавання. І ўсё думалася:

«Вось так яно і пройдзе — і сягоння, і заўтра. Часам і радасць закалышыцца, часам смутак агорне, а ўсё ж яно дробнае. Дзень за днём так і зыйдзе. А што наперадзе?»

Несвядома так людзьмі адчувалася.

А тут нешта сталася — непрыметна раптам пачало мяняцца. Устала наперадзе як бы нешта моцна адчуваемае —

вялікае. І нейкая як бы ўпэўненасць прыйшла: вось гэтыя кароткія дні імчаць жыццё да яго. Якое яно і што яно — хіба могуць раптам адчуць, даведацца ясна ціхія людзі ў старых хатах?! І толькі як бы пачуццё вырысавалася:

«Усё, што было, што праходзіць — ненастаяшчае. Настаяшчае і светлае ідзе».

Тады і з'явіліся новыя песні — новая дарога прывяла к ім...

Пацямнеўшаю ад зімовай сырасці дарогаю раскочваюцца шырокія разваліны, узлятаюць перад імі вароны. Скрыпяць калодзезі туманна-адлежнымі раніцамі. З поля пахне ядлаўцом, а вуліцы — дымам сырой асіны ў печах. Сырыя лапці шморгаюцца па ўтаптанаму снегу, а за платамі рвуць шумна сабакі цела худога каня, два дні таму выцягненага чалавекам. Уночы прыходзілі сюды ваўкі, ды дзень прагнаў іх...

Так яно ідзе. І што ж яно...

А тое яно, што новыя песні пакрываюць усё гэта. Яно ўжо ненастаяшчае. Настаяшчае ідзе; шэрыя дні імчаць к яму; яно адчуваецца ўжо — вялікае.

І тое, што было і ёсць,— адыходзіць.

Вось адкуль новыя песні шэрых людзей, прасвятленне твараў у змроку старых хат...

Эх, прасторы вы снежна-палявыя!..

Эх, людзі родныя; чулыя, ціхія!..

Як мне выявіць шырыню новай радасці?!.

## II

Ігнась Альховік быў чалавек нервовы і слабы, і загэтым, як доктар яму сказаў, што ў яго сухоты, худы твар яго раптам пазелянеў, нешта цяжкае падкацілася к горлу, і пацямнела ў вачах. Яму моцна захацелася сціснуцца, скурчыцца ў адзін цесны і маленькі клубок, каб менш заняць на зямлі месца, каб стаць непрыметным для людзей; бо здалося яму, што гэта ён вельмі многа займае месца, усім і нейкаму хітра-смеламу і грозна-насмешліваму вельмі замінае і як бы загэтым ахвацілі яго караю — цяжкаю хваробаю. Ён задам адышоўся к дзвярам, выцягнуўся роўна і глядзеў, як доктар пісаў яму рэцэпт. Не чуючы доктаравых слоў, ён выслухаў, колькі і калі трэба ўжываць лякарства, і, поўны вялікага смутку і непарадку ў пачуццях і думках, выйшаў на вуліцу.

Горад ахваціў яго свежа-вострым паветрам, шумам, стукам і беллю нядаўна выпаўшага снегу. Лягчэй стала дыхаць, і раптам прайшоў у яго папярэдні настрой, астаўшы толькі нейкае нэндзна-тупое пачуццё. Яно выявілася ў надзвычайна яснай думцы, што вось нешта вельмі важнае, самае галоўнае, што ахватвала сабою ўсё, раптам скончылася, а на яго месца з'явілася нешта таксама вялікае, але страшнае і цяжкае для таго, каб яго пераджыць.

І раптам адчуў сябе Ігнась адрэзаным, асобным ад усяго, як бы ў другім свеце, на другой зямлі; усё стала як бы па-за яго істотаю: вось робіцца ўсё на свеце паміма яго, далёка ад яго, і нікому і нічому няма дзела да яго. А яму хочацца ўвайсці назад ва ўсё, ва ўсіх — у жыццё, ды ўжо не можа, бо цяпер яго абняло нешта іншае, непераможнае...

І зноў раптоўна ахваціў Ігнася смутак, толькі быў ён ужо роўна тупы і бясконца шырокі, як густата ночы пад грузным натоўпам хмар.

І сталі ногі ў яго цяжкімі і непаслушнымі.

Сорак год цяжкога жыцця — галодныя дні і бяссонныя ночы адбіралі паволі ў Ігнася сілу, ды не так прыкметна гэта было, а тут два словы доктара вырвалі з коранем нешта галоўнае, што давала яшчэ лёгкасць нагам.

«Шчасце чалавека ў няведанні»,— несвядома прамільгнула ў Ігнася думка, і зноў адчуў ён чамусьці небывалую яснасць у галаве, ды затое большы цяжар ва ўсёй істоце...

З-за вялікіх вокан белага мураванага дома нечакана рвануўся на яго віхор зыкаў скрыпкі і фартэпіяна. Была ў нястрыманым імкненні гэтых зыкаў бурная, нявыказаная вясёласць, поўная здавальнёнасць нечым вялікім, самым важным, што неабходна для радасці існавання.

І надзвычайная яснасць думкі ў Ігнася прапусціла скрозь сябе струмень гэтых зыкаў,— не з'явілася ніякага прадстаўлення ў яго аб тым, што гэта музыка, а толькі адчуў ён, што гэта нешта тое настаяшчае, што якраз патрэбна для паўнаты радасці, што выяўляе сабою самы цэнтр людскіх імкненняў і жаданняў і што мае вялікую сілу ў сабе самім. І што вось тут, за гэтай тоўстай мураванай сцяной, яно недзе і ў нечым драмала, а пасля ўзвіхрылася раптоўна, без барацьбы перамагло прастору і дзвюма ручаінамі ўскінулася ўвыш. Адна ручаіна тонка-вострая, чырвона-рухавая, другая — густа-шараватая, шырокая сваёю перамогаю над усім. І абедзве яны выкінулі на свет з-за тоў-

стых сцен вялікае захапленне нечым радасным, што раптоўна нарадзілася і рванулася ў шыр свету.

Ігнась, не думаючы, пайшоў далей, і ад музыкі непрыметна, зразу згінула ў ім усё. Асталося толькі лёгка-радаснае разуменне пачуццём шырокай паласы віхрыстых зыкаў. Усё іншае, і тупы смутак разам, недзе знікла, і лягчэй стала падымаць ногі. І ўсё больш забываў чалавек папярэдняе: тое, што нейкая сіла, ход здарэнняў адарвалі яго ад жыцця на зямлі. Гэтае забыццё адтаго і з'явілася, што перад гэтым нешта адарвалася ва ўсёй істоце Ігнася.

І тут жа ўжо нармальна прыпомніў ён, што ў яго ў кішэні ляжыць заява, якую трэба некуды падаць, каб нейкая там устапова памагла яму, бо багаты брат яго Макар гоніць яго, хворага, з хаты, пазывае яго дармаедам.

І вось раптам думка аб гэтай заяве зноў напомніла яму аб яго хваробе. І ўжо падумаў Ігнась:

«Заява, дамашнія спрэчкі і ўсё іншае, што ў звычайны час здаецца вельмі важным, цяпер, у параўнанні з тым вялікім і надзвычайным, што ахваціла маё жыццё, не мае ніякай вартасці; усё гэта дробязь».

І зноў, ужо ў вялікім смутку, выняў Ігнась з кішэні заяву, скамячыў і кінуў на зямлю. А сам пагробся к канцу горада. Яму страшна хацелася пагаварыць аб чым-небудзь з кожным чалавекам на вуліцы — гэта было б падобна да звычайнасці.

На самым выхадзе з горада, на граніцы снежнай роўнасці поля зноў дакаціліся да Ігнася зыкі музыкі. Толькі яны ішлі ўжо аднекуль здалёк акруглай хваляй і разам са сваёю вялікасцю неслі ўяўленне жаўцізны медзі музычных труб. І больш нічога не было ў іх, апрача бесклапотнай вясёласці. Яны ў адчуваннях Ігнася пераблыталіся са свежым паветрам, з белізной снегу, з нейкім чуць прыкметным пахам прасторы і з прывычным з маленства роўным і родным выглядам абшару поля. І іменна адтаго, што зыкі зліліся са звычайнасцю палявога выгляду, прынеслі яны чалавеку супакаенне.

І з'явілася ў Ігнася думка:

«Гэта ж усё — звычайна вакол. І я, як заўсёды, звычайна іду па знаёмай дарозе. Так было са мною ўчора і раней, так будзе заўтра... Мала што доктар сказаў. Я яшчэ, патом, пажыву на свеце».

І ў нейкім новым захапленні Ігнась агледзеўся вакол сябе; прымеціў наперадзе рух на дарозе. Змахнуў ён па-

лою жакеткі снег з прыдарожнага каменя і сеў, чакаючы. Так, седзячы і нечаму ўсміхаючыся, прапусціў ён міма сябе роту вайсковых, прасачыў за калыханнем іх вастраверхіх шапак. Пасля, як яны мінулі яго, зноў адчуў ён, як яго пранізала шырокая хваля музыкі. У нервовасці падняўся ён з каменя і пайшоў пустою ўжо дарогаю.

І раптоўна закалацілася ў ім радасць. Яна прайшла ўсю істоту яго, ускрыліла думкі, зняла цяжар з ног, заліла ўвесь свет яскравымі колерамі...

І была яна вялікая, як імкненне жыць...

### III

Пад вечар, на змроку, Ігнась, утомлены дарогаю, скінуў з ног цяжкія салдацкія чаравікі, палез на палаткі і сядзеў, звесіўшы босыя ногі. Былі ў яго думкі, пасля прайшоўшага ўзбуджэння, няроўныя яшчэ: то выхваціць яны аднекуль з мінулага абрывак таго, што пражыта ў маладыя гады,— службу ў двары парабчуком, то далейшую працу па гарадах і мястэчках, пакуль не абнямог ад невыгодаў жыцця. І прыйшлося яму тады астацца ў хаце, дзе радзіўся і дзе гаспадарыў і паспеў ужо разбагацець брат Макар. То выхваціць думкі раптоўна прадстаўленне аб асенняй яснай раніцы ў лесе, дзе два гады працаваў ён у смалакурні. А адзін раз думкі вызвалі роднае: як ён, гады тры таму, ездзіў у горад па сястру, ачуняўшую ад хваробы ў больніцы. Пустая летняя дарога пыліла пад калёсамі, а гаворкі былі радаснымі. І ад гэтай думкі несвядома ўстрапянулася ў Ігнася радасць і захацелася яму саскочыць з цёмных палатак, пабегчы па зямлі, сазваць усіх людзей і сказаць ім, моцна крыкнуць нешта такое, што б заставіла ўсіх іх засмяяцца нявінна дзіцячым смехам і адчуць да яго, Ігнася, радасную блізкасць — блізкасць людзей к чалавеку і чалавека к людзям.

І тады сказаў Ігнась брату Макару:

— А я ледзьве прыйшоў з горада — вельмі ж ісці цяжка па непрымятаму снегу.

Макар коса глянуў на Ігнася і адказаў:

— От лепш бы памог што зрабіць, чым цягацца па непрымятаму снегу.

І з'явілася ў Ігнася крыўда ў голасе:

— Я ў доктара быў.

— А мне ўсё роўна, у каго ты там быў,— сказаў Макар.

І стаў пасярод хаты, упёрся шырокімі кулакамі ў бокі і далей гаварыў:

— Хто ўсё багацтва тут прыдбаў? Я! Усё маё, а ты дармаед! Я гаспадар усяму. Кругом мяне ўсё маё. Пальцам крануць нічога нікому не дазволю. Чуеш? Паткніся хто на маё: я пакажу! А ты пры чым тут?

Была ў постаці Макара цвёрдая самаўпэўненасць, жаданне патаптаць усіх сабе пад ногі, чым больш падграбіць пад сябе рознай маёмасці і крыкнуць усім:

— Вось гэта ўсё маё. Не хадзі сюды!

А ў постаці Ігнася з'явілася крыўдная злосць. Ён для нечага хацеў злезці з палатак, ды зноў пачуў Макараў голас:

— Нясі вон сваю хваробу з хаты; што ты мне яе перадаць хочаш?!.

І ў пяць раз больш прыліло ў Ігнася злосці. Ён саскочыў з палатак і стаў перад Макарам. А той стаяў, сціснуўшы кулакі, і ядавіта ўхмыляўся Ігнасю ў вочы. Усё ў ім гаварыла:

«Я тут гаспадар. Усё тут маё».

І тут зразу Ігнась адышоўся ўбок. Ні то ён спалохаўся Макара, ні то адчуў, што не варт гаварыць з ім. Сеў Ігнась на лаву, і ў змроку хмурнага дня нешта новае пачало вырысоўвацца ў яго пачуцці. Яно выявілася ў думцы:

«Чаго ж гэта я, як ішоў з горада і нядаўна, быў такі радасны? Макар тут гаспадар, а ў мяне нічога няма. Каб як гэта мне дзе-небудзь прыстроіцца — рабіць па сваёй сіле, каб ніхто не мяшаў мне жыць. І што рабіць, каб зноў так і надоўга стала весела?..»

Наступны прыступ злосці на Макара ў Ігнася быў ужо выключна за тое, што ён адабраў у яго радасць — разагнаў радасны настрой. Хацеў сказаць аб гэтым Ігнась Макару, ды Макара ўжо ў хаце не было. І Ігнась пайшоў на двор.

## IV

Цёмная сінь згусцілася на даляглядзе і папаўзла паволі па бела-празрыстаму полю. Далёкія кусты ў тонкім прыцемку раскупчасціліся, акруглілі свае абрысы і ў гордасці сваёй ядлаўцовай застылі перад адзінокай вярбою, над мёрзлымі межамі. Зыкі ясней пераляталі цераз прастору, глыбіня ў небе стала бяздоннаю — як крыніца чыстай вады...

І вечар ціха прытуліўся да старых сцен маўклівых хат...

У цішы гучна зычаць крокі па цёмнай дарозе. Яны размашыста лятаюць — выяўляюць людзей, напрацаваных за дзень, а галасы людскія здалёк востра пранізваюць паветра. Постаці, цёмныя ад змроку, плывуць па дарозе...

Раз у тыдзень прыходзяць яны вечарам у гэтае месца. Што гэта за людзі?

Калі прайсці да апошніх хат вуліцы — больш запахне зімовай сырасцю прасторы. Гляне на цябе з поля хітрая ноч, мацней абніме цябе, мізэрнага тут перад ёю з тваімі даўнейшымі планамі. Дабяжыць здалёк брэх наіўна-ўпартых сабак і яшчэ з большай глыбіні прасторы — выццё схуднеўшых ваўкоў...

Вось сюды, к палявой граніцы з панурасцю хат, сходзяцца людзі. Выкідаюць іх аднаго за адным снегавыя дарогі і сцежкі. А сцежкі і дарогі бягуць з усіх чатырох бакоў — адтуль, дзе ў кустах і на полі ўжо заміргалі агні ў акенцах такіх самых струхнелых хат...

Нясуць гэтыя людзі ў постацях сваіх павольную задумёнасць; можа яны і былі б іншымі — ды так ужо склалася ўсё вакол іх. Сходзяцца яны па ўтаптанаму снегу, цераз вузкі двор у высокую хату. Чатыры яе акны глядзяцца ў вечар роўным светам. У віднаце гэтай хаты яны яшчэ больш здаюцца ўтомленымі.

Вось уваходзіць чалавек з сівізнай у валасах. Ён нязграбна абівае спег з лапцей у парозе, пасля ківае галавою ўсім. Пасля ўваходзяць па некалькі чалавек з маладымі тварамі, ды абросшымі ўжо кароткімі валасамі. Напаўняюць яны хату пахам мазаных дзёгцем ботаў, гарачымі размовамі. Прыходзяць вясёлыя хлопцы, адзін адчыняе пры сцяне шафу і дастае кніжкі.

І цішыня пачынае напаўняць светлую хату...

## V

Як Ігнась, з крыўдай на Макара, выйшаў з хаты, з'явіўся ў яго раптоўна зноў нейкі смутак. Толькі думкі былі як бы адпачыўшымі, і загэтым з'явілася ў іх свядомасць, што бедаваць яму асабліва нечага! Макар нічога яму не зробіць, з хаты выгнаць не мае права. І толькі бяда ў тым, што яму, хвораму, ад Макара непрыемнасці ў жыцці. І тут

жа, ці то ад перажытага, ці то ад папярэдняй утомленасці, адчуў Ігнась зноў знаёмую боль у грудзях, а пасля цяжэй стала дыхаць, як бы хто здавіў яму горла.

«Такі праўду, мусіць, гаварыў доктар»,— падумаў Ігнась.

І з'явілася ў ім несвядомая злосць на мінулае, як бы на нейкую сілу, якая трымала ў жалезных лапах прайшоўшую частку яго жыцця, накіроўвала гэтае жыццё туды, дзе горш, і гэтым заставіла яго страціць самае каштоўнае, што ёсць у жывой істоты,— здароўе.

«Куды ж мне пайсці цяпер,— думаў Ігнась далей, трохі супакоіўшыся,— народ збіраецца сягоння ў хатучытальню — ці не пайсці туды?»

І ён пайшоў.

Разам з другімі пастаяў ён каля парога, пасля падышоў у куток і сеў на пустое месца.

І кінуліся яму, нервоваму і чуламу, у вочы і ў душу твары людзей вакол яго.

Чым старэйшы быў твар, тым больш утомлен быў ён жыццём. Адзначаліся на ім сляды перажытых пакут, і нават ухмылкі былі, хоць шчырыя, ды панурыя. Шчыра вясёлымі здаваліся толькі твары зусім маладых.

Вось угледзеў Ігнась каля парога на лаве з Выселкаў, што за полем і кустамі прытуліліся такімі ж самымі старымі хатамі, Паўла. У яго малады яшчэ твар зморшчаны, і застыла на ім як бы нейкая натуга. Знае Ігнась, што, вечна галадуючы, ён дастаў хваробу жывата. І цяпер часта, аручы летам на полі, кідае плуг, лажыцца жыватом на мяжу і ляжыць так да вечара, затаіўшы ў сабе страшны боль.

І яшчэ ўгледзеў Ігнась пры дзвярах Макара. Ён сыта і горда стаяў, упёршыся кулакамі ў бокі, шырока расставіўшы ногі, і з хітрай нейкай ухмылкай, здаецца, думаў:

«Чаго збіраюцца сюды гэтыя людзі?»

І адтаго, што ўбачыў Ігнась Макара, зноў яшчэ горш стала рабіцца яму неяк нудна, з'яўлялася аднакасць да ўсяго. І гэта пачуццё ў яго яшчэ павялічвалася адтаго, што знаў ён, што гэтымі людзьмі, якія тут сабраліся, перажыта многа за жыццё розных пакут.

І прамігнула ў яго ў пачуццях:

«Адчаго і калі ў іх і ў мяне можа быць і бывае радасць?»



Пісьменнікі-маладнякоўцы. Справа налева (стаяць):
Кузьма Чорны, Андрэй Александровіч, Анатоль Вольны (Ажгірэй),
Паўлюк Трус, Нічыпар Чарнушэвіч, Адам Бабарэка;
сядзяць: Язэп Пушча, Алесь Дудар, Міхась Чарот, Алесь Якімовіч,
Язэп Падабед. *1924 г.*




Вокладкі першых кніг К. Чорнага.

## VI

Ва ўсёй істоце чорнага чалавека за сталом з'явілася на момант нешта такое, што гранічыць з уздымам нявінна-дзіцячага захаплення і з жалезнай цвёрдасцю ўпэўненага ў сабе чалавека. Ён раптам падняўся, працягнуў над сталом рукі і моцна сказаў:

— Адчыняю адкрытае пасяджэнне вясковай камуністычнай ячэйкі.

Была ўвага ў прыціхшых людзей.

Глыбіню яе адчуў Ігнась у людзях з сурова-маўклівымі, адзначанымі цяжарам жыцця тварамі і тут жа — атрутлівую, сярдзіта-чужую ўхмылку на твары Макара і тых, хто стаяў каля яго пры дзвярах...

Голас быў спакойна-вытрыманы ў чорнага чалавека:

— Сягоння мы будзем гаварыць аб двух пытаннях. Сягоння мы пастараемся дагаварыцца, як бы ахваціць наш раён лячэбнаю дапамогаю, чаго ў нас не было. Па гэтым слова мае таварыш Рыбачук.

І вось падняўся ён — Рыбачук — нязграбны ў сваёй шыракаплечай жакетцы. Ён палажыў рукі на стол, і голас быў у яго спачатку як бы нясмелы. Здавалася, што гэта ён не гаворыць людзям, а сам з сабой разважае.

Чуў Ігнась яго першыя словы:

— Сягоння мы павінны вырашыць, як абхваціць наш раён лячэбнай дапамогай, як утварыць доктарскі нагляд над вёскамі, і другое — як лепш і хутчэй знішчыць сярод нас цемнату і непісьменнасць...

Бачыў Ігнась застыўшыя, як бы панурыя, зморшчаныя думкамі твары.

І з'явілася ў Ігнася ад слоў Рыбачука і выгляду твараў у пачуццях і думках:

Спрадвеку сярод шырокай адзіноты поля існуюць шэрыя людзі. Агарнуў іх цяжар іхняга існавання; у іх горасць была на кожным кроку...

Лета гарачай шырынёй размахнецца над зямлёй, сонца засмяецца зямлі весела, а людзі панурыя ў полі. І так, як тонка гудзе над гарачымі загонамі авадзень, так цягнецца песня тая.

Ой, рана-а, ра-на-а-а-а...

Белы размах зямлі затуліў вось туманнай плёнкай іх старыя хаты, у хатах запыленыя сцены прывыклі слу-

хаць слабыя галасы хворых, а яны спрадвеку прывыкалі к пакорнаму слову:

— Ну што ж?!. Дзе тое іншае?

І вось узняло старыя думкі тое новае, іншае. Па глухіх сцежках, з снегавых прастор, з цішыні мёрзлых кустоў, з цемнаты старых хат прыйшлі сюды гэтыя людзі бараніцца...

І нешта вялікае атуліла іх. Яно прайшло скрозь словы чалавека за сталом і ўскрыліла іх пачуцці новай радасцю. Яно ўжо напоўніла іх жыццё і засвяціла магчымасць вечнага захаплення ім.

І падняўся Ігнась на ногі ў сваім кутку...

Голас у Рыбачука раптоўна стаў як бы жалезным. У ім было поўна ўпэўненасці ў сабе і ў гэтых людзях, што прыціхлі вакол яго.

— Хто, таварышы, хоча сказаць сваё слова?

Цяжкім ударам рвануліся галасы, і адзін пакрыў іх — высокі, тонка-нервовы:

— Я скажу сваё слова.

Гэта Ігнась Альховік, худы і сагнуты, ціснуўся скрозь густую грамаду к сталу, каб у нязграбна-нявытрыманых словах выказаць новую сваю лёгкасць, якая прыліла к яго грудзям.

І было шумна, бо не маглі ўжо маўчаць людзі з прабуджанымі думкамі, з цвёрдаю, непарушымаю вераю ў надыходзячую лёгкасць далейшага жыцця...

Так пад старым назіркам ночы, сярод глушы дзікаснегавых прастораў, сярод старых хат і мёрзлых кустоў, бушавала ў аднаўленых людзях новая радасць. Нават хворых ускрыліла яна захапленнем і верай.

І жыццё магло патануць у яе шырыні.

### VII

Са сходу Ігнась выйшаў апошнім.

Як бы хто вырваў з яго тое, што было сягоння днём у горадзе, калі выйшаў ён ад доктара.

— Ну што, пагаварыў? Хэ-хэ!..

Перад Ігнасём стаяў Макар з пагарджальнай ухмылкай на твары. Яе Ігнась не бачыў, ды адчуваў, глянуўшы на круглыя і шырокія, пры адбліску снегу, вочы Макара.

— А табе што?

— Нічога. Хэ-хэ! Аратар!..

І пайшоў, закалыхаўшыся сваёю грузнай постаццю. Ішоў Ігнась за ім моўчкі ў хату, глядзеў на яго з аднакасцю.

І стала ў Ігнася ўкараняцца і спець нешта ўжо знаёмае, ды новае па сваёй вялікасці і шырыні. Яно не праходзіла цераз думкі, яно выяўлялася ў пачуццях:

«Вось хаджу я па зямлі, жыву — і ад гэтага радасць. Яна шырыцца, яна ва ўсім, што ёсць, яна напоўніць усё, уздыме чалавека ў яго захапленнях. Яна ў свядомасці, што я існую і адчуваю ўсё».

Старым скрыпам крыкнулі дзверы ў начнай цішы,— гэта цёмныя сцены струхнелай хаты прынялі ў сябе абуджанага, каравага чалавека з яго новай, буйна-шырокай радасцю...

Скрып дзвярэй быў адзінокім сярод ночы, загэтым ён звонка пераляцеў цераз панура-віхрастыя стрэхі хат і востра патануў за мёрзлымі кустамі, сярод снегавых прастораў.

Эх, прасторы вы размашныя!

Шырыня ваша дзікая ажывае пад шырынёй новай радасці...

Яшчэ конскія вочы на вашых дарогах свецяцца тугою ў сваім бяздонні ад збітых худых рэбраў, яшчэ вецер, <у> густыя шумам дні, спявае надмагільную песню над сухімі касцямі ды зганяе ўжо вашу старую, панурую дзіч, аднакасць і сон тупога існавання.

Вось і ўзмахнула новае захапленне каравых людзей...

Па бязмернасці ажыўшых прастораў, па ваколіцах, між старых хат, ходзіць новая радасць.

# ЗАРАБОТАК

Як бы ні верыў,
Абы памераў...

*К. Крапіва*

Царкоўны стараста Міхал Шабалдзей глянуў па пустой вуліцы ўправа, глянуў улева, пасля, не спяшаючы, уцягнуў у пачырванеўшы ад холаду нос з вусоў вялікую каплю нечага густога і слізкага і сцебануў сурамцовай пугаю каня.

— Ну, каб цябе ваўкі ўклалі, воўчае мяса,— раўнуў ён на ўсю вуліцу і яшчэ раз чмыхнуў носам.

Конь страсянуў грываю і пацягнуў цяжкія сані.

— Тпр-рр,— абазваўся цераз паўхвіліны Міхал.

Конь стаў. Міхал улажыў пальцы рук у рукавы і прысеў на край саней.

— На, Міхал, сып,— сказаў Змітрок Шапавал, цягнучы паўасьміну жыта.

Міхал Шабалдзей усыпаў жыта ў мяшок і зноў сцебануў каня. Конь зноў падцягнуў сані на некалькі крокаў.

— Ну як, Міхал? — сказаў весела бацюшка, выходзячы ў сіняй рызе і з крыжам у руках з суседняга двара.

— Дзякуй богу, даюць, ужо ледзьве конь плішчыць,— бойка адказаў Міхал.

— Ну і добра,— сказаў бацюшка і паблытаў у суседнюю хату чытаць малітву.

А на вуліцы, каля Міхала з санямі, пачаў збірацца гурт. Ішоў з гумна Сідор Апенька ды стаў пагаварыць з Міхалам. За Сідорам падышоў закурыць чужой табакі Паўлюк Храпа. А к гэтым падышло яшчэ некалькі, і хутка за народам не відаць стала ні Міхала, ні саней, ні каня. Міхал з генеральскім выглядам узлез на сані дый пад'язджаў паволі па вуліцы, услед за бацюшкам, які шпарка перабягаў з хаты ў хату. А пасля папрыбягала адпекуль малых хлапчукоў, і стала весела на вуліцы.

— А браткі ж,— шапталіся ззаду хлапчукі,— чаму гэта ў дзядзькі Міхала Шабалдзея вельмі вусы мокрыя?!

— А чорт яго ведае,— адказвалі другія,— мусіць, гэта ў яго з носу.

— Дык жа на дварэ мароз, не павінна цячы,— шуцілі трэція.

— Ха-ха-ха-ха,— заліваліся ўсе гуртам вясёлым рогатам і падыходзілі бліжэй.

— Дзядзька, чаму ў цябе на губе мокра? — запытаўся з рогатам у Міхала Грышка Марылін, самы прахвост і зладзюга на ўсю вёску.

— Няхай у цябе ў калошах будзе мокра,— адказаў сярдзіта Міхал і зноў сцебануў каня. Мужчыны і хлопцы падышлі ўслед за санямі.

— Чаго ж ты злуеш? — сказаў Міхалу Сідор.— Важнае дзела — малы шчанюк дзяўкнуў, а ён ужо злуе.

— Чаго вы работы якое не робіце ды цягаецеся за мною? — абазваўся сярдзіта Міхал.

Мужчыны зарагаталі.

— Тфу,— плюнуў Міхал,— усё роўна, як блазны якія.

— Ну, Міхал саўсім ужо ганаровым стаў,— сказаў Сідор,— як пахадзіў паўгода каля папа, дык і гаварыць не даецца.

— А што, браткі, думаеце? — адказаў Паўлюк Храпа.— Як яшчэ ён паходзіць каля папа месяцаў два, дык гатоў за дыякана выйсці.

— А-я-яй, а гвалт, ха-ха-ха-ха! — гранулі ўсе рогатам.— От будзе дыякан!..

— Пайшлі к... ядронай мацеры! — раўнуў Міхал і шалыгнуў путальнём каню па хвасце. Конь пацягнуў сані, а мужчыны з рогатам засталіся.

— От будзе дыякан... ха-ха-ха-ха!..

— А голас, голас! ценарцом будзе кандакі выспеўваць!..

— Ён тады яшчэ гатоў, падла, папа абярнуць, калі шмарганецца аб яго!..

Хлапчукі пастаялі каля мужчын ды пасля зноў пабеглі па вуліцы, прыглядаючыся, хто што выносіць для бацюшкі. Хутка прымецілі яны, што ўдава Аўдоцця вынесла цэлую кілбасу. Міхал Шабалдзей весела ўзяў кілбасу, патрос у руцэ, пасля выцягнуў з саломы на санях вялікую торбу і сунуў туды кілбасу.

— Вось назбіраў, халера, цэлую торбу кілбас ды сала,— загаварылі хлопцы.

— Чаму ты, цётка, кілбасу папу даеш, няхай бы сама з'ела, а то цэлы век посціш? — запытаў Грышка.

— Тфу, каб на вас халера, канцамолы чортавы,— адказала Аўдоцця,— бацюшка за кілбасу богу моліцца, малітву ў хаце чытае.

— А без кілбасы не чытае?

— А няхай ужо нечага над вамі псалтыр пачытаюць,— адказвала Аўдоцця і шмыганула скоранька ў двор.

— Няма на вас лому якога,— забубніў Міхал Шабалдзей, седзячы на санях.— Гэта жартачкі, бацюшка парафію з малітваю аб'язджае, а яны зубы вышчараюць. А каб вы папруцянелі, смаркачы аблезлыя!..

— Дзядзька, не злуй!

— Ідзі, дзядзька, пакоўзаемся каля калодзезя!

— Няхай ты бокам коўзайся,— прабубніў Міхал, хаваючы новую кілбасу ў торбу.

Грышка падкраўся к саням і глянуў у развязаную торбу. Аж сліна ў яго пацякла. «От, каб яго растрыбушыла,— падумаў ён,— пройдзе падла-гультаіна з крыжам па вуліцы, дый мае на цэлы год. А гэта малацi-малацi з бацькам ды заўсёды цыбулю з квасам еш».

На вуліцы пачуўся крык і свіст. Грышка азірнуўся і ўбачыў, што хлапчукі гналі па вуліцы паповага сабаку Лыску. Лыска бег, хвост падтуліўшы, а хлопцы аж енчылі з рогату, бегучы ззаду.

— Гэта ж Лыска бацюшкаў! — крыкнуў Міхал, саскочыўшы з саней.— Ах вы прахвосты, сукіны сыны. На, цю, на, каб ты здох!

Хлопцы сталі, а Лыска падбег да саней і лізнуў у твар знаёмага Міхала Шабалдзея.

— О так, о,— усміхнуўся Міхал,— бегаеш, падла, па чужых дварах; няма, каб пільнаваўся сваіх.— Чаго ты круцішся, каб на цябе дохлая,— дадаў Міхал, угледзеўшы, што Лыска нешта вакол саней увіхаецца.

— Хлопцы,— зашаптаў Грышка ў кучы,— Лыска бацюшкавы кілбасы знюхаў. От каб як гэта дзядзьку Міхала адазваць на момант ад воза.

— Дзядзька Міхал,— сказаў ён моцна,— ідзеце закурэце, у мяне вельмі бесарабчык добры, я ў бацькі ўзяў трохі.

— Ка'аш, добры? — працягнуў Міхал.

— Добры. Такі моцны, што мой бацька калі закурыць, дык ва ўсіх, хто нюхае дым, аж язык у гэтае ўцягвае.

— Ну?!

— Яй-права.

— Ну, Лыска, сцеражы воза,— сказаў Міхал, пагладзіўшы Лыску па шыі.

Лыска падскочыў вышэй Міхала, а Міхал, ускінуўшы каню на спіну лейцы, падышоў к хлопцам.

Лыска, адчуўшы сябе гаспадаром, гоцнуў на воз, упіліўся зубамі ў торбу з кілбасамі ды звалок яе на снег. Некалькі кускоў сала вывалілася на зямлю, а торбу Лыска павалок у зубах па снягу. Па дарозе яшчэ некалькі кілбас вывалілася, і з астаткамі Лыска ва весь дух драпануў па вуліцы.

Бацюшка праз акно з хаты ўгледзеў сабачыя справы каля саней і, не кончыўшы малітвы, выскачыў на вуліцу. Міхал сама што ўсмак зацягнуўся моцнаю табакаю і аж павесялеў.

— Міхал,— крыкнуў бацюшка, выскачыўшы на вуліцу,— чаго ты глядзіш?!

— Што? — абазваўся перапалоханы Міхал.

— Вунь, бачыш?!

Міхал глянуў, аж абамлеў. Далёка ўжо ад саней, падтуліўшы хвост, пёр Лыска з торбаю ў зубах. За ім бегла яшчэ некалькі сабак і нават яго рыжая сучка. А ззаду маршыравала некалькі свіней, выцягнуўшы лычы.

Пакуль Міхал агледзеўся, бацюшка, як стаў у аблачэнні з крыжам у руках, кінуўся ва весь дух за Лыскам надбіраць кілбасы. Міхал шмыгануў услед. На вуліцу навыбягала людзей. Падняўся рогат і крык...

Лыска, дабегшы да ваколіцы, драпануў на агароды. Бацюшка вярнуўся назад к возу, сарваў са злосці з сябе рызу, кінуў на воз і аблаяў Міхала.

— За што ж вы, бацюшка, лаецеся?

— А няхай цябе перуны, гэтакі заработак,— гукнуў бацюшка,— маліўся, маліўся цэлы дзень, дый хвост сабачы вымаліў. Няма рахунку больш хадзіць, згарыць яно няхай!..

І бацюшка ўзабраўся на воз, шалыгнуў ляйчынаю капю па нагах і паехаў дадому, не кончыўшы малітвы.

Міхал Шабалдзей стаяў пасярод вуліцы, чмыхаў носам ды, апусціўшы вочы, слухаў, як над ім рагатала грамада людзей.

— Ну, можа за дыякана хутка будзеш высвенчвацца? — пыталі ў яго.

— Згарыць яно няхай і з дыяканствам, і з стараствам. Я больш царкоўны не прычэтнік!

# ПАПОЎСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ

*(Гутарка царкоўнага папячыцеля)*

Я — чалавек, можна сказаць, не то што вельмі богабаязны, а так сабе. Мой дзед хадзіў часамі ў цэркаў і бацюшку ў руку цалаваў, мой бацька таксама рабіў; ну і я рабіў! Ці тут бог ведае што?!. А тым часам хлапец мой, Паўлюк, ды яшчэ суседнія хлапцы, калі збяруцца ў мяне ў хаце ды калі пачнуць гэтыя свае савецкія, значыць, цапстрыкі, перагэтае, дык я сабе і думаю:

«Вось каб на вас трасца, канцамолы вы чортавы».

Ды вазьму і не выцерплю ды скажу:

— Вельмі ж вы ўжо, трасца вашай мацеры, разумнымі пасталі! Няма на вас чумы якое! Гэта жартачкі — нічога вам ужо не трэба: ні папа, ні бога. Няхай на вас халера!..

А яны мне ў адказ толькі зубы выскаляюць.

— Ты,— кажуць,— дзядзька, па-свойму, а мы па-свойму.

«Што ж ты,— думаеш сабе,— з гэтаю заразаю будзеш гаварыць. Няхай з імі добрыя людзі не гавораць».

А я якраз састаяў тады ў царкоўных папячыцелях. Дык раз падзывае гэта мяне к сабе наш бацюшка, айцец Агафангел, ды і кажа мне:

— Так і так, браток Панцялей, ідзе вялікдзень, а ты сам ведаеш нашы цяперашнія справы — полем я не карыстаюся: рабі, кажуць, сам, тады і поле будзе. А што гэта я сам буду рабіць? Сам, ведаеш...

— Ведаю,— адказаў я бацюшку.

— Ну дык ты, калі ведаеш, ды яшчэ раз ты ў царкоўных папячыцелях састаіш, дык і далжон, значыць, у славу божую сабраць велікоднага для мяне: яец, кілбас, сыраў, масла, усякае іншае штукі. Гэта, значыць, я ж кажу, у славу божую і ў здароўе папа, а пры абходзе гаспадароў запісвай — хто не дасць, таму каробкі не пасвянчу.

— Добра,— кажу я,— бацюшка, у славу божую і ў здароўе ваша пастараемся.

Пацалаваў гэта я бацюшку ў гэтае, у руку, значыць, ды пайшоў. І такая ў мяне вясёласць з'явілася, проста аж падскочыць захацелася.

Вось, думаю сабе, у славу божую пастарацца прыйшлося. На святое, значыць, дзела бог спадобіў, гэтае, і больш нічога. Дзякуй табе, божа, што спадобіў мяне быць царкоўным папячыцелем!..

Гэта ж, думаю сабе, гонар мне збіраць гэтае... На ўсю парафію слава.

Сказаў я аб гэтым жонцы, а яна — ну, добра, кажа, няхай бог памагае.

Адно Паўлюк глянуў на мяне коса ды ўсміхнуўся.

От каб ты, думаю, у дурным розуме смяяўся, з каго ты, падла, смяешся; няма ўжо ў цябе і да бацькі пашаны.

Так падумаў і выйшаў на вуліцу.

А тым часам хлопцы мае ўсё ў школе нейкія прыстройкі давай прыстрайваць — дошкі з усяе вёскі звалакаюць, рыштункі ўсякія цягаюць...

— Што гэта вы там прыстрайваеце? — пытаюць у іх старыя.

— Гэта мы сваю ўсяночную будзем правіць,— адказваюць ды зубы выскаляюць.

«Каб вам ужо нечага ў грудзях правіла»,— думаю я сабе.

Але думаючы і справу раблю. У вялікую пятніцу я ўсю вёску аб'ехаў, назбіраў усякае штукі цэлы воз, ды як глянуў, дык мяне аж зайздрасць узяла — каб, здаецца, хаця з пятую часць мне як гэта пакінуць — дальбог цэлую вясну не гараваў бы. Але адагнаў ад сябе грэшную думку, адпусці, божа, грэх, падумаў ды і павёз усё бацюшку.

Увайшоў у сенцы, ткнуўся ў кухню, аж там падлогу мыюць — нарабілі на мяне крыку і гвалту, каб не лез на мокрае.

— Ідзі,— кажуць,— гэтым ходам.

Я ў чысты ход кінуўся, бацюшка выйшаў ды на мяне коса зірнуў:

— Не можна,— кажа,— браток, тут пастаронім хадзіць, тут толькі што падлогу памылі.

«Ах, каб цябе ўжо нечага на смерць абмылі»,— падумаў я, але тут жа апомніўся, адпусці ты, божа, грэх, што так на бацюшку падумаў.

Пацалаваў я гэта бацюшку ў руку, здаў яму велікодны воз ды ціхенька назад пайшоў. А дома Паўлюк і пытае:

— Ну, што, татулька, падзякаваў табе бацюшка за працу?

— Каб гэткую падзяку яму ў жывот,— адказаў я.

А Паўлюк калі зарагоча!..

— Тфу, каб ты згарэла,— плюнуў я,— прагаварыўся...

* * *

Тым часам на вялікдзень хадзіў я на ўсяночную, бо, вядома, царкоўным папячыцелем раз састаіш, то далжон, значыць, бо гэта ўродзе як бы, значыць, царкоўны чыноўнік. Ну, я, значыць, з царкоўным старастам там свечкі прадаваў, ліхтарні запальваў, народ у парадак прыводзіў, калі вельмі к царскім дзверам напіралі, разганяў хлапчукоў, якія, каб на іх трасца, укралі ў гандляра Ошара восем бочак ад дзёгцю, ды, запаліўшы іх, зрабілі люмінацыю — цэркаўка, значыць, як шклянанчка ноччу свеціцца, а на зямлі стала — хоць іголкі збірай. А тут агонь калі шыбане, дык каб трохі, дык быў бы амін і цэркаўцы, і ўсяночнай, і нават багамольнаму народу, які стаяў наперадзе.

Дык прыйшлося разганяць. Але чорт ім рады даў бы, каб не прыбеглі з школы ды не сказалі, што там антылерыжныя шпітакі адкрываюцца. Дык туды і пажылых часць паваліла.

— Гэта ж,— кажуць,— усё твой Паўлюк там арудуе...

«От,— думаю,— прыждаў сынка! Удалося, каб яно звялося!..»

Ну, тым часам бацюшка, свенцячы каробкі, яшчэ па пары яец сабе згроб: цераз мае рукі зноў жа ўсё гэта прахадзіла... А ідучы з усяночнае, глядзеў я, як сонца гуляе — глядзеў, глядзеў, аж вочы ўжо пакінулі, а ўсё не бачу, як сонца гуляе.

«Мусіць, грэшны я чалавек,— падумаў я,— калі не бачу...»

* * *

Днём таксама хлопцы нейкі шпітак рабілі. Сабралі народ, настаўнік тлумачыў, што Хрыстос не васкрасаў, гэтага ніколі не было, гэта ўсё выдумка.

«Ну,— думаю я, слухаючы,— гавары, гавары. Бач якім, падла, бязбожным стаў, ужо яму вялікадня не трэба!» А пасля як стаў ён даводзіць, чытаць з кніг нейкіх, дык мяне думкі ўзялі: а можа і так, бог яго ведае... Гляну ў я назад, аж там бабы ўздыхаюць, божкаюць, канца свету баяцца, каб не было ад гэтакіх настаўнікаў. А іншыя нават і вераць настаўніку, бо галавамі ківаюць, а іншыя пасміхваюцца. Вядома, што галава — то розум.

Выйшаў я са школы, аж бачу — да бацюшкі збіраюцца з вялікаднем праздраўляць. Бачу, пайшоў з жонкаю хутаранец Ігнат Курмановіч, мельнік Рыгор Курыла, а пасля пайшоў дзяк Анісіфар Кіяцкі; я пастаяў ды і сам пайшоў. Увайшоў гэта я на кухню, аж чую — госці недзе ў пакоях талеркамі звіняць. Я патупаў каля парога, пакашляў, аж выходзіць сам бацюшка.

— Хрыстос васкрос, бацюшка! — кажу я.

— Ваісціну васкрос! — адказвае бацюшка.

Ды так і стаім моўчкі.

«Ну,— думаю я,— зараз бацюшка мяне к сталу пазаве, такі то ж я царкоўны папячыцель, ды і збіраў усё для бацюшкі к вялікадню».

А бацюшка маўчыць, відаць, гаварыць яму няма чаго. А пасля і кажа мне:

— Пагода сягоння вельмі добрая, жаваранкі спяваюць...

— І вароны крычаць,— дабавіў я,— гэткае пагоды мала калі было яшчэ ў гэтым годзе.

— І куры вельмі кудахчуць,— яшчэ падбавіў бацюшка.— Ну, я пайду, а то там госці чакаюць. З прыемнасцю пагавару з табою ў другі раз.

І пайшоў. А мяне як возьме крыўда ды злосць.

«Вось як ты,— думаю,— на нашага брата глядзіш. Дзе ж тая твая роўнасць усіх перад уваскросшым Хрыстом, аб якой ты сягоння ў царкве тлумачыў?»

Пайшоў я зноў у школу, паслухаў яшчэ, што гаварылі камсамольцы, ды і пачала ў мяне рабіцца перамена. «Папоўскія казкі — адна чмута»,— пачала з'яўляцца ў мяне думка...

Мой сусед скончыў гэтую гаворку і пачаў напіхаць з капшука ў люльку табаку.

— А цяпер як? — запытаў я ў яго.

— А цяпер ніяк,— адказаў ён.— Якраз у гэтым годзе мяне не выбралі ў царкоўныя папячыцелі. Дык можа гэта і лепш. Стаў глядзець я на ўсе гэтыя папоўскія вялікадні іначай. Цяпер вось надыходзіць вялікдзень, а я нават і не рыпаюся. Клопат вялікі! Даволі слухаць папоўскія казкі.

На гэтым мой сусед скончыў сваю гаворку.

# ФЭСТ

— Дзень добры ў хату!

— Здароў.

— Што ты, Мацвей, хворы пасля гэтага дзела, што валяешся на палатках, ці якое табе ліха?

— Не, якое хворы, дай свет. Не выспаўся. Гэта жарпачкі, цэлую ноч у гэтакай працы... Праходзь, Тодар, садзіся.

— Сяду. Ну як, удалася?

— Як спірытус.

— Ну?!

— Яй-б-бо...

— А мая, брат, храновая.

— Не можа быць.

— Верна. Абы пацягнуў трохі, дык у горле ўсё роўна, як дзеркачом шмаргануў.

— А мая ж, брат, дык як цымус. На, адно, запробуй.

Мацвей саскочыў з палатак, шавяльнуў сваёю рыжанькаю бародкаю, на хаду чухануў сваю шчуплую спіну і шпарка падбег да крывое, аблузанае шафы. Тодар — высокі, плячысты, вусаты — пайшоў за ім.

Мацвей нацадзіў з бутэлькі ў вышчарбленую шклянку і паднёс Тодару.

— На, адно, сцебані.

Тодар разгладзіў вусы і паволі, баючыся капнуць на зямлю, выцягнуў да дна.

— Ну, што, як?

— А братка ж ты мой, аж язык у гэтае ўцягло. Як агонь.

— Шукай яму, Тэкля, закусіць чаго-небудзь,— гукнуў Мацвей жонцы,— нясі сала, то і я шклянку вып'ю.

— А няхай ты смалы напіся,— абазвалася Тэкля з

мыцельніка,— няхай цябе чэрві раз'ядуць з тваім салам. Гаршка не будзе чым засквварыць, а ён што дзень, то ўсё баль адчыняе...

— Маўчы, бо як шыбану гэтаю бутэлькаю, дык нагамі накрыешся,— раўнуў Мацвей,— на, Тодар, хоць яблыка глымзані, мелі свінні есці, то на от, ты з'еш — усё роўна свінням даем — урадзілі дзякуй богу... Дык, ка'аш, твая не ўдалася?

— Не. Чорт яе ведае, што ёй за трасца. Здаецца ж, гэтак стараўся, а выйшла, ліха ёй, хоць вон вылівай... Тры пуды як сабаку пад гэтае ўправіў, і дзела з канцом.

— А што рабіць думаеш?

— Ну, што ж рабіць?!. Зноў гнаць буду. Як жа можна абысціся на фэст без гэтага. Як ні круці, а трэба. Такі-та ж, бог даў, храмавы празнік, чым жа яго памянуць і як жа бацюшку сустрэць... Нялоўка...

— Ды яно верна, што нялоўка.

Тодар выцягнуў з кішэні капшук з самарослаю табакаю. Патросшы ў руцэ, працягнуў Мацвею.

— Свой?

— Але; поўну хату навешаў, аж вешалы гнуцца. Бяда толькі, што паперы няма, хоць ты гвалт крычы, няма з чаго скруціць.

— Паперы?! Вось чудзіла, ка'а паперы яму няма. Гэта ж трэба! Цяперашнім светам на паперу гараваць? Трэба знаць смікалку, і будзе папера. На гэта я ніколі не гарую.

— Ну?!.

— Яй-пр-ра! Я, брат, трохі смікаю, дзе, як і што. Нядарам ужо шэсць гадоў царкоўным папячыцелем служу; сам царкоўны стараста пад маю дудку скача, а з бацюшкам граю ў адну дудку, я яго, можна сказаць, правая рука,— Мацвей мнагазначна і весела маргнуў правым вокам Тодару.

— Ну дык, ка'аш, ты гэтую самую паперу змікіціў? Дзе ж ты яе?..

— Дзе?! Я ж табе кажу. А хата гэтая чытальня нашто?! Мой жа Міколка адтуль і не вылазіць, здружыўся з гэтымі камцамоламі, проста бяда... Ну і я туды зазіраю. Пасяджу, пасяджу трохі, а пасля прыгледжуся, як нікога няма, ды ціхенька газеціну адну або дзве сцебану ды ў кішэню. А тады як чмыхану адтуль!.. Вось табе і папера. На, круці!

І паволі, важна пачалі яны напаўняць хату густым дымам.

Увайшоў Міколка.

— Дзе ты цягаешся? — наваліўся на яго Мацвей.— Абы свята, дык хоць на бубен давай — згіне, як канфора.

— А што вам да гэтага?!

— Як то што? Каб бацька не меў права над сынам?!

— Нашто я вам тут патрэбен? Курыць з вамі?

— Што гэта вы там прыстройваеце гэткае,— запытаў Тодар у Міколкі,— што аж вучылішча звініць кожны дзень?

— Гэта ў нас сельскагаспадарчы гурток арганізаваўся, будзем спектакль ставіць, суд над трохполкай. Будзе сход, мітынг. Аграном прыедзе, даклад будзе гаварыць. Хто хоча, усякі пойдзе ў нядзелю.

— У нядзелю?! — здзівіўся Тодар.— Дык як жа гэта можна, тады якраз фэст у нас. Гэта ж бацюшка прыедзе, малебства правіць будзе, а вы нейкі сход, ды яшчэ міцін. Хто к вам пойдзе на гэты ваш міцін. Хто яго будзе слухаць, гэтага вашага міціна, што ён там вам будзе плясці?!

— Ат,— дабавіў Мацвей,— хай павар'яцеюць трохі. А мы вось адно свой міцін зробім — пройдзем пасля малебства з абразамі па вуліцы, а пасля, як усе добрыя людзі, і вып'ем, пагуляем.

У дзень фэсту яшчэ з самага рання ўсе гатаваліся. Гатаваўся кожны па-свойму. Хлопцы сядзелі ў чытальні, праглядалі газеты і кніжкі, чакаючы агранома. А старыя чакалі «свайго агранома» — папа. Мала хто з старых мог спакойна ўседзець на адным месцы — мужчыны аціраліся каля печ, раз-поразу зазіралі ў клеці, адкуль цягло самаогонкаю. «Царкоўны папячыцель» — Мацвей — ужо некалькі раз падыходзіў да шафы, прыгінаўся перад ёю на зямлю, даставаў бутэльку і цягнуў з яе, задзёршы галаў.

— Не можа дачакацца пары, ліха на яго,— злавала жонка,— успееш яшчэ, пачакай хаця, пакуль абедня кончыцца.

— Калі ж нек, на яго ліха, жывот баліць,— вінавата абзываўся Мацвей,— і чорт яго ведае, што яму сталася, ці то гэта я з'еў што-небудзь такое ўчора вечарам, ці чорт яго ведае.

— А каб ён нечага ўжо зарэзаў цябе, гэты твой жывот,— адказвала злосна Тэкля.

Мацвей моўчкі адыходзіў ад шафы...

...Бацюшка прыехаў рана. На краю вёскі, у старой капліцы, служыў ён абедню, а бабы і мужчыны «маліліся».

Мужчыны вялі «сталыя» гаворкі. Напрыклад, у адной грамадзе аж лаяліся на ўвесь цвінтар, спрачаючыся, колькі з пуда мукі можа выйсці бутэлек самагонкі і колькі сартоў. П'яны Тодар даводзіў, што можа выйсці тры добрыя сарты, калі гнаць маладзіком, а яго дзядзька Тарас, цярэбячы сівую бародку, пісклівым галаском крычаў Тодару ў самае вуха, што самагонку лепш гнаць не маладзіком, а «сходнімі днямі»; прытым, як ні круці, усё роўна трох сартоў не выйдзе, а калі і выйдзе, дык трэці сорт будзе як вада, хоць у вочы лі, не пашкодзіць.

— Чаму гэта не пашкодзіць,— крычаў Тодар,— дурны ты, хоць і дзядзька мне, хадзем жа ка мне; на тую практыку запрабуем — я табе ліну ў вочы, у мяне якраз трэці сорт ёсць. Хадзем адно, хадзем. От паглядзіш, што ніводнага вока не астанецца, як ліну. Што ты мяне дурнем робіш?!

Тодар ухваціўся і павалок за руку дзядзьку...

— Гвалт, людзі, ратуйце! — закрычаў стары, перапалохаўшыся.— Вочы хоча высмаліць самагонкаю, а-я-яй!..

— Ціха, браткі,—закрычаў царкоўны стараста, выбегшы з царквы,— не мяшайце бацюшку абедню правіць... Ціха... Тодар, калі напіўся, дык спаць ідзі.

— А ты адкуль гэтакі цэнтразыхер знайшоўся,— закрычаў Тодар, кідаючыся з кулакамі на царкоўнага старасту,— ты думаеш, тут вельмі вялікая штука?! Я сам скора буду царкоўным старастам. Чуў?!.

Стараста шмыгануў назад у цэркаў.

Ён палажыў ёй рукі на голаў і сказаў: «На нядужныя рукі вазлажаць і здравыя будуць».

І ўжо не знімаў з галавы хворай сваіх «вазложаных» рук, пустымі-доўгімі кручкаватымі пальцамі згроб ён з галавы хворай палатно і перадаў кульгаваму дзяку Алтароўскаму. Той згарнуў палатно і сунуў сабе пад паху. Працэсія рушыла далей.

Па дарозе бацюшка, пры дапамозе Мацвея з Панцялеем, вылечыў мімаходам яшчэ некалькі баб ад галавы цераз «вазлажэнне» рук на нядужных і «нізлажэнне» іх назад з палатном.

Увайшоўшы ў вёску бацюшка крапіў вадою кожную

хату і гаспадара з сям'ёю, а гаспадыня валакла на плячах у мяшку жыта бацюшку. Жыта для бацюшкі збіраў стары Яначка — памоцнік царкоўнага старасты. Ён меў большы чын за Мацвея, простага «царкоўнага папячыцеля», і рызыкоўна з свайго воза паглядаў на яго, як той пацеў, цягаючы з Панцялеем цяжкі абраз. Кульгавы ж дзяк Алтароўскі, спяваючы, пільна наглядаў за Яначкам, каб той часамі не пхнуў як-небудзь сабе за пазуху кілбасу, якую падносіла часта гаспадыня к возу.

Каля кожнае хаты бацюшка соўваў гаспадару ў губы крыжам, а гаспадар падпіхаў пад крыж дзяцей, каравымі пальцамі абціраючы ім губы ад смаркачоў. Дзеці палохаліся бліщчастае папоўскае рызы.

— Дурное, гэта ж бацюшка,— угаварваў дзіця бацька.

— Не хацу-у,— чуўся дзіцячы крык.

Яначка з генеральскім выглядам азіраўся па баках на сваім возе, моцна цмокаў на каня і важна пад'язджаў далей.

Некалі людзі пацелі, жнучы збожжа. Цяпер аднаму чалавеку ўраджай прыйшоўся гатовым — «жалася» чыстае зярнё, без саломы, малаціць не трэба было. І жалася так багата, што скора аж конь не мог ужо цягнуць поўнага воза, і Яначку прыйшлося злазіць, каб хоць трохі было лягчэй каню.

«Жніво» ішло далей.

А радам з гэтым падыходзілі і дажынкі. І ўжо гатаваліся, каб добра правесці іх.

Гэта было ў Мацвеевай хаце. Арудаваў там Тодар — блізкі прыяцель бацюшкі. Ён быў назначан «старшым маханікам» па ўтварэнню гэтых «дажынак». Падрыхтоўка да гэтага была для яго чыстая любота. Тупаючы каля стала, ён раз-поразу перакідаў у рот сабе чаркі і камандаваў Мацвеевай жонцы — Тэклі.

— А парасят насмажылі?

— Не было,— адказвала Тэкля, носячы на стол кілбасы і пірагі.

Тодар прымаў выгляд начальніка і крычаў:

— Як гэта не было?! Як жа мы цяпер бацюшку стрэнем без парасяці? Парася і бацюшка заўсёды павінны быць разам.

Язык яго пачынаў заплятацца, думкі блыталіся, а ён усё яшчэ не пакідаў смакаваць з бутэлькі. І ўжо зусім п'яны стрэў ён бацюшку.

Разам з бацюшкам увайшлі ў хату сам гаспадар хаты — Мацвей, утомлены ад працы з образам на вуліцы, чалавек пяць розных царкоўных прычэтнікаў, дзяк Алтароўскі і, нарэшце, Яначка.

Пачалі памінаць «ураджай». Не ўспеў яшчэ бацюшка як следуе ўмасціцца за сталом, як к яму ўжо лез Тодар, дзержачы дзве чаркі ў руцэ.

— Я хачу з бацюшкам першы выпіць,— роў ён хрыплым, п'яным басам.

Бацюшка чокнуўся з ім і выпіў.

— Я з бацюшкам, можна сказаць, адным словам, гэтая, і больш нічога,— крычаў Тодар і лез з бацюшкам цалавацца.

Поп, як мог, бараніўся.

Дзяк Алтароўскі, адставіўшы на палавіну хаты сваю крывую нагу, накінуўся на кілбасы. Яму зазіраў у вочы Яначка, салодзенька смеючыся і гаворачы яму ў руку (з бацюшкам Яначка пакуль што не смеў яшчэ быць так проста).

Пасля трэцяе чаркі Яначка пасмялеў і падсеў бліжэй да бацюшкі.

— Дзякуй богу, сабралі сягоння здорава,— загаварыў ён да бацюшкі, нагнуўшыся ў яго пад локцем,— гэта ж так напакавалі воз, што аж конь не ўзяў.

— Не лішне сабраў бы, каб я образа не насіў,— пакрыўджаным, злосна-п'яным голасам абазваўся Мацвей.

— Не так яшчэ будзем збіраць,— зароў Тодар, грукнуўшы кулаком аб стол і адапхнуўшы ад бацюшкі Яначку,— вось я адно стану царкоўным старастам, не так тады дзела пойдзе.

— Верна,— абазваўся падвыпіўшы бацюшка,— не так яшчэ збіраць будзем, наша яшчэ наперадзе...

— Н-наша на-пер-радзе, г-гуляй, р-р-раб'ят-та! — закрычаў Тодар, зноў грукнуўшы кулаком па стале.— Хто сказаў так, як бацюшка думаў, як не я?! Верна?!

— Тхор ты свінячы,— вылепеталі разам Яначка з Мацвеем,— што ты сказаць можаш добрае?!

Тодар рынуўся з-за стала і схваціў Яначку за нос.

— Гвалт, браткі, ратуйце, нос адкруціць,— заенчыў Яначка,— бацюшка, пагібаю!..

Бацюшка хваціў Тодара за рукі, стараючыся адарваць іх ад Яначкавага носа. Тодар павалок за сабою на сярэдзіну хаты Яначку разам з бацюшкам.

— Браток Тодар, апомніся,— галасіў бацюшка.

— Мацвей, братка, заступіся,— енчыў Янaчка,— прападаю за грош.

— Я пакаж-жу, хто я такі ёсць,— роў Тодар,— я царкоўны стараста... Так ці не?!

— Так, так; пусці адно,— галасіў бацюшка.

— А што, чыё бярэ?! — не пакідаў раўці Тодар, валочачы па хаце бацюшку і Янaчку.

Мацвей кінуўся бараніць Янaчку, які цягаўся па хаце за Тодаравымі каравымі пальцамі, сціснуўшымі яго нос.

І ўсе яны кучаю мітусіліся па хаце.

На вуліцы тады было поўна людзей, але ўсё старых. Ужо скончыўся «святочны абед», і ўсе павыходзілі «гуляць». Моладзі ж было відно мала — быў тады сход, на якім аграном рабіў даклад аб пераходзе на шматполле, і амаль не ўся моладзь была там.

На вуліцы відно было толькі некалькі хлопцаў, у тым ліку два самыя забіякі — Мікалай Вяртляк і Павал Цырбун. Яны валтузілі пасярод вуліцы гарманіста Ваньку Юстынавага.

— Ванька, грай ойру,— крычаў Мікалай Вяртляк.

— Вальца грай, сукін сын! — наскакваў на беднага Ваньку Павал Цырбун.

— Ойру, я табе кажу!..

— Я табе пакажу ойру! Грай вальца, япрук свінячы!

Перапалоханы Ванька пачынаў граць вальца.

— Стой! — хватаў яго за грудзі Мікалай Вяртляк.— Даеш ойру!

Ванька, баязліва паглядаючы на Паўла Цырбуна, нясмела пачынаў рыпаць ойру, а Павал з кулакамі кідаўся на Мікалая.

І тады хадуном захадзіў Мацвееў двор і вуліца каля яго хаты. Мітусіліся ў паветры кулакі, ухалі «раб'ята», б'ючы «непрыяцельскія» спіны— хто каго.

Тодар стаяў наводшыбе, шукаючы вачыма сабе пары для бойкі. Якраз здарылася, што яго дзядзька — стары Тарас — усунуў галаў у самы гурт забіякаў, з вялікаю цікавасцю гледзячы на бойку. Ён перажываў гэтую бойку ўсімі сваімі пачуццямі, успамінаючы пры гэтым свае маладыя годы. Тодар зразу змеціў, што дзядзька стаіць «без працы», і з дзікаю радасцю падбег да яго. Падняўшы кулак, ён з усяго размаху лупянуў дзядзьку ў нос.

— Тодарка, за што ж ты мяне,— заенчыў дзядзька Тарас.

— За што? — раўнуў Тодар.— Людзі б'юцца, а я дык што?!

Акрываўлены дзядзька драпануў скоранька дадому.

А бойка тым часам паволі заціхала.

Дзяк Алтароўскі, задумаўшы памагчы бацюшку ўстаць, пераступіў цераз яго, але зачапіўся сваёю крывою нагою за бацюшкаву простую.

І не вытрымала буйная галава моцнага хмелю. Упаў там дзяк Алтароўскі, дзе стаў, ды так і астаўся ляжаць упоперак на бацюшку, не маючы ўжо сіл падняцца.

Надышоў вечар. Узышоў месяц і асвяціў «поле брані», укрытае «паўшымі ваякамі, военачальнікамі і пастырам».

Па ўсёй вуліцы шаталіся людзі, як цені, многія сядзелі пад платамі, але большасць ляжала ўпокат. І толькі Мікалай Вяртляк і Павал Цырбун варушыліся, адбіраючы адзін у аднаго шворан.

З-за крайняй хаты вынырнула куча малых хлопцаў. Яны прыпыніліся, пазнаючы, хто і як зваліўся на зямлю.

Пазнавалі:

— Тодар.

— Поп.

— Дзяк.

— Мацвей Небарак.

— Яначка.

Тодар сярдзіта падняў галаву і тут жа зноў зваліўся, прабарматаўшы нешта баявое.

— Браткі,— закрычалі хлопцы,— Тодар варушыцца!

— Каму Тодар, а табе дзядзька, смаркач ты,— зарыпеў Тодар,— я царкоўны стар-раста-г-х!..

— Браткі, у Тодара чын пабольшаў,— закрычалі хлопцы і тут жа, як бы згаварыўшыся, гранулі:

Ехаў з ярманкі ухар купец,
Ухар купец — Тодар-маладзец.

— Стой, давайце бацюшку «трапар» заспяваем,— гукнуў голас,— слухайце.

П'яны поп ляжыць, як сноп,
П'яны дзяк ляжыць, як гляк,
А Мацвей, як парася.
Вось і песенька ўся!

Хлопцы гранулі песню спачатку.

Пачуўшы ў песні сваё імя, Мацвей неяк узвалокся на ногі. Хлопцы, абарваўшы песню, сыпанулі ўцякаць. Мацвей, не расчомаўшы, у чым дзела, падышоў, шатаючыся ў бакі, да Мікалая і Паўла, якія ўсё яшчэ адбіралі адзін у аднаго шворан.

— Ты што?! — гукнулі Мацвею Мікалай і Павал.

— Вы што, спяваць пра мяне?! — залепятаў Мацвей, растапырыўшы рукі, каб не паваліцца.— Вы...

— Н-на! — ухнуў Мікалай Вяртляк, апускаючы шворан Мацвею на галаў.

Мацвей, як сноп, рухнуў на зямлю. Згубіўшы шворан, Мікалай Вяртляк і Павал Цырбун разышліся і хутка пападалі пад плотам. На вуліцы стала ціха.

А ў Мацвеевай хаце было вось што. Мужчыны, якія асталіся там, не пакідалі баляваць. Яны папілі ўсю самагонку, запалілі агонь і пачалі шукаць больш. У клеці не найшлі. Не найшлі і ў сундуку ў сенцах і палезлі шукаць на гару. Там кінулі агонь у кастрыцу, і хутка страха Мацвеевай хаты запалала агнём.

Тады якраз у школе кончыўся мітынг. Прайшлі два даклады агранома аб шматполлі і аб палепшанні насення. Кончыўся і спектакль. Моладзь ішла дадому, гаворачы, як бы гэта падняць гаспадарку, зажыць лепш...

Падышоўшы бліжэй, пачалі пазнаваць п'яных; Мацвея, з разбітаю галавою, знайшлі пад плотам. Уняслі яго ў хату; паслалі ў мястэчка па доктара і, прамыўшы рану, прылажылі да яе халодны кампрэс.

# РАДАСЦЬ ЖАНЧЫНЫ

## I

Старыя хаты нізка прыпадалі к шэрай зямлі. Дабягалі да іх высокія межы мокрага ад асенніх дажджоў поля, у полі прападала вузкая дарога, і ўсё разам: і хаты, і поле, і дарога — чарнелі ад асенняй імглы і туману.

За многа год пагніла на стрэхах салома, асунулася ўніз, і шэрыя сцены з-пад яе панура глядзелі зеленаватымі вокнамі. А за крайняй хатай зразу пачынала чарнець падгніўшае за восень іржышча. Яно было бязмерна шырокае і пустое заўсёды, толькі рэдка дзе цягаліся па ім шурпатыя цяляты.

Яны адзічэлі за восень і далёка адыходзіліся ад хат, і кожны дзень, мокрым адвячоркам, з двара крайняй хаты выходзіла жанчына і ішла ў поле шукаць іх.

Яна была ўся атулена цяжкімі фалдамі грубай адзежы, ішла яна па полі прывычна цяжкімі крокамі, хадзіла доўга, пакуль знаходзіла; часам у цемнаце вечара яшчэ ўсё хадзіла па полі...

Твар у жанчыны быў прыгожы, ды пакрыты ён густою сеткаю тонкіх змаршчакоў, вочы ў яе глыбока-ясныя, ды сінія кругі пад імі. Толькі голас яе быў зычна-пявучы, і гулка ён плаваў часам па палях цягучаю песняю.

Заўсёды выходзіла жанчына з крайняй хаты.

І звалі яе Ганнаю.

## II

У хаце заўсёды было змрочна.

Пасля доўгай ночы дзень прабіваўся праз маленькія аконцы павалі і нясмела. І яшчэ доўга да гэтага ўставала Ганна. Яна бразгала вёдрамі, плюхала вадою, хадзі-

ла па суседзях пазычыць солі і ўсё думала. Думкі былі глыбокія і ўпарта лезлі яны ў голаў. І за сваё жыццё ніяк не магла прывыкнуць да іх Ганна.

У зусім маладыя гады пачала яна думаць. Тады цвілі ў Ганны надзеі на нешта светлае і слаўнае, што павінна было прыйсці. Тады яшчэ на Ганніным твары не было густой сеткі змаршчакоў, і часцей спявала яна гуллівыя песні...

Трыццаць пяць год пражыла Ганна, усякі дзень жыцця быў доўгі, як год, а гады прайшлі неўзаметку. І ніяк не прыходзіла тое светлае, на што было ў Ганны так многа надзей. І з цягам часу, з кожным годам усё больш і больш гінулі гэтыя надзеі. Цяпер яны з'яўляліся ўжо рэдка калі, прыносілі яны з сабой на момант радасць, а пасля так жа раптоўна гінулі і пакідалі пасля сябе надоўга тупое нездаваленне і смутак.

Ганна жыла пры брату.

Брат Аляксей быў сарваны цяжкаю працаю; часта, затаіўшы на твары пачуццё болю, ляжаў на палатках ніцма і маўчаў. А пасля, сярдзіты, упікаў Ганну дармаедствам, а Ганна яго шкадавала — ведала злосць хворага чалавека. Не магла толькі гэтага самага Ганна даравацьбратавай жонцы. І кожны дзень плакала Ганна. Кожны дзень плакала і братава жонка ад крыкаў Аляксея, кожны дзень у хаце была калатня.

Не падзеляць Аляксеевы дзеці чаго ці хто за абедам возьме большы кусок — з гэтага і пачынаецца. І столькі нагавораць, накрычаць, награзяць адзін аднаму гэтыя людзі, што думаецца, што яны вялікія ўсе злачынцы, а яны толькі ахілены нудою цёмнага жыцця.

І больш за ўсіх заўсёды плакала Ганна.

А Аляксей быў вечна надута-маўчлівы — гэта хвароба і ўбогасць жыцця палажылі на яго гэты адзнак.

Праходзілі дні. Усе яны былі вельмі падобныя адзін на адзін. І Ганна так, як і ўсе, хто жыў вакол яе, думала:

«Вось пражыву я гэты дзень, а там будзе другі, лепшы. Вось зраблю я гэтую працу, а там будзе другая, любімая. Усё тое, што сягоння,— не настаяшчае, яно часовае, і яго трэба абы-як пражыць для таго, каб спаткаць тое лепшае, настаяшчае».

Гэта ўжо не была надзея, тая маладая надзея, якая была ў даўнейшыя гады, гэта было проста роўнае, нейкае тупое пачуццё не здаволенага жыццём чалавека.

Вакол, за працаю людзі далёка былі адзін ад другога. А ў святыя дні выходзілі яны на пыльную вуліцу. Туліліся к вымашчаным кастрыцаю прызбам. У нудных, доўгіх гаворках шукалі грахоў, недастачаў адзін у аднаго. Усякі стараўся высмеяць за вочы другога. І нельга сказаць, каб гэта было са злосці,— гэта проста было ад нейкай нуды жыцця...

### III

Ездзілі людзі на блізкае поле канчаць апошнюю працу, а ў святыя дні больш яшчэ было доўгіх, калючых для другіх гаворак на гразкай вуліцы...

Ляжала ў Аляксея за хлявом куча падгніўшага картаплянiку.

— Укінь ты яго, Ганна, у свінух,— сказаў вечарам Аляксей.

— Добра,— адказала Ганна, а пасля і забыла зрабіць гэта.

І назаўтра, у нядзелю, была з-за гэтага страшная калатня ў Аляксеевай хаце. Накінуўся Аляксей з крыкам на Ганну, зноў пачаў упікаць дармаедствам.

Злосці ў Ганны не было, была толькі горкая крыўда. Сказала яна крыўднае слова Аляксею, а за Аляксея ўступілася яго жонка, і тады пайшла Ганна з плачам з хаты. На парозе яна яшчэ раз азірнулася са сваім цяжкім словам пакрыўджанай жанчыны.

— Ды і мая ж тут частка ёсць, і я ж тут таксама працую, а па-вашаму тут я як бы чужая? Я тут такая ж самая гаспадыня!..

Тады падбегла Аляксеева жонка і ўпілілася Ганне ў валасы. Ганна хацела бараніцца — з енкам падняла руку ўгору, ды падскочыў Аляксей і даў Ганне кулаком у плечы. І Ганна вырвалася і з плачам выбегла на вуліцу і пайшла па ёй, затуліўшыся вялікаю хусткаю.

Было ў яе горка на душы, слёзы здаўлівалі ёй горла. Жыццё здавалася непатрэбным, цяжкім, і не хацелася жыць. Хацелася зрабіцца нічым, не адчуваць нічога, не бачыць гэтага жыцця.

І ці магла іначай думаць Ганна, калі ўсё жыццё для яе было ў гэтай вёсцы. Калі, апрача сваёй цёмнай хаты, ніколі нічога яна не бачыла. Дзе магла дзецца яна?

На вуліцы былі людзі. Стаялі жанкі каля хат, сядзелі на прызбах.

— Ганна! — крычалі яны.

І Ганна скардзілася ім, хацела выказаць ім сваё гора. Але не магла ім Ганна выказаць усяго, бо ў кожнай з гэтых жанок было нешта сваё, што мучыла яе толькі адну. Былі свае ўласныя сямейныя сваркі і непрыемнасці. У кожнай з гэтых жанчын быў свой «гаспадар», які не ведаў, як яму і дзе паказаць сваю сілу, як бы паказацца спрытнейшым, лепшым, мацнейшым за другіх. Загэтым вось і чуліся часта па вёсцы жаночыя крыкі. І зноў жа гэта рабілася не ад злосці, а адтаго, што не ведаў чалавек, дзе і як паказаць сябе, як змяніць убогасць, гразную і нудную аднальковасць свайго жыцця.

І кожная жанчына ўваходзіла ў сябе са сваім уласным горам.

Ганна прайшла ўсю вуліцу. Асенняе поле глянула на яе сваім дзікім адзіноцтвам. І яшчэ больш нудным паказалася Ганне жыццё, такім нудным і адзінокім, як гэтае пустое, падгніўшае ржышча.

## IV

У голых і пажоўклых кустах, на нізкім беразе рэчкі села Ганна, адна са сваімі думкамі. Чуць відна была вёска на тым баку, за полем. І адтаго, што стрэхі яе былі такімі чорнымі і мізэрнымі, адтаго, што такімі адзінокімі здаваліся яны сярод поля, пачалі патроху знікаць у Ганны крыўдныя і горкія пачуцці ад свайго жыцця, а сталі наплываць думкі. Гэтыя думкі былі цяжкія і непрасветныя для яе, цёмнай вясковай жанчыны, якая нічога ніколі не бачыла, апрача вось гэтага дзікага поля ды гнілых саламяных стрэх, нічога не чула, апрача папрокаў ды мужычай лаянкі.

І думала Ганна:

«Вось тут і там, пад гэтымі стрэхамі, жывуць людзі. Жывуць яны ў цемнаце і ў гразі, і многія з іх думаюць, што толькі і свету, што тут, пад гэтымі шэрымі стрэхамі. У сваім жыцці гэтыя людзі як бы ненавідзяць адзін аднаго — у хатах вечныя сваркі і папрокі, і нават бойкі. І той, хто другога крыўдзіць, і той, каго крыўдзяць, не рады гэтаму, аднак гэта бывае. Для іх абодвух усё гэта здаецца горкім, бо ў сваёй цемры і гразі гэтыя людзі як бы ў палоне знаходзяцца свайго жыцця».

І раптам стала шкада Ганне ўсіх гэтых людзей. Пра-

пала свая ўласная крыўда, зусім прапала, без следу. І брат Аляксей, які пабіў нядаўна яе, стаў родным і блізкім. Стала невыразна шкада яго, хворага і ад гэтага сярдзітага чалавека; хворага ад вечнай цяжкай працы, хворага ад жыцця, якое ад дзядоў і прадзедаў цягнецца для чалавека, вось тут, у гэтых шэрых палях, не як радасць, а як смутак.

І далей думала Ганна:

«Што ж рабіць тут такое, каб зжыць гэта ўсё? Што мне сказаць тым людзям, каб уразумелі яны, што гэта ўсё ад цемнаты ў іх, ад беднасці, ад гразі, ад убогасці жыцця?! А нешта трэба рабіць, цягнуць некуды гэтых людзей...»

І паволі перайшла Ганна па кладцы цераз рэчку і са сваімі думкамі пайшла ціха па полі, у бок вёскі на тым баку. І ад думак нічога не прыкмячала вакол сябе.

## V

Ад вёскі гул разыходзіўся па полі — густы гул людскіх галасоў.

Ганна гэта чула, падыходзячы к вёсцы, і думала:

— Пэўна, б'юцца ці сварацца на вуліцы, а ўсе глядзяць з радасцю, што паглядзець ёсць на што.

І ўвайшла Ганна на вуліцу.

А там, на прызбе каля хаты і на зямлі, сядзяць людзі, сярод вуліцы грамадою стаяць. Многа народу — вёска ўся.

Падышла Ганна бліжэй.

І тут стала раптоўна ціха, а на прызбе стаяла ва ўвесь рост незнаёмая жанчына, адзетая ў сінім, падстрыжаная.

Усміхаліся ядавітымі ўхмылкамі бабы і мужчыны ў грамадзе, гледзячы на гэтую жанчыну. І чула Ганна ззаду галасы ціхія:

— Бач, бач, пад'язджаць строіцца...

— Ціха, пачне зараз песеньку спяваць...

— Соладка спявае, ды горка слухаць...

— Што гэта тут? — запытала Ганна.

— Ды гэта з горада, ужо другі раз прыехала, лахудра гэтая; па вёсках строіцца аб'язджаць. Падгаварвае на нешта,— адказалі Ганне.

А другі голас прыбавіў:

— Усё ўбівае ў галавы, што не гэтак, кажа, жыць трэба, як мы жывом... Тфу...

Праціснулася Ганна бліжэй к хаце, цікавасць брала,—

што скажа яна, калі гаворыць, што не так жыць трэба; чаму вучыць будзе?!.

І тая пачала гаварыць...

...Вось падышла Ганна яшчэ бліжэй, чуе добра вядомае ў словах «стрыжанай». Гаворыць яна пра цемнату жыцця, пра тую горкасць, якой поўна ў гэтым жыцці.

«І адкуль яна ўсё ведае? — мільганула думка ў Ганны.— Няўжо і там недзе, адкуль яна прыехала, таксама людзі жывуць?»

А пасля чуе Ганна, чаму вучыць «стрыжаная».

І паўтараюцца ў Ганны выказаныя «стрыжанай» думкі:

— Свету для жыцця не трэба шукаць далёка, пакінуўшы свае цёмныя хаты. Свет для жыцця тут, у гэтых хатах трэба зрабіць. Самім шукаць гэтага свету, тады згіне і цемната, і горкасць, і слёзы жыцця. Палявыя загоны павінны радаваць вока, дні павінны прыносіць светлую радасць. Зжыць беднасць, зжыць убогасць жыцця.

«А як зжываць?» — падумала Ганна і падышла бліжэй.

А тая гаварыла:

— Усюды самому трэба ісці, бо сам лепш ведаеш свае патрэбы... Вось тут кабеты гэтых глухіх вёсак многа маюць патрэб, ды ніколі яны не здавальняюцца. З пялёнак і да самай смерці заўсёды жыве тут жанчына ў горы, у гразі і ніколі не выбіраецца з гэтага, бо не ведае дарогі, па якой бы выйсці к свету. Горасць абхватвае ўсё жыццё, жыццё ўсіх, а загэтым трэба ўсім разам і выходзіць на светлую дарогу, бо адзін, сам па сабе, усё роўна нічога не зробіць. Затым вось і жыла цёмнаю жанчына ў вёсцы, ды і ўсюды, што была яна сама па сабе, адна. Трэба быць усім разам, трэба арганізавацца... Трэба цягнуць на новую светлую дарогу ўсіх, хто зразумеў ужо ўсё гэта, не павінен маўчаць, а павінен рабіць новую справу. Хто знае так глыбока вясковае гора, як не вясковая жанчына?! А затым яна павінна ўзяцца шчыра за тое, каб зжыць гэтае гора. Адзнакі новага, светлага — гэта грамата, разумнае жыццё, праца ў органах, якія цягнуць усю грамаду да лепшага жыцця. Адзнакі старога — гэта забабоны, несвядомасць, беднасць, гразь. А ад гэтага — хваробы, непатрэбная злосць, сваркі, уся горасць жыцця...

І падышла Ганна бліжэй к «стрыжанай».

«Пагавару я з ёю,— думала Ганна,— пагавару, калі кончыць, распытаю ўсё».

## VI

Адвячоркам ішла паволі Ганна вуліцаю з той, што гаварыла. Падышла к ёй Ганна як бы нясмела, ціха, калі ўсе пачалі ўжо разыходзіцца. Зразу тая зразумела Ганну, зразумела, што ляжыць нешта цяжкім каменем на Ганнінай душы. І была з Ганнай прыветліваю. Прыпомнілася Ганне, як некалі, у маладыя гады, сястра-нябожчыца была такою для яе, ды памерла ў маладосці. І сказала Ганна па дарозе аб усім, што было ў яе нявыказанае. А тая раптам, як сястра, пачала пра сябе гаварыць.

Яна рабочая, з горада. Радзілася ў вёсцы, жыла ў беднасці ды ў горы, а пасля, даўно ўжо, у горадзе ўдалося на фабрыку паступіць. А цяпер яна працуе ў жанаддзеле.

«Дык вось адкуль ведае яна наша жыццё»,— думала Ганна.

І хацелася тады ёй выказаць гэтай незнаёмай, але ўжо блізкай жанчыне ўсё, што перадумала, што перажыла. Хацелася сказаць і пра хворага і сярдзітага ад гэтага брата Аляксея, пра тое, як сёння раніцою даў ёй у плечы і як яна цяпер яго шкадуе; хацелася гаварыць пра тыя нудныя гаворкі, якія вядуцца на вуліцы жанчынамі ў святыя дні...

— Ты тутэйшая? — запыталася тая ў Ганны.

— Не, вунь з тэй вёскі, за рэчкай.

— Дык заўтра ж я ў вас буду, сход ззаву і гаварыць будзем...

І тады закалацілася ў Ганны нешта вялікае і радаснае. Нешта расчысціла Ганніны думкі, і стала фармавацца ў іх веда, што рабіць... Аж павесялела Ганна...

У той вечар з лёгкімі думкамі ішла яна дадому змрочным полем.

«Вось стрэнуць мяне дома зноў упрокамі,— думала Ганна,— а я буду гаварыць ім аб тым, што прынесла сюды гэтая жанчына, заўтра скажу я ўсім аб тым, што стала мне ясным сягоння; папярэджу я словам сваім прыезд к нам заўтра гэтай старшай нашай сястры. Няхай я першая, можа пакуль што адна, але падтрымаю гэты светлы прыход у маю вёску, бо прыход гэты — збавенне ад горычы жыцця...»

Было ўжо цёмна на полі, як Ганна падыходзіла к вёсцы. Быў цяжкі туман над старой вёскай, ды лёгкімі і новымі былі думкі ў жанчыны.

# БЯЗДОННЕ

*(Малюнак)*

## I

Як засмяецца сонца зямлі золатам раніцы — абзавецца горад кіпучаю радасцю. Упартыя гудкі заводаў праспяваюць шырокую песню, мацней крыкнуць станцыі горлам машын, весела бразне недзе жалеза. Гэта так абзавуцца на зямлі людзі, і самі агорнуцца на новы дзень сваімі жыццёвымі думкамі.

Над глухімі кварталамі — вузкімі вуліцамі і малымі дамамі — крык гарадской раніцы пракоціцца зычней; у ім тут як бы жаданне схваціцца ў жартаўлівай барацьбе з гулкасцю палявой цішы, падышоўшай да самага горада. Тут ад яго хутчэй заварушацца людзі. Спяшаючы, яны адзяюцца. Галасы іх не так тут моцна зычаць, як у гэты час у вёсках,— можа гэта густата сцен тут іх з'ядае...

Шырокі двор на вуглу пятай ад канца горада вуліцы ажывае. З правага боку двара, з адчыненых заўсёды дзвярэй каменнага жоўтага дома выходзяць яшчэ заспаныя людзі. Чалавек дваццаць з'яўляецца іх. Яны спяшаюць, бо ўжо другі раз пазвалі іх упарта гудкі.

На процілеглым баку двара, у нізкім дзеравяным доме скрыпяць шэрыя дзверы. З раскіданага ганка спускаецца адзін. Выходзіць ён за вароты і хутка ідзе па дзеравяным тратуары ў канец вузкіх вулічак, дзе чутно — спяваюць калёсы вагонаў і паравікі крычаць жалезам.

На ім стары фрэнч, патоптаныя боты. І ва ўсёй постаці яго нешта такое, што гаворыць як бы аб нейкім захапленні ўсім.

Малады дзень спелым яблыкам глянуў на зямлю, наліў вастратою паветра, абласкаў усё.

А ў яго, маладога, з'яўляецца на твары ўсмешка.

Яго завуць Алёша.

* * *

Алёша яшчэ не прывык к гэтаму новаму для яго жыццю...

Там, недзе далёка, за вялікімі абшарамі палёў, цяпер вось, светлаю раніцою, грэюцца на сонцы нізкія хаты.

Горад яшчэ не пачынаў будзіць сваіх людзей, а там ужо людзі самі абудзілі цішыню сваёй вёскі. Яны кладуць сляды на прыгрэтую зямлю босымі нагамі і лапцямі. І хоць яны вясёлыя ад пагожага дня, ды ўсё-такі, так як і ў тых, што выходзілі ў горадзе на кліч заводскіх гудкоў з стараватага дома на шырокім двары, на тварах іх прытаіўся суровы адзнак вырасшых за жыццё думак, усяго за жыццё перажытага, кожнадзённай утомленасці, быўшай з малых дзён.

Зусім нядаўна пакінуў Алёша гэтых людзей пры шурпатых хатах. Яны ўраслі ў яго і ён у іх глыбока. Ён не адарваўся ад іх, толькі засталіся яны там, а ён тут. І часам, ідучы дадому са станцыі, утаміўшыся выгрузкай дроў з вагонаў, у яго з'яўлялася жаданне: як бы гэта хутчэй зноў вярнуцца туды...

А вечарам ён адчыняе нізенькае акно сваёй кватэры і ўспамінае.

— Алёша, ды як жа гэта ты паедзеш? — гаварыў запылены, каравы, нязграбна высокі чалавек — бацька яго — і моргаў засыпанымі ў гумне пылам вачыма.

— Паеду,— упарта гаварыў Алёша,— а калі не паеду, то пайду. Іначай нельга, не магу.

— Ды як жа яно будзе? Яно, пэўна, добра б, каб ты як-небудзь гэты інварсытэт прайшоў, але як жа гэта? Дзе гэта ў нас відаць? Як жа я цябе пратрымаю, там, за светам; нічога не будзе, калі нам і тут галадна...

— Я сам пратрымаюся, няхай будзе, што будзе,— адказваў панура Алёша, і быў у яго нейкі жаль на душы.

— Прападзеш,— упэўнена сказаў бацька і змоўк з выразам глыбокіх думак у галаве.

— Не прападу,— адказаў Алёша, а ў самога думкі напоўнілі голаў.

Бацька пайшоў зноў у гумно, а Алёша сядзеў і маўчаў. А пасля, неўзабаве, бацька зноў вярнуўся ў хату, патупаў каля парога і панура сказаў:

— Дык хаця ж, калі прыпрэ бяда, дык кідай усё ды назад дадому варочайся...

І, сказаўшы, зноў пайшоў з хаты, а Алёша сядзеў і маўчаў...

І прайшло яно ўсё неяк, як у тумане. Змалацілі яны з бацькам трохі жыта, прадалі за чатыры рублі. Пасля ўвязаў Алёша хлеба ў мяшок і некалькі кніжак і пакінуў нізкія хаты з запыленымі пры малацьбе людзьмі.

Таксама, як у тумане, прайшлі тры тыдні ў незнаёмым горадзе.

Былі дні ясныя, восень звінела празрыстасцю лёгкай паветра, і горад аглушыў Алёшу шырынёю свайго шуму. І загэтым не так востраю была радасць, калі прачытаў ён, што яго залічылі студэнтам.

І тут жа пачалі ўжо агортаць яго думкі — як бы пражыць?

Ён напісаў бацьку, што нічога яму не трэба, ён сам сабе зарабляе, і ў той жа дзень не абедаў і спаць лёг галодным.

А калі далі яму на кожны дзень абед у студэнцкай сталовай, пачала ўжо з'яўляцца ў яго маладая, вясёлая бесклапотнасць:

«Калі прыйдзецца саўсім кепска — усё ж такі можна жыць, маючы абед раз у дзень».

І кожны дзень пачаў ён раніцамі хадзіць на чыгуначную станцыю выгружаць дровы з вагонаў.

## II

На чатырохкутным двары глухой вуліцы перад вечарам шырэй разгортвалася жыццё.

Прыходзілі рабочыя з працы, і жоўты дом ажываў. Адчыняліся ў ім вокны, і здавалася, што гэты дом хоча больш увабраць у сябе сонечнага свету, што як бы шкода яму, што сонца ідзе к захаду. Людскія галасы больш былі спакойнымі, чым раніцаю, чуліся песні.

Алёша прыходзіў са станцыі раней за рабочых. У яго пахлі дзеравам рукі, у хваёвай смале, у плямах ад сырой асіны быў фрэнч. Алёша адчыняў акно сваёй кватэры і пераглядаў кніжкі і запіскі — гэта рыхтаваўся ён ісці адвячоркам на лекцыі.

Была ў яго ў гэты час спакойная гуллівасць у настроях. І была яна ад нейкага парадку ва ўсім — ад таго, што вось ён, Алёша, робіць усё так, як можа, што можа і як яму трэба.

І было так, што заўсёды настрой гэты праходзіў, калі Алёша, на захадзе сонца, спяшаў на лекцыі. Можа пыльныя і грымучыя цэнтральныя вуліцы горада адганялі гэты настрой, а можа думкі, якія ўжо небясклапотнымі зноў з'яўляліся. А з'яўляліся яны ад таго, што гэтыя вуліцы білі ў вочы новым, дагэтуль для Алёшы нябачаным. У большасці людзей, якіх сустракаў Алёша на вуліцы, бачыў ён нейкі шырокі размах ва ўсім. Было нешта такое ў іх, што гаварыла, што гэты горад як бы часовы для іх прытулак. Яны тут толькі сягоння, а заўтра будуць за многа вёрст далей, і гэта будзе для іх вясёласць, бо не прыкаваны яны да аднаго месца на зямлі, а к усёй ёй; усюды на ёй на сваім месцы.

Нешта такое бачыў Алёша ў гэтых людзях.

І тады ж выплывала ў Алёшы і другое:

«Вось там, адкуль ён сюды прыехаў, дзе старыя хаты ў гэтую вось хвіліну гараць водбліскам чырвонага сонца на захадзе, людзі канчаюць сваю дзённую працу. Яна наталіла іх за дзень. У ёй многа радасці, ды толькі ўсё вакол яе складалася так, што для людзей атручвалася жыццё».

А тут нечакана ахвацяць Алёшу зыкі музыкі. Выйдзе з бакавой вуліцы на цэнтральную рота чырвонаармейцаў з блішчастаю меддзю трубаў у першых радах.

І як бы злавілі людзі трубамі вясёласць, нявыяўленую сярод людзей на зямлі, і, злавіўшы, кінулі ў прастору, паказалі яе ўсім.

І здаецца тады Алёшу, што гэта — выяўленне, адзнакі таго вялікага, к чаму ідуць людзі на зямлі.

І па дарозе ва універсітэт, пасля ўсяго перажытага, прайшоўшы праз пачуцці і думкі, робіцца ў Алёшы нейкі мяцежны настрой: ахватвае прагнае жаданне хутчэй навучыцца таму, з чым пойдзе к тым, пакінутым там недзе за палявымі прасторамі ў старых хатах; хочацца Алёшу стаць перад імі, каравымі, запыленымі, і сказаць ім аб тым, што зразумеў сам,— аб самым важным, што трэба для паўнаты жыцця на зямлі: што жыццё шырокае, яно само ў сабе — нават як факт ужо існавання — радаснае.

«Больш і глыбей уваісці ва універсітэт»,— думае Алёша і бяжыць і бяжыць па шумнай вуліцы.

І тая ж самая радасць ужо калоціцца ў ім самім. Яна вялікая, як імкненне маладосці.

І так кожны вечар па дарозе ва універсітэт.

III

Проці кватэры Алёшы, побач з домам, дзе жывуць рабочыя, на тым самым двары, у чысценькім зялёным доміку, у асобным пакоі жыў студэнт трэцяга курса Андрэй Стронін.

У бліжэйшым павятовым горадзе жылі яго бацькі — бы́ўшыя багатыя мяшчане, брат жа яго, уласнік вялікага мануфактурнага магазіна ў адным з паўднёвых гарадоў, прысылаў яму многа грошай; затым Андрэй Стронін не хадзіў на станцыю, як Алёша, нагружаць і разгружаць вагоны, а ў чысценькім новым фрэнчы па цэлых днях сядзеў у сябе дома.

Як Алёша выходзіў раніцаю на станцыю, Андрэй Стронін яшчэ спаў, заўсёды тады Алёша бачыў шчыльна завешанымі вокны яго пакоя.

Уставаў Андрэй Стронін а гадзіне адзінаццатай і хадзіў па пакоі з кутка ў куток.

У яго былі свае думкі: яны не былі настойнымі і ўпартымі, яны былі нейкімі вялікімі. І можа гэта затым, што не прывык ён з маленства сур'ёзна думаць, што не бачыў ён у жыцці ніякіх пакутных здарэнняў, над якімі трэба было б доўга думаць, наогул не прыходзілася яму нічым глыбока, густа канцэнтраваць вакол чаго-небудзь думкі свае.

Дзяцінства яго і першая маладосць прайшлі бесклапотна ў багатых бацькоў. І цяпер, ва універсітэце, ён акуратна атрымліваў ад брата кожны месяц пэўную суму грошай і мог увесь час аддаць навуцы. Ды толькі не было гэтага ў яго.

Замест гэтага было ў яго часта ў пачуццях і думках, хоць і там і тут неглыбока, нешта такое, што прымушала яго перажываць вялікую разачараванасць ва ўсім. У такія, частыя, хвіліны ён лажыўся, накрываў галаў падушкаю і стараўся заснуць. Пасля ж гэты настрой рабіўся менш вострым і цягнуўся раўней. Ён адчыняў акно і глядзеў на двор.

І здавалася яму тады, што людскія галасы, якія ён чуе на двары і па-за сценамі сваёй кватэры, шчырая вясёласць рабочых, радасны твар Алёшы, нават крык вераб'ёў каля пыльнага зелля пры сценах на двары — усё гэта ад яго далёка. Яно не праходзіць скрозь яго істоту, не знаходзіць

там нічога сабе падобнага. Яно з'яўляецца як бы другім светам.

Ён і сам не мог сказаць — добра гэта для яго ці кепска, патрэбна яму ці непатрэбна. Больш усяго было да гэтага ў яго абыякасці.

А калі ўжо абыякасць для чалавека ўжо ва ўсім тым, што на кожным кроку ў жыцці, калі не чапае яно істоты, калі не здавальняе чалавека хоць бы тымі думкамі, калі не пачуццямі, у якіх прыходзіцца над ім біцца,— то няма таму чалавеку радасці непасрэдна ад жыцця, а загэтым і жыццё не ёсць жыццё.

Вось што было ў Андрэя Строніна.

Падазваў ён раз да сябе к акну Алёшу, як той ішоў са станцыі. Глядзеў Стронін на Алёшу звысоку, як стары студэнт, і зразу запытаў, сур'ёзна і панура:

— Чаго вы так рады заўсёды?

— А чаго я рад? — таксама запытаў у непаразуменні Алёша.

— А мне здаецца, што вы заўсёды як бы ў нейкай вясёласці.

— Здаецца, не. Я заўсёды так, як звычайна для мяне.

— Не... Вы ніколі не думалі аб гэтым... Што вы бачыце перад сабою светлае?.. Што вы будзеце рабіць, скончыўшы універсітэт?

— Як што? Жыць, працаваць.

— А ў чым жа, па-вашаму, жыццё?

Алёша маўчаў.

І тады абодвум стала нялоўка. Алёша пастаяў і моўчкі пайшоў у сваю кватэру. І было ў яго пачуццё таго, што ўсё ў жыцці добра: вось скончыць некалі ён універсітэт, тады, як асабліва ясна за апошнія дні зразумеў ён, пашлюць яго з запасам ведаў на працу, і ён будзе рабіць вялікую справу, патрэбную для ўсіх.

І тут жа набеглі думкі аб тым, што дома, там, дзе бацька быў заплакаў, калі ён ад'язджаў у гэты горад,— там людзі як бы не прабавалі той радасці, якая вакол іх захавана, ды не ўзнята яшчэ для жыцця ўся; што не бачылі там людзі яшчэ той шырыні, якая ў жыцці і якую ўжо адчуў ён, Алёша, на студэнцкіх сходах і лекцыях...

«Вось там я прылажу сваю працу»,— радасна падумаў Алёша і, вясёлы, скрыпнуў дзвярыма.

А Андрэй Стронін думаў:

«Што ў жыцці радаснага? Вось скончу я універсітэт;

буду служыць. Але што з гэтага? Буду днём займацца справамі, ноччу спаць, але што з гэтага? Яно ўсё будзе ісці, заплятаючыся за службу, за нейкія абавязкі перад гэтым самым жыццём, але ў чым яго радасць? Што мне з таго, што я вось цяпер стаю тут пры акне? Дзе тая глыбіня, якая напоўніла б мяне сабою, страсянула б усю маю істоту нечым тым настаяшчым, штоб я ўрос для хваляваняў жыцця?»

І тады прыпомнілася Андрэю Строніну, як адзін раз, у перарыў між лекцыямі, адзін яго блізкі сябар запытаў:

— Ці бачыш ты перад сабою калі што-небудзь для сябе светлае ў жыцці?

У Строніна была ў руках тоўстая кніга. Ён прыставіў яе к вачам і сказаў:

— Вось як бачу свет скрозь гэтую кнігу.

* * *

Радасць у Алёшы была шырокаю, яна была як бы адчуванне самога факта існавання. Тут як бы выяўляліся ў Алёшы нейкія пласты вялікай жыццяздольнасці, няжжытыя, нячэпаныя. Яны парадзілі ў ім крыніцу сілы.

Яно, усё гэта, ахваціла ўсю істоту яго маладою лёгкасцю, выявілася, як захапленне жыццём, самымі яго звычайнымі, дробнымі, кожнадзённымі здарэннямі.

І вельмі часта, у часы студэнцкіх сходаў, было ў Алёшы прагнае жаданне крыкнуць на ўсю залу, мора маладых студэнцкіх галоў аб тым, што так захапіла яго. А на лекцыях адчуваў ён сябе проста шчаслівым тым, што кожны новы дзень прыносіць яму новую шырыню ў светапоглядзе.

Было ў яго непаразуменне, калі часта бачыў ён на гэтых самых сходах і лекцыях Андрэя Строніна з сумным бляскам вачэй, панурым. Здавалася, што Андрэй Стронін сярод мора молада радасных людзей адзін, як сярод страшнай пустыні.

Тады ўжо сам, некалькі разоў, хацеў Алёша пайсці к Строніну і распытаць яго аб усім, даведацца, аб чым думае гэты чалавек.

І не ведаў яшчэ Алёша, што ніколі не зразумее ён гэтага чалавека,— Стронін жыў адзін, Алёша жыў з людзьмі...

## IV

Прывезлі раз ва універсітэцкі анатамічны тэатр мерцвяка для практыкі студэнтаў. Ішлі тады з працы рабочыя, суседзі Алёшы і Строніна, міма універсітэта і зайшлі на двор глянуць...

Мярцвяк быў страшна худы, высахшы за нейкую доўгую хваробу. На мяккіх месцах цела абвісла скура на ім фалдамі і змаршчакамі; яны, жоўта-гразныя, выяўлялі сабою вялікую агіднасць чалавека пасля яго смерці, у працэсе распаду матэрыі. Вострыя рэбры тырчалі пад скурай, а твар ужо мала што выяўляў — мусіць, доўга і паволі ўміраў гэты чалавек. Калі што было на твары гэтага быўшага чалавека, дык гэта слабы адбітак нейкага як бы непаразумення перад тым, што з ім рабілася. Але відаць — гэта ўнутранае, несвядомае, бяспамятнае.

Як знімалі яго з воза, галава яго абвісла ўніз, і толькі ў тую хвіліну з'явілася ў мерцвяку нешта такое ў яго земляной постаці, што, перавёўшы на жывога чалавека, сказала б:

— Вось надышло нешта надзвычайнае, вялікае, як увесь свет, як усё разам, што існуе. Яно здарылася са мною адным, прымусіла людзей нешта рабіць са мною, а я павінен маўчаць...

І тады сярод жывых было тут вось што.

Рабочыя затаілі на тварах выраз дзелавых людзей, перамешаны з пачуццём як бы нейкай ненармальнасці вакол іх.

«Вось тут трэба нешта рабіць»,— гаварылі іх твары.

— Вось, брат, высушыла яна яго,— сказаў адзін.

— Тут пазнаюць, колькі і як яна яго сушыла.

— Эх ты, ліха на яго!

— Ліха. Тут возьмуцца за гэтае ліха.

Алёша паглядзеў на мерцвяка і закалаціўся ў нечым знаёмым ужо, але большым па сваёй сіле.

«Хоць бы не стаяць тут мне на адным месцы, а рабіць што тут»,— гаварылі ўсе яго пачуцці.

І больш:

«Цераз гэтага мерцвяка, цераз многіх іх, навукаю, да процілеглага таму, што ў гэтым мерцвяку. Вось што тут ёсць, дзе я стаю цяпер і што бачу».

Жалезнае, нястрыманае жаданне дзейнасці сціснула ў

адзін жмут пачуцці. Хацелася Алёшу разам з усімі студэнтамі напружыць свае сілы для карыснай працы.

І тады Алёша глянуў на Андрэя Строніна.

Той стаяў паводдаль, сагнуты, мізэрны. Быў роспач у яго вачах. Здавалася — гіне гэты чалавек.

І раптам Стронін сустрэўся вачыма з Алёшай, глянуў на рабочых. І пайшоў ад іх, паволі павярнуўшыся.

І тады адчуў Алёша, што між ім і Строніным — бяздонне. Што ён, Алёша, будзе жыць, Стронін жа адыходзіць у нябыт. І чым хутчэй Стронін і яму падобныя адыдуць у нябыт, тым хутчэй размахнецца шырыня жыццёвай радасці.

# ЮЗІК І ЯГОРКА

За горадам на ўзгорку, абведзеная старымі платамі агародаў, стаіць вёска Агароднікі. Каля яе, пад горкаю, жаўцеюць ямы глінішча, дзе людзі бяруць гліну. У глінішчах многа і жоўтага пяску, у якім кожны дзень перасыпаюцца і купаюцца вясковыя дзеці.

А то ў іх яшчэ ёсць і другая забава. За платамі расце многа лопуху і чартапалоху, а на гэтым зеллі вельмі многа, як кажуць, ваўчкоў, якія вельмі добра чапляюцца за ўсё і за кожнага.

Вось тут і капошацца дзеці, рвуць ваўчкі ды кідаюць адзін на аднаго ці на якога-небудзь дзядзьку, які часам пройдзе каля платоў за гумнамі.

А то часам яшчэ пазавуць дзеці якога-небудзь спакойнага касматага сабаку з вуліцы, ды ўвапхнуць яго ў лопух. Дык той небарак, як выскачыць адтуль, дык хоць ты яго тапіць вядзі — сам да сябе непадобен: увесь, як чорт, аблеплены ваўчкамі, уся шэрсць, як у гузах — і ў галаве, і на спіне, і ў хвасце. Кінецца ён, перапалоханы, з усіх чатырох уцякаць, хвост падтуліўшы, а дзецям радасць. Рагочуць яны — аж агароды за гумнамі звіняць.

* * *

Разам з усімі дзецьмі заўсёды гуляе і Юзік з Аленкаю — брат і сястра. Юзік трохі большы за Аленку — яму ўжо восьмы год, а Аленцы ўсяго пяць. Часам, перасыпаючыся ў пяску, Аленка пакоціцца ды, спалохаўшыся таго, што ўпала, пачне плакаць, а Юзік тады яе паднімае ды ўгаварвае, каб не плакала. Іншыя хлапчукі памагаюць Юзіку, а іншыя смяюцца з яго. Усяк бывае.

Жывуць Юзік з Аленкаю зусім у старой хаце. А тут жа радам, у другой хаце, жыве Юзікаў таварыш па гульні

і сусед — Ягорка. Ягорка старэйшы за Юзіка на два гады — яму ўжо дзесяты год.

Ягорка яшчэ таксама разам з Юзікам купаецца ў пяску ды ўцягае сабаку ў лопух, але ўсё ж Ягорка ўжо часам уздумае паказаць, што ён ужо сталы чалавек.

Каля Ягоркавае хаты ляжыць куча дзерава, дык вось Ягорка часам раніцаю, важна ўзяўшыся ў бокі, выйдзе з хаты, сядзе на дзерава ды, як стары ўсё роўна, плюне праз зубы на зямлю і заспявае важна тую песню, якую часта спяваюць старыя.

Ягорка яшчэ не можа выгаварыць акуратна гуку «ч», і ў яго песня выходзіць так:

Ой, у полі-полі
Карцомка стая-а-а-ла.
Трай-рай, ра-та-тай,
Карцомка стаяла!..

А Юзік стаіць збоку ды ад зайздрасці падражніваецца:

— Думаеш, вельмі ўжо на старога падобен. Яй-права, не. Смаркач малы!..

— Маўчы, Юзік-гузік,— адказвае Ягорка і заварочваецца ў другі бок. Бо хіба ж патрэбна сталаму чалавеку гаварыць з блазнотаю?!

* * *

Пасля зімы ішла вясна. На вуліцы падсыхала гразь, па гразі спацыравалі свінні ды куры, а пеўні гарланілі на ўсю вуліцу, палохаючы вераб'ёў. А можа, вераб'і гэтага і не палохаліся, але так адляталі, з далікатнасці.

Старыя ўжо рыхталіся ехаць у поле — Юзікаў бацька і Ягоркаў майстравалі драбіны ў двары, аглядалі плугі ды кожны дзень давалі сваім конікам па гарцу аўса з сечкаю, каб моцныя сталі к рабоце.

Малым жа была адна любата на вуліцы — весальня-а-я-яй!..

Тут табе і лужына — можна пабоўтацца, тут табе і з гусаком падражніцца; толькі бяда, што няма яшчэ лопуху — няма куды сабаку ўвапхнуць.

Сонца свеціць — усё роўна як бы смяецца зямлі. Загэтым і весна так.

І вось у такі дзень прыехалі з горада піянеры. Вясёлыя хлапчукі з чырвонымі гальштукамі. Яны зразу напоўнілі

вуліцу песнямі, смехам. Цэлы атрад іх. А з імі павадыр, камсамолец.

Збіліся ўсе вясковыя дзеці, а Ягорка нават забыўся, што ён сталы чалавек, ды, падкасаўшыся, ва весь дух драпануў з дзерава к канцу вуліцы, дзе ўсе пачалі збірацца. Напрыходзілі і старыя.

Колькі было гаворак, колькі пытанняў! І нарэшце ў вёсцы арганізаваўся піянерскі атрад, і Ягорка стаў настаяшчым піянерам.

Ужо ён зусім важна пазірае вакол сябе і спявае іншую ўжо песню:

Стала восем мне гадоў —
Піянерам быць гатоў...

* * *

Юзік яшчэ не папаў у піяперы, бо малым яшчэ яго зусім прызналі. Але затое ён зусім блізкім таварышам стаў Ягоркавым, такім, якім ніколі не быў.

Калі Ягорка, залажыўшы рукі ў кішэні, выйдзе на сонца каля хаты пастаяць ды падумаць аб сваіх піянерскіх справах, Юзік заўсёды падыходзіць к яму, і пачынаюць яны гаварыць. Ягорка растлумачвае Юзіку, як гэта трэба маршыраваць, бо сам ён ужо маршыруе не горш чырвонаармейца.

А тым часам Юзік слухае, і яму весела.

— А калі мне ўжо можна будзе запісацца ў піянеры? — пытае ён у Ягоркі.

— А колькі табе год? — пытае Ягорка.

— Увосень скончыцца дзесяць.

— Ну дык налета ўвосень ужо ты будзеш у піянерах,— гаварыў Ягорка,— будзем тады разам у атрадзе.

І Юзік зусім рад.

— Вось толькі ці дазволіць тата,— гаворыць задумлёны Юзік.

— А-я-яй, вельмі ўжо татка гэтакі знаток,— важна, як стары чалавек, адказвае Ягорка і, пачакаўшы, дабаўляе: — Пусціць, я табе кажу.

І тады Юзік бяжыць, падскакваючы, дамоў. Дома ён, гуляючы з Аленкаю, спявае песню:

Зюра-зюра-зюравей!..

А як піянерскі атрад ідзе па вуліцы, Юзік выбягае з хаты, бяжыць услед і думае:

«Каб хаця скарэй тая восень, калі і я стану піянерам».

# ЗАБОЙСТВА

## I

Дыхнула вясна, і зямля стала вясёлая.

У прагным жаданні парыліся ўзгоркі, лагчыны купаліся ў тумане. І гулкая ні то цішыня шырокіх размахаў, ні то песня веснавой вясёлай журбы плыла над зямлёй. Зямля чакала часу ўзняць сабраныя сілы сваёй творчай здольнасці і ў лагчынах драмала пад сонцам; драмала з подыхам шырокім сіняму небу.

Ночы былі зычныя, далёка-гулкія і пахлі вадою, бо вады на зямлі было многа.

Як чакала зямля людзей у свае палявыя палосы, таксама і людзі чакалі зямлі — чакалі яе, падсохлую, новую. Бо ўжо паржавелі за зіму плугі і бароны, і грудзям надакучыла дыхаць паветрам шчыльна заткнутых хат.

І яшчэ чакалі людзі: прычакаўшы вясны адной, чакалі другой. Зямля была яшчэ чорная, лясы былі сінія: гэта пара ад зямлі агортвала іх, яны ж агортвалі сабой людзей. Ды яшчэ ці мала людзей блыталася па нізкіх кустах, па мокрых алешнікавых паплавах, у гушчарніках лазовых за рэчкамі. Гэта вясна дазволіла ім пакінуць вёскі. Прапахлі людзі гэтыя вільгаццю веснавой зямлі, вясёлымі мхамі. І начамі цягнуліся па родных мясцінах.

Сяк-так збіраліся задаволіць зямлю плугамі, але і ў гэтым збіранні была незвычайнасць, як бы было гэта ўжо няважна перад тым нечым, што недзе рабілася, што было і гаварыла пра сябе ўсюды.

З самага вечара яшчэ вёска прабавала трохі гульнуць дзявочымі песнямі, ды хутка сціхала, толькі часам груне дзе за гумнамі моцная лаянка раззлаванага на ўсё чалавека. Вечары баязліва туліліся да зямлі, а людзі начамі баяліся. А пасля ночы дзень прыносіў многа новых гаворак, дзівосных думак і чутак.

Слова мужычае — як гром. Мала што яно баязлівае часам, але затое шырыня і размах у ім — бясконцыя. І craраліся не мець лепш справы з гэтымі словамі тыя, што мелі тут сілу: прыязджалі яны ў вёску, калі ім трэба было, крычалі тут, махалі нагайкамі, вынаходзілі ўсялякія прычыны, каб перацягнуць мужыка па спіне, цешыліся бляскам сваіх гузікаў ды белага арла на шапках і, нацешыўшыся, выязджалі. І даганялі іх моцныя мужычыя словы, зычная лаянка, хрыпата крыкаў нянавісці.

— Гых вы, трасца вашай мацеры!..

А тут яшчэ хвароба нейкая на жывёлу ўкацілася. З хлява Саўкі Чужахвала пачалося: дзве каровы, як горы, за платамі на балоце ляжалі — Саўкава і суседняя. Пачало не хапаць межаў людской злосці.

## II

Стараста не выцерабіў з-за каўняра і з вусоў мякіны і сечкі, не абцёр з твара пылу, сторапу зашпіліў пад расхрыстаным кажухом камізэльку верхнім гузікам на ніжнюю дзірку і перабягаў з-пад акна да акна:

— Мацвей, вечарам на сход валі.

— Цётка Кацярына, гані там вечарам Паўла на сход, тры каровы сказана даць.

— Саўка, вечарам сход; ад дома не адлучайся, малоць заўтра паедзеш. Чорт яго бяры з млівам, тры каровы, выразна сказана.

— Няхай ім тры скулы.

— Тры мала, каб хаця тры тысячы.

— Гэй, ты там вечарам на гэтае.

— Ведаю, чорт яго пойдзе. Хто гэта дурны пацягнецца!

І ўсюды была халодная сцяна слоў:

— Няхай ідзе той, каму ўсё гэта трэба.

Аднак вечарам цёмныя сцены здавілі ў сабе густы гул галасоў. Слухала поле людзей сваіх. Шырока расплывалася мужычае слова.

— Гэта ж, каб іх перуны, сваё ўласнае давай, ды яшчэ чакай гадзіны тры кожную сволач, пакуль задумае з'явіцца.

— Пакуль, добра кажа, з'явіцца, гляне.

— Няхай яны на свет не глядзяць.

Але затарабанілі калёсы па прымёрзлай нанач зямлі.

Нізкі і тоўсты ўкаціўся ў школу. Глянуў на народ, падышоў да стала.

Важна, злосна, па-панску казаў:

— Дык вы ж ужо ведаеце, тры каровы павінны назаўтра да паўдня даць з вёскі. Каторы тут стараста?

Стараста кракtануў, коса паставіў вочы; выпхнуты з грамады пруткімі рукамі, выйшаў наперад і нехаця загаварыў:

— Ці не можна б, паночку, скідку якую зрабіць, гэта ж і так хвароба нейкая ўкацілася, хоць ты гвалт крычы. Наша справа мужычая: давай,— а дзе ўзяць?

Тоўсты нешта хацеў сказаць, але загулі галасы:

— Але ці парадзіў нам хто, як лепш прыдбаць гэтую жывёліну, га?

— Дык вы павінны, паночку, сказаць нам, каго прасіць гэта з тым, каб паменшылі.

— Мяне прасіць,— адказаў той,— я самы старшы, але нічога не будзе. Скідкі не можа быць. Тры каровы да заўтрашняга паўдня.

— Можаце, паночку, і цяпер узяць. Загадайце адно свайму фурману паехаць і забраць.

Гэта Саўка Чужахвал вылез наперад.

— Што забраць?

— Каровы. Дзве каровы, як горы, зусім яшчэ свежыя, я толькі ўчора за платы выцягнуў. Нават і прымерзлі крыху, так што мяса не трэба ні саліць, ні ў лядоўню цягнуць.

— Гы-гы,— грунулі ззаду рогатам.

— Добра кажа, за платамі мёрзлае мяса, еш — хоць распеоражыся.

— Го-го! Гы-гы!..

— Вось дык адкаціў!

— Цябе як зваць? — гукнуў тоўсты і палажыў руку на стол.

Саўка шмыгануў назад у грамаду, толькі аблезлы кажух яго матнуўся перад сталом.

— Як зваць яго?

— Саўка Чужахвал.

— Гэта што сыноў двух у лес паслаў партызаншчыну разводзіць ды мужычае права сваё паказвае? Я цябе, як міленькага, прыбяру!..

Зноў загулі, зноў прыціхлі. І заднія пачалі ўцякаць са сходу.

У вострай цішы сырой веснавой ночы ляпалі лапці па зямлі, кашаль і ахрыплыя галасы разыходзіліся па вуліцы. Чула-дрымотнае поле прымала іх і разносіла па туманных лагчынах.

Саўка Чужахвал заўсёды кашляў, а гэта і зусім закашляўся на дварэ. У злосці і крыўдзе прыйшоў ён у свой двор. А ў хаце адна дзяўчына, дачка Насця,— гаспадыня ўжо. Трывога была ўвесь вечар і ноч у Саўкі Чужахвала. Ад кашлю яшчэ горшая была напружанасць усяго. І думкі былі, як стук абухом у сырое бервяно.

Голас у Насці срэбрам разышоўся па хаце:

— Ты чаго, тата, спаў бы.

— Ведаюць, што хлопцы ў лесе. Запісаў мяне на сходзе сёння тоўсты, каб ён спух.

У плач кінулася Насця. У слёзы гаспадыні, што выведала ўжо ў маладыя гады хатнюю таўкатню. Плач яе быў ціхі, з прыслоўямі, кабечы.

— Чаго ты? Што гэта паможа. Яно, пэўна, бяда, але чорт яго бяры. Што будзе, то будзе. Не я першы, не я апошні. А што да цябе, дык табе што? Твая справа хатняя.

Не сціхла Насця, і Саўка на двор пацягнуўся. Ляпнуў дзвярыма, каб Насця бачыла, што і ён неспакойны.

Грукалі па суседніх хлявах коні. На прыгуменні, каля шэрай сцяны, бялела салома. І зноў былі думкі стопудовыя:

«Гэта ж памерла яна, жонка, без пары. Ад бядноты, ад гора захварэла і памерла. А сама што жыць яшчэ ёй было. Тут жыццё кончылася ад убогасці, ад недастач, ад галодных і халодных дзён, там ён з сытасці, тоўсты, не ведае, што рабіць. І яшчэ мае права запісваць мяне, над маім жыццём сілу ў лапах трымае. Вось гэта ж крыўда ў тым уся, што над тваім жыццём, над днямі тваімі сілу мае».

Насця сцішылася апоўначы, плюхалася ў мыцельніку, мыючы гаршкі.

— Я яго забіў бы, каб дзе сустрэў ды зручна было,— сказаў Саўка да Насці.

— А божа ж мой,— зноў заплакала Насця.

І ноч прайшла ў неспакойным сне. «Можа яно і забудзецца пасля, але вострымі бываюць першыя хвіліны»,— гэта думала Насця скрозь дрымоту, як думаюць і адчуваюць перад важным здарэннем або пры вялікай радасці.

III

У Саўкі Чужахвала конь — проста нялюдская справа: лапавухі, вастразады, худы, як дошка, пад касматай скурай рэбры тырчаць, як частакол. Дай яму сена — а ў яго і пажаваць няма чым, сцебані яго пугаю — а ён возьме ды ляжа там, дзе стаяў. За зіму надакучыла яму церціся шыяй аб цёмныя сцены ў хляве, а тут якраз праз шчыліны лінулася ў хлеў вясна: мусіць, гэта сакавік прынёс з паплавоў водар ветраных прастораў, волю рачных берагоў. Бо ўжо зеляніла з зямлі вяршкамі трава, і каляіны на дарогах абветралі. Лапавухі ў хляве натапырваў вушы ў дзікай нецярплівасці, цёрся мордай аб дзверы, глядзець не хацеў на параную сечку. А раз пад вечар, як Саўка забыўся зачыніць у хляве дзверы, драпануў лапавухі ў поле: адно бліснуў паўз вокны.

Па полі гуляў лапавухі. Трос аблезлай грывай, падкідаў вострым задам, цягаўся каля кустоў, грыз нешта на голых межах. Саўка бегаў за ім, засопшыся. Голас у Саўкі быў сярдзіты, хрыплы ад кашлю:

— Каб ты спруцянеў, каб ты, падла лапавухая!..

Не паддаваўся конь, а пасля прыпёр яго Саўка да самай рэчкі ў куток балота. Па чэрава ўехаў лапавухі нагамі ў нейкае крынічышча — там і хапіў яго Саўка. Узлез на яго худую, як ражон, спіну і сцебануў ламінаю пад чэрава.

— Но, цягніся! Няхай цябе ўпадкі, намучыў ты мяне сёння...

Конь выцягнуўся на дарогу ды стаў раптам. Натапырыў вушы, раздзьмуў ноздры. І прыйшлося Саўку ўгледзецца ў сівы змрок адвячорка. Там недзе імчаліся коні. Хутка падбеглі. Ды сытыя, вараныя. Коні, як печы. А на іх людзі, як шкло, чыстыя: адзін, як свіння, тоўсты, другі тонкі, як бізун, зусім яшчэ малады.

«Гэта ж той самы, што ўчора ў школе на сходзе быў»,— дадумаўся Саўка і, звярнуўшы, спалохаўшыся, свайго лапавухага набок з дарогі, ткнуў лапцямі ў бакі яму, каб хутчэй бег ад ненавідных людзей. Але не так жа лёгка павярнуцца лапавухаму, а тым, як Саўку плюнуць, прамчацца паўз яго. Саўка адно азірнуўся. А той, маладзейшы, у сытай вясёласці ад лёгкага жыцця, сцебануў з ласкі на пацеху лапавухага па азадку ды гукнуў кпліва на Саўку:

— Эй, гвардзеец!

Вялікая нянавісць нарадзіла ў момант ручаіну нястрыманай злосці. І голас Саўкі страсянуў хрыпам светлы змрок:

— Каб на вас агні, каб на вас!..

Не чулі, мусіць, тыя, бо імчаліся далей. Саўка ехаў адзін паволі вузкімі палявымі сцежкамі. Злосць змяшалася з крыўдаю цяжкаю, вялікаю, як каравы мазольны кулак.

І пачуцці ў Саўкі на ўвесь свет крычалі:

«Гэта ж сытыя, ды яшчэ кпіны на кожным кроку. У мяне ад галоднага жыцця мерлі ў сям'і, а там — сытасць празмерная. Ды што ж гэта такое, што насмешка такая, як бы над чарвяком якім! Ды яшчэ ж запісаны ў яго, з таго самага сходу... Ды яшчэ ж сыны мае два па лясах туляюцца. Яшчэ невядома, што з гэтага будзе... Трэба што-небудзь рабіць...»

— Тата,— сказала дома Насця, плачучы,— прыходзілі ды казалі, каб заўтра явіўся ў двор, дапытвацца пра хлапцоў будуць.

## IV

— Яўхім дома ці не? — сказаў Саўка Чужахвал, адчыняючы дзверы.

— Яўхім у гумне,— адказаў бабскі голас з цёмнай хаты.

У гумне пахла адсырэлаю аўсянаю саломаю і жытнім пылам. Яўхім шамятаў кулямі ў таку. У гумне ніхто не шкодзіў гаварыць і абдумваць вялікую справу.

— А тым часам, братка ты мой! На допыт заўтра возьмуць. Прападаць, значыцца, давядзецца. Падвёў д'ябал яшчэ мяне на сходзе тады пра мёрзлае мяса за плотам слова ўвярнуць.

Шапталіся доўга. То ў роспачы, то ў крыўднай злосці павышалі галасы. Панура перасыпалі словы моцнай лаянкай, ды як бы баязліва часам, а часам праз меру моцна і смела. Лез у душу смутак. Ішло змаганне ў чалавечых істотах. Змагаўся розум з пачуццём. То адвага вялікая, нястрыманая з'яўлялася, то пахілая слабасць. Ды толькі думкі бралі істоты пад сваю ўладу. Думкі паказвалі, што надышоў час, калі адарвуць ад родных хат, могуць пагнаць чорт ведае куды, камандаваць жыццём, як жыццём чарвяка. Ды яшчэ крыўда расла і шырылася.

І голас у Саўкі стаў раптам рашучым:

— Будуць удвух ехаць яны назад неўзабаве, заляжам у кустах ды забіць папрабуем. Усё роўна на тое пайшло. Эх ты!

— Хоць раз за ўвесь век кпін... Яно гэтак... А што думаеш...

У вільгаці старога цёмнага гумна вырашалася справа жыцця. Бяздонне сіл і жаданняў бушавала ў людзях. Прачнулася і загаварыла бязмерная нянавісць пакрыўджаных людзей. Крычала яна ў пачуццях і думках, ды толькі не магла складна выліцца ў словах. Не прывыклі людзі за жыццё гаварыць многа. Толькі песня выяўляе часам пачуццё. Больш усё кідалі няскладнымі словамі.

— Што б тут узяць, чорт яго ведае.

— Што возьмем, тое і добра будзе. Абы вагу мела.

— Ну дык што ж!

— Хадзем хіба.

Ні Саўка Чужахвал за пяцьдзесят два гады жыцця, ні Яўхім за сорак восем год жыцця жабы без патрэбы забіць шкадавалі, а гэта ўночы на чалавека ісці адважыліся.

Над зямлёю драмала вясна ў ясным змроку, ад вясны зямля дыхала свежаю параю ды піла шырыню маладой лёгкасці. Ноч маўчала, была зычная далёкай пустатой.

У хаце плакала Насця, выпраўляючы Саўку, бацьку, з хаты; галасіла блізка ў хаце другая жанчына, выпраўляючы Яўхіма,— усё роўна пабяруць ды пагоняць. Так з плачам прайшлі жанчыны з імі двума. Правялі іх далёка за гумны, цераз агароды, ды з плачам і смуткам, з жаночым горам пайшлі назад мокрымі паплавамі. Змрочна было ў паплавах, ціха ў палях, цёмна ў жаночай душы. У жанчын было няведанне, што гэта сёння ідуць забіваць чалавека. А ў тых ужо было толькі адно нястрыманае жаданне.

## V

— Як яшчэ, невядома, прыйдзецца. Можа нічога з гэтага не будзе...

— Валі на ўсё, усё роўна дадому варочацца няма як. Па лясах пажыць давядзецца.

— Знай, што адарваўся там ззаду.

— Што будзе, то будзе, харкні ды плюнь.

— Але, як табе плюнуць!

— Нямала плявалі. Годзе!

— Бярэ страх. Усё ж такі...

— Не гавары. Няхай яго агонь спаліць. Нязвыклая справа.

— А думаеш ты пра яго, на каго з доўбняю ідзеш?

— Ужо не. Але ўсё роўна. Кончана... Пачакай, думаю. Само думаецца. Гэта ж я галодны быў заўсёды ды без сну галава, як сто пудоў; а ён... Гад такі...

— Пачакай, а варочацца не думаеш зараз жа?

— Заўтра ўсё роўна забяруць... Ды што ты з мяне вымучваеш? Хочаш — свісну.

Але не свіснуў, а закашляўся Саўка Чужахвал.

Боты плюхалі па мокрых паплавах.

## VI

...Над зямлёю драмала поўнач, за куп'ямі ціха гаманіла рэчка, дарогі зусім спалі ў мокрых палях. У кустах лазіў густы змрок, аглядаўся ў поле, абзываўся птушыным смехам, пасылаў даўгія свае цені да самай дарогі. А пры дарозе дбалі двое людзей. Зусім зліліся жоўтыя кажушкі з зямлёй, зусім, з непрывычкі да вострай, ніколі небывалай хвіліны, няроўнымі былі думкі — кідаліся ў бакі, ападалі да бяздум'я, ускідаліся, ахоплівалі сабою ўсё жыццё і зямлю, як у час, што мяжуецца між жыццём і смерцю. А то хітра завівалася думка, што ўсё так сыдзе жартам, што жарт гэта, бо як гэта можа быць, каб вось нічога не было такога ў жыцці, а то раптоўна зробіцца — уласнымі рукамі заб'еш другога. А то ўскіпіць ручаінаю нянавісць, страшная злосць, зашчэміць губу між зубамі, сціснe моцна пальцы рук.

Даўбешка, што калоў Саўка Чужахвал дома дровы, была пашчапаная, пабітая, цяжкая і замашная; лапата, што ў вольны час хадзіў Яўхім па людзях капаць студні, была вострая, добра магла прыстаць да чаго хочаш. Гэта ж не было нічога іншага пад рукамі, як выбіраліся з дому.

Ад халоднай вільгаці і нервовасці зусім хрыпеў голас Саўкі:

— Гэта ж бабы нашы і не ведалі, нашто мы доўбню ды лапату валаком з сабою.

— Не канечне, каб і ведалі: от уцяклі ў лес, ды і ўсё тут.

І абодва адчувалі пад сабою зямлю вясновую, родную. Ліпне яна к людзям ды плугоў чакае, жджэ шырынёю палёў сваіх. Ужо дыхнула яна апошняю зімовою парай, гукнула заклікам сваім. Ды не хапае сіл адгукнуцца ёй, укрыць яе сілай сваёй. Бо разышліся сілы па лясах, па далёкіх абшарах. А яны, Саўка з Яўхімам, нядужыя ўжо, дый ім сваю малую сілу не даюць прылажыць у свой час да зямлі. Ды яшчэ ходзяць па ёй, па гэтай зямлі, другія людзі, гордую ўладу сваю раскінулі над ёю і людзьмі яе.

Дарога чуць-чуць бялела наперадзе шэранню яснага падсохлага ўзгорка, а можа гэта водбліск ад палявой вады падаў на яе. І на яе яснасці заварушылася чорная лапіна.

— Яўхім, назад паўзі...

— Даўбешка ёсць?

А ён ехаў адзін. Тоўсты, як хмара, шырокі ўночы. Задаволена гойдаўся на сядле, а конь вараны сыта гойдаў задам, тупаў нагамі, чмокаў падковамі па вільготнай зямлі.

— Ціха.

— Адпаўзі трохі назад.

Мусіць, прыгледзеўся ён на агні за рэчкай на гары роднага маёнтка, бо не глядзеў уніз. Толькі конь раздзьмуў ноздры ды фыркнуў. І было ў ім здавальненне нечым.

«Гэта ж адзін, якраз біць»,— мільганула ў абодвух людзей думка.

Сціснулася ўсё нутро ў адзін цвёрды жмут, як камень, цяжкі і моцны. Стукнуў ён у грудзі, дайшоў да горла і раптоўна выйшаў ужо як бы свістам бясконцага ўдалага разгулля, толькі цела трэба было мацней да зямлі прыціснуць, а то яшчэ ўгледзіць, сцебане па кані і згіне; ды лёгкае ж яно нейкае стала, не ўязджае ў зямлю, а тырчыць, здаецца, вышэй за ўсё поле.

— Гых-х!

Аж страсянулася Саўкава істота ад рашучай натугі. Доўбня — сухі дуб, вельмі ж прыстала да панскай патыліцы. Аглушыла, тупа трэснула, і ўсё на гэтым. У варанога перапалох прабег па скуры, узняў ногі над зямлёй, бо дзве цёмныя постаці матнуліся — адна ззаду, другая збоку,— драпануў вараны ў кусты направа, абадраў аб каравы пень на баку скуру і залапатаў капытамі ўніз, к рэчцы. Дыхнулі адтуль паплавы, запахлі лагчыны. Толькі цяжка было імчаць пад сабой чалавека, зачэпленага

нагой за стрэмя. Закруціў галавой, зафыркаў вараны. Два разы падкінуў задам, вышэй кустоў скочыў з усіх чатырох цераз рэчку ў ваду ды куп'ё і адарваў чалавека. Толькі тупа плюхнуў шырокімі плячыма ў ваду.

І драпануў вараны ў паплавы з пуду, аж зямля застагнала.

А хутка за ім, па яго следу, пералезлі цераз рэчку двое людзей. Азірнуліся на пакіненыя ззаду кусты ды пайшлі паволі к лясам. Усё ўжо было зроблена, наперадзе лес ды далейшае падобнае, каб цераз гэта зноў вярнуцца.

Мусіць, здорава бегаў вараны, бо здалёк дабягаў да вушэй тупат капыт ды часты брэх вясковых сабак. На палявыя дарогі, мусіць, выбіўся вараны.

## VII

Тры дні плаваў па вадзе вецер, зганяў яе да берагоў ды кудлачыў яе белаватую роўнасць. А на чацвёрты дзень паразганяў вецер хмары на небе і, як глянула сонца, спалохаўся таго, што сам нарабіў, ды ўцёк за сінія лясы. А вада асталася глядзець у неба ды смяяцца яму золатам сонечных іскраў.

Ужо зелянелі пад сонцам чароты ды плюшнікі, ды асака цягнулася вяршкамі з-пад вады. Толькі была яна пасохлая, старая. Яна тры дні спявала пад ветрам сіплую песню, цяпер маўчала над чыстатой вады. Сохла зямля, цягаліся на ёй худыя коні, адчуваючы ўжо за спіной плугі і сурамец пугі.

Коні маўчалі, вецер уцёк, і асака не спявала, але ўсё ж над вадой шумна было.

Да вадзяных берагоў падыходзілі сабакі, нюхаючы паветра, выцягнуўшы мокрыя морды, ды яшчэ ўглядаліся ў сляды, што пакінулі ўночы ваўкі. Ды яшчэ над вадою нізка кружыліся вароны, сядзелі на куп'ях пры самай вадзе.

За куп'ямі і лазовымі кустамі тырчала з вады панскае чэрава. У сытай вясёласці стаяла на ім варона. І чым мацнейшы быў сабачы брэх на беразе, тым мацней крычала яна, памінаючы пана.

# НЕ ПІ ГУСТОГА ЧАЮ

Загадчык рэгістратуры выступаючых і ўступаючых папер у нейкай установе, Барыс Іванавіч Цэнтразыхер, выпіў два куфлі піва і ўжо хацеў ісці з піўной, як раптам пачуў непадалёку недзе цікавую гаворку. І самае галоўнае, дык гэта тое, што галасы былі як бы знаёмыя.

— У нашыя часы, Ферапонт Пятровіч,— чуўся недзе блізка хрыпла-густы і нізкі голас,— асоба ў гісторыі ніякай ролі не грае, і больш нічога я вам не кажу...

— З якіх гэта часоў пачалося? — запытаў другі голас, скрыпуча-павольны і вялы, як тандэтная кілбаса.

— З якіх часоў гэта пачалося, точна вам указаць не магу, бо яшчэ пакуль што на занятках гуртка мы да гэтага не дайшлі, але даволі таго, што я канстантую факт, які дамініруе над усім, і загэтым тут ніякім сітуацыям думкі не павінна быць месца.

— Значыць, наколькі я асмелюся думаць, тут інструкцыя такая выйшла для няўхільнага правядзення ў жыццё.

— Чаго не ведаю, таго не скажу.

— А пад якім нумарам інструкцыя была ў журнал заведзена?

— Пачці што і не помню... Эй, гражданін, давайце яшчэ па куфлі.

Барыс Іванавіч Цэнтразыхер, пачуўшы гаворку, высунуўся з-за стала, каб выгледзець, хто гэта ў піўной вядзе такую сталую размову. Для гэтага яму прыйшлося агледзець некалькі бліжэйшых столікаў.

— Чорт яго ведае,— сказаў сам сабе Цэнтразыхер,— вось і пазнай тут, хто гаворыць, калі за кожным столікам усё такія, відаць, людзі, якія не могуць вырашаць такія пытанні.

Налева ад Цэнтразыхера, зусім блізка, сядзелі два рэпарцёры мясцовай газеты і трымалі ў руках нейкія запісачкі.

«Вось гэта яны, мусіць, і гавораць»,— падумаў Барыс Іванавіч і прыгнуўся ў іх бок, каб слухаць.

— А я вам, таварыш Пастрочны, магу даказаць,— гаварыў нервова і рашуча адзін рэпарцёр, махаючы рукамі перад носам другога,— што з гэтай вашай заметачкі больш не выйдзе, як дзесяць радкоў. Вы мне хоць кол на галаве чашэце, а я буду стаяць за сваё.

— Вы памыляецеся, таварыш Ганарарны,— апраўдваўся другі,— тут будзе сама менш пятнаццаць радкоў...

— А калі пусціць яе на сем квадратаў, ды зрабіць чатыры абзацы,— не ўнімаўся першы,— дык гэтая ваша заметка страціць усякую цікавасць...

«Ну, тут гавораць пра справы службовыя»,— падумаў Барыс Іванавіч і перавёў вочы на другі столік. Там цэлай кампаніяй вырашалася пытанне, дзе і як цяперашнім светам трэба шукаць жонку, каб яна была самаю настаяшчаю жонкаю, а не ліха ведае чым.

«Ну, гэта народ дробны і адсталы,— падумаў Барыс Іванавіч,— яны аб ролі асобы ў гісторыі гаварыць не будуць. Для іх гэта недаступна».

І, падумаўшы так, перавёў вочы і вушы зусім направа. Там, пры самай сцяне, было цемнавата, і загэтым чалавечыя галовы зліваліся з куфлямі піва і трудна было ўгадаць — ці то гэта там на адну голаў прыходзіцца дзесяць куфляў, ці на адзін куфель дзесяць галоў. Барыс Іванавіч прыслухаўся і, пачуўшы ўсяго некалькі галасоў, прыйшоў к пункту погляду, што там на аднаго чалавека прыходзіцца каля дзесяці куфляў.

— У нашы часы,— чуўся адтуль голас,— рыфма ў вершах ніякай ролі не грае. Я неяк раз гаварыў з старшымі механікамі па гэтай часці, дык яны мне гэтае самае сказалі. Так што ты, калі гэта сур'ёзна задумаў узяцца сцішкі сачыняць, дык звярні на гэта ўвагу. Я табе раю, як прыяцель, які хоча табе дабра.

— Я гэта, братка, бачу,— пачуўся ціхі і нервовы голас.

«Ну,— махнуў рукою і ўсміхнуўся Барыс Іванавіч,— не з маім становішчам па службе слухаць такія рэчы. Я чалавек практычны і сталы».

«Ну, значыць, так і не давядзецца, мусіць, даведацца, хто гэта пра гістарычныя тэмы гаворку разводзіў,— падумаў далей Цэнтразыхер,— а цікава было б пабачыць сталых людзей. Трэба было б пазнаёміцца з імі».

На ўсякі выпадак Барыс Іванавіч падняўся са свайго

месца і акінуў вокам столікі далей. І раптам сеў, застыўшы на адным месцы. Проста перад ім, за другім столікам, сядзелі рэгістратары папер у яго аддзеле — рэгістратар уступаючых папер Ферапонт Пятровіч Чарнілюк і рэгістратар выступаючых папер Павал Крамінадавіч Чыстапіс — абодва пажылыя і сталыя мужчыны з акуратна пастрыжанымі чыноўніцкімі бародкамі.

— От табе і раз,— сказаў сам сабе ціха Барыс Іванавіч,— вось з імі то мне якраз тут не хацелася б сустракацца. Нявыгаднае дзела, калі аба мне сярод служачых пойдзе гаворка, што і я п'ю. На маім месцы трэба лепш усяго выяўляць сябе за чалавека сучасных поглядаў — за чалавека, які не п'е, карт не ведае, у бога не верыць і не любіць мяшчанства. А тут яны мяне якраз могуць за куфлямі ўгледзець, гэта проста, значыць, папаўся я перад людзьмі, якія ніжэй мяне стаяць. У старыя часы, калі я служыў у казённай палаце, ні разу не пападаўся, а гэта якраз папаўся. І перад кім, каб хто папытаў?! А тут, ліха на яго, і выйсці няма як — якраз міма іх століка прахо-дзіць прыйдзецца. Трэба чакаць, пакуль яны першымі выйдуць.

Барыс Іванавіч адсунуў ад сябе куфлі, падпёр твар рукамі і пачаў супакойвацца.

«Добра, што хоць тут нейкі цемнаваты куток»,— з'явілася ў яго радасная думка і ўжо зусім прапала ў яго цікавасць да той асобы, якая «ў нашы часы ў гісторыі ролі не грае».

— ...Але скажэце вы мне, Павал Крамінадавіч, нашто для нашага брата гэтыя гурткі ўведзены? — гарачыўся Ферапонт Пятровіч за куфлем піва, як бы здаволены тым, што гаворка перайшла ў спрэчку.— Ну для чаго, скажам, вы на гэтым самым гуртку вывучаеце, што ў нашы часы асоба ў гісторыі ролі не грае?!. Ды я каму хочаце скажу, што для нас гэта не мае жаднае маралі... І я зараз вам цвёрдым аргумантам перагэтае думкі свае: ну, скажэце вы, Павал Крамінадавіч, на міласць — ад таго, што асоба ў гісторыі пакінула ролю граць, вы паперы запісваеце ў журнал зверху ўніз ці знізу ўверх? Парадак той самы, а загэтым для нас, скажам, рэгістратараў, гэтыя гурткі, з такімі пытаннямі, маюць такую цану, як асоба ў гісторыі ці гісторыя ў асобе... Я гавару пра сябе, скажам...

Ад піва галава ў Ферапонта Пятровіча звесілася ўніз, намокшыя вусы пераблыталіся з барадою, а вочы зрабілі-

ся як мокры попел. Павал жа Крамінадавіч яшчэ не паддаваўся — усё абціраў хустачкаю пад носам ды падпіраў леваю рукою бок.

— Што вы тут, Ферапонт Пятровіч, паніку наводзіце,— накінуўся ён на Чарнілюка,— з вас крытык усё роўна, як з нашага кур'ера марксіст. Нашто вам гаварыць аб тым, аб чым вы нічога не ведаеце. Гурток патрэбен і должан быць!

— Але нашто?

— Аб гэтым можна і не пытаць. Брыдка пытаць аб гэтым у нашы часы. Патрэбен, дый усё тут!..

— Даўней, аднак, ніякіх гурткоў гэтых не было, а паперы ў журнал яшчэ больш акуратна запісваліся, чым цяпер!..

— Што вы даўнейшае памінаеце?! Даўней гісторыя ў асобе, значыць, гэтае, а цяпер зусім іншае... Вам яшчэ, як бачу, трэба павучыцца!..

— А вы б, Ферапонт Пятровіч, чым вучыць сталых людзей, адвучылі б сваю жонку ад несучасных мяшчанскіх прывычак...

Ферапонт Пятровіч раптоўна падняўся, растапырыў рукі і, трагічна паківаўшы галавою, уставіў свае вочы ў твар Паўла Крамінадавіча.

— Калі ўжо справа дайшла да жонкі,— закрычаў Чарнілюк,— то я вам павінен сказаць, што як вы сабе ні перагэтае!..

І раптам змоўк Ферапонт Пятровіч Чарнілюк. Змоўк, а твар яго сабраўся ў зморшчакі, яшчэ больш пачырванеў, губы папрабавалі выявіць ухмылку, ды не маглі. І сеў Ферапонт Пятровіч, уткнуўшыся носам у стол.

— Што вы там такое ўгледзелі? — запытаў шэптам Павал Крамінадавіч.

Запытаў і падняўся, паглядзеў туды, куды глядзеў Ферапонт Пятровіч, і таксама сеў, прыціхшы.

Там, у цемнаватым кутку, угледзелі яны нешта такое, што пачало зварачаць ім цвярозасць.

І Ферапонт Пятровіч Чарнілюк, і Павал Крамінадавіч Чыстапіс у кутку за столікам убачылі ўскудлачаную галаву і вастраносы твар Барыса Іванавіча Цэнтразыхера. Абодва яны зараз жа селі і, забыўшы асобу ў гісторыі і мяшчанскія погляды на жыццё жонкі аднаго з іх, зрабіліся вялікімі прыяцелямі адзін аднаму.

— От, каб яго агні спяклі! — загаварыў ціхенька Фе-

рапонт Пятровіч, прыгнуўшыся да Паўла Крамінадавіча,— да таго шкода патрачанага часу і энергіі, проста крыўднае дзела... Збіраўся, збіраўся, хадзіў-хадзіў на гэтыя сходы, і раптам усе дуды аб зямлю.

— Чаму, што? — прашаптаў зусім ужо спалоханы Павал Крамінадавіч.

— Гэта ж такая справа ў мяне выходзіць. Значыць, пачаў прыглядацца да людзей, уваходзіць думкамі і смякалкай у жыццё, ды адзін раз і гавару дома вечарам жонцы: «Так і так, кажу, а ці не пачаць мне паступаць, кажу, у партыю. Дзякуй богу, пара, час спакойны, цяпер самы раз паступаць; абы толькі як бог памог убіцца туды». «А што ты думаеш,— адказвае мне жонка,— выгаднае дзела, тады зусім інакшы від будзем мець». «Вагу тады я буду ў сабе мець»,— падумаў я. А тут якраз мой добры знаёмы канторшчык на жалезнай дарозе Гіцмаржовінскі гэтае самае задумаў, мне ва ўсім прызнаўся і паехаў у Екацерынаслаў паступаць у партыю; дык мяне калі возьме яшчэ большая ахвота! «Ну, думаю, калі бог дасць здароўе — неўзабаве буду ў партыі састаяць». Зараз пачаў зарэкамендоўваць сябе — сходы там усякія, скромнасць, пашана да старшых, білеты сабе і жонцы на спектакль, калі ён ставіцца на карысць прафсаюзаў, ды ці мала чаго. «Абы, адно, бог даў здароўе»,— думаю сабе... А гэта якраз сягонняшні вечар, каб ён згарэў, каб ён, усё сапсаваў — гэта ж Барыс Іванавіч Цэнтразыхер сам таксама ў партыю хоча, і здаецца мне, што скарэй за мяне паступіць, а, паступіўшы, мне ходу не дасць, бачыўшы мяне за куфлямі...

— Смякнеце вы і радуйцеся,— перабіў ціха і ў захапленні Павал Крамінадавіч,— раскіньце розумам направа, раскіньце налева і ўразумейце, што ён будзе маўчаць, як вады ў рот набраўшы.

— Чаму?!.

— Чаму?!. Ды папытайце вы ў яго, чаго гэта ён тут сядзіць, у цёмны кут забраўшыся?!.

— Як я бачу,— загаварыў вялым голасам Ферапонт Пятровіч,— дык вы, Павал Крамінадавіч, хоць яшчэ трыццаць тры гады з палавінаю запісвайце пад нумар паперы ў журнал, усё роўна будзеце тым, кім вы ёсць. І перад тым, як пачынаць выказваць думку сваю, заўсёды падумайце. А то заўсёды ўзрадуеце гаворкаю, а пасля гэтай радасці горш яшчэ на душы робіцца, бо вашы словы — на ўзвей вецер.

— Чаму?

— А таму, што вы не падумалі аб тым, што тут не толькі піва, а чаго хочаш дастанеш. І можа ён зусім не для піва сюды прыйшоў.

— Вы думаеце? — узрадаваўся Павал Крамінадавіч.— Калі так, дык тым пачай: калі ён, скажам, настаяшчы напітак п'е, дык ручаю галавой, што слова нідзе не скажа, бо сам гэткі самы.

— Эх, Чыстапіс, Чыстапіс,— патрос галавою Чарнілюк,— служыце вы разам з ім у ваднэй установе, а не можаце дадумацца, што ён можа тут калі-небудзь чай піць. Ну хто яму можа забараніць прыйсці сюды шклянку, скажам, чаю выпіць? Пакольк я яшчэ не згубіў розум, пастолькі бачыў яго толькі голаў, ніякіх жа куфляў, ні шмуфляў каля яго не бачыў.

— Не бачылі? — устрывожыўся Павал Крамінадавіч.— Няўжо каля яго куфляў няма; значыць, гатова быць непрыемнасць па службе. От увагнаў чорт мяне сягоння сюды!

— А мяне?!

— Ну і вас!

— А ў яго такі, здаецца, відаць два куфлі,— радасна шапнуў Павал Крамінадавіч, прыгледзеўшыся.

— Ну?! — крыкнуў Ферапонт Пятровіч голасам, у якім было надзвычайна многа і радасці і надзеі.

— Верна. Вунь нешта блішчыць, здаецца, вуха ад куфля.

І яны ўдвух трохі прыпадняліся і пачалі прыглядацца на столік Цэнтразыхера.

«Прыглядаюцца, каб яны папруцянелі,— падумаў Барыс Іванавіч Цэнтразыхер,— от табе і прыйшоў, чорнага піва папрабаваў. Цяпер, сволачы, разнясуць языкамі па ўсім свеце, што я вечарам па піўных цягаюся. Гэта ж мяшчане чыстакроўнай крыві. Прападзе, ліха на яго, погляд на мяне як на чалавека з сучаснымі поглядамі на жыццё. Горка жыць на свеце! Папрашу я, адно, чаю,— з'явілася ў яго думка,— ды так папрашу, нібы я цяпер гэта піў не піва, а чай такі густы».

— Грамадзянін,— гукнуў Цэнтразыхер,— дайце мне яшчэ чаю, ды не такога густога і ў шклянцы!

Грамадзянін абцёр рукі аб свой белы фартух і прынёс чай.

— Чуеце вы,— загаварыў Ферапонт Пятровіч,— гэта ж ён чай з куфля, мусіць, піў; і чаму гэта з куфля, чорт яго ведае. Няўжо гэта шклянак не хваціла? Давайце і мы сабе закажам чаю ў шклянках і закруцім яму галаву за мілую душу.

— Давайце!

— Эй, гражданін, нам таксама чаю ў шклянках, але густога.

Гражданін прынёс чай, і трое людзей за двума столікамі пілі яго, радасна паглядаючы адзін на аднаго і адсунуўшы ад сябе куфлі з астаткамі чорнага піва.

Праз паўгадзіны яны ўсе ўтрох па-прыяцельску выходзілі з піўной.

— А я, ведаеце, чаго трохі сягоння тут сцебануў,— гаварыў, выходзячы, Барыс Іванавіч,— маю прывычку хадзіць у піўную вечарамі чай піць.

— Гэтаксама і мы,— адказаў Ферапонт Пятровіч,— ішлі гэта мы з Паўлам Крамінадавічам міма дый рашылі зайсці ў піўную чаю выпіць... Ну, выпілі гэта мы па куфлі чаю, а пасля задумалі яшчэ па шклянцы выпіць... Ну, выпілі яшчэ па шклянцы, дый гэтае...

— Я таксама,— падаў голас Цэнтразыхер,— выпіў два куфлі чаю, а пасля яшчэ шклянку... Але вельмі нейкі чай тут густы падаюць, проста чорны, як дзёгаць. Ці то гэта можа ён ад таго такім здаецца, што ў куфлях?!.

— А мне, каб вы ведалі,— сказаў Ферапонт Пятровіч,— прафесар забараніў густы чай піць, паколькі ў мяне, значыць, біццё сэрца і плеўрыт мазгоў. Так мне выразна і сказаў: не пі ты, кажа, браце, густога чаю (мы з ім на ты). Але потым п'ю — не магу ўстрымацца, нутро прымае. Ну, бывайце здаровы, Барыс Іванавіч, і вы, Павал Крамінадавіч. Сягоння яшчэ не позна — пайду пачытаю трохі. Я, ведаеце, Барыс Іванавіч, цяпер палітычныя кнігі чытаю вечарамі — светагляд пашырыць трэба... Паколькі цяпер асоба ў гісторыі ролі не грае, пастолькі, значыць, адным словам, і гэтае... Бывайце здаровы.

# ПА ДАРОЗЕ

## I

Зямля — як размах чалавечай радасці — шырокая, бяскрайняя, здольная будзіць вялікія імкненні пачуццяў і думак. Адчуваецца яна цвёрдасцю пад нагамі і вострым пахам сваім ад вільгаці летняй ночы.

Цяжкія хмары нізка валакуцца над ёю і прабуюць сеяць на яе цёплую імглу, а пасля адпоўзваюць на далёкую мяжу неба і поля і варушацца там дзівоснымі абрысамі ў густой сваёй чарнаце.

Канца-краю зямлі не відаць, таксама, як і неба над ёю. Зямля — як чорная прастора, прыціснутая хмарамі і маўклівая ад іх. У цемені палёў прытаіліся ціхія вёскі і слухаюць: з самага вечара дзьмуў вецер, і над полем плылі ціхія песні травы, а пасля, як нагнаў вецер хмар, адышоў, і адно слухаць засталося вёскам — шырокую маўклівасць глыбокай ночы.

На зямлі дарога, як само жыццё: відна толькі каля ног, але ж і заве-зазывае яна ўдаль. Усё едзеш і едзеш па ёй, і з кожным крокам яна ўсё новая праходзіць пад нагамі, і здаецца, што наперадзе там, за нечым няясным, дзівосным і далёкім, будзе нешта надзвычайнае, а тым часам — там кусты ды поле.

І ўяўляецца, што гэта хмары ўсё больш пачынаюць збірацца там, куды ідзе дарога, што іх ужо там многа, усё там чарней, як усюды, і няма туды ходу. А як дабярэшся туды — зямля там родная, шырока-вольная, хмары адпаўзлі наперад, і зноў можна ісці з радасцю ў бяскрайніх прасторах.

Вільготная зямля глуха аддае стукам пад калёсамі і капытамі коней, са стукам мяшаюцца дробныя званы жалеза ці бляхі вазоў, і яшчэ галасы людской гаворкі ды крыкі на коней, як зыкі кропель вады з дзіравага вядра ў ціхую ноч пры студні.

Едуць фурманкі па цёмнай дарозе; ззаду следам навісае вялікая ноч, наперадзе паўзе яна, як бы хітра паманьваецца.

Ні зямлі, ні неба не відаць.

На пярэднім возе ехаў Алесь Мяльгун — шырокі ў плячах і высокі хлопец. Гэта яго голас мацней за ўсё чуўся, калі ён падганяў свайго каня. З задніх фурманак яго постаць вырысоўвалася шырокаю цёмнаю лапінаю, і голас выяўляў многа гордасці сабой, усім тым, што і як ён робіць.

І яшчэ дзяўчына сядзела з ім.

На другой фурманцы ехаў Павал Грыбок — хлапец з танклявым хрыплым голасам. Ён часцей за Алеся Мельгуна гукаў на свайго худога коніка, каб той не адставаўся ад сытага пярэдняга каня. У голасе яго адчувалася наіўна-сталая ўпэўненасць, што, вось, раблю я так, як і ўсе, разам з усімі я еду, хоць зусім яшчэ малады, яшчэ нават з падлеткаў не выйшаў; а так, як і іншыя,— сталы гаспадар.

З свайго воза Павал Грыбок добра бачыў, як Алесь Мяльгун часта прытульваў да сябе дзяўчыну і чуў, як яны паціху гаварылі.

З задняй фурманкі насмешна далятаў да Паўла грубы і зычны, як брэх здаровага сабакі, голас Сёмкі Цераховіча:

— Павал, паглядзі, як галубкі буркуюць.

Павал нічога не адказаў, бо было яму неяк нялоўка перад Сёмкам,— ці то неглыбокая злосць, што ён варушыць у ім мінулае. З'яўляліся ў яго толькі чыстыя, як вада, і павольныя думкі аб гэтым.

Тады былі нудныя зімовыя дні і ночы. Хаты, як трухлявыя грыбы, хаваліся ў сыпучым мёрзлым снягу, дымілі ўгору дымам з каміноў і баязліва блішчалі на халодным сонцы маленькімі акенцамі.

Людзі хадзілі ўшушканымі ў лахманы — абы трохі больш чаго ўздзець на сябе ды ўгрэцца.

Вечарамі хаты прабавалі гульнуць ціха просценькімі дзявочымі песнямі за пражай, хлопцы жартаўліва не давалі ні спяваць, ні прасці.

Насця, як вугаль, чорная, маленькая нейкая, і гэтакая любая, і, разам з тым, можа ад гэтага такая далёкая, што яму, Паўлу Грыбку, худому, вастраносаму, з барадаўкамі на непрыгожым твары, не было смеласці падысці да яе

і гаварыць з ёю так, як гаварылі ўсе іншыя. Толькі раз, у цёмных сенях, як ішлі дадому, схваціў ён яе раптам за руку, ды так і дайшлі да яе хаты цераз усю вуліцу.

«Можа гэта яна тады — от, абы пацвяліцца»,— думае цяпер Павал. А тады былі спатканні на цёмнай ад зімовай ночы вуліцы, заваленай снегам. Была яшчэ тады вельмі ж вялікая нуда, што з гэтага не можа нічога выйсці, бо гэта ж у яго нічога няма, зусім голы двор ды пустая хата, дый сам ён, як гнілы грыб, часта хварэе. Але былі спатканні вельмі доўга, і Насця была такая ж блізкая, як і далёкая.

Вясною дык пачалі ўсе гаварыць пра гэта, і тады ж Насця пачала хадзіць з Алесем Мельгуном. Паўлу не хацелася тады жыць, а пасля пачало праходзіць гэта ў яго, і ўжо цяпер толькі злосць на шчаслівага Алеся Мельгуна, крыўда на тое, што сам ён ва ўсім мізэрны такі, што нават, калі што і было, як у добрых людзей, дык і то цяпер тыя ж самыя людзі праходу не даюць.

— Но! — гукае Павал на каня ў адказ на насмешныя словы Сёмкі Цераховіча з задняга воза; і гэта ў яго выходзіць па-балагольску:

— Ё, ё...

Ззаду з Сёмкам Цераховічам едзе стары Тодар Дрозд — хітры і самаўпэўнены. І яны пачынаюць удвух гаварыць між сабою.

«Мусіць, нарочна гэта яны так моцна, каб чуў я»,— думае сярдзіта Павал і слухае:

— Бач, падла, едзе сабе з Алесем, усё роўна як з гаспадаром, а гэты Грыбок трухлявы ззаду аж млее, мусіць, бачачы. Куды яму, смаркачу, яшчэ было зачэплівацца з ёю, а яна чорт яе ведае нашто яго за нос цэлую зіму вадзіла. Цяпер ён аж кашляць пачаў з нуды.

Павал пазнае голас Сёмкі, і яму ўяўляецца яго сытая гадкая постаць, шырокі твар, увесь у вуграх, і здаровыя валасатыя кулакі. Паўлу хочацца саскочыць са свайго воза, схваціць дзе-небудзь на дарозе камень ды даць ім з размаху ў голаў Сёмку, каб таму аж чэрап трэснуў. А пасля яшчэ большая нянавісць да Тодара Дразда, калі той пачынае гаварыць:

— Яго, значыць, бацька многа грашыў на сваім жыцці, вельмі ж баб многа мяняў, як у смалакурні служыў, ды яшчэ хварэў чорт ведае чым, дык ад гэтага і Павал вый-

шаў гэтакі нядошлы, як гнілы. А яшчэ рызыкуе, будучы гэтакім смаркачом.

— Бач, бач,— радасна раптам перабівае сам сябе Тодар,— дальбог жа вунь, ліха яму, прыціснуў, здаецца, да сябе, ды як галубіць... Эй, ты там, Алесь, асцярожна, а ты, Павал, чаму не глядзіш?!

Павал углядаецца наперад і бачыць, як чорная постаць Насці, няясная ўночы, як голас хворага дзіцяці, злілася з постаццю Алеся, а пасля, як закрычалі ззаду, яна адсоўваецца ад яго — усё такая ж далёкая і зноў усё любая.

І такая глыбіня крыўды, злосці і жадання паскардзіцца некаму з'яўляецца ў Паўла, што хочацца пакінуць гэтыя цёмныя вазы, гэтых людзей, з якімі давялося ж то неяк разам з'ехацца, калі выязджалі з вёскі ў горад. Хочацца Паўлу пайсці цёмным полем да таго месца, дзе за чорнымі дзівоснымі абрысамі нечага начнога з'яўляецца маленькая ясная лапінка,— гэта месяц, мусіць, спрабуе выбіцца з-за хмар. Робіцца там трохі святлей, вызначаюцца трохі шырокія далі, завуць яны да сябе сваім размахам і воляй, і там як бы няма нікога такога злога, гадкага.

— Павал, Павал, глядзі,— зноў дабягае да Паўла голас Тодара з задняга воза, голас нейкі цвёрды, слізкі, як мокрая гадзюка.

Павал на хаду паволі злазіць з воза; раптам чуе, як на пярэднім возе пачынаюць рагатаць. Голас у Насці бязвінна-гуллівы, без хітрасці: проста затым гэта рагоча яна, што смешна ёй; а рогат у Алеся страшны, як удар абухам па галаве,— і колькі ў ім самаздавальнення, жадання патаптаць усё сабе пад ногі, быць над усім вышэй, і ўжо ўпэўненасць, што мацнейшы за ўсіх ён тут.

Павал паволі прывязвае лейцы да аглабіны і чакае задняга воза.

— Ты што, глядзець не хочаш? — падае голас Тодар.— Прамаргаў ты, браце, дзяўчыну, яшчэ як прамаргаў!

— Нічога ты, Павал, браце, не варт,— дадае цвёрда Сёмка,— не варта было чапаць дзяўчыны, калі не чуў у сабе сілы.

— Я яе не чапаў,— сказаў Павал.

— А ты яшчэ яе чапаць думаў?! — зарагаталі ўдвух.— А-я-яй, трэба-такі было табе яе зачапіць. Няхай бы ты ёй след свой пакінуў, каб памятавала цябе навек. Не трэба

было баяцца. Ты цяпер да яе адно падкаціся ды прыстрой ёй што-небудзь,— Алесь багаты, чорт яго не возьме, яму прыплод нястрашны. А тым часам зусім цяпер гэта табе нястрашна, калі паглядзець з другога боку,— цяпер на Алесевай шыі ты лоўка можаш выехаць... Алесь, сюды ідзі!

Вырасла раптам з цемені каля воза высокая постаць Алеся Мельгуна.

«Будуць душу разварочваць»,— са смуткам думае Павал.

— Ну, я пайду на свой воз, падрамлю трохі,— сказаў ён.

— Ча-чаго ты, дурны; што, з людзьмі пабыць не хочаш? — схапіў яго за плячо Алесь і сам сеў на воз да Тодара і Сёмкі і ўсцягнуў Паўла.

Павал зразу адчуў звярыную радасць Алеся Мельгуна ад таго, што вось ён сядзіць блізка з тым чалавекам, над якім так удалося яму ўзяць верх, не далажыўшы да гэтага многа стараннняў. Гэта была радасць звера, радасць жывёлы, без думак, без жаданняў, тупая і нікчэмная.

І яшчэ, з вялікаю крыўдаю, адчуў Павал, што гэты вось самы Алесь Мяльгун зусім нават не хоча нічога кепскага яму; калі нават трэба будзе, дык паможа яму ад шчырасці, хоць можа пасля і пасмяецца; што гэта не можа ён адчуць таго, што здзекуецца разам з гэтымі вось людзьмі над ім; што ён повен захаплення ад жыцця, ад здарэнняў, ад падзей, ад самога сябе і не прыкмячае таго, што мучыць другога.

І ў гэтым была вялікая крыўда.

— Ну, я пайду,— зноў сказаў Павал.

— Куды ты спяшаеш,— схапіў яго за руку Сёмка,— давай закурым.

— Я ж не куру.

— Затым, мусіць, цябе і бабы не любяць, што ты не курыш,— загаварыў Тодар.— Бабы, брат, любяць. Ого-го! Каб ты курыў, каб быў як дуб моцны і як агонь гарачы, каб быў упарты, цяжкі на руку...

— У Паўла якраз нічога гэтага няма,— усміхнуўся Алесь.

— Я ж к гэтаму і гавару,— абазваўся Тодар.

Тады Павал саскочыў з воза і загаварыў ім тром.

— Браткі мае! Ну, я ведаю, што вы гэткія моцныя, а я — хворы, дык нашто ж вы гэта мне гаворыце? Што я вінаваты, што я такі а вы такія? Нашто вы мне душу

разварочваеце? Ну, не хачу я нічога гэтага. Ну, Насця нада мною насмяялася, дык я не крыўдую, бо яна здаровая, а я хворы. Можа гэта сухоты ў мяне? Я і так дажыву, калі так, свайго веку. Насці я не хачу... Хіба слова я ёй калі аб гэтым казаў?! Дык вы з ёю, Алесь, любецеся, дык ці ж я што гавару? Куды я ёй? Можа ў мяне і пераварочвалася ўсё нутро ад жалю, ад крыўды, але ж я маўчаў — куды там мне. Я гэта ведаю... Ды нашто вы косці бацькі майго варушыце? Мне пакутаваць за гэта аднаму, калі за гэта яшчэ. Хто яго ведае, ад чаго гэта ў мяне... Ну, і я хачу так, як усе, але што ж я вінаваты? Каб я не хворы, дык ці ў мяне ўсё так было б? Нашто вы ўсё гэта гаворыце, чаму ты, дзядзька Тодар, на сябе не паглядзіш, а майго бацьку памінаеш?

А яны ўсе ўтрох тады зарагаталі. Рагаталі зычна, шчыра, весела. Рогат іх быў — жаданне, вольнае ад жыццёвых пут — шырокі, і затаіў ён у сабе сілу грубой, навальнай і нікчэмнай перамогі дзікай, тупой сілы над усім слабейшым... Была ў рогаце гэтая перамога над слабым Паўлам, над усялякімі дробнымі перашкодамі, якіх так многа, і перамагаць, змагацца з якімі ёсць і ўся можа мэта і ўвесь сэнс жыцця. Не было ў рогаце радасці, была адна сіла — здаровая, як камень, цяжкая, як зямля.

Пачынаўся дзень, мусіць, бо шэраю стала вызначацца зямля. Сталі выяўляцца з цемені далі, дарога больш відаць стала. Ці то гэта можа месяц больш выбіўся з-за хмар — там на даляглядзе жоўта пачало рабіцца. Зямля была бясконцым прасторам, які зваў дыхаць вольнаю воляй.

Ці вёскі, ці лясы падняліся белаватым і цёмным абрысам далёка, і ўсе віднець пачалі.

Няйначай, гэта дзень пачынаўся.

Прыйшоў раптам вецер і адагнаў хмары за далёкія лясы. Тады сонны месяц глянуў, каб развітацца з зямлёй. Абліў ён святлом сваім, як плачам, дарогу, тры фурманкі і людзей на іх.

Наперадзе трос сытым задам конь Алеся Мельгуна, ззаду не адставалі два худзенькія конікі Паўла і Сёмкі. На пярэднім возе гойдалася ў бакі постаць дзяўчыны. Была яна маленькая, тоўсценькая, галава, абкручаная белым тоўстым шалем, надавала ёй мажны выгляд. І постаць яе радавала вока. Месяц асвяціў людзей на заднім возе. Быў вясёлы Алесь Мяльгун, усміхаўся ён шырока,

таксама весела ўсміхаўся, але з нейкай зайздрасцю, Сёмка Цераховіч. Тодар паблісквconfigу вачыма з-пад пасівелых броваў на пажоўклым твары, ды хмуры Павал маўчаў, затаіўшы на дробным, вострым і худым твары жаданне дзе-небудзь дзецца ад гэтых людзей.

## II

Насця паволі падганяла Алесевага каня, гукала часам на яго слаўным жаночым голасам. У чорным кароткім каптане яна здавалася тоўсценькаю, порсткаю, і на твары яе гуляла журботная і вясёлая дзявочая задумёнасць, якою дзяўчына заўсёды вабіць да сябе. Яна адчувала, што пра яе гавораць на задняй фурманцы, і ў яе з'яўлялася хваляванне, што вось яна прымушае цэлую ноч гаварыць людзей, адных быць вясёлымі, другіх сумнымі.

Было адно ёй спачатку нядобра трохі перад Паўлам, з якім неспадзявана давялося з'ехацца, выязджаючы вечарам з вуліцы. А пасля гэта прайшло, бо не ведала яна, што ў Паўла на душы. Успаміналася ёй, як яна зімою дражніла Паўла каханнем, думаючы, што ў Паўла, апроч гуллівай вясёласці, нічога ад гэтага не будзе. І цяпер не ведала, што цяжка Паўлу бачыць яе, таксама як не ведаў, не думаў Алесь Мяльгун, што цяжка Паўлу ад кпінаў.

Ды яшчэ трохі было сорамна дзяўчыне перад усімі ўжо, што на Алесевым возе едзе яна, хоць і ведала, што ўсе гавораць аб іх блізкасці, ды яшчэ дагадвалася, што там, ззаду, ведаюць, што яны з Алесем едуць у горад купляць усё к свайму вяселлю. Ведала, што Сёмка з Тодарам едуць мяняць каня, а то вельмі ж ужо нядужы, стары і худы Сёмкаў конь. Не ведала адно Насця, што Павал едзе да доктара.

І былі ў яе настроі гуллівыя і журботныя, радасныя. Ёй было весела ад таго, што дражнілася яна зімою каханнем з Паўлам, было трохі шкада яго, што ён вельмі ж моцна кашляе. Але ўсё было светла і добра. І ўжо зусім затапляла ўсе пачуцці нявыказаная словамі вялікая радасць, што вельмі ж вось падабаецца Алесь; што яны ўдваіх едуць на яго возе купляць, што ім патрэбна, што можа яна паклікаць яго, здаровага, кплівага над усімі, і ён ціха прыйдзе да яе.

Весела было глядзець на чыстае ўжо неба, слухаць гулкія песні маладога ветру на пахучых засевах грэчкі. Яна

азірнулася назад і бачыла: Павал ужо ідзе, паволі калываючыся каля свайго воза. І ўявілася ёй, што гэта Павал рады ад таго, што едзе ў горад уладзіць нейкія свае справы. Ёй захацелася заспяваць што-небудзь ціхае, радаснае, або зусім гуллівае. От так, як яснымі вечарамі ў залатую восень спяваюць гуртам дзе-небудзь каля канцавой хаты.

Што за месяц,
Што за ясны...

Або зусім новы ў вёсцы матыў песні:

Гэй вы, коні вараныя,
Грывакі мае!..

Ні то драмаць, ні то моўчкі слухаць ноч пачала Насця. Тады з'явілася была ў Паўла думка падысці да яе і пагаварыць з ёю. А як ступіў ён два крокі наперад, асядаць і гінуць пачала гэтая думка.

— Няма пра што мне з ёю гаварыць,— зусім моцна сказаў Павал.

— Што ты кажаш? — дакаціўся голас ззаду.

— Нічога, дзень нахапіўся,— адказаў Павал і сцебануў пугаю каня па худых рэбрах.

«Вельмі ж на полі ўрадзіла ярына»,— падумаў ён невядома чаму. А пасля ўцякла і гэтая думка, і ўявілася, што доктар, да якога едзе ён, павінен быць чалавекам вельмі сталым, але нейкім такім, якому можна і нават трэба сказаць пра ўсё, нават пра Насцю, што яна гэткая любая, але ж вельмі далёкая, і што таму аж нічога рабіць не хочацца.

«Яно ўсё пройдзе,— з'явілася новая думка,— усё забудзецца, а жыццё будзе яшчэ доўгім, бо ад грудзей, што баляць, ніхто не ўміраў ніколі, здаецца. Многа яшчэ будзе думак новых і навін за жыццё, адно вось, аднаму, мусіць, давядзецца, пахаваўшы матку, або перацягнуць на гэтую гаспадарку сястру з мужам з суседняй вёскі... А ўсё ж яно слаўна гэтак ехаць, а пасля вечарам назад; адчуваць волю поля, слухаць, як у вёсках пры дарогах спяваюць пеўні, і гэтакі ясны змрок ляжыць на дарогах... І нічога не зробіцца ў жыцці таго, чаго не зробіцца».

Нават і не думка гэта была, а пачуццё.

Зусім пачынала віднець, а на полі разгуляўся радасны вецер.

## III

У тую раніцу ў вёсцы яшчэ прыцемкам устала жанчына. Было шмат работы адной у хаце.

«Хаця б дождж не пайшоў ды не абмачыў Паўла»,— падумала яна пра сына.

І ўсё тупала па двары ды думала пра Паўла. Яно не то, што гэта было шкада ёй, што Павал нездараўчаны,— аб гэтым не думалася, бо да гэтага прывыклася і было гэта звычайным. Думала яна, што Павал, мусіць, змёрз уначы.

Была жанчына старая і часта насіла ў сабе нейкі вострынастрой. Бо гэта яна многа перажыла была за жыццё бяды і гора, і гэта зрабіла яе чулай вельмі.

У тую раніцу яна брала пад паветкаю дровы і ўбачыла, як каля самай сцяны дрыжаў на ветры дробны куст крапівы. І тады прыпомнілася, што яе многа расце на дарозе, дзе агароды пераходзяць у жытнія засевы. А гэта было прывычнае, роднае, сярод чаго жылося, пакутавалася. І ўжо тады ад гэтага ў жанчыны з'явілася да ўсяго шырокае пачуццё, і падумалася:

«От Павал прыедзе і пойдзе касіць, а я каля дома буду».

І затым, што было ўсё гэта звязана з тым дробным, што на кожным кроку ў жыцці, затым і з'явіўся ў жанчыны востры настрой. Хацелася гаварыць з усімі аб усім. І от пачала яна з нецярплівасцю чакаць Паўла.

А пасля прыбегла да яе, засопшыся, Ганна, што служыла ўжо другі год у Мельгуновых, і пачала гаварыць, што Алесь паехаў у горад з Насцяю і што ў іх будзе вяселле. А пасля пачала гаварыць, як да яе, яшчэ да Насці, прыставаў Алесь, усё гаварыў, што возьме замуж, і што цяпер ліха ведае што будзе.

— Ну, няўжо?! — узрадавалася Паўлава маці.

— А ты як бы рада,— пакрыўдзілася Ганна,— а ў твайго Паўла здароўе адабрала Насця. Ты думаеш, цётка, я не ведаю? Усе ведаюць! А я не змоўчу.

— Чаму?

— Таму!

— А што рабіць будзеш?

— На яго ў суд падам; усё роўна яму спакойна жыць, гаду, не дам.

— З Насцяю жыць?

— З Насцяю.

— А сястрычка ж мая, зрабі ж ты гэта. Вось і Павал мой узрадуецца, сумны нешта ж вельмі ён цяпер зрабіўся. А я толькі думала аб ім.

І невядома чаму так раптоўна Ганна заплакала. Яна доўга сядзела на адным месцы, на лаве, у кутку Паўлавай хаты, выцірала рукавом зрэбнага каптана слёзы і чмыхала носам.

А ў галаве ў дзяўчыны хадзілі вольныя думкі — ці то нявыяўленыя, яшчэ цьмяныя, радасныя нейкія надзеі нараджаліся ў яе.

Нешта яснае выяўлялася перад маладым жыццём, і само жыццё паднімалася наперадзе, як вялікая, цікавая дарога, на якой апаноўваюць чалавека радасныя хваляванні.

— Гадаўка гэтая Насця,— сказала моцна Паўлава маці.

«А што яна вінавата?» — хацела сказаць Ганна, але сказала, палажыўшы палец на губу:

— Я не дамся ў крыўду Мельгуну.

— От Павал будзе весялейшым,— з хітраю ўсмешкаю сказала Паўлава маці,— а то ж вельмі думаць аб нечым пачаў многа.

## IV

Павал у той дзень зусім вясёлым выехаў з горада.

Доктар яму нічога не сказаў, толькі даў нейкіх зеленаватых пілюль; купіў яшчэ Павал хустку матцы і новую касу. А як выязджаў з горада, дык адчуваў, што ўсё будзе добра,— ці то гэтыя пілюлі памогуць, ці то зусім нічога ў яго няма. Вось будуць пагодлівыя дні, добра будзе касіць каля рэчкі; а Насця — чорт яе бяры. І, едучы, бачыў, як на краю горада музыкі збіраюцца граць у вялікім разгароджаным садзе.

У капельмайстра таксама балелі грудзі, і ён стрымліваў кашаль. У аднаго музыкі балеў зуб, і яму цяжка было дзьмуць у флейту. Ён думаў аб тым, што ад яго флейты многае залежыць у музыцы. І не было весела, нават сумна было капельмайстру і флейтысту.

Таксама не было весела і яшчэ аднаму музыку, бо дома былі ў яго нейкія нелады ў сям'і, і толькі лепш адчуваў ён сябе ў настроях тады, калі выходзіў з дому.

Так трое гэтых людзей, ад якіх многа залежала ў музыцы, далёка былі ў тую хвіліну ад весялосці. Толькі ніхто не ведаў і не бачыў гэтага, бо як махнуў капельмайстар рукамі і гранула музыка, ва ўсіх, хто слухаў, раптам пачало з'яўляцца вялікае захапленне жыццём, адчуванне яго вялікасці і хараства. А ў каго і з'явіўся смутак, дык быў ён радасным і жаданым.

І хто глядзеў на гэта, хто чуў вясёлыя зыкі,— думаў, што гэта так ёсць ці было і ў настроях музыкаў. А ў музыкаў весялець пачаў настрой пры першых зыках.

У Паўла ж пачала вясёлай лёгкасцю напаўняцца істота паволі. Пасля ўсё зрабілася для яго слаўным, радасна захапіла імкненне.

Як ехаў, дык весела ляжала пад ветрам поле і некуды далёка адплылі і Алесь Мяльгун, і Насця, і Сёмка Цераховіч, і Тодар. Сплыло ўсё тое, што было на душы, як ехаў у горад. Хацелася перш, каб чым хутчэй даехаць дадому ды парадавацць словам матку, даючы ёй новую хустку, а пасля як бы гэта падняўся ён на нейкую высокую гару ды расклаў там агонь, асвяціўшы нешта новае. Прапала пачуццё таго, што і ён як сталы гаспадар. Ён то адчуваў сябе сталым і цяпер, але іначай неяк, бо згінула думка аб сваім кані і драбінах, а думалася неяк аб усіх людзях, аб тым самым кані, але не так, што вось гэта яго конь і ніхто ніколі да гэтага каня ніякага дачынення мець не павінен, што гэта конь і драбіны, а я гаспадар,— а думалася і адчувалася, што вось конь вязе, а я еду. А вакол зямля, вакол людзі. І ідуць на зямлі дні і ночы. І ветры спяваюць, і сонца свеціць. Пасля дажджоў дарогі мокрыя. А Алесь Мяльгун, Сёмка Цераховіч і яшчэ Тодар — жывуць сабе, кпяць з усяго, што застаўляе іх жыць, варушацца сабе, адзін у адным корпаюцца, злуюць адзін на аднаго часам за гэта. А мне вось добра глядзець на іх і на ўсю гэтую іх работу.

Паўзла ды паўзла зямля насустрач. Кружыліся далі, адпаўзалі ўсё ў бакі. Звала дарога наперад, а дзень быў, як гаворка аб чым-небудзь вялікім, родным, блізкім, што напаўняе ўсю істоту лёгкасцю любых настрояў і думкі робіць вострымі і імклівымі.

# СВЯТА ПРАЦЫ І СВЕТУ

## І

Разляглася вясна над зямлёй яснымі днямі ды цёплымі вятрамі. Ужо дарогі пачыналі пылець ад вятроў, ужо на межах ды паплавах выглядала трава, а на палявых дарогах стукалі сялянскія калёсы ды ржалі коні.

Вёска грэлася на сонцы, гледзячыся ў рэчку з узгорка, і кожны дзень усход сонца сустракала яна шумам працы — галасамі людзей, стукам конскіх капытоў ды калёс, скрыпам варот. А то яшчэ на сонцы каля хат крычалі, смяяліся ці плакалі дзеці — і бесклапотныя, і разам з тым поўныя свайго дзяцінага клопату.

За гэтыя дні ў вёсцы абчысціліся ад зімовай іржы ўсе плугі ды бароны аб сырую зямлю ў палях; і людзі, і коні надыхаліся вольным паветрам вясновага поля.

Вясёлая праца вялася ў вёсцы... Вуліца была доўгая і шэрая ад дзеравяных хат. Цяпер хаты амаль што пуставалі цэлымі днямі — не то што зімою, калі і старыя і малыя мнуцца ў хаце...

Якраз год таму, летась, па прасохшых сцежках, напрамік цераз поле, прыйшоў быў з суседняй вёскі — Цёмнага Бору — шчуплы і худы чалавек — Сцяпан Кірык. Прыйшоў ён з папераю ў кішэні, і загэтым усе, ведаючы яго, прабавалі смяяцца:

— Ці не начальствам ты зрабіўся, Кірык?

— А гэта, значыць,— адказваў Кірык, жмурачыся на сонцы,— я ад сельсавету пасланы перапісаць няграматных, пакольку я, значыць, можна сказаць, на ўсю вёску Цёмны Бор чуць не адзін у граматных састаю.

— Дык што ж гэта ты на старасці год грамаце абучаць нас будзеш?

— А мне што? Я ў Цёмнаборскую школу аддам спіскі, няхай там настаўнікі па сваёй, значыць, часці ў гэтай справе, і больш нічога...

Кірык абышоў тады ўсе хаты і запісаў няграматных.

— Божа мой, божа,— уздыхалі тады старэнькія бабулькі,— і што гэта будзе, ці не чорныя спіскі на нашы грэшныя душы пішуць...

Якраз цяпер, вясною, успамінаюць усё тое здарэнне. З таго часу зімою, з перарывамі, хадзіла многа старых тры разы ў тыдзень у Цёмнаборскую школу за паўвярсты. І многія глядзелі на гэта са смехам. Фармальна пачалося гэта было летась Першага мая. Якраз тады прыехалі былі з горада рабочыя і прынялі шэфства над вёскай. І быў закладзены ў вёсцы тады пункт знішчэння няграматнасці.

## II

У хаце было цесна, была хата яшчэ дзедаўская, і ў ёй было заўсёды многа таўкатні і клопату.

Смяяліся і плакалі замурзаныя дзеці, шамяталі мышы на печы ў вешалах цыбулі, па сценах тараканы шчупалі паветра вусамі. У сонечныя дні сцены блішчалі асвечанаю вапнаю, і вясёла было ў хаце.

Як закрычаць на печы дзеці, Мар'я кіне работу ды да іх, а як стала цёпла — выпусціла яна іх на вуліцу і сама адна таўклася ў хаце і каля хаты. Мужчыны дзень пры дні выязджалі ў поле, бо начакалася зямля за зіму плугоў.

Летась, як Першага мая залажылі былі ў вёсцы пункт па знішчэнню няграматнасці, Мар'я першаю запісалася вучыцца. Былі ў Мар'і розныя думкі, і вясёлыя і нудныя, у жыцці, а аб гэтым была думка радасная.

Ды толькі мала было такіх, як Мар'я. Запісаліся было ўсяго некалькі жанчын, а то ўсё мужчыны, ды і тых нямнога. «Што гэта выдумалі, на старасці год»,— гаварылі многія. Пасля больш стала хадзіць вучыцца — зімою часта прыязджалі з горада шэфы і бралі раз з сабой некалькі чалавек дэлегатаў — падшэфных з вёскі — паказаць сваё жыццё. Рабочыя былі з слясарні, і кіпела наша ў іх праца жывою крыніцаю — якраз тады рыхтавалі ў слясарні плугі. Вяскоўцы аглядалі тады і іншыя заводы і прадпрыемствы. І як вярнуліся ў вёску, думалі аб тым, што ў рабочых і праца і ўсё арганізавана, усё падлічана і ўсё лепш ідзе.

Лепшая тады была адчулася блізасць між вяскоўцамі

і рабочымі, бо і там і тут праходзіла жыццё аднальковa — у працы.

К канцу зімы пачала Мар'я ўжо паволі прачытваць кніжкі і вельмі шкадаваць стала, што няма ёй як адарвацца ад хаты ні на хвіліну, каб пабыць у горадзе, паглядзець на жыццё ды працу горада.

Больш стала яшчэ ў Мар'і думак. І стала тады прымячаць Мар'я: яно, паглядзеўшы, як бы таксама нудна і паволі плыве ў вёсцы каламутная рэчка жыцця. Канец зімы прынёс туманныя дні і цёмныя вечары. Вечары праходзілі ў жанчын за пражаю, а за пражаю вяліся доўгія і нудныя гаворкі з просценькімі жартамі, з абгаворамі суседзяў. Ды толькі сярод гэтага блісне часам нешта іншае. Загавораць раптам аб горадзе, аб тым, што некаторыя з вяскоўцаў граматнымі робяцца, што прывезлі аднекуль у горад рабочыя жалеза і нешта для вёскі куюць. І часам было, што пакідалі прасніцы ды ішлі гуртам на сход, хадзілі за паўвярсты ў Цёмнаборскую школу глядзець, як дарослыя вучацца, а пасля больш стала запісвацца.

А то часам усё гэтае як бы замрэ, як бы затопіць яго сабою ўсё, што дагэтуль панавала ў вёсцы. Так схваціліся ў бойцы новае з старым.

У цёмныя вечары, седзячы часам адна дома, Мар'я перадумвала аб маладых гадах ды аб горы і бядзе, перажытых за ўвесь час. Цьмяны агеньчык газоўкі як бы меў нейкую пэўную мэту: панура падміргаў цёмным сценам, ганяў па іх цені, як бы стараючыся зрабіць хату царствам старых павольных думак, аднальковай часці нуднага жыцця, ціхіх і баязлівых слоў...

І ў Мар'і звярнулася вялікая і праўдзівая думка:

«Усё гэта канчаецца, адыходзіць у нябыт. Бо ўжо відны адзнакі новага, лепшага, да чаго ўжо ясна дарога шырокая».

Не можа яшчэ ў словах сказаць аб гэтым падрабязна Мар'я: было гэта пакуль што толькі ў думках ды пачуццях жанчыны...

## III

Мужчыны аралі поле, рыхтаваліся к сяўбе, аглядалі жытнюю рунь. Кабеты ў гэтыя дні даставалі насенную бульбу з паграбоў ды капцоў. У гэты ж час у горадзе прывозілі паязды жалеза, вату, дрэва, развозілі падводы і аўтамабілі ўсё гэта па заводах і фабрыках, а там сотні

і тысячы рабочых пускалі ў ход машыны, і з жалеза выходзілі плугі ды бароны, з ваты — паркаль ды палатно.

У вёсцы на полі спяваў свае песні вясёлы вецер, яго людзі заглушалі песнямі, стукам калёс ды дрэва, а ў горадзе стукалі звонка машыны, спявалі жалезную песню калёсы, свістала пара ў катлах ды гаварыла аб сваёй магутнай сіле, накіраванай чалавекам сабе на карысць.

З вёсак у горад кожны дзень прыязджалі людзі, і кожны дзень паязды развозілі ў глухія куткі, у шэрыя вёскі, што прытуліліся між палёў, з заводаў усё, што выходзіла з рук рабочых.

І так па ўсёй краіне бушавала віхрамі праца. У вёсцы свая, у горадзе свая. І цесна ў працы звязаліся горад з вёскай як бы ад пэўнай думкі, што праца горада без вёскі — мала дасць, праца вёскі без горада — таксама.

У працы людзі былі блізка адзін аднаму. Таміліся за дзень, з радасцю сачылі за вынікамі сваёй працы. Праходзілі дні хутка — быстраю рэчкаю беглі ў вечнасць. Было ў людзях імкненне да нечага большага, лепшага, і ў гэтым была вечная сіла.

І бурліла ў людскіх пачуццях жаданне як бы крыкнуць усёй зямлі, сказаць усяму, што ёсць, аб радасці дзён, аб песнях і звонах жыцця.

І як маладою зеленню ўсміхнулася зямля, а сонца цеплынёю глянула ўніз — у нястрыманых уздымах выяўлялася людская маладая жыццёвая радасць.

* * *

Вясна ўсміхнулася маем. І Першага мая як бы сабрала яна ў зямлі і ў людзях усю сваю маладосць. У гэты дзень сціхлі ў горадзе станкі і машыны, пакінула звінець жалеза. Горад упрыгожыўся, зазвінеў песнямі і музыкай. К гэтаму дню паслаў горад у вёску рабочых і работніц.

Па пыльнай дарозе, што шэраю істужкаю перарэзала поле, прыехалі рабочыя-шэфы ў вёску. У Цёмным Бары спаткалі іх сходам. За паўвярсты ў вёсцы былі яны чаканымі гасцямі.

Вёска і не ўбіралася к Першаму маю. Ды не ў гэтым справа. Яна была ўвабрана вынікамі працы ды выхадам на новую дарогу.

Першага мая плугі не ўздымалі раллі, бо людзі адпачынкам і падлікам дасягненняў спаткалі гэты дзень.

Вялікі сход быў у вёсцы Цёмны Бор. Вакольныя вёскі выслалі туды сваіх людзей, і рабочыя-шэфы расказалі, колькі за год зроблена імі плугоў ды кос, колькі машын для вёскі заказана за граніцаю, колькі вёска дала прадуктаў і матэрыялаў, каб у горадзе не спынялася праца і каб вёска ўсё мацней і мацней станавілася на новай дарозе...

У той дзень многа было гаворак у вёсцы надзвычайных. Работніцы ў хатах расказвалі аб сваім жыцці і працы. Прыйшлі сюды жанчыны з суседніх глухіх вёсак, дзе не маглі пабываць рабочыя з горада.

І была тады ў многіх вясковых жанчын думка:

«На горад наша надзея, толькі цераз яго пазбавімся цёмных вечароў за нуднаю пражаю пры цёмным свеце газнічкі, пазбавімся ад хвароб, што цемра жыцця іх прыносіць...»

Вечарам у Цёмнаборскай школе настаўнік гаварыў, колькі сялян і сялянак за год сталі граматнымі, і выяўлялася, наколькі за гэты год вёска стала святлейшаю.

У Цёмнаборскай школе вечарам сход быў вялікі.

* * *

У шырокіх палях стаяць родныя вёскі. Над імі вятры спяваюць свае вечныя песні, а ў іх людзі твораць сваю новую, зычную, вясёлую песню. Горад зазваніў у родных вёсках жалезам, дапамагае людзям там шырока размахнуцца ў радасці жыцця. Дні імчаць к свету... Годы — лічаць вялікія дасягненні. Здаецца, тыя самыя дзеравяныя шэрыя сцены, ды ўжо новае туліцца за імі. Новае ў іх, новае ў людзях. Можа зразу яшчэ часам непрыметнае, але ўжо моцнае.

І гэтае моцнае ў блізасці шырокага поля з дымным заводам...

У Цёмнаборскай школе, на сходзе адчувалася гэта людзьмі.

— Таварышы, дайце сказаць мне!

Гэта Мар'я, ужо граматная перадавая жанчына вёскі, праходзіла к сталу, каб у нязграбных ад непрывычкі гаварыць перад вялікаю грамадою словах расказаць тое, што адчувала і думала аб вялікім дні Першага мая — свяце працы і свету.

# СРЭБРА ЖЫЦЦЯ

## I

Рыжая барада трасецца, у бакі ходзіць ад дробнага смеху.

— Гы, гы... Вучыць. Дзьмухні, кажа, на агонь — пячы не будзе. От зараз як дзьмухну за гэткую раду галавешкаю ў рыла, дык навучыш... Гы, гы...

І, зморшчаны рогатам і гарачынёй, адсоўваецца ад агню чырвоны шырокі твар.

— Гэта ж не агонь, а твая, дзядзька, уласная барада цябе гэтак смаліць.

— Гы, гы...

Злаваць спрабуе рыжы дзядзька, але нічога ў яго не выходзіць. І зноў ён рагоча. І ўсе з ім. Дрыжыць ад смеху яснае пры агні кола на зямлі.

— Гы, гы, гы...

Трашчаць у агні смоленыя сукі. То рассцелецца агонь, нізка прыпадзе да зямлі, то шыбане раскудлачанай галавою ўгару. Выхоплівае з чорнага змроку дзядзькаў твар, побач з тварам — нечыя боты ў зямлі.

Збоку — пераблытаныя ногі, рукі, галовы, узнятыя калені, шырокія спіны.

Яшчэ горш моршчыцца дзядзька, пхае чорным сукам у боты:

— Ты, э-э, ты! Боты адцягні, а то ў нос дае. Распусціў свой дзёгаць ці варволь пад самым носам, хоць сякеру вешай. Чым ты іх квэцаеш, халера цябе ведае, гэтыя свае шкрэбалы?!

Ля агню паднімаецца галава. Пара воч коляць рыжага дзядзьку. Зноў чувацць стрыманы смех. Узнімаюцца ўгару калені і боты, паволі адпоўзаюць назад.

— Мікіта дзядзьку з ботаў у нос дух пусціў!

— Святы дух Мікіта пусціў!

— Х-ха...

— Г-гы...

Між кустоў, змрочных, баязлівых, ходзіць рогат з дымам. Трасецца агонь, дрыжыць ноч.

Трэснула ў суставах.

— Не пацягайся гэтак, на кавалкі парвешся!

Голас у дзядзькі шурпаты:

— Глянь ты адно, Мікіта, на зоры — ці не за поўнач гэта пераваліла ўжо?

— Пераваліла.

— Дык спаць.

Вострым махорачным водарам патыхае ад агню. Клінок даўно няголенай барады ўткнуўся ў зямлю, цыгарка — у жар.

Рыжы дзядзька пачынае драмаць.

Абодва яны з Мікітам як бы старшыя тут, паміж гэтымі цеслярамі. Гэтак неяк само сталася. Яшчэ ўчора зрабілі яны апошнюю работу — на глухой станцыі скончылі новы будынак на склад і цяпер асталіся на дзень яшчэ выгрузіць з вагонаў пясок.

Як пачыналі яны работу, раптам пазнаваць пачалі леташняга знаёмага:

— Хіба вы, таварыш, нас не памятаеце? — гаварыў Мікіта загадчыку работ на станцыі.— Мы ж тут летась два месяцы былі, шпалы часалі.

— А хто вас ведае,— адказваў той,— у мяне за год вашага брата сотні пераварнецца. Што, я павінен памятаць кожнага, ці што?

— Мы яшчэ пасля з Мікітам тыя шпалы і паразвозілі па лініі,— устаўляў сваё слова рыжы дзядзька.

— З якім гэта яшчэ там Мікітам?

— Ну, а са мною,— гаварыў Мікіта, паказваючы пальцам сабе на грудзі.

Заўтра яны зробяць апошнюю работу і на якім-небудзь таварным цягніку праедуць некалькі станцый дадому.

## II

Абшар зямлі — як мора, змрок і святло — як хвалі.

Дзень ідзе, паўзе з яснага поля.

За кіламетраў пяць горад адазваўся новаму дню. Зазваніла, загуло, абарвалося.

Дрэмлюць кусты, тлее вуголле. Агонь пацягваецца ў

перадсмяротнай млосці: патухне — бліснс. Бліснс — патухне. У кустах смяецца вада ранішнім смехам:

Люг-бр, люг-бр...

Людзі ля вогнішча гоняць ад сябе апошнюю дрымоту.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

I вось ужо няма нічога: ператварылася зямля ў шырокую роўнядзь і ўцякае; ператварылася неба ў імглу залатога святла і сыплецца — знікае, сыплецца — знікае. Ёсць і шырыцца рух цела, лёгкая гарачыня ў ім, і ў вачах — залатыя дарогі пяску з вагонаў.

На пярэднім вагоне дзядзькава барада блішчыць здалёк, усё адно як той жвір, што ў яго пад нагамі. За дзядзькам шпарка ходзяць Мікітавы плечы. На поўных вагонах — галовы і рукі, галовы і рукі. Блішчаць, як срэбра, рыдлёўкі. Голас скамандаваў:

— Дошку ўгару хапі!

Дзядзька рад. Адарваўшыся ад пяску, ён азірае раніцу і людзей. Раніца — шырокая, гулкая, людзі — рухавыя.

Зноў ідзе голас:

— Бярэш там?

— Бяру,— коціцца недзе з задніх вагонаў.

Вагоны пусцеюць. Сыходзяць людзі на зямлю. Задні вагон грануў іржавую песню з-пад калёс: пхнулі яго па рэйках.

Раптам — звон, грукат і ляскатанне. Загрымела жалеза за мастом, ухнула і пакацілася па бакавой каляіне. Голас не мог дагнаць:

— Скоры пайшоў!

I толькі неўзабаве задні вагон цягніка зелена мільгануўся.

— Ці гэта дым, ці хмары? — раптам гаворыць дзядзька, паглядаючы туды, дзе тырчаць гарадскія коміны заводаў. Сонечны вецер сушыць на людзях пот.

Вагоны ўсе пустыя. Хтосьці наспеўвае ціха:

Пад гарой й на гары
Таўкуць кашу камары.

Вецер імчыць песню па лагчынах і ўзгорках і развявае ў прасторы.

Пачало было хмарыцца, а пасля вецер перамог: хмары сышлі, і сонца зноў задрыжала на зямлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Свісток пабудзіў сонных.

Лезлі ў вагон, сонна пацягваючыся яшчэ.

Дзень гас.

Стары, растрыбушаны вагон не паспяваў бегчы за паравіком, і ўсё станала з-пад іржавых калёс:

— Па-ча-кай, па-ча-кай.

Аб'ехалі горад стараною. На лічаныя хвіліны сталі адно на таварнай, дзе дадаваліся да таварнага цягніка вагоны. І зноў пайшлі. Станцый пяць — і дома!

Горад паплыў як у тумане. Вечар кладзецца на загарадныя, прывакзальныя вуліцы. Штосьці пракалыхнулася, вецер трэпле чырвоную тканіну. Як гарох сыплюцца дзеці, рассыпаючы песню:

Жура-жура-жуpавель...

Малы астаўся ззаду, выбіўся з радоў і цягне ўсё без канца, порстка і няроўна:

Зюра-зюра-зюра-зюра...

Раптам схавала ў сабе гэтую «зюру» вайсковая капэла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жалезны звон горада ўздымаецца вышэй заводскага дыму і падае на прастору вячэрняй зямлі.

# МЕЛЬНІКІ

Берагі схаваліся ў змрочных туманах, і рэчка ў веснавым разліве, як бурнае мора. Вада дрыжала пад ветрам, адлівала ад месяца срэбрам, білася пад млыном. Млын калаціўся, скрыпеў падлогаю, гуў каменнямі. Гул выбягаў за сцены і тануў у шуме бурнай вады.

На дварэ было весела, а ў млыне было нудна.

Млын знадворку быў, як палахлівы злодзей: насупіўшыся пад старою страхою, ён хітра падміргваў адным сваім, скупа асвечаным, акенцам цёмным кустам у вадзе і ўсё баязліва скрыпеў ды стукаў, слабы перад ракой. Усярэдзіне млын быў, як пыльная нара. У мучным пыле цёмна гарэлі пры сцяне дзве курныя лямпачкі, аганькі трасліся, ганялі палахлівыя цені з кутка ў куток.

І ад роўнага гулу каменняў, і ад пылу, і ад цёмнага святла хацелася тут легчы ды заснуць усмак, пакуль не сціхнуць гусці каменні і пакуль дзень не патушыць скупога агню.

Каля каменняў, упёршыся кулакамі ў бокі, стаяў мельнік Нічыпар Курыла — чалавек грузны і тоўсты, з чырвоным тварам і злёгку аблыселай галавою. Уся яго постаць выяўляла сабой грубую і дзікую сілу, і здавалася, што, каб даў ён кулаком па гэтым камені, камень бы раскалоўся і стаў. Мельнік глядзеў, як круціліся каменні, з самаўпэўненай усмешкай праходзіў з кутка ў куток і зноў станавіўся на адным месцы і варушыў у галаве вясёлыя думы.

У цёмным кутку, на мяшках жыта, спаў Кірылка — рабочы з саўхоза,— шчуплы і рыжы чалавек, з рэдкаю пакудлычанаю бародкаю, у старым кажушку і ў вялікіх салдацкіх чаравіках. Гэта была самая крайняя процілегласць мельніку і постаццю, і голасам, толькі ў твары Кі-

рылкі было нешта агульнае, нейкая думка, якая магла затаіцца сама ў сабе.

Цэлы дзень Кірылка перакідаўся словамі з мельнікам, і гэтае нешта сваё вельмі яскрава выявілася ў гэтай гаворцы. У мельніка яно выяўлялася ў хітрым бляску вачэй і ва ўсмешцы так: «Я то, брат, з табой гавару, але ты проці мяне ноль. Сябраваць жа лішне з табою мне няма чаго».

У Кірылкі яно выявілася толькі ў частым міргannі чырвоных вочак, і яно гаварыла: «Спяваеш то ты добра, але няма вельмі чаго прыслухоўвацца тут да твае песні. Пагавары трохі, пакуль я змялю ды адгэтуль паеду».

Гэта ўсё кінулася ў вочы сыну мельніка — хлапцу Міхасю. Ён часта падыходзіў да Кірылкі і загаварваў з ім...

Цяпер Кірылка, натупаўшыся за дзень у млыне, хроп усмак, працягнуўшы ногі на мяшку.

Мельнік абышоў камені, падумаў і выйшаў на ганак. Сыры вецер дзьмухнуў яму вострым холадам у твар, заблытаўся ў валасах і шмыгануў знячэўку за каўнер. А пасля мацней загуў у полі. Злева ад рэчкі поле гінула ў светлым змроку і сваім прасторам весела глядзела мельніку ў вочы.

Мельніку не трэба было кашляць, але дзе было дзець сілу, якая прасілася на двор; хоць бы крыкнуць, ды няма на каго і чаго. І мельнік кашлянуў:

— Гых, гых!..

Кашаль быў, як звон у вялікі чыгун, і далёка пайшоў ён па ветры.

Было весела мельніку. За рэчкай хоць ляжала поле, што адышло цяпер ад яго пад усю вёску, але яшчэ частка хутара засталася, застаўся і млын. Млын захаваў за ім важнасць і гонар. На гэтым трасучым ганку мельнік — важная асоба, як даўней дваранін. Ды гэта ўсё не важна. Важна пачуццё, што тут старшы, што гаспадар.

Мельнік увайшоў у млын і яшчэ паслухаў, як гудуць камені. Кірылка заварочаўся на мяшку.

— Эй ты, э, уставай! — грунуў мельнік.

— Кажаце, уставаць? А чаго?

— Ну, як спаў?

Мельнік падышоў бліжэй. Кірылка падняўся і быў лахматы са сну і смешны ў цёмным кутку.

— Ідзі муку выбірай: разаспаўся нешта ты, браце, сягоння!

— От, паспаў трохі.

— Спаць — яно добра. Ваш брат, як я пагляджу, любіць усё жыццё праспаць. Скажы, ці баліць калі аб чым клопатам твая галава? Хіба вы людзі! Вы на гатовым, вамі арудуюць, а вы...

— А чорт яго ведае,— адказаў Кірылка, а сам падумаў: «Няхай ты згары, зноў з гаворкаю чэпіцца».

— Я заўсёды стаяў цвёрда на зямлі,— грымеў словамі мельнік,— гэта нічога, што ў мяне хутар адабралі, я ўсё ж гаспадар сам сабе. Я калі тупну нагою, хоць можа ніхто не спалохаецца, але я ўсё ж тупну.

Кірылка адчуваў, што мельніку няма чым хваліцца, што няма ў яго моцы і сілы тае, як даўней, у жыцці, і толькі гэта ўсяго, што млын у яго ў руках. Але і адчуваў яшчэ Кірылка, што гэта ў мельніка ад сілы, ад здароўя гэтыя словы. Што трэба было яму пакрычаць, паспяваць ці раскалоць сукаватую калоду, а ён вылівае сілу ў грымучых словах. Кірылка міргаў вачыма, маўчаў, слухаў ды нічога не памятаў з гаворкі мельніка.

А ў мельніка гуляла па твары сытая ўсмешка, і, адчуваючы яе, Кірылка жмурыўся ды апускаў вочы ўніз. І ўсё думаў ён, каб як мага хутчэй змалоць ды пайсці дадому. Да дня яшчэ далёка. Ісці прыйдзецца змрочным ветраным полем.

Вецер будзе спяваць вясёлую песню, зазіраць холадам у вочы, поле будзе шумець леташнім чорным быльнікам на межах — а гэта ўсё так прывычна Кірылку. І будзе яно любым пасля кпінаў і насмешак мельніка, што глыбока захаваны ў яго гаворцы і ва ўсёй яго постаці.

Кірылка пайшоў выграбаць муку.

Задняя сцяна трашчала ад ветру; чутно было, як кіпела вада, як поле спявала радасныя песні бурнай ночы. І ўяўлялася, што там, за гэтаю старою, пыльнай сцяною, з неба, з-за рэдкіх хмар, лінуліся на зямлю ручаіны яснага змроку, змяшаліся з белым туманам і загулялі ў дзікавясёлых скоках па звонкай вадзе. Паплавы прытаіліся слухаць гэтую бурную мелодыю зыкаў, а поле адгукнулася роўнымі песнямі. Усё ж разам мела ў сабе, нават і ў сваёй вясёласці, адзнакі глыбокай задуменасці, задуменасці дзікай зямлі і кустоў, на якой і сярод якіх спрадвеку прывык лічыць сябе вялікай сілай здаровы мельнік — Нічыпар Курыла.

Думкі Кірылкі пачалі плысці роўна аб полі, аб ветры,

аб мяшках з мукою, аб саўхозаўскіх плугах, якія трэба будзе заўтра памагаць кавалю правіць. І мянялася ўсё ў галаве павольна, як бы ад пачуцця, што жыццё будзе бясконца доўгім, яму канца-краю не відаць, і яшчэ многа чаго зробіцца, многа перадумаецца. І ўсё, што будзе, ёсць і робіцца,— мае свае прычыны і законы.

Кірылкавы думкі разагнаў звонкі рогат на другім паверсе млына. Кірылка пачуў голас мельнікавага хлапца; і яшчэ больш нечыя галасы загулі мацней, грунуў зноў зычны рогат, а пасля ўдвух хвацілі баявым матывам:

Мельнік меле і пытлюе,
Адвернецца й пацалуе,
Г'эх!

«Зноў, мусіць, ліха ім, пра мельнікава вяселле гавораць,— падумаў Кірылка.— Там весялей».

— Скарэй бы муку выграблі,— сказаў сам сабе Кірылка.

— Што кажаш?! — грунуў мельнік, падыходзячы да Кірылкі.

— Нічога. Так сабе, мука, кажу, вельмі марудна выграбаецца.

— Хто табе не дае спрытней выграбаць?

— А хто мне можа перашкодзіць?!

Мельнік упёрся ў бокі кулакамі і пайшоў зноў на ганак. Кірылка выграб муку і палез на гару к хлопцам. Было ў яго нецярплівае жаданне слухаць і рагатаць ад вясёлых гаворак.

Наверсе хлопцы сядзелі на пустых мяшках цеснаю кучаю. Было іх два — з вёскі, з-за ракі, а трэці — Міхась. Хлопцы чакалі, каб хутчэй малоць, і гаварылі з Міхасём аб ім і яго бацьку.

Кірылка доўга міргаў вачыма перад імі, тупаў на адным месцы, пакуль сеў, і думаў, што з яго зараз жа пачнуць смяяцца хлопцы. А тыя перавялі на яго вочы ды зноў загаварылі:

— Дык ён,— гаварыў Міхась, павольна расстаўляючы словы,— як толькі пачнецца раніца, дык і пачынае сваю гаворку каля мяне. Ужо два тыдні дыхнуць не дае — усё ўгаворвае мяне ісці ў прымы к Ільюкевічу. Усё думае — мяне тым саб'е, што там хутар багаты.

— К Ільюкевічу?! — умяшаўся Кірылка, а пасля, засаромеўшыся свайго, па-бабску танклявага, голасу, сціх

і заміргаў вочкамі. А пасля паківаў набок галавою ды сам сабе з захапленнем сказаў ціха:

— Гэта ж у Ільюкевіча адных авечак паўсотні будзе. Дурны, калі яшчэ не захоча ў прымы ісці.

— А ты што? — запытаў Міхася вясёлы голас.

— А я нічога. Згарыць ён няхай з сваім Іллюкевічам. Яму не патрэбен ні я, ні Ільюкевічавы прымы, а толькі хоча ён збыць мяне з дому, каб толькі не перашкодзіў ніхто яму зноў ажаніцца.

— І-і-і, чацвёрты раз?! — не выцерпеў Кірылка.— Значыць, ён у сабе яшчэ сілу чуе. Вось, значыць, даўнейшыя людзі якія!

— Ну, а цяперашнія? — са смехам запытаў адзін з хлапцоў.

— Што цяперашнія! — радасна адказаў Кірылка.— Цяпер у трыццаць год ужо не чалавек, а смаркач. Нашто вам што, у мяне ёсць кум каля Пясочнага, дык самая пара яму жыць, а ён дыхавічны і плюгавы. Была, значыць, такая справа. Паехаў ён, значыць, быў раз у гэтае, а там якраз салдат перагэтае. Ну ён сюды, туды, бачыць — ідзе к яму мундзер-афіцэр і гэтае.

— Ну, а як жа ты? — запытаў голас у Міхася, не слухаючы Кірылкі.

І Міхась пачаў гаварыць:

— А я думаю пакінуць бацькаўскі хутар, няхай ён праваліцца, няхай ён. Усё збірае, хоча ўвесь свет глынуць, а на чорта гэта чалавеку.

— Як то на чорта? — не выцерпеў Кірылка.

— Чорт яго бяры з усім,— гаварыў Міхась,— думаць толькі аб тым увесь век, што ты бачыш на тры крокі вакол сябе, закапацца ў авечкі ды складаць грошы чорт ведае нашто і каму.

— Эх ты, мазюр,— сказаў сам сабе пад нос Кірылка,— дабраў розуму. Ужо ён нешта лепшае ўведаў!

— Як толькі пачнецца дзень, дык і пачынаецца. У прымы выпраўляе, каб не перашкаджаў яму.

І раптам павысіўся ў Міхася голас, стаў непазнаваемы.

— Гэта ж пражыў я дваццаць год на свеце, тут, на хутары ў бацькі, і ніколі не было ў мяне здавальнення. Бацька абставіў сябе кадушкамі жыта і смяецца над усім светам, а мне хоць бы як вырвацца на той бок гэтых кадушак. Бацька яшчэ хоча пачаць гандляваць коньмі.

— А дзе ж ты дзенешся, калі пойдзеш ад бацькі?

— Зараз мяне возьмуць у войска,— панізіў голас Міхась.— Гэта ж увесь век так можа прайсці ў вечных думках, як бы гэта пабольш выцягнуць адусюль, як бы гэта прыбраць к рукам усякага, хто табе на вочы папэдзецца. А яшчэ як збяруцца ў доме да бацькі швагры ды кумы...

Раптам у Кірылкі шавяльнулася нешта ў грудзях.

«Вось спяваюць ветры на палях; па леташнім іржышчы слаўна ісці будзе дадому досвіткам, і будзе ўсё ў чалавека добра і радасна. А гэта тут жа ходзіць чалавек, тое ж самае слухае і бачыць, ды рвецца некуды. На адной зямлі неяк усё пляцецца, блытаецца...»

Тады Кірылка падняўся і захацеў гаварыць хлопцам пра тое, як ён ніколі нічога не меў, а заўсёды весела і лёгка хадзіць яму і палявымі дарогамі, і кладкамі цераз рэчку. Не стаіць у яго кадушак дома з жытам, а ён тут весела меле; там яго ўсе ганяюць...

Але і словы ў Кірылкі зблыталіся, і ён сказаў хлопцам:

— Але ж і вецер на дварэ ўсходжваецца. Гэта ж гэтак сіберна сцяна трашчыць. Мусіць, пачнуцца дажджы, цёпла вельмі ж.

Пасля пачуў голас Міхася:

— У арміі пагляджу свету і людзей.

— Ну, а ён такі праўда з гэтаю Ганнаю, бацька твой? — пачуўся голас.

— Праўда. Наняў быў, значыць, у найміткі, а гэта мяне ўжо выправіць к Ільюкевічу хоча, а сам ажаніцца.

— От, браткі, мацак! — сказаў Кірылка.

У яго ўжо прайшоў востры настрой і з'явіўся звычайны: смяяцца над усім смешным і сумаваць над усім сумным. А найчасцей рабіць выгляд, што ён гэтакі.

І разам зарагаталі хлопцы з Кірылкавых слоў. Ужо яны адчулі, што Міхась — хлапец іх, што калі ён прыйдзе да іх, яны яго там шчыра спаткаюць. З'явілася ў іх блізкасць да Міхася.

— Але Кірылка адразу скеміў, што твой бацька мацак. Як гэта ты, Кірылка, гэтак усё пазнаеш, дзе, што і да чаго?

— А мне што,— адказаў, трохі прыціхшы, Кірылка,— маё дзела — старана, я не мяшаюся ў чужыя справы. Я адно часам слова прыстаўлю. Я ж кажу — маё дзела цялячае.

Мацней затрашчала сцяна, і вецер прынёс аднекуль здалёк сабачы брэх ды галасы пеўняў. Кірылка зашпіліў каўнер і пайшоў уніз да мельніка. Хлопцы пачалі спускацца за ім. Ужо ім зноў хацелася спяваць, жартаваць з мельнікам або плысці па бурнай рэчцы проці вады.

Усё таксама роўна ўнізе гулі каменні, і мельнік, Нічыпар Курыла, узяўшыся ў бокі, хадзіў і моцна стукаў ботамі па старой падлозе. Твар у яго быў зусім чырвоны і трохі прыпухлы пад вачыма,— мусіць, ён толькі што адагнаў ад сябе дрымоту. Пасля ён стаў зноў над каменем і, як бы думаючы нешта лёгкае, дрымотнае, глядзеў, як камень круціўся ды зліваўся ў вачах у гладкае шэрае кола.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У млын прыбегла Ганна — круглая постаць і чорныя вочы. Ёй, мусіць, не спалася дома, або яна ўстала досвіткам з празмернай руплівасці. Як гаспадыня, агледзела яна цёмныя куткі ў млыне, агледзела хутка ды загойдала станам, ідучы да каменняў.

— Што ты, дзядзька,— міргнуў адным вокам хлапец, стаўшы каля мельніка,— пахаваў тры жонкі ды бярэш чацвёртую?

— Ну, а што, бярэ бог, бяру і я.

І сам засмяяўся мельнік разам з рогатам хлапцоў.

Ганна па-вінаватаму глянула на ўсіх і паволі пайшла на ганак.

— Як ты аб гэтым думаеш, Кірылка? — сказаў хлапец.

— Што ты ў мяне пытаеш, пытай у яго, маё дзела — старана.

І міргнуў Кірылка на мельніка, а мельнік ужо быў у дзвярах — выходзіў на ганак.

Міхась маўчаў на мяшках.

Голас у Кірылкі стаў смялейшым, як бы жартаўлівым трохі:

— Што ты, Міхась, думаеш тут. Табе — самы раз жаніцца, бачыш, бацька якім казаком зрабіўся.

— Давай яму раду, давай,— зарагаталі хлопцы.

— А што думаеце,— апраўдваўся Кірылка,— Іллюкевіча дачка — уг-га, дай божа на ўсякага добрага.

— А калі я яе не люблю,— хмура махнуў рукою Міхась.

— От, абы чалавек, я вам, браткі, скажу,— пачаў уваходзіць у ролю Кірылка,— як я быў маладым, дык (каб мне столькі здароўя, колькі я праўду кажу) што траплялася часам, як той казаў...

Боўтнула моцна вада пад падлогай і перарвала Кірылкавы словы. А пасля пачулася ціхая гаворка на ганку.

— Я яго выпраўлю ўсё роўна ў прымы, тады ўсё пойдзе як мае быць,— гаварыў мужчынскі голас.

— Дык нейк нядобра. Усё ж сын ён табе, а выходзіць, што ты зжываеш яго з роднага дома,— баязліва сказала жанчына.

— Што там сын; я яго не таплю, на згубу яго не вяду, а пускаю па чалавечай дарозе. Там жа, у прымах, будзе яму цэлы хутар, чаго яму яшчэ трэба. Я, што б там ні было, дамагуся гэтага.

Тады Кірылка ўбачыў, што ўсе ў млыне чулі гэта. Ён з урачыстым выглядам глянуў на ўсіх, падняўшы мнагазначна палец угору, як бы хочучы сказаць: «Той чалавек, што на ганку, мае вялікую жыццёвую практыку. І ўсякага можа пусціць па добрай дарозе. А разам з тым і сабе зробіць выгаду».

— Выводзяцца цяпер гэткія лоўкія людзі,— сказаў ён, памаўчаўшы.

Тады падняўся з мяшкоў Міхась — пануры і цёмны ад змроку. Падышоў ён бліжэй да дзвярэй і стаў.

І зноў загаварыў мужчына на ганку, ціха і рашуча:

— А там ён будзе на новым сваім хутары гаспадарыць, і наш хутар і яго будзе адна гаспадарка. Разам будзе, як маёнтак, а запісаны будзе на дваіх. Вось тут і падумай.

Міхась, ківаючыся ў бакі, падышоў да хлапцоў, глянуў на Кірылку, як бы шукаючы ў людзей спачування ці дапамогі. Пасля абышоў каменне, рашуча пайшоў на ганак.

— Няўжо ты, бацька, думаеш, што гэтак і будзе? — пачуўся голас Міхася, трохі заглушаны ветрам.

— А як жа іначай можа быць,— ужо не сказаў, а грунуў словамі бацька.

— Усяк іначай, толькі не гэтак!

— Толькі гэтак!

— Калі так, я сягоння саўсім пакідаю дом разам з тваімі хутарамі.

— Не дуры галавы, блазан!

Голас у Міхася стаў раптоўна праразлівым:

— Ты не дуры маёй, хто табе даў права нада мною...

Кірылка радасна пацёр рукамі, на пальчыках хутка пайшоў да дзвярэй і радасна азірнуўся на хлапцоў. Быў у яго такі выгляд, як бы ён адчуваў перад сабою вялікую ўцеху, якая напоўніць усё жыццё бяскрайняю лёгкасцю і шчасцем. Хлопцы спакойна пайшлі за Кірылкам.

— Дык дзе ты дзенешся, каму ты патрэбен; думаеш, цябе там недзе чакаюць? Такіх гультаёў, як ты, цяпер хоць равы масці.

У голасе мельніка адчуваўся спакой чалавека, упэўненага ў тым, што толькі ён адзін гаворыць і робіць усё як належыць.

— Я з табою больш гаварыць не хачу,— сказаў ужо штучна-спакойным голасам Міхась,— я не буду з табою жыць, калі ты гэтакі бацька.

— Дык што я табе, не бацька? Ты чуеш, што я табе кажу?

— Сабака брэша, вецер носіць,— адказаў Міхась і пайшоў з ганка.

Мельнік рвануўся наперад, схваціў Міхася за плечы і ўзвалок назад на ганак. Міхась ткнуў яго ў грудзі, і абодва замітусіліся на халодным і цёмным ганку. Хлопцы выскачылі на ганак, а Кірылка шмыгануў назад у млын.

«Трэба быць у баку ад усяго, а то яшчэ ў гэтую кашу ўмяшаюць»,— думаў ён.

— А божа ж мой! — крыкнула на ганку жанчына і ўбегла ў млын.

Убачыўшы яе цёмную постаць, Кірылка палез на гару.

Хутка на ганку ўсё сціхла. Міхась з хлопцамі пайшлі ў ясны змрок ранняга досвітку, а пад мельнікавымі нагамі цяжка заскрыпела старая падлога млына. Ён знайшоў у цёмным кутку заплаканую Ганну і пачаў ціха з ёю гаварыць.

— Чаго гэта на ганку вэрлах быў? — сказаў паціху Кірылка, сходзячы з гары.

— Чаму табе?!

— Так, мая справа — старана, я задрамаў быў трохі наверсе, а пасля чуў крык нейкі. Я думаў са сну, можа гэта што зламалася тут ці якая іншая бяда, ды хутчэй

давай злазіць наніз — можа памагчы што, думаю сабе, трэба.

— Ідзі ты к...! — крыкнуў хмурна мельнік.

— Дзень нахапіўся,— адказаў Кірылка,— а вы чаго злуеце?

І пайшоў выграбаць апошнюю муку. І стала зноў на душы ў яго спакойна і лёгка. Зноў прыпомніў ён саўхозаўскія плугі, сырыя межы на полі ды вецер над пустым полем.

Хутка выграб ён апошнюю муку, закруціў на шыі парваны шаль, кіўнуў мельніку галавою і пайшоў у саўхоз па фурманку. І ўжо думаў, што мельнік вялікі практык у жыцці.

«А Міхась?» — з'явілася раптам новая думка.

— Ат, што галава, то розум,— сказаў ужо моцна Кірылка ў адказ на гэтую сваю думку і махнуў рукою.

А пасля ўжо, узышоўшы на ржышча, несвядома адчуў, што ў Міхася праўда.

І ціха ішоў і слухаў, як за ім шумела рэчка, а ў саўхозе скрыпела студня ды пеўні спявалі.

# ЖАНОЧАЯ ПРАЎДА І МУЖЧЫНСКАЯ КРЫЎДА

## I

— Чаму ты, Тодар, не п'еш?

— Чаму ж не п'ю?! Што ты гэта, Сідор, вочы сапсаваў, што не бачыш, ці якое табе ліха? Я ж, дзякуй богу, п'ю, і яшчэ як сіберна п'ю!

— А чаму ж у бакі не гойдаешся?

— Бо ў мяне, значыць, нутро здаровае. У мяне нутро, як у вала рогі,— усё яно табе перагэтае. Я магу, браце Сідор, гарнец выцягнуць, і хоць бы што. Нашчот нутра, дык у мяне ого-го!.. Будзь здароў, Сідор!

— На здароўе!

— Ах, каб яе агні спяклі, каб яе! — паморшчыў твар Сідор, выцягнуўшы адначала з Тодарам шклянку.— Здаецца, не маладзіком гнаў падлу, а якая, ліха на яе, моцная, аж язык у самую шыбіню пайшоў! От бо, значыць, што да чаго вызначана, здаецца, глянуўшы, што тут такое ў ёй, можа быць вада вадою на пагляд, а якую, падла, моц мае!..

— Э, чудзіла ты,— адказаў Тодар,— ці гэткая моцная бывае! Вунь у Малых Прусах шляхціч Купрыян Сівацяробскі гоніць, дык хоць замест газы палі — далібог жа гарыць, а калі трохі хлебанеш, дык аж вочы на лоб лезуць, гэткую моц мае. У тую нядзелю, як у Фабіяна Падхвастовіча радзіны спраўлялі, дык Франц Парасяціч ад дзвюх чарак ракам стаў ды пападлавіччу цэлы дзень поўзаў. Так яго, небараку, забрала.

— Што ты кажаш? — радасна зацягнуў тоненька-хрыплым галаском Сідор.— От каб як гэта такое калі к святу выгнаць, от бы за мілую душу выпілі б. А-я-яй! Не спадобіў мяне бог быць такім майстрам. От бо бываюць механікі на свеце!

— Гэта ад прыроды талент да гэтага бывае,— ска-

заў Тодар.— Вунь у вёсцы Кабыляцічах у шаптупа Сабасцьяна Ракуціка хлапец мае ўсяго гадоў трынаццаць, не больш, а такую самагонку гоніць — за мілую душу.

— Што ты кажаш?!

— Яй-права... ну, давай яшчэ па чарцы сцебанем!..

— Давай!..

Яны «яшчэ сцебанулі па чарцы» і налілі яшчэ па аднон. У Сідора — гаспадара хаты — дробненькі і плюгавы твар зусім ужо счырванеў, пруткія, як дрот, віхрастыя і рыжыя валасы раскудлычыліся і рассыпаліся ва ўсе бакі, як шчэць на надворным япруку.

— Колькі гэта мы ўжо выпілі? — падаў галасок Сідор.

— Ды ўжо, здаецца, у трэцяй да дна дабіраемся.

— Я бо гляджу, што мне ўжо свет здаецца чорт ведае чым. Печ з комінам — абразамі здаецца, дзверы — засланкаю, а лава з гаршкамі — жонкаю...

— Хаця ўжо мяне не чапай,— абазвалася жонка Алена, мыючы каля дзвярэй міскі,— мала таго, што абы вочы прадраў, дык ужо за гэтую атруту бярэшся, дык яшчэ мяне памінаеш!..

— Маўчы,— запішчаў Сідор,— а то калі шыбану гэтым ботам, дык з цябе і духі вылезуць! Разумная знайшлася, бач ты яе! Вучыць мяне яна будзе! Я тут гаспадар, а ты ўсяго жонка і больш нічога! Так, Тодар, ці не?!

— Так,— адказаў Тодар,— жонку вучыць трэба, бо, вядома, бабская галава. Вунь як мая нябожчыца Марыля жыва была, дык я яе не так вучыў. Эх, як я яе вучы-ыў!..

— Каб не вучыў, то можа і цяпер яшчэ жыла б,— сказала ціха Алена.

— От, каб ёй зарвала! — зноў запішчаў Сідор.— Не можа памаўчаць ніяк, ды хто гэта тут гаворыць табе — мы ці сабакі брэшуць?!

— Калі ты, Сідор, станеш чалавекам? — загаварыла Алена.— Годзе ўжо смактаць гэтую злыбеду.

— Дык, значыць, па-твойму, я не чалавек? — выскачыў з-за стала Сідор.— Ах ты гадаўка, каб на цябе агні... Н-на! — і ён даў Алене па шыі.

Алена заплакала і ўцякла з хаты.

— Ты, браце Тодар, плюнь на ўсё гэта,— замармытаў зноў Сідор,— вядома, баба, давай яшчэ вып'ем, калі да меркі яшчэ не дабраў.

— Да меркі каб я дабраў?! — адказаў Тодар.— Я ж

кажу, у мяне нутро, як бочка і валовыя рогі — і вялікае і моцнае. Давай тры гарцы, я вып'ю і хоць бы што, камар носу не падточыць!

— Ну, трох гарцаў то ты не вып'еш, гэта ты ўжо, брат, выдумляеш!

— Не вып'ю я трох гарцаў?!.

— Не вып'еш!

— Вып'ю!!

— Не вып'еш, я табе кажу!

— Эх ты, мазюр свінячы!

— Хто, я мазюр?!. Сам ты мазюр!

— Ах, трасца ж тваёй мацеры! — ускіпеў Тодар усхватваючыся.— Зараз я табе пакажу мазюра, я табе зараз пакажу такога мазюра, што ў цябе ў вачах змазюрыцца!..

— Не лішне я спалохаўся,— гукнуў Сідор, адскочыўшы ад стала і хватаючы бутэльку,— калі што якое, дык калі лупяну гэтаю бутэлькаю, дык адно чарапы з яе ў патыліцу паўлазяць!

— Ты яшчэ апраўдвацца?! — зароў Тодар, хватаючы шклянку з недапітаю самагонкаю.— Маўчы, бо калі ліну ў рыла, дык вочы высмалю!..

— Ну лінь жа, папробуй!

— Н-на! — ухнуў Тодар, бэўтнуўшы Сідору ў твар.

Сідор, і без гэтага п'яны, закруціўся на адным месцы, як верацяно, абціраючы рукавамі твар.

— Гвалт, людзі, ратуйце! — закрычаў ён немым голасам.— Вачэй чуць не высмаліў!..

— Я табе пакажу мазюр! — весела абазваўся Тодар і шмыгануў скоранька з хаты, чуць не пакаціўшыся на парозе ад моцнага хмелю ў галаве.

## II

Сідаравай дзяўчынцы Насці трынаццаць год... Прынесла яна раз у хату газету аднекуль, а Сідор зразу з бацькаўскім словам:

— От маладзец, дачушка, для бацькі курыць паперы прыстаралася. Дай, адно, сюды газеціну.

— Ай,— адказала Насця,— як давалі мне, дык казалі, каб прачытала.

— Я табе прачытаю! — тупнуў нагою Сідор.— Малае вашанё, а ўжо газеты чытаць збіраецца. Давай сюды! Можа яшчэ ў канцамолы запішашся?!

— Няхай пачытае,— сказала Алена,— чаго ты прыстаеш да яе. Быў бы рад, што хоць чытаць навучылася...

— Я з газеты хлеба есці не буду,— гукнуў Сідор.

Насця з плачам кінулася з хаты. Маці выйшла за ёю.

— Дзе ты ўзяла газету? — запытала яна.

— Там раздавалі ў школе, з горада прывезлі.

— Ну, пачытай.

Насця пачала паволі чытаць, і зацікавілася газетаю Алена.

— Ну, канчайце чытаць ды давайце мне,— сказаў Сідор, выходзячы на ганак і ўжо трохі паспакайнеўшы.

— Я яе схаваю,— адказала Алена.

— Схаваеш?! Яшчэ ўздумала, будучы бабаю, з газетамі справу мець!

— А што, баба не чалавек хіба, ці што?

— Баба не чалавек, а жонка чалавеку,— сказаў упэўнена Сідор.— Давай газету!

— Эх ты, дурань,— загаварыла Алена,— паглядзі на сябе, ці хаця ты чалавек. Дзень пры дні ў самагонцы мокнеш, звязаўшыся з гэтым п'янчугаю Тодарам, лаешся, усё ў цябе загэтым з рук валіцца, а ты ўсё не чалавекам мяне лічыш за маю ціхасць ды бабскую слабасць.

— Пачакай, я табе пакажу тваё бабскае права, я яго табе з галавы выб'ю.

І пайшоў Сідор да Тодара мірыцца за чаркаю самагонкі.

— От жыццё, каб яно згарэла,— сказала Алена, заплакаўшы.

— Там гаварылі, што тут напісана і аб жанчынах,— сказала Насця і, пакапаўшыся ў газетных карэспандэнцыях, пачала чытаць аб жанаддзеле, дэлегатках... Аб тым, як у адной вёсцы старшыня сельсавета — жанчына.

«От,— думала Алена,— гэта ж так цяпер жанчына пайшла ўгору, а мы тут жывем у такой дзікасці».

Тады пайшла Алена ў школу, прынесла сама некалькі газет, заставіла Насцю чытаць іх, а сама ўсё аб нечым думала...

Вечарам п'яны Сідор зноў буяніў у хаце, зноў прыйшлося Алене плакаць, а Насця ціхенька сядзела на печы і баялася абазвацца.

III

— Да чаго ты, Сідор, дапусціў жонку сваю,— сказаў Тодар, чухаючы бараду, з хітрай усмешкай паглядаючы на Сідора.

Сідор вінавата ўхмыльнууся, усунуў рукі ў кішэні і, засаромеўшыся, адказаў:

— Братка, не магу рады даць. Нейкі, браце, жанаддзел уведала — там яе і абарона. Раз дык я калі захадзіўся — хацеў, значыць, адвучыць яе ад гэтых бабскіх правоў, а яна, значыць, часта прыязджае, дык яна мне калі сказала такое слова, што ў мяне злосць прайшла, а з'явілася кроўная крыўда. Ты, кажа, дзядзька, павінен жонку сваю шанаваць і, калі дурнейшы за яе, дык у яе вучыцца, як жыць на свеце. А то, кажа, калі будзеш хоць крычаць на жонку, дык бяда будзе,— мы цяпер, кажа, бабы, сталі баявым народам.

— Дурны ты,— закрычаў Тодар, не даслухаўшы яшчэ да канца,— ды ты ведаеш, што табе трэба было рабіць: табе трэба было не слухаць гэтае гадаўкі, а боўтнуць ёй па карку, каб ведала, як з сталымі мужчынамі заводзіцца. А ты маўчаў, як цялё... Ды ежалі б гэта на мяне такое здарэнне, дык я калі трахнуў бы ёй, дык яна б у мяне нагамі накрылася...

— Я пасля вечарам за гэта жонку адлупцаваў,— пастараўся апраўдацца Сідор.

— Жонка жонкаю, а тая сучка таксама павінна была сухою не выйсці з твае хаты. Гэта жартачкі — твая ўласная жонка абароны шукае недзе за хатаю ад свайго мужыка. Ах, каб цябе ж агні спяклі, такую работу!.. Хадзем хіба, Сідор, вып'ем за тую крыўду ці якое нам ліха.

— Хадзем, братка,— ціха адказаў Сідор, пасмактваючы свае рыжанькія вусікі.

Хутка за імі ляпнулі дзверы Тодаравай хаты, а праз паўгадзіны Сідор выйшаў на вуліцу, звесіўшы ўскудлачаную галаву і абціраючы пальцамі пад носам. Ківаючыся ў бакі, ён ледзьве дабраўся да свае прызбы, зваліўся на яе і ўсё лаянкаю адганяў мух, якія ўсмакавалі яго мокрыя вусы і губы і, як пчолы на ліпу, ліплі на іх.

— Дзядзька Сідор,— крычалі малыя хлопцы,— у вас мухі ўжо верхнюю губу ад'елі ды ўжо за ніжнюю бяруцца.

— Р-р-раз-з-зайдзісь, нар-р-род! — піпчаў Сідор, пад-

німаючы голаў.— Тут вам не жанаддзел, а сталы мужчына аддыхае.

Хлопцы пачыналі рагатаць, а Сідор весела падміргваў падгніўшаму слупу, на якім некалі трымаліся вароты яго двара.

Хутка каля яго сабралася грамада народу — было нейкае свята, і людзі мелі час.

Алена завяла Сідора ў хату, а ён, трохі працверазіўшыся, усё лупаў вачыма ды крычаў, каб яму аддалі курыць усе газеты, якія ў Алены і Насці былі ў хаце.

Вечарам, зусім працверазіўшыся, Сідор, звесіўшы галаў, слухаў, як малыя хлопцы — «падшывальцы» — дражніліся з ім каля акна за п'янае здарэнне на прызбе.

— А што, дабраў да меркі,— пачала гаварыць Алена,— нават дзеці малыя на смех паднімаюць. От табе твая і галава тая вельмі разумная. У сваёй хаце дык ты вельмі разумны, а ў людзях — дык бачыш што. А калі я хачу жыць па-людску, выбірацца на лепшую дарогу, дык ты гвалт паднімаеш. І сям'ю сваю мучыш і сябе...

І тады нешта пачало скрабці за нутро ў Сідора. Ён апусціў вочы і пайшоў у гумно спаць.

## IV

З той самай вясны ўсё іначай пайшло ў Сідаравай хаце. Раз у тыдзень, нядзелямі, Алена хадзіла ў школу вучыцца грамаце і к лету ўжо пачынала патроху разбіраць кніжкі.

Нейкі як бы парадак з'яўляўся ва ўсім. Варочаўся ён позна з поля, адчуваючы, што дома чакае яго ціхі адпачынак пасля цяжкай працы, і неяк больш прыемнаю яму стала свая сям'я, хата пачала здавацца больш прытульнаю.

А то часам зноў ён пачынаў крычаць без патрэбы на Алену і Насцю; тыя сыходзілі з хаты, і ён цягнуўся к суседу Тодару выпіць і паскардзіцца на сваё горкае жыццё.

— А гэта ўсё ад таго, што баба твая стала вельмі ўжо разумнаю,— гаварыў Тодар,— я табе казаў, не давай ты ёй волі, згубіць яна цябе. А што, не на маё выйшла?

— А чорт яго ведае,— махаў рукою Сідор, блытаючыся ў думках,— тым часам не магу разабрацца, што і к чаму.

— Чаму то ты раней мог ва ўсім разбірацца,— крычаў Тодар,— сапсаваўся ты, брат.

Нешта зноў пачынала рабіцца ў думках і пачуццях Сідора, і ён ішоў дадому і маўчаў ужо цэлы вечар.

А Алена ўсё больш і больш пачынала чытаць кніжкі, разам з Насцяю хадзіла заўсёды на сходы, а адзін раз, у нядзелю, пад вечар папрасіў яе Сідор, каб яна пачытала яму што-небудзь.

Засеяныя шчыраю рукою палі вакол вёскі роўна зелянелі маладымі ўсходамі. У дзень адпачынку па іх межах сям-там хадзілі людзі, аглядаючы свае засевы. Усходы часам былі чыстыя, а часам папалам з пырнікам выглядалі яны ды чарнелі пустатою зямлі каля шырокіх меж.

Была тады ўжо ў вёсцы думка — зусім знішчаць межы і вузкія палосы. І ўся вёска часта ўспамінала, як гэтую думку першымі пусцілі бабы.

Шчыра апрацаваныя палі рыхтавалі к лету ўраджай і радавалі людское вока.

У вёсцы было ясна ад сонца і шумна ад людзей. Сядзелі людзі на прызбах, адпачывалі пасля тыднёвай працы. Дзеці бегалі па вуліцы, паднімаючы пыл.

Вялікая грамада людзей была ў канцы вуліцы. Сядзелі і стаялі цесна і ціха.

На бярвеннях дзерава сядзелі жанчыны і дзяўчаты. Алена чытала там моцна газету. Цеснай сцяною ўсе стаялі вакол. А збоку стаяў Сідор і радасна слухаў.

# ДЗЯДЗЬКІ ПОПЛАЎ МЕРАЮЦЬ

Максім Брадэцкі генеральскім паглядам акінуў паплавы, што маўчалі ў асенніх туманах, і, нагнуўшыся, пачаў закасваць шарачковыя порткі. Калошы былі мокрыя і пруткія, як бляха, і цяжка было іх закасваць; ад гэтай цяжкасці валасаты твар расплываўся, сцягваўся і крывіўся набок, а вочы проста глядзелі на Мікалая Ветра, што стаяў напроці і, спяшаючы, выкалупваў нешта з носа.

— Дык, значыцца, ты заяўляеш, што я на паўтары сажні заняў твайго поплаву, ты заяўляеш? — сказаў Максім, падкасаўшы порткі.— Аг-га, калі ты заяўляеш!

— Тут ніякага «ага» няма і быць не можа,— адказаў Мікалай,— тут табе ўсякі дурань скажа, што на паўтары сажні майго поплаву ў цябе.

— Та-а-ак!.. То, значыць, я, па-твойму, злодзей, значыць, па-твойму? Гавар-ры!

— ?!!

— Аг-га! Калі я, значыцца, злодзей, то зараз жа дакажы, што я калі і ў каго ўкраў, зараз жа дакажы, калі я, значыцца, злодзей! Ты не дакажаш, а я табе магу сведкі прыставіць, пра твайго, значыць, дзядзьку... І калі ты хочаш ведаць, дык гэта ты ў мяне на тры сажні ў поплаў залез, бачыш, куды ты палікі пазабіваў? Калі ты хочаш ведаць!.. Дай закурыць.

Вецер паволі дастае з кішэні капшук, і абодва закурваюць. Закурыўшы, Брадэцкі зноў пачынае:

— Падкасваўся я недарэмна, не для таго, каб тут гаварыць з табою, хадзем, будзем мерацъ.

— Хадзем, будзем мераць.

Яны ўдвух ідуць па мокрым поплаве; вада пырскае ўгору між пальцаў, а перад імі ўзлятаюць з кустоў патурбаваныя вароны.

— Сытыя, на іх ліха, якія ўвосень,— глыбакадумна выказвае сваю ўпэўненасць Максім.

— А што,— адказвае весела Мікалай,— цяпер ім харчу па горла, вунь у Юрася ўсю арабіну за гэтыя дні абклявалі, каб на іх дохлая.

— Ну, а што, хто ў каго перамераў?!

Хлопцы, што заводзілі за гліншча коні, цяпер ідуць назад...

Голас у Мікалая поўны скаргі, але вясёлы ад упэўненасці, што яго праўда:

— На паўтары сажні, браткі мае!

— На тры сажні якраз майго заняў; летам як касілі, тады я яшчэ сцярпеў, а гэта трэба палікі перабіць.

— Як жа вы ведаеце, што на паўтары сажні або на тры?

— Як то каб не ведаць?!. Тут кінь вокам, дык, як той казаў, усё як на далоні!

Дзядзькі ходзяць, ляпаюць нагамі па макраце, а хлопцы садзяцца каля кустоў курыць ды глядзяць.

Пахадзіўшы трохі, дзядзькі ідуць назад, разам закурваюць у хлопцаў і садзяцца супачываць.

Дзьме вецер, ды мокры, і не сушыць ён у дзядзькоў парток, толькі камечыць бараду Максіма Брадэцкага ды разносіць па кустах яго хрыпла-павольны голас:

— Тут, значыць, на адну ляйчыну з гакам перабрана.

— Няхай у таго жывот адбярэ, хто ў каго адабраў,— даводзіць Мікалай, моцна зацягваючыся чорным ад тоўстае паперкі дымам.

— На ляйчыну з гакам, я ж кажу!

— Ляйчына бывае ўсякая.

— Усякая, усякая! — усхватваецца раптам Максім.— Ён ужо ляйчыну ўведаў, што яна ўсякая бывае; ды ў мяне лейцы ўжо другі год адны, як звіў тым летам, дык яшчэ на зіму будзе. А ён — уся-я-я-кая! Ён ужо лейцы ўведаў! Усё роўна, як бы гэта я чужога хачу.

— І я чужога не хачу! Не трэба мне чужое.

— Ах, якія вы абодва справядлівыя людзі.

Дзядзькі і вухам не вядуць насмешлівых слоў хлапца, ды зноў паднімаюцца і ўглядаюцца ў поплаў, дзе няроўна тырчаць на зялёнай роўнасці да часу пабітыя палікі. На адной сядзіць варона і, падтуліўшы мокры хвост, весела крычыць.

— А каб на цябе ўпадкі,— кідае Максім па яе ней-

каю ламачынаю,— гра-аа! Раззявіла горла, каб яно табе запухла. Якое табе ліха адходзіць!..

Варона нехаця адлятае трохі назад, садзіцца на зямлю і зноў весела крычыць.

— Тфу! — злуе Максім і зноў ідзе «адброджваць» мяжу поплаву.

Хлопцы паднімаюцца і аглядаюць усю гэтую работу.

— Самае важнае,— гаворыць адзін,— дык гэта не трэба гарачыцца; от, усё паволі зробіцца, перамераецца, граніца знойдзецца, і тады можна будзе ісці дадому.

Ззаду чуецца рогат, і хлопцы адыходзяць.

Дзядзькі зноў вылазяць на сухое к кустам і глыбакадумна маўчаць. Падыходзіць Кірыла Грак, што насіў у Шастакі тры рублі задатку на стары свіронак, які мельнік Змітрок Чаркас маецца прадаваць па калядах. Грак бярэцца ў бокі і, даведаўшыся, у чым справа, пачынае даводзіць, што якраз такі выпадак быў «яшчэ за старым нажымам» у панамара Калістрата з дзяком. «Два дні мы мералі, а на трэці скасілі разам ды пасля падзялілі сенам».

— Толькі я вам так рабіць не раю,— дадае на канцы Кірыла,— найлепш цяпер жа вырашыць справу на месцы. А то пасля пачнецца цяганіна, бо пачне заходзіць даўнасць, а гэта на свежую руку вы падганеце справу да канца, і дзела кончана, калі вы хочаце ведаць.

Кірыла весела садзіцца пад куст, па звычаю закурвае і дае закурваць Максіму з Мікалаем. Курачы, садзяцца і яны, і гаворка перакідаецца на табаку, пасля з табакі на каноплі, што вераб'і ў Кірылы паклявалі, з канапель на грэчку, якую дзякавы свінні былі стравілі Мікалаю Аднавокаму. А пасля пачалі гаварыць аб драбінах, аб здохлым Карасёвым кані, аб шастакоўскім мельніку, у якога дачка ўцякла з камуністам у горад...

Пераваліла поўдзень. Пачало выясніцца, гусцей дзьмуў вецер, і весялей закрычалі вароны.

— От, жабы ўжо ніводнае нідзе не відно,— сказаў Кірыла.

— Позна ўжо, каторая пара,— адказаў Мікалай, падбіраючы пад сябе ногі.

— Восень,— глыбакадумна падаў голас Максім Брадзецкі.

* * *

— Дзядзечка, ці не бачылі тут чорнае каровы? — пачуўся раптам звонкі і порсткі галасок.

Перад дзядзькамі стаялі два хлапчукі.

— А дзе вы яе згубілі? — падаў голас Кірыла.

— Гэта яна, дзядзечка, бегае, дык мы яе да дзяка гналі, а яна ўцякла.

— Да дзяка?!

— Але, да дзяка, бо ў дзяка бык заводскі.

— Ага, а то я гляджу, што за ліха.

— Не, тут не было яе. Можа хіба кустамі да рэчкі пабегла, але ж чутно было б, тут блізка,— сказаў Максім.

Хлапчукі пабеглі, і дзядзькі падняліся. Кірыла паішоў паволі цераз кусты, а Максім упэўнена сказаў:

— Няхай той есці не хоча, хто хоча чужога. Мяне сын угаварваў раніцою: не ідзі ты, кажа, бацька, нашто час траціць, некалі вясною будзе відно. Але я праўду люблю.

— Твой сын у канцамолах, добра яму і гаварыць.

— То чаго ты злуеш? Няхай твой сын будзе хоць у камуністах.

— Няма ў мяне сыноў.

— Ну, то што я вінават?

— Які цябе чорт вінаваціць!..

За кустамі відна была вёска. Плылі над паплавамі хмары, і зноў цямней стала. Канчаўся дзень.

Дзядзькі павысморквалі насы і палезлі мерадь поплаў.

І весела абвяваў іх слаўны асенні вецярок.

#1003377 8291

## ГАВОРКА ЎНОЧЫ Ў ДАРОЗЕ

— Тпр-р-р!..
— Што там?
— Гужы ад'ехалі.
— Чаго ж яны?
— Хамуціна лопнула.
— Ну?!
— Яй-права. Як выязджалі, дык, ліха ёй, тады ўжо ледзьве ліпела... Тпр-р-р, не ўстоіш!.. На, патрымай лейцы, а я злезу папраўлю... Няхай яна згарыць нечага, гэткая работа; дзе коратка, там і рвецца... Жывот баліць...
— Дык чаго ж ты палез, калі табе жывот баліць, то ідзі сядзь — я папраўлю.
— От, я і сам папраўлю; жывот ужо, можна сказаць, перабалеў, пакідае ўжо.
— То гэта ён табе ўвесь час балеў, а ты сядзеў ды маўчаў!..
— А што я, крычаць на ўвесь гэты лес павінен, ці што?
— Ты хоць бы мне сказаў!
— Ну, то што ты мне паможаш! Што ты — доктар?! Тут і доктар, каб прыйшлося, пакуль рады дасць, дык галаву скруціць.
— Чаму?
— А таму, што ў мяне гэты жывот вельмі ж сіберна сорваны.
— То ён у цябе сорваны?
— А ты думаў які?! Сорваны.
— Як жа ты яго сарваў?
— От дзіва ўгледзеў, што чалавек жывот сарваў. Ці гэта, я ж кажу, дзіва?! Як новыя падрубы ў сваю старую хату падкладаў, дык бервяно падняў — от табе і ўся музыка!

— Як жа ты робіш?

— Рабл-лю, уг-га! Калі з раз на тыдзень або два і пакачаюся жыватом, дык нічога ж, чалавек, не парадзіш. На тое ён і сорваны, каб з ім качацца. А раблю — ручніком перавяжу яго, перацісну, дык ён і нічога, маўчыць... Тпр-р-р!.. Мухі ж, здаецца, не сякуць, што ўстояць, падла, не можа; дай хамуціну перакруціць!.. Дык так і раблю. А калі, бывае, з'ем што-небудзь цяжкае, дык тады, праўда, калі схваціць ён мяне, гэты самы жывот, дык, здаецца, на свеце не жыў бы. Енчыш-енчыш, качаешся-качаешся, няма горшае пакуты, няхай яно нікому добраму. Каб тады, здаецца, хто сказаў: «От табе смерць», дык падзякаваў бы яму за гэта: так пакутаваць даводзіцца.

— Ты дурны, я табе скажу.

— Чаму?

— Яшчэ і чаму! Таму, што дактары цяпер табе гэты твой жывот так могуць вырабіць, што не пазнаеш — той гэта самы жывот, што мучыў цябе, ці другі; ніколі ён не забаліць тады табе, як бык будзеш здароў.

— Я гэта і без цябе ведаю, што ты мне гаворыш.

— Ну дык чаго ж ты?

— Чаго?

— У больніцу чаму, кажу, не кладзешся?

— Баюся.

— Чаго ты баішся?

— Страшна нейк, ліха на яго. А як не вытрымаю гэтае рапарацы?

— От д-дурны! То кажа, калі схваціць, дык усякаму за смерць падзякаваў бы, а гэта баіцца, калі яго правіць будуць.

— Мала што тады кажаш. Гэта толькі кажаш. Што ў свеце лепш за жыццё? Чым ты яго падменіш?

— Здаровы жывот — гэта ж жыццё!

— Я гэта і без цябе ведаю... Каму ты гаворыш!

— Ну дык чаго ж ты?

— Нічога, а толькі вось страшна. Ну, а што, калі яны мяне зарэжуць, рапарацу робячы. Тады што?

— Які цябе чорт зарэжа! Цяпер нікога яшчэ не зарэзалі, гэтакія жываты, як у цябе, правячы.

— Але я цябе пытаю, як зарэжуць, тады што?

— Ну, нічога, прыстаў, як смала. Калі зарэжуць, то будзеш зарэзаны... Але я табе кажу, што не зарэжуць, а

жывот гэты твой зробяць, што будзе не жывот, а лялька.

— Але як заржуць; непрывычнае, браце, дзела, няхай яно згарыць!

— Хто цябе будзе рэзаць, дурны ты!

— Ну, добра, добра. Я ж нічога... Пацягні к сабе правую ляйчыну.

— Ну?!

— О так, о!.. Пуга ў цябе? А-а-ха-г-ха-а-а-г-г... Кхэ, кхэ!.. Кашаль нейкі сіберны, нялюдскі!.. Ужо з паўгода душыць, рады няма. Мусіць коклюш ці якое ліха.

— То чаму ты не лечышся?

— А ч-чорт яго, можа сам пройдзе.

— А б-братка ж ты мой, ды які ж ты дурны, ты ж сам сябе губіш гэтымі сваімі хваробамі...

— Я не кажу, што я лішне разумны.

— Гы-гы-гы-гы...

— Чаго ты рагочаш?

— Гы-гы-гы-гы...

— ...Гужы дзёгцем у нос даюць — нядаўна я іх вымазаў... Но, пайшоў!

— Чаго ты гэтак пагнаў адразу, дай хоць агледзецца, ці гэта гэтак ляцяць на зламанне шыі? Да дня даедзем.

— Ды яно даедзем.

— І жывот некалі на ляльку вырабім... гы-гы-гы!..

— От табе смех, чорт цябе ведае чаго!

— Ды мне не смешна.

— То чаго ты рагочаш?

— А што, не можна парагатаць?! Ты думаеш, калі хто рагоча, дык гэта яму заўсёды смешна?!

— Но, малы. Эй, фюйць!..

— Не гані, вельмі ж драбіны трасе па гэтых карчах.

— А чорт яго ведае. Вельмі ж не люблю язды гэтакае, калі конь ледзьве ногі перасоўвае. Усё роўна, як галодны ваду п'е.

— А чаго ляцець, канечне, задраўшы хвост... Д-дай закурыць.

— На.

— Дажджы праходзяць. На аўсы, значыцца... ах... любата!

— Но!..

Ехалі па лясной вільготнай і цёмнай дарозе. Драбіны падляталі ўгору на ламаччы і карэннях і моцна пахла вясёлаю цвіллю лясных размахаў...

Выехалі з лесу, і ў палях плыў ясны змрок, уставалі цёмныя абрысы кустоў, веялі лагчыны дзікім размахам і застаўлялі думаць, што тут у куп'ях дрэмлюць птушкі.

Маўчала трава ў веснавых слёзах...

* * *

Лягу я на зямныя дарогі — колькі па іх прапаўзло і прайшло істотаў. І колькі яны праняслі па гэтых дарогах суму і радасці!..

Абніму я зямныя дарогі.

# ВОСЕНЬ І РАДАСЦЬ

*(Настроі)*

З яшчэ нядаўніх часоў свайго маленства я памятую хмурную восень.

Плакалі вятры ў туманных лагчынах і разносілі па вільготнай зямлі глыбокія зыкі родных лясоў ды вострыя песні высахшых меж.

І хмары хадзілі,
і сонца свяціла,
і пад золатам халоднай ясноты ціха ляжала ралля.

Кружыліся вароны па ветры, з-пад бараны мае клявалі зерня і крычалі — так нейк крычалі,—
што пачало мне здавацца:
Ці не адчулі гэта яны сваю мяжу жыцця і смерці,
бо ішла зіма.

Усё дзьмуў вецер і — усё грэліся пры агнях пастушкі.

Плакаў ад ветру сляпы конь, уставіўшы голаў у высахшы быльнік, і з замілаваннем вялікім глядзеў на яго брат мой — хлапчына малы, з рассечаным некалі тварам у бясконцай рабоце, што з самых маленькіх дзён ужо спаткала яго —
гэта сеялі жыта.

А ляцелі над полем у вырай зімовы балотныя птушкі:
— Пі-пі, пі-пі!
Гнаў вецер і іх, і гэтыя іх галасы.
Нёс іх.

І нёс яшчэ гулкія звоны ржавага дроту, што цягнуўся над полем па шэрых, падгніўшых слупах.

Дзе там пачуць гэты звон пустога жалеза, калі жывых звонаў не перачуць, не праслухаць?!

І далася птушка жоўтымі грудзьмі ў звінючы дрот:
— Пі-пі!..

Крыкнула яна з халоднай зямлі да сваіх, кінулася была за імі — але пацякла раптам кроў з-пад крыла.

Ужо прыбег да яе брат мой — хлапчына малы, прылажыў хустку да яе крыла, а яна ўсё крычала:

— Пі-пі, пі-пі!..

І тады з другога загона прыйшла жанчына.

Твар у яе быў жоўты і вялы ад жыцця, мерзлі ёй ад асенняй зямлі босыя ногі, хавала яна рукі ў рукавы халоднай адзежы

і ўсё стаяла,
і ўсё маўчала,
і ўсё глядзела на птушку ды на сына-хлапчыну.
І раптам пацяклі па яе
слаўным,
незабываемым,
бясконца дарагім,
ніколі і нікім не намалёваным,
нявыказаным
твары — пякучыя слёзы.
Слёзы маткі.
Сілу ж іх хто выявіць?!
Гэта была наша маці...
І тады мне зрабілася ясна:
Гэта ж плача яна не над птушкай.
Гэта ж бунт вялікі паднялі ў ёй пачуцці.
Бунт:
Што шэрыя дні вельмі ж халодныя,
Што вельмі ж босаму холадна ў ногі,
Што вельмі ж грудзі баляць ад няма чым затуліць іх ад ветру,
Што падаюць на зямлю пакутніцы-птушкі,
Што даводзіцца мучыцца ад вастраты пачуццяў.
І чаму не насмеў тады я стаць перад ёй на калені?
Але ж хіба ты прыметны, з усім сваім, перад вялікасцю?..

Якраз тры дні было да зімы.

Тры дні змагалася сонца з хмарамі, тры дні спявалі вятры глыбокія песні і тры дні ў хаце на асвечаным асеннім сонцам акне крычала пакутніца-птушка:

— Пі-пі, пі-пі!

І ўсё плакала жанчына.

Плакала часам і не слязьмі, ды пачуццямі.

Але ж хіба прыметны ты, з усім сваім, перад вялікасцю?

* * *

І сягоння восень.

Як я змрокам дзён прыходжу дадому, чую, як за акном падаюць жоўтыя лісты.

Яны шумяць пад нагамі.

І, як бы на высокую гару, да мяне даходзіць рытмічны гул горада,

і глыбокі звон, і пусты звон, і родныя гаворкі людзей.

І гулкія песні асенняга ветру ў шырокіх палях, над золатам радасных хат...

Пахне трава, малая і пажоўклая, на межах ды выганах.

Ходзяць коні па голых паплавах; і зноў чую я, як радасна грыміць жалеза.

І раптам ускінецца бунт непакойных пачуццяў:

— Гэта ж тры аршыны пяску ляжыць на грудзях той вялікай жанчыны, што некалі, увосень, плакала аб усім —

над раненай птушкай

на халоднай раллі...

Кіпіць бунт і адыходзіць.

І зноў пачуцці растуць.

І думаю я:

«Можа яшчэ дзе і сястра цяпер плача, або брат чаго спахмурнеў...»

І яшчэ я думаю

і адчуваю:

«Хутчэй жа выплаквайце свае апошнія слёзы, каб нават і след іх не схмурыў новай радасці —

што расце,

што ўзнялася,

што ўжо красаваць пачынае...»

І раптам устае перад вачыма маімі вобраз той вялікай жанчыны:

Яна смяецца ціха і ясна,

смяецца дзецям сваім, што ахвацілі шырынёю зямлю.

І бачу я ясноту зямлі.

Новае сонца...

* * *

Вечар ложыцца на зямлю за акном.

У звонкай цішы я слухаю мелодыю:

Падаюць за акном лісты, спявае над імі вецер вясёлыя

песні, нясе ён звоны горада ў родную шыр — іржышча, раллі, паплавоў ды лясоў.

А там пад ім коні трасуць касматымі грывамі, у вырай птушкі ляцяць і водгуллем гулкім лясы аддаюць свету вялікія звоны гэтай мелодыі,

мелодыі радаснай,
мелодыі вялікай,
мелодыі новай —

і глыбокай ад таго, што паднялася яна на зямлі, некалі аблітай пякучымі слязьмі вялікай жанчыны — пакутніцы-маткі.

Восень.
Вечар.
І ціш.
Шырыцца мелодыя.
На двары,
за акном,
падаюць лісты.

# ВЕЧАР.

## I

Віктар Зеніч самым адвячоркам прыйшоў дадому з работы і сеў адпачываць — узлёг на стол і маўчаў.

Зусім ціха канчаўся дзень — так, як і ўсё робіцца ўвосень: менш звінючай вясёласці і больш ціхай радасці. З акна відны былі жоўтыя ад лістоў, напалову голыя галіны вішань, а за імі густа-зялёнае неба, з белым колерам угары і ружовае нізка, дзе за нейкімі чорнымі абрысамі падыходзіла да яго роўнасць зямлі — была яна відна далёка за пустым пляцам напроці скрозь рэдкія дрэвы. А па баках то панура, то весела думалі нешта домікі і хаты.

Плыў з шырыні вецер, радасны і лёгкі, і нёс вольнасць поля ў горад, а камяніцы, што недзе там, трохі далей, на гары, заціхалі на ноч, спынялі свае грымучыя гімны. А ў людзях рабілася звычайнае, вялікае і неабдымнае — людзі жылі, імкнуліся да радасці, баронячыся ад смутку...

На дварэ плылі, спляталіся зыкі, а ў пакоі было цішэй, яны глуха сюды далятали, і лёгка было тут думаць у змроку.

Дом быў вялікі, дзеравяны, было ў ім многа кватэр, і многа жыло ў ім людзей. І з'яўляліся самі па сабе думкі, што каб гэтыя старыя сцены маглі раптам загаварыць, яны б многа сказалі чалавеку аб ім самім — так многа яны бачылі таямніц людскога жыцця; тады, пачуўшы аб сабе праўду, чалавек можа хутчэй адкінуў бы ад сябе ўсё паскудства, што ўрасло ў яго з самых цёмных далей вякоў і, будучы часам нават малым, псуе вялікае хараство чалавека.

Гусцілася вячэрняя ціш. А можа, гэта вячэрнія зыкі здаваліся цішынёю... І ўсё весялей было сядзець і маўчаць, адчуваць, глядзець і слухаць. Ды яшчэ было жаданне непрыкметна душой увайсці ва ўсе таямніцы, што ў

жывых істотах захаваны, увайсці ласкава і ціха, з чыстымі думкамі і адчуваннямі, і ў гэтым была б радасць.

Ціш, ці то гэта зыкі, сталі здавацца нейкай мелодыяй. Віктар Зеніч сядзеў і маўчаў...

— Ведаеш што, жонка,— пачуўся раптам грубы і шырокі голас за сцяной, у суседняй кватэры.

— А што? — адказала нервовым голасам жанчына.

— Каб на яе ўпадкі, каза ў хляве ўгразла,— зноў сказаў мужчына.

— Ну?! — перапалохалася жанчына.— То чаму ж ты выцягаць не ідзеш?

Пачуўся грубы рогат і пасля зноў словы:

— Дурная ты: каза, каб ты і хацела, ніколі не ўгразне. Чорт яе нават не ўтопіць, каб, скажам, прыйшлося.

— То нашто ты мяне палохаеш дарэмна, гад ты пячаны!..

І жанчына заплакала. Чутно было, як яна сярдзіта нечым стукнула.

— То чаго ты плачаш?

— Чаго плачаш?! Жыць спакойна не дае, заўсёды перапалохае, дый чаго плачаш!

— То гэта ты гэтага плачаш!

— А чаго! Табе нічога не трэба, ні казы, ні шмазы, раскідака чортава.

І зноў, яшчэ больш горка, заплакала жанчына.

Віктар Зеніч ведае, што гэта ад вясёлага настрою пацвяліўся з жонкаю сусед, сталяр Арсень Грабіч, і цяпер сам не рад, бо жончыны слёзы распачаліся надоўга. Амаль не кожны вечар сталяр так цвяліцца з жонкаю, пакепліваючы гэтым над яе бяздоннаю крыніцаю слёз.

На некалькі хвілін змоўк сталяр, і жонка пачала заціхаць, не пакідаючы толькі гаварыць сама сабе пад нос аб сваёй цяжкай долі. І, мусіць, гэты трагізм жаночага настрою яшчэ больш падвесяліў сталяра, бо Віктар Зеніч зараз жа зноў пачуў яго вясёлы голас:

— Жонка, ведаеш што, жоўтая курыца знеслася ў чужым хляве.

— А можа?! — зноў перапалохалася жонка, забыўшыся плакаць.

— От, балазе твае слёзы ўцерліся,— раптам канстатаваў факт сталяр.

— Ах, каб ты ніколі твару не абціраў ручніком,— загаласіла жонка і ўжо з енкам пачала плакаць.

Ухмыльнуўшыся ад думкі аб глыбокай крыўдзе сталяровай жонкі, Віктар Зеніч зноў пачаў слухаць.

— То ведаеш што, жонка,— чуўся голас сталяра,— калі так, то я пайду гляну на белы свет, а ты тым часам паволі выплаквай свае горкія слёзы. Па майму вылічэнню, іх у цябе хваціць на дзве гадзіны, дык ты, што робячы, іх выплач, а я да таго часу вярнуся, і зоймемся мы з табою тады якою іншаю справаю.

— Няхай ты не вярніся,— скрозь слёзы адказала жонка, і сталяр весела ляпнуў дзвярыма.

Зараз жа яго барадатая і трохі сагнутэя постаць паказалася на двары. Ён пастаяў на адным месцы, пасвістаў трохі на ранні асенні месяц і пайшоў за вароты.

Жонка яго плакала. Выціраць яе слёзы, так як і заўсёды, з'явіўся Юзікаў Юзік — хлапчук-падшэрак, засмарканы і з пасінеўшым ад холаду носам. За дзень ён апалераваў некалькі разоў увесь горад, зарабіўшы на гэтай справе рознымі хітрасцямі і штукамі чатыры капейкі, а гэта шмыгануў скоранька з сваіх цёмных сяней і падбег па мокрай зямлі да сталяровых дзвярэй.

— Плача, ліха ёй,— рашуча сказаў ён, хітра падмаргнуўшы гнілому слупу, што падпіраў сталярову сцяну.

І тут жа, адскочыўшы на сярэдзіну двара, ён задзёр голаў угору і закрычаў, наколькі хапала дзіцячых сіл:

— Тараны смажаныя, па капейцы штука.

І раптам драпануў назад у цёмныя сені і ўжо адтуль, з неабдымнай радасцю свайго маладога жыцця глядзеў на сярэдзіну двара. Хутка з свае кватэры выбегла сталярыха і, забыўшы свае глыбокія трагізмы, памчала сваё дзябёлае цела ў вароты. На вуліцы было пуста, толькі барабаншчык вайсковага аркестра плішчыў некуды на жываце барабан. З вялікім расчараваннем, агледзеўшы пустую вуліцу, сталярыха паволі ўжо пайшла назад. На момант яна стала проці акна Віктара Зеніча, каб запытаць у яго:

— Не чулі? Здаецца, смажаныя тараны прадавалі. Хацела купіць — якраз нешта галава баліць.

— Не, не чуў,— з лёгкай усмешкай адказаў Віктар Зеніч.

— Што гэта за кавалер, калі ён не чуў, як смажаныя тараны прадавалі,— тонам мудрай настаўніцы абазвалася сталярыха і, зноў гатовая заплакаць ад глыбокай крыўды, пайшла да сваіх дзвярэй; але заплакаць ёй ужо не ўдалося — перад самымі дзвярыма спаткалася яна з газетчыка-

ваю дачкою, і пачалі яны гаварыць аб тым, якая фальбона харашэй у спадніцы — шырокая ці вузкая...

Зусім ужо лажыўся вечар.

## II

Ціха было на зямлі. І можа ад таго і радасна, што было ціха, бо трэба было адпачываць усёю істотаю. Густы змрок ляжаў у пакоі, і ўжо неба праз акно здавалася зялёна-цёмным бяздоннем, а зямля не так звала ўжо ў свае нязмерныя абшары. Далёка на ёй ужо зліліся цёмныя абрысы з небам. Зышоў дзень, і рос вечар.

У напружанай цішы раптам пачала расці вастрата пачуццяў і думак. Але думкі былі вельмі ўтомлены цяжкай работай за дзень, і не мяшалі яны яшчэ больш вырастаць пачуццям. Пачалі праходзіць ва ўсёй істоце пражытыя дні. З'яўляўся ўвушшу гром горада і гаворкі людзей, то раптам тонкасцю выбухалі недзе з сэрца адносіны з людзьмі, а то ўсё калі-небудзь чуванае, бачанае, пераж ытае на момант знікала і пасля зноў раптам з'яўлялася, як усё разам адно цэлае, скамбінаванае ў нешта гарманічнае і як бы вельмі патрэбнае для чалавека. І ўяўлялася, што гэта ўвесь свет відзён перад чалавекам, што адчуванне яго як бы сваволіць у душы, бо не гэтак трэба; а можа яно і іначай трэба, і каб стала іначай, то таксама не парушыла б гармоніі душы, бо ў той дзень так здарылася, што не выплывала наверх у Віктара Зеніча мяжа радасці і смутку, а была ўвесь дзень цяжкая работа, што забрала пад сваю ўладу ўсе думкі, і цяпер быў адпачынак.

От так, сядзець і адчуваць.

Многа бачылася свету, а колькі яшчэ бачыцца будзе. Можа зямлі і мала за жыццё было пройдзена, ды многа было пройдзена чалавечых душ. А чалавек — гэта ж свет, адна істота — неабхватны прастор, і разглядай яго, калі ўмееш.

Бо быў дзень спакойны, дык такі вечар...

І раптам за сцяной, ужо за другою, не там, дзе плакала сталярова жонка, упала ўсё, і з'явілася бяздонне. Нешта пачало гаварыць аб нечым усяму свету, і на першых хвілінах не ўявілася, аб чым гэта яно гаворыць. Яно раптам раскідала ўжо цвёрда сфармаваны парадак настрояў і пачало іх збіраць нанава, ачышчаючы новыя глыбіні і ўзнімаючы новыя жаданні і імкненні.

Мільганула на момант думка, што гэта за сцяной грае сястра Баляслава Гельца, што кожны дзень з тоненькім партфелем ходзіць некуды служыць. Завуць яе Антаніна; яна высокая, з белым тварам, заўсёды маўклівая і адзінокая. Жывуць яны ўтраіх — брат, яна і старая матка; жывуць з гэтага дома, дзе жыве ён — Віктар Зеніч, ды яшчэ з таго, што брат недзе служыць. Некалькі разоў на дзень і вельмі доўга кожны вечар Антаніна грае на піяніна нешта, чаму Віктар Зеніч назвы не ведае і многа не разумее, але ёсць часткі, асобныя, гэтай музыкі, якія як бы тое самае, што ў жыцці адчувалася і будзе адчувацца.

Яна вечна сумная, гэтая дзяўчына, увайшла ў сябе і ўжо, далёкая ад людзей, жыве толькі, мусіць, аднымі гэтымі зыкамі.

Віктар Зеніч ведае з гаворак, што некалі гэтыя людзі жылі думкамі, цяпер засталіся ў іх, і вельмі ж у гэтай дзяўчыны, адны пачуцці такія, якія здольны лавіць у жыцці толькі журбу ды смутак. І апрача гэтага, у іх застаўся ад мінулых часоў, з вялікага багацця, вось адзін толькі гэты дом, а ў яе піяніна — асалода цёмных для яе дзён...

Музыка сціхла, а пасля зноў з'явілася. Яна выявіла скаргу чалавека, які заставіў гэтыя зыкі бегчы ў свет. Скаргу на тое, што не бачыць ён у свеце таго, чаго бачаць у той жа час другія, і што мінулае не варочаецца. Жыць жа гэтым мінулым, калі яно толькі мінулае,— цяжка. Зыкі перайшлі пасля ў глыбокую журбу. Яна адчувалася, што глыбокая, але не была зусім ясна зразумелаю.

Зыкі не парушалі цішы — былі яны, была і яна.

Віктар Зеніч сядзеў усё нерухома. Ужо не было адпачынку, а ўзнімалася вялікая работа істоты. Думкі нарыхтаваліся нешта выкінуць наверх, што самі захавалі недзе ў глыбіні, ды яшчэ ўсё нечага чакалі.

І гэта, мусіць, запатрабавалі настроі адзінокай дзяўчыны, бо раптам музыка перайшла ў ціхі плач, на момант як бы заціхла, а пасля выбухнула вялікім ліўнем — мусіць, не мог саўладаць з драмаўшымі дагэтуль зыкамі чалавек.

І тады ўжо думкі ў чалавека, што ціха сядзеў у цёмным пакоі за сталом, вызвалі смерць брата ад сухот. Ляжаў ён у бальніцы і вельмі ж баяўся ўміраць, а як падышла гэтая хвіліна, нікім і ніколі не выказаная, было ў яго вачах, побач з нейкаю ціхаю просьбаю, і нешта такое, што

хлынула раптам у тых зыках, некі вялікі бунт, можа проці таго, што радзіўся ён некалі на свет.

Віктар Зеніч мацней прыціснуўся да стала і стаў глыбей думаць.

Слаліся зыкі, і ляжаў вечар. Непакойна ўяўлялася зямля і людзі. Зямля — для людзей вялікая, ды ад людзей цесная. А людзі, не могучы цаніць ні цеснаты, ні шырыні, робяць жыццё сваё цесным. Вось адчувала нядаўна вялікія трагізмы сталярова жонка за сцяною і глыбакадумна і ўпэўнена лічыла, што жыццё для яе пакута, а бачыла ўсяго на адзін крок перад сабою. Вось дзяўчына за другою сцяною можа і ніяк не лічыць і лічыць нічым не хоча свайго, ці наогул, жыцця, ды само неяк адчуваецца яно — цёмнаю пустатою ляжыць яно перад ёю. А вось сам сталяр, вечна вясёлы і жартаўлівы, недзе ў майстэрні робіць ён днём, пад вечар прыходзіць дадому. Ад скептычных адносін да жончыных трагізмаў заўсёды нявіннымі, падзіцячаму простымі жартамі цвяліцца з ёю, а пасля вясёлы ідзе на цэлы вечар у клуб. Выступае з прамовамі, з вострымі словамі... А вось збоку стаіць Юзікаў Юзік, маленькі хлапчына, што ўжо пачаў праходзіць з вялікае ахвоты, употай ад бацькі, жыццёвую школу. І ён вясёлы.

А пасля зноў уваччу брат з неабдымным імкненнем жыць.

І раптам прапалі думкі, бо зыкі ўжо выявілі надзвычайную сілу. Яны нешта новае, ніколі не бачанае вызвалі ў пачуццях. Як бы паднялася нейкая ясната, і там загаварыла нязлічанасць маленькіх капель вады, яны зліліся ў надзвычайна дробныя пераліvы і ўсё расказвалі аб нечым свету, а іх вялікую гаворку гулка і часта пакрывалі густыя зыкі вялікіх хваляў вады. Хвалі набягалі адна за адной і сцвярджалі глыбіню, што была ў галасах. Бо гэта было мора шырыні, глыбіні і тонкасці над зямлёй.

Тады ўжо не пачуў Віктар Зеніч, як сціхла музыка. Яна абарвалася зразу, раптоўна скончыліся зыкі, перайшлі ў цішыню і ўжо больш не ўзніmаліся; мусіць, або надзвычайна здаволілі яны за сцяной дзяўчыну, або з такой самай сілай вызвалі нездавальненне. І ці тое, ці другое, але было вялікае.

### III

На вуліцы пачулася вясёлая песня. Яна вывела Віктара Зеніча з задуменасці. Ён ціха падняўся і праз акно

глянуў у ясны змрок вуліцы. Нічога там не было відно. Ціха стаялі будынкі, платы і дрэвы, і зусім ужо губіў сваю ружовасць захад.

Свяціліся ўжо вокны чалавечых прытулаў, і самае бліжэйшае акно напроці, у кватэры шаўца Адрыяна Раманчука, застаўлена было збанкамі, бутэлькамі, завалена капыламі, шчоткамі і яшчэ нечым іншым, што вельмі тонкімі абрысамі вызначалася на асвечаных шыбах. І здавалася, што гэта шавец Адрыян жыве сягоння ў сваёй кватэры да часу і загэтым накідаў так усяго на акно. Але як і запамятае Віктар Зеніч, заўсёды так у яго на гэтым акне. А калі часам даводзіцца быць па справе ў яго кватэры, дык і там усё гэтак. І мусіць, у душы яго так: усё, што нападае туды з шырыні свету, кладзецца абы-як, як бы да часу, а пасля непрыметна знікае...

Ляскаталі недзе калёсы на вуліцы, за парканам, ды моцна брахалі сабакі... Раптам вясёлая песня загучала мацней і выйшла на адкрытае месца калона людзей. Ішлі камсамольцы з нязжытай вясёласцю жыццяздольнасці. А пасля, як за вуглом суседняй вуліцы нячутна стала іхняя песня, абазваўся гул бубённы, і пад гэты гул з важнасцю прамаршыравалі два атрады піянераў. А ззаду за імі беглі яшчэ «штацкія» хлапчукі пад кіраўніцтвам Юзіка Юзікава — гэтыя яшчэ чакалі больш сталага ўзросту, каб маршыраваць у ногу пад бубённы гул.

Юзік са сваім «штацкім» атрадам правёў сапраўдны атрад да суседняе вуліцы і скамандаваў назад. «Штацкі» атрад нястройна, але весела павярнуўся і пайшоў назад, а Юзік, не маючы сапраўднага бубна, ішоў наперадзе ды бубніў у бубен «штацкі» — трымаў левую рукою аблубіцу з старога рэшата і з усіх сіл лупіў па ёй меднаю качалкай з мажджыру, якую ціхом сцягнуў ад мацеры.

Насустрач яму папалася рота вайсковых, яны паволі ішлі, і запявала, радасны ад свае песні, запяваў:

Пайшла Манька, эх, ды ў лес,
А ёй жук пад хустку ўлез...

І здаровыя галасы, гуллівыя ад жартаўлівае песні, якую заўсёды спявалі ў час вясёлага настрою, калі спацыравалі па канцавых вуліцах горада, хваталі прыпеў:

Эх, Манюша, гых, Манюша
Разгулялася —
Цэлы дзень бесперастанку
Цалавалася!..

Словы мала разбіраліся ў звычных галасах, але матыў яе і выконванне гаварылі аб сіле, якую неабходна трэба было выліць у песні.

«Штацкі» атрад Юзіка рассыпаўся, а пасля, як вайсковыя схаваліся за вуглом, ён зноў яго сабраў, падаў нейкую каманду, і атрад рушыў.

Пасля Манька а яй лес,
А ёй зук панцоху ўлез...—

зацягнуў Юзік, з вялікай важнасцю аглядаючыся па баках.

І атрад яго грануў прыпеў.

А самы задні, што без шапкі, якую прамяняў на яблыкі, ведаючы, што на зіму бацька маецца другую купіць, нёс вольную цяпер аблубіцу ды ўсё ўпэўніваў усякага, хто пападаўся на дарозе:

— От, братка, наярваем!

А той «братка», часамі сівы дзед, адыходзіў убок ды з любасцю глядзеў на дзяцей.

Хутка і Юзік згінуў з сваім атрадам, і на зялёна-цёмнай плошчы нікога не засталося, бо месца гэтае падыходзіла да канца горада... Пуста было, і толькі там, дзе плошча пераходзіла паступова ў бульвар, збіраліся вайсковыя музыканты. Іх постаці варушыліся на палінялым фоне лёгкага змроку, і ясна відна была знаёмая Віктару Зенічу высокая постаць капельмайстра.

І ўяўлялася зямля і людзі на ёй. І ўсё хацелася пайсці па зямлі, ахваціць яе сабою і сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у цябе тое, чаго ты і сам можа не адчуваў...

А нашто гэта?

То гэта ты думкі можаш растлумачыць, а пачуцці хіба заўсёды можаш?..

Тады выйшаў Віктар Зеніч на вячэрнюю вуліцу.

## IV

— Справа вось у чым,— чуўся недзе недалёка задуменны голас,— аб цвік чуць вуха не разарваў.

— Як жа ты? — пытаў другі, як бы трохі з некім расчараваннем, голас.

— У плоце, значыцца, цвік, а я каля самага плота іду.

— То чаго ты лезеш на плот?

— А чорт жа яго ўсё ўгледзіць.

«Прайшлі людзі»,— падумаў Віктар Зеніч і пайшоў далей.

Ясна свяціўся ў канцы вуліцы клуб. Клаліся на зямлю палосы свету з вялікіх акон, чуліся адтуль галасы гаворак, нехта смяяўся, нехта нешта гаварыў, адзін усім. Звінелі нядобра ўстаўленым шклом дзверы; Віктар Зеніч ведаў гэты іх дакучлівы звон і зачыніў іх за сабою паволі.

У сярэдзіне весела свяціла электрычнасць, за вялікім сталом, узлёгшы адзін на аднаго, нешта разглядалі, чутно было, як шуміць папера газеты ці можа вялікай кнігі. Каля процілеглай сцяны сядзелі пагрузчыкі вагонаў, статаватыя мужчыны ў сваіх доўгіх брызентавых сарочках да кален, не пераадзяючыся прыйшлі яны сюды. А пры дзвярах нехта, з вялікімі валасамі і ў чорным фрэнчы, іграў на раялі вельмі ж вясёлы матыў, і здавалася, што гэта ад гэтых зыкаў і лёгкі змрок дрыжыць, што прытаіўся каля дзвярэй, дзе менш было свету. Пасярэдзіне ж у сваім кароткім кажушку стаяў сталяр Арсень Грабіч, трымаючыся ў бокі, і ўсё рваўся, каб выбіць нагамі нейкі танец.

— Няможна тут гэтым займацца, тут табе не піўная,— чуўся голас.

— Братка,— угаварваў яго сталяр з вясёлым смехам,— ты адно паглядзі, што за танец, для цябе ж гэта я і скакаць сабраўся.

У яго не было жадання скакаць, але яму хацелася спрачацца, і ён рашуча адставіў нагу, як бы пачынаючы танец.

— Слухай, пакінь!

— То калі гэтак, дык скажы музыканту, каб не граў гэтага нумару, а то я ўстаяць не магу. Няхай, калі гэтак, грае разлуку жыцця, тады я скакаць не буду, а то ён барабаніць, каб трохі, дык лявоніху, а гэты скакаць забараняе, хоча, каб жывы чалавек на месцы ўстаяў. Ды ты тут нежывога паднімеш, не то што!.. Пара-а-адкі...

Сталяр весела адышоў да пагрузчыкаў і сеў. А ў клуб ішлі ўсё больш людзі. Хутка ўжо каля раяля сабралася грамада новых людзей, і хор пачаў нейкую рэпетыцыю. Той валасаты чалавек, што граў, цяпер стаяў, застыўшы перад сваімі, і ўсе змоўклі, як бы чакаючы чаго важнага. Валасаты чалавек раптам чуць шавяльнуў рукою.

За Дуна-а-аем... —

пачалі гаварыць галасы.

Там жыве мая матачка...—

далей сказалі і, як усякія зыкі, жылі і варушылі пачуцці і думкі.

Ішлі цераз клуб з суседняга пакоя з некага сходу людзі ды прыпыняліся слухаць. І ва ўсіх іх было, можа і несвядомае, адчуванне, што на свеце многа вялікага, вельмі патрэбнага, часамі нявыяўленага, а як чуеш яго ці бачыш — адчуваеш вялікасць і хараство жыцця, глыбіню яго, што і ў радасці, і ў пакутах.

— Хадзем, сусед,— тузануў за руку Віктара Зеніча сталяр,— вельмі ж я сягоння натузаўся за дзень у майстэрні, дык спаць пара ісці, можа жонка ўжо слёзы выплакала, калі больш там якіх прычын не знайшлося.

Віктар Зеніч выйшаў з сталяром, пакінуўшы з сабою напружаны настрой публікі ў клубе.

— То чаго гэта ваша жонка кожны дзень плача? — запытаў ён у сталяра, адчуваючы да яго нешта блізкае.

Хацелася ляпнуць яму па плячы ды загаварыць аб чым-небудзь блізкім, вядомым ім абодвум.

— Чаго плача? А чаму б ёй не паплакаць, калі ёй гэтак хочацца. От плача, ну і няхай плача сабе паволі. Ёй у гэтых слязах асалода, дык от і добра, што хоць ёсць ёй чым пацешыцца... Вунь там, за вашай сцяной, таксама дзяўчына плача, дык у тае асалоды ў гэтым няма, а пакута. Вось яе шкода.

«Вось жыццё,— ужо спакойна плылі думкі,— плыве і шуміць па зямлі. Чуцён і відзён на вуліцы і ўсюды сталяр з сваёю вечнай вясёласцю. І ўсё здаецца ружовым, слаўным, а за сцяною, у нары, тое самае — цёмным».

І хацелася выявіць перад усім тым, што ёсць, што вось адчуваецца яно, гэтае жыццё, адно ўмірае, другое расце, а зямля, што трымае ўсё на сабе, імчыцца пад сонцам...

Зноў было ціха і змрочна ў пакоі, зноў чуць відна была вуліца, а за ёю шырокі пляц з цёмнымі ўжо абрысамі дрэў. Ужо не грала музыка, і рэдкія зыкі дзерава недзе за акном не парушалі цішы. Ужо плыла ноч, ахватвала зямлю чарнатою, звала ў сябе яе. Застылі ў нерухомасці дрэвы напроці акна, і здавалася, што там вельмі ж прытульна і добра. Ужо чуліся здалёк з электрычнае станцыі шырокія зыкі паравіка, ды яшчэ некі стук, дробны і тупы, імчаўся аднекуль. Але не парушалі гэтыя зыкі цішы і не мяшалі думкам. А яны плылі ўсё і плылі. Плылі, як шырокая рэчка ў ціхія дні — бо быў дзень тады

без буры ў душы. Плысці яны будуць так аж да самай гэтай буры, пакуль не давядзецца ім зрабіцца вострымі...

І толькі як пачаў узнімацца вецер, парушыў ён цішыню. Плыў ён недзе з далёкіх, неабсяжных далей зямлі і веяў дзікаю воляй. Пачынаў блытацца за вугламі камяніц. Пры цьмяным свеце ліхтароў відно было, як музыканты на бульвары пачалі настаўляць каўняры. І можа гэта ад таго, што ўсё пачало варушыцца, зноў захацелася Віктару Зенічу ісці на вуліцу ці куды-небудзь іначай, абы ісці. Цягнула да музыкантаў, туды, дзе набольш людзей і зыкаў.

І зусім ужо прайшоў ціхі настрой. Была ўжо вясёласць ад можа і несвядомага пачуцця, што вось ты сярод людзей, а вакол цябе імчыцца жыццё. Што многа будзе чаго бачыцца і чуцца на зямлі, многа будзе дзён пражыта і гэтакіх вечароў, многа будзе зроблена нечага вялікага, што заўсёды, да канца жыцця, стаіць перад табою, і ніколі не зробіцца так, каб быў яму ўжо абсалютны канец...

Вецер плыве, і музыка грае. Яскрава гараць агні над горадам. Плывуць з ветрам з поля ціхія песні, ходзяць над зямлёй хмары, і імкнецца жыццё на зямлі. Гавораць людзі, носяць радасць і смутак, смяюцца і плачуць. Б'ецца з пустаты глыбіня, з-пад смутку — радасць.

Жыццё ты маё шырокае без краёў, глыбіня мая бяздонная!..

Віктар Зеніч уздзеў паліто, наставіў каўнер і выйшаў на вуліцу. Ліхтары слаба разганялі змрок, нёс вецер аднекуль лісты і шумеў і шумеў. Нехта ішоў па тратуары, ківаючыся ў бакі — можа з піўной хто да дому дабіраўся. У кватэры Баляслава Гельца было цёмна і ціха. Мусіць, пайшла некуды Антаніна або сядзіць адна, лёгшы галавою на сваё піяніна. Вокны сталяра свяціліся. Чуцён быў ужо бесклапотны рогат сытай сталярыхі, адкінуўшай на ноч усе свае трагізмы. Недзе плакалі дзеці, на бульвары нехта смяяўся, ішоў з лапаткаю з магілак сторaж і даў «добры вечар» Віктару Зенічу. А пасля некуды памчаўся аўтамабіль, і зноў чуваць сталі радасныя песні з клуба. І колькі было тут і пустаты, і глыбіні на гэтым маленькім кавалку зямлі!

Віктар Зеніч павольні пайшоў у бок бульвара. Там пад высокім ліхтаром стаяў высокі капельмайстар і ўсё махаў рукамі, забыўшы ўсё, апрача зыкаў. А зыкі вялікія разбягаліся па свеце.

Віктар Зеніч зайшоў далёка ў забульварныя вуліцы, там ужо чутны былі крыкі паравікоў, шум нейкіх машын, што мяшаўся з прарэзлівым ужо свістам асенняга ветру. Гэтая шырокая сімфонія гучала то моцна, то зусім ціха.

І як ападала яна нізка, мацней беглі ў свет вялікія зыкі. І гаварылі яны аб вялікасці, аб радасці і смутку, аб бязмернай глыбіні жыцця.

# МЯЦЕЛІЦА

*(З апавядання «Снегавыя дарогі»)*

— Тпр-рр!

— Што там?

— Гужы ад'ехалі.

— Чаго ж яны?

— Хамуціна лопнула.

— Ну?

— Яй-пр-р-рава!

— Значыцца, прапалі.

— Не наганяй страху дарэмна!

— Які чорт наганяе!

— Ты!

— Я?!!

— От маўчы ды чухай сваю рыжую бараду, калі чухаеш ды памагчы не хочаш.

Сідар падумаў:

«Што барада ў мяне рыжая, дык гэта праўда. То чаго мне злавацць?»

— Злаваць мне няма чаго,— сказаў ён Пракопу,— дай памагу.

І яны ўдвух пачалі блытацца ў вяроўках ды рамянях каля конскіх мордаў.

Коні стаялі сабе паволі ды жмурылі вочы ад страшэннага ветру. Сідар, абадраўшы палец аб мёрзлую вяроўку, пралупіў прыжмураныя вочы і ў белай віхуры снегу ясна ўбачыў адвешаную ўніз губу Гнядога. І можа гэта ад вастраты і трывогі хвіліны тае ці ад таго, што ад утомленасці ды холаду пачалі блытацца думкі, але ў сувязі з губою Гнядога падумаў:

«Чорт яго ведае, можа гэта і ў мяне гэтак губа ад'ехала ўніз».

— Пракоп, братка, глянь мне на губы,— сказаў ён жаласлівым голасам.

— Лезь на сані,— сказаў Пракоп,— бо зараз зусім абсунешся ў снег. Колькі цябе ёсць!

Гулка гуло снегавое поле. Гнаў вецер снег усё ў адзін бок, то раптам начынаў круціць яго на адным месцы, і ў думках Сідара за гэтыя дзве гадзіны пачало ўяўляцца, што гэта ўжо многа год гэтак гуляе мяцеліца.

Неяк мала ўжо адчувалася, што вельмі ж памерзлі ногі і поўны халявы снегу, што вецер поўзае за каўняром і там растае снег. І раптам неяк забывацца пачало ўсё гэта, і ўявілася як бы шырокая некая дошка, белая і гладкая. Пачала яна ад'язджаць адным канцом усё ўніз. Падае, падае ўніз і неяк упасці зусім не можа.

А тады Гняды раптам шмаргануўся мордаю яму па шыі, Сідар выпусціў з рук вяроўку і сказаў:

— То я хіба, Пракопка, пайду ў сані.

— Я ж табе кажу — ідзі,— гукнуў Пракоп.

— Ідзі, ідзі,— зазвінела па ўсім полі.

Прабег гэты звон да чорнага лесу, што вырас раптам у вачах, стаў ціхай сцяною на блізкай мяжы поля і неба. Прапаў звон ці то гэта вельмі ж заціх, і відаць добра стала хваёвыя шышкі пад чорнымі кустамі, а там цяплынь нейкая адчулася...

Сідар дапоўз да саней, ускаціўся на іх і падумаў:

«Віў я вяроўку з мяккай кудзелі, а гэта ў ёй нейкая кастрыца, вялікая, як запалкі. Што гэта за ліха?»

— Што гэта за ліха, братка Пракоп,— гукнуў ён слабым голасам.

«Трэба яшчэ раз гукнуць і высветліць гэтую справу»,— падумаў Сідар, але ў тую хвіліну моцна званіць пачалі недзе зусім недалёка званы, заенчылі ці то можа забрахалі гэтак сабакі, нехта загаварыў грубым голасам.

«Гэта ж Кірыла Лешанскі гаворыць»,— хацеў сказаць Пракопу Сідар і ўжо раззявіў рот, але нешта трэснула моцна ўвушшу, і пачало ўсё раптам супакойвацца.

Пайшла па ўсяму целу вясёлая цеплата, якая пачала адганяць зблытаны жмут вялых думак...

— Сідар,— гукнуў Пракоп,— хамуціну звязаў. Цяпер пацягні там за левую ляйчыну.

— Сідар, варушыся, не сядзі спакойна,— гукнуў нервовым голасам зноў Пракоп, трохі памаўчаўшы.

І раптам апанаваў Пракопа смутак. Бачыў ён, як нерухома стаялі коні, нават у змроку мяцеліцы бачыў, як варушыў Гняды вушыма, ды чуў, як гуло поле. Нейкая

цемень засцілала ўжо думкі, ды не адчувалася, што як бы гэта ўсе пачуцці пачалі сплываць некуды ўніз і нешта моцна сціснулася ў жываце, і тады захацелася Пракопу сагнуцца.

Смутак, неабдымна шырокі, як адчуванне мяжы жыцця і смерці, загойдаўся раптам ва ўсёй істоце і выхваціў раптам з глыбіні мазгоў вострую думку:

«Гэта ж трэба нешта рабіць. Бо гэта мала таго, што звязаў я хамуціну ды адцягнуў назад адну ляйчыну. А можа гэта Сідар нежывы?»

— Дык я пайду пагляджу яго,— сказаў Пракоп,— пайду пагляджу. Но, Гняды і Каштан!

Коні пайшлі. І тады, ужо дзержачыся за сані і месячы снег побач з імі, Пракоп падумаў:

«Дык гэта ж можа і трэба было мне гукнуць на коні, бач, пайшлі...»

І раптам агледзеўся — дык гэта ж ясней стала. Уверсе, над галавой, не цёмна было ўжо, а нек шэра. І ад гэтага ў адзін момант ускалыхнулася ў чалавека радасць, вострая вясёласць. Зразу адчуў ён, што мерзнуць яму ногі, што пальцамі рук не можа ўжо ён ад холаду валодаць. Раптам закружыліся віхурай пачуцці, вочы пачалі бачыць снег, коні, сані, Сідара збоку на іх. Сядзеў Сідар, нек не па-людску скурчыўшыся, задзёршы рыжую бародку ўгору, і маўчаў.

— Сідар, хутка прыедзем,— загукаў Пракоп. Сідар маўчаў.

Тады ў Пракопа з'явіліся думкі, чыстыя, як і заўсёды, звычайныя, як аб усім тым, што заўсёды бачыў і адчуваў. Толькі на адзін момант парушыўся быў ход думак, калі раптам блiснулі наперадзе, блізка, агні ды відаць стала шэрую, завеяную снегам знізу сцяну, але пасля радасная свядомасць зноў накіравала звычайнаю дарогаю думкі, і яны пабеглі.

Усё беглі ды беглі, пакуль на двары, каля нейкай будыніны, не прыйшлося распрагаць коні...

# БУЛАНЫ.

## I

Зямля, зямля! Прасторы ў вятрах — чорныя, з вясёлым зяленівам расцвету...

Бярозы і хвоі ў вольную восень... Думаюць думу дарогі, гоняць ваду ціхія рэчкі... І ў цішыні буры, і ў бурах — цішыня...

Хмурна думаць пачало неба, і тады ж зямля весялілася ветрам. Пад дзень пабялела зямля, а днём заснуў пад хвоямі вецер, і заплакала восень снегавымі слязамі. Падала вострая музыка капель і, як сплыў снег, заглядзелася мокрая зямля ў тонкае неба, і ў саду ўсміхнуліся апошнія лісты голае ліпы.

Так і было мокра цэлы дзень ды сумна-весела ад ясна-туманнага неба.

І тады раптам павеяла з поля вялікаю воляй — неабдымнаю і нявызначанаю, як пачуццё: можа гэта пахла поплавам, ці гаварылі хвоі за полем, ці то гэта сляды соннага ветру,— толькі пацягнула тады Буланага з хлява ў паплавы. Ён аж памахаў аблезлым хвастом ды пацёрся свярбячаю спінаю аб сцяну. Пасля абнюхаў «качалкі» неперажованага старымі зубамі сена, утоптаную салому пад нагамі ды сцяну, што аддавала сухім гноем ды трухлінай. Тады ўставіў у вакенца бяздонна-чыстыя, як крыніца, вочы і ўбачыў: салома мокрай страхі, над ёю галіна з варонай і вясёлае неба. Усё гэта было як бы некім фонам, цьмяна адчуваемым глыбінёю істоты, незразумелым ні ў цэлым, ні сваімі асобнымі часцінамі.

Буланы падступіў да дзвярэй, пашараваўся аб іх старыя дошкі губамі і пасля ткнуўся ў іх. Дзверы трохі прачыніліся, так што можна было высунуць на двор галаву. Буланы так і зрабіў. А тут раптам запахла вялым аерам, і няможна ўжо было не выйсці на двор. Але Буланы яшчэ

настаяў трохі, бо павольнасць давала асалоду старому целу; і з вуліцы смешна відна была яго галава, так што Янка Самахвал, які вельмі добра ведаў Буланага і якога Буланы таксама ведаў і заўсёды здалёк пазнаваў па нейкаму канапляна-тытунёваму паху, прыпыніўся на вуліцы і сам сабе глыбакадумна сказаў:

— От, чорт яго ведае, чаму гэта Раман Драгун каня гэтага не збудзе. Падла ледзьве ногі цягае, а ён яго дзяржыць.

— Што ты кажаш? — абазваўся з свайго двара Юзік-сусед.

— Раман, кажу, каня не прадае.

— Не хоча за бесцань аддаваць,— заявіў Юзік і палажыў бараду на плот.

На гэтым гаворка магла б і скончыцца, бо ні аднаму, ні другому не было часу, але Буланы раптам вылез з хлява і, растапырыўшы ногі, паволі пачаў абнюхваць мокрую зямлю, зацярушаную саломай і сенам. Тады ўжо Янка Самахвал, як належыць, стаў напроціў двара і пачаў глядзець на Буланага.

— Эх, конь, быў конь. Што гэта быў за ко-о-о-нь — а-я-яй! — сказаў ён і трагічна паківаў галавой.

Юзік Жур падышоў да Янкі і сказаў:

— Гэта ж я яму памог гэтага каня купіць.

— Я ж ведаю.

— Я не кажу, што не ведаеш. Дзіва што ты ведаеш — гэта ўсякі ведае... Тады дык Раман усё шкадаваў, што пераплаціў, а пасля што ён мне пападзякаваў — страх. Бывала, які воз ні налажы, гара не гара — ідзе Буланы, а гэта зусім на няма нічога з'ехаў.

Так і гаварылі аб Буланым. І ад таго, што гаварылі і стаялі на вуліцы, брала цікавасць таго, хто не гаварыў і не стаяў на вуліцы, а толькі бачыў усё гэта праз акно. Так выйшаў на вуліцу Костусь-муляр, які ніколі не меў сваіх коней і не цікавіўся імі, але мог гаварыць аб іх колькі хочаш. І ў звязку з тым, што раптам выйшаў на вуліцу Костусь, у спешным парадку з'явіліся і іншыя, бо была ў іх цікавасць да ўсяго таго, што б дзе ні рабілася і ні гаварылася.

І гаворачы аб Буланым і трохі думаючы аб ім, думалі і аб многім іншым. Гледзячы на вылезшую шыю Буланага, Янка Самахвал быў падумаў: «Галава ж у мяне вельмі свярбіць, трэба будзе пайсці ў суботу ў лазню».

І ў звязку з лазняю і суботаю падумаў аб тым, што гэта ж пасля суботы будзе нядзеля, а тады пойдзе ён аглядаць новую малатарню, якую прывязлі за сорак вёрст з саўхоза і паставілі ў Юрасёвым гумне. І не то, што ў гэтым самае важнае, але ўсё разам узятае: і лазня, і субота, і малатарня, і гаворкі, якія пры гэтым будуць ве́сціся,— нешта блізкае і патрэбнае. Юзік жа, гледзячы здалёк Буланаму на галаву між вушэй, падумаў: «Чаму гэта ў яго нек зеленавата там? Ці гэта ён у некую цвіль упэцкаўся, ці гэта шэрсць ад старасці ў яго такая стала».

І тады ўжо з'явілася ў яго вось якое адчуванне: «Гэта ж якраз такі бывае мох на старых бярозах. І нават тая бяроза, ускочваючы якую на воз год дзесяць таму назад, я сарваў жывот, уся была абросшая гэтакім самым мохам».

І пасля гэтага пайшлі гуляць думкі вольнымі пуцінамі. Падумалася аб тым, як сумаваў ён доўгі час па сваім жывацце. Пасля гэтае адчуванне растала ў наступным: падобны колер яшчэ бывае ў ранняю восень пад рабінаю, напроці рэчкі. Сядзіш бывала там, а вада бяжыць ды бяжыць.

— Колькі гэта я гэтага Буланага перапасвіў,— сказаў раптам Юзік пад густым наплывам думак.

— Усяму свая пара,— адказаў голас.

А Раман Драгун, стоячы ў хаце каля стала і гледзячы на акно, падумаў: «Чаго гэта людзі напроці майго двара сабраліся? Ці не зрабілася гэта што ў мяне ў двары?»

Трохі нават як бы спалохаўся чаго і закурыў зразу, а пасля, бачачы, што тыя як стаялі, так і стаяць, сам выйшаў на вуліцу і разам з усімі моўчкі глядзеў на Буланага.

А Буланы ўсё нюхаў зямлю, а пасля пацягнуўся паволі ў сад. А там пад разгатаю грушаю ляжаў пажоўклы і мокры аер, дзён пяць таму накошаны Раманам Драгуном каля рэчкі, пахнуў ён моцна, быў вакол расцярушаны, нават трохі быў ускладзены на дзве тоўстыя галіны грушы. Вакол ён быў, гэты аер. Уваходзіў ён Буланаму ў адчуванні і выглядам, і пахам, і ў ім губілася неяк трава, збітая і малая, што разам з чорнымі лісцямі макрэла пад яблынямі. Буланы папрабаваў жаваць аер — нясмачны, так што не варта было яго і нюхаць. Але сваім пахам і выглядам у многа раз павялічыў ён Буланаму адчуванне вольнага прастору рэчак, паплавоў ды вільготнага ветру. І раптам раздзьмуў ноздры Буланы, так, як раздзьмуваў іх у маладыя гады. Яшчэ махнуў хвастом, папрабаваў

страсянуць грываю, але грывы ўжо амаль не было, і выйшла гэта неяк смешна: проста пацеляпаў неяк шыяю і пабег паволі дваром на вуліцу.

— Ку...куд-ды, а-а-а! — растапырыў быў рукі Юзік, а Раман Драгун, уцяміўшы раптам становішча рэчаў, сказаў:

— Надвор'е прачысцілася, то няхай, от, пацягаецца па паплавах, хоць абветрае трохі.

— А што ты думаеш,— адказалі яму.

На гэтым уся іх гаворка і скончылася. Яны разышліся, несучы кожны ў сабе думкі, ужо не блізкія да Буланага. А Буланы прабег па вуліцы да трэцяе хаты, ды раптам адчуў, што баляць ногі. Тады ўжо паволі пайшоў, не пакідаючы раздуваць ноздры — ці то гэта ад адчування блізасці поплаву, ці ад стомленасці.

Так выбег ён за агароды і стаў грызці дробную траву, і затым, што быў ён конь і не было ў яго таго, што выразна завуць думкамі, амаль згладзілася ў яго тое ўсё, што было кагадзе, як бы гэта не было для яго мінуўшчыны, не было яе выразна ў адчуваннях. Яна была ў жыцці і выяўлялася, напрыклад, у тым, што вось ад старасці, ад быўшае працы і жыццёвай нягоды ногі сталі часта балець і вочы закарваць гноем, але гэта не была свядомасць, якое не было, а быў далёкі ад разумення і ўяўлення факт...

Ужо не плакаў дзень снегавою вадою, бо знік ужо снег, толькі стаялі ціха ў ручаінах гэтыя слёзы — як бы гэта дзень выплакаўся, і стала зусім яму лёгка. Змыў ён слязьмі каламутнасць, што няпрошанаю прыйшла да яго, разагнаў волава хмар і пачаў смяяцца — ясна і ціха.

А тут яшчэ гусі, прагергетаўшы ўсю сваю сталасць на агародах, падняліся ды белымі камякамі шуганулі цераз платы ў поле. Цяжка было ім плаваць у высотах, бо былі яны сытыя і сталыя, як тыя сцены, у якіх начавалі; так яны і пападалі на зямлю і пачалі там шукаць нечага.

Буланы грыз траву, а яны нечага шукалі, і была ў іх сталая вясёласць, зусім не такая, як у Буланага. У яго проста было некае цьмянае жаданне. То цягнула яго некуды ісці, падняўшы галаву, то страшна хацелася, ліха ведае адкуль, набраць повен рот травы ды ўсмак пажаваць яе. Проста гэта было тое самае, што застаўляла яго ў маладыя гады ляцець, задраўшы хвост, па загонах. Аж стогне зямля, аж енчыць дарога пад капытамі. Толькі пыл слупамі ходзіць там, дзе скача, бывала, Буланы. Як

ужо яго ні путаў Раман Драгун — ніводнае пута не трымала яго: парве ды калі залапоча...

І якое дзіва, што цяпер Самахвал Янка, убачыўшы Буланага, заўсёды трасе галавою ды выводзіць павольным голасам чуць не на дванаццаць тэмпаў:

— Што гэта быў за ко-о-о-онь — а-яй!..

От, не папытаў тады Янка Самахвал у маладога Буланага: «Куды ты так мчышся, задраўшы хвост?» І не меў Буланы чалавечага розуму ды языка, каб адказаць яму на гэта...

Гусі сабе вялі гаворку, а Буланы падняў галаву ды пайшоў паволі вузкаю дарогай туды, дзе чарнелі кусты.

## II

Было гэта даўно ў чалавека, і больш яно ўжо ніколі не з'яўлялася; пачало забывацца, і нават сляды яго сплывалі ўжо па хвалях часу. А тады было яно моцнае, было яно вялікае, як усё тое, што ёсць у чалавека, разам узятае, у пачуццях і думках. Бо праз яго тады праходзіла і пераламлялася ў ім адчуванне і ўяўленне ўсяго таго, што існуе.

Быў Раман Драгун малодшы і мацнейшы, і думкі меў вастрэйшыя, але яны сталі слабымі...

Ціха было ў тыя дні ў хаце і на двары. І ён усё стараўся што-небудзь рабіць, чым-небудзь займацца па-за хатаю, каб не бачыць таго, што было ў хаце. Ляжала там яго хворая жонка і пакутавала. І гэта напаўняла ўсё, выходзіла за адчуваемыя абшары і было ва ўсім. Так, гэта ён адчуваў. Была гэта ненармальнасць, быў хаос, і чалавек, заўсёды праціўны яму, шукаў гармоніі. Выяўлялася гэта ў яго ў імкненні бачыць вакол сябе ўсё нармальнае, у сваіх берагах. Хоць бы ўявіць як, што гэта ўсё так і ёсць. Хадзіў ён па двары, па ўтоптанаму снегу, і былі ў яго дзве вышыні настрояў. То хацелася яму як бы сціснуцца ў адзін маленькі жмут, быць непрыметным, і каб такім стала ўсё. Бо гэта была б процілегласць таму ненармальнаму страшнаму і вялікаму.

Змрокам дзён ён з вялікім здавальненнем заносіў Буланаму сена і стаяў там падоўгу, прыпёршыся плячом да сцяны.

Буланы быў яшчэ зграбны і ў самай сіле. Жаваў ён сена ў цёмным хляве спакойна, без тых бур, якімі кіпеў

чалавек, а чалавек стаяў каля яго і ашукваў сябе: «Дык гэта ж усё так, як трэба,— Буланы жуе сена, стоячы на чорнай ад змроку саломе; тут жа прытульна і цёпла. І я стаю і гляджу ў ціхую адзіноту зімовага вечара».

Так находзіла на чалавека супакаенне. Пасля думкі вызывалі тое, што ёсць, і ўяўлялася як бы немагчымасць чалавека цішынёю пазбавіцца. Тады ўзнімалася бура, трывогі і жаданні будзілі ў чалавеку бунт проці неабходнасці цяжкіх перажыванняў, проці смутку. Бунт ачышчаў дарогу да нечаканых уздымаў радасці... У чалавека напружваліся і дзейнічалі думкі. Пасля ізноў гэта ўсё ападала. Так і было, так ішла барацьба ў настроях. Так усё то кіпела, то роўна плыло. І было яно ўвесь час з рознаю сілай, пакуль не сплыло...

А Буланы еў сабе паволі, спакойны затым, што сена было смачнае, здавольнена цёрся губамі аб жолаб, і свет з бурамі і цішынёю быў для яго тым, што можа можна папрабаваць выказаць словамі: павольнае здавальненне.

Для яго не было ні Рамана, што стаяў пры ім, ні ўсякіх там адценняў усяго.

Раман жа быў повен усім. Твар яго быў тады больш жывым, як заўсёды, і адбіваў на сабе змены адчуванняў, і загэтым выразы яго былі нешта адналікае з вакольным, і ўжо ў гэтым сама па сабе з'яўлялася проціленжнасць хаосу; было імкненне.

І недасяжна было для Буланага тое, што Раман пасля паспакайнеў, як усё сплыло на хвалях часу: бо яно пачало забывацца, раставаць у бясконцнасці...

І вясною, калі араў Раман на Буланым поле і дзьмуў сухі вецер, зусім не было ў яго жадання сціснуцца ў адзін жмут, зрабіцца малым, а было імкненне, звязанае з нейкім адвечным чалавечым бунтам — як бы вырасці, каб быць прыметным усяму, так, як шырокі вецер і гулкія зыкі.

Ад гэтых гуллівых і несвядомых жаданняў было тое, што Буланы часта атрымліваў па спіне і ўжо злаўчыўся баяцца Раманавага гуку:

— Эй ты, малы! Фюйць!..

І гэта Раман рабіў без жадання пакрыўдзіць Буланага, гэта так толькі ўмеў ён выявіць тое, што было ў ім.

Калі Раман выпрагаў Буланага і пускаў яго грызці межы, а сам лажыўся каля воза жаваць абветраны хлеб ды ціха сабе думаць, у Буланага з'яўлялася ў першы мо-

мант якраз тое, што людзі ў сабе называюць уздымам радасці.

Так яно ішло заўсёды раўналежна — у Рамана і ў Буланага.

Цэлы дзень той валачыўся Буланы па полі. Нічога ён там не пад'еў, толькі змёрз, бо к канцу дня захаладала і змрок стаў імглістым. І як чорны быльнік і голыя кусты пачалі зліваціца з зямлёю, прыйшоў ён дадому, калі ўжо Раман Драгун збіраўся ісці па яго.

III

Два дні ляжаў на зямлі снег — неглыбокі і вільготны, і адной раніцы паслужыў ён тэмаю для гаворкі.

— Зямля не замерзла, а снег ляжыць,— сказаў Раман Драгун, стоячы ў саду пад грушаю, і, прымеціўшы на другі бок плота Янку Самахвала, яшчэ сказаў: — Нялюдская некая зіма.

— Ат, якая гэта зіма,— адказаў Янка Самахвал, не думаючы, да яго гэта гавораць ці не,— хіба гэта снег — гэта гразь, а не снег.

Раман Драгун угледзеў каля плота трухлявы пянчук, летам яшчэ прывезены ім з лесу, і падумаў: «От валяецца, яшчэ горш згніе. Трэба пасеч — то згарыць у печы».

Тады пайшоў у сені, узяў сякеру і пасек пянчук, а пасля гэтага сказаў сам сабе:

— Карысці з каня няма жаднае. Не будзе на вясну ім рабіць як усё роўна. Прадаць яго трэба, хоць ты што хочаш.

І ўжо як седзячы за сталом, засыпаным хлебнымі крошкамі, еў, усё думаў, якую гэта цану за яго прасіць. А пасля паволі і нек асцярожна закурыў, сеў на Буланага, і паехаў за пяць вёрст.

Там нейкія людзі, у доўгіх крамных світках і чорных кажухах, падпяразаныя шэрымі і чырвонымі паркалёвымі паясамі, з барадамі і без барадаў, доўга тузалі Буланага, абмацвалі яго, праганялі паміж вазоў, ляпалі па ім рукамі і пугамі, крычалі нешта ў яго перад мордай, пасля таксама ляпалі па плячах Рамана Драгуна, тузалі і яго, білі па руках і ўсё траслі галавамі. І нарэшце зусім пакінулі і Буланага, і Рамана Драгуна. Пасля яшчэ падыходзіў нейкі высокі чалавек у зрэбных портках і суконнай жакетцы. Ён два разы ляпнуў Буланага па заду, пасля пра-




Кузьма Чорны (першы рад, другі злева) сярод дэлегатаў Першага з'езду «Маладняка». *1925 г.*

вёў рукою па шыі і галаве, да болі расцягнуў яму верхнюю губу, каб глянуць на зубы, і раптам адышоўся.

А Раман Драгун пасля ўсяго гэтага стаяў і думаў: «Нічога не будзе: скура і дзела з канцом».

Было тады ў яго нешта падобнае да злосці, і як бы гэта на Буланага, што ніяк выгадна не прадаць яго ўжо.

— Ну ты, скура,— сказаў ён з вяліка-сталым выглядам і пачаў на яго садзіцца...

Конна на Буланым ехаў вастратвары Раман Драгун; усё тоўк Буланаму заднікамі шырокахалявых і нізенькіх рыжых ботаў пад чэрава ды пасвістваў:

— Фюй-фюйць!..

А Буланы і вухам не вёў. Праўда, ён то гэтыя вушы натапырваў, але нагамі перабіраў павольна. Толькі калі часамі вельмі ўжо моцна свісне Раман Драгун, дык тады Буланы нек спрытна, але стала шавяліў задам ды яшчэ крывіў набок морду. Морда крывілася лёгка, і быў выраз усяго гэтага такі, як бы гэта Буланы хацеў сказаць Раману Драгуну:

«Свішчы, свішчы, фюйкай сабе паволі, ці як сабе хочаш. Што ж з гэтага, ты — Драгун, а я Буланы. Ты сядзіш на мне, а я іду — а дарога сабе макраватая, пасля дажджу».

Так гэта нек уяўлялася, што гэтак-так думаў Буланы. На самай жа справе ён нічога не думаў, бо не ўмеў думаць. Нек трохі блыталася недзе ў ім, у глыбіні галавы, ці то гэта так недзе ў істоце, а дзе, хто яго ведае,— што гэта, як хваціў быў ён нядаўна на двары ў Сымона Шрота аўса, да якога Раман Драгун па дарозе заехаў на ім (што Сымон Шрот зваўся Сымонам Шротам, таксама Буланы не ведаў), дык вельмі ж пасля гэтай жмені аўса пагнала яго сліну, і хацелася тады больш хваціць аўса, але Сымон Шрот, узяўшы ражку з аўсом і аблаяўшы курэй, якія зазіралі яму ў вочы, недзе знік. Сліну гнала некалькі хвілін, а пасля і гэтая работа заціхла, але жаданне жаваць авёс і цяпер засталося.

Пасля Сымон Шрот пагладзіў Буланага па шыі, паглядзеў яму ў зубы, пасля нечага пацерабіўся трохі каля хваста і сказаў Раману Драгуну:

— Я сягоння закалоў два япрукі. Адзін япрук Юрасёў, а другі Уладзеў, дык вечарам пайду на свежыну,

а цяпер мне час ёсць. Дык я, што робячы, ражку аўса думаў у жорнах змалоць на вобмешку. А тут бачу — ты едзеш... Дык я, паглядзеўшы на твайго Буланага, проста кажу, што з гэтага каня нічога не будзе — стары і дыхавічны; я табе кажу, калі ты хочаш ведаць.

Раман Драгун у гэты час выдзьмухваў з вусоў пыл, які яшчэ з самага ранку пазалазіў туды, але, пачуўшы словы Сымона Шрота, забыўся пра гэтую работу і заявіў:

— То я гэта табе набіваюся з канём гэтым, ці што? За каго ты мяне лічыш?

— Я не кажу, што ты мне набіваешся з гэтым канём. Я не кажу, што ты не можаш набівацца. Набівацца ты можаш, але нашто гэта табе — каня гэтага я ўсё роўна не куплю. Што ты, розуму ў галаве не маеш, ці што; я табе кажу, калі ты хочаш ведаць...

Раман Драгун паволі сеў на Буланага і накіраваў яго на вуліцу. А на вуліцы пачуў голас Сымона Шрота:

— А дзе ты Каштана дзеў?

— Прадаў,— адказаў Раман Драгун і паехаў.

На гэтым гаворка і скончылася, і Буланы цяперка ішоў сабе і ледзь прыметна адчуваў, як яму хочацца аўса, ды яшчэ тое, што так жа не будзе, некуды дайшоўшы, нешта будзе есці...

Раман жа Драгун аб ядзе не думаў. Перш, як толькі ад'ехаў ён ад Шротавае хаты, дык адчуў думку аб тым, што шыракаверхая старая салдацкая шапка ўсё наязджае на лоб. А пасля прыпомніў свае справы, што вось трэба будзе гэтага самага каня прадаваць ды купляць другога; а гэта — чорт яго ведае, вельмі ж клопату многа. Няхай бы ён быў сабе і быў, гэты Буланы, і не старэў, і не трэба было яго са свету зводзіць. І як бы нешта падобнае да злосці шавяльнулася ў ім на Буланага. Праўда, яно то за жыццё прывыклася да гэтага клопату, але нек цяпер вельмі ж многа яго — усякія гэтыя дробязі збіраюцца ў адно, дык вельмі ж мучаць яны. А тут яшчэ ўсякія думкі апаноўваюць.

А пасля і гэтая думка сплыла. І тады прыпомнілася самае важнае, што ўсё рупіла неяк несвядома, знаходзілася недзе ў глыбіні істоты і не афармлялася ў думках, а цяпер неяк раптам выплыла, з'явілася і выявілася ўжо як моцнае настойнае разуменне: «Гэта ж Буланага, калі ніхто не купіць, трэба будзе пусціць пад нож на шкуру, яно то ўсё роўна яму ўжо канчацца, але...»

І тут раптам ужо была новая думка: «А можа яго і купіць хто...» І тут жа выявілася яшчэ новая думка: «То ўсё роўна ж яго на шкуру купяць...»

І тады ўжо гэта пачало пераходзіць з думак у пачуцці.

— Яно то лепш не думаць аб гэтым,— сказаў паціху Раман Драгун, мала ўжо разбіраючыся аб тым, аб чым гэта не думаць.

А пачуццё было. Было гэтае яно цьмянае і некае новае. Тады, як раніцаю калоў ён трухлявы пянчук у саду, тады аб Буланым думаў таксама, як і аб гэтым пенчуку: «От пянчук раскалю, а Буланага прадам», а цяпер Буланы раптам як бы вырас сваёй істотаю для думак. І на адзін, на адзін толькі момант стаў ён як бы мяжою між двума адчуваннямі свету.

Утварылася вострае раздзяленне між пенчуком і Буланым: матэрыял і істота; матэрыял для жыцця і жыццё; і матэрыял для жыцця ад жыцця. Глядзі ты на матэрыял — што скажа жыццё? Глядзі ты на жыццё, каб цвіло — Буланы робіцца матэрыялам...

А тут якраз пачалі пералятаць цераз дарогу вароны, пачалі шукаць нечага на ёй і адцягнулі ўбок Раманавы думкі; уявілася, што вароны пахнуць ветрам, а вецер пахне мокрымі кустамі. А ў кустах, пэўна, яшчэ відна з-пад мокрага снегу мокрая і зжаўцеўшая трохі за восень трава. Дык тады і ўявілася яшчэ, што гэта і хаты там скрозь стаяць, і людзі там вакол ходзяць, і дарогі пад мокрым снегам ляжаць, і ўсё гэта ж прывычнае і блізкае. Гэтае ўяўленне прывычна і натхнёна заўладала раптам пачуццямі зусім і цераз глыбіню істоты разагнала папярэднія думкі, і тады ўжо ясна адчулася: дык Буланы гэта стары, яму ўжо канец падыходзіць. «Гэты канец прыйдзе, зробіцца неяк, адыдзе, а я пра яго забуду, а сам буду жыць, бачыць усё. І не мной гэта ўсё зроблена, і не мной будзе пераробдена».

І раптам, як бунт некі, выбухнула вастрата думкі: «А ці не павінен я ў гэтым рабіць што? Чаго ж гэта еду я спакойна, калі вакол так?»

Але гэта думка засталася няскончанай і нават зусім не сфармаванай, бо раптам прыпомніў неяк, што заўтра нядзеля, і пры гэтым уявілася, што ўсё будзе такім, якім будзе.

А пасля зноў з'яўляцца стаў нейкі непакой як бы ад таго, што Буланаму падыходзіць канец.

— Чорт яго ведае, от разбярыся тут,— сярдзіта плюнуў Раман Драгун і ткнуў Буланаму заднікі ботаў пад чэрава.

Гэта работа навяла яго на звычайнае, і з'явіліся новыя думкі аб тым, як гэта ён на Буланым і на Каштане вазіў гной, а вецер свістаў у вушах. Была восень, разбівалі гной, птушкі ляцелі.

І раптам зноў засвістаў Раман Драгун:

— Фюй-фіць.

А пасля захацелася яму заспяваць, ды не мог прыдумаць ён песні. І ўжо неяк як бы дзівіўся — як гэта ён мог думаць аб усім тым, аб чым нядаўна думаў. Што гэта ж Буланы стары, дык таквеле бяды: папрацаваў на ім некалькі год, даў ён карысць, а гэта будзе добрая шкура — матэрыял добры, значыцца...

А Буланы ішоў сабе паволі і не думаў і не ведаў, што над яго галавою ў чужой галаве некалькі раз змяняліся настроі. Буланы раздуваў свае старыя ноздры, трохі нават, як бы гэта прыпамінаючы лета, памахваў аблезлым хвастом ды ўсё ішоў.

Усё ішоў ды ішоў...

## IV

Маўклівою дарогаю паволі прыйшоў дзень. Перш думаў ён нешта над соннаю вадою рэчкі і слухаў. Пасля азірнуўся і ўбачыў: у шэрым холадзе маўчала зямля. Застыў яе смутак белаю мерзлатою і падышоў ужо да мяжы з радасцю: як развіднела, пачаў насіць вецер над зямлёю зыкі, ці то гэта сам моцна расказваў, ці то гэта нейкае выяўленне жыцця развяваў у прасторах...

Тады пабялеў і прамёрз у саду скошаны аер, і весяліліся ўжо вочы не ім, а сухімі паленнямі сіняватай хвоі каля сцяны пад страхою. Нагадваў гэты сіняваты колер роўнасць шуму зялёных калюшак, а зыкі таго дня змагаліся з гэтым уяўленнем...

І ад гэтага трудна было ўстанавіцца ў парадах пачуццям, загэтым і дзень той быў, як нейкая мяжа між абсалютным спакоем душы і роспаччу, як розніца між радаснай ціхынёю і беспрытульным холадам...

Ішоў сабе дзень паволі, у бязмернай далячыні ад таго, як ён уяўляецца ўсяму, што можа ўяўляць. От ішоў сабе, як хадзіў каля платоў Буланы. Было ў ім тады роўнае

адчуванне жованага кагадзе сена, ветру, што коўзаўся па яго рэбрах...

Панюхаў Буланы сырыя дубцы, якімі ўвіты быў плот, пацерабіў трохі губамі іх сухое лісце, уцягнуў быў у рот некалькі нават гэтых лістоў, паклычыў трохі дзяснамі ды выкінуў назад. Пасля стаў пад грушай, ды так і стаяў, шавелячы адным вухам і апусціўшы ўніз галаву. Не было яму холадна і было нек усё абы-якім. Не веяла, значыцца, палявою воляй, а мінуўшчыны для адчуванняў не было, была моцная мяжа ў іх між тым, што ёсць, і тым, што было. На адзін бок мяжы ўсё было запоўнена тым, што ёсць, па другі бок, там, дзе павінна было быць тое, што было,— было пуста. Гэтая пустая заўсёды палавіна часам прапускала праз сябе для раптоўнага ўяўлення нешта вельмі тонкае і надзвычайна вострае, што заўсёды рабіла раптоўны ўздым таго, што застаўляла Буланага паднімаць угору, наколькі хопіць старых сіл, галаву, падкінуць задам ды страсянуць шыяю. Апошні раз гэта было ўчора вечарам, як Раман Драгун палажыў у жолаб сена. У цемені раптам запахла сенам, і ў першы момант улавіў быў Буланы ў гэтым паху нешта ад роснае травы ў летні вечар. Тады нек самі раздзьмуліся ноздры, страсянулася шыя, а ў вачах, па цемені хлява, прамчалася некая лагчаіна з куп'ямі, алешнікам ды роснаю травою. Ды яшчэ, але ўжо ў меншай меры, ружовасць сонечнага захаду. А пасля ўжо сена пахла сенам, і Буланы спакойна жаваў, так як цяпер спакойна стаяў у садзе...

Стаяў усё ды стаяў.

Не быў гэта сум жывое істоты, а роўны спакой: цягнецца паволі час, вецер дзьме, і калі я стаю, то, значыцца, я стаю. Гэта быў такі выгляд у Буланага, як бы гэта ён злёгку разважаў: «Усё такое, якім яно ёсць».

І ў той самы час, тут жа вельмі блізка, за дзеравянаю сцяною, у хаце, чалавек разгладзіў вусы, пацягнуўся ўсёю сваёю постаццю і з некай фаталістычнай упэўненасцю сказаў ні то сам сабе, ні то каму іншаму:

— Мусіць, годзе ўжо з гэтым канём важдацца... Не будзь я Раман Драгун, калі я на ім што страчу.

На лаве каля сцяны сядзела дачка яго — худая і вастраносая жанчына. У яе заўсёды быў клапатлівы настрой. Яна памаўчала трохі, а пасля роўным голасам сказала:

— Гэтага каня трэба папхнуць к чорту.

І тады ў хаце гаворка аб гэтым была ўжо скончана.

Раман Драгун ужо ўявіў, што рабіць і куды ісці. Ён ужо весела закурыў і паглядзеў з хвіліну праз акно, здалёк, як сплываў патроху белы дзень...

Кароткі быў ён, гэты дзень. Пакуль у хаце пагаварылі і падумалі, пачаў ён канчацца. І калі ён канаў, агарнуўшыся сіняватым змрокам, Буланы піў каля калодзежа ваду так, як і заўсёды. Усё ішло сабе так, як і дагэтуль. І ўсё было так, як і заўсёды,— і сумна, і радасна.

## V

Карась быў худы і шчуплы стары.

Кожную раніцу падоўгу любіў ён мыцца. Доўга цёр ён пры гэтым свае маленькія гладкія вушы і такі ж маленькі белы нос. Чухаў у круглых сівых вусіках і рэдкай бародцы, а пасля адзяваўся ў нешта чорнае і доўгае, што раней зваў сурдутам, а цяпер ніяк не зваў, бо з цягам часу яно зусім змяніла сваю форму.

Любіў ён вельмі маўчаць ды вечна цягнуць сабе пад нос некую вялую мелодыю, як бы гэта ён хацеў гэтым выявіць роўны, без бур і цішы ход свайго жыцця. І ўсё, што рабіў, ён рабіў упэўнена, не думаючы аб другіх і не гледзячы на тых, хто глядзеў на яго. Як бы гэта не адчуваў ён нікога на свеце, апрача сябе ды таго, што рабіў.

Год пяць таму папаўся на яго жыццёвай дарозе адзін чалавек, які толькі некалькі першых дзён як бы прабаваў увайсці ў гэтае вяла бясконцнае жыццё, а пасля як бы стаў пры гэтым жыцці, плывучы сам сабою, і толькі на кароткія моманты спатыкаўся цесна і востра з ім. Гэта быў Мікалай Бяляк. У жыцці гэтага чалавека самым важным, самым найвышэйшым здарэннем было тое, што служыў ён некалі ў салдатах, сам браў, а пасля здаваў некую карпацкую крэпасць. Гэтае важнае здарэнне ў яго жыцці навучыла выяўляць яго чалавечую моц, смелым стараннем свой вялы ад прыроды голас зрабіць зычным і заўсёды дзе трэба, дзе не трэба хваліцца кожнаму, што ніхто так не знаецца каля коней, як ён. Быў ён сыты, але косці меў шырокія, і загэтым твар яго здаваўся худым, ступаў ён цвёрда, моцна стукаў нагамі і маленькую галаву на сухой шыі трымаў трохі на левы бок. Нешта было агульнае ў ім і ў Карасю. Яно не было ў тым, што абодва яны невысо-

кага росту, нават гэта хутчэй магло адрозніць іх аднаго ад другога — белы твар Карася насіў у сабе ўсе адзнакі старасці, а гэты быў яшчэ малады і моцны, твар меў гладкі і цвёрды, нейкага шэрага колеру. Была гэтая агульнасць і не ў тым, што Карась трохі гарбаты, а ў гэтага круглыя плечы трохі прыгнуты. Гэтая агульнасць была неяк у глыбіні іх істотаў, неяк часам вочы аднолькова свяцілі, як бы хацелі выявіць дзве падобныя плыні жыцця. Што плывуць двое людзей ці ў чым-небудзь варушацца, і тут для кожнага больш добрага, нават многа яго, чым кепскага: яно ёсць, то што тут больш гаварыць — і добра...

Можа гэтая агульнасць з'явілася ў працэсе жыцця. Можа яе дало тое, што рабілі яны ў жыцці. Хоць рабілі яны адно і тое неаднолькава. Работа была адна, і можа гэта самае важнае.

Карась рабіў так: калі дасць ён нажом каню ў грудзі, то, значыцца, конь скора кончыцца, і гэта ніяк неяк не ўспрымалася: вецер шуміць сабе, за ўзгоркам дарога маўчыць, а там нехта праехаў, вечарам сонца заходзіць, а я каня кончыў — ну, то што тут такога?!

От так гэта тады Раман Драгун пянчук той калоў, а пасля аб Буланым думаў. Дык у гэтага ўсё жыццё было такім. Не было нічога ні ніжэйшага, ні вышэйшага, нават як бы патрэбнага і непатрэбнага. Усё было роўным, усё было на сваім месцы. Б'ю коні — бо гэта мне патрэбна, каб жыць... І слёзы не з'яўляліся ні радасцю, ні тугою — гэта тое, што з вачэй льецца...

Можа і з'яўлялася што ў яго, што абуджвае пачуццё аб выяўленні ў слёзах радасці ці смутку, але дні ішлі, плылі сабе, і ўсё плыло, рабілася, варушылася. Пускаўся ў дзела амаль кожны дзень нож, прывыклася бачыць цёплую кроў, таксама, як прывыклася бачыць, што вакол цябе ходзяць людзі, на градах растуць гуркі, што калі тупы нож, дык ім трудна арудаваць і што наогул, калі ён тупы, то, значыцца, тупы...

Мікалай жа Бяляк востра жыў момантамі. Як памагаў ён Карасю на шырокім поплаве ці дзе ў полі ў рабоце каля коней, вельмі хацеў, каб хто гэта і чым пабольш людзей бачылі гэтую работу. І каб гаварылі аб гэтым, бо тут жа і было аб чым гаварыць — гэта ж колькі вакол тысяч людзей жыве, а толькі яны ўдвух тут робяць гэта.

І з вялікім захапленнем Мікалай Бяляк расказваў пасля, як часам ад першага ўдару не падаў конь і загэтым

было каля яго тады больш работы — работы важнай, нават вялікай у сваім значэнні, такой важнай, як няважна ўся работа ўсіх тых, хто яго слухае...

Ні ён, ні Карась доўга не гаварылі з Раманам Драгуном. Вырашылі яны справу ў двух словах. Вырашэнне гэтых спраў ляжала галоўным чынам на Мікалаю Беляку, і ён зараз жа ва ўсім, у чым хацеў, упэўніў Рамана Драгуна і назаўтра пасля гаворкі забраў у яго Буланага і павёў у поле, куды Карась неўзабаве прыйшоў вузкаю, абветранаю за восень сцежкаю...

І тут, у вялікім прасторы, сярод неабдымнасці зямлі, павінна было адбыцца тое, што ёсць самае важнае для разумення ці адчування істоты: што жыццё — бязмернае і неабдымнае, і перад адчуваннем яго нішто абшары свету, і сэнс яго — у радасці; адчуваючы смутак, істота адчувае і не забывае, што існуе радасць і што ў ёй і ў вечным імкненні да яе — апраўданне жыцця.

## VI

Пяць дзён пад вятрамі ляжала зямля, а пасля гэтыя ж вятры пагналі з захаду мяккія хмары, а ад хмар цямней стала на зямлі, і тады прапалі вятры. І як бы хмары прынеслі цяпло — растала трохі падмёрзлая зямля, і зеляней, і весялей стаў выглядаць мох у задумёных кустах.

А хмары ўсё ішлі ды ішлі, усё паўзлі па нізкаму небу і неўзабаве пачалі прападаць за даляглядам. І ўжо відаць стала шэрую яснасць неба; зноў пачалі ўпарта зваць у свае далі дарогі, зноў пачала далечыня зямных абшараў здавацца прывабнай, і зноў нараджаліся жаданні ўсё ісці ды ісці.

Гэта так было на зямлі для людзей.

А тым часам Буланы бег паволі, наколькі дазвалялі старыя ногі ды нейкая, ніколі раней невядомая, трывога. Была яна недзе ў глыбіні істоты, неяк хадзіла па ўсіх жылах і паменшвала моц ног, але разам з тым і застаўляла бегчы. З'явілася яна раптам, зразу пасля таго, як Мікалай Бляк хваціў яго за морду, а ў руках Карася бліснуў нож. Тады раптам рвануўся Буланы, і некая сіла, зусім незнаёмая ўжо на старасці год, панясла яго па вузкай дарозе... Толькі ногі падніманіся ды капыты чапляліся за высокія межы асенніх палеткаў... Пасля пайшлі за полем ціхія кусты, а за кустамі бліснула срэбрам вады вузкая рэчка.

Буланы пабег цераз яе. Трохі нават падскочыў, перакінуў пярэднія ногі на той бераг, а заднімі боўтнуў у самае дно. І тады нешта цьмянае шавяльнулася недзе ў адчуваннях: «Гэта ж, мусіць, дагналі ды зрабілі нешта». І тады ўжо залапатаў-забоўтаў нагамі ў вадзе, з усіх сіл рвануўся наперад і зноў пайшоў ва ўвесь дух па пустых паплавах. Пасля выбег у некую лагчыну, а там направа і налева кусты. Пад кустамі мох зялёны, пад нагамі балотная трохі трава.

Ціха было, спакойна, і ад гэтага паспакайнеў Буланы. Стаяў ён доўга на адным месцы, адчуваў, як хадзілі ў ім ад удушша пад шкурай рэбры, ды ўсё, задзёршы галаву, цягнуў у сябе паветра.

Стаяў усё ды дыхаў, узнімаў высока бакі...

І ўсе спакайней ды спакайней. На хвіліну нават уявілася, што зараз вось прыйдзе Раман Драгун, забярэ яго ды павядзе дадому, а там падкіне сена.

І тады ўжо пачаў хадзіць Буланы паволі ды грызці вільготную і халодную ад восені траву...

Гул нейкі, як бы крык, ішоў па лагчыне. Брахаў недзе за кустамі сабака, а пасля і ён выбег на лагчыну ды, задзёршы галаву, брахаў усё, стоячы на адным месцы.

Грызучы траву, пайшоў Буланы ў кусты. А на той бок рэчкі хадзілі ўжо Карась з Беляком. Хадзілі ды шукалі месца, дзе б пералезці цераз рэчку, ды ўсё гаварылі аб тым, як гэта мог так спрытна ўцячы Буланы — стары і дыхавічны.

Бяляк скроб усё ў валасах на шыі пад барадою ды злаваў трохі на тое, што не ўдалося вось зразу кончыць маленькую і прывычную справу — забіць Буланага.

«Прыйдзецца шукаць, а пакуль знойдзеш, а там і вечар надыдзе,— думаў ён сярдзіта,— дык, ліха на яго, спазніцца можна на жалобную вячэру — памінкі пасля Яна Барыкі».

— Тфу, няхай ты згары, гэткая работа,— вылаяўся Бяляк ды яшчэ раз плюнуў, а пасля ўпікнуў Карася:

— Калі бо ты колеш чорт ведае як, ці гэта гэтак калоць? Гэта ж табе не курыца, а конь. Хоць стары, але ўсё ж сілу мае.

— А ты дык вельмі разумны, як пагляджу я на цябе,— абазваўся Карась,— на каго любім усё ўскладаць, а сам дык як трымаў — хваціў за морду ліха ведае як. Калі не ўмееш трымаць, дык трэба было не брацца. Гэта

табе не жарты — каня з-пад нажа выпусціць. Цяпер шукай ветру ў полі.

І ўсё ўпікалі адзін аднаму, шукаючы Буланага, каб забіць яго.

Хадзіў Буланы ціха сабе па лагчыне, грыз траву, адчуваў вясёлую млявасць ад прайшоўшага непакою, слухаў брэх сабакі ды не адчуваў, што шукаюць яго. Хадзілі двое людзей па беразе рэчкі, і быў у іх непарадак у настроях, бо парушана было гатовае, раней ужо ў думках складзенае.

І ніхто з гэтых трох істот не адчуваў усяе глыбіні моманту, што была тут блізка смерць. Будзе, як і раней, пахнуць у лагчынах травою, будуць у сонечныя дні вятры гнаць пыл па дарогах, будуць хмары палівацъ зямлю дажджом, а пасля глядзець на макрату ды смяяцца сонцу. Будзе ўзнімацца ў свеце ў істотах радасць, будзе ападаць да смутку, зноў пасля ўзнімацца... А ў той час Раман Драгун скажа суседу:

— Быў у мяне конь Буланы, от цягавіты быў, пакуль не з'ездзіўся.

Грыз сабе Буланы траву...

«Спазніўся на вячэру,— думаў Бяляк,— чорт яго ведае, як шкода, ах каб ты згарэла, каб ты... гэткая работа».

«Хутчэй бы знайсці ды кончыць,— думаў Карась,— а тады вечарам запрагу каня, ды ехаць трэба ў горад».

* * *

Няпэўная пара — восень. Зноў узнімацца пачаў вецер, зноў пагнаў ён хмары. Ды ўжо сагнаў іх усе за далёкія лясы, за зямныя далі.

І глянула на зямлю зусім яснае неба. Як бы гэта летняя шырыня адчулася ў ім. Як бы гэта прасторы свету разгарнулі некую вялікую думку.

Беглі па зямлі зыкі, чуўся з дарогі звон тэлеграфных дратоў, стукалі недзе калёсы ды гаварылі людзі. Можа гэта Карась з Беляком выказвалі сваё нездавальненне, а можа так гаварылі аб сваім іншым...

І ўсё дзьмуў ды дзьмуў вецер, і ўсё ясней і ясней рабілася на зямлі ад яснага неба, бо зусім зышлі хмары.

Яны ўдвух падышлі да дарогі. Раптам выйшлі да яе праз кусты. А там відаць ужо была вёска, а за ёю бегла далёка ржышча.

— Хто яго ведае,— сказаў раптам Бяляк,— от неяк не разабраць, як паглядзіш — ці гэта восень, ці вясна.

— Дай закурыць,— адказаў Карась.

Пры дарозе на каменнях яны селі і пачалі курыць. Курылі сабе паціху, курылі, а пасля ўсталі ды зноў пайшлі шукаць Буланага. І можа гэта ад таго, што спакойна на каменнях пакурылі яны, прапалі ў іх сляды злосці на Буланага за тое, што ўцёк з-пад нажа, і на саміх сябе, што няспрытна кожны рабіў тое, што трэба.

Так і шукалі Буланага...

Знайшлі яны яго за кустамі каля дарогі. Ён стаяў на некай пакарпанай раллі і выгрызаў нешта з аднаго месца — можа да смаку яму прыйшлася халодная трава, з'едзеная раней каровамі. Ён не даваўся ім — яны зноў прабудзілі ў ім некую, аб нечым і ад нечага трывогу, і ён кінуўся бегчы, а пасля як бы раздумаўся, адчуў раптам, што ногі неяк дрыжаць і слабыя і недзе ў глыбіні жывата нешта моцна сціснулася. Як бы паплыло што над ім, цераз яго галаву, і ад гэтага галава сама апусцілася ўніз, але занечым трэба было трымаць яе ўгары. Тады ён толькі вушамі пашавяліў трохі ды раптам стаў.

— Кось-кось,— пазваў яго Бяляк,— косенька Буланы...

І раптам хваціў яго за валасы, што звесіліся над левым вухам.

І тады павялі яго.

З такою ж трывогаю ва ўсёй сваёй істоце і з такою ж цяжкасцю ў жываце пайшоў ён за імі, некалькі разоў спатыкнуўся аб высокую мяжу... І ўсё ж скрозь трывогу калацілася ў ім нешта падобнае да адчування, што пасля поля гэтага і гэтых людзей будзе нешта вельмі добрае — пачынаў канчацца дзень, і загэтым інстынкт прывык да спакойнага начлегу... І па меры таго як ішлі яны, усё спакайнеў ён — адчувалася ўжо ім нешта добрае, звычайна-спакойнае.

Канчаўся дзень, як яны прыйшлі...

## VII

Бяляк забыўся, што вакол адзіноцтва асенняга дня, поле ды вецер,— як бы гэта адчуў ён вакол сябе тысячы людзей, тысячы зацікаўленых вачэй, і сам ён у цэнтры ўсяго. Свет прыслаў вялікіх сваіх прадстаўнікоў, каб ба-

чыць тое, што робіць тут Бяляк Мікалай. І ён мацней, як тады, хваціў Буланага за морду.

У Карася быў такі выгляд, як бы гэта ён стаяў адзін, ахвачаны цеменню ночы, так што ніхто яго не бачыў, ніхто аб ім не ведаў і не думаў. Ён спакойна, з каменным выразам твару, дастаў з халявы нож, папрабаваў пальцам вастрату яго і, як бы што раптам уцяміўшы, даў гэтым нажом Буланаму ў грудзі...

Буланы не то што каб гэта адчуў боль, яе неяк асабліва і не было. У першую хвіліну было нейкае як бы непаразуменне перад усім тым, што робіцца, што робяць, што ёсць... У наступную хвіліну далечыня зямлі, якая відна была, паплыла ўгору, пасля пайшла нек набок, і па ёй забегалі чорныя кроплі. Пасля ўсё стала цёмна-шэра-сінім, паплылі ў ім чырвоныя лапіны, з нейкаю страшною зеленню ды яшчэ з нечым такім, што і ўсё, і нічога; тады моцна застукала нешта шумнае і тупое ў вушы, і раптам, у тры, пяць момантаў усё пачало рабіцца нічым. І ўсё стала нічым.

І стаў такі выгляд у Буланага: чаму гэта яму канечне сагнуць пярэднія ногі ў каленях, каб апусціць на зямлю, чаму не ўпасці яму проста, як стаяў, і чаму яму канечне трэба падаць?!

Бяляк азірнуўся на кусты і плюнуў убок, бо было яму прыемна пляваць. Карась абцёр нож аб шыю Буланага і зноў папрабаваў пальцам яго вастрату.

Канчаўся дзень.

Буланы абсунуўся неяк наперад, ткнуўся мордаю ў зямлю...

За кустамі ляжала дарога. Была яна шырокая і шэрая і неяк яшчэ белая на фоне асенняй зелені, вясёлай пустаты ржышча ды задуменнасці чорнай раллі. Гэта яна, раней трохі, гэтым сваім выглядам весяліла вочы двух чалавек.

Цяпер яны, блізка тут, здзіралі з Буланага шкуру.

А па дарозе шэраю масай праехалі конна сотні шэрых людзей... Адзін, што меў у той час уладу над чужымі настроямі, уздумаў раптам, што існуе на свеце вясёласць неабдымная, нястрымаsuccessая, радасць нявымераная. Ён падняў угору руку, патрос ёю там, пасля раптам ускінуў яе яшчэ вышэй, як бы гэта піхнуў ёй угору некі цвёрды, як дыямент, жмут, з якога павінна рассыпацца па свеце тая вясёласць.

І раптам ажыло ўсё, што здавалася нежывым, што

было нежывым: загаварыла ўсё, што маўчала дагэтуль; заслухалася ўсё, што не слухала дагэтуль. Пабег нястрыманымі хвалямі той фон, на якім павінна была развярнуцца тая вясёласць. І на ім загаварылі флейты. Зверху яны беглі ўніз у зыках сваіх і, не дабегшы туды, а ўжо будучы там, каціліся ўвыш, і ўсё насілася і крывымі, і простымі лініямі ўшыр. І мог з'явіцца смутак, што гэта калі-небудзь скончыцца...

Выйшаўшы на дарогу, Мікалай Бяляк раптам адчуў, як яму, як перад смерцю, жыць захацелася, усё тое, што ў тую хвіліну чуў, адчуў і ўявіў схваціць, каб паказаць усяму свету або самому растаць у ім. Не было ўжо больш ні таго, што трымала дагэтуль думкі ў няволі, ні таго, што вось кагадзе зрабіў важную справу з канём. Як бы расцвіла гэта зямля ўсім сваім харастмом і радасцю над усім тым, што было кагадзе смуткам...

Так і насілася ўсё гэта над абодраным і цёплым яшчэ, крывавым Буланым.

Карась улажыў у халяву нож і сказаў:

— Але ж коні ў іх якія сытыя. О, гэта дык коні!..

Мікалай Бяляк нічога не адказаў яму і пайшоў у свой бок, куды яму трэба было.

## VIII

На ве́сну, на тым месцы, дзе ўпаў Буланы, вырасла густая трава. Яшчэ восенню мяса яго, у першую ж ноч, з'елі ваўкі, косці расцяглі сабакі, і цяпер ляжаў толькі адзін чэрап, глыбока схаваны ў кусце сіняй травы. У гэтым чэрапе мурашкі заснавалі свой горад і жылі сабе там. У кусце травы расцвіў высокі чартапалох, над якім гулі пчолы. На самых яго карэннях, у траве, птушкі некія звілі сабе гняздо, але сабакі, якія прабягалі дарогай, мелі патрэбу, а можа толькі проста жаданне (хто іх ведае) прыпыняцца каля гэтага куста травы і перашкодзілі птушкам вывесці птушанят. Загэтым птушкі хутка пераляцелі жыць на той бок канавы, у куп'я.

Каровы не хацелі есці гэтай травы, і яна сінела высокім кустам сярод папарнага поля... Янка Самахвал, ідучы раз з касою цераз гэтае поле, стаў, падумаў і сказаў:

— От цяпер яны яе не ядуць, дык я вось адно вазьму ды скашу яе. То яна як высахне, дык тады зімою ці ўвосень з'ядуць за мілую душу.

# ПАРФІР КІЯЦКІ.

*(Малюнак людскіх адчуванняў).*

## I

Ішло яно доўга і часамі нават раней ужо з'яўлялася, але, памучыўшы трохі, адыходзіла. А гэта прыйшло зусім і моцна заявіла аб сабе: я ёсць! І тады здаровы і моцны мужчына — гарадскі поп Парфір Кіяцкі — адчуў: гэта ж смутак. І самае важнае было ў адчуванні, што гэта не на жарты, што прыйшло яно з вялікаю і страшнаю меркаю. Паставіць яно чалавека перад сабою і скажа сурова: «Пачакай жа ты, брат ты мой, вот я табе адно перамераю, што ты такое ёсць. Тады я табе дам, вызначу табе тое месца, да якога ты падыдзеш па гэтай мерцы».

Сперш хадзіў Парфір Кіяцкі неяк як бы што згубіўшы, адчуваў сябе так, як бы сапраўды яго мералі, пасля пачаў адчуваць, што ў гэтым як бы ўжо нейкая нармальнасць. Тады начамі не спаў, падоўгу хадзіў з кутка ў куток і бесперастанку курыў...

— Што з табою робіцца? — папытала раз жонка.

Ён паглядзеў на гэтую сытую, прывабную жанчыну, будзіўшую ў ім заўсёды дагэтуль вострыя жаданні, здавальненне якіх заганяла некуды далёка ўсе іншыя смуткі і радасці, сказаў:

— Смутак мяне заядае.

— Чаго? Ну, чаго ён у цябе?

— Я не ведаю. Як бы месца мне няма на зямлі, як бы тое, што ва мне і пры мне — не тое, што трэба, нават мне самому.

— Дзівак ты,— сказала спакойна жанчына,— ну, чаго табе трэба? Чаго табе не хапае? Вунь аднаго павідла нашарыла я повен склеп. Еш ды жыві.

Ён насмешліва глянуў на яе і хацеў сказаць ёй штонебудзь вострае і зневажаючае, але толькі злосна плюнуў сабе пад ногі і пайшоў у другі пакой.

Была туманная раніца. Расплывалася імгла, і цякла вада. Плакаў сад мокрым галлём ад радасці блізкага сонца, і крычалі над садам вароны.

— Дзе дзецца? — сказаў моцна Парфір Кіяцкі і, выкінуўшы з губ папяросу, закурыў другую. Пасля прайшоў два разы з кутка ў куток і стаў напроці акна. І адчуваў ён, як у галаве яго фармуецца нешта шырокае і цяжкае, якое ці то гэта прызначана давясці да канца некую важную работу з ім, ці то проста, каб мучыць яго. Як бы гэта і думкі там збіраліся і нешта іншае, што некалі было і што яны цяпер зноў цягнуць за сабою. Пачало нешта раптам ціснуць у лоб, хацелася спаць, але ведаў, што не засне. Так стаяў і думаў. Думкамі стараўся скамбінаваць усё тое, што вакол, зрабіць з яго цвёрды і малы жмут, каб лепш зразумець яго, каб лепш і беспамылкова вызначыць яму месца, калі яшчэ ўмесціцца яно ва ўсякім месцы,— бо можа ўвесь свет яго — адзінае месца і прычына. Думкі ў яго галаве нек так варушыліся і былі такімі цяжкімі, што як бы і не плылі яны, а нек валакліся, і прытым усё аб нешта спатыкаліся. Так не маглі яны доўга ясна паставіць перад чалавекам нечага таго, што самы важны, самы патрэбны пункт усяго. Гэты пункт не адчуваўся, была ўпэўненасць, што ён існуе, а што ён і дзе ён — трудна было ўведаць, і гэта мучыла.

І тады ўжо ясна адчуў Парфір Кіяцкі: «Гэта ж трэба мне нешта важнае прыпомніць». Адчуванне гэтае вызвала аднекуль з глыбіні істоты некую як бы ўпэўненасць, што гэта ж калі не прыпомніць ён, дык гэта будзе роўна таму, што каб гэта рушыўся раптам увесь парадак светабудовы.

Так усё стаяў ён, жмурачы вочы і збіраючы маршчакі на лбе ад наплыву думак.

Чутно было, як за сцяною ў кухні жонка бразгала жалезнай пасудай, і гэта таксама мучыла. Уяўлялася нек ад гэтых зыкаў, што гэта жонка як бы стаіць у некай бочцы з павідлам. Павідла ўваходзіць у яе ўсёю ненавіднаю масаю, і ад гэтага жонка такая гладкая. І ўжо з'яўляцца пачала нейкая варожасць да гэтай каханай увесь час жанчыны, некая нават агіднасць. Усё, што было дагэтуль, паказвалася нек іначай, з адваротнага боку. Раптам думацца стала аб тым, як гэтая жанчына ела, а ён глядзеў ёй у твар і з захапленнем думаў аб сваім каханні да яе. А гэта ўяўлялася ўсё так: есць яна — гэта значыцца рас-

цягваюцца мышцы, паднімаюцца зубы, складаецца туды яда, пасля праходзіць праз горла, і пасля адваротны бок усяго гэтага працэсу...

— Я, значыцца, пачынаю траціць розум, я хворы,— сказаў павольна і моцна Парфір Кіяцкі.— Так, гэта так і ёсць... Кончана, значыцца...

Ён усё гаварыў, як бы стараючыся ў гэтым упэўніць ні то сябе, ні то гэты самы працэс траты розуму.

— З кім ты гаворыш? — запытала жонка, уваходзячы раптам у пакой.

— З табою,— раззлаваўся мужчына.

— То што ты мне гаварыў, я не чула.

— Тое гаварыў, чаго не зразумееш.

— Няўжо, па-твойму, я такая дурная? — раззлавалася жанчына.

— Я гаварыў,— закрычаў раптам ён,— каб ты пабольш у павідле плавала, дык таўсцейшаю будзеш!..

Жонка пачала выціраць слёзы і выйшла, а яго душу запоўнілі раўналежна розныя адценні чатырох пачуццяў: побач умясціліся элементы гумару, горкай злосці, смутку і абыякавасці...

— Значыцца, так,— сказаў Парфір Кіяцкі,— значыцца, так... Ага... Так, так, так...

І ён застукаў пальцамі па акне, як бы разганяючы гэтым свае думкі ці завучы каго знадворку.

І чым больш стаяў ён так і стараўся нешта прыпомніць, тым больш яскрава ўяўлялася яму, як бы нешта шырокае плыве яму насустрач; плыве пад ім, і ён не ведае, куды глядзець, каб убачыць тое, што трэба яму. І вось яно патроху прыпыніла свой рух і закружылася ўжо, збіраючы і зганяючы гэтым кружэннем на сабе сваю масу. Маса вырасла на сярэдзіне ў нейкі ўзгорак з вострым верхам; і гэтая вастрата раптам стала ўвасабленнем таго, што трэба, але яго яшчэ засталося зразумець...

— Гэта ж думкі мае так,— сказаў моцна Парфір Кіяцкі.— Так, так. Гэта думкі так рассыпаліся і збіраюцца...

Тады, ужо не стараючыся прыпамінаць, раптам прыпомніў.

Няма ў яго ніводнай думкі ў галаве, і настроі яго — як той сіне-халодны вечар, калі было гэта. Прайшло якраз у той дзень нешта тое тупое, што мучыла два дні і што яшчэ не аформілася, як востры смутак перад жыццём... Гараць агні, і крычаць нешта вуліцы вечару, а ён ідзе

адзін, з лёгкасцю пасля таго сплыўшага, якое і прыйшло немаведама адкуль і ад чаго, і сплыло немаведама ад чаго і куды... На яго лінуліся вострыя каплі зыкаў: недзе блізка гралі і стукалі нечым у такт, і ад гэтага захацелася яму скінуць з сябе футра, бо нек горача стала, паплысці ў зыках і самому сярод іх арудаваць. Раптам страшна стала думаць пра дзеравяныя сцены свайго дома, бо яны нейк уявіліся як мізэрнасць, а душа запатрабавала тады ўсяго, процілеглага ёй. Зыкі вырвалі ў адчуваннях светласць і хараство і яшчэ нейкі прастор, у якім патрэбен смех і нейкія іскры — можа гэта радасных пачуццяў ці лёгкіх настрояў. І тады ўжо не думалася, а толькі жадалася. Уявілася, што ўсё ж гэта ёсць — і зыкі чутны, і агні гарань, і лёгкасць адчуваецца і не хватае толькі распусціцца ва ўсім гэтым, але было адчуванне, што і гэта надыдзе.

Але тады ўбачыў ён перад сабой жанчыну. Ішла яна лёгка, квола стукала нагамі па цвёрдаму бруку і гулліва гойдала станам. І нек стала ясна тады яму, што гэта ж і ёсць увасабленне таго, што кагадзе адчувалася, што гэта можа і ёсць тое адзінае, што патрэбна было яму тады для нейкай гармоніі і ад чаго гусціліся жаданні.

Яна прайшла трохі перад ім і раптам згінула недзе на раздарожжы вуліц. І як бы гэта панясла яна з сабою ад яго быўшы настрой; парушыла тое, што кагадзе ўстанавілася; з'явілася раптам страшная ўпэўненасць, што гэта і ўсё, што вакол,— не яго, не ў ім, а недзе за ім, і да яго мае ён дачыненне неглыбокае, пустое. І ўся тая гармонія па-за ім. Ён непрыметны. І не ён гэта быў істотаю сваёю на ўвесь свет, а свет вырас хараством сваім, і свая велічыня толькі здалася, бо была істота адрознена ад вакольнага.

«То, значыцца, месца не вызначана мне, або адарвала нешта мяне ад майго месца»,— шавяльнулася панурая, як макрата зледзянелага снегу, думка.

І пасля зразу пачало расці ў ім нешта і вострае, і тупое, і важнае, і непатрэбнае... Заставіла яно яго ўвесь той вечар хадзіць па вуліцах і да нечага прыслухоўвацца. А як надакучыла яму хадзіць — балець сталі ногі і прапаў усякі парадак у пачуццях і думках, нават нейк як бы спыніліся пачуцці і думкі, тады пацягнула яго ў цішыню чатырох сцен. Там было цёмна, і ў гэтым кутку стварыўся свой уласны свет, асобны ад таго, які быў па-за гэтымі

сценамі і ў якім не было месца чалавеку. Тады ён сеў моўчкі ў куток і праседзеў так да паўночы, бяздумна адчуваючы гэтае страшнае і неаформленае... А назаўтра раніцаю яно ўжо вызначылася як смутак у свеце аб свеце. І ён адмежаваў яго ад усяго...

Да самага паўдня смутак гэты прымушаў бачыць кволы і недасягаемы стан бачанай учора жанчыны, а пад вечар затаіўся смутак самім сабою і сам у сабе...

## II

Як ужо выявіцца ў адчуваннях пералом буры душы, раптам з'яўляецца процілеглы таму, што бывае ў пачатку буры. З'яўляецца вялікая патрэба ў цішыні ды спакоі. І як прыйдзе гэтая цішыня — гэта ёсць ужо новая бура... У часе гэтай патрэбы збіраецца ў чалавеку ўсё ў звычайны парадак: паволі і паступова збіраюцца ў свае берагі разбураныя пачуцці, выбіваюцца на свой след звычайны выбітыя з яго думкі. І гэта тады, калі засталіся ззаду жыццёвыя горы.

Самае ж вялікае бывае тады, калі яшчэ бурамі рвецца душа і не пазнаць яшчэ — шырацца буры ці заціхаюць, а істота дайшла ўжо да найвышэйшага пункта імкнення — або сцішыць буру, або адысці ад яе, каб яна заціхла сама ў сабе... Тады тое, што змагаецца з варожымі сіламі, выходзіць з глыбіні істоты, па-за яе і можа выяўляцца ва многіх, дробных часам, жаданнях, незразумелых чалавеку ў звычайных настроях. З'яўляецца жаданне бачыць вакол сябе і ва ўсім парадак, як бы гармонію ўсяго, бо бура — хаос, патрэбны для аднаўлення гармоніі... Гарэла пры сцяне ў хаце маленькая лямпачка і давала хаце прытульны выгляд, але ляжала на зямлі некалькі паленняў дроў, і гэта хвораму Паўлу калола ў вочы, хоць гэта было і не самым вялікім. Самае вялікае даходзіла да свядомасці: ці гэта праходзіць хвароба, ці праходзіць жыццё? Але было гэта рэдкімі момантамі, пасля ападала яно, і думкі былі такімі слабымі, што не ў іх гэта, а так недзе ў істоце было адчуванне непарадку ў тым, што накіданы былі ў хаце дровы. Было гэта з самага вечара, а пасля, у глыбіні ночы, мусіць, было вялікае змаганне жыцця з хваробаю, і пасля гэтага, у першыя ж моманты, з'явілася жаданне, каб прыбралі гэтыя дровы.

Звычайна ва ўсе дні хваробы мала гаварыў Павал, а гэта неспакойна пачаў патрабаваць.

— Якія дровы і што яны мяшаюць? — пыталі ў яго.

— Дровы прыбярэце,— прасіў ён і прабаваў падняцца, ды слабасць мяшала.

А пасля нек і сіла стала з'яўляцца. Тады прыбралі дровы, падумаўшы, што гэта баіцца Павал холаду і думае, што дровы знадворку халодныя, вільготныя. І хоць прыбралі іх, але ў хворай свядомасці яны засталіся на цэлую ноч і як бы ціснулі грудзі. І зусім ужо ўявілася яму, што гэта ж ляжаць гэтыя дровы на грудзях і давяць, і, значыцца, трэба скінуць іх з грудзей, хоць ясна было, што параскідаюцца яны ў большым яшчэ непарадку па хаце. Але тады раптам ускінуўся вялікі бунт істоты, бура супроць буры, і няважным стаў непарадак. Вышэй усяго стала сваё «я», якое давілі і тады.

— Вакол зраблю хаос, а сам паднімуся над ім!..

З усіх сіл рваўся Павал і раптам пачаў дыхаць раўней. Сціх і ні то задрамаў глыбока, ні то бура пачала выяўляцца надворнай цішынёй.

Пачалася другая палавіна ночы і мела яна ў сабе нешта падобнае да таго, што было ў пачатку хваробы. У тыя дні нек раптам стала любым, дарагім усё, што было і вакол і раней. Хоць у жыцці і не звярталася на яго ніякай часам увагі, а гэта раптам вырасла яно сваёю прывабнасцю, веліччу сваёю і багаццем хараства і глыбіні для радасці чалавека. Гэта не праходзіла праз Паўлавы думкі, кволыя ад пачуццяў, усё пеpажытае за пяцьдзесят шэсць год жыцця, а нейк успывалі наверх у разуменнях і адчуваннях вострыя моманты таго, што ахоплівала дагэтуль жыццё. І тады ўжо вырасла тая мяжа, вострае, кволае і патрэбнае чалавеку для ацэнкі шчасця, па адзін бок якой апынілася тое, што было, а па другі — тое, што ёсць.

Быў гэта нядаўна ясны дзень, і з самага ранку яму нездаровілася. Не мог ён малаціць і ўзяў сякеру ды пайшоў поплавам на бераг рэчкі высеч алешнікавых прутоў. І адтуль не хацелася яму ісці дадому. Можа гэта затым, што часта тут бываў, заўсёды сядзеў на гэтым самым беразе, апусціўшы ногі ўніз. А цяпер толькі ўбачыў, што ў гэтым жа можа быць месца і нават прычына для радасці. Раптам стала ўсё любым, і хацелася гаварыць з людзьмі... Сеў ён і цяпер на беразе, ахвачаны млявасцю ад таго, што ўжо забірала хвароба. Так сядзеў і глядзеў на ваду. А яна ўсё

цякла-цякла і нясла на сабе сухія лісця, дубцы, некую каламутную пену ды ўсё гаварыла з берагамі аб ціхай вясенняй волі.

І як каля паўдня пайшоў адтуль Павал дадому, зусім цяжка ўжо былоісці. Скураныя лапці здаваліся цяжкімі, балела галава. А вечарам зусім злёг. І ўсё думаў: няўжо гэта старасць так рана прыйшла?

У наступныя дні было ў думках тое, як сядзеў на беразе ясным днём, і думалася, што няма ж гэта на свеце нічога лепшага за вясеннія берагі, ясныя дні, гаворкі з людзьмі, і жаданай была, непрыметная раней, ціхая радасць вясенняй зямлі.

І ў гэтую ноч таксама вызначылася яснае гэтае пачуццё...

І ў чалавека, і на зямлі было тое нявыказанае, мала кім прымячанае, растаптанае нагамі, пакінутае без увагі,— што важнае, заўсёды патрэбнае і вялікае. І імкненне, і тонкае адчуванне радасці, нявыказана яснай пасля цямноты смутку, і ўсё, што ва ўсім, было тут...

Яшчэ сядзела ноч на вільготнай зямлі. Сагнуўшыся ад лёгкага холаду, яна задрамала ў перадранняй цішы. Яна сабе сядзела і не спяшала ўставаць, бо была такая пара, калі ёй прызначана даўжэй быць на зямлі. І гулка беглі тады ўсякія зыкі: абзываліся часам дарогі, людскія прытулкі; а пасля гінулі зыкі, і ноч рабілася падобнай як бы да нейкай вялікай думкі. Было ў ёй многа вялікасці, якая не так прымячаецца днём... Дзень будзе прыглушаць усё клопатам, будзе ўзнімаць у істотах адчуванні светласці або ўяўленні ці думкі аб ёй, бо тады павялічацца людскія імкненні; усякае ж імкненне мае перад сабой адзін пункт — ясноту.

Была восень.

Востра пахла зямля, і дыхала поле неабдымным прасторам. І ўсё, самае нават малое, праходзячы праз людскія пачуцці, поўна было вялікага сэнсу.

І як бы думалі гэта голыя дрэвы вялікія думы. Ціха лятлі над імі сухія лісты; яны ўпрыгожвалі сабою зямлю і давалі гэтым асалоду таму, хто адчуваў гэтую прыгожасць, на свеце ж усё так: смерць аднаго — здавальненне другому. І гэта тут вялікі закон выяўляе імкненне ўсяго да хараства, вялікую здольнасць усяго хаваць агіднасць і мізэрнасць; выяўляе можа цяжкую неабходнасць хаваць ад вачэй смерць у кветках і музыцы...

Дык ноч сядзела і маўчала, і над ёю маўчала зямля — як бы хацела гэта яна цішынёю вымераць тое, што існуе вакол і на ёй...

### III

От так, як гэта часам бяздожджныя хмары пачнуць аблягаць зямлю, так яшчэ з учарашняга дня пачалі аблягаць Мітрафана думкі. Мінулую ноч правёў ён у горадзе і выйшаў адтуль рана, каб хутчэй прайсці гэтыя дванаццаць вёрст...

Выходзіў ён ужо з апошніх вуліц дзеравяных кварталаў, адчуваў істотаю некія вялікія гімны ўсяго ўсяму і раптам пачуў музыку.

Мітрафан азірнуўся і ўбачыў: ідуць людзі, і на тварах іх тое самае, што заўсёды. Нават і гавораць яны аб нечым, аб сваіх звычайных, мусіць, справах, бо таксама, як заўсёды, махаюць рукамі, іншыя паплёўваюць у бакі, чухаюцца, а то ўсміхаюцца... Пасля ідуць музыканты, і яны так прывыклі да ўсяго гэтага, што нават не адчуваюць зыкаў, якія самі твораць. Пасля пара коней у чорных папонах цягнуць нейкую чорную прыстройку на чатырох калёсах, там белая труна, а над ёю высока сядзіць чалавек з буйным тварам, касматы, цесна падпяразаны па нейкай доўгай стараватай адзежы. Ён, з абыякавасцю да ўсяго гэтага, стрымлівае лейцамі коні і думае нешта неглыбокае, можа — колькі гэта ён на гэтай справе заробіць; і, ад прывычкі, зусім няма ў яго думкі або адчування, што вось усе вакол яго ідуць, а ён едзе ды вязе ляжачага і нежывога, ды яшчэ сядзіць вышэй усіх...

Мітрафан паволі пайшоў з усімі.

Магілкі былі за горадам. Ціха стаялі там голыя бярозы, а дзірван зямлі быў усыпаны жаўцізной іх дробных лістоў. Было тут усё спакойна нек, быў гэты спакой у самай зямлі ды ў сухім лам'і, што валялася пад дрэвамі. І гэтае адчуванне спакою тут было нейкае як бы выпадковае, бо і магілкі будзяць у чалавеку буры і бунты душы, і нават часам мацней, як усё іншае, што існуе апрача іх.

Там адчынілі труну, і Мітрафан убачыў белы твар, малы і вастралобы, над ім рэдкія светлыя валасы, зачэсаныя набок. Выраз гэтага твару быў зусім асабісты, было ў ім нешта далёкае ад усяго таго, што рабілася тут вакол яго, і тады Мітрафану ўявілася: колькі б ні гралі тут жы-

выя, колькі б ні стараліся яны ў музыцы выявіць, адбіць усё гэтае — нічога не будзе... Тое, што гралі музыканты, высока і шырока ўзнімалася над зямлёй. Аўтар, які яго тварыў, стараўся выявіць у ім сум смерці, а яно, можа нават абуджаючы ў кім гэты сум, гаварыла ўсё ж аб жыцці, адзначала, што чым глыбей слёзы, тым глыбейшае стаіць за імі шуканне радасці, што смутак можа гэты затым і ляжыць на дарозе жыцця, каб сваёю цеменню навучыць і сляпога бачыць і цаніць вялікія ясноты радасці...

«Нешта іншае трэба тут, каб адбіць тое, што вось зрабілася з гэтым чалавекам»,— несвядома шавяльнулася ў пачуццях у Мітрафана, і ўжо пакінуў глядзець ён на людскія твары, на нежывога ў труне, а пачаў толькі слухаць.

«Музыка гэта тут для жывых, для саміх сябе»,— было далейшае адчуванне, і ўжо была як бы нейкая злосць ад вось якой думкі:

«А ці стараліся даць музыку людзі гэтаму чалавеку пры жыцці яго? Можа ён на душы сваёй насіў нешта такое, што трэба было па-брацку расказаць усім, а ён маўчаў, хоць і ведаў, што ўсякі той, хто насмяяўся б над ім, сам у сабе гэтае самае носіць. Так можа і памёр ён «казённым» для ўсіх, не сказаўшы нікому таго, што патрэбна было сказаць».

І тут ужо прыпомнілася Мітрафану, што там дома ў хаце ляжыць хворы дзядзька. Як жыў ён здаровым, гэты дзядзька, дык от жыў сабе — рабіў усё ў гаспадарцы, выпіваў часам для вясёласці, ніколі не быў жанатым, бо не было дзе жонкі дзець, многа басякаваў у маладыя гады, пад старасць паспакайнеў, больш сядзеў дома ўжо ды нешта як бы думаў, а можа гэта і нічога не думаў, а так маўчаў, несвядома прывыкшы да таго, што гаварылі з ім за ўсё жыццё толькі аб драбінах, аб дажджах, аб сякеры, якую нехта ўкраў, а ён не ўпільнаваў, аб сарочцы, якую ён раз быў скінуў з сябе і палажыў на лаву, і ад гэтага не вельмі чыстаю стала лава...

«Што гэта цяпер адчувае дзядзька»,— першы раз у жыцці з'явілася ўпартая думка ў Мітрафана, і ўжо тады ва ўсёй істоце перамяшалася, а ў вушах стаяла музыка. Яна як бы хацела нешта сказаць і не магла, не магла выявіць таго, што трэба было ў гэтую хвіліну, а выяўляла нешта іншае. От была яна сама сабою, і мусіць гэта, хто слухаў яе, усякі па-свойму яе адчуваў...

Пасля, як ішоў ужо Мітрафан палявою дарогаю, быў

у яго нейкі надзвычайны настрой, што мала калі з ім было. Тое, бачанае за горадам, пакінула пасля сябе востры след, і тут па гэтаму следу пайшло ўсё тое, што было ўжо вакол яго па дарозе. Ясным рабіўся дзень — пачало выглядаць сонца, і тады прыпомнілася, што гэта ж яшчэ зусім рана. Ціха ляжала поле, відзён быў ззаду горад, а тут блізка, пад нагамі, ляжала вільготная зямля. Ізноў прыпомніўся хворы дзядзька. Ізноў паўстала пытанне: «Што гэта ён цяпер, аб чым думае? Можа гэта трэба пагаварыць з ім, пагаварыць іначай, не так, як усё жыццё гаварылася?» І ўжо ідучы думаў толькі аб дзядзьку, з цвёрдай упэўненасцю, што трэба, прыйшоўшы дадому, пагаварыць з ім.

Дарога была няроўная — то паднімалася на ўзгорак, то збягала ў лог; а з узгоркаў відаць было далёка зямлю, і нешта звала туды ісці. Уяўлялася, што там вось горад з людзьмі, пройдзеш ты яго, пагаворыш з людзьмі і далей пойдзеш. А там вёскі з людзьмі. Адтуль далей, ізноў горад, людзі і ўсё зямля, зямля...

І слаўна было ісці...

Дома Мітрафан тупаў цэлы дзень па хаце і жадаў сказаць што-небудзь хвораму дзядзьку, а той маўчаў, як бы спаў, лежачы на непрыбранай пасцелі каля печы. Нястрыжаная шчаціна барады яго задралася ўгору, і дробны твар увесь быў у змаршчках. Меў ён на сабе адбітак прыдаўленага непакою ды яшчэ быў колерам падобны да тае старое салдацкае шэра-жоўтае вопраткі, якою быў накрыты.

— Дзядзька,— сказаў паціху Мітрафан,— я паеду па доктара.

І гэтыя словы яго празычэлі і заціхлі, бо не жывуць зыкі доўга для вуха.

Але пасля, як Мітрафан выйшаў з хаты і прайшло некалькі хвілін, пачалі гэтыя словы зноў зычэць у вушах Паўла і ўжо вызываць у мазгах аб сабе разуменне: гэта было некім сказана. І пасля пачаў высвятляцца сэнс гэтага сказанага. Высвятляцца паволі, няроўна і нейкімі ўдарамі. Адзін за адным развязваліся вузлы, што хавалі ў сабе тое яснае, чыстае, што ў свядомасці, якая плыве па роўных і чыстых хвалях думак...

І раптам нешта як бы разарвалася ў істоце. Адышлі далёка берагі, што ціснулі некай чарай адчуванні.

Выбухнуў агульны ўздым, і Павал запытаў:

— Якое сягоння надвор'е?

Ніхто не адказаў яму, бо ўсе спалі, хто быў у хаце. Толькі Мітрафанава жонка, пачуўшы скрозь дрымоту Паўлавы словы, няясна падумала:

«Гэта ж ён з гарачкі, мусіць. Трудна яму, хутка памрэ...»

Ад таго, што ніхто не адказаў Паўлу, пачаў думаць ён нейк аб усім. Плылі думкі бурна, навострывалі яны пачуцці. І ўсё ляжаў ён ціха ды глядзеў у адно месца.

«Гэта ж я ачуньваю»,— была ўжо ясная думка.

## IV

Макей Пілат у той дзень устаў позна — ужо пачало развідняцца. Цэлую ноч не спаў ён ад нервовасці — усё думаў аб тым, што ён сведка на судзе Андрэя з Змітром. Быў суд на тым тыдні, ды Змітрок не здаволіўся пастановаю суда і падаў вышэй, і цяпер зноў давядзецца гаварыць перад судом, як ён з сынам-хлапчуком Міхалкам ехаў з поля, от так каля паўдня. І як на дарожцы, проці Карасёвага поля, раптам убачыў ён разам з Міхалкам, што Змітрок б'е Андрэя. І як ён тады хацеў ад'ехаць далей, каб далей быць ад гэтае справы, але Андрэй пачаў звацць яго на помач ці то можа ў сведкі — хто яго ведае, што тады думаў Андрэй... А тады якраз хадзіла па познім аўсе, што быў пасеян Мікалаем Аднавокім на настаўніцкай зямлі «напалавіну», Юстынава кабыла, ды яшчэ была тады добрая пагода, і гусі разам з варонамі цягаліся па свежым жытнім іржышчы...

І тады суддзя будзе ўсё перабіваць ды ўсё патрабаваць, каб ён яму гаварыў аб тым, як, за што і чым Змітрок біў Андрэя і што ён можа наогул сказаць аб гэтай справе, а не гаварыць аб сонцы, іржышчы, гусях ды варонах, ды настаўніцкім аўсе з Юстынаваю кабылаю.

А тут, як жа ты будзеш гаварыць аб тым без гэтага? Гэта ж яно нек і тое, і гэтае непадзельнае. От, бачыў усё гэта агулам, а тут выдзяляць даводзіцца. А што суду патрэбна і што непатрэбна? Хто яго ведае, што там ім трэба запісаць у гэтыя паперы, якіх на сталах цэлыя кучы...

То гэта тады было ў мястэчку, хоць блізка, а цяпер у горад давядзецца ехаць за сорак вёрст.

— От, ніяк не пазбыцца гэтай цяганіны,— сказаў Макей сам сабе моцна ўжо пад самы дзень, выпростваючы рукі з-пад кажушка, якім акрываўся.

І мацнеў усё тады ў яго не то што каб страх, а так, нейкі непакой.

Перад самым досвіткам усё гэта пачало ў галаве блытацца, скрозь дрымоту ўяўляліся прысады, па якіх ехаць у горад, вазы з нейкімі запыленымі паперамі, пакрыўджаны Змітром Андрэй і сярдзіты Змітрок. А тут якраз раптам за сцяною, мусіць, у Кастусёвым агародзе на сухой яблыні ці можа ў хлявушку, спяваюць пеўні, і іх галасы ўваходзілі ў вушы і мазгі, як нешта цяжкае і вострае...

Такая дрымота была, як гэтыя галасы, а пасля кароткі сон. А як разбудзіўся, ужо развіднялася: відны былі сцены і праз акно па-асенняму голая груша-дзічка, клён ды будынак Рамана-шаўца. У сенцах нешта стукнула — мусіць, гэта кот з гары скочыў.

Усё было звычайнае, прывычнае з малых дзён, і нейк тады спакайней яму зрабілася. Ён устаў, пацёр пальцамі кароткую шчаціну барады і пазяхнуў, моцна і доўга. І тады ўжо яму стала ясна, што гэта цяпер вось, зараз жа трэба ісці ў гумно, даць каню трохі сена, а пасля ператрасці ў запас аўсянае саломы з сенам і ачысціць ток, каб днём звеяць намалочанае за апошнія дні жыта.

І тады раптам несвядома ўявілася, што гэта ж будзеш ісці ў гумно вільготнаю ад асенняга досвітку, маленькаю і густою травою па прыгуменні, закіданым сухімі лістамі з дрэваў ды трохі зацярушаным саломай. А каля гумна цераз плот відно будзе туманнае поле — зялёная жытняя рунь, а бліжэй — агароды з высечанаю капустаю. Будзе ў гумне пахнуць саломаю, сухою мятліцаю, што ў жытніх снапах, і яшчэ нешта будзе там — ці то гэта ў зыках якіх-небудзь, ці ў выглядзе ўсяго, ці ў гэтым паху. Яно несвядома роднае, яно ахапляла ўсё жыццё, праходзіла праз яго; і ўсе радасці жыцця, і ўсякі смутак яго былі з ім, ці то гэта яно з імі. Яно вялікае, значнае, што заўсёды адчуваецца ўсякім і ніколі нікім не выказваецца ў словах, і заўсёды звязана з чалавечымі настроямі...

І тут неяк раптам адышоў некуды далёка суд Андрэя з Змітром. Ні то прапаў, ні то прытаіўся непакой, што быў усю ноч, і захацелася гаварыць з кім-небудзь аб усім, аб чым ён сам захоча.

Ужо зусім зыходзіла ноч, як Макей шукаў па кутках хаты шапку. Спаў пад акном на лаве Міхалка — худы і шчуплы чатырнаццацігадовы хлапчына. Дачка Ганна даўно ўжо ўстала і хадзіла нечага перад вокнамі на двары.

І ўжо тады, як усё гэта, прайшоўшы праз пачуцці, увайшло ў думкі, заставіла яно Макея ціха выйсці з хаты, каб не пабудзіць Міхалку.

«От, няхай паспіць, калі не прачнуўся,— думаў Макей, зачыняючы паволі дзверы,— колькі яго ёсць, гэтага хлапчаняці, і так, небарак, з малых дзён на работу пайшоў».

Было ні то шкода дзяцей, ні то нейкую віну сваю перад імі адчуў, ні то гэта любасць раптам бацькаўская да іх з'явілася.

Праходзячы па двары ў гумно, ён бачыў, як Ганна цягнула цяжкі мяшок з капустаю, месячы босымі нагамі халодную гразь.

— Дай я табе паднясу,— сказаў Макей.

Ганна нічога не адказала, бо было ёй цяжка гаварыць, валакучы мяшок. А ён падумаў, што гэта яна з ім, так, як і заўсёды, мала стараецца гаварыць не за тое, што ніколі не меў ён да яе і Міхалкі патрэбнае вельмі ж у жыцці шчырасці, а, як яму здавалася, проста затым, што неласкавая яна, нядобрая дзяўчына.

Ён пайшоў моўчкі на прыгумень, не губляючы свайго настрою, ды яшчэ з думкай, што можа гэта ён і дарэмна зусім упікаў Ганне ўвесь час за тое, што яна запісалася ў камсамол, «нягледзячы на тое, што дзяўчына яна, а не хлапец».

Але каля гумна ўжо настроі яго нек трохі пачалі змяняцца. Раптам праходзіла ўжо непрывычнае замілаванне да дзяцей і заставалася толькі тое, што затульвала сабою непакой ад адчування неабходнасці хутка зноў ехаць за сведку ў горад на суд Андрэя з Змітром. Але і непакой варушыўся недзе на дне душы. Думкі тут маўчалі, было нешта толькі ў пачуццях. Ужо не прыпаміналася, што гэта нек непакоіць, але недзе далёка-далёка, ледзьве адчуваемае, заварушылася яно зноў. І можа гэта затым, што Ганна нічога не адказала і гэтым парушыла настрой.

Недзе ў тумане за агародамі крычалі вароны, цягнула адтуль вільгаццю, ды чутно было, як нехта вёў там на паплавы коні, усё падганяў іх, цмокаў ды высвістваў нейкія няхітрыя матывы.

«От, не пабудзіў тады Міхалкі,— ужо падумаў Макей,— няхай бы і ён каня завёў на паплавы: усё роўна работы няма».

І ўжо тады, як выбіраў сена, каб занесці даць каню, розныя думкі былі, змянялі адна адну. Раптам прыпомні-

лася, як у глінішчах аб'ехала зямля і чуць не падавіла дзяцей, што гулялі там; прыпомнілася, што цяпер дубовы лес жоўты і зямля там усыпана жалудамі; а пасля думка пераскочыла на тое, што сусед Павал — дзядзька камуністага Мітрафана — зусім слабы.

— От, невядома, ці прывязе Мітрафан папа спавядаць перад смерцю дзядзьку, ці не,— зусім моцна і з развагаю сказаў Макей, кладучы сена на ток,— хто яго ведае. Павал то жыў абы-як, часам не па-людску басякаваў, а гэта, хто яго ведае, можа і захоча папа. А Мітрафану што рабіць?..

А пасля і гэтая думка выйшла некуды, і ён ужо маўчаў ды слухаў, як крычалі вераб'і на пустых агародах... І пацягнула яго пайсці ды глянуць на гэтыя агароды...

І раптам усё папярэдняе пачало забывацца. І хацелася цяпер толькі курыць ды глядзець у туман. Было гэта падобна да працэсу жыцця тады, калі ўсё чалавеку здаецца аднальковым: або добрым, або кепскім, але нейкім роўным...

Тады і выйшаў ён з гумна. А насустрач ужо ішла да яго Мітрафанава жонка.

— Што з Паўлам чутно? — трэба было запытаць у яе. І ён запытаў.

— Прывязеце, дзядзька, вы да яго папа,— адказала жанчына.

— А Мітрафан?

— Мітрафан не захоча.

І тады раптам нек пачала варочацца да Макея Пілата рухавасць. З'явілася нейкая зацікаўленасць да ўсяго. І падумаў ён аб тым, што прывязе ён вільготнаю дарогаю папа, а пасля назад завязе яго. А там жа робіцца нешта важнае, незвычайнае можа. Можа гэта Павал там паміРае. Гэта тут праходзіць нейкі працэс, і ў ім прымаюць удзел многія. Адзін памірае ці хворы ляжыць, а вакол яго другія ходзяць, нешта робяць ды думаюць. Гэта было ў яго несвядомае імкненне прапусціць гэта скрозь думкі. І раней, чым прайшло яно праз думкі, вельмі ж глыбока і востра прайшло яно праз адчуванні...

Як пайшла жанчына, весела запрагаў ён каня.

## V

...І не то што вельмі нудна было ў той вечар Парфіру Кіяцкаму. Ён не нудзіў, і смутак быў нейкім незвычай-

ным. Быў ён сам у сабе і як бы ад сябе. Не ішоў ён з усяго вакольнага на чалавека, а з чалавека на ўсё навакольнае. І яшчэ тады днём, калі ў вачах стаяла постаць жанчыны, смутак быў жаданнем таго, што блізка, а здавалася далёкім; а вечарам і пазней не было ўжо ніякага жадання, нічога не плыло, нішто не ішло, а нек усё стала. Зыкі былі цішынёю, а цішыня — нічым. І горш за ўсё было тое, што нічога не прымячалася, як бы нічога і не існавала, а свая ўласная істота была цяжкаю і вялікаю, і была яна на нічым, і не было дзе падзець яе. І гэта давіла душу...

Позна вечарам, стараючыся не папасціся на вочы жонцы, выйшаў Парфір Кіяцкі на цёмны ганак, і пастаяў там трохі, і там прыйшоў да ўпэўненасці, што трэба гэта яму пазбавіцца ад усяго. «Усё — нічога, то чаго ж я «што» на нічым?» Тады і ўявіліся яму два бакі яго сапраўднасці: або ўсё з нічога зрабіць усім, такім, якім я, або сябе зрабіць нічым, якім усё, бо страшна бяздонне між мною і ўсім. Значыцца — ці ўсё прыцягнуць да сябе, ці самому прыйсці да ўсяго. І выйшла так: або я буду я, або я буду не я, а нічога...

І раптам смутак патануў у вялікім страху перад магчымасцю канца. Тады ногі шпарка застукалі па дзеравяным ганку, і самому захацелася бегчы ўсюды, абы не стаяць. І Парфір Кіяцкі пайшоў мокраю вуліцаю. Пайшоў угору па тратуары, дзе гарэлі агні шырокіх вуліц. І гэтыя вуліцы неяк раптам пазвалі да сябе, ужо настойна дакляроўваючы пазбаўленне. І, як пазвалі яны яго, у адзін момант усё зверху пайшло ўніз і ўсё знізу ўверх; гэтыя вуліцы жылі несціхана і нек горда — што вось ні да чаго няма справы ў іх, а да іх ад усяго справа. Тады ўжо моцна афармляцца пачала вострая думка ў яго: «Гэта ж памыляўся я ў тым, што я ўсё, а ўсё нічога, гэта я нічога ў параўнанні з усім». І ад гэтай думкі спачатку паднімацца пачала воля, каб ісці да ўсяго і стаць усім, але раптам усплыло пачуццё, народжанае адсутнасцю веры ў сябе, што трудна мізэрнасці стаць вялікасцю, і паплылі ў істоце шырокія кругі роспачы. І, аднак, усё гэта цягнула на вуліцы з агнямі і людзьмі.

Людзі там ішлі і беглі, гналі з крыкам і стукам машыны, смяяліся і плакалі, гаварылі і маўчалі. І чым больш уваходзіў ён у гэты рух, тым больш, з горкаю крыўдай, бачыў, што гэта з дробных часцін хаосу складзена для вечнага руху гармонія. І гэтая крыўда была ў тым, што

ўласная істота далёка стаіць ад гэтай гармоніі. І тады ўсяго яго ахваціла думка: «Гэта ж у мяне такі жах у душы, а людзі, што бачаць мяне, упэўнены, што я сабе спакойна іду па якой-небудзь справе, а значыцца, я і ёсць часціна гэтай гармоніі». Гэтая думка паступова пачала ўладаць усёю яго істотаю і вызвала за сабою кіслую насмешку над людзьмі, якія яго не прымячалі, а, як яму здавалася, прылічвалі яго да сваёй агульнасці. Можа ў гэтай усмешцы быў яшчэ элемент зайздрасці да ўсіх, што вось і ў неспакоі іх — спакой, і ідуць яны сабе і гоняць усе весела, і імкненні свае апраўдваюць сваёю мэтай, неабходнай ім і вялікай для іх, і што яны на месцы сваім. І гэтая насмешка, перамешаная са злосцю, заставіла яго мацней пайсці па халоднаму і звонкаму тратуару і распіхваць рукамі людзей.

Тады ўжо толькі на яго пачалі звяртаць увагу. Азіраліся на яго высокую постаць з непаразуменнем і таксама са злосцю, давалі яму дарогу.

Побач з ліхтарным слупам заўважыў ён раптам плячыстага тоўстага чалавека, які плыў сабе павалі на сваіх сытых нагах і як бы раздумваў нешта лёгка-вясёлае. Шырынёю свае постаці займаў ён увесь тратуар, і Парфір Кіяцкі нават рад быў, што ёсць прычына штурхануць яго.

— Э, э! Гражданін! Лягчэй! — абазваўся злосна той.

— Дарэмна вы так думаеце. У гэтым бачу я вашу памылку! — грозна крыкнуў яму Парфір Кіяцкі.

— Вы гэта аб чым? — ніжэй ужо і спакайней, нек трохі як бы спалохаўшыся неспадзяваных слоў Парфіра Кіяцкага, сказаў тоўсты чалавек.

Парфір Кіяцкі раптам стаў, схваціў за плячо свайго выпадковага суседа, павярнуў да сябе і, узяўшы яго ва гузік шэрае цёплае жакеткі, таксама грозна растлумачыў яму:

— Уся ваша бяда ў тым, што вы лічыце мяне ўдзельнікам усяе вашае агульнасці. Я ж лічу, што калі я непатрэбен, то і непатрэбен.

— Вы гэта аб чым — зноў пытаю я вас. Я вас не разумею, і чаго вам трэба ад мяне?

Парфір Кіяцкі заўважыў перад сабою шырокі і чырвоны твар з круглымі, неглыбокімі і вясёлымі вачмі, жаўтавата-цёмную бародку і тоўстыя, мокрыя губы. І яму раптам уявілася, што гэты чалавек ідзе некуды па нейкую асалоду. Вострыя думкі раптам зноў зашавяліліся ў яго

галаве, і першы раз стала тое, чаго ніколі не было ў часы смутку: закружылася нек трохі галава; на хвіліну найшло нейкае разважанне, а пасля думкі паразганялі ўсюды ўсякія пачуцці і пакінулі адно толькі жаданне. Гэтае жаданне абкружана было думкаю, што найлепш і патрэбней за ўсё не забягаць далей гэтага тратуара наперад і не аглядацца зусім назад, а бачыць пад нагамі кавалак тратуара ды перад сабою гэты дурны і вясёлы твар. Парфір Кіяцкі адступіў на адзін крок назад і, гумарыстычна пакланіўшыся тоўстаму чалавеку, весела сказаў:

— Дазвольце сказаць вам аб сабе: я — Парфір Кіяцкі!

— Ага,— сказаў чалавек і пачухаў у нерашучасці барОдку.

— Так, так, я — Парфір Кіяцкі.

— Што вы мне гэтым хочаце сказаць?

— Тое хачу сказаць, што хачу сказаць і што сказаў ужо.

— Дзякую вам за ваша слова і бывайце здаровы.

Чалавек злёгку адапхнуў ад сябе Парфіра Кіяцкага і пайшоў далей, раскачваючыся трохі, мусіць, ад свае цяжкасці, у бакі. Парфір Кіяцкі пастаяў трохі на адным месцы і сказаў сам сабе:

— Чаго я пайду дадому? Гэта раз. Чаго я буду стаяць тут? Гэта два. І куды мне ісці? Гэта тры. Значыцца, тры пункты я маю.

— Што вы кажаце? — запытаў яго нейкі маленькі чалавечак, што ішоў міма з нейкімі белымі, зялёнымі і чырвонымі скруткамі пад пахаю.

Парфіру Кіяцкаму раптам стала весела ад думкі, якая зразу ахваціла яго. Яна была вось якою: «Гэта ж хаджу я сабе і гавару сам з сабою, а людзі думаюць: «От што гэта ён гаворыць?» І гэты аж прыпыніўся ды запытаў». І ён сказаў чалавечку:

— Па-першае, вы запыталі мяне затым, што вас або ўзяла вельмі ж цікавасць, або вы можа якім-небудзь чынам зарабіць на гэтым хочаце. Па-другое, калі ўжо на тое пайшло, дык гаварыў гэта я аб тым, што маю цэлых тры пункты. Першыя два пункты вырашаны як мае быць, а над трэцім трэба падумаць дасканала.

Перапалоханы чалавечак пабег скоранька далей і нават два разы на хаду азірнуўся на страціўшага розум. А Парфір Кіяцкі гумарыстычна падумаў: «То трэба хіба вырашаць трэці пункт — куды мне ісці?»

І далёка ўжо наперадзе ўбачыў тоўстага чалавека, цьмяна асвечанага вулічным ліхтаром. Ён ішоў усё таксама паволі, і нейкая ўпэўненасць была ў гэтай постаці. Парфір Кіяцкі раптам прыпомніў сваё ўяўленне, што гэта чалавек гэты пайшоў на нейкую сваю асалоду, і падумаў: «Пайду следам за ім, дарогі ж назад можа ніхто не загародзіць, а калі загародзіць, то яна, значыцца, будзе загароджана. Ну, што то?!»

Абмацаўшы ў кішэні грошы, ён забіяцкі маргнуў цёмным прасторам над дамамі і пайшоў услед за тоўстым чалавекам. І чым больш ішоў ён, тым большае паўставала ў ім жаданне зачэпваць праходзячых людзей, усім насмешліва падморгваць і тут жа здавальняць усе свае патрэбы, жаданні і імкненні, як бы ад нейкай свядомасці таго ўсім вядомага, што нічога не існуе, апрача таго, што ў гэтую хвіліну існуе...

## VI

Сцены былі абклеены цьмяна-рыжаю папераю, і выраз гэтага іх шырокага твару быў такі, як бы гэта яны падмаргнулі некаму мізэрнаму і смешнаму ды так і застылі, не ведаючы, ці больш падморгваць з папярэднім сваім гумарам, ці заплакаць. Вельмі ж ужо мізэрная гэтая постаць. Ёсць у ёй і бляск нават, нават і слепіць ён адразу вочы, але нешта глыбока ў ім, нават усё, што там — малое і пустое. І хоць каб была пустата гэтая глыбокая, каб можна было глянуць у ёй далёка ўніз ці ўгару, а то і гэтага няма.

Нешта такое было ў тым чалавеку, што стаяў пасярод піўной тады, калі Парфір Кіяцкі адчыніў дзверы. Гэта была першая постаць, што кінулася яму ў вочы. Там далей, за столікамі і сталамі, найбольш каля сцен, былі больш людзі, але нек зліваліся яны як бы ў агульны адзін нейкі фон. Хадзіў нехта каля сталоў, а ўсе гаварылі і варушыліся ў накураным дыме. А той усё стаяў, стаяў такім, якім здаўся Парфіру Кіяцкаму. Было на ім чорнае паліто, кароткае, моднае. Белы, напудраны твар меў на сабе адбітак нейкай вясёлай расчараванасці. Доўгі нос і вузкія вочы нейк як бы мяшалі агульнай асабовай гармоніі ўсяе гэтае постаці, здавалася, што лепш магло б адбіцца тое, што ў сярэдзіне душы гэтага чалавека на гладкім твары, толькі абцягненым напудранай скурай.

Гэта ўсё трохі пасля ўявілася Парфіру Кіяцкаму. Зразу ж было нешта іншае. Як падыходзіў ён да дзвярэй піўной, дык нейкая неглыбокая гуллівасць нават была ў ім, як бы ад адчування, што тут усё вырашыцца. А як адчыніў дзверы і ўбачыў перш за ўсё гэты твар і постаць, адчуў раптам навалу таго самага смутку, што вялікаю безнадзейнасцю мучыў яго з самага вечара,— што вось дарэмна гэта я ішоў сюды, нічога тут я не знайду, апрача халоднай, напудранай абыякавасці да мяне. І тады ўжо, з нейкай неміласэрнай помстай да самога сябе, пачаў Парфір Кіяцкі разглядаць гэтага чалавека. Гэта як бы даўся ён нечакана ў якую перашкоду,— тут ашукалі цябе, то ідзі шукай далей, але раней знайдзі надзею на адшуканне...

— Ш-ш-ш...— зашыпеў чалавек і растапырыў рукі.

Каля самай сцяны за столікам адбыўся нечаканы рух разнастайных постацей, і з адчыненых дзвярэй суседніх каморак вылазіць пачалі і сумныя, і радасныя твары. Чалавек махнуў рукамі, і за тым столікам, дзе кагадзе заварушыліся разнастайныя постаці, стройна і дзіка гранулі зыкі. Былі яны непадобныя на звычайныя, на прывычныя і вельмі з самага пачатку нек ні то прыглушылі Парфіра Кіяцкага, ні то прымусілі яго падумаць аб мізэрнай, але сытай пакорнасці і агіднай дурнаце моцнага. Пасля ж агарнула яго нейкая цікавасць, несвядомая і цяжкая. І ўжо ў яго скончылі моцную работу пачуцці, і думкі пачалі высвятляць тое, што рабілася вакол.

Чалавек усё стаяў і памахваў рукамі, а тыя за сталом выконвалі польку ці марш. Было іх чатыры чалавекі. Агульнае ў іх было толькі ў вачах — каламутных і нежывых ад выпітай гарэлкі. Твары ж і постаці былі самыя разнастайныя, нават процілеглыя адзін аднаму. Але іх звязвала ў адно агульнае ў іх жаданне губамі, зубамі і кулакамі замяніць музычныя прылады.

Той, што сядзеў пры самай сцяне, меў твар круглы, як яйцо, і маўклівы, як магіла. І ён стараўся сабой замяніць флейту: скрозь патрэсканыя ад бяссонніцы і перапою губы ён выпускаў пісклівыя зыкі нейкай полькі:

Піль-лім-пі-пі, піль-лім-пі-пі,
Піль-лім-пі-пі, піль-лім-пі-п-пі!..

Бокам да яго сядзела труба. У яе быў твар надзвычайна шырокі і вусаты. Вусы былі падкручаны да самага



Кузьма Чорны з жонкай Р. І. Свераноўскай. *1927 г.*

гарбатага носа, мусіць, каб не мяшалі вылятаць густым зыкам:

Г-ха-а-х-ха!
Гу-ха-а-х-ха!

У больш моцных мясцах ён надуваў твар і біў кулакамі сябе па ім з абодвух бакоў разам, і з недасягаемай сваёй вышыні вялікасна азіраў маленькіх перад ім людзей, якія былі толькі слухачамі.

Быў яшчэ нейкі інструмант. Ён праразлівым голасам ёйкаў і, здавалася, гэтым мучыцца, аднак твар яго быў повен добранькай вясёласці, важнай і яму, і тым, хто яго слухае.

У барабаншчыка быў твар і худы і востры. Ён грукаў кулакамі па стале і роў у такт нечалавечым голасам ды ўсё з вялікай зайздрасцю паглядаў на недапітыя бутэлькі.

І тая незвычайная і асабовая цікавасць, што з'явілася была ў Парфіра Кіяцкага зразу да ўсяго гэтага, пачала мяшацца з думкамі. Пачаў яшчэ рабіцца непарадак у настроях, а пасля пакрываць усё пачала абыякавасць. У ёй пачалі тапіцца карэнні смутку. Але яна не затапіла яго, а зацягнула нейк зверху рухавай і чулай карой. Тады ўжо свядомасць з думкамі пачалі дапамагаць, і Парфір Кіяцкі махнуў абедзвюма рукамі зразу, сказаўшы:

— Чорт яго бяры.

Пасля падышоў да буфета і выпіў гарэлкі. Закусіўшы, сам не памятаючы чым, ён прыпёрся плячыма да сцяны і некалькі хвілін слухаў арыгінальны аркестр, глядзеў, як не менш арыгінальны капельмайстар махаў рукамі, як вакол радаваліся гэтаму ўсяму вясёлыя і сумныя твары, як захадзіўся рогатам з гэтага таўсты чалавек у белым фартуху, палажыўшы жывот на стол каля буфета. Пасля музычны нумар быў скончаны, і капельмайстар заказаў для музыкантаў некалькі новых бутэлек. Піўная загула іначай, спакайней, і нейк усё шырэйшым пачало тут здавацца ці шырэй ахапляць усё.

Ад выпітай гарэлкі ў Парфіра Кіяцкага закружылася трохі галава і раптам з'явілася нейкае безнадзейнае жаданне больш піць, каб можа хоць гэтым увайсці ў людзей, хоць у тых, што былі тут. А тут якраз падышоў тоўсты чалавек, што нядаўна быў бачаным на вуліцы. Ён быў ужо надпіўшы і ад гэтага вясёлы. З-пад расшпіленага каўняра чырванела тоўстая шыя, а вочы стала і разам з тым гумарыстычна ўхмыляліся.

— То, значыцца, г-гр-р-ражданін мой тут, значыцца, аг-га! — сказаў ён, ткнуўшы Парфіра Кіяцкага пальцам у жывот.— Г-гэта той самы, што на вуліцы мне тлумачыў аб сабе,— звярнуўся ён да нейкіх змрочных асоб, якія сядзелі над півам і пустымі чаркамі і з нуднай вясёласцю азіралі Парфіра Кіяцкага.

— Эй, тлумач! Таварыш тлумач,— гукнуў адзін з іх да Парфіра Кіяцкага,— хадзі растлумач нам што-небудзь баявое, значыцца.

Сказаўшы гэта, ён ікнуў, а Парфір Кіяцкі паглядзеў на расцягнены ўхмылкай рот тоўстага чалавека і падумаў: «Чаго мне злаваць? Дзе віна мая ці яго? Мяне сюды тое прыгнала, чаго я не перамагу. А ён што?..»

— А ты што? — запытаў ён раптам таго чалавека.

— Хадзі сюды,— рашуча адказаў той.

Парфір Кіяцкі падышоў да стала.

— На, пі,— падаў яму той чарку.

Парфір Кіяцкі выпіў, раптам сеў на скрыпячае крэсла і пачаў есці.

— Пі больш,— загаварыў скоранька, трохі заікаючыся, чалавек,— пі, сягоння я гул-ляю. Паскольку ў мяне сягоння, значыцца, такая спр-рава, то, як той казаў, душы мае свята.

Ён падняў палец угору і сціх, нават як бы задрамаў трохі так.

— Гавары,— з зацікаўленасцю сказаў Парфір Кіяцкі.

— Значыцца, паскольку ў мяне сын з'явіўся, можна сказаць, з прапажы вялікае. Прыехаў быў на два дні, бацьку ўспомніўшы. «На табе, кажа, грашанят трохі. Жыві сабе ціха, дажывай дні, а мае дарогі іншыя. Грошы, кажа, слаў і слаць буду». Сягоння раніцаю паехаў, а мне гэтыя грошы рупяць. Я куплю курыцу ды прадам ды дзве капейкі на фунт хлеба зараблю сабе, а ты аддай мне сына майго. Я яго гадаваў і хачу, каб душа яго была пры мне, а мая пры ім. А ён толькі грошы дае мне. От грошы, браткі, грошы, і г-гуляй!

Ён гумарыстычна звесіў п'яную галаву, дастаў з кішэні тры рублі і кінуў на стол. Яго сусед падхваціў іх і пайшоў заказваць выпіўку.

— Гавары, братка, яшчэ,— сам не ведаючы чаму, прасіў Парфір Кіяцкі.

А яго па плячу ляпаў тоўсты, бачаны на вуліцы, і сярдзіта шыпеў:

— Ды сціхні ты, халера, ты мяшаеш мне распарадзіцца.

— Не чапай яго,— заікаўся чалавек, якому сын толькі грошы дае.— Не чапай яго, ён мяне братам назваў.

— Пацалуй яму ў рыла або плюнь,— гарачыўся тоўсты,— гэта будзе аднальковая прыхільнасць твая да яго.

Парфір Кіяцкі ўжо толькі піў ды закусваў, не цікавячыся, што за людзі вакол яго, чаго яны сюды сабраліся, што іх мучыць і што радуе. Скрозь нейкі туман бачыў ён, як уваходзілі новыя людзі, як за адным сталом нешта ўсе разам расказвалі, як за другім спрабавалі наладзіць нейкае вяселле. Бачыў ён, як тоўсты валок з другога пакоіка высокага чалавека з чырвананосым разадраным тварам, у шэрых, да немагчымасці парваных галіфэ і з гармоняю на рамні цераз плячо. Той не ўпінаўся і сам вельмі ахвотна ішоў, а гэты з нейкаю роспаччу цягнуў яго за рукаў. Ніхто ўжо нічога гэтага не прымячаў, і ўсякі займаўся ці гаворкамі, ці думкамі, ці проста нічым. Было густа накурана, было вельмі шумна, нек задумёна бяздумнасцю.

Тоўсты прывалок гарманіста да стала.

— Для храбрасці выпі! — падаў ён каманду.

Гарманіст выпіў дзве чаркі зараз, панюхаў хлеб і застыў на месцы.

— В-валі! — скамандаваў тоўсты, садзячыся пасярод пакоя на крэсла.

Гарманіст кінуў два моцныя праразлівыя акорды і глянуў на ўсіх з запытаннем у вачах.

— Братка, разварушы мне душу,— папрасіў раптам нейкі голас.

Гарманіст зайграў нешта смутна-журботнае.

— Не так. Не гэта трэба,— моцна перабіў яго той самы голас.— Ты не лі мне слёз у душу, а зрабі, каб яна сама ліла іх.

— Ага! — з упэўненасцю сказаў гарманіст і грануў нечакана для ўсіх нейкі цыркавы галоп.

Чалавек паслухаў трохі, пасля пахіліў галаву на стол і стаў нешта глыбока думаць ці то можа без дум адчуваць. Нехта пачаў у такт стукаць рукамі па стале...

Парфір Кіяцкі раптам усхваціўся і, ківаючыся ад выпітай гарэлкі, стаў пасярод пакоя. Чаго яму хацелася тады — не мог ён ясна вызначыць думкамі. Толькі адчуваў ён, што як бы гэта дайшоў ён да самага апошняга пункта нейкай цёмнай і бруднай дарогі. І што ў гэтым пункце

нейк усё давіць яго. І яшчэ стала яму здавацца, што, каб пазбавіцца ад гэтага, не трэба выбіраць сярэдзіну — або ўсё, або нічога. І лепш усяго — гэта або бяскрайная шырыня, або цясней цеснаты. І тады яму зусім стала ясна, што гэта ўсё ў яго ад таго, што непатрэбны ён людзям на зямлі чалавек. А зямля — чалавечая, дык і месца на ёй няма.

— Цеспа мне,— сказаў ён змоўкнуўшаму гарманісту.

— Я табе заграю так, што табе зробіцца прасторна.

Парфір Кіяцкі адчуў, што ад гэтага яму будзе яшчэ цясней, і ён, як бы жадаючы што разарваць, выцягнуў з кішэні ўсе грошы і кінуў на стол.

— Рабі, каб было прасторна! — крыкнуў ён.

Грошы схвацілі і мацней загулі.

— Няможна так крычаць,— упэўніваў усіх чалавек у белым запэцканым фартуху,— тут вам не карчма.

— Я знаю, што няможна, але папрабую зрабіць, каб было можна. Што з гэтага выйдзе!

— Я пазаву міліцыю! — крычаў чалавек.

— У гэтым і ўвесь сэнс! — крычаў Парфір Кіяцкі.

А тут ужо з'явіліся аднекуль жанчыны. Адна прайшла міма яго, і ён адчуў, як у яе нядобра пахне з рота. Гарманіст рэзаў ужо нешта востра-гуллівае і тупое настроямі, якія яно навявала. Жанчына ўжо ішла, узяўшыся ў бокі, стукала моцна нагамі, старалася рухам сваім узбудзіць мужчын. І ў такт музыкі і стуку ног выкрыквала п'яныя словы:

Так Манька, так Манька,
Так і я рабіла —
Свайго мужа шанавала,
А чужых любіла!..

— А ці быў у цябе муж? — чуўся голас.

— У яе што ноч, то і муж,— адказаў нехта вясёлым крыкам.

Парфір Кіяцкі тупнуў нагою і пайшоў услед за жанчынай. Яго прыпыніў чалавек, што махаў рукамі перад людзьмі, жадаўшы сваёй воляй ці без яе замяніць капэлу музыкі.

— Чалавек вы шырокі,— гаварыў ён Парфіру Кіяцкаму ў самае вуха,— шырокіх людзей я люблю. Апрача вашай шырыні, бачу ў вас чалавека далікатнага, надзеўшага на сябе дэкарацыю і прыйшоўшага сюды разварнуць душу. Вы не той, кім сябе тут паказваеце. Дазвольце сказаць аб сабе — Бутлевіч, служу. Ад смутку, пасля смерці

адной жанчыны, хаджу сюды. А той,— ён паказаў на тоўстага чалавека з бародкаю,— ходзіць сюды, бо не ведае, куды дзець сілу сваю!..

Ён нешта хацеў яшчэ сказаць п'яным голасам, але два чалавека, брудна адзетыя, што падавалі дагэтуль на сталы, пачалі наводзіць парадак. Лічачы вінаватым больш за ўсіх гарманіста, яны на яго першага накінуліся з крыкам:

— Пайшоў вон! З цябе гэта ўвесь свет гарыць... Ты тут не павінен быць. Чуеш?!

— Калі ласка,— адказаў упэўнена гарманіст.

— Я табе зараз пакажу такую ласку, што табе храпа пачне лашчыцца!

— Выкідай яго вон!

Адзін схваціў гармонь і выкінуў некуды за дзверы. Яго самога пхнулі да дзвярэй, а ён улажыў рукі ў кішэні і з смешнай грознасцю сказаў:

— Мяне чапай, а гармоні не маеш права. Гармоня людзей цешыць, а ты чым іх пацешыш?

— Бач ты, людская ўцеха знайшлася,— пачалі рагатаць.

— Я ведаю, хто я,— крычаў гарманіст,— але куды ты мяне гоніш? Дай ты абарванцу месца!..

— Месца табе дзе хочаш. Хоць па ўсім свеце, толькі не тут!

— Я ведаю і без цябе, што мне месца не тут. Ды не магу прыстаць я ўжо там. З дзяцінства зламалі мяне. Што я вінават!.. А-аа!

Ён завыў і пайшоў у цёмныя дзверы, куды выкінулі яго гармонь.

А Парфір Кіяцкі абхваціў ужо жанчыну рукамі і, нічога не памятаючы, тупаў так нагамі.Ківаўся ён у бакі, і здавалася яму, што сцены некуды падаюць і не могуць ніяк даляцець да дна. Мала ўяўляў ён што і тады, калі адарвалі яго ад жанчыны і вывелі праз цёмныя сені на двор. І толькі на двары, седзячы на вільготных і халодных дравах, пачаў ён збіраць патроху сваю свядомасць. Адчуў ён востра-вясёлы холад асенняга вечара, вялікую задумёнасць нерухомых дрэў за нізкай каменнай сцяною і нейкае чулае пачуццё зямлі і ўсяго, што на ёй існуе... Ён нават доўга і не сядзеў на гэтых халодных дравах. Раптам уявілася яму, што трэба гэта некуды ісці. І перад тым як падняцца з свайго месца, адчуў ён, які ён нямоцны. Тады захацелася яму сціснуцца ў адзін жмут, каб быць зусім

непрыметным. Тут прыпомніў ён, што мае дом, дзе ў чатырох сценах можа перабыць астатак ночы. Праз нейкія вузкія і цёмныя вароты выйшаў ён на вуліцу і пайшоў паволі, без дум, з цяжасцю незадаволенасці і смутку. Зноў адчуваў ён, як бы гэта ўсё згусцілася вакол яго і давіла яго. Ужо не мог бы ён вызначыць ясна думкамі, што гэта з ім, ды так і ішоў сам, не думаючы, куды і чаго...

Пачала раптам з'яўляцца ў яго злосць на самога сябе, што дарэмна ён патраціў вечар у піўной, нічога там для сябе не знайшоўшы, хоць і не было ў яго яснасці — што б рабіў ён іншае ў гэты вечар.

Хутка выйшаў ён на шырокую трактавую вуліцу, высаджаную высокімі дрэвамі, голымі ад восені. Будынкі былі тут нізкія, і далёка відаць было яснае неба белай асенняй ночы. Дрэвы былі высокія, неба было бяздонным, вуліца была пустою, і ўжо адчувалася за ёю поле — зямля, для яго дзікая, таемная. Нейк глыбінёю істоты адчуў ён гэтую шырыню, і прыпомнілася яму на момант дзяцінства сярод нейкай падобнай шырыні ў нейкім пасёлку. У гэтай шырыні была радасць, далёкая для яго. Была ў гэтым нават крыўда, што шырыня гэта для радасці людзей, а ён па-за людзьмі, не з імі, далёка ад іх і чужы ім. Яму стала страшна ўсяго вялікага і моцнага. І разам з гэтым да немагчымасці моцна захацелася самому стаць вялікім і моцным. Можа гэта істота так баранілася ад страху перад усім. І ўжо ўсё пакрыла новая хваля смутку ад таго, што свет вялікі, а ён малы, і немагчыма яго перамагчы. Ён стаў пад голымі галінамі высокага дрэва і нейк несвядома пачаў слухаць звонкую цішыню. Ніхто не ішоў па вуліцы, ніхто не гаварыў, і можна было ўявіць, што гэта — або ўсё нічога не мае ніякіх слядоў на сабе пакіненай жывымі істотамі радасці ці смутку, ці мае ўсё ў сабе, ды прыцішылася востра, і слухае ўсё, і сочыць за ўсім. Вострае было гэтае ўяўленне, і параджала яно жудаснасць. І патроху, нейк паступова пачаў ён як бы забывацца. Тут яшчэ было і тое, што ад выпітай гарэлкі цяжкаю стала галава і думкі асядалі востра на ўсё і ў адзін момант маглі пераносіцца на зусім процілеглыя між сабою пункты. Так ён стаяў адзін сярод усяго, як сярод пустэчы. І з нейкай сапліваcці ён выціснуў цяжкую думку, што нічога, мусіць, не здолее звязаць яго з усім і напоўніць радасцю аб усім.

І тут ён раптам пачуў людзей. Яны на момант уявіліся

яму як нешта далёкае і моцнае. Чутно было, як недзе зайграла вялікая капэла. Сярод цішы і ночы гэта была надзвычайнасць, гэта была вялікасць, гэта быў нейкі сэнс усяго. У гэтым была сіла, што дзейнічае, каб гэтым пачалося ўсё і кончылася ўсё. І гэта вызвала ў ім малюнак таго, як у маладыя гады ехаў ён на караблі па моры. Зямлі не відаць было. Была толькі вада ды неба. Была роўнасць ва ўсім, адзінакаляровасць і неабдымны размах. Уяўлялася, што гэта свет — неабдымнасць і сіла. Мора тады было ціхае, і некалькі гадзін стаяў карабель. І на верхняй палубе гралі гэтае самае. Той вялікасцю, нявыказанасцю, што была ў музыцы, поўны былі людзі: матросы выконвалі танец — і яны, і зыкі ў сваёй гармоніі і размаху былі хараство.

І слухаў ён. І тое, што чуў ён, зрабіла з ім няведанае за гэты час: у адзін атам часу адчуў ён вялікі ўздым істоты і нястрыманае імкненне да дзейнасці. І ўжо тады ў яго паспела раптам веда, што рабіць яму трэба. З'явілася тое, што можа можна назваць — несвядомая свядомасць: чым хутчэй і цясней увайсці ў людзей, якія трымаюць у сабе хараство і вялікасць.

З вялікай упэўненасцю кінуўся ён хутка ісці дадому, ведаючы, што будзе рабіць, за што возьмецца і што надалей. Панёс ён у сабе вялікую радасць аб сабе, аб свеце і аб людзях, і здавалася яму, што вельмі далёка дадому,— так хутчэй хацеў ён туды дабегчы.

## VII

Глінішчы плачуць маўклівасцю; гліна з іх ляжыць пры дарозе. І смяецца, і маўчыць, і плача, і пакутуе, і цешыцца зямля.

Зямля, зямля!

І звоны гучаць, і гром шырыцца, і цішыня ляжыць.

Ціха сабе па дарозе ехаў Макей Пілат. З смешнай сталасцю паглядаў вакол, тузаў лейцы і нават часам спяваў сабе нешта пад нос; нешта доўгае і люба-нуднае, у якім можа ўмасціцца і плач, і смех, і існасці светабудовы, прайшоўшай праз Пілатаву душу...

Вільготнымі грудамі жаўцела пры дарозе гліна; і гэта яна навеяла Пілату надзвычайны настрой. Трывога тая, што мучыла ноччу і што прайшла была раніцаю, зноў па-

чала да яго варочацца, як толькі праехаў ён адзін па дарозе. А гліна давала дарозе нейкі вясёлы выгляд, у душы ж з'яўлялася тая трывога, і вясёласць поля і дарогі здавалася нечым патрэбным і любым, але далёкім. І хацелася яму чым хутчэй уладзіць усё тое, што застаўляла яго быць сведкаю на судзе. І патроху пачала ў яго выразна акрэслівацца думка і пасля — неабходнасць самому здзейсніць яе, каб скончыць усю справу... Так ён, ужо з практычнымі разважаннямі, пад'ехаў да горада, праехаў некалькі канцавых вуліц і прыпыніўся каля дома Парфіра Кіяцкага... Знайшоў яго ён у маленькім пакоіку, куды нейк нерашуча ўвайшоў, бо баяўся таго, што з ботаў яго нацячэ гразі на падлогу.

Парфір Кіяцкі сядзеў за сталом, нешта пісаў, і твар яго быў вясёлы. Нешта ён як бы гаварыў сам з сабою, нешта як бы прыпамінаў і, так паразважаўшы, зноў пачынаў пісаць.

Макей Пілат пастаяў каля дзвярэй, папрабаваў кашляць, але той не звярнуў на яго ўвагі. Пасля, як кончыў пісаць, запытаў:

— Чаго?

— Да хворага,— адказаў Макей Пілат.

Парфір Кіяцкі з вясёлай урачыстасцю глянуў на Макея Пілата. У вачах яго свяцілася нейкае разуменне спазнанай праўды.

— Да хворага, значыцца?!

— Да хворага.

— Уміpae?

— Але.

— І ўміраючы хоча здавальнення, спакой!

— Хто гэта?

— А той, хто ўмірае.

— Не ведаю.

— А не ведаеш ты, што слаўна жыць на свеце.

— Хто гэта не ведае!

— А каб табе, скажам, уміраць прыйшлося, то як?

— Яно, пэўна, чалавек сягоння жыў, а заўтра можа памерці... А хто не бароніцца ад смерці?!

Парфір Кіяцкі весела азірнуў Макея Пілата, пасля ўзяў са стала напісанае і моцна сказаў:

— Я не паеду, бо нічога гэтага хвораму непатрэбна. Нічога я не памагу і ніякага супакаення таму чалавеку не дам. Сягоння ноччу я прызнаў, што ўсё гэта выдумана,

і сам усяго гэтага выракаюся. Цяпер я ўвайшоў у людзей...

Макей Пілат, з непаразуменнем ад нечаканасці, паглядзеў на Парфіра Кіяцкага і, бачачы яго вясёлы твар, сам весела сказаў:

— Ну, то я пайду зраблю, што мне самому трэба, а ім так і скажу. Мне што! Прыйшла Мітрафанава, суседава, значыцца, жонка і просіць, каб я паехаў. То чаму не ехаць?! Я і прыехаў... Мне што!..

І ён яшчэ не скончыў гаварыць, а Парфір Кіяцкі пачаў мяняцца з твару. Абыякавасць Макея Пілата да ўсяго гэтага прабудзіла ў ім новыя адчуванні і думкі. Было тут многа расчаравання, што вось такое вялікае, што было столькі перапакутавана, перадумана, што здабыта так цяжка,— спаткана так спакойна, як бы так і павінна быць. Што ўсё ж не запаўняе яно свету, і для гэтага чалавека, што стаіць каля дзвярэй, яно можа быць нецікавым. Пойдзе ён вырашаць свае справы, а там скажа: «Папа не прывёз, бо выракся ён веры». «То, значыцца, тое, чым я дагэтуль жыў, ніколі не чапала яго душы, цяпер жа я не ўвайшоў у тое, чым жыве ён. Значыцца, я далёка ад людзей...»

Раптам акрэслілася гэта ў яго думках, і твар яго стаў хмурным.

І тут у адзін момант прыпомнілася яму тая шырыня зямлі, якую адчуў ён быў ноччу, стаяў на пустой вуліцы адзін і чуў музыку. Непакой нейкі ахваціў яго. Ён прайшоў па пакою і са смуткам адчуў, як пацягнула яго некуды ісці па зямлі. Ісці па ёй далёка, ісці без канца, шукаць нечага патрэбнага і невядомага, што б дало супакой. І ён раптам, нечакана ні для сябе, ні для Макея Пілата, сказаў:

— Калі вы едзеце?

— Па паўдні.

— Падвязеце мяне.

— Чаму не!

І пачалі ўжо з'яўляцца ў яго нейкія надзеі. Макей жа Пілат выйшаў на двор, мацней прывязаў каня, падкінуў яму сена і пайшоў у горад.

## VIII

Напярэдадні таго малады доктар Ман-Гэн першы раз у жыцці рабіў сталую і вялікую аперацыю старому чалавеку, хвораму на горла. Аперацыя прайшла добра і, нягле-

дзячы на ўзрост хворага, абяцала поўнае знішчэнне хваробы. І ад гэтага ўвесь час у доктара быў вясёлы і гуллівы настрой. Была тут і гордасць сабою, і вера ў сябе, і свядомасць, што пазбавіў ён чалавека ад пакуты... І ўсё гэтае параджала жаданні дзейнічаць, быць бачаным усімі і патрэбным усім. Было відно, што гэта так і ёсць, і повен сілы і ўзбуджэнняў устаў рана доктар Ман-Гэн. Той дзень быў яго выхадным, і раніцаю ён прайшоў некалькі прыгарадных вуліц. Пасядзеў некалькі хвілін на лаўцы ў скверы, паслухаў, як маўчала жоўтае лісце на дрэвах, і павол і пайшоў у свой бок па пустых яшчэ вуліцах, бо было яму прыемна ісці.

Ён з ахвотаю пагаварыў з Мітрафанам аб тым, што хворы Павал ноччу быў у гарачцы, і рашыў паехаць туды, хоць ніколі нікуды не ездзіў. Выехалі яны адразу, і абаім было весела глядзець на дарогу з пяском і лужамі. Яму хацелася гаварыць з Мітрафанам.

— Як жыта ўзышло? — запытаў ён Мітрафана, хоць не жыў ён ніколі ў вёсцы і нічога ў гэтым не ведаў.

Мітрафан памаўчаў і сказаў:

— От так жыве, жыве чалавек, многім пры жыцці вялічным бывае, ці, здаецца, на яго і злуюць, з ім і мірацца, але ўвагі мала звяртаюць. А калі прыйдзецца яму, небараку, уміраць, дык тады адчуюць усе, што гэта ж жыў ён, можа чым мучыўся, а ніхто яму не сказаў таго, чаго яму трэба...

— А што чалавеку трэба?

Мітрафан пачаў маўчаць і, ахвачаны думкамі, глядзець на дарогу...

Доктар яшчэ спрабаваў загаварыць з Мітрафанам, але той найбольш усё думаў і неахвотна адказваў. Тады доктар, ужо нейк нават трохі як бы пашкадаваўшы, што паехаў, пачаў высвістваць нейкі вясёлы цыркавы матыў. Паехалі мацней.

І прыехалі рана.

Павал каламутным поглядам сачыў, як дзве мухі нехаця поўзалі па шыбе, і нейк спачатку сумна і страшна было яму ад думак, што гэта апошнія дні, а можа і часіны, дажываюць гэтыя мухі. Пасля гэта прайшло ад наплыву адчування сілы, якая ўжо пачала з'яўляцца. Люба было адчуваць пах вапны, якою нядаўна пабялілі печ, слаўна было глядзець на зялёна-жоўты мох, якім былі заткнуты пчыліны ў сценах.

Усхваляваўся ён ад таго, што прыйшоў да яго доктар, бо нейк на момант зноў прайшло ў пачуццях кагадзе бышае. Пасля весела яму стала, як Ман-Гэн, агледзеўшы яго, пачаў адзявацца...

Як выходзілі з хаты, Мітрафан ведаў, што дзядзька ачуньвае і што зусім не варта было вязці доктара, але тое, што прывёз ён доктара, задаволіла яго, прынясло яму спакой. Тое новае пачуццё, якое прабудзілася ў яго тады, калі чуў ён у горадзе пахавальную музыку, цяпер не мучыла яго. І ўжо, едучы назад з Ман-Гэнам, многа гаварыў яму аб усім.

Было хмурна, і зямля падсыхала ад марознага ветру. І апрача ветру і хмар нічога не было над полем. Ехалі моцна. І на паўдарозе спаткалі Макея Пілата з Парфірам Кіяцкім.

— Ці не ў горад вы? — крыкнуў Кіяцкі.

— У горад,— адказаў Ман-Гэн.

— То пачакайце на хвіліну.

Дзве фурманкі прыпыніліся, і Парфір Кіяцкі дастаў з кішэні кавалак паперы і канверт і, палажыўшы паперу на калена, пакрытае палою драпавага паліто, напісаў: «Дадому я не вярнуся, буду хадзіць па зямлі, сярод яе і людзей. А жыві сабе, як табе лепш, як хочаш. Парфір».

Пасля ўлажыў гэты ліст у канверт, напісаў адрас жонкі і папрасіў Ман-Гэна ўкінуць ліст у горадзе ў паштовую скрынку.

## IX

Парфір Кіяцкі палуднаваў у Макея Пілата. А пасля вызначыў сабе пункт — за сорак вёрст сяло, дзе жыў яго швагер, каб адтуль намеціць новыя пункты. Макей Пілат даў яму ядлаўцовую палку і правёў за вароты, сам не ведаючы і не стараючыся лішне даведацца, чаго туды пойдзе гэты чалавек.

Зачыніўшы вароты, Макей Пілат прайшоў два разы па двары, стараючыся прыпомніць, што гэта яму так рупіць. Неўзабаве яно ўзбегла яму на думку, гэта ж суд той Андрэя з Змітром. І зноў трывожна стала яму. І ён стаў пасярод двара і стаў думаць:

«Яно то і праехаць няважна ў горад, і пастаяць перад судом, і расказаць зноў, як ён там яго біў, можна, але ўсё, разам узятае, не то што клопат непрыемны, а так, нейкая як бы пагроза. То гэта раз. Другое ж — Змітрок, скажам,

вінават, што біў Андрэя. Чалавека няможна біць, сумленне не дазваляе наогул біць. А тым часам, зноў жа, можа Андрэй што і прыкрае зрабіў Змітру. Прыкрасць жа гэтая можа ў падзяку за якую-небудзь ранейшую Змітраву прыкрасць. А там зноў ад Андрэя да Змітра, а ад Змітра зноў да Андрэя. А там яшчэ... А чорт яго ведае, хто тут вінават, хто не. Пачаўшы дакопвацца праўды, можа выйдзе, што і я тут якім-небудзь парадкам трохі ўмешаны... То пачаўшы гаварыць на судзе, набудзеш сабе ворага — або Змітра, або Андрэя...»

І раптам зноў трывога яго павялічылася. Тады ён пайшоў у хату, дастаў са століка восем рублёў і, падумаўшы, чатыры палажыў назад, а чатыры схаваў у кішэню. І выйшаў на двор, дзе некалькі хвілін глядзеў, як спацыруюць куры па чорным лісці, што асыпалася з грушы. Пасля паволі пайшоў да Змітра. Застаў ён яго ў сенцах — ён сядзеў на калодзе і раскручваў нейкую вяроўку.

— От што, брат ты мой,— сказаў Макей Пілат,— на табе чатыры рублі, заплаці імі штраф Андрэю за тое, што біў ты яго, ды не цягайся ты па судах, няхай на вас агні з вашымі судамі. Спакайней будзе, няхай яна згарыць, гэтакая работа. Не цягайце вы мяне па гэтых судах, няхай з вас жылы павыцягвае...

Ён палажыў чатыры рублі на лаву і са злосцю і крыўдаю на Змітра пайшоў з сяней. Змітрок памкнуўся спачатку аддаць яму назад гэтыя грошы, але таго ўжо не было, і ён палажыў грошы сабе ў кішэню.

А Макей Пілат сказаў дома дачцэ Ганне:

— Сягоння здох малы кабан.

— Няўжо?! — перапалохалася Ганна.

— Значыцца, так,— растлумачыў Макей Пілат,— што меў я, думаю сабе, валачыцца па іхніх судах, то няхай лепш маё прапойдзе. Думаў купіць за гэтыя грошы кабана, а выйшла — няхай Змітру яны праз бок вылезуць...

І ён расказаў усю справу.

Ганна сперш крычала на яго, пасля зарагатала з яго, а ён, апусціўшы галаву, выйшаў з хаты. Было яму і крыўдна, і нядобра нейк, і брыдка. Была злосць на Змітра і Андрэя. Сам не свой прахадзіў ён да самага змроку па двары; з нейкаю нязграбнасцю ў руху сваім напаіў каня,назграбаў у саду лісця і, не заходзячы ў хату, пайшоў у Мітрафанаву хату і там глядзеў, як Павал ужо сядзеў па пасцелі і з замілаваннем слухаў усё, што гаварылі.

Макей Пілат расказаў там, як поп, выракшыся веры, пад'ехаў з ім аж у самую вёску, нават палуднаваў у яго, і пасля пайшоў некуды. Расказаў яшчэ аб тым, што як зграбаў ён лісце, дык вельмі ж прыстала яно да травы і трудна яго граблямі ўздзіраць.

Пасля гаворкі ішоў ён дадому позна, ужо ён супакоіўся пасля ўсяго, ужо нават адзнакі нейкай вясёласці сталі з'яўляцца ў яго. Былі яшчэ адзнакі нейкай гордасці таго, што як бы перамог ён суд, нейкія ўстановы, нейкія ўстанаўленні. Ці то гэта абышоў іх, нейк паказаў сябе перад імі...

## X

Свяціла сонца, і было холадна. Зямля была мёрзлаю і шэраю, і халодны жвір, рассыпаны на вуліцы, навяваў уяўленні аб вясёласці зямлі і яе глыбакадумнай маўклівасці. Высахшы мох, не страціўшы свайго зялёнага колеру, вабіў да нейкага разглядання ўсяго, да думак аб усім.

Павал паволі абтыкаў гэтым мохам вокны знадворку і сцены. І думалася яму аб тым, як нядаўна ён хварэў. Было яму холадна ў старой ватовай салдацкай жакетцы, і стараўся ён кончыць усё ды ісці грэцца ў хату. Глыбока яго агарнулі думкі, і загэтым нейк здрыгануўся ён ад нечаканасці, пачуўшы за сабою грубы, ахрыпшы голас. Высокі чалавек пытаў у яго дарогі ў горад. Павал растлумачыў яму і пасля пастаяў і паглядзеў, як высокая постаць чалавека рушыла ў палявую дарогу... Цераз некалькі хвілін Макей Пілат падышоў да Паўла расказаць, што бачыў ён усё гэтае праз акно і адразу пазнаў таго самага папа, якога не вельмі даўно падвозіў з горада.

Узнімаўся вецер. Лажыўся ён на зямлю і расказваў ёй аб вялікай адзіноце... Канчалася восень.

Шырокая дарога нават трохі і пыліла пад ветрам нейкай сухой мерзлатою. Бегла пад ветрам расцярушаная салома. Па дарозе ішоў чалавек.

Высокая постаць яго роўна гойдалася ў такт крокам, у руках была палка. Ішоў ён паволі, як бы ў свядомасці, што няма куды спяшаць. Прайшоўшы так некалькі вёрст, спакойна і ціха, ён раптам часта паднімаў галаў угору, страшным бляскам вачэй акідаў хмары, ускудлычаныя ветрам, і далёкае сіняе і халоднае неба між імі. Пасля не-

спакойна азіраў зямлю пры дарозе і далей і пачынаў ісці хутчэй. Нервова пастукваў канцом палкі па зямлі і раптам рваўся ісці так, што як бы хацеў моцна пабегчы. Пасля зноў супакоіўся, пасля ізноў так... Была ў гэтым няроўнасць, неразмеранасць. Была і бяздумнасць, і густата думак без вытрыманасці і парадку.

Так ветраным днём прыйшоў Парфір Кіяцкі ў горад. Дома ён начаваў тры ночы і недзе згінуў на пяць дзён. Пасля знайшлі яго на краю горада ў піўной за бутэлькай гарэлкі. З тых часоў ён дадому ўжо мала паказваўся, а пасля і зусім не падыходзіў да яго.

Жонка яго перш многа плакала і нудзела, але цераз некалькі месяцаў сышлася з загадчыкам нейкай канторы, маладым і вясёлым чалавекам, і знайшла сабе ў гэтым поўную ўцеху...

Парфіра Кіяцкага ведаюць ва ўсіх глухіх піўных. Асабліва яго там ведаюць тоўстыя буфетчыкі і заўсёды падвыпіўшыя гарманісты. Ён мала з кім гаворыць, стараецца не адказваць на пытанні. Амаль заўсёды маўчыць. Толькі раз, калі яму нехта сказаў аб тым, што жонка яго жыве з загадчыкам канторы, ён філасафічна паглядзеў на гаварыўшага і прачытаў нешта накшталт лекцыі аб смеху і слёзах. З яго гэтых, не звязаных між сабою, слоў ніхто нічога не зразумеў. Не разумеў іх і ён сам. І калі разумеў што, дык гэта пункт думак, з якіх яны стараліся выйсці...

Скончыў ён сваю гаворку на паўслове, не скончыўшы пачатае думкі. І каламутным зіркам сачыў, як у кутку, за маленькім столікам, рамізнікі елі селядцы і як праз мокрыя ад пары дзверы выходзілі і ўваходзілі ўсё новыя і новыя людзі.

# ШАЎЦОЎ ЯНКА

*(З апавядання)*

...Чуць не палавіну хаты займала печ, і напроці гэтае печы, каля самых дзвярэй, было цясней, як дзе. Там ляжалі і дровы, і прылады ўсякія хатнія, там стаяла карыта, і часамі па некалькі дзён смяццё адтуль не выносілася, бо не было нікому часу займацца гэтым. Маткі цэлымі днямі не было дома — заўсёды была яна на падзённай рабоце і толькі зімою часцей заставалася ў хаце...

Летам дні былі зусім слаўныя. Доўгія яны тады, нейкія шырокія, вольныя. І гэта была самая лепшая пара для Янкі і Мінькі. У хаце, каля печы, было прыстроена некалькі дошчак, дзе зімою даводзілася падоўгу сядзець, бо бацьку здавалася, што калі хлапчук будзе набольш сядзець на адным месцы, мала бегаць і крычаць, дык з яго некалі выйдзе сталы і разумны чалавек. Дык вельмі ж надакучаў гэты цесны кут каля печы. А гэта тут жа, перад самаю хатаю, была вуліца, на якой было так слаўна ад паднятага калясьмі пылу і так весела ад таго, што там і ў драбінах, і конна ездзілі; там можна было і крычаць, і свістаць. А калі хацелася імчацца некуды ад нейкай вясёласці або падскочыць вышэй страхі, і не можна было і таго і другога зрабіць так, як бы хацелася, дык можна было тады набраць поўную шапку пяску і сыпануць яго вышэй галавы. Пясок падляціць угору, а там вецер як хваціць яго ды калі панясе слупам, дык і Янка, і Мінька, і Юзік там, і ўсе іншыя глядзяць угору ды крычаць:

— Весела-а-а!

Адзін раз у гэтую хвіліну праходзіў па вуліцы стары Лейба з нейкім мяшком за плячыма, дык Мінька ні з таго ні з сяго і гукнуў у Лейбы перад носам:

— Лейба, ганяй вецер!..

І тады якраз здарылася тое, што доўга памятаў і Мінька, і Янка, і ўсе, хто быў там. З хаты выскачыў бацька з

напружкаю ў руках і хваціў Янку за рукі. Мінька пабег на агароды, а Янка быў заведзен у хату.

— Татачка, гэта не я крычаў, гэта Мінька крычаў! — галасіў Янка, а бацька, са злосці ў тую хвіліну на ўсё, што толькі было на свеце, правёў Янку скрозь цёмныя сені ў цесную хату і паставіў яго перад сабою. Пасля нагнуўся, каб узяць больш цвёрды рамень, і раптам рассыпаў з скрыпкі дробнае сваё шаўцоўскае начынне.

Аж скрывіліся ў яго губы ад злосці, аж пабялеў цёмны твар. І ён рвануўся, каб схваціць абы-што і даць Янку ім, але Янка раптам нек ціхенька заплакаў. Апусціў уніз рукі і заплакаў. Не крычаў, а плакаў буйнымі слязьмі.

Бацька выпрастаўся, пачухаў нябрытую даўно бараду і нешта як бы падумаў. Пасля, як вельмі ўтаміўшыся, абяссілеўшы, пайшоў моўчкі ў куток, дзе маленькае акенца выходзіла на вузкі двор, а Янку здалося, што гэта ён нешта там схваціць, раптам замахнецца і з усіх сіл ударыць моцна і балюча.

Тады рвануўся Янка з месца, прамчаўся па хаце ў цёмныя сені, дабег да дзвярэй і там уцяміў, што дзверы бацька ўзяў на засаўку, а яна высока і не дастаць яе, каб адчыніць іх...

З самай яшчэ вясны ў сенцах стаялі парасяты. Хацелася ім страшэнна павылазіць на двор, і яны рыліся, пасля прарылі-такі пад падрубай нару і павылазілі. Пасля Янка і Мінька больш праграблі гэтую нару і ўпіхалі праз яе, каб бацька не бачыў, нанач часамі нейкага рыжага валачашчага сабаку. І цяпер гэтая нара паслужыла шырокай дарогай самому Янку. Ён, як стаяў, кінуўся на зямлю, шмаргануўся жыватом аб яе, халодна-вільготную, і палез на двор. Быў у яго страх, вялікі вельмі ў тую хвіліну, калі сам ужо быў на двары, а ногі былі яшчэ ў сенцах. Пранізала яго голаў вострая думка: гэта ж дагоніць бацька ды схваціць за ногі і ўвалачэ назад у сенцы; нават хватае ўжо, нават хваціў ужо...

Янка рвануў нагамі і быў ужо на двары. Тады стала яму ясна нек, што бацька гэта не хватаў яго за ногі, нават у сенцы не выбягаў. Але побач з гэтаю думкаю была і вялікая трывога. Моцна калацілася сэрца, галава была мокрая ад поту, а твар ад слёз. І як толькі вылез Янка з нары ды ўскочыў на ногі — кінуўся бегчы на агароды, куды не выходзілі вокны з хаты, дзе нікога не было, каб убачыў яго. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыйшоў Янка дадому назаўтра ў паўдня. Мінька з'явіўся тады ж, пад вечар, а Янка, як ішоў дадому, дык увесь быў ахвачан як бы таею халоднаю вільгаццю, якая была за хлявом у агародзе, у раўку між градамі табакі, дзе ён пралежаў ноч.

Бацька спаткаў яго моўчкі: панура глянуў на яго, нек вінавата бліснуў вачыма і сказаў глуха:

— Ідзі еш...

Была ў яго голасе і крыўда некая на нешта, і злосць, і жаласць, і слёзы... Тое ж самае было і ў Янкі: і крыўда вялікая, і жаласць да некага — ці да сябе, ці то да бацькі. Хацелася яму заплакаць, ды баяўся нек. Ён папрабаваў есці; пасёрбаў трохі на лаве каля дзвярэй халоднага крупніку з вялікага гаршка, а пасля палажыў лыжку, выйшаў у цёмныя сені, сеў там на зямлі за куфрам і заплакаў. І чым больш ён плакаў, тым усё лягчэй яму рабілася. І тады дзяцінымі думкамі сваімі дайшоў да бацькавае чорнае, спрацованае постаці і стаў думаць аб бацьку. Успомніў раптам, як вясною была халодная гразь з снегам, а ў бацькі не было ботаў, і хадзіў ён у некіх старых хадаках. Тады ўстаў Янка з свайго цёмнага кутка за куфрам і глянуў у хату праз прачыненыя трохі дзверы. Бацька сядзеў за сваім нізенькім столікам на перавернутай бокам калодзе і абгладжваў шклом абцас у новым боце. Тады нек, дзяцінаю душою сваёю, некім глыбокім пачуццём як бы дагадаўся Янка, што ўсё тое нядобрае, пакутнае, што было, не ад самога бацькі-шаўца, не ад самога яго — Янкі ці Міцькі, не ад старога Лейбы, які з мяшком прайшоў па вуліцы, не ад таго сваволля, з якім яны сыпалі ўгору шапкаю пясок, а ад нейкай неналаджанасці жыцця. Ад таго, што бацька сядзіць адзін у хаце, нікуды ў людзі не ходзіць, як воўк, сам з сабою, заўсёды за сваімі ботамі, што матка дадому прыходзіць для таго толькі, каб пераначаваць ды зварыць крупнік у вялікім гаршку...

Ад усяго гэтага нек тое нядобрае робіцца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усе тыя дні панурым хадзіў Янка. Бачыў, як бацька некуды два разы хадзіў днём, а сам стаяў каля агарода моўчкі ды глядзеў на грады цераз плот, прыпёршыся плячом да сцяны хлява.

І яшчэ ў той дзень не ведаў ён аб тым, аб чым ужо даведаўся яго бацька: што тут жа блізка тое патрэбнае і важнае. Што апрача дратвы ды малатка, неабходных для жыцця, ёсць яшчэ і само жыццё...

Шавец выйшаў з сяней і, сагнуўшыся сваёю шырокаю спіною, пайшоў па двары. Каля дзеравянай сцяны ўзяў ён каравымі рукамі за плечы Янку, прыгарнуў яго да сябе і пагладзіў пальцамі па галаве і шыі. І раптам, як бы чаго засаромеўшыся гэта, адышоўся.

І сперш падумаў быў Янка: «Гэта ж, мусіць, бацька біць будзе ці за вушы круціць»,— але нек не хацелася яму ўцякаць, а з'явілася раптам задорная думка: «Ну што ж, бі, муч!..»

А як бацька, пашкадаваўшы яго, адышоўся, стала яму раптам і сумна, і радасна.

Ён ужо з уздымам пачуццяў стаяў пасярод двара і глядзеў, як вецер узнімаў па вуліцы сухі пыл...

# НА ПЫЛЬНАЙ ДАРОЗЕ

Паабапал жвірыстай дарогі калышыцца леташні быльнік, і веснавая шырыня вее над неабдымным полем. Неба сіняе, сонечнае; над дарогаю тонкі, як туман, падымаецца пыл — плыве вецер з-за сініх лясоў, і на дзернавых узмежках пры жоўтых каляінах шуміць сухі палын... Моцна думаюць голыя яшчэ кусты, а за імі, далей, пярэсцяцца колеры зямлі: зялёныя ўзгоркі, ціхія лагчыны, рэдкія чорныя палосы першай раллі і леташняя шэрань веснавой цаліны.

Вецер прынёс аднекуль сухі жмут аўсянай саломы, прыпёр да сухога быльнікавага куста, растрасае патроху і разганяе па саломіне ў полі, салома звонка шалясціць і навявае задумёнасць вялікай далечыні.

Моцна шуміць яшчэ нейкае зелле, перазімаваўшае, падгніўшае, цяпер сухое і шэрае. У яго галоўках захаваліся, мусіць, зярняты — маленькія, порсткія птушкі гаварлівымі сем'ямі прылятаюць і клююць іх.

Дарога — ад таго, што шырокая, ветраная і пыльная — вясёлая. Шырокі паварот з яе ў горад; горад блізка, і не відзен за блізкімі ўзгоркамі, і каля павароту куча бітых каменняў, пры зямлі абмалёваная зялёным шлакам травы.

Нам слаўна было сядзець тут на гэтых каменнях; і мы сядзелі — сушылі на ветры спацеўшыя шыі і маўчалі. Шмат было перагаворана дарогаю — паволі прайшлі мы з ім разам трыццаць вёрст, многа я зразумеў у яго без слоў, і цяпер трэба было разысціся таксама, як выпадкова сышліся на дарозе. Было яму год дванаццаць, а я ішоў у горад, дзе ўжо жыў. Убачыў быў я яго пасярод дарогі — ён стаяў, растапырыўшы босыя ногі ў палатняных портках, і трымаў у руках шапку.

— Што ты робіш? — запытаў я, праходзячы міма.

— Пчолы нейкія, каб на іх упадкі, з зямлі вылазяць,— адказаў ён з вялікай сталасцю дарослага, і гэта выйшла ў яго смешна, па-дзяціnаму,— адна, ліха ёй, джала дала мне ў нагу, чорт яе бачыў, ішоў ды наступіў.

Ён даў раптам з-за вуха шапкаю па зямлі і з расчараваннем сказаў:

— Уцякла, каб яна здохла...

І пайшоў са мною.

— Куды ты ідзеш?

— Гэта я іду на хутары па брата. Ён там цэлую зіму служыў, значыцца, а гэта як памёр айчым наш, дык трэба, каб дома быў, неканечна яму было і так ісці, але што ты парадзіш.

— А даўно айчым памёр?

— Нядаўна.

— А маці жыве?

— Маці жыве.

— А больш хто ў вас ёсць?

— А больш у нас яшчэ дзяўчыны дзве ёсць, старшыя за мяне сёстры, дык яны дома, ідзе не служылі, бо яны хоць бабы, але цвярдзейшыя за Васіля, дык айчым іх не мог выкурыць з хаты.

— А хіба ён выкурваў?

— Уга... Ён чуць Васіля на той свет не адправіў, як пачаў грызці. Дык той і пайшоў у людзі.

— Маці што?

— Дык жа ён чуць і мацеру ў труну не ўвагнаў — азіят нейкі быў, а не чалавек.

Гаварыў ён стала, як дарослы. І відно было, што пражытыя на свеце дванаццаць год навучылі яго многаму, паказалі яму многа бакоў жыцця, накалілі яго і давялі да вострай цвёрдасці.

І цяпер ён ішоў па брата, адзін, па пустой ветранай дарозе. Ён і забаўляўся ідучы і разважаў стала: і наглядаў, і абдумваў. Твар яго, у лішаях ад сонца і ветру, меў на сабе ўсе адзнакі халоднай сталасці і прывычкі — вялікае лічыць часам малым; і толькі калі-нікалі прарываліся ў ім не згладжаныя яшчэ дзіцячыя манеры.

— А ты гаспадарыў ужо?

— Я летась адзін паараў усё. Айчым тады ўжо хварэць пачаў.

— А цяпер айчыма шкада?

— Цяпер не... Але шкада маткі, бо яна нездараўчаная вельмі. Хто яе ведае, ці пажыве яна доўга на свеце. Мы то не прападом — мы ж усе ўжо ўзняліся на ногі, але яна як... Мы ж яшчэ яе нічым не пацешылі...

Ён моцна аб нечым стаў думаць і змоўк. І твар яго раптам ажыў. Пачалі, як цені ад хмар у ветраны дзень па зямлі, праходзіць па твары яго адзнакі перажытага смутку і ўздымаў, адбітак як бы нейкай мудрасці пазнання жыцця з'явіўся на ім, і ўпэўненасць у неабходнай патрэбе пацешыць матку, і моцнае жаданне гэтага, важнае і для яе, і для яго. І зусім не адбілася на твары яго непаразуменне перад тым, што гэта ж сам ён нічым яшчэ не пацешыўся.

Толькі хутка шырокае нешта і надзвычай тонкае лягло на гэты сталы і глыбокі твар, і яно паведаміла пра вялікую ўцеху, вылаўленую ў жыцці з самога жадання пацешыць матку, з самога працэсу падарожжа па брата і ва ўсім, што даводзілася рабіць, у самым тым, што трэба было дзейнічаць.

У тым, што ён сказаў, было сказана самае важнае, і ўсё іншае стала зразумела, і была асалода глядзець на гэты сталы не па-дзяцінаму твар...

Ён шырока ступаў па пыльнай дарозе.

— Тым часам так,— загаварыў ён,— хутка аўсы будзем сеяць...

І зноў змоўк і задумаўся.

— Ногі баляць,— падаў ён яшчэ голас.— Я цяпер паляжаў бы, скурчыўшыся пад кустамі дзе на сонцы, але да вечара дайсці трэба.

І ўжо ў менш, як мне здалося, значных гаворках і многа моўчачы прайшлі мы астатак дарогі да павароту і на каменнях прыпыніліся. Ён дастаў з кішэні сваіх палатняных портак кавалак хлеба і пачаў ламаць каравымі, тонкімі пальцамі і есці. Хлеб запах суха і кісла — так, як пахне ён, паляжаўшы ў торбе паўдня на полі, пакуль не даарэцца загон і не падыдзе пара есці.

Нам абодвум не хацелася ўставаць, мне было бліжэй, яму яшчэ вёрст дзесяць.

— А калі назад?

— Заўтра,— адказаў ён, жмурачыся ад ветру,— заўтра з Васілём,— павесялеў ён.

Цераз паўгадзіны ён кіўнуў мне галавою і пайшоў, роўна гойдаючыся ў такт крокам. Я застаўся адзін і сачыў

за тым, як бела-шэрая постаць яго патроху рабілася меншай ад роўнай далечыні дарогі і пасля зусім згінула за першым узгоркам. Пасля зноў відаць стала галаву яго — маленькую ўжо і чуць прыкметную, як цемнаватая кропка. Пасля нічога не відаць стала.

Я сядзеў на каменнях і думаў аб маленькіх і нязначных здарэннях, якія слабым здаюцца вялікімі і страшнымі, і аб вялікіх і страшных здарэннях, якія моцным здаюцца маленькімі і нязначнымі. І ад таго, што гэтае дзіцянё не сагнулася і не сагнецца і ідзе сабе моцна па дарозе, стала мне радасна і думна.

Было жаданне спяваць што-небудзь моцнае і цягучае, спяваць яго доўга без слоў і без лішняй тут вясёласці.

«Будзем зараз аўсы сеяць»,— прыпомніў я яго хрыплыя словы...

Аўсы будуць улетку шумець тут паабапал дарогі, і радасная зямля ўсцешыць чалавека...

Ён, малы, вырасце і таксама, як цяпер, моцна і горда пройдзе па зямлі, па дарозе...

У такіх думках я сяджу на каменнях...

Пры пыльнай дарозе шумяць палыны, і вясёлыя плачуць наводдаль каліны.

# ЗАХАР ЗЫНГА

## I

Дзеравяная вуліца даходзіць да самых рэек чыгункі. За шырокаю лініяй чыгункі, на шырокай прагаліне парасла густая трава, пакапаны канавы, цягнуцца нізкія драцяныя загарадзі, а там зноў цеснуцца адзін да аднаго прывакзальныя будынкі... Парослая травой прагаліна, услед за перакрыжаванымі на ёй чорнымі рэйкамі, выбягае ў палявыя прасторы, дзе нізкімі істужкамі ўстаюць далёка сінія лясы і адкуль у хмурныя дні паднімаюцца грузныя хмары. І адсюль вуліца здаецца вузкім праходам з зялёных далячынь у грымучыя і магутныя каменныя нетры.

Канец вуліцы пры чыгунцы высыпаны чорна-бліскучаю дзындраю, і заўсёды пахне тут вугольным дымам. Тут і дзень і ноч чутны свісткі і крыкі паравікоў і жалезны стук вагонаў; з шырокіх жа вуліц горада дабягае сюды шум конак і аўтамабіляў. У сухія дні вецер прыносіць сюды з палявых дарог тонкую плёнку лёгкага пылу, пыл асядае на гнілыя платы і шэрыя сцены і суха-салодкім сваім пахам прыкра разбаўляе востры пах вугольнага дыму.

Па цяжкаму бруку з вялікіх каменняў вуліца падымаецца ад чыгункі ўгору, да белага двухпавярховага дома. На другім паверсе тут змяшчаецца клуб работнікаў чыгункі, а ўнізе — заняпалая сталоўка-піўная.

Прыгожыя, вымалёваныя жоўтаю фарбаю дамы на гэтай вуліцы мяшаюцца з гразнымі і старымі домікамі і хатамі. Тратуары месцамі з гладкіх дошчак, месцамі з гнілых аполкаў, а шмат дзе і зусім папрыбіраны з-пад ног клапатлівымі тутэйшымі жыхарамі. Старшы міліцыянер некалькі разоў прабаваў накладаць штраф на «самаўпраўнікаў» за такія непарадкі, але з гэтага мерапрыем-

ства пакуль нічога не выходзіла, бо ў тых былі два моцныя аргументы: па-першае, у часы вайны і рэвалюцыі трэба было, як і заўсёды, даставаць адкуль-небудзь апал, а па-другое — мірнае будаўніцтва народнай гаспадаркі, на рэйкі якога ўжо некалькі год як стаў горад, не можа ісці ўсюды роўна, і калі ў цэнтры горада яно ідзе шпарка, то няма вялікага дзіва, калі на гэтай вуліцы яно ідзе павальней.

Нягледзячы, аднак, на такія разважанні тубыльцаў гэтай вуліцы, на ёй ні днём, ні ноччу не спыняецца рух. Днём тут грымяць з горада на станцыю і назад балагольскія вазы і грузавыя аўтамабілі з усім тым, што вывозіць ад сябе і прымае да сябе горад, раніцамі ідуць адгэтуль на заняткі і на работу студэнты і работнікі чыгункі, у сонечныя дні праходзяць за горад атрады спартсменаў і піянераў, напаўняючы суседнія кварталы бубённым гулам; начамі па гэтай вуліцы з двух паяздоў праязджаюць у горад пасажыры, цягнуцца з горада начныя абозы. А пасля другой гадзіны ночы ідзе народ з піўной.

Клуб чыгуначнікаў кожны вечар збірае ў сабе моладзь гэтай вуліцы, піўная ж мае таксама свой заўсёдны кадр народу. З клуба бяжыць на вячэрнія кварталы музыка раяля, песні і смех, піўная ж, уціснутая ў зямлю верхнім, клубным паверхам, падражніваецца з вечарам праразлівымі зыкамі гармоні і размашнымі выкрыкамі песень, вясёлымі і пранізанымі наскрозь журбою.

Пад вечар, перад тым як у піўную пачынаюць збірацца ламавыя рамізнікі, шаўцы-саматужнікі, насільшчыкі і нагрузчыкі з чыгункі і ўсякія іншыя людзі, першым з'яўляецца сюды гарманіст Захар Зынга — высокі і сухі чалавек з каструбаватым няроўным тварам і да немагчымасці чырвоным носам, з яшчэ больш чырвонымі тонкімі жылкамі на ім. Ён адзеты ў латаныя галіфэ, перашытыя з шэрага салдацкага шыняля, і ў кароценькі стары фрэнч з чорнага корту; з-пад фрэнча відаць грудзіну рудой распяразанай сарочкі. У гэты час дня ў яго заўсёды баліць галава ад учарашняга перапою, але настрой у яго такі, з якім начальнік войска, узяўшы новы горад, выступае перад тамашнімі жыхарамі з прамоваю.

Зачыніўшы дзверы піўной, Захар Зынга па-гаспадарску заходзіць у другі пакой і са стукам ставіць на стале сваю вялікую гармоню. Галава ў яго трохі кружыцца, ногі пробуюць блытацца, дух жа яго ўзняты вышэй усіх

гэтых дробных непаразуменняў чалавечага цела, і ён мнагазначна падморгвае адным вокам тоўстаму буфетчыку. Той прымае гэта за кпіны і пачынае злавацць. Голасам, пісклівым ад прыроды, ён стала заяўляе:

— От я буду цярпець-цярпець тваю гэтую музыку, а пасля выйду з цярпення ды вазьму і выкіну к чорту вон адсюль гэтую тваю гармоню з табою разам.

Выслухаўшы такую цытату, Захар Зынга акругляе твар ухмылкаю філосафа, які ведае нешта важнае і лічыць для сябе нізкім гаварыць усім аб гэтым.

Буфетчык трасецца ад злосці:

— Ну-ну, смейся! Яшчэ зубы тут мне вышчарае... Цераз цябе ўсе тут непарадкі заўсёды бываюць, а не то што... Тут табе сталоўка грамадская, а не карчма якая-небудзь, і твае музыкі тут мне не патрэбна.

— Калі так, то дай грамадству казённую музыку!

— Ты што, парадкі свае сюды прыйшоў наводзіць?!

Захар Зынга не лічыць патрэбным развіваць далей дыскусію і моўчкі пачынае разглядаць публіку. Буфетчык робіць спробу яго прынізіць перад усімі:

— На тым тыдні цераз яго ж гэта тут гвалт быў, хацелі пасля сталоўку зачыніць, колькі мне было клопату, пакуль адваяваў... Назбіраў сваёю гэтаю музыкаю сюды п'яных з усіх вуліц, а тыя давай буяніць... Каб не я — зачынілі б сталоўку!..

Мала хто яго слухае, і ён замаўкае, а Зынга аглядае столікі, з якога б пачаць сваю работу.

Самы разгар яго дзейнасці бывае вечарам, калі піўная гудзе п'янымі галасамі. Заўважыўшы дзе-небудзь знаёмы з ранейшых вечароў або так вясёлы добры твар, ён падсядае туды бліжэй і ціхенька бярэ па гармоні некалькі нясмелых акордаў. Памяты і нервовы твар яго носіць на сабе ў гэтыя хвіліны адбітак нейкай прыніжанасці і просьбы. Такі твар у яго бывае яшчэ ў час сну, калі не трэба яму ні хітраваць, ні ламацца.

— А ну, падвесялі,— чуецца голас.

Зынга падсоўваецца да стала і налівае сабе гарэлкі ці піва. За гэта яго былі адзін раз моцна пабілі, і з таго часу ён заўсёды раней заглядае ў твар чалавеку, каб пазнаць, з кім сядзіць. Выпіўшы гарэлкі, ён пачынае падвясельваць. Вакол яго збіраецца народ; расшавельваюцца пачуцці, душа просіць размаху, і тады робіцца не шкада грошай на выпіўку. Так Зынга сядзіць тут да позняй ночы

і мае выгляд чалавека, які зразумеў усё так, што ўсюды не лепш і не горш, але няма куды адсюль спяшыць, бо выявіць сябе можна толькі з гармонню і тут.

Калі яго просяць іграць, ён падтульвае вострыя плечы свае і гнецца да чалавека з нейкім вінаватым імкненнем зразумець таго, хто яго просіць. У час жа антракту ён гаворыць з усімі; хто што і аб чым ні гаворыць — ён маўчаць не можа, выяўляючы пры гэтым сваю фантазію і сам верачы сваім выдумкам.

— Усё гэта дрэнь,— гаворыць хто-небудзь, падпіўшы, радасны ад таго, што ёсць магчымасць выказацца аб чым і як хоча,— цяпер няма добрых напіткаў.

Нядоўга думаючы над пастаўленым пытаннем, Зынга аўтарытэтна заяўляе:

— Цяпер напіткаў акуратных быць не можа, бо пайшоў выраб нядобры.

— Няпраўда,— перабіў яго быў раз маладзенькі стрэлачнік з чыгункі, які не мог прапусціць добрага выпадку паказаць сваё дасканалае разуменне сучаснасці,— няпраўда, цяпер напіткі кепскія не за тым, што іх кепска вырабляюць, а за тым, што яны не могуць як належыць выстаяцца ў паграбах, паскольку іх услед рэалізуюць.

— А ты адкуль ведаеш, шмок ты,— ускіпеў Зынга, якому здалося, што публіка будзе на баку стрэлачніка,— што ты сам на свае вочы бачыў гэтую работу? Пакажы ты мне факты, ці нюхаў ты нават калі паграбы з напіткамі.

— Ды я ў семнаццатым годзе сам у гэтых паграбах канфіскацыю рабіў.

— Дзе?!

— У Маскве.

— А ў Тулу ты часамі не ездзіў канфіскаваць паграбы?!

— Пайшоў к чорту! — крыкнуў стрэлачнік, чуючы вакол сябе рогат.

— Так бы ты і зразу гаварыў! — заявіў Зынга, выходзячы на сярэдзіну і засоўваючы рукі ў кішэні, радасны ад сваёй перамогі,— так бы і гаварыў, а то разводзіш хлусню, як бы табе хто і паверыць. Многа такіх майстроў знайшлося б канфіскаваць паграбы... От я памятаю, як мы бралі на Румынскім фронце крэпасць, дык у той крэпасці быў пограб, от там напіткі былі — віно, як смятана, густое...

— А ты ж учора гаварыў мне, што гэта было не на Румынскім фронце, а каля Баранавіч,— падаў нехта голас з п'янай грамады.

— Я гэтага гаварыць не мог,— пастараўся апраўдацца Зынга,— бо я на Баранавіцкім фронце зусім не быў.

— А ты ж мне хваліўся, што быў ранены каля Баранавіч,— умяшаўся буфетчык.

Аглушаны з усіх бакоў рогатам, Зынга пачаў міргаць вачыма, пасля папробаваў перамагчы праціўнікаў нахрапам:

— І быў ранены, дакажы, што я не быў ранены... Я магу знакі ад куль паказаць.

— Пакажы!

Зынга скінуў фрэнч, расшпіліў сарочку і паказаў шырокія сухія грудзі. На іх убачылі некалькі чырвоных рубцоў і знакаў — сляды перажытага гэтым чалавекам.

— А братка ж ты мой! — ціха падзівіўся нехта.

— То што,— сказаў стрэлачнік,— але гэта не на Баранавіцкім фронце, ты там не быў. Хлусіш...

— Я ўсюды быў,— горда заявіў Зынга,— я паўсвету пехатой прайшоў і больш я забыў, чым ты, смаркач, ведаеш... Я многа чаго знаю.

— Але ці цябе хто знае?

— А цябе хто знае?! — зароў Зынга, закасваючы рукі, але ўвагу яго адцягнуў буфетчык. Выйшаўшы з-за буфета, ён закрычаў:

— Вон пайшоў адсюль з сваёю гармоняю, каб і духу твайго тут не было!.. Што ты тут гвалт паднімаеш... На чорта тут мне твае гэтыя гаворкі пра Баранавіцкі фронт ды пра пагрaбы з напіткамі... Ты тут не павінен знаходзіцца... Мар-рш!

І ён схваціў яго гармоню і выкінуў на ганак. Зынга выскачыў услед, забраў гармоню і заявіўся зноў, гатовы заўсёды піць, спрачацца, іграць і быць выкінутым на вуліцу. Скура на твары яго варушылася ад нервовасці, і вочы нечага шукалі.

Паспакайнеўшы, буфетчык, прыпёршыся жыватом да стала, сказаў:

— Гэтыя раны яго не ад куль, ён не быў на вайне. Гэта яго за пакражы дубасілі.

— Дакажы! — крыкнуў Зынга.— Дай мне на рукі факты!

Буфетчык маўчаў.

— Пакажы ты свае знакі,— не сціхаў Зынга,— пакажы, як ты пражыў... Валяўся, як япрук у саломе...

Буфетчык плюнуў і пайшоў на сваё месца. І была ў яго постаці нейкая засмучанасць чалавека, якому няма чым пахваліцца.

Падобныя сцэны адбываліся ў піўной амаль не кожны дзень, і цэнтральнай асобай іх заўсёды быў Захар Зынга. Буфетчык не мог адважыцца не пускаць яго сюды, ведаючы, што дзякуючы яму і яго гармоні тут кожны вечар поўна людзей. І Зынга тут піў і іграў на гармоні маршы, вальсы і полькі. Часта перад тым, як ісці дадому, позна ўночы, ён ужо ледзьве валодаў нагамі, тады яго выводзілі на вуліцу. Здаралася, што ён лажыўся тут жа на ганку, выцягваўся і ляжаў так у цемені ночы, прытуліўшыся да сваёй гармоні. Тады, узнепакоеная тым, што яго доўга няма, прыходзіла дачка яго Рыта, брала яго пад руку і заводзіла дадому.

## II

Пятым ад канца вуліцы стаяў стары дзеравяны дом у адну кватэру, нізенькі і падгніўшы, адкуплены даўно ад управы чыгункі Дзянісам Пляцінскім, вядомым тут пад прозвішчам Бачкавоза.

Быў Дзяніс Пляцінскі нізкі і шыракаплечы стары, маўклівы і непаваротны. Хадзіў ён паволі, ступаў нагамі цяжка і меў прывычку часта, амаль заўсёды, чухаць сваю густую рыжаватую бараду на круглым і шырокім твары. Ужо некалькі год паказваўся ён у людзях у жоўта-шэрай вопратцы з грубога сукна, даўжынёю па калені і, адзеты так, здаваўся больш яшчэ непаваротным і цяжкім і меў нейкае падабенства да свайго старога дома.

Дом гэты меў два пакойчыкі і кухню — усё старое і абшарпанае. Дзверы з сяней у кухню былі забітыя дошкамі, і замест іх былі зроблены другія знадворку ў задняй сцяне. Кухня, такім чынам, была перароблена ў хлеў, дзе стаяла двое коней, на якіх Дзяніс Пляцінскі начамі вазіў сваю бочку. Адзін пакойчык займаў ён сам, а ў другім жыў Захар Зынга з дачкою Рытай.

Адносіны між Зынгай і Пляцінскім доўгі час былі нейкія афіцыяльныя, яны давалі адзін аднаму «дзень добры» і ніякіх гаворак між сабой ніколі не вялі, і прычынай гэтага была, мабыць, панурасць Пляцінскага. Толькі раз

адбылося між імі маленькае здарэнне, якое іх зблізіла трохі.

У хмурны і мокры дзень восені, пад вечар, выйшлі яны былі разам з піўной. Ногі іх запляталіся таксама, як і языкі, толькі розніца была ў іх вось у чым: Зынга, стомлены «падвясельваннем» гармоняю публікі, меў нахіл да спакою ўсяе свае істоты, у Пляцінскага ж ад доўгай маўчанкі пачалі варушыцца ў галаве ўсякія думкі, і ён выявіў свае настроі ў словах:

— Канхоская кватэра горш сапраўднай кватэры, бо над канхоскаю кватэраю дзесяць начальнікаў сядзіць, а тут усяго адзін гаспадар.

Зынга маўчаў. Пляцінскі папрабаваў растлумачыць:

— Канхос, скажам, вызначае на свой раён аднаго старшага, а над тым стаіць другі старшы...

— Знайшоў аб чым гаварыць! — абазваўся Зынга.

— Як то аб чым! Я сам па сабе ведаю...

— Што?

— Што я гаспадар...

— Які ты к чорту гаспадар...

Пляцінскі на хвіліну прыпыніўся, спыніў за рукаў Зынгу і грозна заявіў:

— Заўтра ж ачысці мне кватэру.

— Свіснеш! — адказаў Зынга і пайшоў.

Пляцінскі рушыў за ім і, сяк-так дагнаўшы яго, наскольк дазволілі аслабеўшыя ногі, даў яму рукавом па шыі. Зынга спачатку як бы здзівіўся, пасля гэтае здарэнне вызвала ў памяці яго мінулае — як яго некалі білі ў зубы ў салдатах, білі па турмах і астрогах, і нешта заварушылася ў глыбіні яго істоты, мала калі быўшае раней. Ён раптам адчуў, што яго трэба тут жа выказаць ці так як-небудзь выявіць, але як? І ён, памаўчаўшы трохі, запытаў:

— Ты яфрэйтарам не быў?

— Кашаварам быў,— адказаў Пляцінскі.

І, сказаўшы гэта, Пляцінскі раптам прыпомніў, як у часы свайго кашаварства сышоўся ён быў з дачкою нейкага сталяра — порсткаю і вясёлаю дзяўчынаю і як цераз год яна памерла, а ён, вярнуўшыся з салдатаў, гадаваў ад яе сына. Выгадаваўшы, аддаў яго ў салдаты, адкуль ён і не вярнуўся. І вось цяпер ён, стары Дзяніс Пляцінскі, жыве адзін, заняўшыся работай з бочкаю ўночы...

Так яны ўдвух ішлі і прапускалі ўсё гэта праз свае адчуванні. І, прыйшоўшы дадому, моцна сапучы і чапляючы за ўсё нагамі, яны прайшлі ў пакойчык Пляцінскага, сяк-так прымайстраваліся там на скрыпучым ложку, дасталі аднекуль бутэльку гарэлкі і пачалі піць... Нешта бармочучы, кожны з іх хацеў выказаць нейкую думку, ды не мог... Так яны пілі, барматалі і цалаваліся раз-поразу, пакуль Пляцінскі не зваліўся там, дзе сядзеў.

Увайшла Рыта — нізкая і белатварая дзяўчына. Светлая спадніца густымі фалдамі ападала ў яе вакол ног; у постаці яе была маўклівасць чалавека, прывыкшага да такіх малюнкаў. Яна моўчкі штурханула бацьку ў плячо, той з нейкім дзіцячым паслушэнствам пачаў падымацца. Трымаючы яго за плячо, Рыта павяла яго дадому. Пляцінскі застаўся адзін. Ён з'ехаў з ложка на зямлю, неяк бокам пасядзеў трохі на ёй, памахаў рукою і лёг... Грузна і шырока ляжаў ён на заплёванай падлозе. Плечы яго, абцягненыя шэрым сукном старой вопраткі, уяўляліся як нешта прыніжанае і фантастычнае. Рыжаватая густая барада, пераблытаная з вусамі, здавалася ўросшай у падлогу. Ляжаў ён круглым, памятым тварам у зямлю...

Холадна было ў хаце, і зноў увайшла Рыта і запаліла яму ў печы. Агонь асвяціў яго чырвоным светам, а за вокнамі гусціўся вечар.

Як бы што прыпамінаючы, Дзяніс пачаў варочацца і ўсё кракатаў, як з-пад якога-небудзь цяжару:

— Калі гуль-ляць, дык гуляць!.. Душа хоч-ча... Праўда ці не?!

У тую ноч ён не выехаў на сваю работу з бочкаю, і коні яго, недагледжаныя, старыя і такія ж каравыя, як і іх гаспадар, стаялі ў хляве і цэрліся шыямі аб сцяну.

Ноч была цёмная і мокрая.

## III

З высокіх і светлых вокан клуба чыгуначнікаў відаць былі канцавыя будынкі горада, пуціны чыгункі, выходзіўшыя далёка ў поле, і само поле — у кустах, канавах і дарогах, з шырынёю да сініх лясоў. У лагчынах, далёка, туліліся да зямлі палявыя хаты, далі там былі дымнасінімі, і вузкімі істужкамі блыталіся дарогі. Некалькі раз у дзень з жалезным грукатам імчаліся ў гэтую сінюю

шырыню з горада паязды, некалькі раз прыходзілі адтуль у горад — і гэта была адмысловая вялікасць і сіла. Жалезны грукат, раптам з'явіўшыся сярод роўнасці поля, парушаў яго ціш і задумёнасць,— хараство травы і шэрай зямлі змянялася хараством жалеза...

У вокан гэтых часта стаяла Рыта адвячоркам і глядзела туды ўніз.

І дарогі тыя, і сінь былі ёй знаёмымі з малых дзён, і цяпер кожны дзень была там яна з лапатаю на рабоце каля чыгункі... А раз, даўно ўжо, бацька, Захар Зынга, прыйшоўшы дадому позна з піўной, п'яны і моцна там пабіты, расказаў ёй, што і маці яе была родам адтуль; гаворка з бацькам у тую ноч была новай для Рыты, яна некалькі дзён пасля яе ўсё думала аб бацьку, старалася вызваць у сваім ваабражэнні постаць нязнанай мацеры, старалася і не магла. І пасля гэтага пачала яна мяшаць свае дзявочыя мары з думкамі...

Прыйшоўшы пад вечар з работы, яна была трохі дома адна, пасля ішла сюды, да гэтых вокан, а як цямнела, зноў была адна дома і, калі вельмі позна не было бацькі, ішла па яго ў піўную.

Раз у такую ноч яна прывяла яго дадому пабітага, знайшоўшы яго на ганку. Ён усю ноч стагнаў, а назаўтра не ўстаў з пасцелі. І яна, пайшоўшы на работу, першы раз адчула да яго нейкае нявыяўленае раней заміласанне дачкі да хворага бацькі. Вечарам, кормячы яго, яна першы раз плакала над ім і ўгаварвала пакінуць піць, а ён маўчаў, часта вінавата моргаў чырвонымі вачыма і здаваўся сам сабе грубым, агідным і ненавідным для ўсіх. На трэці ж дзень, як падняўся ён, сказаў ёй, што піць больш не будзе і пашукае работы. Між імі сталі блізкія адносіны, якіх ніколі раней не было. Яна спяшалася з работы дадому, яе цягнула туды; ён ёй здаваўся слабым і немагутчым, якога трэба даглядаць і не спускаць з вачэй.

Ён аставаўся дома адзін, хадзіў па хаце, выходзіў на чыгунку і чакаў Рыту. Гармоня яго стаяла над дзвярыма на пыльнай паліцы нечапанаю. Адзін раз, як свяціла сонца і ад вокан лятаі ў паветры доўгія слупы залатога пылу, раптам захацелася яму зайграць. Ён сцягнуў гармоню, сеў на лаву, палажыў яе сабе на калені і доўга браў, з рознымі адценнямі, усякія акорды. Пасля зайграў «польку-смех» і раптам нечага засумаваў. З вя-

лікаю нецярплівасцю чакаў ён вечара і на змярканні, хаваючыся ад Рыты, узяў пад паху гармоню і пайшоў у піўную. Там ён іграў, пасля перадаў гармоню другому, а сам узяўся ў бокі і пачаў скакаць трапака, пакуль яго сілай не пасадзілі на месца. З таго вечара зноў пайшло ўсё, як і раней.

Тады Рыта зноў мала з ім гаварыла, часам шкадуючы яго, часам носячы ў сабе на яго нешта, падобнае да злосці.

Задумёная і нейкая кволая ў перадвячэрнім змроку, яна часта стаяла пры клубных вокнах, гледзячы ўніз у далячынь, пакуль больш збіралася вакол яе людзей. Тады без трывогі і вострых думак праходзіў вечар. Толькі як, ідучы дадому, спускалася яна з усходаў на вуліцу, прыкра і сумна ёй рабіліся праразлівыя зыкі бацькаўскай гармоні. Тады нейкая трывога апаноўвала ёю...

У тую ноч, як Захар Зынга піў і цалаваўся з Дзянісам Пляцінскім, Рыце нездаровілася, і ад гэтага вастрэйшымі былі адчуванні і думкі.

За сцяной кракатаў Пляцінскі, а яна, палажыўшы бацьку, доўга не магла заснуць. Крыўда ад нечага і перад некім узбуджвала ў ёй нервовасць, яна доўга ляжала не варушачыся, пасля запаліла агонь, прабавала сядзець, хадзіць па двары, зноў лажыцца і перад самым днём не вытрымала і заплакала. З'явілася раптам варожасць да бацькі, яна пабудзіла яго, каб сказаць, што сягоння раней ідзе на работу; ідзе цяпер жа, абы не бачыць ні гэтых сцен, ні яго. Тады нейкая трывога з'явілася на яго п'яным яшчэ, змучаным твары. Сапучы перагарам гарэлкі і стогнучы, ён узвалокся на ногі; шатаючыся ў бакі, прайшоў да дзвярэй і назад. Нейкая ўпартая рашучасць была цяпер у гэтай высокай і памятай постаці. Ён раптам асунуўся зноў на пасцель і хрыплым голасам сказаў:

— Рыта!

Яна маўчала.

— Рыта! — зноў і мацней пазваў ён.

Цяпер яна глянула на яго ўсё ж варожа і з недавер'ем.

— Рыта,— загаварыў ён,— не ідзі зусім сягоння, я прадам гармоню і аддам грошы табе. Гэта была апошняя ноч... Калі што якое, дык да Дзяніса нават пристану на работу.

— Не трэба,— сказала яна сурова,— нікуды табе прыставаць не трэба. Нічога ты не рабі, толькі не пі.

Ён востра глянуў на яе, часта паміргаў вачыма, уткнуў твар у вострыя свае калені і, стараючыся раздавіць нейкі цяжар, сказаў:

— Якраз так маці твая мне даўней гаварыла.

І, сказаўшы гэта, кінуўся ніцма на пасцель і маўчаў.

Рыта глядзела на яго моўчкі, змагаючыся з жаданнем, раптам ахваціўшым яе, пайсці да яго і сказаць яму што-небудзь ласкавае, ніколі, мусіць, ім нечуванае. І яна не вытрымала, падбегла да яго і ахваціла галаву яго рукамі. Ён усхваціўся і першы раз у жыцці сваім пацалаваў дачку сваю...

Між імі тады ўстанавілася як бы нейкая маўклівая згода. Яны нічога не гаварылі, і ўсякі па сябе адчуваў моўчкі. Рыта пайшла на работу...

Застаўшыся адзін, Захар Зынга сцягнуў з паліцы гармоню, падняў яе вышэй галавы і з усіх сіл даў ёю па сукаватай калодзе. Кавалкі гармоні разляцеліся па хаце. Ён пазбіраў іх, адчыніў акно і кінуў на вуліцу ў гразь. Пасля спешна адзеўся і пайшоў у ўправу чыгункі прасіцца на работу. Адтуль прыйшоў ён вясёлы, успамінаючы сваё даўнейшае рамяство — цяслярства.

Адшукаўшы ў сенцах заржавеўшую сякеру, ён пайшоў да Дзяніса Пляцінскага, узяў у яго брусок і, прыстроіўшыся пасярод хаты, пачаў тачыць сякеру.

І ўсё з нецярплівасцю чакаў дадому Рыту.

## IV

З таго дня ён акуратна хадзіў на работу і зусім не хадзіў у піўную. Дзяніс Пляцінскі некалькі раз падгаварваў яго пайсці выпіць, але яму ўдавалася перамагаць спакусу. А адзін раз, убачыўшы Дзяніса п'яным, увайшоў да яго, паляпаў па плячы і сказаў:

— Эх ты, пакінуў бы ты піць!

— А табе што? — абазваўся пануры Дзяніс.

— Мне нічога. Што мне. Я не п'ю.

— Ну і маладзец! — сярдзіта сказаў Дзяніс.

Каб заспакоіць яго і выказаць яму нейкую шчырасць, якая раптам з'явілася, Зынга сказаў:

— Я табе, калі хочаш, прыбаўлю рубель за кватэру.

— І добра зробіш,— адказаў Дзяніс Пляцінскі, крыва ўсміхнуўшыся ад недавер'я.

13 Зак. 979

— Папраўдзе, рубель накіну.

— Ты гэта не жартуеш?

— Не.

— Эх, брат ты мой! — разгаварыўся Пляцінскі, напоўніўшыся раптам нейкай, мала калі вядомай яму, шчырасцю.— Жывом мы, брат, з табою разам. Праўда ці не?

— Праўда...

— Жывом мы з табою, значыцца, разам; даўно мы жывом разам. Я аб гэтым часта сяджу і думаю. Яй-богу, братка, думаю... Ведаеш што, хадзем — я пастаўлю паўбутэлькі...

З вялікай цяжкасцю перамагаючы спакусу, Зынга адмовіўся.

— Ага-га, ты не хочаш,— сказаў тады Дзяніс Пляцінскі,— не хочаш, значыць, са мною выпіць... Так-так, не хочаш, значыць, ага, я ведаю... Ідзі сабе...

Зынга пайшоў.

— Ідзі к чорту! — крыкнуў яму ўслед Пляцінскі.

І зразу пайшоў і яшчэ больш напіўся адзін.

Было гэта ў нядзелю, ясным і цёплым днём. Зынга выйшаў на двор, сеў на сонца, на вялікі камень, што ляжаў каля парога замест ганка, і слухаў, як з падсохшай вуліцы беглі крыкі дзяцей... Напроці яго, за гнілым нізенькім платцом, каля суседняй сцяны, залаціліся на сонцы пажаўцеўшыя вішні, нейкія птушкі падскаквалі на гэтых тоненькіх галінах, далятала і сюды з блізкіх палёў белае павуцінне. Скрозь вострым пах дыму чутно было, як пахне зямля — вільготная ад восені, абвеяная ветрамі і зацалованая сонцам. І тут, на гэтым цесным двары, адчувалася неабдымнасць яе прастораў, яе воля і размах.

Плылі аднекуль здалёк песні, з горада чутна была музыка. Гэтыя шырокія зыкі бурна слаліся над зямлёю і будзілі нейкія слаба вызначаныя думкамі імкненні, як бы кволыя ўспаміны прайшоўшага ці адчуванне надыходзячага.

Раптам шырокі крык заглушыў усё. І магутны стук нейкі пачаў шырыцца над зямлёй. Ён рос і расказваў усяму аб нейкай вялікай сіле, цвёрдай і непераможнай, з важнай і патрэбнай для свайго панавання дадатнасцю — непазбаўленнем характва... І, як водгулле, блізка абазваліся свісткі. І гэта на яснай, ціхай зямлі.

Захар Зынга быў ахвачан вострым настроем. Нешта

цягнула яго ісці некуды, нешта рабіць ці глядзець на што. І ён пайшоў туды, за горад. А там поезд падыходзіў да горада.

Грымела жалеза магутнымі гімнамі, і далячынь, і бясконцасць была ў жоўтай дарозе.

З лёгкасцю нейкаю ён стаяў на адным месцы, хацелася яму самому тут дзейнічаць, чым найвялікш выявіць сябе перад усімі ці разам з усімі...

Насустрач яму па дарозе бегла Рыта, вясёлая і прыгожая, з глыбокімі адзнакамі на твары частых думак, але з маладою гуллівасцю ў постаці.

— Ты адкуль? — запытаў ён.

— Гуляць хадзіла.

— Адна?

— Тата,— сказала яна,— хадзем, я табе скажу.

Яму здалося, што яна нешта нядобрае яму скажа, і спахмурнеў трохі, устрывожыўся нейк, а пасля раптам аформілася выразна ў яго думка, што добра ж вельмі, што піць ён пакінуў.

— Гавары, ну...

— Я паеду адсюль. У суседні горад мяне на работу пасылаюць...

І ёй уявілася раптам, што ўсё ж вельмі добра. Ён, зломаны, скалечаны душой з самых маладых год сваіх, пакінуў піць, ходзіць цяпер на работу, па-бацькаўску ўсміхаецца ёй часта, ласкава і шчыра. Ён тут пабудзе трохі, а пасля яна возьме яго да сябе туды і будзе даглядаць яго з замілаваннем, як бы ў нагароду за ўсё раней перажытае.

— Цераз тыдняў два я прыеду зноў сюды і забяру тады цябе з сабою.

І яму ўсё гэта гаварыла аб нечым радасным, новым і вельмі важным.

Весела прыйшлі яны разам дадому, пілі чай і назвалі Дзяніса Пляцінскага. Той вечарам збіраўся выязджаць з бочкаю на работу, цяпер жа нікуды не спяшаў і панура слухаў, як яму з захапленнем аб дачцэ сваёй Рыце расказваў падсусед яго, Захар Зынга.

— Зайграй што,— папрасіў Пляцінскі.

— Няма гармоні,— з чуць адчуваемай трывогай суму адказаў Зынга.

— А дзе ты яе дзеў?

— Яна мне больш непатрэбна.

— Колькі ты ўзяў за яе?
— Танна,— адказаў Зынга, трохі саромеючыся перад Рытай за сваю хлусню.
— Колькі?
Зынга мяшаў чай.
— Каму прадаў? — дапытваўся Пляцінскі. У яго раптам з'явілася жаданне гаварыць.
— Так адзін... вясковы хлапец...
Пляцінскі пасядзеў яшчэ трохі, пасля выйшаў і кіўком галавы пазваў за сабою Зынгу. Той выйшаў у сенцы.
— Не пускай нікуды Рыту,— загаварыў Пляцінскі,— не пускай ты яе нікуды. Няхай жыве тут.
— Чаму?
— Таму, што яна ў цябе тут на вачох будзе. Яна, скажам, не дзіця, але ж... Гэта яна не замуж ідзе... Ты ж бацька ёй...
Гаворачы так, Пляцінскі мала думаў аб гэтым. Ім кіравала другое. Слаба адчуў ён, што нечага пачне не хапаць у яго доме, як паедзе Рыта. Ён і сам ніколі не мог падумаць, як ні то шкода яму было Рыты, ні то нейкае бацькоўскае замілаванне, непрыкметнае для самога сябе, насіў ён у сабе для яе. Было гэта ў яго пачуццях, у свядомасці не магло ў яго, не прывыкшага думаць, быць тае веды, што калі чалавек не глядзіць на ўсё звысоку ці філасафічна, то трудна яму быць адзінокім.
— Які з мяне бацька, братка ты мой! — загаварыў Зынга.— Ці мала яна цераз мяне перапакутавала? Яна цяпер на вольную дарогу выйшла, час цяпер такі, шырокі, то яна і мяне з ямы выцягне... Ого, мая Рыта! — закончыў ён з радаснай гордасцю.
Вечарэла. Светлы лажыўся змрок.
Дзяніс Пляцінскі хутка выехаў з двара, а Зынга доўга сядзеў на камені каля дзвярэй і гаварыў з Рытаю...
Назаўтра ж ён, каб як-небудзь услужыць ёй, сам пайшоў на станцыю купіць ёй білет на чыгунку. Правёў яе, выяўляючы клопат у розных дробязях, усадзіў яе ў вагоне і доўга глядзеў услед поезду.
І сумна і радасна было яму аднаму ў тую ноч.

## V

Зусім жоўтымі сталі вішні і пачалі скідаць з сябе лісты. Ранішнімі першымі замаразкамі мерзлі перад вокнамі спелыя бэры... Сонечныя былі дні.

Раз, прыйшоўшы з работы, пад вечар, Зынга памагаў Пляцінскаму абіраць гэтыя бэры. Наабіралі яны іх некалькі кашоў, рэштку страслі; пасля сядзелі на камені каля дзвярэй.

Маўкліваму ад прыроды Пляцінскаму добра было маўчаць. Зынга ж з тых часоў, як пакінуў піць, таксама часамі любіў памаўчаць. Так і сядзелі яны моўчкі абодва. Пляцінскі вылічваў у галаве сваёй, колькі яму заплаціць управа чыгункі за ачыстку ўборнай на таварнай станцыі, у Зынгі ж думкі былі розныя дробныя.

Блізка быў вечар.

— Зынга Захар тут жыве? — пачуўся з вуліцы голас.

— А чаго?

— Пісьмо.

Гэта было незнаёма Зынгу. Цягаючыся па свеце, многа чаго бачачы і перажываючы, быў ён неяк усё ж далёка душой сваёй ад людзей. І гэта было першае пісьмо, за жыццё атрыманае ім.

Як малое дзіця, падбег ён да варот, выхваціў з рук чалавека пісьмо, доўга варочаў яго ў руках, далікатна, паволі, як бы баючыся чаго, пачаў разрываць яго. Ад непрывычкі чытаць ён доўга ўглядаўся ў ліст паперы, спісаны вялікімі літарамі, пакуль упэўніўся, што Рыта вядзе вялікую і цікавую работу, што яна хутка прыедзе і забярэ яго з сабою.

Пісьмо было поўна ласкавых слоў, і гэта таксама было новым для Зынгі, размякчыла яго, зрабіла падобным да дзіцяці...

Вакол быў пах зямлі, дыму і груш.

Гэтыя грушы, рассыпаныя па жоўтым лісці, ляжалі ў яго каля ног, і пахам і выглядам навявалі на чалавека нейкую светласць. Яны нагадвалі яму цяпер нешта мінулае, варушылі ўспаміны аб ім.

Можа і не было звязана з імі вострых вельмі перажыванняў, але светласць гэта адчувалася. Была яна і ў зямлі, якой многа было пройдзена, была яна ў такіх самых асенніх днях, ясных і ціхіх, калі і працавалася і гулялася і многа было перапакутавана. Многа раз білі яго; многа раз ён біў; такім жа светла-здаровым асеннім днём пахаваў ён жонку сваю... І ўсё гэта, як нешта далёкае і па часу і блізкае, уявілася без асабістых выразных здарэнняў, а так, усё доўгае, вострае і важнае, бо яно ж гэта запаўняла жыццё, бо апрача ж яго ні-

чога больш не было, хоць і было яно часта нядобрым і пакутным...

Вастрата гэта ахвапіла Захара Зынгу.

— Эх ты, брат ты мой,— сказаў ён, коса глянуўшы на Дзяніса Пляцінскага.

Той маўчаў, нешта думаў і ўпарта чухаў бараду.

І раптам з'явілася ў Захара Зынгі патрэба стаць блізкім гэтаму панураму чалавеку, выявіць перад ім якую-небудзь шчырасць. Ён павярнуўся да яго і пачаў глядзець на яго. А той скончыў свае вылічэнні і, мусіць, выгадна для сябе, бо пляснуў рукамі, што мала калі з ім бывала, пакалупаў задумёна ў носе і сказаў:

— Конь мой белы закульгавеў, то няма як ехаць мне сягоння. Дык ты, братка, пастаў мне кватэрку, калі маеш грошы, бо ў мяне сягоння няма. Я табе аддам...

— Хадзем,— рашуча сказаў Зынга, матнуўшы набок галавою і рукою.

— Удвух?

— Удвух.

— Праўда?

— А я што, не магу ісці з табою?.. Я ж табе казаў, набаўлю табе рубель за кватэру, бо не такі я чалавек... Сягоння мне выдалі за работу грошы, і я не скнара якая-небудзь!

Яны пайшлі, і Зынга ўсё гаварыў. Дайшоўшы да піўной, ён раптам прыпыніўся ў задуменні; былі ў яго думкі даць Пляцінскаму грошай на гарэлку, а самому вярнуцца дадому, пакуль яшчэ не позна, але пачуў у піўной знаёмыя галасы і адчуў вялікі смутак, што няма ў яго гармоні.

— Ну, ты што? — тузануў яго за рукаў Пляцінскі.

— Хадзем, братка! — адказаў Зынга і палез на ганак.

Там яны сядзелі з Пляцінскім за поўнач, дадому ішлі абняўшыся, пакуль дайшлі, некалькі раз лаяліся, многа раз цалаваліся і нарэшце заснулі на адной пасцелі ў Пляцінскага.

Назаўтра быў хмурны дзень, церусілася імгла, плылі па небу сіне-чорныя хмары, і голыя вішні перад вокнамі гойдаліся і расказвалі аб хмурнай глыбакадумнасці.

Зынга не пайшоў на работу. Дзяніс Пляцінскі паехаў з бочкаю ў горад, а ён у нерашучасці, у нервовасці і ў смешным спяшанні хадзіў па хаце і цёр рукі. Пасля, як прыпомніўшы нешта важнае, патрэбнае і на-

ват неабходнае, хутка адзеўся, абмацаў у кішэні грошы, пайшоў у горад і купіў там гармоню. Да самага вечара ён цацкаўся з ёю — разглядаў, пробаваў галасы, праў акорды, а як надышоў вечар і з'явіўся Пляцінскі — яны ўдвух пайшлі ў піўную.

Там яны і прасядзелі да двух гадзін ночы.

## VI

Адзін раз вечарам Захар Зынга сядзеў у піўной і вяла браў на гармоні мінорныя акорды. Вакол яго гулі падпіўшыя людзі.

Зверху, з клуба, чуваць было бурную музыку раяля, а з вуліц чуўся яшчэ не сціхшы на ноч шум горада.

Зынга чакаў «кліентаў».

— Іграй! — грукнуў грубы і сіплы голас.

Зынга павярнуў у той бок галаву. Там сядзеў даўнейшы гандляр быдлам, барадаты і тоўсты Пруткевіч.

— Што іграць?

— Што хочаш... Весялі...

— Мажор браць?

— Мажор, шміжор — мне ўсё роўна... В-валі!..

Зынга грануў фельд'егерскі марш.

— Пачакай,— перапыніў яго вялы голас нейкага сінятварага, зморшчанага чалавека,— зайграй мне разлуку.

Перамяніўшы тон, Зынга зайграў вальс.

— Разлуку грай! — падняўся чалавечак.

— Ты хочаш з галавою разлучыцца ці не? — заявіў Пруткевіч.— Глядзі, а то шыю звярну.

— Каму, мне шыю звернеш?

— А ты хто такі?!

— Я хто?! Я праўшчык фартэпіянаў! От хто я! А ты хто?!

Знаёмства гэтых людзей адбылося так, што Пруткевіч падняўся, намерыўшыся даць праўшчыку фартэпіянаў па шыі, але тады раптам пасярод піўной вырасла постаць жанчыны. Зынга раптам прыпомніў, што яна дагэтуль сядзела моўчкі, з нейкім маладым, як бы вайсковым, і піла піва.

Нізкая і намазаная парфумай, у чорным памятым шырокім паліто з густымі фалдамі, яна адапхнула да сцяны Пруткевіча і папрасіла Зынгу:

— Падыграйце.
Зынга, гатовы, глянуў на яе.
Жанчына заспявала:

Ой, у полі ды на волі цераз межы-ы-ы...
Ды дарога разляглася.

Голас у яе быў сіплы, і нечым нядобрым спачатку павеяла ад гэтай яе песні. Пасля, як Зынга пачаў ціха, каб не заглушыць яе, падыгрываць, яна неяк павесялела, і голас яе стаў сакаўным нейкім і больш прыемным.

Пазарастала травою,
Каб прайсці я не магла там...

Яна затупала нагамі, і тады праўшчык фартэпіянаў памог ёй прыпеўку:

Ой, гоп!..
Ой, я зелле растрасу,
Ногі лёгка пранясу!..

— Іграй, братка,— прасіў нехта Зынгу,— на, выпі і іграй.
Зынга выпіў. Жанчына, не скончыўшы, сціхла.
— Іграй польку!
— Польку-смех?
— Якую хочаш.
— Якую ты хочаш? Мне ўсё роўна...
— Дай яму выпіць.
— На, выпі ды іграй.
Зынга зайграў «польку-смех».
— Зайграй от што... Падыграй.
Гэта прасіў праўшчык фартэпіянаў.
Абцёршы вусы, ён яшчэ выпіў, паднёс шклянку Зынгу і яшчэ выпіў сам. Зынга нарыхтаваўся.
— Слухай!..
Зынга расцягнуў гармоню, а той заспяваў:

Р-р-размалюю прычындалы,
Р-р-разнясу усе прыстр-ройкі...

— Ты што за злыбеду спяваеш, эй ты!..— гукнуў Пруткевіч.
— Зынга, не падыгрывай яму!
А той змоўк, плюнуў, абцёр вусы і залепятаў смешным голасам і п'яным матывам тое самае.

Пруткевіч сарваўся з месца, схваціў яго за плечы, падняў вышэй стала, грукнуў яго нагамі па падлозе і, патрасаючы ім у такт, страшнаю актаваю зароў:

Дзед б-боб-б малаціў,
Б-баб-а падсявала...

Зынга, радасны, з усіх сіл рэзнуў на гармоні гэты матыў, а Пруткевіч, адкінуўшы ў бок праўшчыка фартэпіянаў, пайшоў трапака.

Тады з'явіўся буфетчык і яшчэ двое з ім і пачалі разганяць вяселле.

— Сталоўку зачыняць цераз цябе! — крычаў буфетчык Зынгу.

— Сталоўку?! — грозна запытаў Зынга.

— Сталоўку!

— Пайшоў ты к... са сваёй сталоўкай.

Буфетчык схваціў яго за каўнер і выпхнуў на вуліцу.

Падыгрываючы нейкі матыў, Зынга прайшоў паволі дзве суседнія вуліцы, пакуль яго не разабраў хмель. Тады вярнуўся і, лаючыся і іграючы, пайшоў дадому.

Дзяніса Пляцінскага не было дома, і сені былі замкнёны.

Зынга пастаяў каля дзвярэй і дагадаўся, што трэба выняць акно, але ногі ўжо не трымалі яго, і галаву вадзіла ў бакі. І ён там жа аб'ехаў на зямлю, дзе стаяў. Абняўшы гармоню, ён так і задрамаў, трасучыся ад холаду.

Перад самым днём прыехаў Дзяніс Пляцінскі.

— Хто гэта? — запытаў ён моцна.

Зынга маўчаў.

— Хто тут? — мацней гукнуў Дзяніс.

Чалавек падняў галаву.

— Захар?

— Змерз я,— адказаў Захар, ляскаючы зубамі.

— Ідзі ў хату.

— Адамкні дзверы.

Ніяк не мог сагрэцца Зынга. Тросся ён доўга, пачаў стагнаць, а пад вечар у яго з'явілася гарачка. Ноччу ён упаў у бяспамяцтва.

На другі дзень Пляцінскаму было многа клопату — хадзіў ён па доктара і завозіў Зынгу ў больніцу...

Не веданыя ім раней пачуцці апаноўвалі яго...

## VII

Пахла зямля, і вецер адносіў вугольны пыл у поле... Ціхая была трава, пажаўцеўшая і прыпаўшая да зямлі. Ясна было...

У той дзень і памёр у больніцы Захар Зынга.

Дзяніс Пляцінскі запрог свае коні ў старыя драбіны і моўчкі адзін павёз яго хаваць. Ён сядзеў, згорбіўшыся, на белай, новай, пахучай смалою, труне, паволі, як бы з нейкай упэўненасцю, сцёбаў пугаю коні, а як яны прабавалі бегчы — стрымліваў іх...

Вечарам ён доўга сядзеў адзін, цёр пальцамі твар і сярод ночы раптам падняўся і, сам з сабою разважаючы, пайшоў даў тэлеграму Рыце.

Рыта прыехала цераз дзень раніцаю. Таксама ясна было.

Яна з Дзянісам Пляцінскім мала гаварыла, хадзіла на магілкі і, як прыйшла назад, раптам сабралася ехаць.

— Паедзеш? — сказаў Пляцінскі.

— Паеду.

— Саўсім?

— Не ведаю.

І яна пайшла на станцыю.

Ён дагнаў яе за варотамі, схваціў за руку і, трасучы яе сваімі каравымі цвёрдымі пальцамі, усё гаварыў, глытаючы словы:

— Дачушка... родная... Рытачка... родная...

Яна абняла яго галаву і пацалавала ў зморшчаны лоб.

Ён больш яшчэ сагнуўся і пайшоў паволі назад. Цераз хвіліну ён запрагаў коні ехаць на работу.

А яна ішла да станцыі бакавою пуцінаю чыгункі. Лёг ужо чорны вечар і, прытаіўшыся, маўчала зямля. Толькі горад повен быў зыкаў. Яны беглі над зямлёй, шырокія, неабдымныя, магутныя сілай стварыўшага іх чалавека. Яны маглі зрушыць свет сваёй магутнасцю — так гэта ўздымалі яны істоту чалавека...

Бясконцасцю, у агнях, ішоў факельны ход... Не было канца ні зыкам, ні людзям, ні пачуццям. І на мяжы іх думак вырасла ў Рыты: «Усё чалавецтва ў гэтым ходзе...»

Поезд крычаў і стукаў, збіраўся адыходзіць, а Рыта стаяла, ахопленая жаданнем пайсці туды і з усімі ўсё ісці ды ісці...

# МАЛЕНЬКАЯ ДРАМА

Няма ні агнёў, ні яскравых колераў, ні гулкіх зыкаў. Дрэмле ноч, і моўчкі ўзняла на даляглядзе сінюю сцяну хмар. Ці можа гэта растуць там дзівосныя формы лясоў, якія трэба прайсці ці праехаць?

Колерам пачарнеўшага снегу зямля зусім злілася з ноччу і ўсё плыве і плыве насустрач гаварлівым вагонам.

Усё плыве ды плыве.

А на паравіку трое людзей.

Мулін, высокі і тоўсты, распаразаўся і скінуў кароткі кажух і стаіць з маўклівым выглядам пільнага гаспадара над усім тым, што з ім, перад ім і за ім. Ён усё паглядае ў змрочныя далі зямлі, а калі пераводзіць вочы на качагара Юляна — твар яго, шырокі і круглы, прымае раптам гумарыстычны выгляд, усе рысы на ім як бы дрыжаць ад нявыяўленага смеху, і белыя ад прыроды, але чорныя ад прафесіі вусы рассоўваюцца ў бакі, каб даць магчымасць выплыць з-за губ і белых зубоў хітра-бацькаўскай ухмылцы.

У яго тоўстая, сухая шыя, рэдкія валасы на галаве і раздвоеная, нядаўна брытая барада. Постаць грузная, моцная. Многа ў ёй нечага як бы вялікага, да чаго трудна дасягаць таму, хто не прывык думкамі ці адчуваннямі разбірацца ў навакольным.

Голас у яго і шырокі і востры, як тысяча іголак, і, як глядзіць ён ды пытае аб чым, відна ў гэтым не проста малазначная і пустая цікавасць, а нешта большае: вось магу і не пытаць, можаш і не гаварыць, гэта нікому не пашкодзіць, так як і мы яму з табою не пашкодзім і не паможам, але каму ж ты раскажаш так, каб адпачыць душой, расказваючы?

— Ну дык як гэта было? — коле ён бясхітрасна-вясёлым агнём вачэй Юляна.— Расказвай. Кажаш, пасадзіў

ён табе пісагу на ўсё рыла?! Умяшаўся, кажаш, у справу, хэ-хэ!

Юлян стаіць перад ім, да мізэрнасці рухавы і гаварлівы. Пераліваецца яго твар жывымі ўсмешкамі, як гэта ноччу вада месячным светам. І выгляд у яго такі, як бы гэта ён усім сваім — і нізкаю постаццю, і круглым носам на белым твары, нават таею лапатаю, якую трымае ў руцэ,— хоча сказаць: «Вось бачыце, якія. Вам усё здаецца так, а мне вось як, а то і ніяк не здаецца. От нават і свой казённы кажушок зашпіліў я ніжнімі гузікамі за верхнюю дзірку, хто з вас калі гэтак зашпільвае?!»

Да яго нейк не прыстае вугольная сажа... Рыжыя вусы выраслі так, што правы вус сядзіць вышэй левага; і хоць яны амаль да самых губ выстрыжаны, але і здалёк даюць твару яго выраз некага вечнага гумору, нават лёгкай сатыры, і такога ж гумарыстычнага, бесклапотнага непарадку ў пачуццях і думках.

Уздоўж носа па твары праходзіць у яго другая пісага, чырвоная і тоўстая, ад чаго правая палавіна твару выглядае весялей за левую.

Ён весела глядзіць на Муліна і водзіць пальцам па гэтай весялейшай палавіне твару.

— Хэ-хэ! Смех, браткі! — пробуе рагатаць ён, мнагазначна крывячы вочы ўлева, дзе задумёна стаіць памочнік Муліна, Аляксей Губар.

— Значыцца, зноў недзе Варшаву браў,— не ўнімаецца Мулін,— гавары, як і дзе гэта было.

Юлян зноў кідае адным вокам на Губара, які, у сваю чаргу, не спускае глыбокага зірку з гэтага порсткага чалавека. У гэтым зірку маўклівая насмешка над тым, што рыхтуецца расказаць Юлян.

Мулін прыціхае, мацней прыпіраецца плячом да халоднага жалеза і пачынае слухаць; слухаць і бачыць нават тое, чым Юлян рыхтуецца да гаворкі. Ён бачыць, што гаворка будзе вясёлая, будзе яна перамешана з цікавымі да слёзнага смеху рухамі і твару, і вачэй...

Юлян ад вясёлага задавальнення дробна махае галавою і адчувае ўсю ўрачыстасць надышоўшай хвіліны: вось будзе ён расказваць пра значнае здарэнне, апрача самога сябе, цікавае яшчэ і тым, што кожны дзень можа зноў быць, толькі ў розных формах, але як адна суцэльнасць — ніколі не будзе залежвацца ў яго душы і загэтым ніколі не надакучыць. Гэта таксама, як гэты паравік, на якім

усё жыццё ездзіш па зямлі: бяжыць ён, і ніколі ты з яго аднаго і таго ж не ўбачыш два разы, раз убачыў — прапала, цераз момант яно адбяжыць назад і растане недзе ў прасторах свету і тут забудзецца. І няхай сабе так — наперадзе будзе нешта іншае, якое — хто яго ведае. Ды гэта і няважна: што-небудзь ды будзе, так не абыдзецца. Ці мала чаго на свеце ёсць!

Так прапускае Юлян праз свае адчуванні свет.

Несвядома гэта адчуўшы, ён ухмыляецца і пачынае рашуча чухаць шыю. Губар вастрэй зазірае яму ў твар і думае:

«Вось нешта будзе гаварыць чалавек і раскажа, пэўна, нешта дробнае, нязначнае, непатрэбнае і цікавае можа толькі тым, што выяўляе тупасць і дурнату чалавека. Бо гэта толькі здарэнне і не ахопіць сабою ўсяго таго, што існуе... Будзе гаварыць ды смяяцца сам над сабою».

— Значыцца, так,— гаворыць Юлян і моргае вокам у прастору, але тым абодвум ясна, што моргае гэта ён на сваю пісагу каля носа.

— А дзе гэта было? — весела пытае Мулін.

— Дзе было? А хал-лера яго ведае, дзе яно было. На станцыі было, а на якой — многа іх праехалі.

— А хто гэта так пачаставаў цябе?

— Народу было многа.

Юлян заходзіцца дробным рогатам, і з абсалютнай сталасцю глядзіць на яго Губар. У Муліна ад бацькоўскай ухмылкі паднімаецца ўгару губа.

— Выходжу гэта я, браткі, з паравіка, бачу — народ стаіць. Пасажыраў не можа быць, думаю, глуш, адкуль яны. Я тут жа на месцы запускаю ў народ вока — бачу: глядзяць, смяюцца, рукамі махаюць і так стаяць. «Што вы тут робіце?» — пытаю. «А табе што!» — чую голас. Гляджу я — стаіць ён, браткі мае, на тоненькіх ножках. Ножка — як рыла з бутэлькі... Дык я калі зарагачу...

— Чаго? — падаў раптам, нейк нечакана для ўсіх, голас Мулін.

— Чаго? А чорт яго ведае. От смешна стала. Пагледзеў я на яго ногі — бачу: дрыжаць нейк у каленях. Паглядзеў я на твар — а ён не відзён за вусамі. У адзін вус можна гарнец сажы ўсыпаць. І каб, усыпаўшы, патрос той вус, то наўрад ці тая сажа адтуль выцерусілася б. Такія, браткі, вусы нейкія пераблытаныя, збітыя...

— Кампактная маса, значыцца,— з гуллівым сарказмам падмаргнуў Мулін.— Ну-ну, гавары.

— Ну, дык я, значыць, парагатаў трохі з таго твару, а твар дык дробны, як шрот, і бачу — яшчэ адзін падыходзіць, неяк вельмі ж падобны да яго. Капоціна нейкая абрынданая ляпае па халявах, а боты, праўда, новыя, як шкло. Тут я запытаў у таго, першага: «Чаму ў цябе ногі такія тонкія?» «А ты што!» — адказаў ён. Я, кажу, машыніст з таго вунь поезда, што стаў на трэцяй лініі. А мы, кажа, старажы на гэтай станцыі. «А чаго народ каля вас?» Тут, кажа, пасажыр, значыць, адзін пайшоў у буфет ды выпіў як мае быць, а поезд і пайшоў. Дык ён, бегучы, на гэтым самым месцы два разы засаб паваліўся ды калі закрычыць! Вось народ і сабраўся...

— Ды гавары ты хутчэй, хто табе храпу раскавеліў! — не ўцярпеў Мулін.

— Там жа гэта было, на гэтай самай станцыі. Той самы, што з тоненькімі ножкамі, з тым самым, што ў новых ботах, пачалі неўзабаве аглядаць платы ды адтуль і пачалі цягаць...

— Каго?

— Каго?! Пры мне, на маіх вачах двух завялі некуды. Каб працверазіліся. Там жа, вядома, людзі здарожаныя, дык ён калі вып'е, дык вельмі ж разбірае. А там нейкі як бы садок за будынкам пры паркане, дык там яны і складаюць капыты, каб галава, значыцца, прачысцілася.

— Аг-га!..

— Ага. Дык я, значыцца, думаю — пайду пагляджу на гэтую фацэцыю. Падышоў к плоту, зараз укідаю адно вока на той бок, аж ён, той, значыцца, самы, што з тонкімі ножкамі і кампатнымі вусамі...

— Кампактнымі,— паправіў Мулін, заліўшыся рогатам.

— ...Кампактнымі, значыць, вусамі, кладзе аднаго пад бярозай, а той лажыцца сабе ціхенька... На што ты, кажу, тут складаеш яго, ён жа тут змерзне, як жаба. А табе што, адказвае ён, тваё дзела — паравік; а тут я ведаю, што раблю... Я прыгледзеўся, аж і ён сам ледзьве на нагах стаіць. Дык я калі зарагачу, а ён да мяне — чаго, кажа, залягаешся, ды калі дзерпане мне па гэтай, значыць...

— ...Па храпе,— памагае Мулін, прысядаючы ад рогату.

— ...Ды, дзерпануўшы мяне, спалохаўся, ды калі дра-

пане ўцякаць... А пазуры, як у савы, каб яны яму павылазілі... А той, што ляжаў пад бярозаю, падняў галаву ды давай мармытаць мне — не тваё тут, кажа, дзела, без цябе тут усё зробяць, ідзі сабе ды глядзі, да чаго прыстаўлены... Гаворыць, а сліна з губ, як з ручаіны, плюхае па барадзе, да самае грудзіны ланцугамі расцяглася...

— Ну-ну-у-у?!

— Яй-права...

Мулін трасе жыватом ад рогату, прыкленчвае і хапаецца рукамі за калені. Юлян ляпае рукамі і дрыжыць увесь, Губар насмешна пазірае на іх абодвух і маўчыць. Рогат заглушваецца стукам калёс машыны і звонам жалеза, і гэты хаатычны шум пакрываецца рытмічным і роўным лёскатам вагонаў ад шыбкага ходу... Бягуць насустрач змрочныя далі зямлі, здаецца, і яны аддаюць нейкім тонкім гулам...

Губар стала прыпіраецца плячыма да халоднага жалеза і хмурыцца, гледзячы на рагатуноў. Пасля хмурна і моцна плюе сабе пад ногі.

— Чаго плюеш? — пытае Юлян.

Губар плюе яшчэ раз і адварочваецца.

— Чаго ты! — падыходзіць Юлян і зноў рагоча і цярэбіць Губара за гузікі.

— Над кім ты рагочаш?! — пытае Губар.

— А табе не падабаецца?

— Не!

— Дурны ты... А мне ўсё падабаецца, бо з усяго пасмяяцца можна. Ты нават вазьмі ды цяпер нада мною пасмейся, я табе слова не скажу.

— З дурняў не смешна, іх шкадаваць трэба.

— Ну?!

— Ты думаеш, калі рагочаш з таго п'янага, што там пад бярозай ляжаў, дык вельмі герой вялікі — ты гэта сам над сабою рагочаш, ты ж гэта сам сябе асмяяў. Ты ж не ведаеш таго чалавека, ён можа з вялікага гора выпіў, а пасля аддаўся цвярозаму — рабі, значыцца, са мною, што хочаш, я буду маўчаць, і нават пакарай мяне... А ты паднімаеш рогат...

— Ну-у-у, ты заехаў, чорт цябе ведае, куды, дзяцінееш ты пад старасць... Праўда, Мулін, ці не?!

Мулін корпаецца ў нейкіх жалезных, звінячых прэнтах, але ўвага яго ўся тут. Рогат яго прайшоў, і ён з вялікаю асалодаю нарыхтаваўся слухаць новае. Яму весела

глядзець на гэтых двух людзей. І на твары яго засталося чаканне — што далей будуць яны рабіць?

Пад'язджалі да глухое станцыі. Спатыкала яна поезд некалькімі каламутна-чырванаватымі ліхтарамі. Некалькі чалавек клапаціліся з крыкам у змроку. Поезд тут трохі стаяць павінен быў.

— Я ведаю, чаму ты такі,— усміхнуўся Юлян у твар Губару.

— Ну?!

— Бо гэта ад цябе як уцякла Марфа да тэхніка Камароўскага, дык ты і пачаў паказваць з сябе такога, над якім смяяцца няможна, а я з цябе пасмяяўся б, і каму хочаш гэта скажу...

Прыпыняючы машыну, Мулін застыў у радасным захапленні. Ён даў моцны свісток і весела разгладзіў вусы, не спускаючы вачэй з двух чалавек...

Не скончыўшы гаворкі, Юлян пайшоў на станцыю ў буфет, яны ж удвух адарваліся ад поезда, перагналі машыну на другую лінію, некалькі разоў выязджалі адны далёка ў палявы змрок ночы, пасля адцягнулі назад і загналі далёка на пятую лінію вагон з каровамі. Пасля з поездам яшчэ трохі стаялі...

Юлян прыйшоў пасля першага званка. Ён уставіўся ў твар Губару і стаў канчаць перарваную гаворку:

— Я з цябе заўсёды пасмяюся... На тваім месцы я доўга не раздумваў бы і ніякіх камедый не паказваў бы, а злавіў бы дзе-небудзь вечарам гэтую самую Марфу, ды прыпёр бы дзе-небудзь у цёмным кутку, ды аддубасіў бы гадаўку...

— Не смей так гаварыць пра Марфу!

— Яй-права, я як чамярахнуў бы дзе-небудзь ды ўсыпаў бы, каб памятала, сукіна дачка...

— Гавару, пакінь!..

— Я яе ашчарэпіў бы дзе ды хоць пацешыўся б...

І Юлян заліўся рогатам. Весела пераяжываючы гэтую спрэчку, паціраючы рукамі ад асалоды наглядання, глядзеў на іх Мулін.

Губар сарваўся раптам з свайго месца і пхнуў Юляна ў грудзі. Той перакруціўся нейк бокам на хаду, хацеў затрымацца за жалеза, але рука пакаўзнулася, і ён з'ехаў з машыны ўніз, стукнуўшыся губамі аб рэйку. Ад нечаканасці ён з момант ляжаў на адным месцы, пасля вінавата нейк усхваціўся, выплюнуў на снег кроў і пайшоў на стан-

цыю мыцца... Затаіўшы на твары лёгкі смех, Мулін начаў выціраць кудзеляю запэцканыя ў аліфу рукі...

Так адбылася маленькая драма між двума людзьмі, ноччу на глухой станцыі.

Юлян прыбег пасля свістка. Паплёўваючы сабе пад ногі, ён выціраў рукавом прыпухшыя губы і барматаў:

— ...Каб ты згарэў, каб ты! Трэба поезд у ход пускаць, а ён пхаецца... Ах, каб цябе агонь спаліў, каб цябе, гэтакага чалавека...

Мулін весела і хітра яму падмаргнуў.

Хутка поезд пайшоў у цёмную шырыню палёў, і на станцыі стала пуста і ціха.

Як развіднела, прагналі тут у горад чараду пахудзеўшых за дарогу кароў, адчэпленых з вагонам ноччу ад поезда. Яны ўтапілі ў снег некалькі капель крыві, якую Юлян выплюнуў. Так што ад таго, што было тут ноччу, не засталося ніякага следу.

## ПРАБУЮЦЬ ГРУШЫ ШУМЕЦЬ

Драмаць хочацца хмурнаму дню. Мокрыя, пазвісалі ўніз галіны груш і пахнуць веснавымі пупішкамі і сінімі-сінімі першымі кветкамі; на чорнай зямлі пад імі прабуе цвісці нейкае зелле... Быў дождж, і расходзяцца хмары. З вуліцы хаатычна і смешна коцяцца галасы дзяцей, танклява носяцца яны над цэлымі кварталамі, і ў іх — клопат і здавальненне нейкай вырашанай і знойдзенай патрэбаю...

Часамі ясней робіцца, часамі дзень зноў ссоўвае бровы — тады падобен ён да старога растрэпанага вераб'я. І здаецца, што задумаўся тады дзень над нечым такім, над чым і плакаць брыдка, і смяяцца грэх...

На двары лужы, леташняе чорнае лісце, пераблытаныя сляды дзіцячых босых ног. За нізкім парканам на вуліцы грымяць па бруку фурманкі, часамі стукаюць грузавыя аўтамабілі — і чалавечыя галасы гінуць у гэтым груку і стуку...

Ясней робіцца неба...

Стукае суседняе акно, адчыняецца, і мне з майго акна відно — абсыпае пудраю твар жанчына, кучаравіць валасы каля вушэй і хітранька акідае вачыма двор...

Наўскасы ад яе і майго акна адчыняецца акно ў дзеравянай прыбудоўцы да чырвонага цаглянага вялікага дома; у акне відна кудлатая, чорная постаць студэнта; ён узлазіць на акно бокам нейк, перакручваецца на ім цяжка, бо акно малое, а ён вялікі, і гучна скача ўніз. У летніх сандалях яму трудна ісці па мокрай зямлі, і ён выбірае, дзе сушэй, і ідзе ў задуменні.

Жанчына хаваецца ў глыбіню пакоя і пачынае спяваць хрыплым і да піску тонкім голасам. У гэтай песні нейкая хітрасць трохі чутна, прытаілася ў ёй і просецькае жаданне, і раптам тая хітрасць становіцца шырокай:

цягне яна доўга і нудна прыпеўку.

Студэнт спакойна прайшоў, прывітаўся са мной двума пальцамі за казырок і моцна стукнуў каліткаю...

«Чаго ты хітруеш і перада мной, і перад ёю?» — варушацца ў мяне думкі і захапляюць мяне таксама і ў такім кірунку, як захапляе следавацеля судовая справа і цікавыя віноўнікі яе.

І раптам ва мне вырастае другое «я». Я скептычна ўхмыляюся над сабой і, залажыўшы рукі ў кішэні, спацырую ад стала да дзвярэй і моцна гавару сабе:

— Хто табе даў права быць следавацелем або выводзіць тут свае рэзюме? От, ідзі сабе, куды табе трэба.

І я пайшоў бы, але студэнт зноў моцна стукнуў каліткаю і ідзе назад. Ад стуку на галаву яго сыпанулася з грушы вада частым срэбрам капель, ад гэтага нейк весялей робіцца на двары. Уяўляецца, што грушы ўжо зялёныя, пад імі гудуць пчолы, а дзень пераваліў за поўдзень, і ціха, без трывог і хітрасцей, ідзе здалёк шырокі вечар...

Жанчына зноў спявае:

Ах вы, сінія,
Ах вы, белыя,
Ажуры мае пухавыя...

Яна да бясконцнасці можа цягнуць гэтую сваю песню, тут жа складаючы яе і тут жа забываючы праспяванае.

Гэтыя «ажуры» яе кожны дзень мяняюцца; учора яны былі зялёнымі, пазаўчора яснымі...

— А ну, ну, пакажы свае ажуры,— чуцен там жа недзе, за акном, грубы і вясёлы голас гаспадара дома, шаўца Максіма Шчэрбы,— пакажы ты мне іх праверыць, ці праўду ты пра іх кажаш... Не бойся, я стары...

Студэнт быў затрымаўся на двары — у яго, бачыце, якраз напроці акна, дзе спяваюць аб «ажурах», з'явілася патрэба дастаць з кішэні нейкія паперы і пільна, забыўшы ўсё на свеце, дзелавіта разгледзець іх, але, мусіць, голас Максіма Шчэрбы аказаўся мацнейшым за паперы, і ён, схаваўшы іх назад у кішэню, важна пайшоў дадому.

Жанчына высоўваецца з акна і глядзіць яму ўслед. Цяпер яе відаць усю да пояса. Густа наружаваны твар і падведзеныя чорным бровы робяць яе падобнай здалёк на ляльку, і гэта абуджвае думкі аб тым, як гэта нядобра ўсё зблізку: камякі парфумы, востры распусны пах... Каб

гэта палажыць яе пад мікраскоп... Цяпер яна не спявае — акно студэнта зачынена. І яна адыходзіць ад свайго акна, і толькі з глыбіні пакоя чуваць яе прарэзлівы, як бы вымучаны з жывата, рогат.

— От, ты ўсё хвалішся кожны дзень, хвалішся сваімі ажурамі, а я чалавек не галаслоўны,— жартуе Максім Шчэрба,— ты дай мне факт на рукі — што там за ажуры гэтакія ў цябе.

Жанчына рагоча, і, слухаючы гэты рогат, робіцца шкода нечага. Зноў нейкім нудным здаецца дзень, хоць і праясніваецца пачаў ён к вечару.

Вечарам будзе месяц і белая віднота, добра было б, каб было суха і трохі вецер шумеў,— гэта так мне думаецца, бо вечарам я спацырую па вуліцах...

Жанчына выходзіць на ганак, стаіць там трохі і пасля паволі ідзе па двары. Цяпер яна зусім выглядае дзяўчынкай — тонкая і порсткая, толькі твар — парфума ніяк не можа схаваць яго памятасці. Гэта яна выфранцілася на вечар — кожны дзень так, абы сцямнее, ідзе яна гуляць у горад. І я кожны вечар прывык бачыць з свайго акна, як тады выбягае ёй насустрач студэнт. Схаваныя змрокам, яны абнімаюцца і цалуюцца. І стаяць так, абняўшыся, хвілін дзесяць.

Я накіроўваю свае разважанні па трох лініях: што гэта ў яго, пачуцці ці імкненне маладое жывёлы? Чаму ён днём на двары пакідае сваю тэрміновую работу над разборам паперак і хаваецца за сцены, як толькі пачуе голас Максіма Шчэрбы? І чаго ж яна, калі так, ідзе кожны вечар гуляць у горад, пакінуўшы яго, чаму ён не ідзе за ёю?

«Ну, што ж,— думаецца тады мне,— пачуцці часта займаюцца ашуканствам над чалавекам, а імкненні маладой жывёлы — от табе ў гэтым выпадку і крыніцы ўсякіх пачуццяў... А яна ж ходзіць гуляць вечарамі на шырокія вуліцы, то нядобра, каб і ведалі, што ён мае да яе якоенебудзь дачыненне, хоць Максім Шчэрба і адпусціў ёй за чатыры рублі ў месяц куток за перагародкай з дошчак. А што яна вечарамі ходзіць, дык ці мала каму трэба хадзіць. Студэнт ходзіць на сваю практыку, я хаджу на сваю работу, Максім Шчэрба боты шые...»

Дзяўчына прыходзіць назад. Студэнта не відаць, і вокны яго зачынены. Яна доўгім зіркам акідае гэтыя вокны, аж прыпыняецца і сумна ідзе, паволі ўсходзіць на ганак

і хаваецца за дзвярыма, усё паглядаючы на студэнтавы вокны.

Мне робіцца крыўдна за нешта...

Паволі набліжаецца вечар. Неба ясным стала, і якраз нават вецер зашумеў. Зямля мокрая, пылу не будзе...

За парканамі свішчуць, грукаюць, крычаць. Недзе звоняць, недзе з грукатам нешта вязуць. Добра чутно, як ідуць, суха і шырока ступаюць нагамі і выкрыкваюць песню:

Чуб-барыкі-чубчыкі ламал-ла!..
Йэх!
Ламала-ламамал-ла-аа!..

Вуліца грыміць, смяецца і плача. Яна весяліць і навявае, грамоздзіць усякія думкі, развяваючы хатні настрой. Добра, што яна не спявае цяпер пра свае ажуры — нашто ёй спяваць цяпер: вокны ў студэнта зачынены, і яго нідзе не відаць. От прыйдзе зараз вечар.

«Нашто ты чакаеш вечара? — лаўлю я сам сябе,— што ты збіраеш для сябе чужую практыку жыцця?!»

Паразважаўшы так, я забываю пра вечар, і загэтым ён хутка прыходзіць.

Абняў ён мяккасцю зямлю, ціха-ціха закалыхае голыя яшчэ і абсохшыя грушы перад акном. Каб гэта восень — жаўталістыя галіны расказвалі б аб цішыні шырокай і гучнай зямлі, аб яе чарнаце і яснотах і аб бурных думках на ёй...

Постаць відна на двары.

Я гляджу з акна — яна ідзе сабе паволі, а ён там, як і заўсёды. І вось яны стаяць поплеч, зліўшыся ў адну цёмную постаць.

«Хоць адзін вечар, хоць сёння не ідзі ты на тую сваю вуліцу»,— хочацца крыкнуць мне.

А як пайшла яна, дык я пастараўся ці сябе, ці некага, ці нешта суцешыць: «Там гэта продаж, а тут шчырасць і чыстата. І можа тым не паганіцца гэтае»...

Каб на грушах былі лісця, як бы яны шумелі цяпер!..

Вечарам слаўна хадзіць па вуліцах.

* * *

На грушах павырастала лісце, малое і ўсё расце. Вечары купчастыя ад лісця, а дні стаяць сонечныя.

Вечарамі на двары пуста і днямі ціха. Зусім выехаў

студэнт, і дзяўчына больш не спявае «ажураў». Чакаючы вечара, вымазаўшыся парфумай, яна сумна аглядае двор, і пяты дзень чутно мне, як Максім Шчэрба, заганяючы малатком гвазды ў бот, жартаўліва гаворыць:

— Хоць бы ты ажуры заспявала; каторы ўжо дзень. Што з табою зрабілася? Закахалася, пэўна, недзе ў некага.

Яна пачынае смяяцца, а я думаю:

«Можна і пасмяяцца, каб не нудна было старому Максіму Шчэрбу. А то можа і не для яго, старога, патрэбна толькі смяяцца! А што, калі гэта толькі практыка?»

Яна вечарам выходзіць зразу на вуліцу, і мне тады хочацца ёй сказаць:

«Знайдзі ты сабе новую чыстату, хоць у думках насі яе, каб не быў адзін толькі продаж».

Дасканала раздумаўшы аб ёй, аб усім і аб сабе, я лаўлю сябе на думцы:

«Дарадчык знайшоўся!»

Яна пайшла, а грушы пробуюць шумець: малыя лісты на іх, каб зашумець ім моцна. Гэта будзе ўвосень, у самую лепшую пору...

Плыве вецер над вячэрнім горадам. Плыве і шуміць. Слаўны — бо шырокі. Цяпер лепш за ўсё хадзіць па вячэрніх вуліцах.

# ХВОІ ГАВОРАЦЬ

## I

Смех — часта дзындра сумных настрояў і сталых думак. Адгэтуль я праводжу раўналежнасці пры маіх разгадках усяго... Сяджу над канавай, гляджу на босыя, каравыя ногі дзядзькі Язэпа і думаю: увесь час ён маўчыць — значыцца, у яго многа важкага ў душы; у яго многа слоў.

Мне важна слухаць яго выказванні аб тым, чым у вострыя моманты жыцця повен ён, я яшчэ ўпэўнены ў тым, што і для яго гэта палёгка, і я думаю так: няхай ён гаворыць аб чым сабе хоча, а я буду з па-за гэтых слоў чуць тое, аб чым ён не гаворыць, аб чым толькі думае... А што яго нешта мучыць, гэта відаць па ім. Што ў яго?

Гэта не ёсць мая пустая цікаўнасць, гэта жаданне блізасці з гэтым чалавекам.

«Гавары ты, дзядзька, аб чым-небудзь» — хочацца сказаць мне.

А ён маўчыць. Звесіў босыя ногі з насыпанага над канавай вала, укрытага пажоўклай травой, і глядзіць уніз. Там, на дне гэтай неглыбокай і вузкай канавы, трава таксама жоўтая, але большая; відаць з яе конскую спарахнелую скіўіцу з некалькімі зубамі і з вялікаю чорнаю мухаю; збоку наточаны мурашкамі дробны, як пыл, жоўты пясок.

Я гавару першы:

— Мусіць, халады хутка пачнуцца — вельмі ж сівагракаў аднекуль паналятала. Сягоння па паўдні я ішоў з кустоў, дык там гэта, што Юрась заараў ялавіну, дык на той раллі што іх робіцца — бегаюць, скачуць...

— То што,— сказаў дзядзька Язэп,— не заўсёды яны прылятаюць перад холадам, я не спрактыкаваўся, каб яны канечне паказвалі холад... Гэта ёсць такія маленькія

птушкі — бычкі, дык яны вядуцца хто іх ведае дзе, а калі пачуюць холад — адразу з'яўляюцца каля будынкаў... Гэта даўней, як я яшчэ хлопцам быў, дык пайшоў быў раз у сад лом сеч. Пацягнуў ламачыну, а яны з-пад яе калі сыпануць кучаю — дробныя, як гарох, і якраз неўзабаве тады, калі даў холад! Праўда, восень была позна... Птушкі чуюць холад...

Ён з захапленнем расказаў аб гэтым, а я падумаў: «Калі ён так горача, з такою прыемнасцю гаворыць аб гэтым, значыцца, праўда, што нешта яго мучыць, нешта гняце яго істоту, і вось гэтае самае ён хоча ўтапіць у даўнейшай восені, у ломе, у саду і ў птушках, якія чуюць холад...»

Як кагадзе ішлі мы з ім з поля вузкаю дарогаю між палос раллі і ржышча, я думаў запытацца, што з ім, чаго ён такі неспакойны ў голасе, а цяпер рашыў не пытаць — няхай сам скажа, а калі не — хто мае права залазіць у чужую душу? Асабліва, калі не ўпэўнены, што словы твае будуць лекамі. Глядзі, каб не залезці ў чужую душу з цвёрдымі капытамі...

Дзядзька Язэп памаўчаў і загаварыў:

— Гэты год будзе ранняя восень, відаць... Толькі, от, з аўсамі запазніліся... У мяне яшчэ коп пяць нязвезенага, а ў Юрася ўвесь на полі...

— Невялікая работа — пазвозіць авёс,— сказаў я.

— Я не кажу, што вялікая... цяпер авёс буйны, дык яго лёгка рублём уціскаць... Я памятаю, даўней раз у мяне авёс ледзьве быў з зямлі падняўся, не то што жаць, а сілаю, гвалтам я скасіў яго... Там гэта каля лесу... рана паспеў ён, дык яго кашу, а хвоі шумяць-шумяць...

«Ён ізноў пайшоў убок з гаворкаю,— падумаў я,— ужо ў хвоі падаўся, яму, значыцца, лягчэй гаварыць аб чым-небудзь другарадным».

І я пачаў гаварыць:

— Цяпер там маладыя хвоі ўзяліся. Тады, як у вайну павысякалі там іх, дык здавалася, што пустэча будзе. А гэта малады лес узбуяў... Здаецца, нядаўна было — я яшчэ на тыя хвоі, бывала, з вашым Міхалам лазіў глядзець у гнёздах вараняняты...

Ён дзіка глянуў на мяне, трохі паглядзеў так вот мне ў вочы, пацерабіў чорную, кароценькую і пасівеўшую месцамі шчаціну барады і сказаў:

— Міхал памёр. Учора вечарам прыйшоў адтуль ліст.

Сказаў і змоўк. І ізноў пачаў глядзець у жоўтае дно канавы... Чорная муха ўжо лазіла па пальцах яго нагі, а мае думкі блыталіся так: то гэта Міхал памёр ад сухот, мусіць, бо на вайне атруцілі яму лёгкія ўдушлівым паветрам. І вось цяпер дзядзька Язэп сядзіць тут са мною над гэтай канавай і страшна сумуе. Цяпер у яго толькі дачка і жонка ў сям'і, а Міхала ён ужо два гады не бачыў — той недзе быў на рабоце і патроху хварэў... Дзядзька Язэп многа чаго перажыў цяжкага ў жыцці, многа бачыў такога, ад чаго жудаснасць можа ахапіць чалавека...

Раптам мае думкі пераскочылі на чорную муху. Яна поўзала па яго пальцах, а ён не чуў гэтага. Я пачаў думаць, што ў яго на нагах вельмі ж таўстая скура, ды яшчэ ў засохшай зямлі — хіба тут нейкая муха будзе прыкметна!

Ён маўчыць. Можа гэта ўсякае гора — толькі муха іншаму чалавеку?

Сядзеў ён, упёршыся рукамі ў зямлю. Трохі пагойдваўся шырокаю спіною. З-пад шапкі з цыратовым казырком павылазілі густыя, чорныя валасы з ніткамі срэбранай сівізны. Твар у яго абветраны, да чарнаты загарэлы на сонцы...

Ён адхінуўся назад і стаў глядзець некуды паверх маёй галавы. Тады я лішні раз упэўніўся: чалавек можа быць гордым перажытымі пакутамі, у час жа гора, калі ён пачынае стагнаць перад другімі, ён тады — увасабленне мізэрнасці.

Вось чаму дзядзька Язэп маўчыць. Бунт у ім схаваны ў глыбіні...

## II

Вечарамі на зямлю лажыцца шэрая ціш. Поле пахне аўсяным іржышчам і вялаю атаваю, а цесныя двары пры маўклівых хатах — коньмі і дзёгцем. Наша вуліца дрэмле ў цішы і ясным змроку.

Толькі не маўчыць стары папоўскі сад — у старым доме асвечаны там два адчыненыя акны, і некалькі камсамольцаў на ўсю вёску спрачаюцца над кніжкаю тэорый Дарвіна. Галасы іх сакаўныя, як недаспелы гарбуз, чутны за дзесяць хат і абуджваюць думкі: «Гэта прэлюдыі да будучай індустрыяльнай вайны з прыродаю».

Як бы гэта далікатна і ў меру выказаць дзядзьку Язэпу?

Ён сядзіць сабе ціха на прызбе і глядзіць на свае ногі. Я каля яго блізка, але ў змроку ён здаецца мне цёмнай грузнай постаццю з абы-як накіданымі абрысамі...

У садзе каля асвечаных вокан ходзяць, абняўшыся па двое, хлопцы і дзяўчаты. Дзяўчаты звіняць смехам, а хлопцы пробуюць спяваць:

Не хадзіла, не гуляла,
Рана спаць лажылася...

Першыя два радкі памагаюць падводзіць дзяўчаты, а пасля сціхаюць,— ёсць такое ўстанаўленне, што дзяўчыне шмат якіх слоў трэба саромецца...

Спяваюць моцна, бо ведаюць, што поп, выселены ў другую палавіну дома, любіць цішыню. Цяпер ён, пэўне, ходзіць недзе па двары і нюхае пах вялай травы. У садзе пільнуе позція яблыкі стары Гірш — за свае яблыкі ён смелы і спакойна спіць у будцы. І добра, што ён стары — хоць высціцца сабе як мае быць. Бо, каб быў ён хоць трохі малодшы, не заснуў бы ён тут усё роўна... І толькі нямыя і да ўсяго абыякавыя кусты агрэсту і маліны з'яўляюцца сведкамі... Дзяўчаты заліваюцца слаўным срабрыстым смехам, бесклапотным і чыстым — нашто раней часу забіваць галаву думкамі аб аліментных правах.

Слаўна адчуваецца блізкая восень. Мякка абнімае зямлю празрыстая ноч. За дзве вярсты адсюль адчуваецца аеравай вастратою рэчка, пажаўцелыя крушыны і каржакаватыя хвоі над ёю. Над паплавамі лазіць туман густым малаком...

Дзве постаці відны ў змроку — ідуць, прыціснуўшыся адна да другой, і два галасы пераплятаюцца таксама, як і постаці ў абнімку,— падаюць яны нізкім шэптам. Я пазнаю дачку дзядзькі Язэпа — смуглявую маленькую Досю — і, пазнаўшы, адганяю ад сябе журботную трывогу, раптам скрабянуўшую мяне; заспакойваю сябе нават некаторымі філасафічнымі развагамі...

Яны ўдваіх садзяцца на суседнюю прызбу і шэпчуцца.

— З кім гэта яна? — ціха гаворыць мне дзядзька Язэп.

Я горды тым, што ён давярае мне свае думкі, але, ад малых дзён падказанай мне людзьмі неабходнасці браць усё пад кантроль, я раскідаю думкамі, хто ж такі дзядзь-

ка Язэп? Трохі падумаўшы аб гэтым, я не адганяю ад сябе гордасці нашай блізасцю і пачынаю пазнаваць, з кім сядзіць Дося. Цераз хвіліну я падсоўваюся бліжэй да дзядзькі Язэпа і паведамляю яго:

— Гэта студэнт-практыкант. Той, што прыехаў з каморнікам зямлю мераць.

— М-м-мгу...

І тут я не пазнаў дзядзькі Язэпа, першы раз за час сваёй блізасці з ім не пазнаў. Ніколі ён так безудзельна да ўсяго не адносіўся. Гаворачы аб студэнце і ведаючы дзядзьку Язэпа, я быў упэўнены, што ён зараз жа пачне выводзіць свае пераконанні — добра гэта ці кепска і як да гэтага трэба адносіцца. А цяпер ён аднёсся да гэтага так, як бы гэта Дося яму не дачка, а студэнт не малады хлапец, а якая-небудзь танная істужка, што выпадкова і без ніякіх слядоў пасля сябе абнімае Досіну шыю.

Цяпер, значыць, дзядзька Язэп думае толькі аб Міхале.

І мы так седзімо моўчкі. Дзядзька Язэп чухае калені, мабыць, пойдзе зараз спаць.

— Добры вечар!

Вырасла аднекуль са змроку шэрая постаць, пры̆ткая і лёгкая.

«Чаго гэта поп ходзіць ноччу па вуліцы, няўжо яму мяшаюць спаць галасы ў саду?» — думаю я.

А ён углядаецца, каб пазнаць нас, пасля гаворыць дзядзьку Язэпу:

— Стары ты чалавек, табе ж паміраць хутка пара прыйдзе, а бога забыўся, хоць бы адслужыў па Міхалу паніхіду...

Дзядзька Язэп маўчаў.

— Стрэў я ўчора Астапа Варывончыка — так і так, кажа, Язэпаў Міхал памёр, я аж умлеў.

Голас у папа танклявы і порсткі, і ўвесь ён, як на іголках, стаіць і гойдаецца, перабірае на жываце пальцы, гладзіць пальцам шчуплую бародку. Дзядзька Язэп, слухаючы яго, нагінаецца і кладзе рукі на калені.

— ...Дык ты, Язэп, заўтра прыйдзі да мяне, дык мы аб паніхідзе пагаворым...

Поп моўчкі прысеў каля мяне, павадзіў пальцамі па бровах і закурыў. Моцна запахла добраю самарослаю табакаю, дым гэты змяшаўся з пахам вымазаных варволем папоўскіх ботаў і потам яго шыі. Суконная вопратка

дзядзькі Язэпа пахла пыльным бульбянікам і сухім выветраным хлебам; ад усяго гэтага хацелася драмаць.

— Ну то як? — сказаў поп. І, сказаўшы, адвярнуўся ў другі бок ад маўклівага дзядзькі Язэпа.— Гэта ў цябе, Язэп, ад таго, што занудзеў ты па Міхалу. Паспакайней трохі.

І пайшоў у свой бок, раптам усхваціўшыся.

— Не сумуй, дзядзька,— сказаў я.

— Нуда агарнула.

І гэта сказаў ён слаўна, бо не скардзіўся, а выказаў факт. Да нас падышоў раптам Тамаш Арлоўскі — барадаты і моцны стары, з другога канца вуліцы.

— Я да вас, хлопцы.

— Ну?

— Зрабеце маёй жонцы хату.

— Гавары, чаго прыйшоў?

— Я ж гавару. Дошкі ў мяне ёсць, толькі ж вельмі сукаватыя, ёсць без сукоў, ды ў гразі — гэблі патупіце!

— Што, твая старая памерла?

— Але.

— Нешта ж яна мала хварэла. Не чутно было.

— Тыдзень.

— А-а-а...

— Нястраўнасць гэта ў яе. Павячэрала, а назаўтра не ўстала з пасцелі.

— Ага.

— Дык можа б ты цяпер за работу, Язэп, узяўся?

— Цяпер то я не магу, заўтра зранку можна будзе. Толькі дай ты мне добрых памочнікаў; прасі Мікалая.

Тамаш глянуў у мой бок.

Рабіць труну з дзядзькам Язэпам! Я быў малады, і ў маёй сталасці былі некаторыя элементы надуманасці. Часамі яны неўзаметку пачыналі сплываць. Але я з малаком мацеры атрымаў людскую прывычку, хоць часам і нявінна, хітраваць. І я сказаў:

— Калі часу няма, ліха на яго. Бацька нездароў, дык я адзін.

— Ды што табе гэты час? Што, ты ўміраць ніколі не будзеш?.. Але, праўда, табе яшчэ далёка.

«Значыцца, пачаў ён вымяраць мяне меркаю смерці,— падумаў я,— годзе ламацца».

І я сказаў:

— Добра.

— Дай яшчэ аднаго,— сказаў дзядзька Язэп.

Тамаш моўчкі пастаяў і пайшоў.

І тут выйшла незвычайнае ў гэтую хвіліну з дзядзькам Язэпам. Ён затрос барадою ад смеху, трос галавою.

— Чаго ты, дзядзька?

— Тамашыха памерла! Павячэрала, кажа, як мае быць, а назаўтра з пасцелі не ўстала... Нястраўнасць! Як ты думаеш, сынку, колькі пудоў яна важыла?..

І раптам змоўк ён, узяўся рукамі за калені, пасядзеў так трохі і ўстаў.

— Хадзем, сынку.

— Зараз.

Ён пайшоў, а я сяджу адзін і думаю:

«Што гэта ў яго? Няўжо гэта толькі затым, што Міхал сын яму, а Тамашыха чужая і любіла паласкаць косці другіх?»

Я падумаў аб гэтай таўстой, грузнай, як хмара, жанчыне. Куды ні ідзе — усё жуе нешта, каго ні стрэне — праўдзе зіркам мізэрнага абгавору...

— Братка Міхал,— сказаў я ціха,— ёсць жа людзі, смерць якіх не выклікае думак змагацца з прыродай... Але ты памёр!

Ціха было на вуліцы і ў папоўскім садзе...

Дося сядзела з практыкантам на прызбе.

Я ўстаў, каб ісці, але, адышоўшыся, не мог не пастаяць трохі — мае філасафічныя развагі ад мяне ўцяклі, бо хвалі душы не былі вялікімі.

— Досечка,— шэпча ён,— міленькая...

Яна маўчыць, і яны зліваюцца ў адну цёмную постаць...

Слаўна глядзяць на мілую зямлю ціхія зоры.

## III

У доўгім Тамашовым гумне, на вільготным таку, мы робім Тамашысе труну. Моцны, як дуб, на тоўстых звязістых нагах, стаіць на мяккіх стружках дзядзька Язэп з алоўкам у руках і рысуе па каструбаватых дошках лініі, а мы ўдвух — я і Астап Варывончык — сядзім вярхом на абструганай дошцы і габлюем яе «бараном».

Дзядзька Язэп сягоння зусім маўчыць, скажа толькі некалькі слоў, калі трэба, аб труне ды дошках; ён паволі тупае вялікімі ботамі, сагнуўся нейк шырокаю спіною, і

на вусах яго пілавіны — былі яны на рукаве, а рукавом ён разгладжваў вусы.

Сягоння я забыў трохі пра дзядзьку Язэпа і ўпікаю сябе гэтым, зусім не думаю і аб Міхале; у мяне ў галаве па жылах тупа стукае кроў, галава трохі баліць, і думкі неяк атупелі — некуды згінула з самай ночы вастрата, задрамалі мае ўсякія развагі. Упарта і без патугі думаецца толькі аб адным — аб маленькай смуглявай Досі. Салодкі смутак апаноўвае мяне.

Астап Варывончык, як заўсёды, вясёлы, падморгвае мне хітрымі вузкімі вочкамі і раз-поразу аблізвае губы.

— Чаго ты мне падморгваеш?

— Чаго ты так звяў сягоння?

— Не выспаўся.

— Ну, пэўна ж, што гэта не ад лішняга сну.

Я маўчу.

— Я, як быў малодшым, дык чорт яго калі і спаў — бабы спакою не давалі. Але я быў за цябе мацнейшы, вялым ніколі не быў.

Я зноў маўчу.

— Ты што, бабу маеш?

У мяне з'яўляецца патрэба пачухаць каля вушэй.

— Пот,— гавару я.

Астап Варывончык хітра не спускае з мяне вачэй.

— Пот,— зноў гавару я.

І маўчу. У мяне злосць на Астапа Варывончыка. Чаго ён дапытвае мяне, чаго варушыць тое, ад чаго смутак мучыць мяне. Твар яго проста перада мною. Гэта круглы і рыжы твар, малады і сыты; толькі тонкія маршчынкі і сінія кругі пад вачыма, і галава пачынае лысець. Дзядзька Язэп глядзіць мне ў вочы з хвіліну, пасля, як бы аб чым дагадаўшыся, вызваляе мяне з майго становішча:

— Ідзі, Мікалай, мне тут у гэтай дошцы кант згаблюй — я збіваць пачну.

Цяпер я зусім упэўніваюся, што ён ведае, аб кім я думаю. І мне прыемна глядзець на яго сухую і моцную, прысадзістую постаць. Я іду да яго, а Астап Варывончык запускае руку ў белыя стружкі ў кутку — нядаўна прыходзіў да нас у гумно Тамаш, прынёс нам бутэльку гарэлкі і сухой кілбасы на закуску.

— Пеце, браткі, ды канчайце,— сказаў ён,— жонка хаты не мае.

— Няўжо злуе на цябе твая жонка за гэта? — ухмыльнуўся Астап Варывончык.

Маўчыць, хоць бы слова.

Мы прымецілі, што ён ужо паспеў выпіць... Да яго ў хату ідуць людзі — бабы ўсё найбольш. З мужчын адзін толькі стары Апанас Ярмаліцкі — дый той у хату не заходзіў — угледзеўшы нас у гумне, ён падышоў цераз агароды і пагаварыў з намі трохі аб пагодзе і спелых гарбузах.

Цяпер Астап Варывончык налівае з бутэлькі ў вышчарбленую шклянку і падносіць дзядзьку Язэпу. Той трохі выпівае і аддае назад.

— Чаму не ўсё?

— Не хачу.

— Цяпер ты, Мікалай, дапівай.

Ён яшчэ трохі падліў мне, і я выпіў. Сам Астап выцягнуў цэлую шклянку, і мы закусваем сухою кілбасою. Дзядзька Язэп паволі жуе, стоячы пасярод тока. Неўзабаве з'яўляецца Тамаш і прыносіць нам два селядцы — сяк-так аскрэбаныя і паклычаныя пальцамі.

— Хоць бы ты, сынку, піў,— гаворыць ён мне,— можа аслабееў, габлюючы, дык от выпі яшчэ чарку.

— Не пі,— абарочваецца да мяне дзядзька Язэп,— зашкодзіць.

І, як бы апраўдваючыся, звяртаецца да Варывончыка і Тамаша:

— Што ж з яго будзе за работнік, калі ён нап'ецца?

— Можа вам дошчак не хапае? — клапоціцца Тамаш.

У гумно раптам з'яўляюцца двое — вяртлявы і маленькі Пятрусь Міхалінчык і доўгі, тонкі і пануры Яўхім Стрыгун, з вострым тварам, белымі валасамі і босы. Я гляджу на гэтую маўклівую і нейкую нясмелую постаць, і мяне апаноўваюць думкі, што гэта, мусіць, прырода стварыла яго такім для таго, каб якой-небудзь чулай натуры па-брацку трохі пасмяяцца над ім, а пасля над ім жа горка заплакаць. Ён глядзіць на нашу работу, і на твары яго, поўным рабацення, застыла нясмешная ўсмешка. Пятрусь Міхалінчык весела садзіцца каля Астапа Варывончыка, ляпае яго рукою па калене і падае голас:

— Я нюхам чую, дзе п'юць. Яўхім мне памог: пацягнуў носам ды кажа — хадзем.

— Жартуеш,— апраўдаўся Яўхім.

— Я вам прынясу, хлопцы, другую шклянку,— па-гаспадарску клапоціцца Тамаш.

— Хопіць і гэтае.

І я не ўспеў агледзецца, як Пятрусь Міхалінчык ёмка выпіў, кракітануў і ўзяў кусок селядца. Тамаш паднёс Яўхіму. Той спачатку адмовіўся, а пасля, бачачы, што яго больш не просяць, узяў і выпіў. Адламаў кусок кілбасы, агледзеў прытульную мясціну на дошках, каб спакойна было есці, сеў і пачаў паволі жаваць. Рэшту гарэлкі дапілі неяк раптоўна Варывончык з Міхалінчыкам і адразу сталі смешна-вясёлымі.

— Я вам, браткі, прынясу чаго паесці,— неяк радасна сказаў Тамаш; радасна, мусіць, затым, што ў яго гумне вясёлыя людзі.

Яму ніхто нічога не адказаў, і ён, пастаяўшы трохі, падаўся спярша ў бок Яўхіма, а пасля пайшоў у хату.

Астап Варывончык, скрывіўшы раптам набок дробны твар свой, заспяваў:

Охці мне, о-ох;
На балоце мо-о-ох...
Хлопец па дзяўчыне
Сем гадоў со-о-о-ох!..

Пятрусь Міхалінчык уставіўся вачыма ў яго твар, сціснуў каля кішэнь портак кулакі, з нецярплівасцю чакаючы, пакуль той скончыць. Як скончыў, заспяваў раптам прыпеўку з другой песні:

Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада!..

Пасля падумаў трохі, махнуў рукою, змяніў раптам матыў песні на вясёлы і паўтарыў:

Там хадзіла, там гуляла
Йэх!..
Дзеўка малада!..

Яўхім спакойна жаваў кілбасу.

Дзядзька Язэп стаў у варотах і глядзіць на пажоўклую траву перад гумном...

Ясна ад сонца і шырока ад першага подыху блізкай восені. Слаўна пахне з садоў бэрамі, блішчаць першыя ніці белага павуціння; скрыпяць на вуліцы вазы — возяць позні авёс, але ціха ад пажаўцеўшых клёнаў... Плюхае вада і спяваюць пеўні.

Стоячы, маўчыць дзядзька Язэп.

Астап і Пятрусь, палёгшы на мяккіх стружках, задумёна спяваюць:

Ой, за полем, полем ды за ўзгоркамі,
Пры вадзе берагавой ды пад чаротамі
Ды шумела асака...

Дзядзька Язэп выйшаў з гумна і пайшоў паволі, босы, па траве.

Ой, ды як жа асака ды шумлівая!..
Ой, шумела ж яна, як гаварлівая...

Яўхім узяў у рукі бутэльку, паглядзеў, што пустая, і палажыў назад, сеў і маўчаў, мусіць, слухаў:

А там беглі-грукацелі
Залатыя-вараныя...

Яўхім адышоўся ўбок, прылёг каля сцяны на саломе і памог танклявым і доўгім голасам:

Эй вы, э-э-эй-э-эй!..

Дзядзькі Язэпа нідзе не відно.

Я выйшаў за вароты, глянуў на асеўшую сцяну пад жоўтыя клёны: на накошанай учора і прывяўшай за ноч палявой траве ляжаў ніцма дзядзька Язэп. Плечы яго трасліся, твар уехаў у траву, і з травою ж пераблыталіся чорна-сівыя валасы на галаве.

Я падышоў да яго і сеў.

Пахлі з гумна смалою стружкі, пахла з агародаў зямлёю. За платамі ў садах падалі спелыя яблыкі, і над намі спелі рабіны.

Уткнуўшыся тварам у траву, як малое дзіцянё, плакаў дзядзька Язэп.

## IV

Над шырокай зямлёй пахне восенню, і яснымі днямі дзьме густы вецер. І шумяць-шумяць кусты над глыбакадумнаю рэчкай...

Дарога пазарастала патаптанай травою, часамі з далёкіх узгоркаў імчыцца па ветры і асядае на яе пыл. Цяпер яна ад нядаўніх дажджоў чыстая і ад сонца і ветру думна-вясёлая. На ёй ляжыць плуг, а з боку я —

ляжу на ветры, гляджу, як за кустамі шыпшыны пасецца конь, і слухаю, як шуміць голле маладых асін і бяроз. Адчуваецца, як пад імі прэсна пахне рэчка.

Сягоння я зусім не бачыў дзядзькі Язэпа. Цяпер ён не так нудзіць, больш можа гаварыць аб Міхале — прывыкае патроху, што памёр ён.

Учора вечарам я таксама, як і раней, сядзеў з ім на прызбе. Ён весялейшы быў і расказваў са смехам, як Астап Варывончык леташняй зімою пералазіў ноччу п'яны цераз калодзезь, думаючы, што гэта пералаз. Пералез і скочыў «на другі бок плота» і чуць не змерз у калодзезі, пакуль яго адтуль выцягнулі. Гэтую гісторыю я многа раз чуў ад яго ж, і ён сам гэта ведаў, але гаварыў з вострымі славечкамі і смакаваў жартаўлівыя фразы... Дося таксама хадзіла пад руку з студэнтам-практыкантам.

— Каморнік? — сказаў ціха дзядзька Язэп, ківаючы галавою ў бок цёмнай пары.

— Ён.

І мы маўчалі, а я думаў:

«Дося зусім маладзенькая, і яна, скажам, не можа разбірацца ў сваіх пачуццях і ў людзях. Але і няўжо сам дзядзька Язэп адстаўляе мяне на другарадны план, і няўжо толькі затым, што той студэнт?»

Ад гэтых думак нешта ўсю ноч і цяпер скрабе мяне за сэрца. Хочацца ісці некуды, нешта рабіць важнае, нешта большае, чым ляжаць тут, на гэтай дарозе.

Я нервова ўсхватваюся і, сам не ведаю для чаго, аглядаю нядаўна завораны мною загон. Па ім спацыруюць вароны, нешта клююць і крычаць. Мне таксама хочацца крычаць і спяваць. Ва мне варушыцца напеў песні:

Ды за таго шастака
Ды купіла мужыка...

У маіх перажываннях шырока раптам выплывае хор, які спяваў гэтую песню; быў я ў горадзе, сядзеў вечарам у тэатры і слухаў. Гэта было захапленне бязмежным, нічым і нікім не прыціснутым і не ўзятым пад мізэрную хітрасць. Так, як цяпер думкі аб Досі мучаць...

Якая мне можа быць работа дома адвячоркам?

Я саджуся і думаю.

Далёка відзён Пятрусь Міхалінчык — заворвае ржышча; ідзе ў вялікіх ботах за плугам, ківаючы наперад,

пасвіствае на ўсё поле, аж мне тут чутно, ад гэтага яму весела. Недзе за кустамі праязджае Яўхім Стрыгун, я пазнаю яго па голасе — на каня яму ніколі не трэба крычаць, а ён крычыць, крычыць так, што на раллі трывожацца вароны.

Там, недзе за кустамі каля рэчкі, у дзядзькі Язэпа ляжыць сухая атава. Не можа быць, каб Дося не прыйшла скласці яе ў копы. Успомніўшы пра гэта, я повен думак, што мне ёсць чаго сядзець тут, на гэтай зялёнай дарозе,— вечарам яна ўсё роўна будзе з студэнтам.

Цяпер у мяне страшная нецярплівасць. Я адцягаю пад воз плуг, збіраю лейцы і пасля іду да дзядзькавай атавы. Там пуста, толькі ўсё ж таксама чароды дзікіх птушак.

Повен расчаравання, я іду назад. Дайшоў да краю кустоў і бачу: маленькая і смуглявая, ідзе Дося. Ідзе босая, у сінім, з белаю хустачкаю на густых чорных валасах.

— Ваша атава зусім сухая,— гавару я.

— Тата заўтра забіраць будзе.

Што мне ёй больш гаварыць? Седзячы вечарам з дзядзькам Язэпам і бачачы, як яна ходзіць з нейкім практыкантам, у мяне складаюцца ў галаве мнагалікія цытаты; толькі не цяпер гэта... Я не ведаю, што мне больш ёй сказаць.

Мне страшна хочацца схваціць яе на рукі і імчаць некуды далёка, за сухую атаву, за бясконцае поле. Імчаць, пакуль яна не заплюшчыць вачэй і не задрэмле. Тады я палажу яе на зямлю, абвеяную ветрамі і выхаджаную людзьмі, буду глядзець на яе, і тады ў мяне складуцца вялікія гімны.

Цяпер жа я маўчу і гляджу на яе твар.

— Чаго ты так глядзіш?

Твар яе раптам робіцца ружовым, і я адчуваю, што і яна таксама не ведае, што гаварыць.

А можа ёй страшна гэта хочацца, каб я схваціў яе на рукі?

У мяне ў галаве, у жылах пачынае стукаць кроў, і я ледзьве гавару:

— Ты доўга там будзеш?

— Атаву ў копы складу.

— Тады назад разам паедзем.

— Не, я пайду на той бок рэчкі, па хутары.

— Чаго?

— Да цёткі.

— Але ж начаваць дадому прыйдзеш?

Цяпер я знаю, што яна была зусім дзіця: ёй здавалася, што калі вечарам ходзіць яна з практыкантам, дык кожны нават куст шэпча аб гэтым, закіды на гэта бачыла яна ў кожным, самым нявінным слове.

Яна яшчэ больш пачырванела і з нейкаю як бы трохі крыўдай ці лёгкаю пагардаю сказала:

— Ну, а ты дзе будзеш сам начаваць?

Цяпер мне ўсё ясна. Тады ж радасна пацямнела ў вачах і з'явіўся спакой: ідзі сабе, ідзі, любая, вечарам я буду бачыць цябе.

— Мне пара ехаць,— сказаў я.

— А мне пара ісці.

І яна пайшла... А я, едучы дадому, раздумваў:

«Добра, што яна не едзе са мною — у мяне гразкія босыя ногі, запэцканыя палатняныя порткі і палатаная сарочка. Нядаўна яна вазіла гной і была адзета яшчэ горш, але ж усё роўна я не хачу быць такім каля яе».

V

Цяпер часам, у хвіліны бур і вострых пакут духу, я думаю так: калі шукаць ці ствараць апраўданні ўсяму, то смутак, напрыклад, можа мець апраўданне, што для таго ён, каб пасля яго больш ацаніць радасць. Тым больш гэта можна гаварыць аб рэчах меншых — розных непрыемнасцях, журбе... Тады ніякага апраўдання нічаму я не шукаў ці не ствараў і думаў толькі аб самых рэчах.

Без жадных разваг я ў той вечар напоўніўся злосцю да Досі — хадзіў я каля іхняе хаты, а яна раптам выйшла з папоўскага саду разам з тым практыкантам. Я прайшоў міма, каб бачыла яна, пасля павярнуўся і заставіў сябе плюнуць і пайсці закурыць да дзядзькі Язэпа.

Дастаючы мне з-за коміна табаку, ён стала, з лёгкімі адценнямі нявінна-простага гумарызму, сказаў:

— Што гэта яна, ліха яе ведае, з гэтым каморнікам злыгалася; колькі яе ёсць, гэтай дзяўчыны... Не падабаецца ён мне страшэнна.

Стараючыся схаваць сваю радасць, я пачаў левай рукою круціць на галаве валасы і падаў ціхі голас:

— А вы як яго ведаеце?

— Я яго сам сюды з горада вёз.

— То чаму вы раней нічога аб гэтым не думалі?

— А што? — устрывожыўся ён.

— Нічога, я так.

— Як я мог раней аб гэтым думаць? Што ты, сам не ведаеш? У мяне, апроч Міхала, нічога тады ў думках не было. Жыць мне няміла было — я не думаў, што выжыву. Цяпер неяк трохі палягчэла гэта ўсё... А яшчэ Дося неяк як бы другая для мяне стала. Здаецца, не можна ўжо больш нікога моцна любіць, апроч Міхала...

Ён гаварыў, а я капаўся ў сваёй душы з грозным загадам сабе:

«Маўчы, дзейнічай перад Досяю, а не перад ім, бо нават ён не мае права ў гэтай справе большага, чым бацькоўская парада... І якое ты маеш права злавацца на яе? Хто цябе паставіў на гэтую пасаду? І хто мае права ставіць каго над кім-небудзь?»

— Гляджу я на цябе — падабаешся ты мне,— гаворыць дзядзька Язэп, закурваючы ад газоўкі.

Але цяпер ужо гэтыя словы яго нічога глыбокага не кранулі ў мяне: тут усё ў Досі.

Але гавары, родны мой, блізкі дзядзька Язэп.

— Як твае справы?

Мае справы такія: канчаю разам з бацькам на полі ворыва, малачу і чакаю з горада паведамленне — ці залічаны я студэнтам. Чакаю ўжо доўга і думаю, што нічога з гэтага не будзе.

Аб гэтым я гавару дзядзьку Язэпу.

— А ведаеш што,— гаворыць ён мне,— здаецца мне, што няма ў табе нейкага спакою, мусіць, нешта мучыць цябе. От перажыў бы ты такое, як у мяне, смерць Міхала — у мяне ўжо мала гэтага будзе, у цябе многа яшчэ. А можа гэта ад таго ў цябе ўсё, што з такіх маладых год пачалося ў цябе ўсякае, падобнае да мае смерці Міхала? Ходзіш ты адзін, хто цябе ведае... Неспакойны ты...

Што мне адказаць яму?

Падумаўшы, я гавару, стараючыся, каб гэта выйшла жартаўліва:

— Сёння дык неспакойны я затым, што ў вас ёсць дзяўчына і завецца яна Дося.

— Што яна табе спабачылася, гэтая дзяўчына,— з адценнямі жарту сказаў ён,— дык я гэта даўно ведаю, адразу ўбачыў тады, як глянуў на цябе. А што ў цябе ад

яе неспакой, дык хто ж табе вінават — зараз жа ідзі на вуліцу, бі па храпе каморніка, асадзі яго к чорту — і справе канец.

І ён зарагатаў, але, мусіць, лепш у яго выйшла б, каб ён толькі ціха засмяяўся.

У хаце чуць свяціла газоўка, старая спала каля печы на шырокай пасцелі. Пахла цыбуля з печы і табака...

Слаўны, пагодлівы дзень заўтра будзе...

Я пайшоў у папоўскі сад. Стары Гірш, як і заусёды, спаў сабе ціха ў саламянай будцы, па садзе таксама хадзілі, абняўшыся, хлопцы з дзяўчатамі, праз адчыненыя вокны відаць было, як ідзе рэпетыцыя да спектакля. Каля стала стаяў настаўнік у ролі рэжысёра, махаў рукою і нешта расказваў. Дзяўчына ў чырвонай хустачцы няўмела прысядала, стараючыся зрабіць рэверанс. Ад гэтага ўсе рагаталі, а настаўнік злаваў.

За плотам па двары, фантастычна-смешны ў змроку, каціў поп па няроўнай зямлі пустую бочку...

І вакол кусты слухалі шэпты і былі маўклівымі сведкамі некаторых спраў.

Стары Гірш спаў сабе спакойна, а я, не могшы апанаваць разважаннямі, напоўніўся раптам злосцю да Досі... Прыйшлося пайсці ў чытальню і выказаць мае некаторыя тэатральныя веды...

Слаўныя вечары!

Гэта восень дыхае вясною.

Падморгвалі зоры зямлі, і зямля маўчала — як бы адчувала яна дзяцінства ў маладосці і маладосць у старасці.

## VI

Каржакаватыя хвоі, чырвона-агнявыя асіны і жоўтыя бярозы, і пад імі шумяць кусты.

Шумяць... Шумяць!..

І ядлоўцам пахне над полем.

Густа паўсходзіла жыта, і ўсё таксама смяюцца яму ясныя дні.

Праляцелі ўжо гусі і жураўлі, чорныя дзікія птушкі клююць сакаўную рабіну, і журацца дні над свежай раллёю і над балотнай сухой асакою...

Мы выбіраем познюю бульбу.

З пахучых зямной вільгаццю загонаў мне відно, як за шыпшынавымі межамі клапоціцца дзядзька Язэп — не-

шта там камандуе моцна, а бабы са смехам сыплюць кашамі на воз бульбу... У мяне не падмазаны калёсы, і яны заскрыпелі так, што пачуў і азірнуўся дзядзька Язэп.

— Пачакай! — крычыць ён мне.

Я чакаю і гляджу, як ён грузна і шырока ступае вялізнымі ботамі і тузае лейцы. Пхае плячом у аглабіну, нейкая дзяўчына выводзіць каня на дарогу, другая пагаияе пугаю, і дзядзька Язэп весела камандуе:

— Па хвасце, па хвасце!..

Там паднімаецца рогат, а дзядзька Язэп выкіроўвае воз на дарогу...

І вось мы поплеч ідзем каля вазоў па вузенькай, каляіністай дарозе. Дзядзька Язэп пагаварыў трохі аб восені і жураўлях, пасля расказаў, як некаторага года адбіўся быў ад сваёй чарады малады бусел, не ведаў, куды ляцець, і зазімаваў адзін на мёрзлых паплавах. І як пасля кончыўся з холаду за гумнамі.

— Ты думаеш, ён не сумаваў, гэты бусел?

І, сказаўшы гэта, дзядзька Язэп змоўк, а я стаў думаць:

«Што ў яго цяпер у галаве і на душы?»

Твар яго стаў раптам каменна-спакойным, як бы гэта ён сперш доўга раздумваў, для чаго і нашто ўсё на свеце, а пасля дадумаўся: «Дык гэта ж я сам усё ўстанавіў...»

Дома мы ссыпалі бульбу — сперш яму, пасля мне.

Аднекуль з'явілася Дося, і, як бацька пайшоў у сенцы, яна сказала мне:

— Хадзем, я памагу табе.

Я пагляздеў на сваю палатаную сарочку і сказаў:

— Ды ў мяне там няма чаго рабіць.

— Дзе ты сёння вечарам будзеш? — запытала тады яна.

У мяне зноў, як і тады, застукала ў галаве кроў... Я ж ёй раней гаварыў... Яна не думала аб гэтым, а гэта або ў яе ад мяне застукала кроў, або ад таго практыканта пакінула стукаць. Тады якая тут мая роля?

Гэта былі разважанні, і з'явіліся яны трохі пасля, тады ж я сказаў:

— Вечарам я буду сядзець каля твае хаты.

— Які ты слаўны і дагадлівы...

І яна пабегла ў сенцы.

«Слаўна жыць на свеце,— думаў я, едучы на поле.— Няхай усё плыве, куды хоча, няхай рушыцца, падае, рас-

кідаецца, а мне на нейкі час адкінуць усё гэтае, разам з усякімі разважаннямі...»

Так я адчуваў і вечарам.

Чорненькая, маленькая і гарачая сядзела Дося, прыцісну́ўшыся рукой да мяне. Мы не гаварылі, і я не думаў нічога... Дзядзька Язэп выйшаў на вуліцу, пыхнуў папяросаю і хацеў сесці на прызбу, пасля ўбачыў нас, пазнаў і запытаў мяне:

— Бацька твой дома?

— Дома.

— Пайду да яго, пакуру.

І пайшоў. А я падумаў:

«Стары Гірш спіць недзе ў сваёй саламянай будцы — нудная і дрэнная работа. Страшна мець сівую бараду і думаць толькі аб яблыках ды аб саламянай будцы...»

Дзядзька Язэп бараду голіць і саламяных будак не любіць. Курыць, соўваючыся па двары вечарам...

«Міхал, братка мой дарагі, Міхал!»

Зоры свецяць, залатыя асіны шумяць, зямля вее размахам і воляй. Недзе людзі спяваюць, недзе зыкі бягуць...

«Братка Міхал, родны мой!»

Мне хацелася плакаць і расказаць аб гэтым усім — і далёкім, і блізкім.

І я з страшэнным смуткам адчуў, што Дося мяне не зразумее...

Дзядзька Язэп, з блізкіх маіх, адзін можа слухаць мяне...

## VII

Назаўтра, як у тумане, хадзіў я цэлы дзень. Я прыпомніў, як тады, вечарам, два разы праходзіў міма нас той практыкант, я адчуваў у змроку на сабе яго калючыя вочы. Ён нічога не гаварыў і праходзіў. Сягоння ж, як змеркла, выйшаў я на вуліцу і ўбачыў: Дося і практыкант ішлі, цесна прыціснуўшыся адно к аднаму. Я залажыў рукі ў кішэні, свіснуў, настроіўся на гумарыстычны лад і заспяваў:

Не хадзіла, не гуляла,
Рана спаць лажылася!

І тут жа раптам падышоў да сябе з грозным загадам: адкуль ты дастаў сабе права корпацца ў душы другога чалавека?

«Ну, а што? — сказала маё другое «я»,— пытанне гэтае трэба пусціць па дзвюх лініях. Тут магло быць так: яна магла за што-небудзь зазлаваць на свайго практыканта і, каб укалоць яго, пасядзець вечарам з табою, тады ты, значыцца, зброя барацьбы, стаў машынаю, будучы чалавекам. То чаго ж ты так катуеш сябе за тое, што паспяваў трохі? Паспявай яшчэ. Залажы рукі ў кішэні ды пасвішчы...»

А другая лінія?

Другая лінія магла быць такая: «Дно ў чалавека заўсёды відаць. І рух увесь яго як на далоні. І загэтым вось і вядома, што там ні з чым непараўнаная тонкасць і бясконцы рух — як бы гэта свет знайшоў для сябе вечнае і адзінае люстэрка...»

І маленькая, смуглявая Дося тады шчыра кахала мяне, таксама, як сягоння таго практыканта.

Тады напоўніся вялікай пашанай, панясі яе і агарні ёю людзей. Знішчы свае гразныя капыты і насі ў сабе толькі вастрату хараства...

Позна я сядзеў у тую ноч у хаце з дзядзькам Язэпам. Мы так, як ніколі раней, гаварылі аб Міхале. Ён стаў раптам нейкім сагнутым, сухім і малым. Нагнуўся і заплакаў ціха. Пасля абцёр слёзы і сказаў:

— Чалавек яшчэ не пэвен, пакуль многага яшчэ не зробіць...

Тады я падумаў:

«Чалавек, значыцца, аба многім павінен даведацца...»

Дзядзька Язэп курыў паціху; зноў вырас постаццю сваёю і сядзеў так доўга.

І я раптам адчуў у сабе і вакол сілу дзейнасці і размах чалавека на нязначным атаме свету — зямлі...

## VIII

Вясною сястра мая сеяла кветкі, цяпер перад вокнамі на круглых градках цвітуць увосень настурцыі і белыя астры, і над імі шэпчуцца жоўтыя вішні, расказвае ім вецер аб бяздоннай сіні лясных далягляд аў, і пад ім, на сонцы, думаюць нешта лісты.

Сцелецца пыл... Хутка канчаюцца дні з белым павуціннем.

Сястра палошча бялізну на двары. Весела плюхае вада, сцякае з яе белых закасаных рук. Пасля садзіцца

яна каля сцяны і спявае «над возерам чайку». З хаты мне слаўна глядзець на яе, на настурцыі і астры, на жоўтыя вішні і ветраны пыл.

Хутка будзе вечар. Вецер не сціхне, і чуваць будзе, як за рэчкаю гавораць хвоі...

Вечарам, здаецца, будуць збірацца нашы гаварыць аб зямлі.

Будзе там стаяць дзядзька Язэп, як уросшае глыбока ў зямлю дрэва, будзе маўчаць ды рэдка падаваць увагі; будзе выказвацца Астап Варывончык і рагатаць Міхалінчык Пятрусь. Будзе там збоку сядзець і Яўхім Стрыгун і скардзіцца на ўсё — і на кепскае, і на добрае: ёсць жа такія людзі на свеце...

Трэба будзе пасля ўсяго гэтага пайсці пасядзець у дзядзькі Язэпа — заўтра я еду ў горад.

Я хаджу па хаце і думаю. Уваходзіць раптам Тамаш Арлоўскі і бярэ мяне за плячо.

— Хадзем, сынку, да мяне.

— Чаго?

— Хадзем. Там Язэп і Варывончык.

Мы ідзем па пыльнай вуліцы ў яго хату, і Тамаш там клапоціцца.

— Паскольні вы, браткі, тады труну рабілі, дык от трохі, значыцца, пад гэтае...

Мы выпілі па чарцы і пасядзелі трохі.

— Дык от, браткі,— гаворыць Тамаш,— адзін застаўся... Жаніцца — не гады, сказаць, так жыць — дачку замуж аддаю.

— Ты жонку любіў? — пытае вясёлы Варывончык Астап.

— Што т-ты ў старога чалавека пытаеш? — апраўдваецца Тамаш.— Што ты гэта? Ты думаеш, я тут табе ведаю цяпер — што ты пытаеш... не гады ўжо... ліха яго ведае...

Мы яшчэ выпілі па чарцы, пасядзелі трохі і пачалі разыходзіцца... Кружыцца трохі галава: я іду міма хаты дзядзькі Язэпа, бачу, як Дося ходзіць па двары, і мне, таксама, як тады, на полі, хочацца падбегчы туды, схваціць яе на рукі і імчацца так па пустых дарогах і без дарог...

Заўтра я еду ў горад.

* * *

Тры гады — вялікі час у чалавечым веку.

Я цяпер успамінаю, адчуваю і думаю.

Сягоння днём на людпай вуліцы ўбачыў я Досю з мужам — былым практыкантам на каморніка. Яна паўсцела і выглядае сталай і задумёнай... І гэта ўсё будзіла ва мне думку аб факце: колькі дарог будзе яшчэ пройдзена і колькі людзей уведана!..

Я пакланіўся Досі, і яна раптам пабялела, неяк асунулася, зрабілася маленькай, і ў вачах яе засвяцілася нешта вострае — мяжа між імкненнем і журбою...

Вечарам прыйшоў ад сястры з вёскі ліст. Там было і ад дзядзькі Язэпа. Няроўнымі, ад непрывычкі пісаць, літарамі было напісана:

«...Дзякую, сынку, за паклон... Навін у нас, сказаць, вялікіх няма. Што мая баба памерла — ты ведаеш, а што Дося з мужам пераехала ў той самы горад, дзе ты, таксама, пэўна, ведаеш... Яўхім Стрыгун ажаніўся. Астап жа разышоўся з сваёю жонкаю. Жывуць сабе... Мы павысякалі летась каржакаватыя хвоі за рэчкай — дык цяпер нейкая пустэча там здаецца за рэчкаю — гэта мне з непрывычкі. От гэтая прывычка мяне заядае — прывыкаю да свае нары, цераз гэта атупеў неяк увесь. А можа гэта старасць загаварыла? Страшная штука — старасць, і гадкая штука — прывычка... А можа ты іначай думаеш? Падумай... Жыві, сынку, здароў...»

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Родныя мае!.. Блізкія мае!..

# У ПАДВАЛЕ

Свет быў вялікі: за дзеравянаю канцавою вуліцаю — мураваны грымучы горад, а з другога боку вуліцы — ціхае і неабдымнае поле. Як глянеш у поле — людзей там не відаць, толькі прастора маўчыць у задуменні. А на вуліцы і далей у горадзе — трудна прайсці за людзьмі... І твары ў гэтых людзей клапатлівыя і чужыя. І чым далей ад гэтае дзеравянае, апошняе ў горадзе вуліцы, чым больш незнаёмага пападаецца перад вачыма, тым цікавейшым і прывабнейшым усё здаецца, і свет усё шырэйшым і неабдымнейшым. Загэтым і той нізкі падвал з даўно беленымі сценамі і цяжкаю столлю, дзе жыў Анця з маткаю, здаваўся толькі часовым прытулкам, куды трэба было з'яўляцца ўвечары спаць, а ўдзень абедаць, ды зімою сядзець, калі вельмі ціснулі маразы і халодны стары матчын каптан нічога не памагаў... Зімою было горш, а летам было зусім добра...

Анця не памятаў бацькі, не мог нават уявіць сабе, які ён мог быць. З маткаю гаварыў мала і неяк не любіў яе; ці то можа проста баяўся, бо яна раніцаю, немаведама нашто, будзіла яго, калі яму хацелася спаць, увечары гнала дадому, калі яму хацелася гуляць, і зімою часта не давала свайго каптана, калі яму вельмі ж хацелася быць на двары...

Матка па цэлых днях і позна пачамі мыла людзям бялізну, насіла цяжкімі вёдрамі ваду і мала звяртала ўвагі на Анцю: дасць яму есці і пачынае сваю работу і нічога не гаворыць. Нават часам зусім выяўлялася тое, што яна не любіць Анці. Бывала, што без ніякай прычыны адцягне яна ад сябе Анцю за вуха, калі ён уздумае пабоўтаць ваду ў ночвах, дзе мокне бялізна. І Анця жыў сам сабою; з'яўляўся дадому позна, мурзаты і часта мокры, з разарванаю адзежаю і часам з сінякамі на лбе. Тады маці моцна на яго крычала і гаварыла суседзям і яму, што з яго нічога не будзе, што з Анці выйдзе басяк і жулік,

пачынала плакаць і біць яго; і ён пачынаў плакаць і стараўся ўцячы. Выбегшы на двор, ён садзіўся пад акном, выціраў прыполам сарочкі вочы і твар, і было яму чутно́, як маці моцна скардзілася на сваю горкую долю. І яму тады здавалася, што гэта сапраўды ён вінават, і хацелася яму пашкадаваць матку, але раптам прыпамінаў, як яна біла яго, і з'яўлялася ў яго і злосць, і цяжкае, горкае непаразуменне — хто гэта тут ва ўсім вінаваты?.. Пасядзеўшы так трохі, Анця бег далёка ад свайго дома і зусім забываў праз усё гэта, лазячы між людзей па вуліцах ці па загародных агародах...

Апошняю зімою хадзіў Анця ў піянерскі атрад і, калі прыходзіў вечарам дадому, адчуваў сябе як бы старым і сталым чалавекам, які зрабіў якую-небудзь вялікую і цяжкую работу...

Тады ў яго менш стала з'яўляцца нездавальнення ад таго, што маці нейкая як бы чужая яму, і яшчэ больш падвал той з параю ад гарачай мыльнай вады, дзе жыў ён, стаў здавацца яму як бы чужым, часовым прытулкам, дзе трэба толькі пераначаваць і ўцячы, каб маці нават і не бачыла, а пасля з'явіцца абедаць, каб, паабедаўшы, зноў згінуць адсюль.

Раз Анця падслухаў такую гаворку мацеры з суседкаю:

— Жыццё праклятае,— гаварыла маці грубым сваім голасам,— жывеш адна між людзей, і ніхто табе слова чалавечага не скажа ніколі...

Анця зашавяліўся ў кутку нехаця, і маці, азірнуўшыся, крыкнула ў яго бок:

— А гэты, жулік, басякуе па вуліцах, хоць бы ён дзе, шэльма, галаў звярнуў...

— Чаго ты лаешся? — панура сказаў Анця.

— Ідзі ўжо, ідзі...— таксама панура крыкнула на яго маці і штурхнула лёгка яго ў галаў.

Анця пайшоў паволі ў сені, пастаяў там трохі і выйшаў на вуліцу. Там убачыў, як малыя, такія як ён, хлапцы папорваліся з шарманшчыкам, і ён пабег туды і зайшоў з усімі далёка ў горад.

Шумна было на шырокай гарадской вуліцы. І трэба было на кожным кроку сцерагчыся, каб не папасціся ў бяду,— могуць малога растаптаць людзі, што цэлымі натоўпамі спяшаюць некуды, пасярод вуліцы можа пераехаць аўтамабіль... І хоць быў вельмі да гэтых грымучых

вуліц прывычны Анця, а ўсё ж неяк пабайваўся і азіраўся па баках, пераходзячы ўпоперак вуліцу.

Было тады блізка да вечара. Два тыдні ўжо, як сышоў снег, і вуліцы пачыналі пылець. Было горача нават Анцю, бо разагрэўся ён, моцна бегучы перад гэтым. Ён азіраўся і перабягаў на другі бок вуліцы, і тут над самым вухам яго загуў аўтамабіль. Анця кінуўся ўбок, а тут пёр некуды матацыклет, і ўжо не было тут куды дзецца маламу, няможна было паспець зрабіць што. Анця закруціўся на адным месцы, а машыністы не мог зразу спыніць машыну, і матацыклет моцна штурхануў Анцю ў бок. І не то што каб вельмі моцна Анцю зразу забалела, а страх нейкі аглушыў яго, а боль з'явілася праз хвіліны дзве, і Анця моцна пабег упоперак вуліцы, не разбіраючыся, куды бяжыць. І ўжо падбегшы да нейкай вялікай белай сцяны, адчуў раптам, што страшна баліць і пячэ нейк там, дзе стукнула машына. Цяжка стала дыхаць і бегчы яму, і ён кінуўся на ўсходы каменнага ганка. Каля яго пачалі раптам збірацца людзі:

— Дом дзе твой? — груба запытаў у яго нейкі чалавек.

«Гэта ж міліцыянер?!» — вяла падумаў Анця, і страх нейкі ахваціў яго. Страшнымі сталі і людзі, што збіраліся каля яго і праходзілі міма, страшным стаў гул, што ішоў аднекуль, страшным стаў змрок вечара, што навісаў ужо над горадам.

— Дом дзе твой? — зноў сказаў міліцыянер.

— На Дзеравянай вуліцы,— палахліва адказаў Анця.

І здалося яму тады, што нешта зараз пачнуць рабіць з ім страшнае і пакутнае для яго.

Міліцыянер раптам падхваціў яго пад пахі і ўсадзіў у нейкую брудную каламажку. Сам сеў і пасадзіў яго на калені і загадаў фурману ехаць.

— Баліць? — запытаў міліцыянер, нагінаючыся да яго твару.

— Не! — адказаў Анця, баючыся, што калі скажа «баліць», то яго будуць ушчуваць за гэта.

Яны доўга ехалі па крывых вуліцах, каламажка моцна падскаквала па бруку, і ад гэтага больш яшчэ балела Анцю.

— Каторы дом? — сказаў міліцыянер.

Анця паказаў моўчкі рукою. Каламажка прыпынілася, і міліцыянер панёс на руках Анцю ў дом.

На дварэ гусцеў вечар.

Ніколі Анця не баяўся так мацеры, як цяпер. Раней ад яе можна было ўцячы, калі адчувалася, што можа яна біць. Калі мякчэйшай была яна, нават трохі жартаваў з ёю Анця, а гэта востры, ніколі рапей не перажыты, страх ахваціў яго. Здалося яму, што падвал цяпер — гэта пастаяннае месца для жыцця, а свет вакол — гэта прытулак.

Міліцыянер пасядзеў трохі, раздзеў Анцю, агледзеў яму бок, і там трохі шкура была абшморгненаю. Анцю балела, але думаў ён: «Пачні плакаць, то горш будзе, трэба маўчаць, як бы нічога і не здарылася». І тады больш усяго захацелася яму, каб усё было ціха, каб забіцца дзе-небудзь у цёмны куток ды, сцішыўшыся, перапакутаваць там, пакуль пакіне балець.

Міліцыянер выйшаў, і маці, што сказала толькі некалькі слоў, цяпер зусім змоўкла. З закасанымі, мокрымі рукамі яна стала сярод раскіданай па падлозе бруднай бялізны і нейк іначай, як заўсёды, пачала глядзець на Анцю. І так яна глядзела на яго, што не мог Анця трымацца больш так, як намерыўся; мацерыны вочы раскідалі і перавярнулі ўсё, што было ў яго на душы. Анця як сядзеў на падлозе, так нагнуў галаву сабе да кален, памаўчаў так з паўхвілінкі і раптам, для сябе самога нечакана, моцна заплакаў. Тады маці паволі падышла да яго, пагладзіла трохі яму сумную і задумёную галаву і раптам села на падлогу поплеч з ім. І таксама нечакана для самой сябе абняла Анцю мокрымі рукамі і так моўчкі сядзела. Анця падняў сарамліва галаву і ўбачыў, што па яе твары ціха цякуць слёзы. І Анця мацней яшчэ, з нейкім ціхім крыкам, заплакаў.

За вокнамі ляжаў цёмны вечар, у кутках падвала было цёмна. Адтуль выпаўзалі чорныя тараканы, шавялілі сваімі доўгімі вусікамі. Густа пахла мокрай бялізнай; пара з мыльнай вады згушчалася пад столлю. Чырвоны свет лямпы патроху цямнеў.

А яны ўсё сядзелі, абняўшыся. Анця суцешыўся, асушыўся ад слёз і твар мацеры. Ніводнага слова не сказалі яны адзін аднаму, і ўсё маўчалі так.

І доўга яны так сядзелі, абняўшыся, ахвачаныя новым для іх і важным для людзей шчасцем блізасці між сабою.

Ужо была глыбокая ноч. І ў падвале толькі чутно было, як на вуліцы нехта захалоджаным і хрыплым ад бяссонніцы голасам паганяў каня.

# ЯК МЫ ПАКІНУЛІ ХУТАР

Надвечар неба — як кіслае малако; і на дварэ робіцца ветрана. Вецер — як цёплы дых вялікага, дурнавата-добрага стварэння. І ад таго, што вецер такі, і неба, і мяккая хмурнасць блізкага вечара — здаецца, што няма табе чаго быць там, дзе ты ёсць, цягне цябе некуды ісці па дарогах і напрамік зямлёю.

На хутары пахне салодкімі агуркамі і старою саломаю. Нам надакучыла наша аднастайнасць, і ў гэты час дня робіцца трохі нудна — за дзень утаміліся мы перавозкаю гэтае саломы з хутарскіх стагоў у саўхоз. Павольнасць работы збівае ў непарадак думкі, а жаданне прывесці думкі ў парадак утамляе. Пад вечар, распрагаючы коні, мы падумваем аб тым, як гэта нядобра, што вельмі малыя ночы, а назаўтра трэба рана ўставаць. Гэта нас мучыць усіх аднолькава, гэта ў нас цяпер бадай-што самае важнае. Нас тут трое. Стась, прысланы з саўхоза для перавозкі саломы; яму год семнаццаць; твар у яго ў рабаценні, абветраны і ад ветру аблуплены нос здаецца чырванаватым; вельмі белая галава; ён тоўсты, нізкі і, як мяшок, непаваротны. Другі — Юлік. Высокі, сухі і моцны. Верхняя губа яго ў самыя малыя гады, год дваццаць шэсць таму, была нейк скалечана, ды так і расла ўвесь час, пакуль трэба было. І цяпер яна сцягнута на сярэдзіне носа, ад чаго заўсёды відаць два пярэднія зубы; і здаецца, што Юлік нарыхтаваўся пырснуць дробным рогатам. Юлік — далёкі сваяк гаспадара хутара Юрася Зыля. Цяпер адносіны між імі самыя дрэнныя — нягледзячы на сваяцтва, учора Юлік цераз прафсаюз утварыў з Юрасём працоўны дагавор. І сягоння Юрась увесь дзень, прыходзячы да нас, бубніў сабе нешта пад нос. А ўбачыўшы, як Юлік, уціскаючы воз, парваў вяроўку, сярдзіта буркнуў:

— Работнік з цябе, як з Стася маханік.

Стась доўга не чакаў з адказам:

— З мяне маханік такі, як з цябе, дзядзька, вінакур.

Юрась, мусіць, прыпомніў раптам нядаўні штраф за самагонку, бо моўчкі адвярнуўся, плюнуў і зноў сказаў Юліку:

— От ты тут вяжаш, вяжаш, а каля вузла вяроўка зноў у цябе трэсне... З гэтага піва квасу не будзе.

— А наконт піва таксама слабó,— адказаў Юлік.

— Чаму?

— Таму, што з гэтымі вяроўкамі нельга арудаваць. Гэта вяроўкі? Гэта гнілая кудзеля, а не вяроўкі.

— Пашукай лепшых... Здаецца ж, ты навіў іх многа за зіму!

— Я вяровак віць не гадзіўся!

— Не гадзіўся ты!..

— Такога пункта ў дагаворы няма! — укалоў Юлік Юрася ўчарашнім дагаворам.

Юрась пачырванеў раптам і скрозь зубы ціха вылаяўся:

— Г-гадзіна!

Юлік не пачуў, і Юрась пайшоў. На гэтым гаворка і скончылася. Толькі Юлік мармытнуў:

— Які чорт гаспадар, такая і работа!

Стась скарыстаў гэтую гаворку для сваіх песень. Перш ён зацягваў тонкім бабскім голасам, нудным, выгінастым матывам:

> З гэтага піва квасу не будзе;
> А наконт піва таксама слабо...

Пасля, раптам прыпомніўшы, хватаў весялей, свіснуўшы і тупнуўшы нагою:

> Які чорт гаспадар,
> Такая й работа!..

Гаворка была забыта. Толькі нейкая варожасць да Юрася засталася. З'явілася яна раптам і ў мяне; Юрась быў багаты, а я вазіў у яго салому.

Распрагаючы коні, Стась сказаў:

— Сягоння мы гуляць пойдзем ці не? Раніцою вельмі спаць хочацца.

Памаўчаўшы і пасля паглядзеўшы на неба, ён ні з таго ні з сяго выказаўся:

— А я дык вельмі люблю кіслае малако з тварагом.

Мы з Юлікам моцна зарагаталі. Юлік ляпнуў рукою навотліў Стася па жываце і пакаціўся, рагочучы.

У тую самую ноч, пад дзень, мы ўтрох ішлі напрамкі заворанымі папарамі з вёскі Тадулічаў. Хацелася спаць і балелі ногі.

Юлік сказаў:

— От гэтая ахвота да дзяўчат ісці, каб яе агонь спаліў, няма спакою.

— А я нічога,— адказаў Стась,— я табе буду хадзіць колькі хочаш, і нічога.

— Пачакай, праз год пяць не тое скажаш.

Я падумаў, што і сапраўды праз кожныя пяць год усякі з нас гаворыць іначай, і нарыхтаваўся ўжо наконт гэтага выказацца перад Юлікам і Стасем. Але тут Стась, які ішоў наперадзе пратоптанаю на раллі сцежкаю, раптам прыпыніўся, прыгнуўся і пачаў нечага прыглядацца... Перад намі чарнеў хутарскі частакол.

І шумеў вецер.

— Чаго ты?

— Браткі, нейкая кабеціна плача.

— Дзе?

— Вунь сядзіць у белым каля плота.

На хутары былі дзве жанчыны: Юрасёва дачка Манька, ад першай яго жонкі, ёй год васемнаццаць, і цяперашняя жонка яго — Надзя, ёй год дваццаць.

— Каторая гэта з іх? — падаў думку Стась.

Юлік, які па сваёй прывычцы, блізкай нам усім, не любіць мацнейшых, не меў вока на Юрася і на ўсё, што было блізка да яго, плюнуў і сказаў:

— Ат, выжла некаторая выцягнулася, не ўсне ніяк, ліха ёй? Хадзем пройдзем там каля яе.

— Нашто канечне каля яе, хадзем, як ішлі.

Але Юліка ўзяла цікавасць. І ён пайшоў. Крута павярнуў налева і зліўся са змрокам там, дзе бялела жаночая постаць. Мы з Стасем прайшлі агародамі да гумна і пасляліся на леташнім сене... Цяпер спаць не хацелася. Усякія думкі лезлі ў галаву. І адна больш усіх: «Тут недалёка мучыцца жанчына. І можа ты, чалавеча, памог бы што тут, але могуць падумаць: от не прамаргаў хлапец выпадку». Што ж, па свеце ўсюды і ва ўсім «заработак», адсюль выходзяць і людскія меркі ўсяму.

— Лепш спаць,— сказаў я моцна.

Стась падняў галаву побач са мною і панура сказаў:

— От я не вельмі практык яшчэ тут, у іхнім гэтым дзеле, а то б я гэтага Юрася прыглушыў бы.

— Чаму?

— А чаго ў яго жонка плача... Гэта жартачкі — гэтакая жонка!

— Там яны ўдзвёх,— сказаў Юлік, з'явіўшыся ў дзвярах,— жонка і дачка. Адна плача, а другая маўчыць...

І тут жа змяніў тон:

— Каб на маё ўзнанне, дык я гэтага б Юрася растрыбушыў бы... Не папаўся ён мне цяпер на вочы, я яго палажыў бы, як бачыш.

— А каторая з іх плача?

— Жонка.

— А чаго?

— Ну, як табе здаецца?!

І тут, укладаючыся спаць, Юлік расказаў нам, як летась ажаніўся Юрась. Як яна, год дзевяць таму, пасвіла ў яго на хутары каровы, пасля, як падрасла, жыла ў бацькоў на суседнім бедным хутары, як не хацела, баялася ўсё ісці за яго і як ён хадзіў да яе на хутар кожны дзень. Пасля ўгаварылі яе, і яна першыя часы была нават вясёлаю, а з канца зімы засумавала раптам.

— Я раней, дык нават і рады быў,— пачынаючы драмаць, сказаў Юлік,— думаю, гаспадыня слаўная на хутары, бо гэтая Маня вельмі ж ведзьма, каб на яе агні.

Ён памаўчаў і зноў сказаў:

— А яно, калі паглядзець, дык і яна штучка добрая — раней ідзе замуж, а гэта выбрыкі свае паказвае...

Стась перарваў яго:

— Ты ж сам гаварыў, што яна ісці не хацела.

— А чорт іх,— адказаў Юлік.— Мне ўсё роўна... Пайду я адгэтуль, яй-богу, пайду... Вазьму ў Тадулічах зямлі, пастаўлю хату і жанюся...

Ён задрамаў.

— Як, Стась, ты аб гэтым думаеш?

Стась таксама спаў.

А Юлік! — дагэтуль ён падабаўся мне як тып; я любіў падоўгу глядзець на яго, глядзець, як у залежнасці ад настрою паволі і тупа мяняюцца рысы яго ўпартага твару. Цяпер раптам, у дадатак да ўсяго гэтага, ён стаў мне чамусьці праціўным.

Я паволі падняўся і пайшоў к дому... Пад босымі нагамі слаўна маўчала трава. Пачынаўся дзень. За агаро-

дамі шарэлі стагі старое саломы, трохі далей, на папла-вах, вызначаліся дрэвы. Каля дома зусім было ціха. Я зайшоў з таго боку, дзе павінны былі быць жанчыны,— нікога там не было.

У мяне тады з'яўлялася прывычка пасмяяцца ў другую хвіліну над тым, што ў першую здалося трагізмам. Адкінуты пасля, гэты смех заўсёды памагае праверыць сапраўднасць і глыбіню кожнага трагізму. І цяпер, не ўбачыўшы жанчын, я шырока стаў нагамі на сухой зямлі, весела і моцна плюнуў на пясок і падумаў: «Юрась стары, то якое дзіва, што Надзя выйшла з Манькаю пасядзець трохі: а што яна плакала, то на тое яна і жанчына. А яшчэ калі занялася марамі, дык от табе і ўся музыка. Трэба ж мець асалоду і паказаць сябе. А тут яшчэ можа з суседніх хутароў хлопцы падышлі».

Але выйшла так, што ніякіх трагізмаў правяраць мне не прыйшлося. За акном пачулася гаворка:

— Юраська, ну, нічога мне не трэба, і я пайду,— чуўся нізкі і ціхі жаночы голас.

— Ты некага іншага знайшла! — у непаразуменні стараўся злаваць мужчына.

— Ну, я не люблю цябе, не магу любіць цябе!..

— Што я табе зрабіў кепскае?!

— Хіба я кажу, што ты мне кепскае зрабіў?

— Кажаш, усё ў табе гаворыць аб гэтым!

— Ну, ты добры, над цябе няма найлепшага чалавека. Але я пайду адсюль куды-небудзь...

— Не пойдзеш!

— Ну, пусці мяне.

— Не пойдзеш!

Чуваць стала, як жанчына пачала плакаць.

— Гавары, хто ён такі?!

— Няма яго.

— Як няма?!

— Няма.

— Ты скажы, усё роўна дазнаюся.

Голас мужчыны памякчэў. Жанчына памаўчала трохі і раптам зашаптала:

— Я яго нідзе не бачыла. Дзе тут каго ўбачыш у гэтай адзіноце?

— Ага! То ты, значыцца, бачыць некага хочаш?!

Жанчына пачала злаваць:

— Хачу бачыць. Хачу!.. Я нашу яго ў думках, і заўсёды бачу яго, хоць і не бачыла ніколі.

— Ты звар'яцела?!

Апошнія словы свае жанчына сказала, пэўна, сама для сябе, бо ціха і сумна... І ціха цяпер стала на нейкі час у хаце. Пасля раптам пачуўся шум, нешта стукнула, і абрысы дзвюх постацей выраслі раптам каля акна. Тады я падбег і забарабаніў кулаком у раму.

Ужо на хаду чуў я, як за акном усё сціхла, а я ішоў, стрымліваючы нервовае жаданне пабегчы. За частаколам я спаткаў Маньку — адзетая ва ўсё белае, яна выйшла з кухонных дзвярэй.

— Хто гэта ходзіць?

Я падышоў бліжэй і маўчаў.

— Там,— сказала яна, паказваючы рукою ў бок вокан.

— Я там ужо кулаком у раму стукаў.

— Вы? Былі там?.. Чулі?

— Быў і чуў. Там ужо ўсё сціхла.

Яна ўзрадавалася, пасля задумалася. Мы пайшлі з ёю міма агародаў, і раптам яна, як бы што прыпомніўшы ці да чаго дадумаўшыся, жорсткім голасам сказала:

— А чаго вы ходзіце па падвоканню ўночы?.. Каля адчыненых вокан?..

Яна прыпынілася і груба затрымала мяне за руку.

«Што яе раптам укалола,— падумаў я,— няўжо яна аба мне і аб Надзі што дрэннае падумала? А можа тут уся музыка ў ёй самой?»

Гэтую сваю апошнюю думку я праверыў так: узяў Маньку за руку і сказаў:

— Я думаў, што вас там спаткаю.

Гэта адразу змяніла ўвесь ход справы. Яна глянула на мяне і слаўным жаночым голасам сказала:

— А я не сплю ўсю ноч. Яны там паладзіць ніяк не могуць, а мне непакой. Хоць не начуй у хаце. Заўтра пайду спаць у сад, на сена.

— Гэта там, у гэтыя копы?

— У копы.

Мы прайшлі з ёю да самага гумна, і адтуль я правёў яе назад да кухоннага ганка. Пачыналася раніца.

Праз гадзіны тры, устаўшы, я спаткаўся з Манькаю на двары. Яна ўсміхнулася мне, а я кіўнуў ёй галавою. Раптам па двары прайшла Надзя, хмурая і маўклівая. Мусіць, без ніякае патрэбы яна прайшла да высокае бра-

мы і вярнулася назад. Пасля абышла ўвесь дом, убачыла мяне і прайшла моўчкі. Я пастараўся хутчэй схавацца з яе вачэй. Ціха было.

У той дзень каля поўдня мы скончылі вазіць салому, Юлік стаў раскідаць розумам, ці няма чаго ў яго дагаворы не выкананага Юрасём. Пасля, не знайшоўшы гэтага, пачаў кпіць з Надзіных трагізмаў. Юрась прыйшоў і пачаў бурчаць нешта сабе пад нос. Юлік не выцерпеў і моцна вылаяўся. Тады Юрась накінуўся з крыкам на Стася. Стась падмаргнуў нам усім адным вокам, пасвістаў трохі і паехаў у саўхоз — рабіць яму тут не было чаго. Я правёў яго з паўвярсты ад хутара. І ён сказаў мне:

— Чорт яго разбярэ, што там у іх робіцца.

І, абцёршы губы, пагнаў коні.

Юрась хмурны хадзіў па двары, а Надзя плакала.

А пятай жа гадзіне яна выйшла з дома і гарачаю, пыльнаю дарогаю пайшла з хутара.

І тады я раптам адчуў, што мне цяжка заставацца ў гэтым месцы. Я сказаў аб гэтым Юліку. Той груба пасмяяўся:

— Знайшоў у каго закахацца. Ты ўжо ў Маньку хоць бы, тая хоць дзяўчына.

— Ды я не закахаўся.

— Яшчэ што скажы!

І ён зарагатаў.

Я пайшоў развітацца з Юрасём.

Я пакінуў хутар у настроі, які заўсёды бывае ў часы надзвычайнай чыстаты і тонкасці, вастраты дум і адчуванняў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Нядаўна я пачуў, што Надзя ў тую ж восень пайшла замуж за нейкага меліяратара, а Юрась зноў шукае сабе маладое жонкі.

І мною зноў апаноўвае той настрой, які быў у мяне тады, калі я пакідаў хутар.

# БУРЫ

У ціхіх скаргах непрыбранага жыта чуў я вялікія буры.

За многа вёрст адсюль узрываліся камяніцы, на чыгунках рваліся цэлыя паязды, а тут не было вялікага стуку. Тут проста гарачымі днямі асыпалася пераспелае жыта, і начамі ціха гарэлі вёскі — смерць у цішы страшней за раптоўную смерць у бурах.

Тады жах панаваў над зямлёй; з чорным дымам плыў ён над дарогамі. Быў ён у бляску сонца і ў трывожным шуме жыта. Яно, месцамі зжатае, валялася на зямлі ў расцярушаных мэндліках, рэшта высыпалася на зямлю спелым і перасохлым зернем. Цяпер яго не жалі і не вазілі, і дарогі былі пустыя і нудныя.

Гэтая нуда, перамешаная з жалем і нездароваю, нервовую вастратою, была і ў яго шырокіх змучаных бессанню вачах. Я спаткаўся з ім каля глінішчаў пры кустах і пры вузкай палявой дарозе — ён сядзеў на пыльнай каляіне, падабраўшы пад сябе ногі, і глядзеў на сухую пакутную галаву каня. Конь, худы, страшны сваёй худзізнаю, ляжаў, выцягнуўшы мокрую шыю, на гарачай раллі, хроп і раз-поразу шараваў нагамі па зямлі.

Ён паглядзеў моўчкі на каня і на мяне, ад хваравітасці паморгаў вачыма.

— Палякаў не відаць?

— Не відаць.

— Нашых не відаць?

— Не відаць.

Цяжка было разабраць, дзе фронт. Учора была наша разведка, сягоння ж раніцою, чуць дзень, у разбіўку, невялікімі кучкамі, спешна прайшоў польскі полк.

Цяпер запытаў я:

— Здалёк?

— З-за Нясвіжа.

— Далёка былі загналі?

— За Бабруйск. Заставілі везці нешта, што — сам не ведаю. От налажылі повен воз, а воз стаяў у гумне, а бацька на рабоце ў Нясвіжы... Дык яны то рады былі б, каб я зусім не ехаў, а я ўплёўся; каня шкадаваў, дык яны мне от...

Ён прыгнуўся, і я ўбачыў на яго шыі чырвоны рубец ад нагайкі.

— Адзін калі свісне... От, каня шкода — і мучыцца, і дома няма другога...

— Колькі табе год?

— Каля пакроў трынаццаць будзе...

Нудна махалі крыллем над кустом вароны, нудна крычалі. Толькі не было голай нуды ў чуць жывога каня. Тут была вялікая вастрата — пакутная мяжа жыцця і смерці. І раптам гэтая вастрата перадалася яму, ён усхапіўся на ногі, пацерабіў зрэбную сарочку і сказаў:

— За Бабруйскам конь пачаў прыставаць, а яны гоняць — адно скінеш, другое кладуць. Іх там націскалі... Дык уначы, пакінуўшы драбіны, верхам на яго (ён паказаў вачыма на каня) ды ўцёк. А ў яго ад сібернай дарогі над правым капытам нарыў пачаў рабіцца, дык ён з самага Бабруйска кульгаў-кульгаў, а тут зваліўся сягоння ўначы, есці не ўзяў, а паіць яго — я паіў учора вечарам, як цераз рэчку пералазілі...

Ён зноў сеў і заплакаў.

Я прысеў каля іх абодвух на пяску, і так былі тут яшчэ з гадзіну.

Конь пачаў кідацца ў бакі, качацца па зямлі і стукаць нагамі. Шыя яго больш памакрэла.

Ён дакрануўся да гэтае мокрае шыі рукою і сказаў:

— Халодны пот.

Тады конь пачаў канчацца. Канчаўся ён доўга — цёрся галавою аб зямлю, зямля налазіла яму ў рот, залепліваючы жоўтыя зубы.

— Нутро ў яго здаровае, дык яму трудна канчацца.

Я памаўчаў.

— Ужо!!

Ён яшчэ трохі пастаяў над нежывым канём. Цяпер гэта была толькі куча худога мяса і даўгіх касцей — жывая істота загінула, і ўжо было лягчэй глядзець на гэта.

Мы з ім падаліся ў лес, праляжалі там да вечара, а як закрычалі ў куп'ях начныя птушкі, пайшлі мы ў бок вёсак шукаць на полі бульбы. За ўзгоркамі былі пажары — трапяталіся ў чырвоным бляску вярхі ўзгоркаў, і зорнае неба пакрывалася густым дымным променем. У тым баку раптам загаварылі кулямёты, і тут сціхлі птушкі. Пэўна, што недзе тут быў фронт, і вакол шнырылі палякі... Кулямёты загаварылі з другога боку. Есці нам больш не хацелася. Ноч была трывожная.

Пад дзень тухлі пажары. І раніцою прыйшлі першыя атрады нашых.

Я з ім у той дзень і развітаўся.

Ён пайшоў услед за фронтам, думаючы пра свайго замучанага каня, пра не зжатае ўпору і, мусіць, знішчанае дома жыта. І адчуваў боль на шыі, дзе быў чырвоны рубец.

Я чую яго апошнія словы, і я ўвесь у агні і бурах.

# ВЫПАДАК УВОСЕНЬ

Гэта было адзін раз увосень, за горадам: на зямлі попел і дзындра, і лапаты нашы скрабуць зямлю.

Мы прывыклі да мяккае хмурнасці дзён і вострага стуку сваіх лапат і з думкамі лёгкімі, як бяздумнасць, варушымся на дарозе.

Уверсе растае дым — кагадзе прайшоў поезд, і чорныя дзікія птушкі зноў ляцяць сюды, спакайнеюць і нешта клююць на пяску. І гэтая ціш — як пачатак спакою, што схаваў у сабе неспакой.

Аб гэтым я думаў і глядзеў, як патроху пусцела дарога — канчалі работу і ішлі назад, на таварную станцыю.

Я не спяшаў, я хацеў застацца адзін, вярнуцца ў горад раней. Дык я сеў на вільготны пясок і чакаў, і бачыў, як хутка схаваліся за ўзгоркам апошнія постаці работнікаў — дзве дзяўчыны ў белых хустках і ў сінім адзенні. Патроху ў мяне з'яўлялася журба, што не пайшоў я з імі... Вакол нікога ўжо не было.

Тады я пайшоў паволі, каб хутка звярнуць па прысадах у горад...

Нехта даганяў мяне — я выразна пачуў шырокія крокі і скрып пяску і дробных каменняў пад нагамі. Я пайшоў яшчэ павольней, каб ён мог хутчэй мінуць мяне. А ён дагнаў і сам трохі прыпыніўся і сказаў мне:

— У горад?

— У горад.

— От якраз па дарозе.

Ён быў шырокі ў плячах і нізкі ростам, год пад пяцьдзесят. Крокі яго былі вялікія, моцна шараваў ён палкаю па пяску. І стараўся ісці поплеч са мною.

— Куды гэта мне там пайсці парадзіцца?

— А чаго?

— З жонкаю хачу разлучыцца.

Ён цяпер трохі маўчаў і азіраў мяне, мусіць, каб упэўніцца, ці можна мне ўсё гаварыць. Пасля сказаў:

— Трыццаць год жыву з ёю, як ажаніліся.

— А чаму цяпер разлучацца прыспела?

— І раней трэба было. Адзін раз, калі агарнула мяне нешта — вёз воз снапоў з поля, год сем таму, ды ішла дзяўчына па дарозе, з закрытым хусткаю ад гарачыні тварам, толькі вочы відаць. Я глянуў на яе, дык тады з паўгода нешта давіла душу.

— Дык гэта з тых часоў усё?

— Не, і раней было.

Але я іду з ім поплеч і вось ужо думаю аб ім — гэта не ад гэтага, гэта тып непакойнага чалавека, слаўнага і цікавага ў сваім вечным кіпенні.

— А хто тая дзяўчына, што спаткалася на дарозе, тая, з завязаным хусткаю тварам?

— Не ведаю, хто яе ведае.

Я так і думаў... І вось ужо буры ўскалыхнулі мяне. І зямная воля, неабдымная ў бяздонных суму і радасці вечнага кіпення свайго, агарнула мяне. Глыбіні, поўныя вечных бур, глянулі ў вочы мне.

— Я не пайду сюды. Я пайду гэтаю дарогаю, вось куды!

— Куды?

— На работу. А горад — унь па прысадах.

Ён трохі як бы здзівіўся, прыпыніўся, паглядзеў на мяне. Ён, здалося, пашкадаваў, што гаварыў мне аб гэтым.

— Што ты мне расказаў — гэта добра, мне цікава...

Ён узяўся за казырок і пайшоў.

Я дагнаў рабочых. І вось мы едзем у таварным вагоне ў новыя абшары зямлі. І ў мяне настрой — як адзнакі суму і вясёлы бунт.

Хутчэй у прасторы, у трывогу, у востры сум, у вострую радасць людзей!

Едзем лясамі і полем.

Якія туманы кладуцца вакол!

Восень. І як востра пахне зямля!

# ЯСНАЯ НОЧ

Была восень.

У лесе сцямнела рана. Класціся пачаў змрок на мокрую траву, мох і дубовае лісце. Мацней запахла хваёваю смалою і гнілою карою.

Сяліба лесніка пачала здавацца густою кучай лому, некім скінутага пад ногі старых высокіх хвояў.

Было ціха.

Гаспадары пазапрагалі коні, падабралі вяроўкі, агледзелі вазы з дзеравам і пачалі паволі выязджаць на лясную дарогу.

Пад калёсамі трашчала ламачча, падскаквала ўгору, мокрае лісце бралася за калёсы, і мяккая зямля з-пад яго наліпала на шыны жаўтавата-шэраю жарствою.

Цяжка было коням выязджаць на дарогу. Гаспадары плечукамі пхалі ў вазы, цмокалі і крычалі на коней. Коні нацягвалі гужы, напіналіся і ішлі паволі...

На лясной дарозе палягчэла — тут было цвёрда і раўней, толькі трэба было мінаць каляіны.

Вальней можна было тут ісці каля вазоў, і недалёка быў край лесу.

Хутка злёгку запахла конскім потам.

* * *

За лесам відней стала.

Шырока ляжала палявая дарога; тут і ралля, і мясцамі незаворанае ржышча ляжала паабапал, тут весялей нейк стала.

Коні пайшлі раўней.

Каля пярэдняга воза поплеч ішлі Мікалай Юрчук і Змітрок Ліставы. Мікалаю Юрчуку было холадна — быў

ён лёгка адзеты, у шарачковым старым каптане на кудзелях. Кудзеля ад старасці пазбівалася ў лямец, павылазіла патроху і павыпадала. І Мікалай глыбока засунуў кулакі рук у кішэні старых салдацкіх портак, паціскаў плячыма, стараючыся схаваць шыю ў нізенькі, настаўлены, зашмальцованы і халодны каўнерык.

Змітрок Ліставы, адзеты ў кароткі кажушок, размахваў рукамі, без патрэбы з асалодаю цмокаў і пагукваў на коней.

Ён выкурыў папяросу, плюнуў сабе пад ногі і панура сказаў:

— Надвор'е нядобрае. Лепш бы падмерзла: каторая пара. Бывала, мой бацька расказваў, такія зімы былі — і рана станавіліся, і снегам замятала вёскі.

— То што, гэта добра?! — адказаў Мікалай.— Што ты гэта?

— Яно не добра. Гэта я к слову.

— Па мне, дык няхай бы так колькі хоча было, не холадна.

— Гразка.

— Абы цёпла.

Ззаду падышоў Максім Міхалёў.

— Холадна змрокам зрабілася,— сказаў ён.

— Добра было б дзе пагрэцца,— сказаў Мікалай.

— Дзе ж ты тут пагрэешся?

— Але, добра кажа, дзе ты тут вельмі пагрэешся?

— І-і-і, дзівак ты,— абазваўся Змітрок,— захацеўшы сабаку выцяць, то кія знойдзеш. Гэта раз. Ці варт грэцца, ці не, от гэта. Можа не варт прыпыняцца.

— А дзе ж ты прыпынішся?

— Праязджаючы праз Цагельню, можна на момант забегчы да Пацієўскага, у яго павінна знайсціся што-небудзь.

— Што, ён гоніць?

— І гоніць, і цішком казённаю пачаставаць можа.

— А што вы думаеце, браткі, дальбог, каб гэта на часінку заскочыў!

— Вялікі гурт вельмі, нядобра.

— Што там нядобра! Ды ўсе і не пойдуць.

— А што, толькі табе?

Коні паволі цягнулі вазы. Дарога месцамі была гразкая, цяжкая.

Ужо амаль зусім лёг вечар. Павінна была быць месяч-

ная ноч. Нейк пасля змроку нават ясней стала, і далёка відаць былі нейкія чорныя лапіны на полі — можа гэта кусты якія раслі ці хутары стаялі.

* * *

Пры дарозе ў Цагельні, каля цёмнае доўгае будыніны, прыпыніліся чатыры фурманкі. Рэшта паехала далей.

— Дагонім! — гукнуў услед Змітрок, прывязваючы каня да плота.

— Пабачым,— адгукнуліся спераду.

Насустрач кінуўся сабака, пасля завіляў хвастом і пачаў абнюхваць сляды незнаёмых.

Людзі ўвайшлі ў хату.

Пацieўскі, заможны гаспадар, з навыкамі гандляра, прынёс бутэльку гарэлкі, дастаў аднекуль талерку селядцоў. Запалілі лямпу. І спешна пачалі «грэцца».

Змітрок наліў па чарцы.

— Ах-ч! — сказалі ўсе, выпіўшы.

І, тыкаючы пальцамі ў талерку, ловячы на відэльцы кавалкі пахучых селядцоў з ікрою, закусвалі.

Мікалай пакруціў у руках бутэльку:

— Мае мацунак.

Нехта абазваўся:

— Цеплыня па жываце пайшла.

— Ах, добра!

— Жывей стала, крапчэй чалавеку.

— Адным словам, не дурны гэта выдумаў.

— Ну, чалавек, жывучы, усё мяркуе, стараецца.

Пасля другой чаркі весялей стала.

Не хацелася ўставаць, хацелася быць тут, моцна гаварыць, крычаць, спяваць. Хацелася расказаць усім аб тым, аб чым звычайна не хочацца, не трэба, часамі нават сараматна гаварыць.

Выпілі па трэцяй чарцы і скончылі селядцы.

У дарогу сабраліся нейк трывожна, як бы што рупіла і непакоіла.

* * *

— Но! — моцна гукнуў Змітрок на каня, выязджаючы першым. І пайшоў каля аглаблі, моцна стукаючы вялікімі ботамі.

— Паганяй, паганяй, хлопцы,— яшчэ раз гукнуў ён, весела азірнуўшыся.

— Паганяем,— крыкнулі ззаду.

Ішлі паволі, блыталіся нагамі. Коні стукалі капытамі. Зміtрок заспяваў:

Ой у полі, полі,
Карчомка стаяла.
Трай-рай, рата-тай,
Карчомка стаяла.

Мікалаю здалося гэта вельмі слаўным. Ён пастараўся дагнаць Змітра. Падбег трохі, шморгаючы ботамі. Хацеў палажыць на хаду сваю руку на плячо Змітру, моцна дыхнуў і паслізнуўся. Раптам упаў, ткнуўся нагою пад задняе калясо, уз'ехаўшае на дарожны камень. Калясо, саскочыўшы з каменя, усім цяжарам сырое хваіны на возе стукнула па назе і пераехала.

Яшчэ ён нават усхапіўся, пасля зноў упаў. Упаў ад болю.

Раптам нешта страшнае зразумеў, зажмурыў вочы і закрычаў.

Мужчыны азірнуліся, прыпынілі коні.

Валтузіліся яснаю ноччу па дарозе з нейкім пярэпалахам, спешна гаварылі.

Пасля скінулі з Мікалаевага воза дзерава, саставілі драбіны і на салому палажылі Мікалая з пераломанаю нагой, сумнага, з пабялеўшым тварам ад болю.

# МАЛАТАРНЯ

Спяшалі дамалаціць стоўп аўса, і малатарню спынілі позна. Ужо амаль што сцямнела, як у манежы выпрагалі коні.

Уладзя выпраг свайго каня апошнім — пакуль усе выпрагалі, ён застаўся быў у гумне выцерусіць з кудлатае свае шапкі і з-за каўняра мякіну, пасля закурваў, стоячы ў варотах. І цяпер нікога не было, апрача гаспадара гумна — Марціна. Марцін нешта яшчэ копкаўся ў гумне, стукаў мятлішчам аб нешта дзеравянае і пустое, шумеў саломаю і моцна адхарквау пыл, што за дзень паналазіў у рот і нос.

Уладзя паволі пайшоў у манеж да каня. Манеж быў адкрытым, і відаць былі за плотам снежныя паплавы. Снег ляжаў на іх прымёрзлаю скарынкаю, а перад гумном быў пусты агарод. Паплавы гэтыя раней былі Марцінавы, як вокам сягануць, ляжалі яны, цягнуліся да самай рэчкі, упоперак міма ўсіх палеткаў, і Уладзя падумаў: «От бо, падла, загроб быў колькі ў свае рукі!»

Спешна адпрагаючы каня і выціраючы яго аўсянаю саломаю ад поту, Уладзя слухаў, як моцна адхаркваўся і чмыхаў носам Марцін, і думаў: «Гэта ж ён, ліха яму, нарочна тут корпаецца, пакуль я пайду. Гэта ж трэба — каб хто, а то сусед. Не верыць. Замкнуў бы гумно ды і пайшоў бы, а то трэцца нечага, як бы я тут жэрдкі гэтыя яго пабяру. Як багаты, так і скупы, так і не верыць нікому. Няпоўнае вока, няўтхланіцца ён ніколі».

І, падумаўшы так, Уладзя гукнуў:

— Замкнуў бы ты гумно ды ішоў бы ў хату, там можа жонка вячэраць чакае, а то, відаць, ты тут проста без жаднае патрэбы трэшся!

— Чаму табе?! — насмешна і моцна абазваўся з гумна Марцін.

Уладзя параздумваў трохі над тым, што як даўней, у малыя гады, гадаваліся яны разам і таварышавалі, а пасля ўзросшы, адчыніў Марцін у горадзе нейкую краму, пабагацеўшы, вярнуўся дамоў, і тады ўсяму таварыству канец.

І Уладзя з нейкаю злосцю сказаў:

— Чаго ты гэтак баішся? Чаго ты мяне пільнуеш тут?

— Які цябе д'ябал пільнуе!

— А што ж, я не бачу?!

— Ну, то і добра, калі бачыш. От, балазе, ёсць што пільнаваць. Другі і хацеў бы пільнаваць, ды няма чаго.

— Ды ў цябе ёсць што пільнаваць, я не кажу, што няма. Але ж я малатарні твае не пацягну за сабою, не бойся.

— Як вы ўсе, ліха вам, паразяўлялі горлы на тое, што ў мяне ёсць.

— Чаго ты ўскіпеў, дзе ты тут бачыш тыя разяўленыя горлы?

— Ва-первых, я далжон сказаць, што я жыву не на бацькаўшчыне, а на дзядзькаўшчыне. Бацька мне нічога не пакінуў, я сам прыдабыў.

— Ну, то і добра.

— Паколькі дзядзька мой уміраў і перад смерцю аслабеў, значыць, дык хто яго мог дагледзець як мае быць?! Хто, пытаю я цябе? Я яго дагледзеў, я яго і пахаваў! Ён у мяне пад плотам не валяўся. І калі мне дзядзька ўсё дзвіжымае і нядзвіжымае апісаў, дык вам усім яно ў горле сядзіць.

— Не чапай ты чужога горла.

— Галота.

— От глядзі, каб цябе часамі не абрэзалі. Так з палавіну зямлі і адхвацяць. От тады пасвішчаш. Што ён там табе некалі апісаў, дык гэтыя апісы ў нас цяпер дагары нагамі.

— Дагары нагамі! А-я-яй, ах! Хто гэта цябе выўчыў так дагары нагамі ўсё ставіць. Глядзі, каб сам калі дагары нагамі не выцягнуўся, стуліўшы лыткі ўздоўж лавы...

Уладзя абцёр каня, пазбіраў пастронкі і рушыў дамоў. На вуліцы было цёмна і ціха. Толькі чуваць было, як недзе рыкала карова.

Назаўтра ўзнялася мяцеліца, і малатарні ў ход не бы-

ло як пускаць — замятала манеж, і як ты будзеш выкідаць на двор салому?!

Аб гэтым раніцаю, молячыся богу, і думаў Марцін. Пасярэдзіне малітвы ён раптам чухануў каля вуха і сярдзіта сказаў сам сабе:

— А каб цябе перуны, гэтакую, значыць, работу. Якраз д'ябал мяцеліцу ўзняў.

— Што ты кажаш? — запытала аднекуль жонка.

Марцін скончыў маліцца і тады ўжо адказаў жонцы:

— От ты ніколі не дасі як след богу памаліцца. Заўсёды пераб'еш.

Пасля падумаў і дадаў:

— Думаў за гэты тыдзень, значыць, памалаціць авёс, а тут на табе. Якраз было на тыдзень і вылічыў — Уладзеў конь, Юлікаў і Міхалаў, а тады няхай бы сваё малацілі. Пакуль адробяць коньмі за малатарню, дык у мяне і ярына ўся гатова.

Так ён, думаючы ўсё аб гэтым, пайшоў у гумно выграбці з-пад малатарні ўчарашні авёс.

— Ах, кракатануў нехта варотамі,— от дае, снег як з меха валіць. Адкуль яно і бярэцца.

У дзвярах стаяў Уладзя і Юлік.

— Дзяньдобры.

— Добра здароўе,— адказаў Марцін,— от, ліха на яго, малаціць няма як, час ідзе, і коні гуляюць. Не пашэнціла.

— Але.

— А я от выграбаю зерня.

— Ну, а што, чаму не.

Юлік і Уладзя паахкалі трохі, паскардзіліся на непагадзь, і пасля Юлік раптам падаў голас:

— Чаго мы да цябе прыйшлі, Марцін.

— Ну?

— Разлічыцца хочам за работу. Заплаці нам за тое, што мы табе тут з коньмі пры малатарні былі, і квіт.

— А чаму вы малатарні браць не будзеце? Што вы раздумаліся?

— Не будзем,— сказаў Уладзя,— няма рахунку жаднага. Ганяй каня тут, пасля там, а малатарні — наколькі ты тут вельмі яе дасі. Ты ж лішне тут не высалапіш.

— То што вы, будзеце цапамі ляпаць?

— Нашто цапамі.

Тады Уладзя заявіў:

— Значыцца, пайшлі мы ўчора, павячэраўшы, да камітэтчыкаў ды штурханулі іх, дык яны, раскатурхаўшыся, рашылі — забіраць для вобчаства, значыць, на выплату ў саўхозе лішнюю малатарню. От табе і ўся музыка... Падай грошы сюды.

— Пачакай, куды спяшаеш. У Амерыку ж можа не выязджаеш! Памяркуемся.

— Ураз мне грошы сюды! — сказаў Уладзя.— Звядом рахункі, і дзелу канец. Годзе тут цацкацца.

* * *

Аддаўшы вечарам Уладзю, Юліку і Міхалу грошы, Марцін успамінаў, як некалі ў маладыя гады ён дружыў з імі, пасля дружба гэтая была раскідалася на ўвесь час, і як праз некалькі год ішла калатня з імі за паплавы, купленыя ім у фальваркоўца, пакуль гэтыя паплавы не былі падзелены ўсяёю вёскаю.

Трохі сярдзіты быў Марцін.

# СЦЭНЫ

## I

### Савось

Перад змрокам ціхі і густы туман лёг над горадам. Глуха гулі ў ім вячэрнія вуліцы, і свет ад белых лямп няроўна падаў на вільготны камень. У гэты час дня пералом у безупыннай клапатлівасці сутак; пачынаюцца новыя выяўленні людскіх патрэб і жаданняў...

Недзе зусім блізка ў шырыню людскіх галасоў урэзаўся гул аўтобуса; патроху заціх ён за паваротам вуліц, за далёкасцю каменных кварталаў. Тады аднекуль, на некалькі момантаў, чуваць стала песню, і раптам яе змяніла абсалютная цішыня на адзін найкаротшы момант. І зноў тысячы зыкаў зліліся ў ціхаваты гул. Некалькі разоў міргнулі лямпы ў вітрынах белага дома, з бліштастымі адценнямі дзерава на ім — на скрыжаванні чатырох вуліц; некалькі аўтобусаў, што выпадкова з'ехаліся, прыпыніліся тут, некалькі сот людзей запоўніла раптам гэтую цесную, акутаную туманам, жаўтаватым ад лямп, пляцоўку. Яшчэ недзе за скверам меддзю зыкаў грымнула музыка, і тады зусім сціх, спыніў сваю песню бязногі старац — прыціснуўся да каменнае сцяны і чакаў, пакуль зноў, праз дватры моманты, на кароткі час прасторна і цішэй стане на гэтым скрыжаванні чатырох вуліц.

Яшчэ рана. Не астыла яшчэ пара ў чыгунных трубах, і толькі кагадзе прыціхла жалеза. Дым змяшаўся з туманам і растаў. І туман вее прасторамі... Яшчэ няма зімы, і пры мёртвым свеце лямп дрэвы ў скверах і садах здаюцца зялёнаю меддзю...

І дрэвы, і музыка недзе там каля іх; і мяккая зямля пад імі! Дзерава пахне вятрамі, камень і вапна — прытульнасцю...

Пагодны дзень заўтра будзе!..

Цяпер канчаецца работа прайшоўшага дня. Тут, за

сцяною, у друкарні, спешна канчаецца набор апошніх радкоў газетнага тэксту. Утомлены за дзень наборшчык не думае аб напісаным на маленькім кавалку памятай паперы — рэпарцёр кагадзе прынёс апошнія дзесяць радкоў хронікі: «Для барацьбы з прастытуцыяй і беспрытульнасцю сягоння гарадскі савет пастанавіў знесці два старыя камунальныя дамы на рагу Вакзальнай і Тэатральнай вуліц, каб на ачышчаным пляцы пабудаваць дом для адчынення майстэрняў для жанчын і падросткаў!»

Над наборнаю касаю гарэла лямпачка, і вакол, каля іншых пустых кас, згусціліся цені; і яшчэ цясней і цішэй здавалася ў наборнай; толькі знізу чуваць быў прыглушаны стук — пробавалі пускаць у ход новую друкарскую машыну. Наборшчыку клеткі касы здаваліся шэраю масаю і шрыфт цяжкім у пальцах. Балела каля вачэй.

Спяшаючы скончыць, набраў ён гэтыя апошнія радкі газеты і спусціўся ўніз. Халодная вада з крана асвяжыла твар, і праз дзесяць хвілін наборшчык паволі ішоў па вільготным тратуары. У галаве яго былі абрыўкі з газетных артыкулаў ранняга набору, калі не было яшчэ ўтомленасці і запаміналіся самі цэлыя набіраемыя абзацы: знішчана непісьменнасць сярод дзесяці тысяч жыхарства; вытворчасць на №... заводзе павялічылася на дваццаць працэнтаў; эканомія дроў на чыгунках; забяспечаны правільны падвоз мануфактуры; пашырыць барацьбу з хуліганствам і п’янствам...

Кватэра наборшчыка Люцыяна Марцінюка — два маленькія пакойчыкі. Ён прайшоў цёмным карыдорам, куды выходзілі дзверы многіх суседніх кватэр і дзе трохі дзьмула з разбітага акенца. Дзверы тут усю ноч не зачыняліся — у некаторыя кватэры прыходзілі позна.

Дома дзяўчына Надзя была прыадзеўшыся — некуды збіралася ісці, сядзела, успёршыся локцямі на стол.

— Калі прыйдзеш?

— Я сама не ведаю.

Ён пастаяў трохі, пасля сеў пераабуцца. Цераз паўгадзіны, выпіўшы гарбаты, ён прыпомніў раптам апошнія радкі хронікі, набранай ім перад адыходам дадому. Нейк само гэта выплыла ў галаве. Ён выйшаў у другі цёмны пакойчык і з акна глянуў на двор...

У светлым туманным змроку вырысоўваюцца абрысы тых двух дамоў. І глянуў ён на іх затым, што ведаў іх добра і ведаў іначай, як проста ведаюць старую, асеўшую

цэглу, пакрытую бруднаю, паабдзіранаю вапнаю. Выходзяць яны бакавымі сценамі на гэты самы двор, і вось там чуць прыметна, як адчынены дзверы ў шырокі карыдор.

Карыдор гэты зверху здаўлены цяжкім скляпеннем, столь гэтая нізка павісла, і тады некалькі год таму назад здавалася ўсё Люцыяну Марцінюку, што зараз упадзе яна на каструбаватую прагніўшую падлогу і прыдавіць дзесяткі людзей, што сядзяць і ляжаць тут... Бежанскія камітэты ледзьве спраўляюцца з рэгістрацыяй гэтых змучаных людзей. На звязках лахманоў сядзяць яны днямі і начамі, а хмуры дзень больш яшчэ згушчае цеснату гразкага двара і горада навакол...

Вось над жалезнымі дахамі, мокрымі і дзіравымі на гэтым двары, падняліся вышэй хмары, рассунуліся пад ветрам, і высока глянулі неба сінь і прасторы. Пад такім небам недзе залаціцца ржышча, недзе там мнецца і ўбіваецца ў зямлю непрыбраны, нераспеўшы і падгніўшы авёс. Утоптваецца ў зямлю родную, некалі вясною на худым кані заворaную...

Хмары разыходзяцца, шырыня неба расце, свеціць сонца, і летні дзень мне і гойдае ветрам голле вясёлых дрэў. Там недзе застаўся хворы хлапчук — ад грому гармат схаваўся, і трудна было знайсці яго. І можа сядзіць ён цяпер дзе галодны і паранены на папялішчы; можа ўгноеная кроўю зямля весела выгадавала над ім,— над ім з выклянанымі дзікімі птушкамі за жывую яшчэ галаву вачыма,— кусты густое травы. Колькі дзён уміраў ён?

Родны мой, слаўны мой, я плачу перад табою на жоўтым пяску. Худы твар і белая стрыжаная галава. Зрэбная сарочка, завязаная на шыі грубою істужкаю. Пот, хлеб і бяссонніца.

Перад табою я падаю тварам у жоўты пясок.

Так у ясны дзень выйшаў быў з таго карыдора высокі чалавек. З выцягнутымі рукамі павалі прайшоў ён некалькі разоў па двары і так жа ціха вярнуўся назад. Нячэсаныя валасы на галаве яго былі паднятыя, голая і тонкая шыя пад імі здавалася белаю, і твар дайшоў ужо да апошняга пункта пакутнай і хворай вастраты ў выразах рысаў яго і бляску вачэй. І нечым прышыбленым, і разам з тым поўным страшнага бунту рабіла постаць яго доўгая рудая світка да пят, абы-як падпяразаная кавалкам раскудзеленай вяроўкі.

З таго дня постаць гэтая і твар пачалі тупець і згінац-

ца. Толькі адзін раз пад вечар, як пачаў лажыцца на шэрую зямлю замаразак, доўга стаяў ён пасярод двара, высока выцягнуўшы доўгую шыю сваю, і трымаў галаву ўгору. Мусіць, бачыў ён у вячэрнім зорным небе адценні роднага яму вялікага размаху і былое прытульнасці.

— Савось! — пазваў яго з карыдора грубы жаночы голас.— Савось, Савось!..

Ён маўчаў і стаяў.

Тады выйшла цёмная з змроку постаць жанчыны. Яна падышла да яго і хацела весці яго за сабою, а ён раптам загаварыў аб белай стрыжанай галаве, аб зрэбнай сарочцы на худых плячах, аб хваравітасці і малым росце хлапчука, аб нейкім жоўтым пяску каля сіняй сытай травы, аб тым, што яму ніхто не забароніць, што не мае права забараніць пытаць у людзей дарогі туды, прыйсці туды, легчы тварам у той пясок і маўчаць на ім.

— Хадзем,— сказала жанчына.

— Маўчы і не гавары,— адказаў ён глуха.

Тады жанчына пайшла, а ён да белага дня ўсю ноч прастаяў так. А назаўтра Люцыян Марцінюк убачыў яго ўжо нейкім іншым: знадворку прайшоў ён у свой карыдор, здаўся ён старэйшым, у постаці быў сагнуты, ідучы, гойдаўся ў бакі, і адценні нейкай тупасці ляглі на твар — твар расплыўся і пажаўцеў. І ён падоўгу мог і любіў стаяць на адным месцы, глядзець на што-небудзь, не зводзячы вачэй, і ўхмыляцца нерухомаю ўхмылкаю. Такім яго і знаў Люцыян Марцінюк ужо некалькі год; пасля таго як апусцеў ад людзей стары дом і карыдор. Такім бачыў яго на вуліцах, спатыкаў днём на плошчах. Ён начапіў цяпер сабе на плечы нейкіх клункаў і кацялкоў, як бы хацеў гэтым паказаць: усё маё пры мне, і я тут, і нічога майго і для мяне ўжо больш няма па-за межамі мяне, маіх вачэй і твару. Твар у яго цяпер быў нерухомы, і прапалі да рэшты на яго жаўцізне шчуплыя і рэдкія валасы барады і вусоў.

Днём, як паволі праходзіў ён па вуліцы, гледзячы некуды паверх людскіх галоў, часамі дзеці яго звалі:

— Савось, Савось!..

Ён не азіраўся, не звяртаў увагі, ішоў сабе далей і толькі шырэй ухмыляўся і ўсё маўчаў.

У той самай сцяне, дзе былі дзверы ў карыдор, побач з імі былі другія дзверы — дзіравыя і вузкія. З акон кватэры Люцыяна Марцінюка відаць было, як туды часта

заходзіў Савось — можа ён па некалькі дзён жыў там, калі быў у гэтым раёне горада. Часта адтуль выходзілі нейкія пляжанчыны і заўсёды, кожны дзень, адна, з вострымі плячыма і з няроўнай паходкай — як бы гэта яна ідучы заўсёды была ахвачана вастратою нейкіх моцных уражанняў.

Цяпер вечарам густы туман ападаў на вільготную зямлю двара. І з акна толькі абрысы сцен відаць былі на двары. З шырокага акна, што было ў левай сцяне роўна з зямлёю, падаў шырокі свет. Там, дзе клаўся ён на зямлю, маленькія каменьчыкі відаць былі на пяску, мокрыя і блішчастыя.

І раптам з акна відаць стала: высокі і ўскудлачаны з'явіўся там Савось. Роўна з галавою падняў ён доўгія і тонкія рукі свае і сухія пальцы запусціў сабе ў валасы. Пасля скоранька пацерабіў сабе на грудзях світку сваю і раптоўна лёг на зямлю. І постаць яго на асвечанай скупым светам туманнай зямлі была, як хворая фантазія грубой сілы.

Люцыян Марцінюк адарваўся ад свайго акна, выйшаў на двор і пазваў:

— Савось!

Савось усхваціўся, падышоў да вузкіх дзвярэй у змрочнай сцяне, побач з імі прылажыў твар да цёмнай шыбы акна, паглядзеў так усярэдзіну і адышоўся адтуль і глуха сказаў:

— Ён быў малога росту і худы... Белыя валасы на галаве і хворы.

— Хто?

— Родны мой! — задрыжаў голас у Савося.

Марцінюк маўчаў.

— Родны мой, родны мой!..

І, падняўшы палец угору, грозна падышоў да Марцінюка. Тады Марцінюк жахліва адшатнуўся, падаўся да сябе ў сенцы.

— Плач на пяску! — крыкнуў яму ўслед дзеравяным голасам Савось.

Моўчкі стаяў Марцінюк у сваіх сенцах.

І нейк грозна абышоў Савось двор і зноў паглядзеў у цёмнае акно. Таксама грозна падняў палец угору і як бы што паказаў паверх сцен. Груба вырысоўваліся ў туманным змроку тоўстыя фалды яго халата.

І раптам увесь затросся і кінуўся зноў на зямлю. Закалаціўся на ёй усёю постаццю сваёю. Падняў трохі

твар, аглядзеў зямлю і паволі, як бы з хвораю, пакутнаю асалодаю, палажыў левы бок твару на зямлю з немым енкам:

— Родны мой.

І чуваць было, як ад плачу не мог гаварыць гэтых слоў.

Люцыян Марцінюк падбег і хацеў падняць яго. Тады ён сам усхваціўся, адзін момант паглядзеў на Марцінюка, і раптам твар яго змяніўся. І, крута павярнуўшыся, пайшоў, ужо зноў з дзеравянаю ўхмылкаю, скрозь жалезную браму на вуліцу.

## II

## Пацалуй мяне, дачушка

У той вечар, трохі пазней, да Люцыяна Марцінюка прыйшоў сусед па кватэры — муляр Андрэй, вясёлы чалавек, з першым белым пухам на верхняй губе і ружовым твары. Так, як і знаў яго заўсёды Марцінюк, быў ён у гэты вечар вясёлы, і Марцінюку было прыемна гаварыць з ім аб усякіх нязначных дробязях. Пасля гаварылі яны аб здарэнні на двары з Савосем; а перад тым, як ісці дадому, Андрэй расказаў аб атрыманым з вёскі ад бацькі лісце і што бацька заве яго хоць на некалькі дзён прыехаць. Ён яшчэ гаварыў, як бацька ўпершыню пачаў зваць яго дарагім гасцём і як бацька стаў лепш жыць цяпер.

Ён усё гаварыў, усё расказваў, а Марцінюк думаў, не слухаючы яго, аб сваім жыцці ў маладыя гады ў страшнай беднасці. І як адносіны ў іх вялікай сям'і і адзін да аднаго былі дрэнныя.

І калі Андрэй, збіраючыся ісці, запытаў: «Дзе Надзя сягоння?», і ён яму адказаў пустымі словамі: «Пайшла некуды», нейк іначай, не з самых слоў Андрэя, улавіў ён сэнс яго запытання, і захацелася яму тады нешта слаўнае сказаць Андрэю. Ён правёў яго аж у самую кватэру. Там яны памаўчалі, і абодвум ім захацелася як-небудзь больш яшчэ абвастрыць нешта раптам ахваціўшае іх. Андрэй задумаў ісці ў горад, тады Марцінюк вярнуўся з думамі аб тым, як у маладыя гады свае адносіны адзін да аднаго ў сям'і іх не грунтаваліся на блізасці. Адзін аднаго толькі шкадавалі, але не любілі, і нечага, з востраю боллю, шкода стала яму...

Надзя позна прыйшла. І сказала:

— Чаму ты так позна спаць не кладзешся? Заўтра ж табе ўставаць рана трэба.

Ён глядзеў на яе твар — малады і прыгожы. Адценні бесклапотнасці ляжалі на ім, і загэтым давялося ў гэты момант несвядома адчуць яму, што не было на твары гэтым адзнакаў вострых па глыбіні сваёй дум і перажыванняў...

Вось ідзе яна гулліваю паходкай сваёю па сонечнай вуліцы, поўнай пылу, дыму і зыкаў... І над цяжкімі будынкамі застыла зеленаватае неба. Яно каламутнае трохі ад дыму і яснае ад сонца, і вуліцы пад ім у звоне і стуку. З далячынь іх плыве шырокі гук і абуджвае ўяўленні аб вялікім спяшанні людзей будаваць і тварыць. І камень, і дзерава, і жалеза — поўны грому і бляску. Ранні свет сонца бледны, але белыя сцены ў многа разоў павялічваюць яго сілу, і загэтым зямля і неба — востра-ясныя, зыкі здаюцца мацнейшымі, людзі больш рухавымі... Свісткі паравікоў з вакзалаў, стук вагонаў, звон машын, гул галасоў — узнімаюцца над цвёрдасцю камення і гучаць упартасцю неперсаможнае сілы.

Пад новым рыштаваннем пры няскончаным доме залаціцца пясок і гліна. Варушыцца на ветры занесеная сюды салома і разам з шчуплым зеллем, што сіратліва вырасла каля сцен, павявае задуменнасцю. Уверсе над рыштаваннямі стукаюць малаткі, унізе шаруюцца аб пясок лапаты. Грузавікі падвозяць сюды камень і вапну, дыхнуўшы бензінам, коцяцца далей. І іх трэск, разам з вакольным гулам вуліц, як акампанемент ціхім людскім галасам, разам з задуменнасцю саломы і зелля, гавораць аб вялікай сіле чалавека на зямлі. Аб той сіле, якая заўсёды ішла ў клопат аб хлебе і якая, з гэтай жа прычыны, з'яўлялася руйнавацелем створанага ж ёю. І якой суджана, вырашыўшы адвечнае пытанне з хлебам, узнімаць і ўзнімаць людзей да шырокага выяўлення іх вялікасці, радасці і харастваа... І яшчэ аб тым гаворыць вакольнае, што гнуткаю цвёрдасцю свайго розуму, скамбінаваўшы прыродныя сілы і стварыўшы машыны, чалавек часам забыў, што ён тварэц іх, што іх тупая сіла для яго. І, забыўшы гэта, пакланіўся жалезу...

Дзяўчына ідзе сярод гэтага вялікага спяшання. А ён — Люцыян Марцінюк — ідзе другім бокам вуліцы, прыпыніўся пад рыштаваннем і глядзіць на натоўп клапатлівых людзей пасярод вуліцы. Там клапоцяцца, крычаць,

так стаяць і глядзяць. Нейкая жанчына трымае на руках дзіцянё і плача добрымі вачыма; нейкі стары стаіць, успёршыся на сукаватую палку, леваю рукою стараецца выправіць з-за зашмальцованага каўняра сівую бараду і глядзіць, не міргаючы, некуды ў сярэдзіну натоўпу. Люцыян Марцінюк падыходзіць бліжэй: з-за чужых спін заглядвае ўсярэдзіну і бачыць: на зацярушаным бруку стаіць старая жанчына. Сіняе старое плацце густымі фалдамі ахватвае яе сухую постаць, і прыметна, як у яе ад нейкае хваробы распух жывот і дрыжыць худы твар. Яна стараецца слабымі ўдарамі сухіх рук спіхнуць з месца цяжкую для яе каламажку з марожаным. Калёсы каламажкі ўехалі ў пясок, насыпаны вакол рыштавання, і яна напінаецца з усіх сіл, стараецца ні на кога не глядзець і ўсё стукае далонямі рук у дзерава каламажкі. Некалькі чалавек кідаецца памагчы ёй, а яна суха аглядаецца на ўсіх і скоранька гаворыць: «Не трэба, не трэба, я сама...» І ўсё ж нехта падапхнуў каламажку, падкаціў на другі бок вуліцы, і жанчына пайшла ўслед. «Я сама, я сама!..» — яшчэ стаяць увушшу яе словы; і хочацца тады Люцыяну Марцінюку крыкнуць: «Мы ўсе, мы ўсе! І каламажка наша, і цяжкасць наша, і пакуты нашы, усіх... мы ўсе, мы ўсе!.. Хадзем адарвем яе адгэтуль, куды-небудзь іначай завядом яе; або што-небудзь іншае зробім тут... Ах, чаму ты прадаеш марожанае, кладзеш яго худымі рукамі ў вафлі, стаіш адна каля свае цяжкае каламажкі!..»

Натоўп разышоўся, нікога няма каля жанчыны, а яна зноў стаіць спакойна і ціха, маўчыць у вялікай чалавечнай сіле сваёй.

І я там, і мы ўсе там!..

Глядзі, як залаціцца пясок пад рыштаваннем, слухай, як шаруецца ён пад нагамі. Бачыш ты, як растуць сцены пад малаткамі за рыштаваннямі. Ты пакінула дома лахманы і надзела на сябе сіняе плацце, каб марожанае тваё здавалася чысцейшым?! Толькі ці свядома знаеш ты сэнс уцехі, што ад слова здаецца?!

Ты ведаеш, куды іду я?! Сястра мая, мы ўзнялі вялікі бунт за знішчэнне твае каламажкі, за ціхую светласць дзён дзяцей тваіх, бунт проці пухліны ў тваім жываце. І яшчэ некаторы час суджана гэтым вуліцам бачыць цябе... Толькі апошняя ты ў бясконцным адвечным шэрагу пакут людскіх... Хутчэй жа ісці і не быць ні хвіліны бяздзейсным!..

Пыл і дым — нязменныя спадарожнікі перафармавання матэрыялу пры рабоце — лёгкай плёнкай ахутваюць сотні людзей на вуліцах... Вось там Надзя — за пыльнаю кучкаю маладых каштанаў пры ўходзе ў сквер. Дачушка, чаму ў цябе твар такі слаўны, і толькі ці адчуваеш ты вялікі ўздым мой у верным працэсе знішчэння пакут людскіх?!

І вось цяпер глядзіць ён на твар Надзі, а яна аб нечым думае — маўчыць над сталом. І хочацца яму расказаць ёй што-небудзь, каб яе захапіла.

— Чаму ты спаць не кладзешся? — гаворыць яна.

— Дачушка!..

— Табе заўтра ўставаць рана трэба.

— Дачушка!

— Ну?

— Пацалуй мяне, дачушка...

І глядзеў на абдзёртую вапну сцяны. А яна паглядзела, здзівіўшыся, на яго, мусіць, падумала, што ён недзе выпіў, і сказала:

— Ідзі, тата, кладзіся спаць.

І пайшла за перагародку. А ён нейкі час пастаяў трохі і сказаў моцна, каб яна чула:

— А ці памятаеш ты, як малою была ты хворая, а я цябе цэлымі днямі насіў на руках і спяваў табе?

Можа не разабрала яна яго гаворкі, нічога не адказала.

Ён заспяваў раптам:

Вербы ломяцца і гнуцца...

— Я табе пасцялю пасцель,— сказала Надзя.

— А ці памятаеш ты, дачушка, як ты малая тры дні мерзла адна ў халоднай хаце і галодная, а я не памятаў аб табе і на вуліцах вёў дэманстрацыю, і як мяне паранілі ў нагу?..

Ён скінуў валенкі і пачаў слацца.

Сонны падала Надзя голас:

— Заўтра, як будзеш ісці з работы, не забудзь купіць мяса.

Ён раздзеўся, патушыў агонь і зачыніў фортку, праз якую знадворку цягнула туманам.

## III

### «Люленькі-люлі!»

Раніцаю камень мокры ад мяккага холаду. Ноч сплыла і пакінула яшчэ тонкія цені на сценах, і жоўты пясок новага бруку надае вуліцам колер летняга дня. У гэты ранні час можна паволі ісці пустымі вуліцамі — толькі некалькі чалавек спаткаеш на вільготных тратуарах. Кашляючы ад туманнай вільгаці, прыціснуўшы да жыватоў свае кашы, ціха выходзяць з мураваных варот старыя гандляркі абаранкамі. У сваіх кутках пакінулі яны цёплую прытульнасць старых пярын і брудных лахманоў... За раніцу можна зарабіць капеек дваццаць — гэта будзе трохі хлеба, некалькі галовак цыбулі і часам нават кусок селядца ці мяса — на суткі хваціць.

У гэтыя самыя вароты, трохі раней, увайшлі сонныя жанчыны, аддацца сну.

Прайшла адна — з вострымі плячыма, са страшным ад расцёртых парфум тварам. Яна спешна шмыганула ў змрочны, вылатаны каструбаватымі дошкамі пад'езд. Непрыметна, нехаця, стукнула яна вострым носам чаравіка ў жывот гнойнаму і хвораму кацяняці, за непрыгоднасцю выкінутаму на двор. Кацянё папаўзло на тратуар і там засталося ляжаць, аглушанае немым лямантам: бег рыжы, падцёнглы, валачашчы сабака. Два гіцлі агарнулі яго з усіх бакоў, і адзін раптоўна зашмаргнуў яму пятлю на нагах. Зараз жа маленькі конік пацягнуў яго на жывадзёрню. І гіцлі, ідучы збоку, не думалі аб сваіх праступках, за якія адбывалі кару, думалі толькі аб часе, калі выйдуць на волю.

Ціха яшчэ; яшчэ пачаўся шумны дзень. Хіба толькі гудуць і пастукваюць у друкарнях машыны, дадрукоўваючы апошнія нумары газет. У завулках яшчэ астаткі змроку — адценні такога выразу ці колеру бываюць на шэрай няроўнасці замёрзлай зямлі ў хмурны веснавы дзень...

І ў гэты час дня вастраплечая жанчына, што нядаўна таўханула ў падваротні кацянё, увайшоўшы ў сваю каморку, адчула сябе зусім хвораю.

Гэта была маладая яшчэ жанчына, тонкая, з тварам неазначанага колеру, бліжэй усяго нейкіх шэрых адценняў — так колер яго быў сапсуты парфумаю; але захаваў ён

яшчэ на сабе слаўную правільнасць дробных рысаў і адзнакі былога хараства. На ёй было кароткае і прыгожае, толькі памятае плюшавае паліто; паношаная каракулевая шапачка здалёк рабіла галаву яе надзвычайна прыгожаю. Цяпер яна ўвайшла ў сваю вузкую і доўгую, з адным акном, каморку, агледзелася і села на пасцель. Седзячы, паволі раздзелася і прылегла на падцягненую ўгору падушку. Так яна ляжала трохі, зажмурыўшы вочы, пасля тонкім, чуць хрыплаватым голасам пазвала:

— Савось!..

Некаторы час ніхто не адзываўся. Толькі чутна было, як у самым дальнім цёмным кутку нехта соп.

Тады жанчына зноў пазвала:

— Савось!..

У кутку пачулася хрыпенне, пасля цёмныя абрысы заварушыліся. Паволі паднялася доўгая постаць, ціха падышла і стала каля пасцелі.

Жанчына абазвалася:

— Савось, я зусім хворая.

— Хворая,— як лясное рэха, сказаў Савось.

І шчыльна стаў пры пасцелі. Ён быў надзвычайна высокі і не ў меру гэтаму вузкі ў плячах. Галава яго была малая, твар дробны і зморшчаны. Трудна было напэўна сказаць, колькі яму гадоў. І глядзеў ён на хворую жанчыну шырокімі вачыма, не міргаючы імі, як бы гэта баяўся ён выпусціць з вачэй нейкі надзвычайны вобраз, поўны для яго ўцехі. Ён так стаяў доўга, пасля моцна пазяхнуў і са сну пацягнуўся. Пасля адступіў некалькі крокаў і пачаў чухацца. Жанчына папрасіла вады.

Савось вельмі павольна паглядзеў у бок левай сцяны каля дзвярэй, дзе пры абкуранай кафлянай печы стаяў бляшаны імбрычак. Таксама паволі падышоў, нагнуўся ўсёю постаццю, узяў і паднёс імбрычак. Жанчына паднялася і многа піла. Пасля лягла зноў і нічога больш не гаварыла Савосю — мусіць, яе агарнуў сон. Савось жа ў гэтай цішы доўга стаяў моўчкі і глядзеў на акно. Пасля, як бы да чаго дадумаўшыся, мацней падвязаў жоўтыя, палатаныя, ватовыя салдацкія порткі свае, паправіў на галаве ватовую аблезлую шапку, зашпіліў на верхні гузік доўгі, да пят, руды суконны халат і выйшаў паволі за дзверы, стукаючы вялікімі чаравікамі з падвязанымі шпагатам падэшвамі. Неўзабаве постаць яго матнулася міма акна ў бок вуліцы.

Жанчына спала, накрыўшыся сваім паліто і не зняўшы шапкі.

У гэтай каморцы было трохі халаднавата. Падлога тут была вельмі даўно не мытая, каля дзвярэй пасланы быў жоўты мяшок, вельмі брудны. Акно выходзіла на шырокі двор, і напроці відаць былі белыя сцены суседніх кватэр... Можна сказаць, што тут былі нават адзнакі нейкай адмысловай прытульнасці, каб вымыў і вычысціў усё тут і каб цяплей тут трохі было. Толькі што сцены былі вельмі пустыя. Апрача пасцелі, стала пры акне, аднаго крэсла і імбрычка, тут нічога больш не было, толькі на печы стаяў плецены чатырохкутны, белы і чысты куфэрак — мусіць, з адзежаю.

І тая цішыня, якая была тут, больш калола, чым востры крык і вялікі шум.

Так было тут некаторы час, пакуль не пачалі далятаць сюды з вуліцы стук калёс і яшчэ нейкія зыкі, а пасля гудок нейкага, зусім блізкага адгэтуль завода. Тады весялей ад зыкаў тут стала. На двары чуліся галасы, стукалі дзверы.

І з акна слаўна можна было глядзець на насыпаны на двары камяністы пясок, на крапіву, што павырастала каля сцен між каменняў. На двары слаўна было...

Жанчына доўга ляжала.

А тым часам сонца паднялося вышэй, і стрэхі на тым баку вуліцы не засланялі яго свету ад акна каморкі, дзе спала жанчына, і ад акна да дзвярэй прабег слуп пылінак, пазалочаных сонцам. У каморцы зрабілася ясна. І цяпер можна было б заўважыць, як твар жанчыны, мусіць ад гарачкі, пачаў ружавець. Завастрыўся нос, губы сталі тонкімі, вочы некалькі разоў нервова расплюшчыліся, пасля зноў жанчына заплюшчвала іх. І ў іх, прыплюшчаных, калыхалася ўсё адчуваемае скрозь хваробу. У золаце сонечнага пылу падала і не магла ўпасці змрочная столь, цяжка зыходзіліся сцены, увасоблены ў цяжкі твар гэтых сцен, падаў і рушыўся і разам жа паднімаўся і зноў зыходзіўся свет. І вось падняўся, з адчутага раптам, на месцы падлогі, бяздоння, шэры фон; і на ім усе знаёмыя і ўсе незнаёмыя твары, і ні то гэта твары, ні то гэта выпадкі і здарэнні ў дні аж да гэтага моманту. Вунь радасць светлых дзён робіцца вострай, вырастае да нават небывалай велічыні, і раптам пакрывае гэта страх, што пачаўся даўно ўжо; удавалася на цэлыя гады выходзіць з яго і пасля

зноў падаць у яго: вунь хлеб, вялікі такі і чорнаю шэранню сваёю цяжкі, як гліна. Вось блізка ён, толькі працягнуць рукі, выцягнуць пальцы і ўзяць яго, а ён ужо далей і далей, і вакол яго пуста і пуста, і толькі падаць можна ў гэтай пустаце. І от ён ужо, хлеб, толькі раптам што гэта?! — ён вялікай горыччу напоўніў усю істоту, лёг ёлкасцю на душу, такою агіднай ёлкасцю, як звязаная з гэтым агідная сталасць і мокры смех тых, каму даводзілася прадавацца за гэты хлеб...

Унь маленькая дзяўчынка, такая кволая і сіратлівая. Трэба яе атуліць ласкай і блізасцю. От яна паварушыла галавою, агледзела гэты шэры фон, на якім вырысавалася яе ж постаць, яна глядзіць шырокімі, простымі і сталымі вачыма ў прастору, і раптам твар яе ўскалыхнуўся і маленькім і тонкім зрабіўся ад моцнага, раптоўнага і доўгага рогату вакол яе.

— Ах, няўжо ты толькі маўчаць можаш і плакаць?

— Паглядзі, як зыходзяцца сцены і які рогат вакол!

— А ты ці бачыш, як рушыліся сцены і рогат упаў і толькі з таго бяздоння, у які ўпаў, чуцён? Я ж атулю цябе вялікімі пяшчотамі, радасцю і ласкай.

І раптам жанчына заспявала: «Ходзіць вечар за сцяною... прытуліся і засмейся... люленькі-люлі...»

Голас у жанчыны дрыжаў, быў тонкі, перарываўся і пераходзіў у ціхую паспешную гаворку. Жанчына рабіла патугі яшчэ паўтарыць гэтую песню, даспявала да палавіны і замоўкла. Нешта зашаптала і раптам усхвацілася, пасля зноў аб'ехала на падушку і ўжо нейкі час маўчала, утомленая. На лбе выступаць пачаў пот, пасля лоб паружавеў — павялічвалася гарачка.

І раптам зноў узняўся шэры фон, і на ім зноў пачалі падаць сцены і ніяк не маглі ўпасці. І ўсё падала з імі. Паднялася раптам ужо нейкая магутная постаць Савося і ўсё вырастала і вырастала...

— Савось, Савось! Дай жа мне вады, цеплаватай: не піць хачу я, а каб лагадней у роце было, сухі і вострык язык. Я ж цябе даўно ведаю, мы ж разам сядзелі тады ў тым шырокім карыдоры, пад мураваным скляпеннем... І ці ведаеш ты, які ты бываеш смешны, калі тонкі пыл кладзецца на дварэ, а ты глядзіш угору!.. У цябе шыя такая доўгая тады, тонкая, жоўтая, зморшчаная... Я не люблю шыі твае, страшнае і непатрэбнае... А жоўты колер люблю! Унь дзяўчынка адзета ў жоўтае. Такая тоненькая

і маленькая. Гэта яна хоча вады... Чаго ж ты, малая мая, схіляеш так галаву, і смяешся, і маўчыш, і глядзіш так. Не падай, не падай! Ах, не падай!.. Люленькі, люленькі-люлі... Дай мне вады, Савось! А ты не хочаш даваць, ведаеш, што не можна вады... Тады пакліч Маню... Маня, сюды падыдзі, бліжэй! Ты ўчора казала мне, што я хворая, а я, бачыш, зусім не... Бачыш жа, ты мне вады не падавай, я сама вазьму, я не хачу, каб мне хто падаваў! Толькі што імбрычак уцякае, усё далей і далей... Глядзі ж...

Жанчына ўсхвацілася і пайшла да дзвярэй, дзе заўсёды стаяў імбрычак з вадою. І шаптала скоранька:

— Толькі што падлога хіліцца направа, набок. Але я ўстаю. Я ўстаю! Я заўсёды стаяла моцна на ўсякай падлозе. Вып'ю вады і буду стаяць. Толькі ты пабудзь, пабудзь!.. Чаму ж так усё бяжыць?

Жанчына падалася ў бок акна і аб'ехала на падлогу, галавою напроці шыбы.

Сцены зышліся і закружыліся. Залатыя пылінкі сталі чорнымі.

Зямля ўцякае, сцены больш зыходзяцца і падаюць, падаюць...

## IV

### Аб апошніх марозах

Па поўдні прыйшла сюды другая жанчына; у шэрым, жаўтаватым вязаным шалі; ішла яна спешна, затаіўшы на твары сваім нейкую думку, якую, здавалася, хацела тут жа ўсім расказаць,— такі выраз быў яе твару. Па двары прайшла яна яшчэ шпарчэй, з нейкаю асалодаю стукаючы нагамі па няроўных дошках. Каля таго акна яна прыпынілася глянуць у яго і раптам адступіла назад. Яна здалёк паглядзела на ненармальна адкінутую ўгору галаву жанчыны там, за акном, азірнулася вакол, як бы каго шукаючы — нікога не было,— і пайшла ў дзверы. Вастраплечая жанчына сядзела на падлозе, павісшы локцямі на нізкім акне.

— Ты хворая,— сказала жанчына.

Хворая маўчала.

Ёй удалося падцягнуць хворую да пасцелі і сяк-так палажыць яе.

Хворая расплюшчыла вочы і доўга глядзела ў адно месца, паверх галавы прыйшоўшай. Тады прыйшоўшая папробавала гаварыць:

— А я прыйшла сказаць табе, чаму ты не запісалася на работу.

Хворая маўчала.

— Ты не пазнаеш мяне... Калі ты захварэла?.. Я ж Маня, ну паглядзі на мяне. Я ўжо чатыры дні служу на рабоце...

Хворая нешта пачала шаптаць.

— Я ж прыйшла даць табе грошай, пакуль ты станеш на работу... Ведаеш?

І больш гаварыла, стараючыся давесці да памяці хворую.

А Люцыян Марцінюк ішоў у шуме вуліцы дадому. Ішоў паволі — калі рана яшчэ, калі і работа скончана, калі заўтра нерабочы дзень, а цяпер ружовыя і белыя мукалі заўтра нерабочы дзень, а цяпер ружовыя і белыя муры ў вачах глядзяць весела пад ружовым жа сонцам паўдні, а перад гэтым доўгія гаворкі на паседжанні фабзаўкома, і цяпер хочацца, каб як найдалейшаю была дарога гэтымі вуліцамі дадому.

Тут менш шуму і людзей.

Гулка і востра адзываецца брук пад капытамі коней — правялі паіць іх з казармаў, і шэрсць на іх прыгладжаная, бліщчастая, пад адну мерку яны, толькі ў вачах іх розныя адценні глыбіні, і хораша ідуць яны, роўна, толькі спакайней і вальней, як на кавалерыйскіх парадах. Трохі пыліць пад іх капытамі брук, трохі зыходзіць гэты пыл набок, дзе ў драбінах стаіць конь і дрэмле. Нягладкая шэрсць; спутаная грыва нагадвае доўгі ўдар ветру над лапухамі, над канавамі, над цяжкім пылам гарачых дарог, над прэсным пахам аеравых рэчак... Парою вясковага дзяцінства павеяла гэта на Люцыяна Марцінюка.

Ападае пыл на каменне, і камень абзываецца пад нагамі.

Унь ідзе сярэдзінаю вуліцы абадраная жанчына, і патрэбна агледзець гэтую прыніжаную постаць і адчуць бяздонне яе вачэй, каб пасля, праз момант, былі памятнымі яны ў вялікім уздыме; унь пад акампанемент кожнадзённага стуку, з-за ружовых муроў, выходзяць з жалезнае брамы людзі, яшчэ ў сажы, яшчэ ў жалезным пылу... І раптам з-за пavароткі выйшаў Савось, усё ківаў галавою ў такт крокаў сваіх і пазвоньваў кацялкамі за плячы-

ма. Ён, як цень, прайшоў упоперак вуліцу і схаваўся таксама, як раптам з'явіўся на другой вуліцы.

Прайшоў, як цень... Як праходзяць апошнія маразы ўвесну...

Дык гэта ж ты і ёсць апошні цень.

Дык гэта ж апошнія маразы ўвесну... Як апошняя вільгаць на прасохшых дарогах...

Ападае пыл на каменне. І гучыць камень, і маўчыць. Пад сонцам больш яшчэ ружавеюць сцены.

Люцыян Марцінюк моцна ступае ботамі па каменні.

Неахвотна павярнуў ён у двор. Прайшоў няроўна паложанымі дошкамі да дзвярэй сваіх, адчыняючы іх, адвярнуўся набок, упалі вочы на акно напроці, і ён выпусціў клямку з рук і спешна пайшоў туды: незнаёмая жанчына трымала сябе рукамі за галаву, палажыўшы яе на акно. І як бы застыла так.

«Не можа ж яна спаць тут, седзячы».

І Люцыян Марцінюк прайшоў міма акна. Падняўся заплаканы твар жанчыны. І жанчына рукою пазвала яго.

Жанчына спаткала яго маўкліва, так жа паказала рукою на пасцель:

— Захварэла.

— Што з ёю?

— Яна яшчэ ноччу была са мною.

І націснула яшчэ плячыма, адышлася да сцяны і маўчала, апусціўшы рукі. Пасля сказала:

— Я нічога зрабіць не магу.

Тады ён усё зразумеў. Кіўнуў галавою, паказаў рукою на крэсла, прапануючы жанчыне сесці, выбег паспешна. Прымячаючы кожнага чалавека на вуліцах, дабег да міліцэйскага ўчастка. Там нейкім грозным зрабіўся і ўсё спяшаў. Сам з міліцыянерам завозіў вастраплечую жанчыну ў больніцу і нават былі ў яго адзнакі здавальнення тым, што ў больніцы давялося паспрачацца з доктарам... І страшна ўрэзаліся ў памяць яму сінія жылы на шыі хворай, што ўздуліся, як вяроўкі.

Цямнела, як ішоў ён дадому. Загарэліся зоры, маўчалі дрэвы і маўчаў камень.

Як абрысы цяжкіх гор, стаялі далёкія сцены — дзе так моцна запаліліся агні, запаліліся, і тухлі, і зноў свяцілі. І ў астатнім гуле пацямнеўшага дня, як вострая цішыня, канала ружовыя водбліскі ўверсе — астаткі сонечных усме-

шак. І з каменных нетраў паднімаліся новыя зыкі, як змена жалезнаму стуку і звону.

Шырокім крокам спяшаў ён дадому.

Памаўчаў ён і сказаў:

— Дачушка, заспявай мне што-небудзь такое... Знаеш, каб разам і весела і журботна было...

— Ты ізноў,— адказала Надзя, усміхнуўшыся.— Я зараз пайду,— яшчэ сказала яна.

— І я пайду,— адказаў ён.

Але ён не пайшоў.

Увесь вечар у вачах яго стаялі сінія, тоўстыя жылы на шыі ў хворай, высокая і панурая постаць Савося. Увушшу не сціхаў слабы голас незнаёмай Мані, жорсткі шум пяску пад нагамі. І сённяшнія гаворкі, як баявая каманда.

«...Як апошнія маразы... Як апошняя вільгаць на прасохшых дарогах...»

Можна было адчыніць акно, можна было глядзець і слухаць доўга...

Горад паласаваўся светам і змрокам. І задымленыя і чыстыя глядзелі зоры.

Цёмная і сіняя-сіняя глыбіня была ў небе і такая ж ціхая, як шырока гуло на зямлі каля сцен і каменняў... Між грузнасцю камяніц плылі натоўпы. Неслі радасць і сум... І з кожнага каменя ўзнімалася вялікасць сілы.

Над горадам ноч лягла сіняя. І белы свет клаўся на зямлю... І ў змроку грамазд зіліся камяніцы.

## V

## Старыя сцены

У сваіх клунках Савось прынёс некалькі кавалкаў хлеба. Прынёс трохі халоднага варанага мяса, за некалькі медзякоў купленага яшчэ зранку на рынку. Купляў гэтае мяса ён доўга — здалёк глядзеў на стол, там грэлася гарбата, смажылася рыба і ляжала гэтае мяса. Савось пералічыў медзякі, падступіў да стала і стаяў і глядзеў.

— Што скажаш? — запыталі ў яго.

Ён адразу ўсадзіў руку ў міску і ўзяў кавалак мяса.

— Куды ты рукі садзіш! — нарабілі на яго крыку.

Тады ён, ганямела ўхмыляючыся, палажыў медзякі на стол, а мяса ўсё трымаў у выцягнутай руцэ. Медзякі зараз жа забралі і яму нічога не гаварылі. Ён трохі яшчэ па-

стаяў так з выцягнутай рукою і, усё так жа ўхмыляючыся, палажыў мяса ў свой клунак. Трошкі адшчыпнуў яго, узяў на зуб, каўтнуў і пайшоў.

Паўночы ў пакойчыку ён знайшоў пустату. Халодная пасцель, даўно нячэпаная, яшчэ з дзён хворай памятая, надавала гэтай цёмнай нары нейкую адмысловую прытульнасць. На акне ён абмацаў маленькую лямпачку і адвільгатнеўшыя запалкі. Яны не запальваліся, і ён засунуў іх сабе пад шапку на галаву. Так цёмначы і стаяў, пакуль яны не адагрэліся і не падсохлі. Стаяў доўга, не варушыўся. А запаліўшы лямпачку, паставіў яе на падлогу. Імбрычак усё таксама стаяў каля дзвярэй. У ім было трохі вады. І Савось паставіў імбрычак каля лямпачкі, там жа разлажыў свае клункі, дастаў хлеб і мяса і сам апусціўся на падлогу. Ён паволі, доўга і моцна чаўкаў, хлебныя крошкі высыпаў з далоні ў рот, закідаючы галаву ўгору. Як скончыў сваю вячэру, асвяціў лямпачкаю месца, дзе вячэраў, заўважыў яшчэ на падлозе адну ўпаўшую крошку, па велічыні ў дзве-тры галоўкі ад запалкі. Падняў гэтую крошку, палажыў у рот і каўтнуў. Тады, як бы пазаспакайнеўшы чаго, зложыў клункі ў куток, з усіх бакоў агледзеў памятую, раскіданую пасцель, але не зачапіў яе. Лёг у куток на падлозе, галавою на клункі. Не раздзяваўся і падкурчыў ногі. Так хутка і заснуў. І ўсю ноч снілася яму, што многа людзей прыйшло да яго і, каб яму добра было, падаграюць яго з усіх бакоў нечым цёплым і сухім, і ад гэтага яму зусім нават і ўставаць не трэба, а спаць так от тут. У сярэдзіне ночы скрозь сон адчуў, як забалелі ногі ў сагнутых каленях. Тады, не прачынаючыся, выцягнуўся, моцна дыхнуў і зноў супакоіўся, аж пакуль дзень белым светам не асвяціў яго ў гэтым кутку. І тады ён спаў, толькі часцей скрозь сон мармытаў нешта і чухаўся.

Пабудзілі яго моцныя галасы і стук за сцяною. Ён расплюшчыў вочы і прыжмурыў іх — так светла было ў яго ад сонца. Падаў свет на падлогу, сеў залаты пыл пад столлю, наўскасы да дзвярэй. І асвечаныя цёмныя дзверы, здавалася, застылі ў нейкай усмешцы ўсімі сваімі дошкамі і шчылінамі... Позна было.

За акном стукалі і гаварылі.

Стаялі рабочыя з малаткамі, тачкамі, лапатамі. Знімалі ржавы і дзіравы бляшаны дах. Левая палавіна была раскрыта, аб'ехаўшая сцяна кучамі гліны і цэглы ляжала на бруку, і жоўты пыл клаўся на галлё каштанаў. Гліну

і пясок насыпалі на грузавікі і фурманкі, адвозілі за горад, а сцены ўсё аб'язджалі, усё сыпаліся са стукам. І пыл падымаўся і асядаў, паднімаўся і асядаў, як бы для таго, каб закрыць і, не могучы закрыць працэс руйнавання, каб было месца зноў утвараць.

Ахутаныя пылам, пахіліліся вароты ад удараў у сцяну. Раніцаю праз іх спешна прайшлі людзі, што жылі ў двары, і цяпер там было пуста. Дзеці перабеглі гуляць на другі бок вуліцы.

І раптам адтуль выйшаў чалавек. Высокі, з клункам за плячыма, з кацялкамі — як увасабленне нечага выдуманага ці створанага для кпінаў над ім жа самім.

Руды халат, пацёрты і парваны, ападаў да пят, шапка адкрывала зморшчаны лоб. Вяроўка, што цесна перахватвала чалавека на поясе, рабіла яго тонкім і яшчэ больш высокім. Ён стаяў у варотах, не спяшаючы пастукваў палкаю аб дзеравяны мосцік над канаўкаю і ўхмыляўся шырока і спакойна.

Так і стаяў.

— Ты хто? — запыталі яго.

— Ніхто.

Голас яго быў у поўнай сугучнасці з яго ўхмылкаю.

— Як то ніхто?

Чалавек маўчаў.

— Чаго табе тут?

— Нічога.

— Дык не стой тут у гэтым пыле.

Чалавек ступіў крокаў са тры і зноў стаў, як сама ўпартасць.

— Сцеражыся, зараз цэглы будуць падаць.

Тады ён пайшоў упоперак вуліцы. Стаў на скрыжаванні дзвюх вуліц, абярнуўся тварам да людзей і глядзеў на іх работу. Так пастаяў і пайшоў, пагойдваючы плячыма, пазвоньваючы кацялкамі, пастукваючы палкаю...

Да канца рабочага дня сцены былі раскіданы да палавіны. Кучы цэглы, гліны і пяску ляжалі на вуліцы.

Яшчэ тады, як падаць пачала столь, заўважылі ў адной з напалову засыпаных нор пасцель і некаторыя рэчы. У неўразуменні вынеслі іх на двор. Пасля хацелі вярнуць высокага, быўшага нядаўна тут чалавека, каб распытаць у яго, але ён згінуў за паваротамі вуліц.

Так і забылі аб ім зараз жа, як толькі прапаў ён з вачэй.

Забылі, каб пасля спаткаць яго калі выпадкова ў іншым квартале горада і не пазнаць яго.

## VI

## Апошні раздзел

Пад вясну дні навяваюць радасць і думы.

Здаецца, во зараз растане марозны снег, здаецца, не халодны ён. Сіняе-сіняе неба над горадам, высокае і чыстае,— дык нейк растае ў ім і непрыкметна знікае. І гулкае паветра атуляе ўсё. Гулкімі робяцца зыкі, чулымі робяцца і сцены, і дрэвы, і кожны камень. І на марозе, пад сонцам, паціху капае вада з жалезных дахаў. Звон кожнае кроплі доўга стаіць у паветры — як бы застыў ён, як бы хочацца яму вечна стаяць так сярод гэтых слаўных колераў, сярод гэтага радаснага подыху маладых вятроў...

Цяпер больш гулка абзываюцца стукі, і звоны, і галасы. У ранейшы час часцей гучаць гудкі, людзям, што ідуць кожную раніцу ў брамы заводаў, хочацца даўжэй прайсці вуліцаю... Старыя гандляркі не так спяшаюць прадаць свае абаранкі, злажыўшы рукі на жываце, даўжэй глядзяць яны на маленькія стварэнні — на дзікія птушкі горада, што гаварлівымі сем'ямі клапоцяцца на плошчах і скверах...

Дзеці весела звіняць галасамі.

А сонца — высокае і вострае светам сваім, трохі белаватае яшчэ ад свае маладосці...

У такі дзень, у ранні час, на плошчы збіралася дэманстрацыя.

Люцыян Марцінюк стаяў у левым крыле натоўпу.

Горад здаваўся ціхім роўным шумам сваім. Гэтая цішыня была і ў тым, і ад таго, што як жа спакойна і паволі цёк угору дым з каміноў гарбарных заводаў — дым сіні і тонкі, і цёк у сіняе і тонкае неба, каб растаць у гэтай бяздоннай вышыні. І нават шырокі і часты стук, што дабягаў з вакзалаў, не парушаў шумнай цішыні і ўрачыстасці вялікае людское напружанасці...

Роўным, як пад лінейку вырысаваным на фоне неба, высіцца каменнае тулава будынка перад людзьмі, пад сіненькім дымком, высокім...

І тут — загрымела... заварочалася, як густата пары, як гром тысячаў, і, пакрыўшы тысячы, пакрылі ўсё мядзяныя, трубныя зыкі...

У золаце сонца смяюцца сцены.

Плошча — як жывое мора. І ціхае, і грознае, з скрытымі цяпер сіламі...

І раптам як бура страсянула істоту Люцыяна Марцінюка. Вялікі ўздым запанаваў над усім, і радасць накрыла ўсё: направа, дзе быў праход між дзвюма сценамі людзей, у шэрагах работніц, стаяла вастраплечая жанчына, завезеная некалі ім у бальніцу.

Шырокія вочы на прывялым і пастарэўшым твары глядзелі чыстаю глыбінёю. Яна сабрала ў сабе адценні ўсіх сваіх былых перажыванняў і бачыла з радасцю, але толькі ціхай, натоўпы...

І ў той кароткі адзін момант яна выразам усяе постаці сваe надоўга стала ўваччу чалавека, што глядзеў на яе, што некалі бачыў яе хворую ружовасць вострага твару, тоўстыя, сінія жылы, уздутыя, як вяроўкі, на тонкай шыі яе. І тады яму хацелася, каб яна глянула на яго.

А яна не глянула: у жывой сцяне пайшла шырокім праходам па звонкаму, мёрзламу снегу...

А тады ўжо калыхалі натоўпы, як цвёрдыя сцены рушылі ісці ці то падаць, каб зараз жа зноў устаць.

І зразу ж зноў грымнула медзь.

Ахнулі ж і сцены і ўзнеслі гром.

І нібы гэта не музыка гудзела, а грымелі панурыя сцены, мёрзлы снег, сінь бяздоннага неба. Нібы гэта чулыя каменні спявалі і маўклівыя дрэвы моцна дыхалі.

Як бы гэта сонца разліло радасны смех.

Беглі і беглі громы. Усхватваліся на цвёрдасці сцен. Узнімаліся над цяжкасцю цэглы.

Смяяліся ж і гаварылі.

Грымелі і беглі.

Беглі, беглі!..

# ПАЧУЦЦІ

## I

На тым беразе гараць агні і чутно, як там на нечым іграюць. Суха неяк выбіваюць такт кароткія зыкі і будзяць над зямлёю гуллівасць. Пры агнях варушацца постаці людзей, яшчэ зусім ясныя ад ружовага вечара. Яшчэ і стук нейкі чуцён, і добра відно, як каля пярэдняе палатнянае будкі трое людзей не то гэта памагаюць музыцы, ці то самі поўны ёю: дробна ляскаюць яны ў такт далонямі рук... Нехта крычыць, нехта як бы плача — можа гэта якая балотная птушка ўзнепакоілася ад людскога шуму... І ўсе гэтыя зыкі напаўняюць змрок асенняга вечара і аддаюцца рэхам у прырэчных паплавах...

З гэтага месца відны яшчэ далёкія і блізкія хутары і вёска,— лясы далёка, чуць відны сінню на даляглядзе, і толькі нізенькія кусты лапінамі ўкрываюць паплавы...

Усё больш гусцее вечар, і ўсё весялей робіцца на беразе. Мацней пачынаюць іграць, непрыметныя адгэтуль, нейкія суха-траскучыя музычныя інструманты раптам развіваюць з цеснага жмута зыкаў вясёлы галёп, і тады ўліваецца сюды нейкая песня, востра-крыклівая, насмешлівая над усім і разам з тым задумёная. Яна без слоў, і толькі чутны ў ёй крыкі:

Гоп-гоп, ло-ла-ло-ла,
Гоп-гоп, ло-ла-ло-ла!

Больш робіцца стуку рукамі, больш шуму, і ад таго, што дагарваюць агні, здаецца, што гэта і кусты, і берагі сцішаюцца, каб слухаць вяселле цыганоў.

І ўжо неяк знячэўку выплываюць з таго бясслоўнага і крыклівага пачатку словы песні. Іх трудна разабраць, толькі чутно, што яны могуць быць усякімі, што не важны яны як тое, што нейкі сэнс перадаюць. Чуцён часты прыпеў:

Гэй, гэй! Э-э-э-эй!..

З-за пярэдняе будкі выбегла постаць жанчыны. Яна раскінула рукамі, і на гэты момант застыла тут імкненне, агорнутае вастратою радасці і смутку аб усім. Матнуліся цёмныя фалды яе лёгкай адзежы, і закалыхалася яна ў тым танцы, які мог толькі радзіцца ў неабдымных прасторах, далёка ад грымучых вуліц і грузных камяніц...

Спявалі вялікія гімны размашыста-кволыя рухі яе постаці, і ад захаплення бяздумнага і плакалі, і смяяліся ў чарнаце вячэрніх прастораў не бачаныя, а толькі адчуваемыя здалёк яе вочы. Відно было адчуваннем, што пад тымі цёмнымі фалдамі гойдаецца яе радаснае цела... І радасць была — што ўсё гэта ёсць, і смутак быў — што неяк далёка гэта, неяк недасяжна і нельга растаць у ім і разам з ім...

На другім беразе рэчкі, над самай вадою, прыпёршыся плячыма да кагадзе пастаўленых слупоў не скончанага яшчэ моста, стаяў Андрэй Сімовіч — задумёны і не вырасшы яшчэ добра хлапец. Усе пайшлі з работы, а ён адзін застаўся слухаць цыганскую музыку на тым паплаўным беразе, і як выйшла скакаць цыганская дзяўчына, ён не зводзіў з яе вачэй. Ён стаяў, забыўшыся, і той настрой — неаформленасць усяго, калі няможна вызначыць, чаго хочацца чалавеку,— навеяны музыкай, перайшоў раптам у нейкае не вызначанае яскрава жаданне пасля таго, як выйшла скакаць дзяўчына. І як бы гэта перадалося яму тое, што было ў тым танцы, згарманізаваным з самой постаццю дзяўчыны. Яна была тонкая ў лініях сваёй постаці, і разам з тым нейкая як бы лёгкая цяжкасць, заўсёды прыналежная толькі жанчыне, была ў ёй. І ад таго, што гарэлі ў яе вочы і калыхаўся стан, ад гэтага абуджваліся ўсякія пачуцці і камбінаваліся ў адно, што можна назваць адным вялікім жаданнем, з хаосам у думках. І яшчэ павялічвалі гэтыя адчуванні яе словы, якія яна неяк гаварыла часта ў такт свайго танца:

Ай-два, ай-два!..

І тады нічога неяк не засталося ў Андрэя, неяк усё згінула, і на ўсім малым і нязначным была толькі ўсё запоўніўшая пачуццямі аб сабе цыганская дзяўчына. І сам для сябе здаўся Андрэй нейкім нязграбным перад тым, што бачыў. Ён усё стаяў, моцна прыпёршыся да вільготнага дзерава; стаяў доўга, як бы прыпыніўся ход часу і ўсяго, што ёсць, і нічога вакольнага не прымячалася і

прымячаць яго не трэба было. Так прастаяў ён, пакуль не пачалі заціхаць цыганы і дзяўчына раптам некуды дзелася. Тады ён, ужо з усякімі думкамі, дастаяў датуль, калі пачалі моцна крычаць нейкія птушкі, і з вялікім смуткам пайшоў дадому.

## II

У той дзень многа ляцела над зямлёй жураўлёў, і сухі вецер узнімаў пыл на дарогах. Дзень быў сонечны і нейкі шырокі... Над старым дахам маўчалі пажаўцеўшыя клёны, і раніцаю з хаты доўга чуваць было, як за сцяною плюхала вада пры студні.

«Мусіць, туман сягоння»,— невядома чаму падумаў Андрэй і нават сказаў гэта моцна, сам не ведаючы, што гэта трэба было яму сказаць, каб накіраваць у нейкі патрэбны бок думкі. Бо яму нешта рупіла, нечага як бы не хапала, і нават сон быў ноччу непакойны. Пасля таго як прыйшоў ён вечарам дадому і палажыў сякеру ў сенцах, адчуў быў раптам нейкую пустату ў сабе, навяваўшую смутак і безнадзейнасць запоўніць яе, а пасля ён пахадзіў трохі па двары, нейкая як бы думка пачала вырастаць у ім; што рабіць — ён не ведаў яшчэ, але адчуваў, што назаўтра некуды пойдзе. Нервовасць была цэлую ноч, і толькі моцна спаў ён пад самы дзень, пакуль не пабудзілі яго на работу. Ідучы, ён паспакайнеў, многа смяяўся ў гаворцы, а як прыйшлі да рэчкі, зразу пачаў ён абчэсваць бервяно і з нейкай вастратою ў невыразным чаканні глядзеў на той бераг, дзе былі яшчэ росныя ад туману цыганскія будкі.

Там было зусім ціха і неяк пуста. Далёка на жоўтым збітым поплаве хадзілі коні, і каля лазовых кустоў над самай вадою стаяў цыган і моўчкі глядзеў у адно месца на ваду. Зашмальцаваныя да роўнага бляску яго картовыя порткі нізка навіслі над халявамі, і загэтым ногі яго здаваліся тоўстымі. Ад гэтага і сам ён здаваўся зусім нізкі. І яшчэ быў ён нейкі смешны на выгляд: зусім малады, нейкі дзіцячы твар няўдала камбінаваўся з купчастымі вусамі і падстрыжанаю барадою. І, гледзячы на яго, Андрэй падумаў, што каб не гэты цыган, то ён пайшоў бы туды, на той бераг, можа і ўгледзеў бы яе.

І ў тую хвіліну, як ён гэта падумаў, адчуў, як ахваціў яго вялікі смутак, і страшна ненавіднаю стала работа.

Захацелася кінуць сякеру далёка ад сябе і самому ісці або на той бераг, або далёка ад усяго. З'явілася млявасць у целе, нейкая ўтомленасць у галаве і разам з тым небывалая дагэтуль рашучасць. Гэта было нешта незвычайнае, бо раней не было ніколі так раптам яе. Ён палажыў сякеру на зямлю, сеў і пачаў закурваць. Пасля ён азірнуўся, стала яму неяк нядобра ад таго, што ніхто не сеў супачываць, а ён толькі адзін, і ён зноў падняўся...

Тады ўжо моцна свяціла сонца, па-асенняму нямоцна грэла, і ўзняўся вецер. На паплавах стала шумней, толькі больш неяк дзіка. Уявілася, што моцна загаварылі кусты і вада, і ўсё гэта адбілася на настроях Андрэя. Стала як бы нешта высвятляцца ў яго разуменнях, і тады ён прыпомніў неяк многа мінулага. Гэта было ад таго, што многа было ў яго звязана і з ветраным шумам, і з крыкам жураўлёў высока. Раптам прыціх ён, бо яшчэ з учарашняга дня цыганская дзяўчына падрыхтавала да гэтага душу — зрабіла яе нейкаю тонкаю і чулаю. З вялікай нецярплівасцю дабыў ён на рабоце да поўдня і тады заявіў, што пойдзе дадому, што нездароў ён. Было яму лепш аднаму ісці напрамік цераз поле.

На той час забылася цыганка. Яна то і не забылася, але думкі і адчуванні аб ёй зліліся з тонкасцю перажыванняў і думак і аб ёй самой, і аб тым, што было ў жыцці, што непакоіла і радавала, застаўляла пакутаваць і ўзнімацца настроям. І дома гэта яшчэ павялічылася.

Там было ціха. Нікога не было. Андрэй ведаў, што і меншы брат паехаў на поле, недзе пайшла на работу сястра, і ён адзін стаў хадзіць па хаце, не могучы разабрацца, ад чаго яму так усё здалося дарагім і любым і разам з тым страшным па тым, як яно ўсё абкружвала чалавека.

Гулі ў хаце апошнія мухі, і вяла поўзалі яны па вокнах, і на адным акне моцна пахлі нейкія агародныя, белыя, позныя кветкі, пастаўленыя сястрой у пабітую шклянку. Ён з нейкім замілаваннем разглядзеў гэтыя кветкі, адчыніў акно, каб выпусціць на двор муху, не думаючы аб ёй, пасля зноў прайшоў па хаце і заўважыў каля самых дзвярэй на лаве нявымыты гаршчок з вараным шчаўлем. І гэта раптам абудзіла ў ім цэлую буру. Ён яшчэ невыразна падумаў аб усім, звязаным з гэтым, і ў нейкай нецярплівасці закурыў, і, закурваючы, раптам прыпомніў.

Быў тады канец лета, і ў той дзень таксама дзьмуў пыльны вецер. Тады ён сама што пачаў узрастаць, і кож-

ны дзень хадзіў за шэсць вёрст у горад вучыцца. Прыйшоў ён быў тады рана і таксама нікога не застаў дома, і весела хадзіў тады па агародах за хатаю. На поўдні ж прыйшла з поля старшая сястра і прынясла ў прыполе адтуль вераб'інага шчаўлю. Таксама палажыла моўчкі яго на лаву і лягла. І да самага змроку нічога нікому не гаварыла. Змрокам жа паднялася, накарміла ўсіх і нават яшчэ перабрала той шчавель і тады лягла, не раздзеючыся, сказаўшы толькі, што ёй моцна баляць грудзі. Ноч тая была зусім для ўсіх спакойнай, бо хто ж яго ведаў, што адчувае і перажывае душою сястра. Назаўтра яна паднялася, так, як і заўсёды, раней за ўсіх, выпаліла ў печы і той шчавель зварыла, і, лёгшы, больш ужо не ўставала. Яны — два браты і сястра — елі той халодны і нішчымны шчавель і думалі, што б гэта такое прыдумаць і дзе б яго дастаць, каб з'ела хворая. І пасля таго дня, з тае самае ночы, пайшлі вострыя дні. Назаўсёды ў памяці асталіся і ясныя асеннія раніцы, і аўсянае поле з белым павуціннем, жураўлі, што ляцелі высока. І пакрываў, і паглыбляў нейк усё гэта выраз твару хворай сястры. Пасля больш яшчэ памятным заставаўся хмурны, сухі і кароценькі дзень, у які моцна пахла з саду халоднымі бэрамі, лістамі і нядаўна выбранаю вільготнаю яшчэ ад зямлі бульбаю. У той дзень, пад вечар, пайшоў Андрэй за рэчку на хутары прасіць дошчак на труну для сястры.

— Чаму гэта я пра гэта думаю і нашто гэта я ўспамінаю? — сказаў сам сабе моцна Андрэй.— Ніхто ніколі пра гэта не думае і стараецца не ўспамінаць.

Але гэта толькі сказаў ён, сам жа не мог адагнаць думак гэтых ад сябе, ды і не хацеў адганяць. Нават была яму нейкая як бы асалода ў гэтым, што так моцна варушыў ён, хоць і не наўмысня, сваю душу. Нават хацелася абвінаваціць сябе ў тым, што дазволіў ён усяму таму адбыцца, хоць тут ужо, разам з тым, была свядомасць — што ж мог зрабіць ён? І тады патроху пачаў ён адганяць ад сябе ўсе гэтыя перажыванні, бо ў адну хвіліну нейк уявіў сабе, што нешта іншае тут трэба, хоць яно і будзе мець пачаткам сваім усю гэтую вастрату і тонкасць. Ён ужо стараўся думаць аб тым, што неўзабаве павінна быць пісьмо з дальняга горада, куды ён напісаў свайму земляку аб тым, што хоча пераехаць у горад. Але думкі аб гэтым не маглі доўга плысці спакойна і роўна. Бо верх бралі пачуцці, непакойныя і вельмі ж узбуджаныя. І як ні ста-

84788 VV

раўся ён узбіцца на звычайны настрой, ніяк не мог. А тут пачаў канчацца дзень, і прыйшла аднекуль сястра — маладая і вясёлая. Дзіўна было яму думаць, што, гледзячы на яе, яшчэ горш нейк сумна яму стала. Але разам з тым яшчэ адчуў ён, што гэта была ў ім нейкая адмысловая, а можа і ўсім прыналежная сіла, якая хоць і так выяўляецца, але здольная ўзняць чалавека да неперяможнай дзейнасці. Тады нейк не так востра мучыўся ён сваімі перажываннямі. І, сказаўшы некалькі нязначных для сястры і глыбокіх для яго самога слоў, ён выйшаў з хаты. Там меншы брат распрагаў каня і пачаў расказваць яму, як у горадзе пад вечар быў, мусіць, пажар, бо вельмі ж многа ў тым баку паднялося нейкага чорнага дыму; і ён надзвычайна так нейк, як ніколі, быў рад братавай гаворцы. Не трэба было таму помачы, а ён памог яму выпрагчы каня. Пасля пастаяў ён каля сцяны, пакуль брат пайшоў у хату, і сам падумаў аб тым, што як гэты самы брат быў меншы і не было ў яго нейк раз ботаў, ён замаразкамі ездзіў заворваць поле босы, і тады заўсёды ногі былі ў яго папрабіватыя і ў нейкіх струпах... Тады ўжо не мог ён нічога зрабіць з сабою — пералез ён паволі цераз жардзяны плот, пайшоў пад жоўтыя клёны, лёг там на вільготную зямлю, прыпаў да яе тварам і заплакаў...

Тады стала ясна яму, што гэта ўсё ў яго не ад цыганскае дзяўчыны...

Адтуль ён вярнуўся позна. Нейк лёгка стала яму. Сплыло ўсё; чыстата стала ў істоце і кволасць да ўсяго. Сястра і брат клаліся спаць. Брат курыў і сядзеў каля стала, гойдаючы босымі нагамі, а сястра весела расказвала, як у суседа Юстына адарвалася ў хаце вешала з тытуном і стукнула яму па галаве. І Андрэй ужо сам смяяўся і памог сястры выказаць думку аб тым, што б гэта тады было, каб вешала было цяжэйшае. Пасля гэтай гаворкі стаў у яго на кароткі час зусім звычайны кожнадзённы настрой, толькі чуласць была незвычайная ды яшчэ моцнае адчуванне, што яму нешта рупіць, як бы мяшае чаму, некуды цягне яго, і тады, пасядзеўшы трохі, успомніў раптам пра цыганскую дзяўчыну. Цяпер думаў аб ёй нейк іначай; самы працэс думкі быў нейкі цвёрды і вызначаны розумам, хоць вельмі востры ад пачуццяў. Тады ён хутчэй узяў падушку і кажух і пайшоў спаць на сена ў гумно. Там, у цішы, стала патрэбным яму раптам гаварыць з кім-небудзь, выказаць каму ўсё, што можна толькі вы-

казаць, і яшчэ адчулася ім нейкая тая вялікая адзінота і размах, якія бываюць у асеннія месячныя ночы. Доўга не мог ён заснуць, пакуль аж не пачалі недзе спяваць пеўні. І як пачаў драмаць, нервова пачала спець у яго ўпэўненасць у патрэбе заўтра ісці да цыганоў. Прычына гэтага была вядома, але рэальны пункт — чаго? — не быў аформленым... Так ён і заснуў.

### III

Гэта тады брат цыганскае дзяўчыны стаяў на беразе рэчкі. Тады Андрэй не прымеціў гэтага, а цяпер падумаў, што гэта няйначай так. Было гэта назаўтра таго дня. Ён тады пайшоў на работу, і зноў астаўся на беразе адзін пасля ўсіх, і стаяў пад вечар і думаў, што ў гэтага цыгана нейкія такія вочы, ці можа гэта яны здаюцца такімі і ў яе, і ў яго здалёк. Цяпер яму было толькі нейк здзіўлёна, як гэта мог ён учора паддацца такім настроям і нават плакаць, што ніколі не бывае,— і гэта пасля адчуванняў аб той цыганскай дзяўчыне. І ў самога перад сабою нейк як бы нядобра было яму за ўчарашнюю слабасць. І яшчэ падумаў ён, што ўсё, нават варанае зелле, можа ўзварушыць у чалавеку буры...

Тым часам пачаў ён глядзець пільна на той бераг і заўважыў, што там больш пуста, як учора. Стаялі ўсяго дзве будкі, і то нейк наводшыбе адна ад аднае. Не відно было і коней, і толькі нешта малое — дзяўчынка ці хлапчук, трудно было прымеціць здалёк — забаўлялася тым, што, лежачы на спіне, перабівала па грызенай траве голымі нагамі.

Нейк аж зусім весела стала Андрэю, і пасля заўважыў ён, што з-за будкі выйшла мужчынская постаць. Ён пазнаў таго ўчарашняга цыгана. Той нешта загаварыў, малы падняў галаву і нешта адказаў. Гэтыя словы здаліся Андрэю як «ла-ла-ла-ла».

Андрэй весела ўсміхнуўся, і нават хацелася яму падмаргнуць каму-небудзь ці куды-небудзь; ён весела пачаў пераходзіць на другі бок рэчкі. А цыган сядзеў ужо над самай вадою і перакусваў двума пярэднімі зубамі саломінку.

«Што яму скажу?» — падумаў Андрэй.

— Табак маеш? — гукнуў цыган.

— Маю.

— Д-дай, будзь ласкаў.

— Можна.
— А можа многа маеш, дык я куплю.
— Няма.
— Я добра заплачу.
— Дык няма ж.

Андрэй быў рад гэтай гаворцы і сеў на беразе.

— От у вас тут учора весела было, я аж заслухаўся з таго берага,— сказаў ён цыгану.— Чаму сягоння ціха?

— Няма. Паехалі ўжо.
— Хто?
— Музыканты нашы... і спявачкі.
— Куды?
— А я не ведаю. Пайшлі раніцаю ў горад, а адтуль, кажуць, некуды выехалі. Некуды іграць на зіму наняліся, мусіць.

Тады раптам адчуў Андрэй нейкі страх перад тым, што гэта ж і тая дзяўчына, мусіць, паехала. Тады стала ясна яму, які смутак вялікі ў яго па ёй.

— Тут учора адна вельмі ж скакала.
— Тая яшчэ тут.
— Не паедзе?!
— Паедзе зараз. Яна скакаць і спяваць добра можа. Ого! Хто лепш за яе скача! У горадзе так не ўмеюць скакаць, і яна паедзе туды. Яна артысткай хоча быць... Гэта сястра мая, Нонна...

Апошнія словы сказаў ён з нейкаю гордасцю, а Андрэй успомніў, як летам ездзіў ён у горад купляць патрэбныя яму кніжкі, быў у тэатры і бачыў там на цеснай сцэне танец, шырэйшы за ўсякія дзікія прасторы.

Цыган нешта заспяваў сабе пад нос, а Андрэй пачаў рваць вяршкі з аеру і кідаць у ваду.

— Слаўная дзяўчына,— сказаў ён раптам, не ведаючы, што яму гаварыць.

Цыган з-пад ілба нейк непрыветліва глянуў на яго, і голас яго перайначыўся, стаў нейкім трохі варожым:

— А табе што?
— Мне што?
— Але.
— Што ж мне?! Мне нічога. Хіба я павінен гаварыць, што яна няслаўная, калі яна слаўная.
— А ты як жа гэта ведаеш?
— А можа і не, чорт яго ведае.
— То ты чаго ўжо кінуўся ў другі бок?

Андрэй паглядзеў на цыгана і падумаў: «Што мне гаварыць з ім і нашто гэта я з ім гавару... І што для мяне яго сястра?! Хіба патрэбна мне думаць аб гэтым. Яна так жа далёка ад мяне, як і я ад яе. Яна недаступна мне, як і я ёй, і думкамі нашымі, і настроямі...»

Яны яшчэ раз удвух закурылі, і цыган падняўся, моцна пацягнуўся і пазяхнуў... Паказалася з-пад чорнай жакеткі сіняя суконная камізэлька з залатым тоўстым ланцужком і цацкамі ад гадзінніка, і ад гэтага постаць яго стала нейкай вельмі ж адмысловай на гэтым зялёпа-пажоўклым нізкім беразе.

— Табе трэба ісці куды? — сказаў Андрэй.

— Куды мне трэба ісці?! — задумаўся цыган і, памаўчаўшы, сказаў: — Пайсці на дарогу, там нашы ехаць павінны...

І яны ўдвух перайшлі на другі бок рэчкі і абодва пайшлі ў розныя бакі, холадна нейк развітаўшыся... Раней дык цікавіў Андрэя гэты чалавек, а гэта нядобра ўжо было быць з ім разам. Раней цікавіў як брат тае дзяўчыны, а цяпер загэтым жа стаў нейкім варожым. Андрэй адышоўся трохі, пасля азірнуўся, каб упэўніцца, ці далёка ён. Яго не было ўжо відно, і Андрэй з трывогаю ад нервовага ўзбуджэння вярнуўся назад. Ён пільна паглядзеў на той бераг, на тыя палатняныя будкі. Ціхія і ў адзіноце стаялі яны. Вакол іх скрозь быў роўны і нізкі поплаў, згрызены і пажоўклы, налева жаўцелі кусты, а направа і проста роўнасць даходзіла далёка да сіняй нізкай істужкі — можа лесу, а можа хмар. Было блізка некалькі не згрызеных жывёлаю кустоў, некалькі лапін ад вогнішчаў і далёка наводшыбе блішчаў пад жоўтым сонцам белы конскі чэрап, высахшы і струхлеўшы пад ветрамі. Гэта была вялікая задуменнасць, як бы ўвасабленне нейкай філасофіі прастораў свету... Уяўлялася нейк, што тут павінна была быць высокая трава, горача і страшна ясна свеціць сонца і дзьме гарачы вецер. І пад ветрам гэтым трава будзе спяваць ціхія і задумёныя песні над конскім чэрапам. І меладыя гэтая будзе закалыхваць усю зямлю, пакуль не з'явіцца на ёй чалавек і не засмяецца над законамі гэтай мелодыі...

«Гэта ж Нонна яна завецца»,— набегла раптам у Андрэя думка, і ён нейк па-дзіцячаму ўсміхнуўся...

І пэўна, што не мог разабрацца ён, што гэта з ім робіцца.

## IV

...Гэта зямля, а гэта дарога на ёй... Ноччу зоры і трава халодныя... Відны людзі, часам больш іх, часам менш, і нечым і нейк жывуць яны... І там далей таксама гэта ёсць, і калі я буду там, то буду там усё гэтае бачыць, а тут гэта ўсё застанецца таксама. Наперадзе нешта будзе, цяпер жа сонца свеціць, і шырокі поплаў жоўты ад яго. І журботна нейк ад таго, што стала пуста і глуха, як паехалі ўсе...

Такі і заўсёды быў настрой і такія адчуванні Нонны.

Не было вялікіх клопатаў, не вельмі заядалі яны душу і розум, не ўтамлялі яны... Былі вялікія захапленні, і тады малое здавалася вялікім, вялікае ж малым здавалася, толькі часта было яно чужым і няважным.

Зімою трэба было жыць у вёсках і мястэчках, даводзілася жыць і ў гарадах, і як толькі пачынаў раставаць снег, зноў пачыналіся паплавы ды палявыя дарогі. Зімою сустракалася больш людзей, і не то што каб цікавілі гэта вельмі яны, але нейкімі новымі і непрывычнымі здаваліся, і хто-небудзь з іх часам пачынаў як бы цікавіць, а пасля прападала гэта...

На трынаццатым годзе ўжо моцна акрэслена пачалі абуджацца ў Нонны няясныя дзявочыя смуткі і жаданні, і тады вырастала чуласць, але яна пачала прытупляцца з цягам гадоў. У чатырнаццаць год зімою жылі ў горадзе, і тады былі спрабаваны слодычы першага кахання. Быў ён высокі і не першай ужо маладосці. Элеганцкі звінеў шпорамі, удала ездзіў на кані. Часта тады хадзіла Нонна з ім у тэатр і адтуль вынесла пакланенне звінючаму бляску сцэны ў музычнай камедыі. Адзін раз яна бачыла, як артыстку, увабраную так, што здавалася яна нечым асобным ад таго, што было вакол яе, пасля выкананага ёю танца вынеслі на руках на сцэну, і яна горда прымала воплескі і пакланенне публікі. Тады надоўга захапілася яна гэтым малюнкам, і яе пачало цягнуць некуды. Вясною выехалі з горада, выехаў некуды і вайсковы і ўжо мала калі і ўспамінаў пра Нонну, а калі і ўспамінаў, дык толькі хіба нарочна, халодным сваім розумам, каб больш давесці сабе, што ўсё, што сягоння здаецца ўсім, заўтра ўяўляецца нічым...

Нонна прывыкла, што вакол яе гаварылі аб яе прыгажосці, і сам гэты факт нават нейк прытупіў свядомасць аб гэтым... І любіла яна ляжаць часта на сонцы пад вет-

рам і старалася здавацца недаступнай. Часта яшчэ з'яўлялася ў яе млявасць, якая вырастала з свае першапрычыны, хоць і далёкай,— з нейкага кволага гультайства.

Цяпер доўга стаялі яны пры горадзе, і часта яна хадзіла туды глядзець балет у музычных спектаклях. І чым больш бачыла яна там бляск сцэны, тым больш імкнулася яе істота быць душой гэтага і нейк нават падняцца над гэтым, стаць цэнтрам гэтага перад публікай, і была ў яе нейкая нездаволенасць, калі на яе ўсе глядзелі там і яна адчувала, што гэта глядзяць на яе хараство...

Цэлую тут ноч яна не магла заснуць пасля свайго танца на беразе рэчкі, і, раніцаю правёўшы сваіх у горад, яна сумная вярнулася да сваіх будак, і была ў яе нейкая як бы злосць, што яна адна і няма каму тут глядзець на яе. Амаль цэлы дзень праляжала яна за будкаю на сонцы, і нічога ёй не думалася, пасля нейк мучыла адзінота; і гэта было непрывычна, бо адзінота ж была заўсёды ў паплавах і палях...

Яна раней чула, як брат яе доўга спяваў сам сабе ціхенька нешта і моцна пляваў курачы, пасля чула, як з нейкім ён гаварыў, далей адышоўшыся, пасля стала ціха... Ей уздумалася пайсці на бераг рэчкі, сесці там, пакуль яшчэ свеціць сонца, рваць там траву ці лісце, разрываць на дробныя кавалачкі, кідаць у ваду і глядзець, як да ўсяго абыякавая вада нясе іх на сабе. Так можна сядзець доўга, пакуль не стане холадна і не прыйдзе аднекуль брат. А там будзе ноч, будзе гарэць агонь, пасля патухне. А там пазавуць свае ў горад куды-небудзь скакаць перад публікай у кафэ, і там будзе зусім іншае...

Яна паволі ўстала і, праціраючы заспаныя вочы, як п'яная,ківаючыся ў бакі, выйшла з-за будкі. І пайшла да рэчкі, ціха і паважна ступаючы босымі нагамі па нізкай траве, і перад сабою ўбачыла Андрэя. Гэта было для яе звычайным — бачыць людзей на беразе, і нічога ёй гэта не сказала. Яна, з абыякавасцю да яго, падышла да вады і села. Андрэй нагнуўся з парэнчаў недакончанага моста і стаў глядзець на яе твар. І пасля таго, што ён пeражыў за апошнія два дні, тое, што ўбачыў ён, нейк аглушыла яго нечаканасцю. Твар у гэтай дзяўчыны быў прыгожы і яшчэ прыгажэйшы ад таго, што быў смуглявы. Толькі не было ў ім таго, што здалося яму і што відно было тады вечарам, як скакала яна. Ён чакаў угледзець тут тое, што было б надзвычайнае, а тут была толькі вялікая прыгажосць, і

толькі нейк узнепакоіла яго ў ёй хітра-жаночая, чуць прыметная ўсмешка. Толькі як ішла яна, тады ахвацiла яго нейкая як бы трывога, і цяпер было нядобра ў адчуванні надыходзячага. Ён падышоў бліжэй, да канца моста, пад самы той бераг, і яшчэ заглянуў ёй у твар. Прымеціў змятую ад ляжання левую палавіну твару, дзве сінія жылкі на шыі і цёмную маршчынку пад вокам. Ён прыжмурыў вочы і ў цэлым захапіўся тады хараством яе твару. Пасля зноў стаў заўважаць тыя дробязі, і стала зноў яму нядобра. Шкода вельмі стала нечага, і адчуў ён вялікі смутак па тым хараստве, якое бачыў тады вечарам у час яе скокаў і якое насіў у сваіх адчуваннях усе гэтыя дні...

Нонна бачыла, што ён пільна глядзіць на яе, і ён, пасля тых дум і мараў, якія былі цэлы дзень у яе, здаўся ёй нейкім нязграбным, і ёй захацелася пасмяяцца над ім. І яна пачала цвяліцца з ім. Яна з жаночаю тонкасцю чуць усміхнулася яму здалёк. Гэтая ўсмешка зноў абудзіла ў Андрэя нешта падобнае да таго, што было з таго самага вечара, толькі больш жывое, з большаю перавагаю думак. І тое, што было кагадзе, дало яму нейкую бадзёрасць і нават нейкі задор, нейкую нават насмешлівасць, толькі трывожную і вострую. Ён прыжмурыў левае вока і таксама скрывіў твар усмешкай.

Тады ёй раптам спадабалася далей разгарнуць гэткую гульню, нейк адчула яна, што можа ўзяць пад уладу сваіх усмешак і выразаў твару гэтага чалавека, і яна сагнала з твару ўсмешку і надзьмула губы. Яна гэта рабіла выгляд сталасці, і ўсе рысы яе твару смяяліся. Тады Андрэй пайшоў да яе на бераг. Яна падняла галаў і зноў як бы ўсміхнулася, зрабіўшы гэта так, што можна было, захацеўшы, падумаць, што гэта яна і не смяецца.

— Смешна? — з фальшывай іроніяй, стараючыся паказацца вясёлым, сказаў Андрэй.

Тады яна чуць прыметна маргнула яму правым вокам і апусціла галаў уніз.

Ён сеў непадалёку і, стараючыся сілай захаваць на твары ўсмешку, глядзеў на яе. Яна паволі падняла галаў і, паставіўшы нек коса вочы, некалькі момантаў моўчкі глядзела на яго твар.

І ён здаўся тады ёй інакшым, чым раней. Нешта заўважыла яна ў ім шырокае, затаенае само ў сабе, моцна адрозненае ад таго, што бачыла яна ў іншых на гэтым самым беразе і заўсёды на дарогах і глухіх гэтых мясці-

нах. Нешта было ў іх для яе наглядання, што не было звязана з тым, што яго абкружвае і што можа трымаць у сваёй уладзе многіх. Ён уявіўся ёй нейкім неразгаданым, хоць нельга сказаць, каб цікавым. Сама не ведаючы, як ёй далей трымаць сябе, яна апусціла ў ваду сухі дубец, пачала вадзіць ім у вадзе і нешта насвістваць задумёна-вясёлае. Ён жа адчуваў, што яму трэба сказаць што-небудзь, і не ведаў што... Так сядзелі яны моўчкі некалькі хвілін, доўгіх для яго і поўных нейкага, нават вясёлага нейкага, чакання для яе. Пасля ён нагнуўся, узяў у руку некалькі берагавых каменьчыкаў і пачаў моцна кідаць іх у ваду.

Яна зноў усміхнулася, з большаю мяккасцю.

— Чаму ў вас тут ціха сягоння? — сказаў ён і тут жа паправіўся: — Нудна тут сягоння ў вас. Брат ваш гаварыў мне сягоння, што музыканты вашы паехалі.

— А дзе вы брата майго бачылі?

— Тут.

— А нашто ён гаварыў вам гэта?

— А от трэба было яму, дык ён і сказаў.

Яму было прыемна і здавалася патрэбным гаварыць так, каб ёй здаваліся здарэнні не такімі простымі, нават таемнымі. Ён не ведаў, што гэта — яна гуляе з ім, пакпіць хоча над ім ці гэта ў яе тут жаночая незразумелая шчырасць... Ён ужо не прымячаў яе твару, ён глядзеў на яе рукі, на фалды шырокай яе адзежы. І не спадабалася яму, што многа блішчастых караль у яе на шыі, яны мелі выгляд крыклівы і рабілі ўражанне нейкага блішчастага звону і гэтым зневажалі глыбокае хараство...

Яна бачыла, што гэты хлапец нудзіць па нечым і ў гэтую хвіліну па ёй. І сваім пачуццём жаночым дагадвалася, што нават гэта не зусім па ёй, а ў ёй наогул па жанчыне, па яе прывабнасці. Яна разумела гэты смутак мужчыны і ўжо на вопыце ўпэўнілася, што не пастаянны ён у мужчыны да аднае жанчыны і пройдзе пры цеснай блізасці і тады прабудзіцца нявызначаны і агульны не перад ёй, а перад паняццем «жанчына»... Яна ўспомніла былую зіму ў горадзе, і ўсё гэтае ўразуменне зняважыла яе, і яна раптам варожасць, вельмі кволую і не заўсёды прыметную, адчула да Андрэя. І ёй раптам стала патрэбным памучыць яго, каб пасля назаўсёды забыць, бо цяпер ужо зусім адчула яна, што нецікавы і непатрэбны ён ёй. Так яна і пачала з ім цвяліцца. Яна яшчэ ўсміхнулася яму, пасля вырвала пальцамі травы і кінула на яго. Ён устрывожыўся радас-

най трывогай і востра глянуў на яе. Яна па-жаночы глянула на яго і апусціла вочы. Тады ён падсеў да яе бліжэй. Яна зноў усміхнулася, зноў апусціла вочы. Ён падняўся, падышоў да яе і раптам сеў зусім блізка і прыціснуўся да яе. Яна маўчала, і ён моцна сціснуў яе руку, а пасля абхваціў рукою яе плячо. Яна ўжо знала, што гульня скончана, што ўсё ўжо зроблена, што для тае мэты больш можа толькі пашкодзіць. І яна пасядзела так з ім паўхвіліны і, ціха адапхнуўшы яго, паволі ўстала і, паважна гойдаючы станам, пайшла ў свой бок. Ён не здзівіўся гэтаму, толькі не чакаў гэтага. Ён усхваціўся раптам і пайшоў за ёю. І ў тую хвіліну радасна бліснула ў яго ўпэўненасць, што гэта ж яна наўмысна, каб ён ішоў за ёю, што яна пічырая з ім. А яна азірнулася і сказала яму:

— Не ідзі.

— Я пайду,— сказаў ён з горкай трывогай.

— Не ідзі, нічога табе ад мяне не будзе. І нічога табе ад мяне не можа быць.

— Можа быць,— сказаў ён з пачуццём блізкім да пачатку злосці.

— Ну-ну! — сказала яна горда з фальшывай сталасцю.

— Нонна! — пазваў ён яе.

Яна здзіўлена паглядзела на яго і зноў пайшла. І, дайшоўшы да самай будкі, яшчэ раз азірнулася і з такой жа фальшывай сталасцю, але ўжо са смехам у вачах, паківала на яго пальцам і схавалася ў будку.

Ён некалькі хвілін стаяў на адным месцы, з прытупленаю вастратою ў пачуццях, пасля пайшоў назад і стаў на мосце і глядзеў моўчкі на ваду. Пасля яму стала брыдка перад ёю, што ён стаіць тут і не адыходзіць; пачаткі гордасці заварушыліся ў ім, і ён плюнуў уніз і пайшоў кустамі на палявую дарогу.

— А ну яе к чорту,— сказаў ён моцна, з патугаю, несучы ў душы смутак.

І ахваціў гэты смутак думкамі, выйшаўшы ў поле. Тады яскрава і выразна думаў, што гэта ж па гэтай цыганскай дзяўчыне такі востры смутак у яго.

## V

У тую ноч Нонна доўга не спала. Была ў яе журба і даходзіла да мяжы са смуткам...

Тады свяціў над паплавамі месяц, і ясна, і пуста, і страшна ціха было ў прасторах. Бялела нейк далёкая роў-

насць зямлі, не шумела трава, і іншых ніякіх не было зыкаў. І моцна пахла вясенняю ноччу... Некалькі разоў звечара пачыналі плакаць далёкія птушкі, а пасля толькі раз адна крыкнула... Так і свяцілася ноч і ціха драмала...

Брат Нонны звечара доўга хадзіў каля будак, гаварыў з старым цыганом з другое будкі, пасля хадзіў путаць коні і доўга там свістаў ім і, як пачаў узыходзіць месяц, лёг у будцы і зразу моцна заснуў. І ў суседняй будцы спалі. Тады Нонна выйшла босая і неадзетая, і села пры рэчцы, і сядзела так, не варушачыся. Яе некуды цягнула, хацелася некуды ісці, нешта рабіць, дзейнічаць, нешта і некага пакінуць, нешта і некага знайсці. Але было гэта нявызначаным у свядомасці, як пункт. Нешта давіла ёй душу, і падобна было, што як бы гэта нешта было добрае, патрэбнае і слаўнае і цяпер няма яго... І трудна было ёй прывясці ў парадак пачуцці. Давіла яе і тое, што свяціў над паплавамі месяц, і разам з тым нейк і важна і патрэбна было тое, што свеціць ён. Давіла цішыня і размах пустых прастораў, і разам з тым дарагою і любаю была гэтая шырокая ціш.

Плылі ў галаве кавалкі думак аб тым, што было дагэтуль, і думалася нейк нутром аб тым, чаго і не было, што было пязнаным, нябачаным. У смутку варушылася нездавальненне нейкае і журба аб усім, журба вострая, рухавая, жывая, і цяжкая, і любая, журба аб жыцці. Такая няроўная, якою бывае і радасць аб жыцці, такая ж патрэбная для абнаўлення жыцця...

Было журботна і ад таго, што адзіноцтва было вакол і як бы гэта залазіла яно ў душу. Было гэта непрывычным і можа ад таго, што паехалі ўсе, пайшлі адгэтуль назаўсёды маладыя і блізкія і цяпер вось недзе нешта думаюць, робяць і адчуваюць... І раптам вынікла думка аб сваёй згубленасці тут, бо нейк цьмяна адчулася, што недзе нешта існуе іншае, якое — невядома, але ўявілася яно, як пункт здавальнення для чалавека.

«Можа гэта нашы там зусім вясёлыя, і думаць ім нічога не трэба»,— выразней за ўсё раптам падумала Нонна.

А пасля ізноў сядзела і ўсё адчувала і знанае, і нязнанае і толькі не адчувала таго, што ад адзіноцтва асенняй ночы і маладой чуласці гэта ўсё ў яе... І яшчэ было ў яе, але больш у думках, нездавальненне ад таго, што адна яна тут, ніхто яе не бачыць, ніхто на яе не глядзіць, не гавораць пра яе, не захапляюцца ёю... І ў сярэдзіне по-

чы пачала ў яе спець думка, сперш няроўная, а пасля з адзпакамі мала калі быўшай дагэтуль рашучасці... І часамі ёй хацелася, доўга і ціха...

Месяц высока падняўся і пабялеў, і пабялела нізкая трава; холадам дыхала рэчка, і недзе лёгкім стукам абзвалася дарога. Ноч пераламалася на другую палавіну, і больш востра запахла ўсё. Нонна ўстала і паволі пайшла па беразе рэчкі. Дайшла яна далёка, да нейкай чорнай раллі, у задуменні пастаяла там на адным месцы і пайшла назад. Раптам усё пачало кіпець у яе настроях, узнялася нервовасць, і яна пайшла хутчэй. І проста ўвайшла ў цёмную будку. Там лягла пры халодным палатне і пачала плакаць, стараючыся не пабудзіць нікога. Пасля яна сціхла, але з плачам у душы сцішылася, і пад самы дзень дрымота агарнула яе...

Прачнулася яна, як было ясна ад сонца. Брат збіраўся ехаць у горад, каб прадаць там коні і шукаць там на зіму кватэры, і яна вяла пачала памагаць яму. І ў час гэтай работы вярнуліся з горада дзве дзяўчыны, што нядаўна жылі тут. Вярнуліся, каб сказаць ёй, што наняліся яны ўсе на цэлую зіму спяваць у кафэ і што без яе няможна абысціся для танцаў. І што трэба спяшаць выехаць той у горад.

Бесклапотная гуллівасць і вышыня настрояў раптам ахвацілі Нонну. Яна пачала спяваць і дурэць, як дзіця. І такі настрой не пакідаў яе доўга, хоць трохі пасля прытупіўся...

Папоўдні яны даехалі да горада. Брат Нонны там застаўся, а тры дзяўчыны селі пад вечар на поезд і выехалі ў дальні горад... Брат кіўнуў Нонне галавою; у яго нядобра і сумна было на душы...

## VI

Два дні не мог прыйсці да сябе Андрэй. Каб забыцца, моцна ўвайшоў ён у работу, стаў маўклівы і вечарамі выходзіў на вуліцу слухаць, як гаварылі над старым дахам жоўтыя клёны. Нейк не па сабе яму было і ад таго яшчэ, што, як дазнаўся ён, што няма ўжо на беразе палатняных будак, а значыцца, няма блізка і Нонны, цьмяна і неаформлена адчуў, што нават сумна-тонкія і вострыя перажыванні засталіся нават як бы і не па Нонне, а так нейк па нечым, можа па тым, што ёсць, а можа па тым, чаго

няма зусім і чаго не хапае ў свеце і па чым сумуе і ад чаго кіпіць глыбіня чалавечай істоты. Многа тады пачало з'яўляцца ў яго новых думак, небывалых дагэтуль. Было чаканне нечага і нецярплівасць. А на трэці дзень прыйшоў да яго ліст з дальняга горада ад земляка. Звалі яго ў горад, і ад гэтага перавярнулася ў ім тое, што навявала папярэдні настрой. Раптам ён ясна прыпомніў Нонну, як яна ўсміхалася, а пасля не дазволіла яму ісці за сабою, і раптам вырасла ў ім упэўненасць, што ён нейк вышэй яе стаіць на зямлі; што ён больш значны, і гордасць яе не важна нікому. Сум у ім астаўся шырокі, але нейк раптам выйшла з яго круга Нонна і зрабілася нечым асобным. І зноў яна неўзаметку пачала вырастаць і аддзяляцца ад усяго. Тады ён стараўся зняважыць яе ў думках сваіх, а яна яшчэ больш вырастала. І ён доўгімі і настойлівымі думкамі вызваў у сабе на яе нешта падобнае да злосці. Сілаю ўпэўніў сябе, што гэта злосць і што так трэба, што гэта абсалютная сапраўднасць. Пасля ж набеглі, згусціліся пачуцці і заглушылі ўсё гэтае, што было ў думках. Тады з'явілася толькі мяккая крыўда на Нонну, і ад гэтага прыйшло сапраўднае ўжо ўзвышэнне над ёю, затаенае ў самім толькі сабе. Тады яму зрабілася самому перад сабою брыдка і нядобра за тое, што паддаўся ён быў у той першы дзень слабасці — у сувязі з тым, што ўбачыў яе першы раз, варушыў сваю душу, паднімаў з яе дна ўсё пэражытае, востра-пакутнае і цяпер ужо святое; што плакаў ён вечарам на халоднай зямлі. І нават нядобра адчуваў ён сябе перад братам... Пасля раптам наплылі на яго ўсякія думкі, у якіх патроху знікаць стала Нонна і патроху апускацца пачалі пачуцці. Ён ужо з братам гаварыў аб усякіх справах, вырашалі ўдвух час яго ад'езду, і ў апошні дзень перад ад'ездам ездзіў ён з братам на поле. У думках яго ўжо малявалася шырыня новай працы, вельмі важнай і патрэбнай, усякія магчымасці і новая прывабнасць.

Перад самым выездам зусім амаль згладзілася з думак і нават пачуццяў Нонна...

Горад спаткаў яго, вясёлага, прыняў яго здольным лёгка ўжо прапускаць праз сябе ўсё, не прымячаючы ў вялікім шуме вялікай цішыні. Гэта было першае поўнае здавальненне жыццём, незачэпленае расчараваннем.

Быў шосты дзень пасля таго вечара, калі ён засумаваў па цыганскай дзяўчыне.

## VII

У той сухі і ясны вечар, як у гарадскім садзе з ліп і асін ападалі апошнія лісты, балетмайстар музычнай камедыі Лінскі ў дрэнным настроі ішоў з тэатра. Перад спектаклем дазнаўся ён, што жонка яго ездзіла ў суседні горад зусім не для тых спраў, аб якіх гаварыла, а ездзіла дзеля зусім іншага, аб чым цяпер сведчыў перахвачаны ім выпадкова ліст да жонкі ад нейкага Аксютовіча. І хоць Лінскі сам часта ездзіў у іншыя гарады не для тых спраў, аб якіх гаварыў жонцы, хоць спектаклі ў тэатры і не зацягваліся да таго позняга часу, у які Лінскі прыходзіў кожную ноч дадому, але пакуль што жонцы яго ніякіх лістоў перахваціць не давялося, і загэтым Лінскі лічыў сябе пакрыўджаным жонкаю. І хоць балет у тэатры ў той вечар добра ўдаўся, не разагнаў усё роўна кепскага настрою Лінскага. І пасля спектакля выйшаў ён першым, не пайшоў з артыстамі разам, а адзін зайшоў у гарадскі сад. У глыбіні свае душы ён быў нават рад таму, што выявілася ў адносінах жонкі да яго, бо будзе прычына, выгадная для яго, разысціся хутчэй з ёю, але надворна было яму прыемна адчуваць сябе пакрыўджаным. Ён сеў на пустую лаўку ў садзе і стаў слухаць, як зашумелі раптам дрэвы і больш тады западалі лісты на зямлю. Ад гэтага і ад відпаты адчуў ён урачыстасць ночы і вялікасць хараства. І патроху тады забыў ён пра сваю мізэрную крыўду, і прыемна яму было сядзець тут. Раптам пашкадаваў ён, што спектакль ужо скончаны і што няма як ужо слухаць музыку і глядзець на хараство балета і жыць у тыя хвіліны толькі пачуццямі. Ён сядзеў і маўчаў і сам таго не прымячаў, што моцна думаў аб многім...

З асвечаных вокан кафэ сыпануліся на яго сухія кароткія зыкі некай полькі, і трудна было разабраць яму, на чым гэтаігралі. Тады ён пайшоў туды, адкуль беглі зыкі, увесь ахвачаны жаданнем толькі слухаць, бачыць і адчуваць...

У кафэ на нізкай эстрадзе стаяў тоўсты прысадзісты чалавек з гітарай у руках і на заднім плане яшчэ некалькі гітарыстаў. Цяпер яны маўчалі.

— Нонна Аліна выканае польку,— заявіў тоўсты гітарыст, і Лінскі сеў за столік з бяздумным чаканнем.

Гітарысты пачалі выбіваць на гітарах такт, і Лінскі

ўбачыў Нонну Аліну. Пры вячэрнім свеце твар яе здаваўся сумным і вясёласць штучнаю, і нейкаю надзвычайна далёкаю была яна ад усяго, што было вакол яе. Толькі прайшло ўсё гэта, як пачала яна скакаць, і раптам здавацца стала, што гэта не прымячае яна нікога і скача сама для сябе.

Лінскі адчуў радасць блізасці хараства і нейк нават у большай меры, чым у тэатры, здалося гэта самым важным і затоеным само ў сабе. Тады стала для яго мізэрным усё тое, што ён кагадзе адчуваў; нязначным і ліст да жонкі, перахвачаны ім, і вялікае адчуванне малое крыўды. І нейк як бы занудзеў ён, што ніхто не адчувае тут гэтага хараства, а пасля з'явілася патрэбнасць у ўзвышэнні яго. Тады пайшоў ён блізка да эстрады і нецярпліва чакаў, калі яна зыйдзе адтуль. Пасля доўга гаварыў з ёй у суседнім пакоі. Вынікам гэтай гаворкі было тое, што Нонна ад радаснай нервовасці доўга не магла заснуць у тую ноч, а назаўтра Лінскі зайшоў у брудны, праходны пакойчык, дзе жыла Нонна, і ўдваіх пайшлі яны ў тэатр на балетныя спробы. Цераз пяць жа дзён у афішах да тэатральнай пастаноўкі было напісана: «...Выступіць новая прыма-балерына, цыганка Нонна Аліна...»

Андрэй бачыў яе ў тэатры на сцэне. І зноў ахапіў быў у яго сум па ёй, але цяпер іншы, чым тады — сум моцнага, які можа ўзяць тое, па чым сумуе, ды разважанні не дазволяць гэтага. Сум гэты насіў ён у сабе доўга, упэўнены, што пройдзе ён. І ён прайшоў, толькі пакінуў па сабе след — упэўненасць у тым, што ва ўсім ёсць смутак і ва ўсім ёсць шчасце...

А ўсё ж стараўся ён не сустракаць Нонны і не бачыць яе.

# СНЕГАВЫЯ ДАРОГІ

*(Адрывак з апавядання)*

Зусім маўчаць дрэвы: не шумяць тонкім веццем, не варушацца голлем — голыя, пры зямлі аброслыя шчуплым мохам, жаўтаватым лішаём.

А ўчора з вільготнае раллі рваўся густы вецер і поле згінала падсохлы быльнік пры дарогах і ўзмежках. І на ўзгорках не відаць было птушак. Вецер шырокімі грудзьмі прыпадаў да пасінелых ад хмурных колераў сцен...

Лішай на дрэвах сыходзіць да зямлі, прападае ў траве. А трава цяпер халодная, ад першых марозаў пазелянела, і скрозь яе свеціцца зямля. І як жа яна востра пахне, гэтая шчуплая, прымарожаная трава! І якім уздымам вее зямля! — трэба моцна любіць і глыбока адчуваць, каб ведаць аб гэтым.

Неба густое, з цёмнаю сінню, і далёка пацямнелі кусты — мусіць, хутка ляжа глыбокі снег. А цяпер хочацца босымі нагамі адчуваць зямлю, хадзіць па траве — так, як гэта ў канцы лета, жоўтымі адвячоркамі, шырокімі днямі.

Цяпер у нас малоцяць. Пасля пылу ў гумне, калі выйдзеш агародамі к рэчцы, нейк дзіўна, што асака пры вадзе такая самая, як і летам — зялёная, жывая, толькі з пажаўцелымі вяршкамі. За рэчкаю ралля таксама мае мясцамі летні выгляд — яшчэ цёплымі днямі павылазіла з-пад чорных пліт лясная трава — спрадвеку раслі тут ядлаўцовыя кусты, мы іх талакою выкарчавалі і ўвосень зааралі новы кавалак поля. І цяпер лясная трава не паддаецца з першага разу — пасля зімы многа тут яшчэ будзе работы; ралля зялёнымі лапінамі сваімі зусім зліваецца з фонам лесу, да якога даходзіць. Там спакойна і вялікасна шумяць хвоі; там мякка пад нагамі і вельмі зацішна; і загэтым мусіць так прытульна здаецца на маленькім пасёлку, што некалькімі новымі хатамі прыткнуўся да гэтае сцяны старых хвояў.

На пасёлку нясконченыя платы, неабгароджаныя яшчэ агароды, абы-як, на адну толькі зіму, збітыя з аполкаў хлявы, абложаныя сухім бульбянікам і кулявою саломаю,— год пяць пройдзе, не менш, пакуль акуратна забудуецца пасёлак.

Тут яшчэ, бліжэй да крайняе хаты, накідана і рассыпана гліна, і цяпер з суседніх хутароў прыязджаюць браць яе каму трэба — яшчэ ў канцы лета выкапалі тут калодзезь. Тады была вялікая спешка — начальная работа не давала дыхнуць, і калодзезь капалі спяшаючы, прыхваткамі. Міма калодзезя вазілі снапы і на суседнія хутары, і ў суседнюю вёску. І, праязджаючы міма, людзі па-рознаму глядзелі на спешную работу пасёлкаўскіх хлапцоў. Асабліва гэтая неаднолькавасць востра выяўлялася ў хутаранцаў. Францішак Дылевіч, напрыклад, заўсёды нізка склоніцца і далікатна скажа:

— Бога да помач!

— Дзядзька Дылевіч, закурым!

Францішак Дылевіч прыпыняе каня, спешна злазіць з драбін, падбягае да хлопцаў і круціць папяросу з іхняга тытуню.

— Да вады яшчэ далёка?

— А хто яго ведае,— дыпламатычна адказвае хто-небудзь з хлопцаў,— мы, прызнацца, не практыкі, першы раз капаем. Будзем прасіць дзядзьку Дылеўскага, можа вы тут нам абгледзіце, як і што.

І весела падміргваюць адзін аднаму.

Францішак Дылевіч, з выглядам вялікага знаўцы ўсіх рэчаў, важна аглядае глыбока ўжо выкапаны калодзезь і заяўляе:

— Заўтра павінна пайсці вада.

— Наўрад ці пойдзе!

І гэта гаворыцца для таго, каб працягнуць гаворку. Хлопцам весела глядзець на высокую і грузную, але нейкую слабую постаць дзядзькі Дылевіча. А Дылевіч яшчэ раз аглядае калодзезь і трохі ўжо не так упэўнена яшчэ гаворыць:

— Павінна пайсці.

І падыходзіць да воза і едзе далей.

Адзін раз, пазаўтра пасля такое гаворкі, Дылевіч вёз воз грэчкі. Хлопцы крыкнулі яму:

— Вады няма!

— Не можа быць!.. Што ж гэта за штука!..

І, паглядзеўшы яшчэ, сказаў рашуча і цвёрда:

— Нядобрае месца... Суш...

— Дык жа вакол балоты.

— Ну, бывае.

На трэці дзень пайшла вада, і Дылевіч сказаў:

— Я ж казаў, што зараз павінна пайсці... Дай божа ў добры час... Цяпер, як вы сабе хочаце, а вечарынку ў свята павінны справіць...

І ён усміхнуўся добраю, чуць хітраватаю ўсмешкаю.

— Вечарынку справім... Будзем прасіць, каб вы з скрыпкаю падышлі.

— А як жа!

І ён паехаў, адчуваючы ў сабе блізасць да гэтых вясёлых пасёлкаўскіх хлапцоў.

Зусім іначай адносіўся да пасёлкаўцаў другі хутаранец — Зыгмусь Купрыяновіч. Ён увесь час моўчкі вазіў снапы. І хлопцы яго не чапалі. Толькі раз нехта гукнуў:

— Дзядзька Купрыяновіч, ці няма запалак?

Купрыяновіч прыпыніўся і падышоў. Ён закурыў і сам, пачаставаў сваім тытунём хлопцаў. Пакуль закурвалі, ён сказаў:

— Капаеце?

— Капаем.

— М-гу... Дрэннае месца тут.

— Нічога, дакапаліся.

— Ды дакапацца можна, пачаўшы дакопвацца... Дакапацца ўсюды і да ўсяго можна. І да вады, і да чалавека...

— Чаго ты, дзядзька, на нас злуеш?

— Я, браткі, на вас ні за што не злую. За што на вас мне злаваць. Толькі скажу адно — можна было абрэзаць частку зямлі, а то больш за палавіну адхвацілі, і дзела з канцом. Добры інтэрас!

І, адышоўшы, пастаяў і паехаў паволі, пускаючы густы дым з-пад тоненькіх, кепска падкручаных вусоў.

Пасля ўжо, увосень, як пачала мерзнуць зямля, шукаў ён пад вечар каля пасёлка сваіх гусей. Над калодзезем стаяў новы зруб, і пасёлкавец Антось Макарэвіч нечага корпаўся там каля яго з сякераю. Купрыяновіч падышоў, цяжка шаруючы ботамі па няроўна раскіданай гліне, даў «добры вечар» і сказаў:

— Значыцца, скончылі; зруб стаіць; вада свая... хаты пазабудоўвалі — усё ў парадку.

Антось Макарэвіч раптоўна разгладзіў вусы, паправіў на галаве заячую шапку і скоранька прагаварыў:

— Дзе б-бачыў, далёка яшчэ да парадку... хата-хатаю, а хлявы, а платы, а ток; ой, яшчэ давядзецца пагараваць...

— Ну, яно пэўне.

— Ой, яшчэ давядзецца...

— А як я ўвесь вялікі хутар забудоўваў?!

— Ну, табе было лягчэй — ты спрадвеку быў фальваркоўцам...

— Ну, фальваркоўцам то я не быў ніколі. Калі ў мяне, скажам, было якія дзесяцін трыццаць, дык гэта найбольш. Усякі ўсё, ліха яму, упікае фальваркам.

І, сказаўшы гэта, прыпомніў, што сказаў «папросту», і тут жа паправіўся:

— Найвенц трыццаць дзесяцін. Я ж кажу, трыццаць — дык гэта ад сілы, найвенц!

Антось Макарэвіч нешта хацеў сказаць, але Купрыяновіч кіўнуў галавой і пайшоў, азіраючыся, па полю. Відаць было, што ён не пакідае злаваць.

Такія былі ў нас адносіны між людзьмі.

Пасля Купрыяновіч зусім пакінуў вітацца з пасёлкаўцамі і, канчаючы ўвосень апошнюю работу на полі, калі каго ўгледзіць, адварочваецца, нібы не бачыць. Тады хлопцы падыходзяць бліжэй і моцна, каб чуў ён, гавораць, што на весну трэба будзе выкарчаваць кусты аж да самай рэчкі — у Купрыяновіча там каля рэчкі свая паша, і яму прыйдзецца наймаць другога пастуха, каб каровы яго не заходзілі тады на чужое поле, як цяпер заходзяць у чужыя кусты... Так і прымушаюць яго заўсёды быць злосным.

Цяпер на мёрзлым полі пуста. Толькі дзікія птушкі чорнымі камякамі варушацца па цвёрдай шэрані. Неўзабаве ляжа снег.

# СПАТКАННЕ

Хмурыцца дзень, а вецер расчышчае неба, і часта зямля блішчыць у сонечнай радасці. Холадна. І трава халодная, і пыл над дарогамі цяжкі — паднімаецца невысока і ападае. На той бок рэчкі дубовыя кусты яшчэ голыя, алешына і крушына — як у зялёным пуху. Галлё ж дубовых кустоў — як сухія пруты — на ветры стукае і гудзе.

Сонца — пад поўдзень.

І пуста вакол.

Вёскі пахаваліся за ўзгоркамі і за кустамі. Палеткі ярыны, што нядаўна паўсходзіла, роўныя і голыя — птушкі жывяцца цяпер найбольш на голай зямлі, на падбаранаванай раллі і каля вёсак... Жытнія палеткі плывуць і бягуць пад ветрам. Плывуць і плывуць...

Не прывязаная да воза барана мая стукае па аглабіне і парушае гэтым роўнасць тонаў песні палёў. Еду я паволі. Звесіў босыя ногі да самай зямлі, і шкода нейк, што прыдарожная трава і зелле малыя яшчэ і не труцца аб ногі...

У сарочцы з пафарбаванага начырвона палатна, на дарожцы (мяжа поля і дубовых кустоў) — чалавек. Без шапкі. Валасы зачэсаны ў кружок і густа-жоўтым валам ляглі над вушыма. Барада — тыдняў два таму брытая, вусы — падстрыгаюцца. Нізкія кусты — на ўзровень з яго тварам.

Каля ног яго куча насечанага лому, некалькі зялёных ядлаўчын, некалькі дубовых каршакоў і альховых прутоў.

Я ціха праязджаю міма яго, а ён ківае мне галавою, і бачу я — вочы яго такія, як бы гэта вінаватым ён лічыць сябе.

— Добры дзень!

А голас у яго зычны і спакойны.

Я прыпыняюся і гляджу на яго.

— Скародзілі?

— Але.

— А зямля халодная.

— Халодная.

— А! Што гэта робіцца — а-яй! Ат, трава ніяк не возьмецца расці. Халадэча.

Мне ўжо хочацца гаварыць, і я пачынаю закурваць.

— Гэта я тут кошанкі ўсеяў трохі і збіраюся дадому ехаць. Дык от, думаю сабе, ламачча ўсякага назбіраю трохі, сяго-таго, усё роўна з пустым возам дадому ехаць, а дома яно як высахне — за мілую душу згарыць...

— Дзіва што згарыць, уг-га!

— Згарыць... А сам я нетутэйшы, з Цецераўцоў я. А тут гэта дачка замуж пайшла, ды пакуль што яшчэ каня не маюць, дык я, управіўшыся трохі дома, памагчы прыехаў... Дома там, сказаць, нікога няма. Старая толькі. Было тры сыны, дык толькі памяць засталася, няма. Адзін яшчэ пад Асаўцом, з немцамі як яшчэ ваявалі, дык адтуль не вярнуўся... А другі — як з палякамі біліся, дык ён з сваёю часцю якраз за тры вярсты ад Цецераўцоў праходзіў — самы фронт быў. Але які там фронт — налёт, кучкамі. Насядалі.

Ён падышоў бліжэй да мяне...

— ...Насядалі... і захацелася яму дадому — магнасць нейкая пацягнула яго. Вядома — чалавек заўсёды гэтак. Два гады не бачыліся — бацькі, свая сям'я... Усё жыве так... Дык ён падышоў да дома — тыя пайшлі ўперад, а ён трохі застаўся. Думаў — гадзіны дзве пабудзе дома, а там і пойдзе, дагоніць часць... Дык ён, праўда, пасядзеў можа не больш як гадзіну і збірацца пачаў. Заплакалі мы ўсе, а ён усміхаецца — зараз, кажа, вайну скончым, палякаў у пыл сатрэм, тады пабачымся... Хутка... Развіталіся мы, вывеў я яго на вуліцу, аж бачу — пуста вакол, хоць бы жывая душа. А тут выйшла — нашы адышлі трохі ўбок, а палякі і наспелі, і вярнуліся. І от жа яны — па вуліцы пяцёрых бягуць. І яго ўбачылі. Ён на прыгумень, а яны за ім. Ён хацеў выскачыць на агароды, а адзін смальнуў і палажыў. Я сяджу ў хаце і дрыжу... Не ведаю, па кім гэта стралялі... Пасля выйшаў (праз гадзіны дзве нашы вярнуліся) і аж абамлеў — ляжыць ён каля сцяны...

І от ён больш не гаворыць і плача.

Пра трэцяга сына я не пытаю. Гляджу на яго, маўчу. І гляджу на зямлю, як яна, у вечным абпаўленні сваім, дыхае нязлічанымі мільёнамі жывых і нежывых істот.

# НАЧЛЕГ У ВЁСЦЫ СІНЕГАХ

Вялікі паход скупы на адпачынак. І мы спалі мала — прыхваткамі, па гадзіны дзве ўпору.

У вёсцы Сінегах засталі мы сляды праходу ранейшых вайсковых часцей: дзеці гулялі з кабелем; каля хлява крайняй хаты, на панадворку, на расцярушанай саломе, параскіданы патроны; мы папрабавалі іх да сваіх вінтовак — не падышлі, так іх зноў і пакінулі тут.

Восем хат вёскі Сінегаў шасталі на ветры раскудлачанымі грэблямі саламяных стрэх.

Спаць лажыцца трэба было адразу.

У хаце я застаў ціхую ўстрывожанасць і непакой напалоханых вайной людзей: чацвёра дзяцей і жанчына — гаспадыня і маці — прыгожая гарадзенская сялянка.

Мы сцелемся ў халодных сенцах на нейкіх нізкіх скрынях — я і наш узводны, таварыш Скабакоў, вясёлы і рыжы хлапец, родам з нейкіх Аланецкіх азёрных рыбных узбярэжжаў. Мы папраўляем салому, пацёртую ранейшымі вайсковымі начлежнікамі, кладзем пад галовы ўсю сваю салдацкую маёмасць, і цяжкая дрымота зразу кладзецца на вочы нашы.

Дзверы ў гарачую хату адчынены. Там доўга і ціха спрачаюцца дзеці за нейкую «падушку з чырвонаю прошваю», і нарэшце ўсё робіцца ціха.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Прывыкшы да трывожных раніц, я ўскідаю раптам угору галаву і стараюся разагнаць каменную ранішнюю дрымоту. Малады дзень ледзьве прапускае праз маленькае сонечнае акенца першае святло сваё.

«Яшчэ пяць хвілін я паляжу, і тады буду будзіць Скабакова»,— я думаю і змагаюся з цяжкай дрымотай. Я падкладваю рукі пад галаву і сціскаю каля вушэй. Тахкае і баліць у галаве.

У хаце я чую гаворку:

— Уставай, сынок,— гаворыць жанчына.

Усё маўчыць.

— Сынок, устань.

— Ай, мама...

— Устань, сынок, ну хто ж устане, ты ж самы большанькі.

— Я яшчэ хоць трохі пасплю...

— Заснеш удзень, а цяпер — ну каго ж я пабуджу.

Хлапчанё заплакала. Ён доўга зацягнуў санлівым голасам, цягнуў і, мусіць, спаў. Пасля раптам сціх. Жанчына маўчала.

Я ўстаў і пабудзіў Скабакова.

Я ўвайшоў у хату.

Жанчына рвала на кавалкі старую, зношаную да адных дзірак сарочку.

— Добры дзень,— сказаў я.

— Добры дзень,— адказала жанчына.

— Дзякуем за начлег, мы ўжо ідзем.

— Ідзіце.

Што мне сказаць яшчэ? І я гавару:

— Няхай хлапчук паспіць яшчэ трохі, няхай гадуецца.

Я адчуваю сябе так, як бы ў чым вінаваты тут.

— Ну, а што я зраблю,— гаворыць яна раптам, хутка, моцна,— што я зраблю, што я адна параджу. Гаспадара няма, гаспадар ваюе. А сёння мне трэба хоць трохі пачаць авёс жаць, дастаць дзе каня ды хоць возік жыта прывезці — абаб'ю як-небудзь, хоць пранікам, а вечарам у жорнах змялю, калі падсохне за дзень на печы, дык назаўтра хлеб рашчыню...

— А каня няма?

— Каня палякі пазаўчора ў абоз пагналі, разам з хлопцам.

— З якім хлопцам?

— З сынам.

— Вялікі?

— Малы... Каб вялікі — я не тужыла б гэтак... А тут малога ніяк не ўзбудзіць карову выгнаць папасвіць. І няма чаго даць яму паснедаць. Накапала ўчора зрапку картопель трохі, малыя яшчэ, дык пад вечар салдат накарміла — ідуць босыя, галодныя, абарваныя, абшарпаныя... Можа, думаю, і мой там дзе-небудзь небарак...

Яна падышла да ложка.

— Устань, сынок, я табе новыя анучы ад свае старое сарочкі адарвала, каб табе было чым нагу мяккім абкруціць. Абуеш Міколкавы лапцікі, яны табе велікаваценькія, і вольна назе будзе... Устань, сынок.

Яна нагнулася над ложкам.

— Зараз прарваць павінна.

— Што?

— Нарыў. На тым тыдні яшчэ нагу прабіў па корч, дык парывае.

І я нагнуўся над ложкам. Хлапчанё спала. На левай назе, каля пальцаў, збоку, была белаватая пухліна, запэцканая ў гразь.

Я пайшоў у сенцы. У сваіх мяшках я нічога не знайшоў, апроч двух тараноў. Я дастаў іх і палажыў у хаце на лаве — уся мая салдацкая ежа.

І тады мы з таварышам Скабаковым назаўсёды пакінулі гэтую хату.

Праз хвілін пятнаццаць мы пакінулі гэтую вёску Сінегі.

Чакаючы загад рушыць, я ўбачыў яго: накульгваючы, ступаючы на пяту, ён гнаў карову. Каля хаты стаяла маці яго — вялікая горадзенская жанчына.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І от мы ідзем.

Будзем ісці доўга — вялікі паход скупы на адпачынак.

# ТРАГЕДЫЯ МАЙГО НАСТАЎНІКА

Найдрабнейшае каліва травы — незаўважанае ці даўно забытае,— і яно можа калі-небудзь увайсці раптам у жыццё чалавека, заняць увагу і думкі. І няма тае рамы, у якую можна было б, нават самаму моцнаму з моцных, уагнаць гэтую з'яву з малым калівам травы. А якую адлегласць трэба вымераць ад травы да чалавека?!

Аб трагедыі аднаго старога чалавека, майго былога настаўніка чатырох правілаў арыфметыкі, паведаміў мне яго ліст. Я атрымаў яго ў летні дзень, пад вечар.

«Прыйшлося мне давесці да вашага ведама, што я ажаніўся,— пісаў ён.— Жонка мая — вельмі маладая, прыгожая, слаўная і добрая; яна мяне вельмі глядзіць, шкадуе і любіць, хоць мне і пайшоў ужо шэсцьдзесят чацвёрты год. Я яе вельмі люблю, але жыць з ёю мне цяжка, бо дзеці мае, Клаўдзя і Ваця, мне жыць не даюць. Яны мяне і яе выганяюць з хаты і намагаюцца, каб я браў з ёю разлуку. Кажуць, што мне даўно пара ўміраць, а я ажаніўся. Я не дамагаюся пашаны да мяне як да бацькі, я толькі клапачуся, каб як ёй пражыць разам са мною. А яна жыве і начуе ў суседкі, бо яны не пускаюць яе нават на парог дома. Яны кажуць, што я ім свет завязаў, а тут, удумаўшыся, як я яго ім мог завязаць, калі гэта яны свет мне завязалі, не даючы спакойна пражыць да канца жыцця майго. Яна цяпер ходзіць да людзей на работу і корміць мяне. Дык от я, ваш даўнейшы настаўнік, і звaрочваюся да вас як да свайго даўнейшага вучня, каб вы паклапаціліся аба мне і дапамаглі мне дастаць пасаду настаўніка. Хоць я ўжо год восем і не працую настаўнікам, можа нават і больш, але я нічога з навук не забыўся. Палітыку і палітэканоміку я падзубру, і ў мяне ўсё як мае быць пойдзе. Я аб сабе не думаю, мне толькі, каб яна

не пудзілася. Калі трэба будзе прайсці настаўніцкія курсы, то я за свой кошт мог бы гэта зрабіць, нічога не патрабуючы ад казны, абы толькі мець пасля пасаду настаўніка. Пастарайцеся, дарагі мой, паклапаціцеся аба мне, не пакіньце мяне ў маёй бядзе. Можа вам будуць што пісаць на мяне ці нагаворваць мае ворагі, дык вы не верце ім, бо яны ўсе жадаюць мне толькі бяды, хоць я ім ніякае прыкрасці і не зрабіў. Я з сваёю жонкаю абкружаны ворагамі, нават родныя дзеці паўсталі на мяне. Памажэце мне, дарагі. Чакаю ад вас добрага для мяне адказу».

Ліст гэты тры дні ляжаў у мяне на стале — я стараўся дадумацца, што мне адказаць яму. Нельга было проста сказаць яму, што нічога я не магу дапамагчы яму ў гэтай справе,— усё роўна не дасць веры.

На чацвёрты дзень прыйшоў ад яго другі ліст, пісаны больш нервова, як бы ён падыходзіў да апошняга пункта, за якім няможна ўжо было шукаць збавення.

«Калі здарыцца, што вам мае Ваця або Клаўдзя напішуць што-небудзь, то будзьце так сардэчна аддадзены мне, не звяртайце ўвагі на іх захады, а ідзеце поўнасцю насустрач мне. Так гаворыць нам камунізм, што трэба ісці насустрач нашаму беднаму класу. Жонка ж мая вельмі бяздольная пры цяперашнім нашым становішчы, і мне застаецца толькі адно — клапаціцца, каб не давялося ёй ісці з торбаю па свеце.

Гэта з ёю здарыцца, калі я з ёю разлучуся; а жыцця ёй і мне ў доме маім няма і не прадбачыцца. Адзін мне выхад — пайсці на службу настаўніка, што зрабіць можна пры дапамозе добрых маіх прыяцеляў. Так што, мой дарагі, як ужо я вам пісаў раней, паклапаціцеся. Даведайцеся, можа мне можна і трэба быць на курсах, і я буду згодны. Чым хутчэй адкажыце мне, бо Ваця і Клаўдзя стараюцца ва ўсім перашкодзіць мне. Яны проці таго, каб я жыў з сваёю жонкаю, хоць бы і на пасадзе, не ў сваім доме. Будзьце ласкавы, пагаварыце там з кім належыць; я гатоў прайсці курсы, але толькі ў Мінску, бо ў сваёй акрузе цяжка мне будзе папасці на іх, у мяне тут няма дарагіх таварышоў. На рэшце ліста гэтага прашу яшчэ раз паклапаціцца як аб сваім былым настаўніку і яшчэ раз папярэджваю вас, што калі будзе ў вас якая-небудзь заява супроць майго паганага становішча, то адкіньце яе, бо ў іх адна мэта — разбіць маё жыццё з жонкаю, і ад гэтага для мяне здарыцца вельмі непрыемная

гісторыя. Каб мне папасці на курсы, то тады мая жонка магла б пажыць у сваёй вёсцы, а пасля была б пасада, і ўсё было б добра і спакойна. Мой дарагі, пастарайся мне зрабіць кар'еру жыцця, у іншым выпадку я канчаткова прападу. Так я цяпер нуджуся і так у мяне цяпер горка на сэрцы, што я не магу перажыць і не ведаю, дзе мне дзецца. Ваця ж і Клаўдзя рады, што мне нядобра. Жонка жыве ў суседкі, а я дома ні госць, ні гаспадар. Забралі яны ўсё ў свае рукі. Прывядзіце мяне да спакойнага жыцця, і я буду лічыць вас да дошкі труны свае маім ласкавым другам. Добра было б атрымаць ад вас адказ дзён праз 8—10, бо калі пазней, то я не ведаю, што яны са мною зробяць. Пішыце мне на імя брата майго Уладыслава, бо дома яны перахвацяць ліст. Яшчэ раз прашу вас, дарагі мой, не пакіньце без увагі мае просьбы».

«Прывесці яго да спакою жыцця?!»

І я нічога не напісаў яму. Я сам меўся ехаць туды і думаў сам пастарацца як-небудзь пераканаць яго, што ніколі ў канцылярыях камісарыятаў і іх аддзелаў я не буду такім аўтарытэтным, каб дапамагаць каму-небудзь заняць пасаду.

Лісты гэтага старога чалавека наводзілі на мяне думкі аб усякіх трагедыях чалавечых, аднак адзін з маіх знаёмых, якому я для практыкі вывучэння ўсяго, што толькі можна вывучаць, пачытаў гэтыя лісты, сказаў мне, што чалавек гэты — вузкі эгаіст і па-дурному разумее жыццё. Перш за ўсё, для яго няважна шырыня настаўніцкае працы, ён проста думае аб тым, каб як самому зачапіцца за што ў жыцці. Апроч гэтага, ён як індывідуум супярэчыць прыроднаму ўстанаўленню: ён жа пражыў сваё жыццё, даўно адкрасаваў, а тым часам усе звесткі гавораць, што ён імкнецца парушыць устаноўлены ход падзей, задумаўшы нанава пачаць жыць. Тут толькі амалажэнне магло б утварыць парушаны парадак. Ён падобны да таго старога дупляватага дрэва дзе-небудзь у садзе, якое, высахшы ўсім галлём сваім, пачынае пускаць пасынкі з пня і карэнняў. Пасынкі растуць густа і не ў належную меру, глушаць адзін аднаго, гусцяцца там, дзе самая густата шкодзіць іх жа росту, і рэдка растуць там, дзе можна б і гусцей расці. Калі іх не абрэжуць або не зрэжуць зусім дрэва, яны пачынаюць разрастацца не як пладовае дрэва, а як дзікая прырэчная вярба, што расце зараз і голлямі, і карэннямі. І от само дрэва падобнае ўжо на куст, праў-

да, зялёны і купчасты, але бясплодны і некарысны ў садзе. А вакол растуць маладзенькія шчэпы, што прышчэплены некалі былі ад гэтага самага дрэва, калі яно было яшчэ здаровым і давала плады. Бліжэйшыя шчэпы цяпер глушацца гэтым раскушчаным дупляватым дрэвам, расці ім тут невыгодна, бо частку сонца засланяе сабою непатрэбны куст пасынкаў.

Дзеці гэтага старога хочуць таксама жыць. Можа гэты сын яго, Ваця, нядаўна ажаніўся ці думае жаніцца, а стары бацька засланіў яму ў хаце свет.

· Вось да чаго падобна гэта здарэнне.

Так гаварыў мой знаёмы. Падумаўшы трохі, ён яшчэ сказаў:

— Чалавек гэты навылет працяты хрысціянскімі разуменнямі. Ён адмаўляе ўсякую актыўнасць арганізацыі. Для яго проста па-хрысціянску камунізм — нейкая вышэйшая, невядома адкуль нараджоная істота, якая вучыць ісці і сама ідзе насустрач усім бедным і бяздольным. Спадзявайся, значыцца, на гатовае. Сядзі, рукі склаўшы, і ўздыхай, пакуль нехта, навучаны камунізмам, не прыйдзе і не прынясе збавення. Да гэтага ж трэба дадаць, што ён і хітранькі, гэты чалавек; думаючы падкупіць вас, ён гаварыў тут пра нейкі для яго далёкі і незразумелы камунізм.

— Аднак жа ён сам дзейнічае; сам пачаў панава жыць, супярэчачы дзецям,— пастараўся апраўдаць я свайго былога настаўніка.

— Малая яго ў гэтым храбрасць — ён проста эгаіст ды, у дадатак, баязлівы.

— А што ты хочаш ад яго, старога?

— Ад яго нічога ніхто не хоча і не вымагае, толькі я падвожу яго пад агульны закон для такіх людзей — хто з іх больш правы: ён ці дзеці. Па-мойму, дзеці павінны поўнаю жменяй чэрпаць жыццё, а ён — «пастолькі паколькі».

Я выслухаў майго знаёмага, і нядобрае пачуццё засталося ў мяне да яго. З аднаго боку, трагедыя чалавека, з другога — формула. І нядобрае пачуццё гэтае надоўга не пакінула мяне, бо бачыў я шмат пісароў, якія складалі незлічоныя анкеты абсалютна для ўсіх, самі ж ніколі ў іх не ўпісваліся. За вельмі малы час цэлы калейдаскоп іх, гэтых асоб і характараў, сілком, без майго нават клопату, паказала мне сябе навылет. Адна шаноўная асоба запра-

сіла была раз мяне на абед. І я пайшоў, радасна чакаючы пачуць паважнае слова.

Аднак паважнага слова я так і не дачакаўся, бо слухаў увесь час усякую гаворку аб закулісных справах адной вялікае ўстановы. Пры гэтым лысіна паважнае асобы далікатна блішчала, і твар зрабіўся раптам мяккім і добрым — відаць было, што асоба папала ў сваю сферу! Другая, не менш паважная асоба, напоўнілася раз вялікім жахам, калі я ў нейкай справе прапанаваў змяніць вельмі цяжкія і надзвычайна невыгодныя метады адной работы на лепшыя.

Асоба прызнала прапанову вельмі добрай, старыя метады вельмі дрэннымі і новыя вельмі добрымі, аднак, з выглядам чалавека, пад якім рушыцца свет, заўважыла:

— Вы забываеце, што тыя метады, якімі цяпер карыстаемся, некалі былі праведзены ў жыццё.

— Дык што?

— Дык тое, што яны ў свой час былі ўхвалены, і, адкінуўшы іх, мы кампраметуем сябе. Заўсёды памятайце, што пра іх было раздзьмута кадзіла, і няхай сабе яно цяпер непатрэбна, аднак мы павінны хоць штучна падкладаць у яго вугалле і ладун. Разумееце?!

Я не меў права не разумець.

І я толькі быў рад аднаму: гаворачы аб змене метадаў, асоба міжвольна пакрыла твар свой страхам, звычайным чалавечым страхам. Такім чынам, першы раз у жыцці давялося мне ўбачыць у гэтае паважнае асобы чалавечы твар.

Я ўспомніў пра калейдаскоп асоб... І мне захацелася зараз жа ўбачыць майго былога старога настаўніка і, пераканаўшы яго ў праўдзівасці палажэння, што нічога дапамагчы яму я не магу, сказаць яму радаснае, ласкавае слова. Я ведаў, што ласкавае слова — гэта саматужніцтва і што адзінае ўстанаўленне жыцця — гэта індустрыя, аднак нічога з сабою зрабіць не мог. Такая ўжо ў мяне брыдкая натура.

Я не паспеў яшчэ выехаць туды, як раптам зноў ліст прыйшоў да мяне. Ліст не ад яго, а пра яго. Між усякімі іншымі навінамі мне пісалі, што пад вечар ён нечага зайшоў дадому. І між ім і сынам Вацем адбылася такая гаворка:

— Чаго ты прыйшоў сюды? — сказаў сын.

— Я трохі паляжу тут на лаве,— адказаў бацька.

— Ідзі вон, тут табе не месца.

— Тут жа мой дом, я паляжу трохі, дзе ж я дзенуся.

— Дзе дзенешся? Унь студня. Ідзі і дзенься там.

Тады ён пайшоў «дзецца» ў студню. Як атручаны, прайшоў па вуліцы, даючы дзень добры ўсім сустрэчным. У студню ён палез паволі, па выступах. Вада заняла яму толькі да грудзей. І ён там стаяў у немай роспачы. Як збегліся і хацелі яго выцягнуць, ён паволі падкурчыў ногі, каб схаваць у ваду галаву і захлынуцца.

Дасталі яго пежывога.

# СПАТКАННЕ

Была восень.

Пачынала развідняцца, і было спакойна на вясковай вуліцы. У белаватым змроку бліпчала нерухомая дажджdjавая вада; у абложаных картаплянікам хлявах спалі пеўні. Маўчалі клёны і грушы каля хат, трымаючы на абсохлым за апошнія пагодлівыя дні голлі сваім астаткі пачарнелага лісця.

У гэты час дрэнна адзеты чалавек прыйшоў у вёску.

Ноч была толькі змрочная, белаватая. Цяпер жа, пад дзень, яшчэ відней было, і дрэннае адзенне чалавека было прыкметным: падпяразаная суконная жакетка калмацілася ўнізе сваёю няроўнаю абарванасцю, лапці шморгаліся па вільготнай дарожнай зямлі — чалавек, відаць, быў утомлены.

Такім от стомленым крокам чалавек падышоў да вёскі і вельмі ўважліва агледзеў новыя крайнія хаты. Тут месцамі ляжала яшчэ не скарыстанае пры будоўлі дрэва, пахла свежымі, кагадзе напілаванымі, дошкамі. Новым зрубам бялела здалёк студня. Яшчэ пахла ралля і з'едзеная жывёлаю да самых карэнняў паплаўная асенняя трава.

Далей на вуліцы было цямней — хаты стаялі тут гусцей, чарнелі платы і гусціліся дрэвы. У шмат якіх хатах свяціліся вокны, шастанне ж сячкарні недзе ў гумне не парушала спакою і цішыні безутрапёнага рассвітання.

Па вузенькім тратуары, з тонкіх аполкаў, чалавек прайшоў канец вуліцы, агледзеўся вакол і звярнуў у вузкі двор каля панурай хаты. Кудлаты і нязграбны малы сабака папрабаваў бурчаць, пасля сціх. Пасярод двара ляжалі наколаныя дровы, і недзе ў хляве сумавала ахрыплым голасам цялё.

Чалавек пастукаў у дзверы. Неўзабаве жаночы голас запытаў з сяней:

— Хто?

Чалавек адказаў:
— Я, Антось...
Голас у жанчыны раптам стаў здзіўленым і як бы радасна ўзбуджаным раптоўнаю навіною.
— Антось, няўжо! Братка, як жа гэта?!
Жанчына адчыніла дзверы, прапускаючы чалавека ўпярод, у хату.
У сенцах пахла мукою і сырою бульбаю; у хаце было трохі душна і цемнавата. Малая лямпачка стаяла на стале сярод хлебных скарынак і лыжак, не прыбраных яшчэ ад вячэры. Лямпа давала чырванаватае святло, і ў ім хмурыліся пабеленыя сцены, кагадзе абмазаная глінаю печ... Стары гадзіннік, вырысоўваючыся на сцяне шырокаю лапінаю, вельмі павольна і няроўна адбіваў свой такт. Вокны, застаўленыя ўсялякімі дробнымі рэчамі, сінелі пачаткам маладога дня.
— Братка, Антоська! — зноў сказала жанчына.
І, памаўчаўшы трохі, заплакала.
— Чаго ж ты?!
— Горка мне неяк.
— Чаго?
— Аб табе... ці здароў ты хаця?
— От бачыш жа, здароў, калі прываloкся сам. Пеша ішоў.
Чалавек быў малады. Толькі старыла яго няголеная нейкі час барада. Ён сеў на лаву, палажыў каля сябе свой невялікі клунак і пачаў скідаць растаптаныя лапці. Анучы ў лапцях былі мокрыя.
Жанчына стаяла пасярод хаты, падпёршы твар левай рукою, і глядзела на яго.
— А я чакала раней цябе, думала, што ты неўзабаве як-небудзь прыбудзеш, як толькі тады тую вестку прыслаў. Ажно толькі цяпер... мусіць, цяжка вельмі...
— Нічога. Толькі пакуль дакументы справіў... А так усяго было. Вядома, што гараваць даводзіцца... А тут змены нейкія, канец вёскі адбудаван новы.
— Гэта паадсяляліся з вуліцы — цесна вельмі.
Жанчына выцерла твар ад слёз і села побач на лаву. Яна на выгляд была старэйшаю за брата. Сялянская задумёнасць і заклапочанасць была ва ўсёй яе постаці. Яна моцна пазяхнула, папраўіла на галаве валасы і, усё яшчэ неяк устрывожана, ціха гаворачы з братам, пачала мыць бульбу ў вялікім дзеравяным вядры.

Пачаўся дзень. Зрэдку з вуліцы чутны сталі галасы, скрыпела коваратам студня і зусім блізка ржаў маладым голасам конь. Святло дня прабілася ў хату праз вокны, і лямпа траціць пачала святло сваё. З вулічнага акна відаць стала: за пустым агародам — незабудованым пляцам на тым баку вуліцы — ападаў тонкі асенні туман над паплавамі. Скрозь яго разарваны засціл абрысоўваўся лес ці кусты; нехта хадзіў там па агародах, высокі, апрануты ў кароткі кажух. Змрок ночы хутка распоўзваўся.

Не пакідаючы гаварыць з сястрою, Антось глядзеў на акно і далей, што было за ім.

— Тут усё, як і было, на самай вуліцы,— сказаў ён сам сабе.— А от хата гэтая Янкава толькі знесена.

Сястра заўважыла:

— Янка памёр, а сыны павыязджалі, недзе вучацца. Дык пляц цяпер Мікалаю Крываногаму аддалі — гаспадара на яго не было: тыя як паехалі, дык так і пуставаў ён. Мікалай хату будзе некалі на вясну ставіць.

— А хто аддаў пляц? Янкавы сыны?

— Не, уся вёска, на сходзе.

— А сыны?

— А нашто ім пляц? Яны можа сюды доўгі час і вачэй не пакажуць. Іх галовы іншым заклапочаны.

Жанчына пайшла даіць карову. Антось падвесіў на вешала над комінам анучы, каб прасохлі.

Кароткая асенняя раніца. На вуліцы ўжо крычалі дзеці, бегучы ў школу.

Тут, у гэтай знаёмай хаце, мала што з вонкавага боку змянілася за апошнія некалькі год. Сцены бяліліся, мусіць, некалі летам — яны пацямнелі трохі. Каля печы было натупана вільгаці; стаялі кашы з бульбаю, ляжала бярэма насечанага дробна і звязанага перавяслам лому. Антось глядзеў на вокны, пазастаўленыя ўсялякімі дробнымі рэчамі, і пазнаваў выразы рам, больш толькі пачарнелых з таго часу... Унь у двары суседняя сцяна, да яе прыроблена падпаветка, пад якою складзены пепілаваныя дровы. Такі выгляд мела гэтая сцяна і тады.

Але тады іначай усё было ў самога Антося. Тады ён быў зусім маладым хлапцом, як пакідаў хату гэтую, знаёмую з малых дзён, для таго каб застацца ў маёнтку Рымашах за парабка. Бо на адной дзесяціне поля нельга

было нічога зрабіць, і Антось пакінуў і хату і дзесяціну гэтую сястры сваёй, якая была замужам за чалавекам з-пад тых жа самых Рымашоў — Хвёдарам Маліноўскім — чалавекам гультаяватым і горкім п'яніцай. Наймаўся ён на падзённую работу, і сястра з дамашняга гора папала ў другое. Тады Антось нават нічога не захацеў браць ад сястры — адмовіўся ад сваёй часткі з хаты і дзесяціны, выбіраючыся за парабка ў маёнтак і пакідаючы ўсё сястры.

Аднак жа нават і пасля гэтага, калі да дзвюх дзесяцін Хвёдаравых далучылася дзесяціна жончына,— і тады нічога не змянілася. Хвёдар піў яшчэ больш і штодня катаваў Агату. Агата пачала хварэць.

Маёнтак Рымашы быў далёка, і Антось усяго толькі некалькі разоў быў у сястры сваёй Агаты. Пачуццё братняй блізасці да яе было амаль заўсёды загублена ў навале штодзённых клопатаў і работы з цямна да цямна. Пасля, як маёнтак Рымашы быў аддзелены ад роднай вёскі дзяржаўнай мяжою, з тых часоў толькі адзін ліст атрымала Агата ад брата. Апошні ж раз бачыліся яны, калі Антось вярнуўся з царскай вайны. Тады некалькі дзён прабыў у роднай хаце — у прыглушанай бядотамі і мужам-п'яніцай сястры. Пасля пайшоў назад у маёнтак — дзяліць яго між усімі парабкамі. Але праз некаторы час — парабак застаўся парабкам і так, як і раней, кожны вечар прыходзіў дадому разззлаваны і стомлены на панскім полі. І ўсё грэў у сабе думку як-небудзь вярнуцца да сястры, як-небудзь узяць сваю частку з той хаты і дзесяціны, што-небудзь прыкупіць на выплатку і пачаць жыць іначай. Бо гады праходзілі, і не хацелася дажываць веку так у парабках. Родная ж вёска моцна цягнула яго да сябе.

. . . . . . . . . . . . . .

— Дзе ж Хвёдар? — запытаў Антось, раптам успомніўшы.

Агата чуць усміхнулася, пільна гледзячы ў вочы брату.

— Няма Хвёдара.

— А дзе?

— Другі год няма ўжо... Разлучыліся з ім. Не магла жыць больш.

— А дзе ж ён цяпер?

— Не ведаю. Недзе работу знайшоў і выехаў з вёскі. Прысуджаную сваю частку з маёмасці прадаў і так пае-

хаў. Не вельмі даўно паехаў, а то трохі тут жа ў хаце жыў, пасля ў суседа трохі. Суд хату мне прысудзіў, бо сын са мною застаецца і падрастае, зараз гаспадаром будзе. Цяпер лепш жывецца мне.

— А гаспадарка?

— Зямлі прырэзалі. Дык я адна ўсё і ўпраўляюся. Уладзіку трынаццаты год ідзе... ты яго, мусіць, не памятаеш. Вучыцца цяпер.

— Дык табе лепш жывецца?

— Лепш. Я ажыла проста. Можна стала разлучыцца лёгка з Хвёдарам, поля больш стала, толькі што самой рабіць давялося.

— А Хвёдар хіба не дамагаўся ўсяе гаспадаркі?

— Дамагаўся, але толькі частку, і то меншую, яму. А то хацеў мяне зусім прагнаць, каб я ішла немаведама куды. Тады ён проста прапіў бы ўсё, такая натура ў яго... Але самае важнае, што нейк іначай пачуваю сябе... Цяпер, летам гэтым, паднаўляць хату буду, ужо запісалася на дзерава, адпускаць будуць. Пад вясну буду каня пераменьваць, стары дрэнна робіць. Таксама дапамогі папрашу, мусіць дадуць мне як удаве.

Агата ўсміхнулася ізноў, пры слове «ўдаве».

Уладзік усхваціўся з пасцелі і хутка адзяваўся. Ён быў тонкі і рухавы. Схваціўшы са стала хлеба, ён, прыціскаючы пад пахаю кнігі, пабег у школу.

— Сястра,— сказаў Антось,— а я думаў, што ты таксама сохнеш ад жыцця, як і тады, калі бачыў і ведаў. І сам дзіўлюся, як гэта мог я думаць нават, ведаючы пра тое жыццё, браць якую-небудзь часць з тае беднае гаспадаркі. Усё інакшым цяпер здаецца мне. Я не ведаю, што і як буду я рабіць цяпер, чым займуся, але рад я чуць ад цябе ўсё гэта.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пасля поўдня Уладзік з дзядзькам Антосем выбраліся ехаць у лес. На дварэ падмарожвала. Чулася блізкая зіма. Тонкая плёнка лёду лажылася на ваду. Як выехалі за вёску — лёгкім холадам пацягнула з поля. Конь паволі ішоў па прымёрзлай трохі гразі, на сушэйшых месцах прабаваў бегчы. Хлапчук весела патузваў лейцы. На грэблі праламалі калясьмі плыткую лужыну, якая паспела ўжо зацягнуцца трохі лёдам. Пробаваў ісці ледзьве прыкметны, дробны і сухі снег.

# ТАВАРЫШ СІМЯНЮК

За Ваўкавыскам мы перадыхнулі пору — ноч спалі каля нізенькіх сцен расстрэленага хутара, а днём, у трывозе наскокаў польскай кавалерыі, выкорвалі з вытаптанай зямлі бульбу — даўно выкарпаную яшчэ ззамаладу, зялёную і смачную ад таго, што яе можна есці. Выкорвалі шаблямі і цесакамі.

Баявая смерць адышла на той бок лясоў, пакінуўшы ў нас жудаснасць цішы пасля грому. Ад гэтага і спаў я ўпочы галавою «на штабе», і цяпер ён адцягваў мне плечы непатрэбнымі тут паперамі і прыладамі — дзве нашы штабныя двуколкі, ад бешанай язды па каменнях і канавах, у адну ноч сагрэлі нас радаснай цеплынёю маленькага вогнішча на балоце.

І от ціш і бульба.

У нашых сумках яшчэ недаедкі мяса, знойдзенага на хутары,— і вось таварыш Сімянюк, два разы кантужаны на палях Бабруйшчыны, стаіць, прыціснуўшыся плячыма да сіняватай сцяны хутарскога хлява, і дастае з сумак недаедзеную скіўіцу і ногі, і гаворыць:

— Як я быў настаўнікам на Смаленшчыне, дык адзін раз некалькі тыдняў не мог есці мяса — першы раз на жыцці бачыў, як рэзалі карову.

— А цяпер?

І трывожна смяюцца.

Шэсць коней стаіць на прывязі каля сцяны і шэсць абветраных людзей сядзяць з намі. І адзін кожныя пяць хвілін папраўляе на плячы сухі, патрэсканы рамень шаблі. Крывіцца:

— Ня іш тэпэр!

Сімянюк маўчыць. Стаіць ён у рваных абмотках і растаптаных чаравіках: тоўстыя порткі, вузкія яму,— знятыя

па тым тыдні з забітага штабнога пісара, якога падмяніў я,— лопнулі ў каленях, і відаць сподпія і брудныя. Толькі гімнасцёрка на ім новая — сіняе тонкае сукно прыгожа ахватвае яго постаць.

...У хляве трашчыць тэлефон. Шэсць чалавек сядзяць на конях. Той ізноў папраўляе рамень і кідаецца пярэднім на дарогу — к лясам, дзе маўчыць фронт. Адкуль ён, што ён рабіў раней і якія здарэнні пасля былі з ім?

І раптам ахнулі сінія лясы! Як туман, яны мігаюць за палямі аўса і пшаніцы. Наша часць ляжыць недзе там, і хто яго ведае, ці гэта на той бок лясоў, ці на гэты цяпер ужо ўсё?!

Ціхі кабель нашых тэлефонаў ляжыць па разорах і ў траве.

І вось шэсць чалавек ва ўвесь дух імчацца назад па дарозе. І толькі гэты раптоўны тупат капытоў іх коней даўёў да поўнай свядомасці ўсю густату схаванага ад нашых вачэй недзе наперадзе руху.

Тэлефон суха затрашчаў і раптам сціх. І вось я перарэзваю кабель і знімаю яго. Сімянюк пачаў сцягваць кабель і пакінуў. Раптам перад намі ўсё сціхла; апошняя наша двуколка ад'язджае назад, і хутар пусцее. Мы сталі на картапляным полі. За нашымі плячыма, мінаючы нас, наперад бяжыць рота пяхоты. Камандзір прыгнуўся, і як бы недзе моцна баліць яму, так скрывіўся яго твар. І раптам насустрач голас коннага:

— Куды гоніш! Наза-а-ад!..

Пяхота недзе знікае... Раптам страшныя ўзрывы ўхаюць з усіх бакоў, і ўсё сціхае. Сімянюк нудна крычыць:

— Уся сувязь змятушана. А зараз што?

Як хмары зялёных мошак, чуць відзён нам па баках рух польскай кавалерыі. Мы — чалавек дваццаць — кідаемся на зямлю і ляжым. І от міма нас, нам у тыл, чэша польскі атрад — бешаны тупат коней здаецца павіслым над намі.

Памятая пшаніца вакол.

Міма, і мы жывы; і Сімянюк здагадваецца:

— У бярэзніку, засаду...

Там мы ляжым гадзіны, і такая цішыня вакол! Па зямлі ў пшаніцы мірна поўзаюць жоўценькія мурашкі. Адна ў мяне на руцэ — што для яе я, малы і нязначны для сябе і вялікая нямая маса для яе... Пшаніца пачынае шумець.

Сімянюк садзіцца і здагадваецца, што ледзь прыкметны шэры рух — далёка — наша пяхота.

І раптам роспачны жах крывіць яго твар. Вачыма паказвае ён наўскасы назад злева, і бачу я — дзе пачынаецца нізкі бярэзнік, сажняў за пяцьдзесят перад гэтым і зусім блізка да нас, прыціх паляк на зямлі. Дзе яго конь?

От ён варушыцца, чуць падняў галаву і прылажыў да вачэй бінокль.

— Наша пяхота адыходзіць,— у немай роспачы шэпча Сімянюк,— у зубы польскай конніцы... Падай знак які-небудзь, як падыдуць.

Як бы гэта якую малітву сказаў ён.

І раптоўна ва ўвесь дух папоўз, як ляжаў, наперад.

Мусіць хвілін пяць поўз ён, пасля ўскочыў і пабег. От ён усё далей і далей. Мне відаць, як паляк бачыць пяхоту і бачыць яго. І злуе...

Ён можа думае, што ў нас блізка атрады конніцы, куды пабег Сімянюк, і от ён цэліцца ў яго і страляе. Сіменюка нам не відаць, а, падняўшыся трохі, відаць, як далёка прыпынілася ад выстралу наша пяхота. Пасля пайшла налева. І злева ж выязджаць пачала наша конніца.

Над шпанічным полем спявалі кулі, і польская конніца спешна варочалася полем справа ад нас.

Пад вечар не сціхалі кулямёты; пяхота наша ляжала далёка перад намі. Нам назначана было ісці на мястэчка Ражаное, спешна сфармавацца ў новую часць...

Таварыша Сіменюка мы ўбачылі нежывым — дзве кулі прабілі яму галаву і левае плячо. Сіняя гімнасцёрка была пад карою сухой крыві, і твар выцягнуўся да вастраты — ад пакут, у якіх ён канчаўся.

Уночы мы ідзем росным гасцінцам. Вечнае расцвітанне зямлі поўніць нас салодкай трывогаю сэрца. І які ўздым ад глыбокіх слядоў чалавечых бур!

Мы нясем астаткі сваіх сіл у глухое мястэчка, каб там выліць іх у бурнае мора.

Таварыша Сіменюка з намі няма.

# КАМЕНТАРЫІ І ВАРЫЯНТЫ

У першы том Збору твораў К. Чорнага ўваходзяць апавяданні 1923—1927 гг. Усе яны былі апублікаваны пры жыцці пісьменніка. Некаторыя — у перыядычным друку; большасць — у зборніках: «Апавяданні» (1925), «Срэбра жыцця» (1925), «Па дарозе» (1925), «Пачуцці» (1926), «Хвоі гавораць», выд. 1-е (1926) і выд. 2-е (1928), «Верасновыя ночы» (1929), «Выбраныя апавяданні» (1932), «Выбраныя творы» (1934).

## НА ГРАНІЦЫ (стар. 29)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1923, № 98, 5 мая, дзе змешчана ўпершыню.

## НА ВАРЦЕ (стар. 34)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1923, № 118, 29 мая, дзе змешчана ўпершыню, за подпісам: К. Ч.

## МАЁ ДЗЕЛА ЦЯЛЯЧАЕ (стар. 39)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1923, № 283, 10 снежня; № 284, 12 снежня, і № 285, 13 снежня, дзе змешчана ўпершыню, з паметкай: 8-XII-23, г. Мінск.
*Цындайся* — шляйся, хадзі.

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ (стар. 53)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 14, 18 студзеня, і № 15, 19 студзеня, дзе змешчана ўпершыню.

## НА БЕРАЗЕ (стар. 62)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 24, 31 студзеня; № 25, 1 лютага, і № 26, 2 лютага, дзе змешчана ўпершыню.

## ДЗЕНЬ (стар. 76)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 42, 21 лютага; № 43, 22 лютага, і № 49, 29 лютага, дзе змешчана ўпершыню.

## УСЯМУ СВОЙ ЧАС (стар. 87)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 54, 6 сакавіка, дзе змешчана ўпершыню.

## ЖАЛЕЗНЫ КРЫК (стар. 90)

Друкуецца па час. «Полымя», 1924, № 4, дзе змешчана ўпершыню.

## АНДРЭЙ КЛЫГА (стар. 104)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 91, 20 красавіка, дзе змешчана ўпершыню.

## ПАЛЯВЫЯ ЛЮДЗІ (стар. 107)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 98, 29 красавіка, і № 101, 6 мая, дзе змешчана ўпершыню.

## НОЧ ПРЫ ДАРОЗЕ (стар. 114)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 117, 24 мая; № 118, 25 мая; № 119, 27 мая; № 120, 28 мая; № 121, 29 мая, і № 122, 30 мая, дзе змешчана ўпершыню.

*Ветліца* — дарога, абсаджаная вербамі.

## «ДЗЯКУЙ БОГУ, ЯК ШКЛЯНКА» (стар. 134)

Друкуецца па кн. «Моладзь — за новы быт». Зборнік для масавага чытання. Злажыў М. Сеўрук. БДВ, Мінск, 1929. Упершыню — час. «Маладняк», 1924, № 5.

Варыянт час. «Маладняк»:

Стар. 138

5 Пасля: ка'а // бога няма, папа не трэба, жывем мы, ка'а,

## МАКСІМКА (стар. 143)

Друкуецца па кн. «Апавяданні», выд. ЦБ «Маладняка», Мінск, 1925. Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 220, 23 верасня; № 221, 24 верасня; № 222, 25 верасня; № 227, 1 кастрычніка, і № 228, 2 кастрычніка.

Варыянты газ. «Савецкая Беларусь»:

Стар. 144

41 Пасля: стала і // , чуць усміхаючыся,

Стар. 147

28 Замест: «сталыя» // «вялыя»

Стар. 152

11 Пасля: прымалі // нейкі

15 Замест: абрысы // абразы

Стар. 155

10 Пасля: адтуль // вясёлы

Стар. 156

18–19 Замест: кучкамі // пучкамі

Стар. 158

37 Замест: барабаншчык // шарманшчык (унесена ў асноўны тэкст).

Стар. 159
[8] Пасля: было // на дварэ.
[38] Пасля: страхам // перад горадам
[43] Пасля: Тодара // — абы скарэй з горада.
Стар. 160
[4] Пасля: лекцыя // па сельскай гаспадарцы
[39] Замест: роўнымі // рознымі (унесена ў асноўны тэкст).
[42] Замест: лялі // мяталі (унесена ў асноўны тэкст).
Стар. 161
[24] Пасля: чалавек //, а ўнізу напісана:
— Чым раней зазябліш зямлю, тым больш на той год уродзіць.
[32] Пасля: вёрст... // Ці гэтую кніжачку мне можна ўзяць?
— Чаму не! Прачытаўшы, аддайце там у чытальню.
— У якую гэта чытальню? У нас няма такое.
— А школа ёсць?
— Не.
— А аграном бывае ў вас?
— Які гэта аграном?
[36] Пасля: Максімку. //
— Аддайце ў сельсавет — няхай арганізуюць хату-чытальню.
[42] Пасля: горада...» //
Пазней трохі піў ён гарбату і дзяржаў на каленях кніжкі.

## ЯК У ДЗЕНЬ УРАДЖАЮ ЦЕРАБІЛАЎЦЫ Ў ЛЮДЗІ ВЫЙШЛІ (стар. 163)

Друкуецца па газ. «Беларуская вёска», 1924, № 62, 14 кастрычніка, дзе змешчана ўпершыню.

## БЫЛЬНІКАВЫ МЕЖЫ (стар. 167)

Друкуецца па кн. «Апавяданні», выд. ЦБ «Маладняка», Мінск, 1925. Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 240, 16 кастрычніка, і № 241, 17 кастрычніка, з падзагалоўкам: (Малюнак).
Варыянты газ. «Савецкая Беларусь»:
Стар. 169
[28] Пасля: кніжкі. //
І тады ж з'явіліся ў Паўла на паліцы паперы са спіскамі беднякоў і кулакоў вёскі і некалькі лістоў чыстай паперы, а разам з гэтым і настойныя думкі.
І каля Паўла згуртавалася яшчэ некалькі чалавек.
Стар. 170
[5] Замест: задумаўшы // задаўшыся мэтай
[17] Замест: сядзела некалькі чалавек... // засядаў камітэт бедных.

## МЯШЧАНЕ Ў ГУСТОЙ ПАРЫ (стар. 173)

Друкуецца па кн. «Апавяданні», выд. ЦБ «Маладняка», Мінск, 1925. Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 287, 13 снежня, і № 288, 14 снежня.
Варыянты газ. «Савецкая Беларусь»:
Стар. 174

[43] Замест: пракладзіцца // прахладзіцца (унесена ў асноўны тэкст).

Стар. 175

[25] Замест: лепш // лягчэй

[39] Замест: ўсіх // ўсякіх

Стар. 176

[24] Замест: прыціх // прынік

Стар. 178

[23] Замест: абмылілі // абмылі

ВЯСКОВАЯ ВЕТЭРЫНАРЫЯ (стар. 180)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 299, 27 снежня, дзе змешчана ўпершыню.

НОВЫЯ ЛЮДЗІ (стар. 185)

Друкуецца па час. «Полымя», 1925, № 1, дзе змешчана ўпершыню.

ЗАРАБОТАК (стар. 196)

Друкуецца па час. «Малады араты», 1925, № 1, дзе змешчана ўпершыню, пад псеўданімам Сусед Вясёлы. (Псеўданім Сусед Вясёлы раскрыт на падставе сцверджання паэта Максіма Лужаніна.)

ПАПОЎСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ (стар. 200)

Друкуецца па час. «Малады араты», 1925, № 2, дзе змешчана ўпершыню, пад псеўданімам Сусед Вясёлы.

ФЭСТ (стар. 205)

Друкуецца па час. «Малады араты», 1925, № 3, дзе змешчана ўпершыню, пад псеўданімам Сусед Вясёлы.

РАДАСЦЬ ЖАНЧЫНЫ (стар. 214)

Друкуецца па час. «Беларуская работніца і сялянка», 1925, № 3, дзе змешчана ўпершыню.

БЯЗДОННЕ (стар. 221)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 65, 22 сакавіка, і № 66, 24 сакавіка, дзе змешчана ўпершыню.

ЮЗІК І ЯГОРКА (стар. 230)

Друкуецца па час. «Беларускі піянер», 1925, № 4, дзе змешчана ўпершыню.

ЗАБОЙСТВА (стар. 233)

Друкуецца па кн. «Выбраныя творы», ДВБ, Мінск, 1934. Упершыню — час. «Маладняк», 1925, № 7.

У выданнях 1929, 1932 і 1934 гг. датуецца сакавіком 1925 г.

Варыянты час. «Маладняк»:

Стар. 233

[5] Замест: ў тумане. // ў сырасці...

[8] Замест: лагчынах // сырых кутках

[13] Замест: падсохлую, новую // падсохшую, адпачыўшую

[23] Пасля: мхамі // лясоў.
[25] Замест: незвычайнасць // ненармальнасць
[27] Замест: ўсюды // на кожным кроку
[33] Замест: дзівосных // дзівосна выраслых
Пасля: чутак. // І цэнтр іх быў там, адкуль павінна было прыйсці тое, што зніме навіслую над чалавекам пагрозу, і там, дзе былі свае, пакінуўшыя вёску. Яны памагалі вызваленню...
Стар. 234
[2] Пасля: часам // сказана
[14] Пасля: злосці. // Людзі чакалі... Чакала зямля...
[22] Пасля: сказана // жолнежам
[30] Пасля: сцены // школы
[31] Пасля: поле //, падышоўшае загонамі да сцен школы,
Стар. 235
[2] Пасля: стала. // Мяккія пальцы палажыў на стол, фуркнуў ад духаты.
[5] Пасля: вёскі // на харчы жолнежам, што ў маёнтку.
[15–16] Замест: прасіць гэта з тым // звярнуцца
[20] Замест: Загадайце // Закажэце
[25] Пасля: ўчора // на балота,
[26] Пасля: мяса // за мілую душу,
[32] Замест: дык // лоўка
Стар. 236
[6] Замест: на двары //, уцёкшы са школы
[10] Замест: стук абухом у сырое бервяно // удар абухом па сырому бервяну
[11] Пасля: срэбрам // па хаце
[27] Пасля: ад // жыццёвага
[31–33] Замест: Вось ∽ мае. // Гэта ж кроўю заліць крыўду гэтую... Эх, сволач ты тоўстая!..
[34] Замест: сцішылася апоўначы // супакоілася ў поўнач
Стар. 237
[2] Замест: нялюдская справа // плёвае дзела
[11] Замест: натапырваў вушы // раздуваў ноздры
[18] Пасля: Саўка // з пукам аўса
[23] Замест: Узлез // Узабраўся
[33] Як бізун — адсутнічае.
[41] Замест: з ласкі на пацеху // мімаходам
Стар. 238
[2–3] Замест: нарадзіла ∽ злосці. // да гэтага гатунку людзей, адвеку драмаўшая ў Саўкі, перададзеная ад продкаў, парадзіла ў момант ругніну нястрыманай злосці.
[4] Пасля: змрок: //
— Сволач мяцежная,
[8] Пасля: вялікаю, // як сялянская сіла, моцнаю,
[10] Пасля: крычалі: // — Гэта ж чорт яго ведае што... Ад панавання над намі
[11] Гэта ж — адсутнічае.
[17] Пасля: рабіць...» //
Гэта ж прачнулася мужычая нянавісць...
[24] Пасля: адказаў // скрыпучы
[36] Замест: Лез ∽ змаганне // Прабіраўся ў душу смутак настойны, узрастаючы. Ішла барацьба

42 Пасля: крыўда // і нянавісць

Стар. 239

5 Замест: гэтак // верна

13 Пасля: кідалі // адрывіста

19 Пасля: Яўхім // Вілач

20–21 Замест: адважыліся // выдаліся

Пасля: выдаліся. //

— Бі, лупі!.. Не заб'еш ты — цябе задушаць...

22 Замест: ясным // светлым

28 Правялі іх далёка — адсутнічае.

34 Пасля: жаданне // біць.

36 Пасля: V //

— Бі жывёлу ў лоб, а чалавека ў патыліцу, калі хочаш, каб духу не ўказаў.

— Не ў патыліцу, а ў вуха — зразу канец, бо на чэрапе, значыць, шчыліна пойдзе.

— Не, у патыліцу зручней...

39 Замест: давядзецца // прыйдзецца

Пасля: прыйдзецца. //

— Галоўнае

Стар. 240

4 Пасля: гавары // аб ім, бо возьме.

4–5 Замест: Нязвыклая справа. // Непрывычнае дзела... Стала быць, значыць...

8 Пасля: думаецца. // Гэта ж ён свет паскудзіць...

9 Пасля: ён... // з чаго, сукін сын, мяне словам паганым крыўдзіць... Сволач тоўстая... Ды ты жыццё ўсё прыпомні.

11 Пасля: усё роўна // за хлапцоў нас абодвух

12 Пасля: вымучваеш? // Не лягчэйшы за цябе.

20 Замест: жоўтыя // аблезлыя

33 Замест: студні // калодзежы і канавы

36 Замест: халоднай вільгаці // сырасці

41 Пасля: тут. //

— Чутно, што не прадзержацца тут доўга паны — там напіраюць нашы...

— Яно пэўне... Смялей, значыць... Значыць, лупі, бі гада, сволач тоўстую...

Стар. 241

9 Пасля: яе //, ды паганяць яе сваёю прысутнасцю... І выліліся думкі і пачуцці ўголас:

— Бі, чорт яго бяры!..

— Усё роўна дарогі назад няма, усё роўна заўтра...

25 Пасля: біць // зручней

26 Пасля: думка // і растала ў наступным, нахлынуўшым.

42 Пасля: адтуль // вольнасць паплавоў,

Стар. 242

21 Пасля: сонцам // маладымі храсткамі леташнія

## НЕ ПІ ГУСТОГА ЧАЮ (стар. 243)

Друкуецца па кн. «Срэбра жыцця», выд. ЦБ «Маладняка», Мінск, 1925. Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 115, 26 мая, і № 116, 27 мая.

Варыянты газ. «Савецкая Беларусь»:

Стар. 243

[9] Замест: не кажу // кажу

Стар. 244

[24] Замест: адну голаў // аднаго чалавека

## ПА ДАРОЗЕ (стар. 250)

Друкуецца па кн. «Вераснёвыя ночы», БДВ, Мінск, 1929, дзе датуецца чэрвенем 1925 г. Упершыню — урывак у газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 265, 22 лістапада; поўнасцю — у час. «Маладняк», 1925, № 8.

Варыянты час. «Маладняк»:

Стар. 250

[5] Пасля: яна // цяжкай

[31] Замест: дробныя // дробна-дрыжачыя

Стар. 251

[2] Замест: вялікая // ўпартая

Пасля: наперадзе // паступова, паступова

[24–25] Замест: Цераховіча // Цераковіча

[33] Пасля: ўгору // роўнымі

Замест: дымам // дымамі

[35] Пасля: ў // розныя

[40] Пасля: Насця // была ўся

Пасля: чорная, // ды яшчэ

Замест: і гэтакая // ды яшчэ такая

Стар. 252

[12] Пасля: ўсе // як у бубен біць

[15] Пасля: шчаслівага // багатыра

[16] Пасля: ўсім // такі

[18] тыя ж самыя — адсутнічае.

[24] Пасля: самаўпэўнены //, як вужака.

[30] Замест: зачэпвацца // зачапляцца

[38] Пасля: нянавісць // шавеліцца ў Паўла

Стар. 253

[11] Замест: усё // як бы

[14] Пасля: гэтых // гадкіх

[14–15] Замест: давялося ж то неяк // трапілася ж бо нейк, ліха на яго,

[16] Пасля: за // нейкімі

[21] Замест: як бы //, мусіць,

Стар. 254

[20] з вялікаю крыўдаю — адсутнічае.

[23] Пасля: можа // і пасмяецца

Пасля: гэта // ён

[25] Замест: што ∽ захаплення // а толькі сам у такім захапленні

[26] ад падзей — адсутнічае.

Пасля: што // гэтым

[28] Замест: І ∽ крыўда. // І ад пачуцця гэтага яшчэ цяжэй стала Паўлу.

[39] Пасля: Тодар. //

— Як я быў малады, дык колькі я гэтых баб з розуму звёў, каб мне столькі здароўя. Толькі рабіў я ўсё ўмеючы, не так, як твой, Павал, бацька... Бацька твой, я табе скажу па-суседску, не меў розуму ў галаве. Няздольны быў ён чалавек, я табе кажу па шчырасці. Нічога ён не ўмеў, а пяўся за людзьмі. Баб меў чорт

ведае колькі, а толку ніякага. Страціў здароўе, а цяпер ты пакутуй, нездараўчаны... У мяне дык, браткі мае — было тады мне год дваццаць сем,— дык уг-га, якая сіла ў мяне была. Якраз тады я гэта, як дарогу праводзілі, дык я састаяў, значыць, у дзесятніках на рабоце. Дык, вядома, паскольні, значыць, у старшых састаіш, дык яно табе ўсё спрытней выходзіць. А была там жонка, значыць, малодшага маханіка. Ну, значыць, я сюды-туды, чалавек малады, р-рослы, у сабе сілу маю, дык і падкаціўся, значыць, да гэтае самае маханікавае жонкі. А яна баба, як корч...

— Ну, а яна як, трохі мела на цябе вока? — перарваў гаворку ў радасным захапленні Саша Мяльгун.

— Дзіва што мела; уг-га, гаворка!..

— Ну, а далей што?!

— Ну што ж далей; нічога, сам ведаеш! Пайшлі вечары ды ночы...

— Тады ты, дзядзька, як у мёдзе плаваў,— сказаў Сёмка.

— Уг-га! Дзіва што плаваў. Яшчэ й як плаваў...

— А куды прыплыў?

— Ад аднае ды да другое прыплыў. Куды ж?!

— Ну?!

— Яй-права!

— То ты, значыць, дзядзька, быў здаровы маханік па гэтай часці.

— Я й цяпер яшчэ сілу ў сабе чую, моц, значыць, гэтая самая ў мяне ёсць... І яшчэ якая моц.

І тады хітра, самаздавальнёна паглядзеў Тодар на Паўла.

Вось якія мы, а які ты,— выразна сказалі Паўлу погляды ўсіх трох.

Стар. 255

1 Замест: разварочваецца // разварушваецца

14 Пасля: памінаеш? //

— Я ж кажу, я ўсё рабіў умеючы, хоць праз меру, але ў меру ўсё ў мяне выходзіла.

17 Замест: навальнай // стыхійнай

27 Пасля: даляглядзе // нек

33 Замест: Прыйшоў // Прыбег

41–42 Замест: надавала ∽ вока. // была як калясо на цёмнай шэрані начное прасторы...

Стар. 256

2 Пасля: пабліскваў // хітрымі

7 Пасля: II //

На пярэднім возе

10 Замест: журботная і вясёлая // журботна-вясёлая, задорна-пакорная

11 Замест: дзяўчына // жанчына

15 Замест: адно ∽ трохі // толькі ёй трохі спачатку нялоўка

17 Пасля: вуліцы // вёскі.

23 Замест: сорамна // нялоўка
Пасля: дзяўчыне // ўжо

24 Пасля: што // яна
едзе яна — адсутнічае.
Пасля: ведала // яна

25 Пасля: што // можа

28–29 Замест: нядужы, стары і худы // нядужым, старым і худым стаў
31 Замест: гуллівыя і журботныя // гулліва-журботныя
Пасля: радасныя //, як у маладой бесклапотнай дзяўчыны.
35 Пасля: ўсе // яе
Пасля: словамі //, адчуваемая ўсёю істотаю,
37 Пасля: едуць // у горад
Пасля: купляць // усё
Пасля: ім // абаім
Пасля: што // вось
38 Замест: паклікаць // гукнуць

Стар. 257

4–3 Замест: справы // патрэбныя справы па гаспадарцы.
4 Замест: ціхае // лёгкае, цягучае, ціха-
5 Пасля: або // ўжо, калі на тое пайшло,
11 Пасля: мае!.. //

Плаваюць гулкія песні ў прасторы востра-лёгкага паветра, слухаюць іх нізкія хаты; месяц глядзіць на вёску, і старыя выходзяць з хат слухаць ды ўспамінаць. А ў вясёлых песнях весела-радасны смутак і жаданні, няведама якія...

Эх вы, песні і людзі на зямлі!..

12 Замест: слухаць ноч // думаць
15 гэтая — адсутнічае.
21 Пасля: Вельмі ж // у мяне
21–22 Замест: невядома чаму. //, — «і многа яе. Зімою трохі прадам да куплю лепшага каня».
22 Пасля: пасля // раптам
24 Замест: сталым // сур'ёзным
26 Пасля: рабіць // дома
36 Замест: і гэтакі ∽ дарогах... // І ўжо з'явілася думка, што гэта ж усё робіцца ў жыцці нейк як па нечаму загаду, ці што,
38 Замест: нават ∽ пачуццё. // Думка была слаба выяўленаю, няяснаю, была яна, хутчэй усяго, глыбокае пачуццё...
39 Пасля: Зусім // ужо
40 Пасля: вецер. //

Раптам у Паўла з'яўляцца пачаў дзелавы настрой, стала прыпамінацца, што трэба рабіць у горадзе.

«А можа зусім да доктара не йсці,— падумаў Павал,— гэта ж усё так сабе. Яно няважна, мала што, чорт яго бяры... Вось зайду гэта я ў крамы, куплю чаго трэба, ды паеду дадому, адзін».

І тады прыпомніў, што сусед-селькор прасіў зайсці ў рэдакцыю, перадаць допісы. Павал абмацаў у кішэні канверт з паперкамі і радасна падумаў, што тут вязе допісы на Сашу Мельгуна за здзек над парабкам.

«Вось шкода Насці, што звязалася з ім»,— зноў падумаў ён, а пасля раптам вынырнула аднекуль з глыбіні злосць на Насцю, што дражнілася з ім зімою.

— Гадаўка чортава,— сказаў моцна Павал.

«Вось я адно,— з'явілася моцная думка,— прыехаўшы дадому, пагавару з гэтым сам суседам, што ў газеце на Сашу напісаў, усё ж ён чалавек, можна сказаць, свой. А аб чым я з ім буду гаварыць? От, што-небудзь!..»

Сцебануў Павал тады пугаю каня і палез на воз.

Стар. 258

[5] Пасля: сына. //

І пайшла таўчыся па хаце і па-за хатаю.

«Нешта Павал стаў сумны, хоць бы ён там як-небудзь падвесяліўся ў горадзе»,— усё думала яна.

[36] Замест: А я не змоўчу //; а я паступаю ў камсамолы

Стар. 259.

[8] Пасля: носам. // Ёй гэта падабалася плакаць,

[9–11] Замест: ці ∽ яе. // аб тым, што яна намечана ў дэлегаткі; адчувала, што ў гэтым нешта процілеглае і мацнейшае таму, што з яго зрабіў Саша Мяльгун.

[31] Пасля: бяры //, паздаравею — другую знайду.

Стар. 260

[4] Пасля: гранула // бяскрайнім вяселлем

[11–13] Замест: у Паўла ж ∽ імкненне. // Так што зусім усё стала для Паўла слаўным і захапіла яго імкненні.

[14] Пасля: весела // пад ветрам

[14–39] і некуды ∽ імклівымі.— адсутнічае.

## СВЯТА ПРАЦЫ І СВЕТУ (стар. 261)

Друкуецца па час. «Беларуская работніца і сялянка», 1925, № 6, дзе змешчана ўпершыню.

## СРЭБРА ЖЫЦЦЯ (стар. 266)

Друкуецца па кн. «Выбраныя апавяданні», ДВБ, Мінск, 1932, дзе датуецца 1925 г. Упершыню — час. «Маладняк», 1925, № 6, з паметкай: «30 лістапада 1924 г., г. Мінск». У гэтым жа годзе змешчана ў кн. «Срэбра жыцця», выд. ЦБ «Маладняка», Мінск, 1925.

Варыянты час. «Маладняк» і кн. «Срэбра жыцця»:

Стар. 266

[19–20] Замест: дзядзькаў ∽ ў зямлі. // чырвонае калясо дзядзькавага твару, разам з тварам — запэцканыя гразёю боты.

[21] Пасля: Збоку // бясформенная куча

[25] Пасля: адцягні // ад твару

[29] Замест: воч // насмешлівых вачэй

Пасля: коляць // мякка

Стар. 267

[3] Пасля: баязлівых //, цёмна-дрыжачых,

[4] Пасля: ноч. // І, здаецца, ад рогату — пуста-дробнага.

[6] Замест: гэтак, на кавалкі парвешся. // так, дзядзька,— на кускі разарвешся!

— Эх-х-г-х!..

[12] Замест: махорачным водарам патыхае // пахам махоркі цягне

[14] Пасля: жар. //

— Г-гых!..

І трэснулі зноў косці ў суставах.

Усхваціўся Мікіта, пайшоў у кусты.

[16–20] Замест: паміж ∽ пясок. // Старшымі то іх ніхто не ставіў, але выйшла так, само зрабілася.

Бежанцы яны ўсе; дзесяць чалавек іх пры агні. Цэлы год яны разам. Тут яны тры тыдні блыталіся па прыгародных вёсках, ка-

сілі ў саўхозе атаву, жылі там у саломенай будцы за садам, пры рэчцы. А потым Мікіта з рыжым дзядзькам успомнілі пра леташнюю працу ў гэтым горадзе. І павялі ўсіх на знаёмае месца.

[24] Пасля: на // чыгуначнай

Пасля: тут // месяцаў два

[25] Замест: шпалы часалі. // тую, вунь, горку скопвалі.

[27] Замест: вашага брата сотні // тысяча вас

[29–30] Замест:— Мы ∽ дзядзька. // — Ды як жа нас забыць? — устаўляў слова дзядзька.— Мы ж з Мікітам бадай-што адны ўсе шпалы па пуці паразвозілі.

[32] Замест: гаварыў // весела абзываўся

Замест: паказваючы // падступаючы бліжэй і тыкаючы

[33] Пасля: грудзі. //

Уся яго высокая і тонкая фігура выяўляла ўпэўненасць, што цяпер яго абавязкова прыпомняць.

— Колькі вас усіх?

— Дзесяць чалавек...

Цераз гадзіну яны сядзелі ў таварным вагоне і грызлі хлеб з гуркамі, а к вечару зацягнуў іх паравік за дзесяць вёрст, на паўстанак. Вагон і астаўся ім прытулкам.

Кожную раніцу прывозілі ім некалькі вагонаў пяску, і днём высыпалі яны яго на дарогу. А сягоння падвязлі іх бліжэй к гораду, вёрст на пяць. Маленькі паравічок — «кукушка» — смешна фыркнуў, засвістаў нешта баявое і ўцёк у горад, зацягнуўшы за сабою іх вагон. І яны асталіся ў кустах, у дашчанай будцы.

[34–36] Замест: работу ∽ дадому. // працу, і тады завязуць іх куды-небудзь іначай. Яны прывыклі к новым мясцом, і куды іх ні завязуць — ім усё роўна, цікава нават новае ўбачыць.

[41] Замест: загуло, абарвалося. // нешта жалезам і абарвалася, крыкнуў нехта хрыпла, сіплым стукам, кінуўся раптам угору і ўпаў.

Стар. 268

[4] Замест: Людзі ∽ дрымоту. // Тухне агонь, і дрэмлюць людзі. Мікіце не спіцца.

Шыракаплечая жакетка яго рудзее сукном на граніцы кустоў і поля, пры цёмных рэйках дарогі. Гулліва памахваецца ў руцэ дубец бярозы. Глядзяць вочы цераз шэрань зямлі...

Апошняя праца і новае месца!

Нешта ёсць у слабым адсвеце новага дню, у няроўным абрысе горада, за полем, у вострым паху асенняга мху ў кустах,— што прайшло скрозь нутро ў Мікіты, адагнала ад яго сон і звязалася з гэтым.

Новае месца!

Цямнеюць на светла-жоўтай істужцы дарогі рэйкі, пайшлі яны ў новае месца. Прападаюць яны на граніцы зямлі і неба. Там чуць відзен узгорак, і здаецца, стаўшы на яго, убачыш усю зямлю.

Некалі, даўно, прырос быў моцна Мікіта к паласе зямлі і к адной хаце. Як адарвалі яго ад гэтага — быў ён як скованы, адчуваў тое моцнае, што скавала, прыкавала яго. Раскавалі Мікіту час, новыя месцы, варункі жыцця... Недзе далёка прапала для Мікіты паласа зямлі і старая ўласная хата, з'явілася ў яго да гэтага абыякасць. І часта, несвядома для яго самога, з'яўляецца ў Мікіты прагнае жаданне моцна прыпасці да ўсяго таго, што ёсць на

